Бел 2
Г 16



Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
С. С. ЛАЎШУКА

Г $\frac{4702120200-087}{М 302(05)-83}$ 117—82

# РЭВАЛЮЦЫЯЙ АКРЫЛЕНЫ ТАЛЕНТ

Да актыўнай сістэматычнай мастацкай творчасці Уладзіслаў Галубок далучыўся яшчэ ў самым пачатку нашага стагоддзя, аднак яго самабытны, надзіва шматгранны талент хораша і поўна раскрыўся толькі пасля перамогі Кастрычніка: святло рэвалюцыйных пераўтварэнняў, растапіўшы лёд нацыянальнага ўціску і няроўнасці, дало волю крыніцам народнага самавыяўлення, якія магутна і вірліва вырваліся на паверхню жыцця. Пад сонцам савецкай явы крыніца таленту Галубка забруілася вольна і плённа. Праўда, параўнанне яго таленту, творчасці з крыніцай не надта дакладнае. Так, крыніца наталяе смагу падарожных, як наталяў тэатр Галубка цягу гледачоў да мастацтва. Але ж крыніца здольна рабіць гэта толькі ў адным месцы; стаўшы ручаём — у абсягах уласнага рэчышча. Галубкоўцы ж абвандравалі ўсю Беларусь. У самыя глухія куточкі маладой рэспублікі неслі яны святло чыстага мастацтва, далучаючы да культурных скарбаў новых гаспадароў разняволенага краю. Упэўненай рукой трымаў Галубок паходню культурнага асветніцтва, штодзённай самаахвярнай працай змагаўся за лепшае заўтра. А ўрэшце, ён сам быў гэтай паходняй, узнятай над плынямі бурнага часу, якая без астатку аддала святло і цяпло роднай старонцы...

Нарадзіўся Уладзіслаў Іосіфавіч Галубок (сапраўднае прозвішча Голуб) 15 мая 1882 г. на станцыі Лясная пад Баранавічамі ў сям'і рабочага-чыгуначніка. Неўзабаве сям'я будучага драматурга перабралася на сталае жыхарства ў Мінск. Тут юны Галубок пачынае вучобу ў царкоўна-прыходскай школе. Яго бацька Іосіф Тамашавіч, сын удзельніка паўстання 1863 г., сам цягнуўся да асветы і дзецям імкнуўся даць хоць якую адукацыю. Сціплыя заробкі слесара дэпо мінскай чыгункі не дазвалялі спадзявацца на нешта значнае, але ў гарадское вучылішча свайго старэйшанькага — Уладзіслава — ён мог паслаць. Аднак скончыць вучобу хлопчыку не давялося: пасля трагічнай у 1895 г. смерці бацькі на яго яшчэ не акрэплыя плечы лёг клопат аб хлебе надзённым для ўсёй немаленькай сям'і.

Спачатку ён працаваў грузчыкам на дрывяным складзе пры чыгунцы, затым прыказчыкам у гастранамічным магазіне купца Стараневіча, а потым стаў, як і бацька, слесарам мінскага лакаматыўнага дэпо.

І ўвесь гэты час яго не пакідала надзея атрымаць адукацыю. Настойлівы юнак шмат працуе над сабой, рыхтуецца і экстэрнам здае экзамены за поўны курс гарадскога вучылішча. Побач з агульнаадукацыйнай Галубок імкнецца далучыцца яшчэ і да мастацкай вучобы. «Самапасам» навучыўся іграць на барытоне і трамбоне, крыху пазней асвоіў і баян. Можа, таму, што гэта ўменне далося без натугі, лёгка, то і асаблівай ганарлівасці не выклікала. А вось праца мастака-жывапісца інтрыгавала і прыцягвала з неадольнай сілай. Адрываючы ад свайго заробку па пяць рублёў штомесяц, навучаўся спачатку пад кіраўніцтвам мінскага мастака Пракоф'ева, які, аднак, не дужа цікавіўся творчым ростам вучня і трымаў яго на чарнавой працы капіравальшчыка. Больш спагадныя адносіны да сябе сустрэў Галубок у майстэрнях мастакоў Яроменкі і Сухоўскага, якія, па водгуках сучаснікаў, валодалі не толькі выдатным прафесійным майстэрствам, але і вызначаліся дэмакратычным накірункам светапогляду. Ім імпанаваў гэты юнак з працоўных нізоў, падабаліся яго настойлівасць і сур'ёзнасць, з якімі той імкнуўся авалодаць сакрэтамі жывапісу. Менавіта ад іх Галубок пераняў асноўныя навыкі мастака-жывапісца, якія так прыдаліся яму ў пазнейшай дзейнасці.

Кола жыццёвых інтарэсаў маладога Галубка было надзвычай шырокім. Заняткі музыкай, жывапісам чаргаваліся з наведваннем атлетычнага гуртка ў мінскім спартыўным таварыстве «Сокал», выступленні ў аматарскіх тэатральных спектаклях — з удзелам у падпольнай ячэйцы РСДРП, якая згуртоўвала перадавых рабочых мінскай чыгункі. І не адразу будучы драматург аддаў перавагу аднаму якому-небудзь з гэтых захапленняў. Цяжка сказаць, куды і як выкіравалася б далейшая жыццёвая дарога Галубка, калі б ён не далучыўся да беларускага нацыянальнага культурна-асветніцкага руху. Спачатку ж было знаёмства з вядомым беларускім пісьменнікам Альбертам Паўловічам, які зрабіў значны ўплыў на станаўленне будучага драматурга. Менавіта Паўловіч увёў яго ў культурна творчы асяродак, які склаўся вакол газеты «Наша ніва». Тут Уладзіслаў Іосіфавіч знаёміцца з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Змітраком Бядулем і іншымі беларускімі пісьменнікамі. У асобе Галубка «Наша ніва» набыла аднаго з самых актыўных аўтараў. Пачынаючы з 1908 г. у газеце пастаянна з'яўляюцца яго апавяданні, вершы, допісы.

Дакастрычніцкая творчасць Галубка строга вытрымана ў рэчышчы нашаніўскай паэтыкі. Яго вершы (іх захавалася толькі шэсць) «Доля мужыка», «Чакай, браце!..», «Забытая хатка», «Сярмяжнік»,

«Будучыня», «Хачу мець зямельку і мру без работы» ўспрымаліся тагачасным чытачом песнямі жальбы, але не адчаю.

Ад году да году мужык наш марнее,
А працы сваёй ён нямала кладзе,
І ўсё без карысці: як ліст той гібее
У восень халодную — ў горы, ў нудзе...

*(Чакай, брацеǃ..)*

Холад, голад, хваробы, непасільная, катаржная праца, падаткі — якой толькі злыбеды не было на бедную сялянскую галаву. І ўсё ж паэт пераканаsuccessfully: жыццё можна паправіць, у з'яднанні працоўных — зарука лепшай будучыні.

Чакай, брат! Без часу не лезь у магілу!
Узмацуецца дух твой — яшчэ аджывеш!
Свет, браце, убачыш, пачуеш ты сілу
І песню свабоды гуртом запяеш!

*(Чакай, браце!..)*

Даследчыкі творчасці Галубка (А. Звонак, А. Атрошчанка) заўважылі, што ён, хоць і быў рабочым у другім калене, усё ж часцей звяртаўся да асэнсавання менавіта сельскай рэчаіснасці, да жыцця і побыту селяніна. Тлумачылася гэта не толькі тым, што рабочы клас Беларусі быў яшчэ нешматлікі і пра яго не было чаго сказаць. Проста «Наша ніва» з самага пачатку ўзяла курс на пераважнае адлюстраванне побыту беларускай вёскі. Пра яе пісалі Янка Купала, Якуб Колас, літаратурны і грамадзянскі аўтарытэт якіх для Галубка быў надзвычайны. Таму зусім заканамерна, што гараджанін Галубок скіроўваў свой мастацкі позірк да сельскай рэчаіснасці. Да таго ж яна ніколі не была для яго чужой: туды цягнуліся карані кроўнага (ды і духоўнага таксама!) радства, на вёсцы пісьменнік бываў вельмі часта. Не, староннi назіральнік не мог напісаць такія прачулыя радкі вершаў («Доля мужыка», «Сярмяжнік»). Нізкія, курныя хаты, у якіх жывуць галота-мужыкі, хаты, на сценах якіх «растуць грыбы, цячэ вада», дзе «смурод і чад» ды «ніколі сонца не відаць», для паэта не экзотыка. Гэта яго боль. «Аж слёз не стрымаць, як губіш ты сілы»,— усклікае ён, прыгадваючы жыццё сярмяжніка.

Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці можа хто чары такія накінуў,
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.

*(Сярмяжнік)*

Такія пытанні-недаўменні аб'ектыўна заключалі ў сабе адказ, які быў раўназначны непасрэднаму закліку да барацьбы за справяд-

лівасць, за сацыяльную роўнасць. Паэт пераканаңы, што царства прыгнёту неўзабаве будзе нізрынута. «Вер, будзе тваё на зямлі панаванне, навекі зваюеш ты гора сваё...»

Ранняя празаічная творчасць Галубка, якая, дарэчы, таксама лучыцца да нашаніўскай мастацкай практыкі, прасякнута тымі ж матывамі і пачуццямі, якія пераважалі і ў яго паэзіі. Адзінае адрозненне заключаецца хіба толькі ў тым, што ў празаічных творах пісьменнік паказвае жыццё працоўных больш... паэтычна. У вершах селянін выступае адвечным пакутнікам, дні якога працякаюць у беспрасветнай нудзе ды жудзе. У апавяданнях таксама не абмінаюцца ценявыя бакі сялянскага існавання, аднак у іх адзначаецца і нешта іншае — радасць быцця, непераможны аптымізм народнага светабачання і г. д.

Неўзабаве прыйшло прызнанне: напярэдадні Кастрычніка Галубок лічыўся адным з самых здольных і плённых беларускіх празаікаў. Яго апавяданні рэгулярна з'яўляліся ў «Нашай ніве», «Маладой Беларусі», «Беларусі». У 1913 г. пецярбургскім выдавецтвам А. Грыневіча была выпушчана невялікая кніжачка «Апавяданні». Бытавое, жартаўліва-гумарыстычнае апавяданне, імпрэсія, сімвалічная замалёўка, лірычны абразок — вось найбольш любімыя жанры пісьменніка. На яго празаічных творах ляжыць выразны адбітак часу, па іх можна скласці дакладнае ўяўленне аб тым, як і ад чаго ішло станаўленне маладой беларускай прозы. Самыя раннія апавяданні Галубка («На вяселле», «Журавінка», «Не паклаўшы, не возьмеш» і інш.) паэтыкай, жанрава-структурнымі адметнасцямі нагадвалі творы так званай народнай прозы. Не, пісьменнік паўсюдна (магчыма, не заўсёды паспяхова) імкнуўся пазбягаць некрытычнага наследавання фальклорным узорам. Нават у апавяданнях, сюжэт якіх заснаваны на калізіях сацыяльна-бытавых анекдотаў, вусных гісторый («Вада памагла», «Чужое смачней», «Дарагія лекі», «Марымонавы сабакі», «Адукаваная кабыла», «Посная гусяціна» і інш.), яму ўдавалася ўзняцца над простым бытаапісальніцтвам. Пісьменнік заўсёды знаходзіў нейкі мастацкі штрых, які надаваў твору сацыяльнае гучанне. Паказальны ў гэтых адносінах абразок з «апавяданняў старога дзеда» «Як Сымон у воласці выкруціўся». Немудрагелістая гісторыя аб тым, як стары Мікіпар, пабіўшыся з сынам Сымонам, шукаў на яго ўправы ў воласці, пад пяром Галубка набыла адзнакі той мастацкай «каларыстыкі», якая і адрознівае твор прафесійнай літаратуры ад народнага, фальклорнага. Пісьменнік здолеў падсвяціць апавяданне мяккім, спагадным гумарам. Дзякуючы гэтаму «свінцовыя мярзотнасці», уласцівыя вёсцы дакастрычніцкага часу, выглядаюць не такімі абсалютнымі і беспрасветнымі. Прынамсі, у чытача не складваецца ўражанне, што самі героі вінаваты ў сваіх бедах або ў такім непамысным становішчы, калі сын бачыць у бацька-

ку заклятага ворага. Абодва яны працавалі як валы, толькі ў нядзелю плечы разгіналі. І хіба ж то іх была віна, што нястача — прычына пастаянных звадак і спрэчак — даўкім ярмом гнула долу? З горкай іроніяй апісвае пісьменнік спробу Сымона пры дапамозе хабару «выкруціцца» ад бізуноў, з тым каб бацьку «ўлілі» паболей.

Невядома, якая гаворка была з імі ў воласці.

«...нявестка, бачачы, што іх усё яшчэ няма, зацікавілася і пабегла даведацца.

Толькі пачала мінаць Петуховы гароды, аж бачыць: бяжыць Сымон, трымаючыся за паясніцу, збялеўшы, як палатно.

— Ну, як жа? Ці выкруціўся? — спыталася жонка.

— Я ўжо выкруціўся, а стары яшчэ выкручваецца! — прамармытаў скрозь слёзы Сымон».

У гэтых слязах — пэўнае ачышчэнне героя. Істотна пераменіцца і ён, і яго жыццё наўрад ці змогуць. Але бясследна такія слёзы не праходзяць.

З цягам часу Галубок ставіў перад сабою ўсё больш складаныя задачы. У пошуках вырашэння іх ён прыходзіць да высновы аб неабходнасці паглыблення аналітычнага пачатку сваіх твораў. Гэта выразна адбілася на алегарычных апавяданнях («Навальніца», «Бор», «Мінуўшчына», «Гонар» і інш.), якія напісаны вельмі ёміста, без пераборaў апісальніцтва, чым грашаць некаторыя празаічныя яго творы. Гэтыя апавяданні ўмела нітуюцца важкай філасофскай думкай, зразумелай настолькі, каб падвесці чытача — і не толькі дасведчанага — да раскрыцця, пазнання сапраўднага, да пары да часу непраясненага боку тагачаснай рэчаіснасці; гэткая празрыстая сімволіка рабіла пафас апавядання «Навальніца» яскрава рэвалюцыйным. Такое апавяданне было вельмі актуальным у час яго публікацыі (1911 г.), калі грамадства жыло прадчуваннем будучай сацыяльнай навальніцы. Пакуль што яе няма, але выразна чуецца водгулле; наваколле уздрыгвае ад далёкіх раскатаў, усё часцей і часцей свежы навальнічны подых урываецца ў застыглую душную атмасферу штодзённасці. Пазначаныя адбіткам народнасці, гуманізму, прасякнутыя пачуццём шчырай спагады да простага працаўніка, апавяданні Галубка не проста адлюстроўвалі рэаліі тагачаснай рэчаіснасці, але накрэслівалі шляхі ў будучае, сцвярджалі думку аб неабходнасці перабудовы грамадства на справядлівы лад. І няхай не ўсюды, не заўсёды змог пісьменнік унікнуць наіву, а то і спрошчанасці, аднак яго проза прываблівае вялікай непасрэднасцю пачуццяў, свежасцю светабачання герояў, сакавітасцю народнага гумару, сацыяльным аптымізмам. Галубок кожным радком сцвярджаў надзею на лепшае заўтра; калі сёння жыццё невыносна цяжкае, то будучае павінна быць лепшым. «Працуйма, брацця!.. Прыжджом і мы святлейшых дней»,— дэкларуе ён у вершы «Будучыня».

Праца Галубка ў паэзіі і прозе станоўча ацэньвалася тагачаснай крытыкай. Прыязныя словы ў адрас апавяданняў пісьменніка сказаў Максім Багдановіч, які вельмі патрабавальна адносіўся да літаратурнай творчасці. Таму не было б нічога дзіўнага, калі б Уладзіслаў Іосіфавіч адмовіўся ад сваёй юнацкай мары стаць акцёрам, пераарыентаваўшыся на літаратурную творчасць. Але не... Тэатр па-ранейшаму прыцягваў з неадольнай сілай. Зачараваўшыся яго мастацтвам яшчэ ў раннім узросце, Галубок не прапускаў ніводнага зручнага выпадку, каб не пабываць на спектаклі. Дарэвалюцыйны Мінск не быў спешчаны ўвагай тэатральных калектываў, а ўласны гарадскі тэатр быў надта слабы. І ўсё ж мінскі глядач тое-сёе мог убачыць. Зрэдку ў горадзе выступалі знакамітыя трупы з Масквы, Пецярбурга, таксама прыязджалі тэатральныя калектывы з Украіны. Затаіўшы дыханне, з вышыні галёркі лавіў юнак кожнае слова акцёра. Сцэнічнае мастацтва выклікала ў яго душы ні з чым не параўнальныя адчуванні. Што ў іх пераважала: захапленне, здзіўленне? Не, хутчэй за ўсё яны крынічылі радасным недаўменнем: аказваецца, можна за некалькі гадзін паказаць цэлае жыццё чалавека! З яго радасцямі і горам, з такімі складанымі перыпетыямі лёсу... Ды так яскрава, цудадзейна! Вось чаму не патухаў у яго душы агеньчык захопленасці тэатрам.

Яшчэ ў 1906 г. «Наша ніва», адказваючы на запытанне аднаго са сваіх чытачоў, пісала: «Пытаецеся, ці ёсць беларускі тэатр? Пакуль што няма, але здаецца, што на калядах ужо будзе. Прысылайце толькі п'есы, каб іх можна было ставіць». Тэатр у сучасным разуменні гэтага слова, вядома, ні на каляды, ні на іншае свята не з'явіўся, а вось некалькі спектакляў на беларускай мове ў тым жа 1906 г. усё ж адбылося. Самы першы з іх прайшоў на хутары Пятроўшчына пад Мінскам (цяпер гэта мікрараён Паўднёвы Захад). Не з'явіўся тэатр і ў 1907 г., хоць работа ў гэтым напрамку праводзілася досыць вялікая і паспяховая. Вельмі блізкія да мэты былі, напрыклад, І. Буйніцкі, Ф. Ждановіч і інш., аб чым сведчаць спектаклі, якія былі пастаўлены пад іх кіраўніцтвам у 1907, 1909, 1910 гадах. У чэрвені 1911 г., праз пяць гадоў пасля рэдакцыйнага абяцання, беларускі тэатр спектаклем па п'есе К. Каганца «Модны шляхцюк» (на сцэне мінскай залы «Парыж») быццам бы больш сур'ёзна заявіў аб сваім нараджэнні. Аднак трупа пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага праіснавала адносна нядоўга. І ўсё ж яна зрабіла на Галубка выключнае ўражанне. З гэтага часу ён становіцца заўзятым памочнікам Ф. Ждановіча ў яго намаганнях стварыць стабільны калектыў беларускіх артыстаў. У 1913 г. такі калектыў быў арганізаваны пад назвай «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі». Ажыццявіўшы некалькі паспяховых спектакляў, трупа аж да 1917 г. перастала існаваць, бо віленская краёвая ўлада

забараніла яе дзейнасць, а кіраўніка Ф. Ждановіча пастанавіла прыцягнуць да судовай адказнасці.

Як толькі «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі» ўзнавіла сваю працу, Уладзіслаў Іосіфавіч разам з жонкай і дочкамі далучаецца да яго. Спачатку думалася яму стаць драматычным акцёрам,— дадзеныя для гэтага ў яго былі выдатныя, і ён мог прэтэндаваць на многія вядучыя ролі. Аднак вельмі хутка высветлілася, што Галубок здольны на больш «дэфіцытныя» амплуа. Талент рэжысёра і драматурга «Таварыству» мог прыдацца лепш. Толькі за восень 1917 г. пісьменнік стварае адну за адной некалькі п'ес: аднаактоўку «Забыўся падперазацца», шматактовую драму «Апошняе спатканне» і камедыю «Пісаравы імяніны». Пастаноўка гэтых п'ес трупай «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» засведчыла нараджэнне буйнейшага драматурга.

Далучэнне да тэатральнай справы літаральна акрыліла Уладзіслава Іосіфавіча. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы прыфрантавога Мінска ён здзяйсняе адну творчую задуму за другой. Не астудзілі яго запалу, няўрымслівага імпэту нават частыя чужаземныя акупацыі горада: акупанты не вечныя, рана ці позна пагоняць іх, а справа культурнага будаўніцтва адкладу не церпіць. У маі 1918 г. мастацкім кіраўніком «Таварыства» Ф. Ждановічам была пастаўлена новая п'еса Галубка «Бязвінная кроў», у якой праводзіцца думка аб тым, што сапраўднымі гаспадарамі беларускай зямлі з'яўляюцца тыя, хто на ёй працуе. Гэта думка ва ўмовах кайзераўскай акупацыі набывала дадатковую вастрыню і актуальнасць.

Пасля вызвалення Мінска ад немцаў Галубок з вялікім энтузіязмам удзельнічаў у рэарганізацыі «Таварыства», якое стала працаваць пад назвай «Беларускі савецкі тэатр». Трупа гэтага тэатра вельмі многа ўвагі ўдзяляла абслугоўванню чырвонаармейскіх часцей прыфрантавой паласы, рабочых клубаў Мінска. У пэўным сэнсе гэты тэатр паслужыў правобразам будучага Вандроўнага тэатра.

Пад час акупацыі Мінска войскамі буржуазнай Польшчы для беларускай тэатральнай трупы склаліся надзвычай цяжкія ўмовы. Чужынцы скарыстоўвалі любы прыклёп, каб забараніць дзейнасць «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» (з прыходам акупантаў трупа вярнулася да ранейшай сваёй назвы). Так успамінаў пра гэта крыху пазней адзін з кіраўнікоў трупы У. Фальскі: «У часы польскай акупацыі працаваць нам у Мінску было вельмі цяжка. Славуты палітычны камісар пан Фастовіч пачаў забараняць адну беларускую п'есу за другой. То ў якой, па яго зазначэнню, змест занадта сацыялістычны, то шмат смярцей, то...» [1] У лік заба-

[1] Дыла Язэп. Творы. Мн., «Маст. літ.», 1981, стар. 332.

роненых трапілі і дзве п'есы Галубка: «Бязвінная кроў» і «Апошняе спатканне». Так што прычын для засмучэння было больш чым дастаткова, аднак драматург не адчайваўся. Вопыт ранейшай дзейнасці на ніве культурнага будаўніцтва падказваў, што такім «акцыям» можна гуць супрацьстаяць толькі настойлівасць і паслядоўнасць. Праца, праца і яшчэ раз праца! А забароны... Іх на шляху «Таварыства» хапала і раней, тым не менш тэатральная справа на Беларусі не затухла, жыла. Ратунак у працы. І Уладзіслаў Галубок з ранейшай апантанасцю працуе. У кастрычніку 1919 года мінскі глядач змог пазнаёміцца са спектаклем па новай яго п'есе «Праменьчык шчасця». А яе аўтар выношвае задумы ўсё новых і новых твораў.

Тым часам у кіраўніцтве «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» адбыліся перамены: на чале яго стаў драматург і рэжысёр, беларускі буржуазны нацыяналіст Францішак Аляхновіч. Гэта самым непасрэдным чынам паўплывала на лёс Галубка: новы кіраўнік, асабліва не цырымонячыся, пацясніў яго п'есы з рэпертуару трупы, замяніўшы іх уласнымі. Пасля гэтага Уладзіслаў Іосіфавіч канчаткова сцвярджаецца ў рашэнні арганізаваць самастойную тэатральную трупу, сарыентаваную на вандроўнае абслугоўванне населеных пунктаў рэспублікі. Няўдалая спроба арганізаваць такі калектыў на мінскай ускраіне Пярэспе не астудзіла палкага намеру драматурга. Вясной 1920 года ён узначальвае драматычную секцыю культурна-асветніцкага гуртка «Папараць-кветка», які ладзіў сваю дзейнасць у Слуцку. Неўзабаве слуцкі глядач пазнаёміўся і цёпла прыняў спектаклі па п'есах «Апошняе спатканне» і «Праменьчык шчасця». Поўным ходам ішла падрыхтоўка да гастрольнай паездкі па Беларусі. Аднак яна не адбылася. Акупацыйныя ўлады ўбачылі ў дзейнасці Галубка крамолу, таму гвалтоўна высылаюць яго на месца сталага жыхарства, у Мінск.

11 ліпеня 1920 года, калі Чырвоная Армія вызваліла Мінск, сонца надзеі зноў засвяціла Галубку. Не шмат часу спатрэбілася яму на правядзенне арганізацыйных мерапрыемстваў: ужо 15 жніўня ў «Беларускім рабочым клубе» (памяшканне былога начнога кабарэ «Акварыум») адбыўся першы спектакль «Трупы беларускіх артыстаў пад загадам Галубка». Пачыналася слаўная эпапея тэатра, якому суджана было стаць гонарам беларускага нацыянальнага мастацтва. Спачатку трупа была нешматлікай: сам Галубок, яго жонка Ядвіга Аляксандраўна, дочкі Багуслава, Вільгельміна і Эмілія, а таксама некалькі сяброў-суседзяў. Па некаторым часе калектыў папоўніўся новымі сіламі. Сучаснікі здзіўляліся галубкоўскаму чуццю на таленты: у маладых хлопцах, выхадцах з рабочых сем'яў, драматург беспамылкова распазнаваў іх прыродныя задаткі. Антон Згіроўскі, Канстанцін Быліч, Уладзімір Дзядзюшка прыйшлі ў трупу без ані-

якай сцэнічнай падрыхтоўкі і ў самы кароткі тэрмін выраслі ў буйных драматычных акцёраў. Як рэжысёр Галубок не быў ні дэспатычным ментарам, ні ліберальным чараўнікам, аднак у яго спектаклях сталяр Баляслаў Бусел, наборшчык Іосіф Крыцкі, металіст Андрэй Блажэвіч, ліцэйшчык Георгій Бернатовіч і інш. пасля некалькіх рэпетыцый паказалі сябе добрымі артыстамі. А тлумачыцца гэта тым, што кіраўнік пранікліва ўгадваў магчымасці кожнага ўдзельніка трупы і пры размеркаванні роляў умела ўлічваў іх. Ад выканаўцы патрабавалася дакладна столькі, колькі ён мог, маючы на ўвазе і другі паказчык — колькі ён умеў. У далейшым драматург гэту справу яшчэ больш «удасканаліў»: пры напісанні п'ес распрацоўку характараў дзейных асоб суадносіў з аб'ектыўнымі магчымасцямі будучых выканаўцаў. Ці не таму так хутка мужнелі сцэнічныя таленты галубкоўцаў? Ці не па гэтай прычыне маладая аматарская трупа за здзіўляюча кароткі тэрмін дасягнула вышынь прафесіяналізму?

Мастацкі феномен тэатра Галубка чакае яшчэ свайго даследчыка. Праўда, многае ўжо беззваротна страчана, упушчана: адыходзяць ад нас жывыя сведкі, забываюцца факты. А шкада. Вопыт Галубка шмат у чым павучальны.

Вядома ж, умовы 20-х гадоў непараўнальна адрозныя ад умоў нашага часу, аднак сяму-таму не пашкодзіла б задумацца, як мог Галубок амаль на голым месцы стварыць згуртаваны калектыў, па якіх рэцэптах расціў тэатральную моладзь. Паказальна ў гэтых адносінах, як праводзіўся ім набор жаночай часткі трупы. Калі мужчынская склалася ў асноўным з блізкіх яго знаёмых, пра здольнасці якіх ён тое-сёе ведаў, то жанчын давялося набіраць наўгад. І што ж, амаль усе яны: Кацярына Мартыненка, Ганна Качынская, Зінаіда Лазарчык, Юлія Фляйто, Надзея Клачко, Яўгенія Футарфас, Марыя Драздова, Наталля Круцько, Марыя Палякова і інш. замацаваліся ў калектыве. Не, не кожнай было дадзена стаць драматычнай актрысай, але кожная раскрыла сваю адаронасць, выступаючы або ў хоры, або ў танцавальнай трупе. Галубок валодаў шчаслівай здольнасцю распазнаваць індывідуальныя задаткі пэўнага чалавека, накіроўваючы іх з карысцю для яго і для грамадства. Другой не менш шчаслівай рысай Уладзіслава Іосіфавіча было яго ўменне аб'ядноўваць таленавітых людзей. Некаторы час акцёры не атрымлівалі ніякай фінансавай узнагароды і павінны былі дзеля хлеба надзённага дзенебудзь працаваць. Але ніхто не лічыўся з цяжкасцямі. Усведамленне далучанасці да вялікай справы стварэння новай культуры акрыляла артыстаў, давала ім сілы ўзняцца над цяжкасцямі суровага побыту. Цікава, што ў трупе некаторы час працавалі акцёрамі вядомыя пазней беларускія пісьменнікі Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Іларыён Барашка.

За працай галубкоўцаў з увагай і шчырай ухвалай сачылі Янка Купала і Якуб Колас. І наогул з боку пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі Галубок заўсёды меў спагаду і падтрымку. А гэта падтрымка патрэбна была вельмі часта: трупа працавала ў неверагодна цяжкіх умовах. Не хапала рэквізіту, сродкаў для афармлення спектакляў. І ў дадатак да гэтага па волі аднаго нядобразычлівага чыноўніка з Наркамасветы яна засталася без пастаяннага памяшкання: з Беларускага рабочага клуба яе выцясніў самадзейны драмгурток, які, дарэчы, нягледзячы на апеку вопытнага рэжысёра Ф. Ждановіча, так і не вырас у што-небудзь значнае. Галубкоўцам жа давялося працаваць па прынцыпе: усё сваё з сабою носім. З Ляхаўкі на Пярэспу, з Камароўкі на Грушаўку, з дзіцячага дома ў вайсковае падраздзяленне. А калі ўлічыць, што ўсё часцей і часцей маршруты іх выступленняў сталі выкіроўвацца ў сельскую глыбінку, то можна ўявіць, у якіх надзвычайна складаных умовах яны мусілі працаваць.

Падводзячы вынікі дзейнасці свайго тэатра за тры першыя гады, Галубок палічыў патрэбным звярнуцца праз «Савецкую Беларусь» з адкрытым пісьмом да ўдзельнікаў трупы, у якім выказваў шчырую падзяку ўсім артыстам. «За тры гады безупыннай працы сярод захалуснага грамадзянства вы зрабілі вялікую працу, пра якую забыцца не можна. Вы працавалі, не адчуваючы змогі, вы працавалі і дзень і ноч. Дзень для вас — праца ва ўстановах, а ноч — сцэна...

Вялікія вашы заслугі ў тым, што вас не палохала дальнасць клубаў, вёсак, куды трэба было хадзіць пехатою па гразі і па снягу, несучы на сабе цэлыя вузлы патрэбнага рэквізіту.

Вы ішлі да тых людзей, да якіх не ішоў ніякі тэатр...»

Публікуючы пісьмо, Уладзіслаў Іосіфавіч меў на мэце, па-першае, звярнуць увагу шырокай грамадскасці на працу сваёй трупы, а па-другое, падтрымаць добрым словам артыстаў. Ён разумеў, што ад развалу калектыў можа засцерагчы толькі энтузіязм, які крынічыў бы з усведамлення найвышэйшай неабходнасці, з пераканання, што ніхто іншы не зробіць вось гэтай працы. Тады і сапраўды не так спалохаюць вандроўкі па бездаражы, адсутнасць сталай базы, вялізныя нагрузкі пры асваенні рэпертуару. А яны былі, бясспрэчна, вялізнымі. Па сведчанню «Савецкай Беларусі», калектыў толькі ў 1922 годзе паказаў гледачу драмы «Былое», «Акрываўлены падатак», «Вар'ят», «Душагубы», «За мураванай сцяной», «На курорце», «Мужычае шчасце», «Завяўшыя кветкі», «Праменьчык шчасця», «Фанатык», «Ганка», «Бязродны», «Апошняе спатканне», «Бязвінная кроў», а таксама камедыі «Двужэнцы», «Патэнтаваны кум», «Жаніхі», «Суд», «Культурная цешча», «Дарагія госці», «Пісаравы імяніны», «Ліхадзеі». Усе гэтыя п'есы хоць і створаны Галубком у розныя гады, аднак працы патрабавалі столькі ж, колькі зусім новыя, бо драматург кожную з іх значна перапрацаваў. Паставіць два дзесяткі

спектакляў ды ў такіх неспрыяльных умовах маглі, мусіць, толькі галубкоўцы. І толькі Галубок мог за такі кароткі тэрмін напісаць так многа твораў. Працаваў ён у гэты час апантана, не лічачыся ні з часам, ні са здароўем. І рабіў гэта неяк па-галубкоўску непаўторна. Ва ўсіх галінах творчасці.

Мастак Яўген Ціхановіч зазначае, што Галубок як жывапісец меў своеасаблівую выканаўчую манеру. «Любіў ён грубае шурпатае зрэбнае палатно або кардон і маляваў часцей за ўсё мастыхінам, а не пэндзлем. Паверхня яго карцін заўсёды была, як мы кажам, «мазістая», фарбы былі пакладзены густа, і толькі здалёк твор чытаўся ясна і добра. Маляваў Галубок спачатку невялікія памерам эцюды, а пасля павялічваў іх да метровага і больш памеру, але ніколі не капіраваў іх механічна. Павелічэнні рабіў не з усіх эцюдаў, а доўга выбіраў з іх той, які здаваўся яму найлепшым і выразнейшым, доўга раіўся з сябрамі і пачынаў працу толькі тады, калі быў цвёрда ўпэўнены ў добрай якасці іх».

Усё сказанае на здзіўленне латва дастасоўваецца і да асаблівасцей працы Галубка ў драматургіі. Хіба не тое ж шурпатае зрэбнае палатно праглядвае скрозь «фарбы» сюжэта большасці яго п'ес? Ці ж не ў аналагічнай манеры праводзіць драматург абмалёўку сітуацыйных, канфліктна-фабульных элементаў? Буйны, рэзкі мазок, кантрастнае супастаўленне, высокі напал пачуццяў, амаль поўная адсутнасць паўтаноў... Усё гэта пры сцэнічным увасабленні п'ес вымагала ад акцёраў адпаведнай стылістыкі. Артыст Сцяпан Бірыла, які перайшоў у трупу Галубка з тэатра рускай драмы, адразу ж адчуў своеасаблівасць манеры выканання роляў акцёрамі-галубкоўцамі: «...На ўсім быў адбітак вялікай непасрэднасці: калі ўжо «страсці», дык «страсці», калі пакуты, дык ужо такія, каб вывернуць душу ў недасведчанага, неспакушанага гледача, калі гумар, дык такі, ад якога «чырванелі вушы». Што датычыць «стратэгіі» напісання п'ес, то і тут наглядаецца пэўнае падабенства. Толькі адзінкавыя творы былі напісаны драматургам без «эцюдаў» — цалкам. Часцей за ўсё ім ствараўся фрагмент або адзін акт драмы. Звычайна самы ўдарны, стрыжнявы. Пасля чыткі-дыспута ў калектыве аўтар неадкладна рабіў праўкі з тым, каб тут жа прыступіць да рэпетыцый.

Пры вонкавай нерацыянальнасці сцэнічнай падрыхтоўкі незавершаных твораў у гэтым метадзе заключалася шмат станоўчага, выйгрышнага. Па-першае, праца марна не прападала ва ўсякім выпадку: сцэнічныя фрагменты ва ўмовах дзейнасці галубкоўскага тэатра, які вельмі часта выступаў перад працоўнымі з канцэртамі-капуснікамі, былі заўсёды прыдатныя. А па-другое, хіба можа што-небудзь замяніць папярэднюю апрабацыю сцэнай? Драматург атрымліваў для сябе самае каштоўнае сведчанне — ацэнку задумы п'есы гледачом. Галубку такая ацэнка дапамагала надзвычайна: няплённыя «зага-

тоўкі» ён без асаблівых ваганняў выкідваў, а над удалымі працаваў мэтанакіравана і ўпэўнена. Не будзь у драматурга свайго тэатра, столькі п'ес ён ні ў якім разе, відаць, не напісаў бы.

Праца Галубка ў драматургіі (прынамсі ў беларускай) — з'ява унікальная. Толькі першаступеннаму пісьменніцкаму таленту пад сілу было ахапіць такі вялізны жыццёвы матэрыял, мастацкае асэнсаванне якога склала сукупную эстэтыка-рэальную аснову яго п'ес. Зноў жа: толькі выдатны мастак мог так добра адчуваць сацыяльна-палітычныя абставіны часу, разумець неадкладныя задачы маладой рэспублікі, роднага народа. Таму не выпадкова яго называлі вандроўным трыбунам, агітатарам, які на месцах растлумачваў палітыку Савецкай улады ва ўсіх галінах грамадскага жыцця. Так, напрыклад, у пісьме, падпісаным кіраўнікамі Чэрвеньскага райпалітпрасветкома і камандзірам 5-га стралковага палка, выказвалася шчырая падзяка «дзядзьку Галубку і яго галубяняткам (трупе) за тое высокамастацкае задавальненне, якое глыбока ўзварушыла самыя тонкія струны культурнага жыцця насельніцтва». Далей адзначалася: «Трупа Галубка ёсць маладая рунь Чырвонага Кастрычніка, яе пастаноўкі з'яўляюцца рэвалюцыйнай трыбунаю, адкуль раздаюцца ідэі новага быту, лепшага жыцця, лепшай будучыні». Сам драматург таксама вельмі пэўна фармуляваў задачы, якія выконваў яго тэатр на перыферыі: «Лягчэй усяго можна асвятліць душу селяніна добрым тэатрам. Лягчэй усяго можна з'яднаць вёску, калі на помач прыйдзе тэатр. Вось дзеля чаго, адчуваючы такую вострую патрэбу, трупа не пакладаючы рук працавала ў Мазырскай акрузе 45 дзён, даўшы 40 спектакляў.

Але гэтага мала. Беларусь вялікая, і поле для працы вялікае».

Асвятліць душу і розум працоўнага беларуса... Гэткая задача наўрад ці была пасільнай нават для такога таленавітага калектыву, як тэатр Галубка. Аднак колькі ў гэтай задуме хараства і высакароднасці! Ажыццяўляючы яе, драматург вырастаў у значную пісьменніцкую і грамадскую постаць. Грандыёзнасць мэты абумовіла шырыню ідэйна-тэматычнага дыяпазону яго п'ес. Пачаўшы з апрацовак, са сцэнічных адаптацый уласных апавяданняў, якія нярэдка грашылі залішнім этнаграфізмам, камернасцю гучання, Галубок у далейшым прыйшоў да напісання буйных драматычных палотнаў, багата насычаных думкамі пра мінулае і сучаснае беларускага народа, пра яго гістарычную місію. Ён уводзіць у нацыянальную драматургію прынцыпова новага героя — чалавека рэвалюцыйных перакананняў, здольнага ў імя перамогі класавых ідэалаў на самаахвярныя высакародныя здзяйсненні. Менавіта такі герой найлепшым чынам мог засведчыць аб глыбінных зрухах у свядомасці працоўных беларусаў, якія абудзіліся да актыўнага грамадска-палітычнага жыцця пад уздзеяннем Кастрычніцкай рэвалюцыі. І наогул пра гэтыя зрухі сён-

няшні чытач мае магчымасць скласці дастаткова пэўнае ўяўленне, калі прачытае адну за другой п'есы Галубка. Драматург валодаў надзвычай пільным бачаннем адметнасцей тагачаснай рэчаіснасці. Гэтая пільнасць, абумоўленая пачуццём абвостранай грамадзянскай далучанасці да ўсяго, што было звязана з лёсам маладой Беларускай рэспублікі, дапаўнялася цвярозым успрыняццем аб'ектыўных заканамернасцей сацыяльна-гістарычнага развіцця. Мусіць, таму ў п'есах драматурга адсутнічае экзальтаваная ідэалізацыя мінулага: ён разумеў, што Кастрычнік даў беларусам рэальныя правы і магчымасці для паўнакроўнага палітычнага і культурнага жыцця. Разам з тым, паказваючы цяжкасці паднявольнага існавання працоўных у дарэвалюцыйны час, пісьменнік імкнецца пазбегнуць аднабаковасці: яго героі не толькі пакутуюць, не толькі задыхаюцца ад прыгнёту — яны кахаюць, радуюцца сонцу і — хай сабе рэдкім — уцехам штодзённасці.

Вышэй ужо гаварылася аб шырыні ідэйна-мастацкіх пошукаў Галубка-драматурга. Спалучаючы класічныя традыцыі з паэтыкай народнай драмы, пісьменнік дасягаў вельмі плённых вынікаў: яго п'есы ў аднолькавай ступені цікавыя як для недасведчанага гледача, так і для спецыяліста-прафесіянала. Гэты сплаў драматург рабіў па толькі яму вядомых рэцэптах, таму ў жанравых адносінах галубкоўская драматургія — з'ява няпростая. Прынята лічыць, што ён «аддаваў перавагу ў асноўным меладраме і бытавой камедыі». А між тым такое меркаванне ў сваю чаргу можна лічыць справядлівым толькі «ў асноўным». Так, меладраматычных, як і камедыйных, элементаў у п'есах драматурга вялікае мноства, а вось чыстай, у традыцыйным яе разуменні, меладрамы ў яго спадчыне няма ніводнай. Большасць камедый Галубка заснаваны на бытавым матэрыяле, але яго бытавая камедыя напазычала столькі адметнасцей у сваіх сатырычных, сацыяльных і лірычных сясцёр, што і ўласных амаль пазбылася. Не, не ад нявопытнасці сваёй упадаў драматург у такую жанравую вольнасць. Вольнасці дапускаюць не навічкі, а ўпэўненыя, падрыхтаваныя спецыялісты, якім і быў сам Галубок.

Каму пашчасціла слухаць яго лекцыі аб праблемах драматургіі, той надоўга запомніў іх. Усе слухачы звычайна здзіўляліся грунтоўнасці, глыбіні яго выкладання. Драматургічную класіку ён ведаў дасканала, а пра Шэкспіра мог гаварыць бясконца.

Дарэчы, у славутага англічаніна пераняў беларускі драматург манеру ўзаемаадносін з гледачом. На гэту акалічнасць яшчэ ў 20-я гады ўказвалі А. Вазнясенскі, М. Піятуховіч і інш. Гледачу павінна быць цікава! Гэты клопат заўсёды заставаўся найважнейшым у творчасці Галубка. Па сваім ранейшым — яшчэ гледачоўскім — вопыце драматург памятаў, разумеў, што публіцы цікава тады, калі ёй са сцэны паказваюць паўнакроўнае чалавечае жыццё,

не пракрусціраванае нейкімі рамкамі, ці то жанравымі, ці стылёвымі. Жыццё не бывае ні драматычным, ні трагічным, ні камічным. Яно — шматфарбнае, мнагалікае. Зыходзячы з гэтага меркавання, драматург шырока выкарыстоўваў такі дзейсны сродак сцэнічнай выразнасці, як эмацыянальна-пафаснае шматгалоссе. Прыроджанае пачуццё меры і гармоніі выступалі тымі кантрапунктамі, якія не дапускалі ў п'есы хаатычнасці, робячы іх цэласнымі, суладнымі ва ўсіх выяўленчых кампанентах.

Творчая лабараторыя Галубка-драматурга яшчэ па сутнасці нікім не даследавалася. Не ацэнены да гэтага часу і яго ўклад у развіццё паасобных драматургічных жанраў. А між тым, ён быў ледзь не аднаасобным фундатарам некаторых з іх у беларускай літаратуры. Перш за ўсё гэта адносіцца да жанру фальклорна-гістарычных п'ес, вяршыннымі з якіх варта лічыць драмы «Пан Сурынта», «Плытагоны». Зварот Галубка да падобнага жанру зусім заканамерны. Прадстаўнік маладой літаратуры, якая мела мінімальныя прафесійныя традыцыі, непазбежна мусіў звяртацца да фальклорных узораў. Толькі зыходзячы з гэтага адпраўнага пункта, можна было ўзняцца да вышынь прафесіяналізму і разам з тым дайсці да душы народа, не адарвацца ад яго.

Цікава, што ў аснове сюжэта большасці твораў Галубка ляжаць паданні ці вусныя гісторыі, якія ён пачуў у розны час і якія па нейкіх прычынах, відаць, запалі яму ў памяць. Праўда, фальклорная фабула настолькі грунтоўна трансфармавалася, перараблялася мастацкай фантазіяй драматурга, што першапачатковы яе варыянт пазнаваўся з цяжкасцю. І ўсё ж без яе пісьменнік адчуваў бы сябе менш упэўнена, як падарожны без кійка: і без яго можна, але з ім зручней. Свядома арыентуючыся на простага гледача, малазнаёмага з сакрэтамі сцэнічнага мастацтва, Галубок мусіў нейкім чынам «падвёрстваць» сваю творчасць пад яго вопыт. Іншымі словамі, не падладжваючыся пад густы гледача, адшукаць каналы сувязі з ім, шляхі ўзаемаразумення. З некаторымі прыёмамі і сродкамі сцэнічнага ўвасаблення дзякуючы вандроўным батлеечнікам і скамарохам публіка была знаёма нават у самых глухіх глыбінках. І калі творча выкарыстаць іх, то можна было хутчэй дайсці да сэрца і свядомасці гледача. Менавіта таму драматург не пераставаў шчодра чэрпаць са скарбонкі фальклорнай паэтыкі, заваяваўшы славу самага народнага беларускага драматурга свайго часу.

Значны ўклад зрабіў Галубок і ў развіццё беларускай камедыяграфіі, менавіта ў ёй з найбольшай сілай раскрыўся талент драматурга. Шчодра выкарыстоўваючы народны гумар, трансфармуючы традыцыі Шэкспіра, Мальера, Купалы і іншых выдатных камедыёграфаў, Галубок адкрыў для беларускай камедыі новыя выяўленчыя гарызонты. Камедыі Галубка вызначаюцца значнасцю сацыяльнага

зместу і абавязковай сатырычпай скіраванасцю. Пры гэтым галубкоўская сатыра заўсёды мела класавы характар, ён добра ведаў, з каго варта смяяцца і з кім можна смяяцца. Яе вастрыё, як правіла, скіравана супраць «сацыяльных паразітаў». Смех драматурга пры выкрыцці заганных бакоў рэчаіснасці або адмоўных рысаў у характарах людзей бязлітасны, знішчальны.

Спектаклі па камедыях Галубка сустракаліся гледачом вельмі цёпла. «Поспех тэатра быў поўны. Ад апладысментаў дрыжала ўсё навокал» — такія ацэнкі-сведчанні сустракаюцца ў рэцэнзіях даволі часта. Асаблівай жа папулярнасцю карысталіся камедыі «Пісаравы імяніны», «Суд», «Ветрагоны», «Пінская мадонна»... І гэта не дзіўна, бо ў іх арганічна сплавілася прафесійнае майстэрства са шчымлівай аўтарскай зацікаўленасцю. Вось гэтая зацікаўленасць і накладвала адбітак на ўсё, што б ні рабіў гэты апантаны, высакародны чалавек. Ёсць нейкая найвышэйшая справядлівасць, нават сімвалічнасць у тым, што менавіта яму першаму ў рэспубліцы было нададзена ганаровае званне народнага артыста БССР. Мэтай яго жыцця заўсёды заставалася служэнне народу, служэнне Савецкай уладзе, служэнне мастацтву.

Паказальна, што ніякія несправядлівасці не прымусілі яго зацяцца, пакрыўдзіцца, страціць веру ў будучыню. Ён верыў, што трагічныя памылкі з цягам часу выкрыюцца. Марачы пра гэта, ён у месцах свайго новага пражывання арганізаваў вандроўную трупу артыстаў. Як чароўная птушка Фенікс, узрадзіўся калектыў галубянят, каб зноў і зноў дарыць людзям цяпло далучэння да мастацтва.

7 сакавіка 1942 г. Уладзіслава Іосіфавіча Галубка не стала. Смерць перагарнула адну з самых слаўных старонак у гісторыі беларускай культуры. Перагарнула, але не закрэсліла, бо ніпто не здольна закрэсліць такую працу, такое жыццё. Жыццё, імя якому — подзвіг.

Імя Уладзіслава Галубка для нас, беларусаў, такое ж шаноўнае і дарагое, як імёны М. Крапіўніцкага, І. Карпенкі-Карага для ўкраінцаў, К. Караджале для малдаван, Ю. Вайчкуса для літоўцаў, А. Алунана для латышоў, Л. Койдулы для эстонцаў...

Ён і сёння з намі. Жывы, зразумелы, блізкі...

Напісанае засталося, а зробленае не забылася. Не прапала марна, не загубілася на запыленых пуцявінах часу не толькі тое, што атрымала рэальнае выражэнне ў суровых радках вершаў, у каларытных вобразах апавяданняў і п'ес, у сціплым харастве жывапісных палотнаў. Неацэнным бачыцца сёння, напрыклад, значэнне У. Галубка ў станаўленні народных тэатраў Беларусі — мастацкіх калектываў, якія непасрэдна працягваюць падзвіжніцкую справу Вандроўнай трупы. І калі на сённяшні дзень гэтыя тэатры вызначаюцца няхай сабе адноснай, але ўсё ж несумненнай шматлікасцю,

і калі яны працуюць — прынамсі некаторыя з іх — на дастаткова высокім, амаль прафесійным узроўні, то ў гэтым напэўна ж праявіўся ўплыў славутага папярэдніка. У працы лепшых самадзейных тэатральных труп бачыцца «почырк» У. Галубка, у ёй — рэалізацыя запаветнай мары «артыста з вузлом»: далучыць да сцэнічнага мастацтва як мага больш гледачоў, у тым ліку і жыхароў глыбінкі, дайсці нават «да тых людзей, да якіх не ішоў ніякі тэатр». З нічога нічога і не бывае! Цяжка ўявіць, якой была б сённяшняя ніва беларускага самадзейнага тэатра, калі б не вопыт працы Галубка з галубянятамі. Адно можна сказаць з пэўнасцю: зерне, кінутае яго рупнай рукой у глебу, разараную Вялікім Кастрычнікам, хораша закаласіла і дало добры плён. Праз гады, праз дзесяцігоддзі даходзіць святло яго душы, хараство яго прыкладу. Працуйма, брацці... Беларусь вялікая, і поле для працы адпаведнае...

Аглядаючы спадчыну Уладзіслава Галубка, пераконваемся, што час не састарыў лепшага з яго мастацкіх набыткаў, бо творы, прасякнутыя сапраўднай народнасцю, не баяцца выпрабавання часам, як, дарэчы, і ніякага іншага. Час толькі падкрэсліў непераходнае значэнне яго творчай спадчыны, яго беззапаветнай працы на шырокіх палетках беларускай культуры.

*СЦЯПАН ЛАУШУК*

# АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ

*Драма ў чатырох актах*

## АСОБЫ

Бацька, 50 г.
Маці, 45 г.
Рыгор } 19 г.
Якім } 19 г.
Бутрым, хросны, 40 г.
Альжбета, яго жонка, 35 г.
Наталка, іх дачка, 18 г.
Ваўчанскі, 25 г. } студэнты
Васілёк, 20 г. } студэнты
Грабянёк, 20 г. } студэнты
Дзіўны, 20 г. } студэнты
Наста, сялянка, 35 г.
Аксіння, яе дачка, 18 г.
Селянін, 40 г.
Стораж турмы, 45 г.
Наглядчік, 25 г.

## СТАТЫСТЫ

3—4 стражнікі.
5—6 салдат.
Кат.
Доктар.
Чыноўнік.
Начальнік турмы.

## РЭКВІЗІТ

Кнігі, клумак, абразок, пісьмы, гітара, рэвальвер, пракламацыі, свечка, 2 калы, гроб, званочак.

# АКТ I

## З'ЯВА I

У хаце стол, на стале кнігі, ложак, лавы, у старане звязаны клумак.

Маці. Вось і прычакала шчасця, гадавала, гадавала, вырас, бывай, маці, здарова, сабраўся — і гайда ў свет, і куды, спытацца... у свет да людзей чужых, незнаёмых... *(плача.)*

Бацька. Да чужых, незнаёмых у свет за навукай *(кратае кнігі)*. Вось тут яго ўсё, рос, вучыўся, а цяпер паедзе, пакіне нас, старых *(плача)*. Застаецца Рыгорка, але што ж, калі ён без Якіма знудзее, яны ж гэтак згодна жылі.

Маці. Як жа не згодна, яны ж блізняткі, у адзін дзень на свет прыйшлі, а цяпер разыходзяцца.

## З'ЯВА II

Якім.

Якім. Матуленька, плачаце, ды пакіньце, не на век жа я паеду; праўда, дарога ў чужы край, але свет — не могільнік, паміж жывых жыць буду. Дасць бог, скончу навуку, выйду на лепшую дарогу, прынясу карысць нашаму сярмяжнаму брату. Можа, мы пад гэтай страхой жыць пасля не будзем, але як бы ні было, вас не пакіну, як не пакіну думаць пра ўсіх братоў сваіх — сялян. Буду вучыцца, буду змагацца і бараніць, пакуль сіла, нашую дарагую бацькаўшчыну. *(Да бацькі.)* І татка тож рымзае, раскіс зусім, кіньце, тату, не сядзець жа мне на вузкім загончыку, калі бог даў магчымасць вучыцца. Праўда, трудна будзе плыць проціў вады, але нічагутка, як-небудзь паплывём. Кіньце думкі, часу не многа пройдзе, 4—5 гадоў, а там здабудзем права, будзем жыць і не дрыжаць ні перад кім.

М а ц і. Але, сыночку, паплывеш, здаецца так, але цяжка плыць процiў вады, ой, як цяжка, не адзін з вас плыў, плыў і...

Я к і м. Ну, матуленька, нашто дапускаць чорныя думкі, як-небудзь з аддышай так-сяк.

Б а ц ь к а. Сынку, родны мой, ты разумны чалавек, трымайся заўсёды такога пагляду, ідзі звольна жыццёвай сцежкай, азіраючыся, бо часам на дарозе людзі хціўныя капаюць воўчыя ямы.

Я к і м. Бог ласкаў, не дапусціць чалавека, то ніякія сілы не перамогуць волі яго.

М а ц і. Вер, сынку, у бога найвышэйшага і маліся яму так, як вучыла цябе.

Я к і м. Веру, матуленька, і буду маліцца.

З'ЯВА III

Б у т р ы м і А л ь ж б е т а.

А б о е. Дай божа добры дзень у хату.

У с е. Добры дзень.

Б у т р ы м. І так, сынку, у свет...

Я к і м. Няйначай.

Б у т р ы м. Яно сабе добра, вёска нашая нічога даць не можа, трэба шчасця шукаць на старане, але знайшоўшы тое шчасце, каб не забыцца свайго роднага.

М а ц і *(да Альжбеты)*. Сядзь, Альжбетка, невясёла ў нас, сына ў дарогу выпраўляю, а мне здаецца, хаўтуры спраўляю.

А л ь ж б е т а. Што ты, што ты, кумка, крый нас божа, выпраўляеш, то ведаеш зачым.

Я к і м *(да Бутрыма)*. Казалі, дзядзька, каб не забыўся свайго роднага... забыцца можа толькі той, у каго няма ні душы, ні сэрца, аніякага пачуцця.

Б у т р ы м. І я кажу, што той не чалавек, каторы выйдзе з сялянскае хаты і сароміцца прызнацца, што ён сын вёскі, і сароміцца не толькі свайго брата, але часта і бацькоў. Колькі маю прыкладаў, ой, ой, узяць хоць бы сына Гаўрыленка, Мікіту Качаргу, э... і ўспамінаць не хочацца.

Гадаваўся ў вёсцы, ганяў на пасту, а пасля, як скончыў школу, выехаў, і толькі бачылі... ліст раз напісаў да бацькі і падпісаўся: быўшы ваш сын, а ныне памочнік валаснога пісара нейкай там воласці, Ніколай Кочэргін. Фамілію і тую перакруціў. А Мікола Васілёў, што

ў чыноўнікі ўбіўся ў з'езд, той ужо так распанеў, што да свайго бацькі не прызнаўся, калі той з'явіўся да яго ў лапцёх у з'езд. Кажа: не хораша было мне, калецкаму рэгістрату, гаварыць з табой — мужычком — пры людзёх вялікай важнасці.

Хаця ж да цябе, сынку, гэта не стасуецца, але трэба слухаць, што старыя кажуць, бо жыццё — гэта акадэмія добрых і благіх прыкладаў. Жыві, вучыся, дай божа табе быць шчаслівым і багатым.

Я к і м. Дзякую, дзядзечка, за жаданні,— вашыя словы буду памятаць, пакуль не памру.

Б а ц ь к а. Мой сын якраз не такі, ці будзе ён вучоны, ці чыноўнік які, бацькі свайго не адчураецца.

Я к і м. О! Ніколі, ніколі!

Б а ц ь к а. Гэта мяне не страшыць, аднаго толькі баюся, што сам сабою едзе ў свет, а цяпер якраз несупакой такі.

Б у т р ы м. Вось жа аб тое, жыццёвы шлях не адзін, у ім, бач, ёсць шмат дарожак, і чалавек, ідучы гэтым шляхам, бывае, трапіць на блудную сцежку і... прапаў... Не кажу я, што ён сам пойдзе на тое, каб зблудзіць, не зробіцца ўсё гэта знячэўку.

Я к і м. А я не спяшаючыся ды распытваючыся пайду і пайду памаленьку.

А л ь ж б е т а. Толькі ж так, сынку, толькі ж так, не спяшаючыся ды памаленьку.

М а ц і. А маё сэрца вельмі неспакойнае. Вось як успомню, што яшчэ часінка — і сынка няма, то душа сцюдзянее, здаецца, ніколі б не спушчала з воч, аж пакуль і рукі не сашчапіла.

Б у т р ы м. Не варта разважаць так, можа, і добра будзе.

А л ь ж б е т а. Што б ні было, а трэба супакойваць сябе, што добра будзе... Вось жа і мая Наталка на вясну канчае школу і таксама хоча ехаць вучыцца далей.

Б у т р ы м. Вельмі рад гэтаму, вельмі рад! З богам! Не можна спыняць ахвоту тады, калі яна жыве.

Я к і м. Наталка паедзе, мы ўдваіх будзем вучыцца і пойдзем па шляху да лепшага жыцця.

А л ь ж б е т а. Шкода, што не разам едзеце... удваіх смялей.

Я к і м. Спаткаемся, цётачка, спаткаемся, адна школа, адзін горад, гэта нашая ўмова.

А л ь ж б е т а. Ну, калі так, то й добра...

Б у т р ы м. Не былі б то вучоныя людзі, глядзі, які план абмеркавалі.

М а ц і. А дзе ж дачка, чаму не йдзе сюды?..

А л ь ж б е т а. А зараз падойдзе развітацца з Якімкам, гэта ж, бачыш, найлепшыя сябры.

М а ц і. Згоднае жыццё — людзям прыклад, бацькам — пацеха.

Я к і м. А яшчэ ні разу не сварыліся і сварыцца не будзем.

Б у т р ы м. Завошта, дзеці, вам сварыцца, няхай нашыя злоснікі сварацца, а дзеці нашыя згодна жыць будуць.

Б а ц ь к а. Сорам вялікі быў бы, каб дзеці нашыя ды сварыліся, здаецца ж, мы благіх прыкладаў у жыцці не давалі, век зжываем, а з Бутрымам ні разу спрэчкі не было, дык завошта дзеці нашыя спрачацца будуць?

## З'ЯВА IV

Уваходзіць Р ы г о р. Вітаецца з цёткай і дзядзькам.

Я к і м *(глядзіць на гадзіннік)*. А час той блізка... Яшчэ часіна — і роднае гняздо ад мяне далёка-далёка.

М а ц і. Лёгка, сыночак, сказаць, але цяжка перажыць.

Р ы г о р. Якім! Каб ведаў ты, як балюча чуць гэтыя словы, ты хіба не жалееш маткі, калі кратаеш яе хворае сэрца?

Я к і м. Ну, а як жа іначай сказаць, паеду, прыеду, цябе ўбачу, ты вырасцеш яшчэ большы, будзеш яшчэ дужэйшы, ломіш цяпер падкоўкі, валіш бычка за рогі, сіла твая будзе яшчэ большая прыгода ў гаспадарцы, шануй бацькоў, не давай працаваць, сам болей да працы бярыся, а пасля прыеду я, зашануем старых надоўга-надоўга.

Р ы г о р. Лепей бы ты не ехаў, мы б з табой удвух працавалі і жылі б.

М а ц і. Сыночак, а можа, і праўда ты не паедзеш,— падумай.

Я к і м. Не, матуленька, паеду, што я ў вёсцы буду рабіць? Працаваць з плугам не магу, то лепш спрабую іначай кіравацца ў жыцці... Выйду я за вучыцеля, значыць, пацягнем да асветы нашых братоў; на каморніка,— буду мераць зямлю князеўскую, каб ведаць, колькі ён яе мае і каб мы ведалі на ўсякі выпадак.

Бацька. На каго б ні выйшаў, абы не дзяньгубіць[1].

Бутрым. І я кажу, абы не дзяньгубіць. Будзеш каморнікам — добра, змераеш князеўскую зямельку і нам скажаш, колькі ёсць у яго, будзеш вучыцель — яшчэ лепш: дзеці сялянскія пойдуць к табе ў школу. Як ні кажы, а добра, дай божа табе быць вольнай птушкай і даляцець у тую вышыню, куды дазволяць сілы.

Якім дзякуе.

Маці. Праўду ён кажа, здароўя ў яго няма, і да гаспадаркі не здатны. Вось Рыгорка, дзякаваць богу, здароў, а ён слабы.

Альжбета. Здараецца так, што блізняткі не роўнай сілы бываюць, адзін жасцейшы, а другі слабшы.

Бутрым. Зусім зразумела... той скарб, каторы прырода дала б аднаму, яна дае двум; аднаму розум, затое сілы менш, другому сілу, розуму менш. Як ні глядзі, а Рыгор у цябе надзвычайнай сілы чалавек,— у навуцы слабы, у Якіма сілы менш, галава пракурорская.

Маці. Адно з другім складаецца, каб матчына сэрца балела. Не мае ён сілы — цяжка, не мае грошай — яшчэ цяжэй.

Якім. Матуленька, грошы будуць, абы здароўе. Той чалавек, каторы хоча працаваць, з голаду не памрэ. На які гадок грошы ёсць, а там бог ласкаў.

Бутрым. Не бядуй, маці, не бядуй, не прападзе Якім, не прападзе,— дзе ж ён прападзе, калі ў яго вачах гарыць надзвычайны агонь. Не, такі агонь не згасне.

Якім. Да пары будзе гарэць, а после і згасне... Ну, матуленька, благаславіце мяне...

Маці. Не хацела б я, каб дзіця маё па свеце бадзялася, ой, не хацела б... *(Здымае абразок.)* Будзь шчаслівы, сынок, бог з табою, не забудзься нас, як мы не забываліся цябе.

Якім *(да бацькі)*. Благаславі, тату.

Бацька. Будзь жыў і здароў, сынку, няхай матачка найсвяцейшая апякуецца над табою і не папушчае ніколі.

Якім *(да Рыгора)*. Брат, ты і гаспадар, ты і апякун, бацька стары, маці — і гутаркі няма, і вось дзеля гэтага ўсю надзею пакладаю на цябе, абавязак твой

---

[1] Марнаваць час.

працаваць і шанаваць старых як родны сын, бывай здароў.

Рыгор. Бывай здароў... *(Да бацькі.)* Бяры, тату, клумкі, глянем, ці каня запрэглі.

Бацька, Рыгор, маці выходзяць.

Бутрым. Ну, дзіцятка, благаслаўляю і я, як свайму роднаму, зычу шчасця і здароўя. Калі часам будзе цяжка, не будзе грошай, гукай да нас — памагу, а вось гэта табе на дарогу і на скляпанне новай будовы жыцця. *(Дае грошы, да Альжбеты.)* Пойдзем і мы глянем.

Альжбета. Ну, дык бывай здароў, сынку, дай божа табе дайсці да вялікіх навук і быць чалавекам. *(Пайшлі.)*

Якім *(адзін)*. Што ж яна не йдзе? *(Думае.)*

## З'ЯВА V

Наталка.

Якім. Наталка! Які я шчаслівы, што ты прыйшла.

Наталка. А якая я нешчаслівая, што ты едзеш, і адзін.

Якім. Наталка, мы разлучаемся толькі да вясны, а там...

Наталка. А што там?..

Якім. Ты скончыш школу, прыедзеш у тое самае места, паступіш на курсы, і будзем разам, мы будзем моцна, моцна кахаць адзін аднаго. Праўда, мая зорачка, кажы?

Наталка думае.

Якім. Ці праўду я кажу?

Наталка. Толькі ж ты не забудзься мяне, не забудзься, што я шчыра кахаю цябе і жыву толькі табой. *(Цалуе.)* Якімка, як шчаслíва, як багата я, што мы так кахаем адно аднаго... Божа мой, ці будзе калі шчаслівая часіна цэлым жыццём, і жыццём нашым уласным.

Якім. Наталка, будзе, толькі скончу навуку, і мы будзем так шчаслівы, як ніхто другі.

Наталка. Буду чакаць тае часінкі, калі мы зможам смела сказаць: Якімка мой...

Якім. А Наталка мая... *(Абнімаюцца.)*

Наталка. Якімка, пішы да мяне, не давай сумаваць, бо згіну, не дачакаўшыся тае шчаслівае часіны.

Я к і м. І пісаць буду, і прычакаем нашага шчасця.

Н а т а л к а. А скажы, Якіме, ці будзеш помніць ты, дзе рэчка нашая, дзе луг, дзе мора красак, і птушкі дзе пяюць, і бор шуміць, а тыя казкі векавога бору ці будзеш помніць ты?

Я к і м. Ні рэчкі нашае, ні казак векавога бору я не забудуся да скانання. Яны мне будуць святымі ўспамінамі шчаслівага дзяцінага жыцця.

Я буду цягам помніць, што вёска, рэчка, бор зялёны, магільнік, сонныя бярозкі і крыж, дзе сыходзяцца дарогі,— святое месца для мяне. У часе смерці я буду рад сканаць пад соннай пажаўцеўшаю бярозкай і слухаць у апошні раз хаўтурны напеў лісця. Наталка, вер маім словам.

Н а т а л к а. Мой любы Якімка, як богу, як небу, я веру і малюся, гледзячы ў вочанькі твае; у іх, як у блакітным небе, я бачу зорку свайго шчасця, касу сонца, што абагрэе душу маю...

Яны мае, мае сінія нябёсы, сама буду глядзець, нікому не аддам, ніколі, век неразлучныя са мной... *(Цалуе і плача.)*

Я к і м. Наталка, плачаш?

Н а т а л к а. Не, мой любы, не, не плачу, не плачу, я толькі так,— я не магу скрыць тае радасці, што бачу, і суму цяжкога, што, можа, назаўсёды... разлучаюць... нас.

Я к і м. Ну, супакойся... чую, брат, здаецца, йдзе?

Н а т а л к а. І так, Якім, з богам, родны мой... *(Цалуе.)* Пішы... Будзь шчаслівы. *(Выйшла.)*

Я к і м. Ну, цяпер усё... З усімі развітаўся... і з табою, хатачка мая,— гэтыя абгніўшыя скляпенні, накрытыя саломай, цяпер пакідаю, але сэрцам з табой... душа мая тут жыла і будзе жыць, я сюды вярнуся.

### З'ЯВА VI

Р ы г о р.

Р ы г о р. Можна ехаць, сусед падвязе цябе.

Я к і м. Бывай здароў. *(Цалуюцца, выходзіць.)*

Р ы г о р. Ой, як цяжка мне разлучацца з ім, быццам назаўсёды выправіў яго... Вось нейкае пачуццё, як камень, цісне грудзі, і жыве страх. Памятаю, дзецьмі мы былі, божа мой, як згодна жылі, а падраслі — разышліся...

Не з тваёй, братка, душой памыкацца ў свет, не з

тваёй, у цябе сэрца слабое, няпраўды не зносіш, а хто няпраўды не зносіць, той на свеце доўга не людзяе. (*За сцэнай чуцен званок калёс.*) Пішы, браце! Эх, Якіме, Якіме, нудна мне, браце, без цябе.

### З'ЯВА VII

Н а с т а.

Н а с т а. Паехаў Якімка?

Р ы г о р. Паехаў.

Н а с т а. Чаго ж ты спахмурнеў так?

Р ы г о р. І сам не ведаю, вельмі трывожуся...

Н а с т а. Нічагутка, усё добра абыдзецца... Людзі мы ўжо гэткія, хочам, каб нашыя родныя век разам былі.

Р ы г о р. А я б і кроку з хаты не ступіў. Дзе можа быць лепей, як не дома?

Н а с т а. Людзі не птушкі,— птушка выведзе дзяцей, узгадуе і толькі іх бачыла, а тут тады спакойны будзеш, калі вечка дамавіны вочы закрые.

Не сумуй, дзеткі, вернецца Якім жыў і здароў.

Р ы г о р. Ходзяць чуткі, быццам што па мястох забастоўкі пануюць — людзей вешаюць...

Н а с т а. Кажуць людзі... дый газеты пішуць...

Р ы г о р. Вось жа аб тое — а Якім завельмі мяцежны... дападзе і прападзе.

Н а с т а. Бог ласкаў... не папусціць. А ведаеш, Рыгорка, гэта ж і маю дачку Аксінню хацелі да паноў у нейкае места на службу ўзяць.

Р ы г о р. І што?

Н а с т а. Не аддала...

Р ы г о р. Я вельмі рад гэтаму... і шчыра дзякую вам... Аддаць Аксінню — усё роўна што адабраць ад мяне ўсё... Я, цётачка, вам нічога не казаў, скажу пасля, бо цяпер мне цяжка, горка, слёзы душаць горла... Аксінню не аддавайце нікому, нікому... я прашу, пашкадуйце мяне... я адзін.

### З'ЯВА VIII

Б а ц ь к а, м а ц і, Б у т р ы м, А л ь ж б е т а.

М а ц і (*плачучы*). Няма майго сыночка, няма...

Б у т р ы м. Ах, матка, пакінь плакаць, не рві душы, і так сумна, а ты без супачыўку плачаш і плачаш.

М а ц і. Бо не магу іначай, не магу.

А л ь ж б е т а. Годзе, кумка, годзе...

Н а с т а. Супакойся... пакінь плакаць.

Б у т р ы м. Ад'язджаў калісь я ў свет — нябожчык татка мой не плакаў, а запяяў нудную-нудную песню, словы каторае навек запалі ў маю душу. Вось паслухайце. *(Пяе):*

У нядзелю раненька
Узышло сонца нізенька,

і г. д. (гл. беларускі песеннік з нотамі).

Усе плачуць.
Занавес паціху апускаецца.

## АКТ II

### З'ЯВА I

Кватэра Я к і м а. Ён піша ліст, ля стала гітара.

Я к і м. Пішу ліст дамоў, і, можа, апошні.

Выязджаў, думаў адно, а пажыў у месце — думаю другое... А ці пасылаць яго? *(Думае.)* Вось пачакаю Наталку, яна павінна падысці, і паслухаю, што казаць будзе.

Места і вёска, што неба і зямля. Жывуць людзі ў вёсцы, адчуваюць няпраўду, але не ведаюць, хто рассадзіў яе, хто даглядае яе, а тут, бы ў вадзе, адбіваецца тое дрэва зла; і відаць карэнне, упіўшаеся ў цела замучаных людзей. Эх, дрэва, дрэва, што б было, каб не падрубалі цябе — тваё карэнне заглушыла б увесь свет. *(Хавае ліст.)*

### З'ЯВА II

Н а т а л к а.

Я к і м. Наталка, я пра цябе думаў, а ты тут.

Н а т а л к а. Тут, мой братка, тут! *(Убачыла ліст.)* Што гэта, Якімка, ліст нейкі...

Я к і м. Але, ліст.

Н а т а л к а. А да каго, можна глянуць?

Я к і м. Можна, можна.

Н а т а л к а. Дамоў?..

Я к і м. Дамоў, толькі не адважыўся паслаць, чакаў цябе, што скажаш ты.

Н а т а л к а. Напісала і я, ды не адважуся паслаць, што скажаш ты?

Я к і м. Я скажу: пашлём...

Н а т а л к а. Вось дажылі дык дажылі, ліст да бацькоў мяркуем як паслаць.

Я к і м. Паслаць лісты я не баюся, боязна толькі іх на след навесці... Бацькі лісты атрымаюць, прыедуць сюды, а тут сына павялі на шыбеніцу.

Н а т а л к а. Недарэчы чаўпеш, мой хлопчык, лісты пашлём, а пра шыбеніцу забараняю гаварыць табе.

Я к і м. Сягонняшні дзень пакажа нам пуцявіну, ці жыць, ці гніць.

Н а т а л к а. Эх, Якіме, Якіме, шорахна становіцца мне, як успомню, што ты павінен сягоння зрабіць...

Я к і м. Жэрабя выпаў, і рэчы няма... Павінен...

Н а т а л к а. Якім, а можа, хто другі, а можа, ты якраз не можаш забіць таго, каторы для цябе нічога благога не зрабіў?

Я к і м. Наталка, не кажы мне гэтага... Я слухаць не буду... Чужыя слёзы раняць маё сэрца, я не жыву толькі для сябе... павінен і зраблю...

Наталка задумалася.

Я к і м. Аб чым задумалася?

Н а т а л к а. Я думкамі перанеслася пад страху роднае хаткі.

Я к і м. Успомні што-небудзь, я супачыну душой.

Н а т а л к а. Пра гай, што на гары спрадвеку стаіць і шаптаў нам казкі, чароўныя казкі, пра сонца, месяц, неба, зоры.

Я к і м. Успомні... мне хутчэй — пра ўсё, пра ўсё, што ўзбагаціць маю душу, успомні.

Н а т а л к а. Якім! Ці помніш ты пра тыя зоры, каторыя ўглядаліся на нас, як мы сядзелі з табою на курганчыку і ты першы раз сказаў, што кахаеш мяне, а сенажаткі, а тыя кветкі, а спевы шчаслівых птушак, а тую каплічку, дзе мы маліліся, і тое рэха ад званоў, што працяжна плыло над борам... Якім, Якім, ці помніш ты?

Я к і м. Рэха ад званоў ці помню я? І той курганчык, дзе застыла, як сфінкс, слова мае прысягі,— помню...

Наталка! Ніколі, пакуль буду жыць, я не забудуся той звон з каплічкі. Як гімн вясны, уперамешку з

птушыным спевам гудзіць ён і па сягоння ў маіх вушах, я ім жыву, я вёскай дыхаю, мне неба места нічога не дало... я бедзен тут, тут стогн пакутны людзей, замучаных цяжбой... Я там, дзе рэха ад званоў, я там...

Н а т а л к а. А там цяпер вясна, і птушкі ў чароўным лесе вітаюць хараство яе, і поруч з гэтым спевам у хатцы, дзе жывуць бацькі, уторыць пакутны стогн старых аб дзетках, заблудзіўшыхся ў нязнаных пуцявінах жыцця. Якім, калі ты памятаеш словы тае прысягі, калі ты цэніш той спрадвечны курганок, паслухай аб адным... паслухай, яшчэ не позна, яшчэ магчымасць ёсць.

Я к і м. І што?

Н а т а л к а. Пакінем усё, пакінем гэтае шэрае сцюдзёнае неба і ўцячом туды, дзе кожны кусцік, кожная галінка нашыя, родныя, і сэрцу роднае ўсё.

Якім, я заклінаю цябе верай прадзедаў, я заклінаю ўсімі тымі ўспамінамі, не йдзі, пакінь — яшчэ не позна.

Я к і м. Наталка, хто ж, па-твойму, я, прадажная душа, каторая пагляд свой змяняе, як адзежу, ці вёскі шчыры сын?.. Даволі вызнаў я жыццё, каб стаць у рады абаронцаў беднага загнанага народу,— даволі бачыў слёз сірот, пакінутых сярод дарогі, даволі мне ўсяго... я шчыры паслугач галодных і грозны біч сытых...

Цябе кахаю шчыра, шчыра, а слова і ўміраючы ніколі не змяню...

Прысяга...

Н а т а л к а *(набок)*. Позна... позна.

## З'ЯВА III

Д з і ў н ы, В а ў ч а н с к і, Г р а б я н ё к.

У с е. Вось і мы.

Н а т а л к а. Сядайце...

В а ў ч а н с к і. Трэба спачыць, ногі натаміліся.

Я к і м. А дзе ж ты быў?

В а ў ч а н с к і. Ішоў вуліцай, за мной шпег ні ў знак цікаваў, я яго згледзеў і з дарогі звярнуў, каб след страціў.

Я к і м. Нюхаюць, значыцца.

Д з і ў н ы. Блага таму нюхаць, у каго нюхала заткана.

Я к і м. Ну, і як жа той сыскны камердынер?

В а ў ч а н с к і. Страціў сцежку і знік, як дым.

Г р а б я н ё к. Паміж іх ёсць патэнтаваныя дурні.

Я к і м. І вельмі многа... Мяне раз адзін шпег вёў аж у канец места... Іду я, паўзе ні ў знак і ён... І быццам адзін аднаго не бачым. Урэшце прыйшлі пад самую рэчку, ісці далей няма куды, я павярнуўся да яго і кажу: сэр, вернемся назад... Пачырванеў ён, як рабіна, прамыкаў нешта і знік, як воўк.

В а ў ч а н с к і. Дзіўлюся, як мог сышчык пачырванець? На мой розум, сышчык — такая жывёлінка, катораяа сваё сумленне прадае разам са скурай у першы дзень паступлення на службу.

Н а т а л к а. А можа, той шпег якраз у той дзень толькі дастаўся на службу і частка сумлення яшчэ была пры ім.

В а ў ч а н с к і. Хіба ж толькі так.

Я к і м. Нешта ж Васіля няма.

Н а т а л к а. Прыйдзе, нідзе дзенецца.

Д з і ў н ы *(бярэ гітару, пяе)*. Рабіна, рабіначка, рабіна мая, чаму ты, рабіначка, рана адцвіла?

Н а т а л к а. Як не ў пару зайграў, браце.

Д з і ў н ы. А што па-твойму, сесці ды плакаць? Не, гэтаму не быць, я ніколі не плакаў і плакаць не буду, няхай па тым плачуць, каму хаўтуры сёння будуць, а я пяяць буду. *(Пяе.)* Дзяўчына, дзяўчыначка, дзяўчына мая, чаму ты, дзяўчыначка, засмуцілася?

Я к і м. У гэтай песні святыя словы і мелодыі, а колькі жалю і суму чуецца ў ёй. Хто можа не зразумець яе, толькі не сын вёскі, чужым яна будзе чужою, а мне мілыя, родныя вобразы, блізкія сэрцу.

Песня гэтая перанесла думкі мае пад страху роднае хаткі, к родным межам дарагое бацькаўшчыны. О бацькаўшчына, я кахаю і вечна думаю аб табе, а ці вярнуся калі, ці ўбачу сваю матуленьку, эх, доля, доля...

Н а т а л к а. Якім, вернемся... і хутка.

Д з і ў н ы. Мы не павінны верыць, што будзе ноч, што не будзе дня, не будзе свету!

Г р а б я н ё к. Без веры не можна жыць. Хоць і жыве такое пачуццё, што не будзем жыць, не будзем бачыць родных загонаў, мілых абразоў, але такое пачуццё трэба гнаць і верыць, моцна верыць, што будзем жыць, будзем бачыць усіх.

Д з і ў н ы. Каб я, Якім, не знаў цябе, як знаю, то мог бы смела сказаць, што ты...

Я к і м. Што я?

Д з і ў н ы. Ды проста спужаўся, што першаму табе выпала страляць у...

Я к і м. Ты так думаеш?

Д з і ў н ы. Ну, а як жа іначай?.. Ты ў апошнюю часіну так крута падаўся думкамі да родных межаў, як дзіця да маткі...

Я к і м. Як хочаш разумей, а родны загон і мілыя абразы ніхто і ніколі не выганіць, калі яны рысуюцца ў вачах маіх.

Н а т а л к а. Я зусім разумею Якіма, родныя абразы бацькі, маткі дарагія так, як родны край. Скажыце мне, што варт той чалавек, каторы не кахае бацькаўшчыны.

Г р а б я н ё к. Той чалавек без сэрца, без душы, гнілое дуплё, я шмат чуў пра людзей, каторыя век зжывалі на чужыне, а паміраць прыходзілі на родную зямельку.

В а ў ч а н с к і. Жыды першыя... Яны раскінуты па цэлым свеце, а зямля Ерусалімская ў іх ёсць, як памятка. Памірае з іх хто, жменечку зямліцы той кідаюць у магілу... А ўзяць хоць бы касту брамінаў, у іх закон такі: пакінуў родны край, выехаў, то назад не вернешся, бо закон кажа такога разглядаць як непрыяцеля і караць смерцю.

Я к і м *(да Дзіўнага)*. Я, брат, і не думаў палохацца, прыгавор напісан, падпісан, застаецца толькі выпаўніць, ну, і выпаўню, рука не дрыгне, калі сэрца кажа мсціцца.

Д з і ў н ы. Помста — страшная помста. Чулі, Бяздомнага павесілі?

У с е. Чулі.

Д з і ў н ы. Забыцца не магу; так перад вачыма і стаіць, худы, з уваліўшыміся вачыма... замарылі і павесілі... Я вылецеў, а ён завіс.

Я к і м. Колькі ён сядзеў?

Д з і ў н ы. Два гады нешта.

Я к і м. Цэлая вечнасць.

Д з і ў н ы. Праўду кажаш, цэлая вечнасць. Сядзеў я ў той час па суседству з яго камерай: ноч, турма спіць, ані шэлесту, не спалася мне... чую... стук, стук, клікае... усхапіўся я, даю адказ: не сплю.

Вось ён і пачаў выстукваць, што быў яго суд — суд скоры і справядлівы, і незадоўга будзе канец жыцця... жанаты, і дзетак двое, казаў, ёсць, адрас даў: прасіў

зайсці. Не мог я далей слухаць стуку, падбег к дзвярам і пачаў валіць кулакамі што было сілы. Падняўся шум, па калідорах забегалі, скрыгануў замок, адчыніліся мае дзверы...

Н а т а л к а. Ну, і што?

Д з і ў н ы. Я дзіка глянуў на іх, сеў на ўслончыку і сказаў: к чорту пайшлі, сукіны дзеці...

Я к і м. А што было далей?

Д з і ў н ы. Я не ведаю.

Г р а б я н ё к. Цябе пэўне палічылі за вар'ята, і годзе, падумалі адно з двух — ці звар'яцеў, ці захварэў...

Д з і ў н ы. Палічылі хворым... бо назаўтра прыйшоў доктар і пытаўся, што баліць мне.

Я к і м. А што было далей?

Д з і ў н ы. Пасля той ночы я не спаў... пільнаваў усё, калі прыйдуць браць Бяздомнага. І вось, не памятаю, на каторы дзень, чую, цікаюцца... адчыніліся ў яго дзверы... О, божа, калі пачаў я крычаць, калі пачаў крычаць, то ўся турма на ногі стала, чую, крычаць там і там, папрачыналіся ўсе... усім было вядома, што пакорныя паслугачы павялі шкоднага ім чалавека.

Я к і м. Т-а-а-к, ці аднаго завялі, каб іх сляпых вадзілі.

Н а т а л к а. Ну, а ці быў жа ты па адрасу ў жонкі Бяздомнага?

Д з і ў н ы. Быў. О, лепей бы я памёр, чымся ішоў туды.

Н а т а л к а. Кажы, кажы.

Д з і ў н ы. Прыходжу, у сырым сутарэнні за машынай сядзіць маладая заплаканая жонка, худы твар выглядаў, ох, не магу расказаць, двое дзетак гулялі на падлозе, я ступіў і замёр... Меншы сынок яго падбег да мяне, абняў мае калені і нямым голасам закрычаў: «Мама, мама, татулька наш прыйшоў!» Я не вытрываў, абамлеў... адняло мову, і доўга не мог выказаць, хто я і чаго прыйшоў.

В а ў ч а н с к і. О! Як балюча чуць усё гэта!..

Н а т а л к а. І так ты нічога ёй не сказаў?

Д з і ў н ы. Не сказаў.

Я к і м. Не сказаў, і добра... Хто-небудзь другі скажа... Усё роўна не вернеш.

## З'ЯВА IV

**Васіль.**

Усе. Ага... з'явіўся?!

Васіль. Выбачайце... быццам і запазніўся на часінку, але ў гэтым не мая віна, выглядаў усё. Пункт а пятай... трэба быць на месцы... будзе ехаць тут ля нас.

Усе глядзяць на гадзіннікі.

Якім. Ну, то і пойдзем... *(Устае, перакладае рэвальвер з кішэні ў кішэню.)*

Усе. Пойдзем.

Наталка. Якім... Затрымайся на часіну... хачу папытацца... сядзь...

Якім. Не сяду... сядзець можа толькі той, каторага трымаюць за жалезным засовам, а я пакуль што на свабодзе.

Усе *(да Наталкі)*. І так, бывайце здаровы.

Наталка. Ну, што ж, ідзіце, зычу шчаслівага канца.

Ваўчанскі, Грабянёк, Дзіўны выйшлі.

Васіль. А я развітаюся з вамі назаўсёды, не спамінайце благім словам. *(Цалуе руку.)*

Наталка. Што ты?.. Што ты?..

Васіль. Кажа мне прачуццё, што больш я не вярнуся. Пойдзем, Якім... Мы з табою пачынаем першыя... *(К дзвярам.)*

Наталка. Не веру я, не веру,— мы будзем жыць!..

Васіль пайшоў.

Наталка *(к Якіму)*. На часінку — не больш... Якім, які канец, што будзе, калі, крый божа, няўдача?..

Якім. Канец вядомы.

Наталка. Якімка, чаму ты такі сумны?

Якім. Я не магу мець іншага твару... Ты ведаеш, што будзе зараз.

Наталка бярэ за рукі Якіма і ўглядаецца ў твар.

Якім. Углядаешся, мая радасць?..

Наталка. Углядаюся, маё сонца, углядаюся... Хачу, каб абраз твайго твару запаў у маю жалобную душу. Стой жа, мая зорка, стой, не зварухніся, дай налюбавацца табою, пакуль ізноў не зробішся сумным. *(Цалуе вочы.)* Вочанькі мае ясныя, мае вочанькі. *(Плача.)*

Я к і м. Не плач... Я йду... (*Выбег.*)

Н а т а л к а (*услед*). Якім... Якім... пайшоў, няма... позна... сама пусціла... не змагла ўгаварыць... (*Плача.*)

Які цяжкі абавязак, падумаць толькі, а ці ўдасца шчасліва давясці да канца... О! неба справядлівае.

А можа, усё добра будзе, не буду аб гэтым думаць.

Які ён добры, божа мой, ці можа быць хто другі... і як не любіць такога чалавека... Жывучы ў вёсцы, я цаніла яго даражэй за дыяменты і толькі чакала тае часіны, калі буду неразлучна з ім, аж вось тая часіна надышла... Хто ведае, быць можа, з выхадам Якіма за дзверы расчынілася вялікая пропасць між намі.

Божа, дай сілы прыждаць шчаслівага канца... Мы пакінем усё, паедзем далёка, каб забыцца, супачыць... Але куды ж мы паедзем, мяцежныя душы, дзе можам жыць спакойна? Там, дзе жыве праўда. А дзе жыве праўда?

Няма праўды на свеце, няма нам месца ў свеце.

Становіцца на калені, вялікая паўза. За сцяной чуецца выстрал — адзін, другі.

### З'ЯВА V

Я к і м з рэвальверам у руках — акрываўлены.

Н а т а л к а. Якім, што з табою, ці ранены?

Я к і м. Лёгка, дай вады.

Н а т а л к а. Ось прычувала маё сэрца, прычувала! (*Дае ваду.*)

Я к і м. Непрыяцель наш не жыве... Васіля шкода, забілі, і не скрануўся...

Н а т а л к а. Васілёк, Васілёк, як прычуваў, што не вернецца. (*Абвязвае галаву.*)

За сцэнай шум.

### З'ЯВА VI

С т р а ж н і к і.

С т р а ж н і к і. Ні з места...

Н а т а л к а (*засланіўшы сабой Якіма, хапае са стала рэвальвер*). Я не аддам Якіма, не аддам! (*Страляе, адзін падае.*)

З а с л о н а

# АКТ III

## З'ЯВА І

Дэкарацыі І акта. Маці за адным сталом, бацька — за другім.

Маці. І так, няма вестачак ад Якіма... Бог святы ведае, што з ім... Перш пісаў калі-нікалі, а цяпер і след страцілі... нічога не піша, думай, маці, што хочаш.

А цяпер жа неспакой такі, бунты ўзняліся, забастоўкі, ой, ой. Хлапец малады, заўзяты, натрапіць на бяду, зложа галоўку.

Бацька. Але, часы неспакойныя, нашто ўжо ў нашай вёсцы, і то што творыцца. Сяляне арэнды не плоцяць, лес князя сякуць, а той стражнікаў на іх падсылае... Скажы ты мне, дзе Рыгор?

Маці. Мала ён у хаце стыкаецца, з забастоўшчыкамі ў дружбу ўвайшоў, афішкі прыносіць, сялянам раздае, вось і сюды частку прынёс.

Бацька. Дай сюды, гляну.

Маці *(падносіць)*. Нічога не спазнаеш — няграматны.

Бацька. Няграматны і сляпы — родныя браты. Вось пачакаю Бутрыма або дачку Насты, тыя прачытаюць.

Маці. Успомніў ты пра дачку Насты.

Бацька. Пра Аксінню?

Маці. Але ж.

Бацька. Добрая дзяўчына, маю на ўвазе яе.

Маці. Жонка для Рыгора — хоць куды.

Бацька. А чаму ж? Якіма ажэнім з Наталкай, а Рыгора з Аксінняй... Няхай бы жылі, як людзі добрыя жывуць...

Маці. Нічога няма лепшага, як дзяцей паставіць на ногі.

Бацька. Ці дажджом мы гэтага?

Маці. Вось жа і я пра тое: няма Якіма, хата пустая, і чорных думак поўна галава, як ні гляну ў цёмны кут, заўсёды цень бачу яго, ні то ён хвор, ні то ён нежывы.

Бацька. Надумаешся за дзень, а ўвечары мітусяцца цені.

Маці. Стараюся другі раз не думаць, усё роўна з'яўляецца сынок мой.

Бацька. Зусім зразумела, твае думкі бягуць да яго, а яго да цябе, і ў той момант, калі ты бачыш цень яго, ён бачыць цень твой.

Маці. Каб жа так, тады ўвесь неспакой набок.

Бацька. Ліст бы займець у рукі, стопудовы цяжар з грудзей зваліўся б.

### З'ЯВА II

Селянін.

Селянін. Добрага дня ў хату!

Бацька і маці (*адказваюць*). Добры дзень!

Бацька. Дзе быў, суседзе?

Селянін. У валасці, клікалі, каб арэнду нёс, а то казалі — выкідаць будуць.

Бацька. Ну і што ж — занёс?

Селянін. Пакуль што не, але занесці трэба, няхай будзе спакой у маёй хаце і ў палацы князя.

Бацька. Вядомая рэч, што так, дзеля спакою апошнюю злыбеду аддасі, абы не грызла думка.

Селянін. Гэта ж я і не кажу, далі мне ў валасці (*пачынае шукаць*), а... дзе ж гэта запрапасціўся, вось не была б то савіная галава, пра арэнду кажу, а пра тое, што далі, і маўчу сабе (*шукае*).

Бацька. Аб чым, суседзе, гутарыш?

Селянін. Ды пра тое, паклаў і сам не ведаю, дзе... а... дзе ж ён... А, ёсць... для вас ліст.

Маці і бацька (*беручы ліст*). Для нас, для нас?..

Маці. Ад Якіма, здаецца?

Бацька. Так і ёсць, ад яго, і кручочкі і літаркі ўсе яго...

Маці. Дай сюды (*вырывае з рук*).

Бацька. Чакай, чакай, дай паўзірацца.

Маці (*выхапіўшы*). Перш я, а пасля ўжо ты.

Бацька. І гутаркі няма,— ад яго... Вось табе і цень, ты ўсё думала пра яго, а ён, адчуваючы тваю думку, шле да цябе сваю.

Маці (*да селяніна*). Можа, граматны?

Селянін. Дзе мая грамата, адну тую літарку ўсяго і ведаю, што на абаранак падобна, як яна (*думае*)... Вось пахваліўся — і ўспомніць не магу, а больш граматы ані ў зуб.

Бацька. Як на бяду, ні Рыгора, ні Бутрыма, нікога няма.

Маці (*разглядае ліст*). Гусценька як, сыночак мой піша да нас, хоць бы барзджэй прыйшоў хто.

Селянін. А пра якога, цётка, Бутрыма ўспаміналі?

Маці. Ды пра нашага засцянкоўца.

Селянін. Ага, ведаю, дык, кажаце, ён прыйдзе сюды?

Маці. Павінен быць, ён штодня тут.

Селянін. Крыху пачакаю, каб дарэмна ног не біць.

Бацька. А што, і да яго які інтарэс маеш?

Селянін. Такі самы, як і да вас.

Маці. Ліст?

Селянін. А ўжо ж, ён.

Бацька. Ну, пакажы, браце, будзь ласкаў.

Селянін дастае.

Бацька. Наталка піша...

Маці. Яна, яна, а мае дзеткі, разам пэўне пісалі, разам і да нас прыйшлі, а як жа я рада, божа мой...

Бацька. З радасці, браце, і не ведаю, як дзякаваць табе.

Селянін. Ці будуць дзеці з нас так рады, як мы з іх?

Бацька. Аб гэтым якраз забываемся...

Селянін. А хто гэта тая Наталля, што ліст піша?

Маці. Дачка таго Бутрыма, разам з Якімам вучыцца.

Селянін. Ведаю, ведаю, навука — рэч добрая.

## З'ЯВА III

Бутрым.

Бутрым. Вось і я.

Бацька. Бачым, бачым.

Бутрым. А можа, Якім пісаў?

Маці. Каб ведаў ты, Бутрым!

Бацька. Чакай, я скажу...

Маці. Стрывай, я першая пачала... Каб ведаў ты, Бутрым, якое ў нас свята, глянь... *(дае ліст)* ліст ад Якіма і ад Наталкі чалавек гэты прынёс.

Бутрым. Праўда, што свята... Гэты ліст ад Якіма, пазнаю яго выкрунтасы, а гэты ад Наталкі... рад, як ніколі.

Маці. Ну, ты хутчэй чытай.

Бутрым. Але ж каторы перш чытаць?

Бацька. Ну, хоць бы той, што ў правай руцэ.

Бутрым. Пачнём з яго... «Дарагія бацькі і брат

Рыгор, я жыў, здароў, навука йдзе нішто, рэдка пішу, бо вельмі заняты, у нас усё добра, Наталка здарова, збіраемся ў другое места на вышэйшыя курсы».

Маці. Ну, і чаго ж яшчэ.

Бацька. Здаровы, ну, і дзякуй богу!

Бутрым. Ну, а цяпер — што мая зязюля піша? *(Чытае.)* Якраз тое самае... па ўсім відаць, што ўсё добра... *(Да селяніна.)* Дай божа табе гэткае багацце, як ты ўзбагаціў нашую душу.

Бацька. Вельмі ж прыемныя весткі прынёс,— што і казаць.

Бутрым. Здаецца, дзіця сваё бачу, гледзячы на ліст.

Маці. Гляджу на ліст, а ў маіх вачах літары скачуць, вось што значыць матчына сэрца — і дрыжыць, і ные, разам ад радасці і да жалю даводзіць.

Бутрым. Рыгор, пэўне, не ведае нашае радасці?

Маці. Нешта не пільнуецца хаты.

Бацька. З забастоўшчыкамі пасябраваў.

Бутрым. Каго ж ды каго, кума, лічыш забастоўшчыкамі: вучыцеля нашага або каморніка?

Маці *(да праклямацыі)*. Вось глянь, тады ўбачыш.

Бутрым. Бачылі ўжо, бачылі дый чыталі разоў колькі... рэч неблагая... праўду рэжа, слухаць толькі.

Селянін. Як ні глядзі, а бедным людзям дыхаць цяжка. Ні сказаць, ні зрабіць нічога не можна, і голасу твае пранўднае песні ніхто не пачуе... няўрода была — помачы не далі, хаты пагнілі — сасонкі шкадуюць, а жыць трэба,— дык вось мала гамонім мы, лісткі за нас гамоняць.

Бацька. Вядомая рэч, не лезці ў магілу.

Бутрым. Без пары ў магілу? Лепш узяць сякеру і паваліць у лесе сасонку-другую, калі падрубы згнілі... а пасля цішком дадому, і толькі, не згалее ад гэтага князь ці граф... Жыў будзе... Вось гэтай ночкай нашыя засцянкоўцы дрэў з паўсотні павалілі ды дахаты завезлі... Невядома, ці з'явяцца абаронцы князя.

Бацька. Пытаешся, як дзіцянё... Вядомая рэч, што з'явяцца... А ты ж у лесе быў?

Бутрым. Быць сабе не быў, толькі коней сваіх даў для тых, у каго не было.

## З'ЯВА IV

Наста.

Наста. Вось і прычакалі бяды...

Усе. Якое бяды?

Наста. Божа мой, і казаць баюся...

Бацька. Ну, кажы ж, кажы...

Наста. Гляньце ў акно, стражнікі, як звяры, па прыгуменнях нясуцца проста да нас у вёску... *(Выйшла.)*

Бацька. Лёгкія на ўспамін...

Бутрым. Не мінулі, каб іх мара.

Маці кідае праклмацыі ў печ.

Бацька. Во пякельная моц, як з ланцуга сарваліся...

Маці. Хоць бы бяды не было... Бутрым, хавайся!..

Бутрым. Што? Хавацца? Гэтага не будзе!..

Селянін. Зусім зразумела, сусед, што не будзе, ану, суседзе, пазыч на часінку калка, пайду няпрошаных гасцей прыму. *(Бярэ кол.)*

Маці. Чалавеча, куды ты, падумай, што робіш?

Селянін. Даруйце, але іначай нельга... *(Пайшоў.)*

Бутрым. Па-мойму, далібог, па-мойму, гэта праўдзівы рыцар...

## З'ЯВА V

Альжбета.

Альжбета. Бутрым, хавайся, цябе стражнікі шукаюць...

Бутрым. Кажаш хавацца?

Альжбета. А то як жа іначай, хіба не ведаеш, што з гэтага будзе... Што, ты не ведаеш крывапіўцаў гэтых?

Бацька *(ля акна)*. Ой, ой, пачалі некага біць...

Бутрым. Ведаю... і дзеля гэтага іду... Дзе Рыгор?

Маці. Што ты, кум... з глузду з'ехаў, ці якое ліха... Як можна Рыгора вызываць на такую бяду?..

Альжбета. Сядзь, табе кажу...

Бутрым. Як-то сядзь, хто можа сядзець, га?

Маці *(да бацькі)*. А ты адступіся ад акна... учарэпіўся, як п'яны за плот.

Альжбета. Ты паслухаеш ці не? Куды ты выбіраешся, ці маракуе твая галава?

Бутрым. Ты хіба жартуеш?

Альжбета. Якія тут жарты? Сядзь, кажу табе.

Бутрым. І не думаю... Пусці мяне...

Альжбета. Не пушчу...

Бутрым. Лепей я памру, лепей хай маё хворае цела разарвуць сабакі, чымся я спакойна буду глядзець, як здзекуюцца над маім братам... пусці мяне...

Бацька. Кумок, куды ж ты, падумай!..

Альжбета. Ці ёсць у цябе розум...

Бутрым. Ёсць, паміраць — дык усім, я першы трупам лягу. *(Выбег.)*

Альжбета *(за ім)*. Куды ты, куды ты?

Маці. Во дзе няшчасце дык няшчасце.

Бацька. Будзе бяда,— хоць бы Рыгор не трапіў на гэта... Матачка найсвяцейшая, не папусці нас!..

## З'ЯВА VI

Рыгор з Аксінняй.

Рыгор. Матуленька, вось перад вамі пара шчаслівых у свеце людзей.

Маці. Вельмі рада гэтаму, сынку.

Рыгор. Вось гэта цыганё вельмі кахае мяне, і праз гэта я шчаслівы...

Маці. Вельмі рада гэтаму, дзеткі.

Рыгор. Матуля, глянь на яе, глянь, колькі дабраты ў гэтых цыганскіх вачах... Аксіння, родная... Ці праўда ўсё гэта?..

Аксіння. Як бог на небе!

Рыгор. Ну, сядзь, сядзь, мая галачка чарнавокая... *(Убачыў бацьку ля акна.)* А... тату, і вы ў хаце, а я ўжо і прытомнасць страціў... не ўбачыў зусім.

Бацька. Нічагутка... дзе ж быў, сынку?

Рыгор. У лузе кветкі рвалі, варажылі, хто каго любіць... і як ні круціў, то ўсё выходзіць, яна мяне любіць, а я яе не... цыганё... што скажаш ты на гэта? Хачу чуць слова шчырае пры бацьку, пры матцы... кажы... любіш?

Аксіння. Люблю...

Рыгор. Трохі саромеецца, але нічагутка, я чуў шчырэйшы адказ... *(Да бацькі.)* А што гэта, татка, выглядаеце ў акне?

Бацька. Так, пазіраю на свет божы.

Маці *(засланяючы)*. Ды так стары глядзіць,— не зважай, сынку...

Бацька. Несупакой, сынку, у свеце,— вось бяда.

Маці. Які там несупакой, старому дзівы наладзіліся, а ён несупакой угледзеў... не слухай яго, можа, папалуднуеш, сынку, згаладаў нябось?

Рыгор. З ахвотай, калі ласка.

Маці. Папалуднуй ды вось ліст прачытай, што Якім прыслаў.

Рыгор. Што кажаце: ліст? Якім прыслаў ліст?

Маці. Прыслаў, прыслаў, чакай, дай жа перш стравы ўліць...

Рыгор. Э, не! Цяпер не да яды... Я есці нічога не буду, дайце мне ліст, дайце мне гэтае шчасце ў рукі, дайце яго.

Маці. Вось паглядзі, пачытай...

Рыгор *(да Аксінні)*. Ну, сарока-белабока, дзівіся, чытаць буду...

Аксіння. Чытай, чытай, паслухаю...

Рыгор. Ага, і я забыўся... Сягоння нараніцы бачыў сон: быццам-то я йшоў ноччу праз пушчу і ўгледзеў перад сабою таемны агоньчык, я за ім, ён далей, я за ім, ён далей, і ўрэшце шырэй я шагануў, і агоньчык апынуўся ў маіх руках. Дык вось ён, таемны, папаўся ў мае рукі... Добра!..

Маці. Праўдзівы твой сон, ой, праўдзівы.

## З'ЯВА VII

Наста.

Наста. Галоўка мая нешчаслівая, што парабілася ў нас... стражнікі наляцелі, людзей б'юць... Сініцу забілі, Бутрыма акалечылі! *(Выбягае.)*

Рыгор. Што? Стражнікі Бутрыма б'юць? *(Устае.)*

Маці. Рыгорка, сынку, куды ты?

Бацька. Не йдзі, паслухай... нас...

Рыгор. Пусціце мяне, я толькі гляну, пусціце.

Аксіння. Рыгор... што з табою...

Рыгор. Даруйце, але я не знясу здзеку. *(Бярэ кол.)* Стражнікі людзей б'юць, а я сядзець буду?

Маці *(на каленях)*. Рыгорка, пабойся бога, шануй маю старасць.

Бацька. Паслухай, не йдзі, цябе заб'юць, не йдзі.

Рыгор. Пусціце, я адамшчуся, аж зямля задрыжыць! *(Пабег.)*

Аксіння *(моцна крыкнула)*. Рыгор, падумай, што робіш! *(Выбягае.)*

Усе плачуць.

Маці. Што за няшчасце абрушылася на нас? Божа... Божа...

Бацька *(ля акна)*. Ой, ой! *(Закрывае твар.)*

### З'ЯВА VIII

Сяляне ўносяць Бутрыма, Альжбета прыгаварваючы. Бутрым стогне.

Альжбета. А мой жа ты сакалок, а мой жа ты галубок, на каго ж ты мяне пакідаеш? *(І так увесь час.)*

Бацька. У мяне мову адняло...

Маці. Матачка найсвяцейшая, ратуй нас, не дай загінуць. *(Становіцца на калені.)*

Альжбета. Ай... памірае... памірае...

Бацька. Свечку... свечку... *(Падносіць свечку.)*

Альжбета. Божа, божа, за што пакута гэтакая, за што, за якія грахі...

Усе на каленках пры Бутрыму.

### З'ЯВА IX

Рыгор з калом у руках.

Рыгор *(дзіка)*. Што? Памёр? *(Ставіць кол.)* Бацька, я адамшчуся за цябе! Каб мог ты ўстаць і глянуць *(становіцца на калені)*, як пакорна ляжаць царскія паслугачы.

### З'ЯВА X

Аксіння.

Аксіння. Рыгорка, Рыгорка, уцякай; стражнікі па цябе йдуць...

Рыгор. І не думаю... *(Устае, бярэ кол і ставіць ля сябе.)*

### З'ЯВА XI

Стражнікі.

Рыгор. Па мяне? Ні з месца, сабачыя сыны, а то... *(Хапае кол.)* Я сам... прыйду... чакайце на дварэ...

Аксіння, Бацька, Маці. Рыгор... Рыгор... на каго ты нас пакідаеш?.. *(Істэрычна плачуць, апершыся на плечы.)*

Рыгор. Суджана пэўне так... Не плачце аба мне... Якіму нічога не пішыце. *(Становіцца на калені пры Бутрыму.)* Бацька, дарагая твая кроў, ах, дарагая *(к дзвярам)*.

Аксіння *(істэрычна)*. Рыгор, Рыгор!

Усе плачуць.

Заслона

## АКТ IV

### З'ЯВА I

Турма. У акне Якім, нагляднік стаіць на лаўцы, сторож сядзіць.

Якім. Вось цяпер будзе спакой. Праз колькі дзён маё цягучае жыццё будзе скончана, і ў памяць аба мне застанецца курганок, насыпаны чужой рукою. Не скажуць гэтыя нямыя сведкі, непрыступныя муры, матцы ці бацьку, калі б часам падышлі сюды, што там на жалезным круку хістаўся іх любы сын.

Ніхто не будзе відзець, дзе пахавана скорчыўшаеся ад сударгі цела, бацькі і тыя згубілі сцежку ка мне.

Не шкадую жыцця, не страшуся смерці, але тая думка, думка, што не ўбачу бацькоў, брата, страшна гняце мяне.

О! Каб ведалі, хто я такі, то тым бацькам не было бы месца на свеце, але не ведаць ім, хто я.

Сторож. Эх, маліна, радуешся, што фаміліі не ведаем, ні ўсё роўна, заслуга адна... як на мой розум, прозвішча адкрыць трэба, прыйшлі б бацькі, паспавядаўся б, жыць жа, сам ведаеш, не так многа.

Якім. Не кратайце старых, не ведаюць — спакайней дыхаць...

Сторож. Вашага брата бунтаўшчыка не так лёгка ўгаварыць... з вас рэдка хто гаворыць, як чалавек, а то ўсё зверам накідаюцца.

Якім *(кашляе)*. Якое пустое жыццё, ніколькі не шкадую яго... толькі дзяціныя часы стаяць перад вачыма.

О вёска, вёска! Колькі багацця ў цішы тваёй. У патухаючых маіх вачах рысуюцца неба, ляскі, хмызнячкі, дзе сонныя бярозкі ў новым уборы прывітаюць вясну... ма-

нячы да сябе матылькоў і вясёлых птушак, зарніцы, зялёныя стагі, жнеі і родныя песні.

І тая восень, што ў пышным вянку з жоўтага лісця бродзіць па лясах, змяняючы колер, падвешваючы павучынне і снег... што посцілкай вялікай засцілае межы дарагой бацькаўшчыны.

Успаміны, успаміны, якія вы мілыя, дарагія... *(Глядзіць на неба.)*

Зорачка ясная, ці не ты будзеш правадырка ў маім цягучым жыцці? Ты, як вартаўнік, ззяеш на цёмным небе і свеціш людзям зблудзіўшымся ў нязнаных пуцінах жыцця... Ты свеціш мне, ты сваім прыхільным паглядам углядаешся на страху нашае хаткі, дзе матуля ў гэтую часіну пралівае горкія слёзы і моліцца, каб сын іх наблукаў на сцежку, на каторай магла б знайсці яго.

Ты свеціш мне тут, а заўтра твой блеск будзе іскрыцца на жоўтым пясочку магілы мае. Ты будзеш сведка, куды сцягнуць задушанае маё цела, і там ты заззяеш, але вочы мае не спаткаюцца з паглядам тваім.

За сцэнай ледзь чуваць зык скрыпкі.

Якім. Чароўныя зыкі... а кроў стыгне... стыгне. *(Больш у акне не паказваецца.)*

Сторож. Цікавыя людзі... Колькі я бачыў за сваю службу такіх рызыкантаў, усе яны галосяць, жалеюць жыцця... а сюды, глядзіш, ідуць.

Не раз я глядзеў на іх і думаў: чаго трэба ім... Якой скулы не хапае ім... сытыя, здаровыя, жыць і не думаць пра турму, дык нябось абрыдне салодкае жыццё, падай сюды горкае, кіслае, салёнае, у турму пастукаю, мо адчыняць, а наша справа такая: стукаецца начлежнік, адчыняй дзверы шырэй.

І хто іх бацькі, уразумець трудна, гэта каб не расталкаваць дурням, што забіваць нікога не можна, што святыя божыя запаведзі забараняюць рабіць гэта. Дык жа не, бацькі нічога не кажуць, а яны рады старацца, ломяць направа і налева галовы людзям. *(Плюе.)* Учора таксама прывезлі нейкага разбойніка, той стражнікаў набіў, ды, кажуць, так азвярэў, што ледзь супакоілі, асілак, відаць, адзін пяцярох калком паклаў.

Наглядчык. Праўду кажаце, гаспадзін старшы, ачмурэла маладзёж.

Сторож. І ўсё, як ні глянеш, студэнты, студэнты, людзі вучоныя, ні салапякі якія, аліскікраты.

Наглядні к. З нас, людзей простых, ніхто так не робіць, наш брат, пяхота, ці сп'яну каго абязвечыць, ці так у морду дасць, ну, а калі адзін аднаго абкрадуць, дык на гэтым і ўсё.

Стораж. 20 гадоў мае службы ў сценах гэтае турмы, і 20 гадоў ваюем з бунтаўшчыкамі. Перш нам здавалася, калі аднаго-другога акуратна павесім, то на гэтым і скончыцца іх рызыка, а вось цяпер перакаваліся, што не памагае нічога.

Ці ўспомніць усіх галава, каго толькі з гэтае каморкі вывелі; студэнта з чорнай барадой павесілі, нейкага таксама сухотніка павесілі, паненку, што ў губернатара страляла,— павесілі, а там нейкага жыда; і дзе там успомніць усіх, дый памяць аслабела, не жартачкі 20 гадоў службы.

Наглядні к. Як мне здаецца, усё гэта дарэмшчына.

Стораж. Не разумею цябе.

Наглядні к. Па-мойму, хто ведае, што тут у мурах каго павесяць? Гэта каб на пляц выцягнуць да сабраць людзей... грамаду...

Стораж. Дурны, дурны і дурны, не разумееш, што можа быць ад такое публічнае кары.

Наглядні к. А што?

Стораж. Бунт, ды які, разнясуць не толькі турму, але і хату тваю, дзе схаваешся... а самога, як казу, павесяць за заднія ногі.

Трэба цішком прыцісnуць, ды і павёз па пацёмках.

Наглядні к *(ціха)*. А калі гэтага? *(Паказвае на шыю і на камеру Якіма.)*

Стораж. Сягоння ўночы.

Наглядні к. А... нездарма ж ён так успамінаў і вёску і матулю... з мужыкоў нябось.

Стораж. Тым больш дурны, нагаварыў нехта.

Наглядні к. Будзе, значыцца, работы.

Стораж. Б-у-удз-е. Таго, што стражнік пабіў,— раз, гэтага — два, паненачку — тры, і трох вучоненькіх студэнтаў... усяго шэсць душ-душачак.

Наглядні к чухае галаву.

Стораж. Чаго чухаешся, даўно ў лазні быў?

Наглядні к. Быць то быў, так штось засвярбела... вусцішна, завельмі многа.

Стораж. Маладзён яшчэ, пажывеш, ашмуляешся, я

вось 20 гадоў адзваніў, ведаю, дзе страх жыве. *(Пазяхае.)* У... ух... аж спаць захацелася... *(Глядзіць на гадзіннік.)* Поўнач. *(К камеры Якіма.)* Спіць... наш рызыкант, самая звычайная рэч, усе яны перад смерцю спяць. Бывае так, што тыдзень, другі не спіць, а ў тую ноч, калі душа з целам павінна разлучыцца, засне, ды так моцна, што доўга будзіць прыходзіцца.

Н а г л я д н і к. Душа чалавека прачувае канец.

С т о р а ж. І наводзіць сон.

Н а г л я д н і к. Шкода душы той, пры чым яна тут, хто каго біў, а душа павінна боль зносіць.

С т о р а ж. Боўдзіла ты, душа не мучыцца і не памірае... Чалавек толькі, а яна ідзе сваёй дарогай ці туды, ці туды. *(Паказвае на неба і зямлю.)*

Н а г л я д н і к. А па-мойму, ні адна з турмы не патрапіць у рай, а ў пекла...

С т о р а ж *(сур'ёзна)*. Душы стоража, начальніка і памочніка і з турмы ў рай трапляюць, а рыштантаў — у чысцец.

Н а г л я д н і к. А мая, наглядніка, сверхсрочнага фельдфебеля?

С т о р а ж *(падумаўшы)*. І наглядніка.

Н а г л я д н і к. Куды ж, куды?

С т о р а ж. Разам з начальствам.

Н а г л я д н і к. А... дзякую вам... гаспадзін старшы.

С т о р а ж. За што дзякуеш, законы не я пісаў.

Н а г л я д н і к. Ну, хоць не вы, але ўсё ж... слова.

С т о р а ж. Бацюшка так казаў.

Н а г л я д н і к. Добры чалавек наш бацюшка.

С т о р а ж. Не благі чалавек. А ці дасі веры, што за маю службу і бацюшка адзін марынаваўся тут?

Н а г л я д н і к. Х-т-о-о?.. Бацюшка?..

С т о р а ж. Але, бацюшка.

Н а г л я д н і к *(зняўшы шапку)*. Міца, міца, царыца нябесная, што я чую? За што ж?

С т о р а ж. А вось за што; перш чужую жонку пакахаў, а пасля з мужам біліся.

Н а г л я д н і к. І за гэтую нікчэмнасць?

С т о р а ж. За гэтую.

Н а г л я д н і к. Ну, і што было?

С т о р а ж. А тое, што бацюшка дужэйшы быў.

Н а г л я д н і к. І...

С т о р а ж. І даў так, што той і капыты задзёр, памёр.

Н а г л я д н і к. А? Дужы чалавек, відаць, быў... Ну, а скажыце, куды трапіць душа таго забітага?

С т о р а ж. Бацюшкіна душа не толькі з турмы, але і з катаргі ў рай трапляе.

Н а г л я д н і к. Так яму і трэба... Ну, а скажыце, той нябожчык куды пойдзе?

С т о р а ж. Як куды? Ды ты глух быў, чы якое ліха, што таго нябожчыка прыбраў бацюшка.

Н а г л я д н і к. Я ведаю, але душа, душачка куды трапіць?

С т о р а ж. У рай.

Н а г л я д н і к. Няйначай, а то крыўдна бедаку было б, мала таго, што тут бакі нагрэлі, яшчэ чэрці ў чыстцы грэць будуць.

С т о р а ж. Не будуць.

Н а г л я д н і к. Ну, а жонка таго нябожчыка нядобрае імя павінна насіць?

С т о р а ж. Імя вядомае такім асобам.

Н а г л я д н і к. І трэба ж так з другім... шашні строіць.

С т о р а ж. У іх гэта часта-густа бывае. Вось і мая сумэра віславухая ў моладасці грэху мела.

Н а г л я д н і к. Хіба быў прыяцель?

С т о р а ж. Быў...

Н а г л я д н і к. І вы з ім біліся?

С т о р а ж. Біўся.

Н а г л я д н і к. І ён вас не забіў?

С т о р а ж. Пэўне, што не, бачыш, тут сяджу.

Н а г л я д н і к. А на чым кончылася?

С т о р а ж. Я яму бакі наламаў.

Н а г л я д н і к. О! Я разумею... Сіла салому ломіць... А вашая разлюбезная, ну, жонка, значыцца, пойдзе па смерці ў рай ці...

С т о р а ж. Прыйдзецца неяк разам у рай, нядобра будзе бадзяцца аднаму. А скажы ты мне, у цябе ўсё ў парадку? Начальства надойдзе.

Н а г л я д н і к. Парадак першы сорт.

С т о р а ж. То ж ба то... Дзяржы хвост дудой.

Н а г л я д н і к. Я дзяржу...

За сцэнай раздаецца лёгкі свіст. Сторож і наглядчік раўняюцца, на сцэну прыходзіць начальнік турмы і падае знак, каб выводзіць Якіма.

## З'ЯВА II

Сторож *(ідзе ў камеру Якіма)*. Гаспадзін, гаспадзін... до спаць, нада праснуцца, як па закону палагаецца... уставайце.

## З'ЯВА III

Начальнік турмы, чыноўнік, доктар, кат, 3—4 наглядніκі, 5—6 салдатаў. За імі Якім, Грабянёк, Дзіўны, Ваўчанскі і Наталка. З другога боку салдаты і Рыгор.

Наталка плача і ўсё хоча кінуцца к Якіму, але салдаты не пускаюць яе.

Якім *(кашляе)*. Браты, не страшыцеся смерці, адважна глядзіце ў вочы ёй, няхай бачаць тыраны, як паміраем мы. *(Набок.)* О неба, як фігура таго прыяцеля ўспамінае мне брата, дзе ён цяпер і што з ім.

Чыноўнік *(чытае)*. По указу Е. И. В. Магилевский окр. суд за убийство государственных лиц студенты: Аркадий Дзивны, Пав. Волчанский, Иван Гребенек и неоткрывший своего прозвища осуждены на смертную казнь через повешение.

Наталка *(плача, апершыся на плячо Дзіўнага)*. О! Крывапіўцы, звяры дзікія.

Чыноўнік. По указу Е. И. В. приговором Могилевского окр. суда за разбойное нападение и убийство государственных охранников крестьянин села Вышек Сенненского уезда Григорий Сухобыльник приговорен к смертной казни...

Якім *(кінуўшыся)*. Брат мой, Рыгор, у часе смерці мы спаткаліся з табой.

Салдаты кідаюцца к Рыгору, вырываюць з яго рук Якіма, Якім падае мёртвым.

Наталка *(з крыкам)*. Якім! Якім!

Заслона

# ПІСАРАВЫ ІМЯНІНЫ

*Камедыя ў трох актах*

## АСОБЫ

Пісар валасны, гадоў 30.
Яго жонка, гадоў 35.
Панас — стораж, гадоў 35.
Мар'я — яго жонка, гадоў 25.
Фельчар, гадоў 50.
Дзяк, гадоў 40.
Вучыцель, гады 22.
Абібок —ураднік, гадоў 25.
Лупадзёр, гадоў 25.
Набінос — старшы ўраднік, гадоў 30.
Сядзелец, гадоў 45.
Яго жонка, гады 42.
Біч, старшына, гадоў 48.
Яго жонка, гады 42.
Аўдоцця — знахарка, гадоў 50.
Хлопцы, дзяўчаты, музыкі.

## АКТ І

Пісар і Мар'я ўстанаўліваюць на стале.

Пісар. Зусім не так, кажу табе, не так, чакай, трэба выпіўку і закуску расставіць так, каб госць рот разявіў ад задзівення, зразумела?

Мар'я. Зразумела, панок.

Пісар. Няўпраўка ў нас з табою, госці зараз з'явяцца, а тут, як на бяду, пані хварэе.

Мар'я. І нашто гэта хвароба чапляецца да людзей, чаму яна на сухі лес дзе не пачэпіцца?

Пісар. Што, каб гэта нам, кабета, клікнуць дапамогі.

Мар'я. А каго ж мы клікнем, хіба Панаса?

П і с а р. Хоць бы і Панаса, ён бы і бутэлькі адкаркаваў ды і сподкі перацёр.

М а р ' я. Сподкі як сподкі, а бутэлькі каркаваць ён майстар, як хочаце адкаркуе: ці так, ці так. *(Паказвае — з каркаўнікам ці аб далонь.)*

П і с а р. Клікні, каб прыйшоў.

М а р ' я. Панас, а Панас, хутчэй сюды ідзі.

Уваходзіць П а н а с.

П а н а с. Чаго ж ты галёкаеш, людзям здавацца будзе, што я глух.

М а р ' я. Памагаць будзеш, вось коркі з гэтых бутэлек дастань, сподкі пaратры. Чуеш? Ну, чаго ж ты стаіш, лупандзей, губу халявай скруціў і глядзіш. Схамяніся. *(Трасе.)*

П а н а с. Што ты мяне трасеш, як ігрушку, я цябе не чую і не бачу, пан мяне клікаў, пан мне і загад дасць. Паночку! Я ваш шчыры паслугач; кажыце, хоць у танцы пайду.

П і с а р. Ты, Панас, бутэлькі да парадку давядзі, гэтыя адкаркуйце, а гэтыя адстаў туды.

П а н а с. Куды, панок, за дзверы?

П і с а р. За якія дзверы, тут усе павінны быць.

П а н а с. Разумею, панок.

П і с а р. Перш пратры сподкі, а пасля бярыся за бутэлькі.

П а н а с. Не наша гэта работа, панок, але такой бяды *(пачынае)*, абы не гультаіць. *(Сподак выпадае.)* Ах, каб яго,— паехаў.

П і с а р. Ты што ж гэта, Панас, спіш?

М а р ' я. Рукі пасля п'янства трасуцца?

П а н а с. Не, паночку, не сплю, а так сподачак выслізнуўся, здавалася, затрымаў, але не, мякнуўся і рассыпаўся, ведама, шкляная рэч. *(Перацірае сподкі.)*

М а р ' я. Я б цябе мякнула па тваёй салятырцы, але пана шануюся.

П а н а с. Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь. Добра ёй, паночку, здзекі строіць, меўшы гультайскія рукі, а тут... *(Разбівае другі.)* Ах, каб яго!

П і с а р. Пастаў, Панас, сподкі, а то ўсе патаўчэш.

П а н а с. Праўда ваша, панок, лепш узяцца за бутэлькі, з імі мне лягчэй справіцца.

М а р ' я. Ён не праспаўся яшчэ.

П а н а с. Мыляешся, баба, я ўжо праспаўся і пахмя-

ліцца хачу, ад гэтага дзервянеюць рукі і сподкі б'юцца.

Пісар. Каркуй бутэлькі.

Панас. Во! Гэта па нашай часці. *(Стукнуў бутэлькай аб далонь.)* Р-а-а-з! *(Так, што аблівае пісара.)*

Пісар. Па-якому гэта ты?

Панас. Па-нашаму, без каркаўніка, значыць.

Пісар. Тут не манаполька, Панас, на каркаўнік.

Панас. Рад слухаць вас, паночку. *(Каркуе і затым, адвярнуўшыся, п'е.)*

Пісар. Э! З цябе дрэнны памочнік, твая работа нічога не варта.

Панас. Хіба ж нічога не варта?

Мар'я. Што ты, здурнеў чы памяць утраціў?

Панас. Нічога дзіўнага, чалавек жа я, а не скаціна, ды і скаціна, калі ўбачыць вадзіцу, напіцца захоча, а тут не вадзіца, а гарэлачка, ды якая.

Мар'я. Вон адсюль!

Панас. Не верадуй, ніхто не баіцца.

Мар'я *(да пісара)*. Ён ужо распусціўся, як старая панчоха, не зважае не толькі на мяне, але і на начальства. *(Да Панаса.)* Ты яшчэ тут, а не пойдзеш ты вон?

Панас. Дай залатоўку, тады пайду.

Мар'я *(дае фігу)*. На!

Пісар. Нашто табе залатоўка?

Панас. Пайду глыну чарку і спаць лягу.

Мар'я *(дае грошы)*. На, выпі, ляж і не ўстань.

Пісар. Чакай, Панас, падыдзі сюды. *(Наліваае.)* Выпі тут і не ідзі ў шынок.

Панас. Рад слухаць, паночку. *(Бярэ чарку.)*

У гэтай чарачцы я шчырасць пану здаў,
каб бог здароўя і сілы шмат прыслаў,
каб пана слухалі, заўжды баяліся,
каб вораг плакаў, а мы смяяліся,
каб пан на небе быў земскім начальнікам,
каб добра нос нацёр нашым зухвальнікам.

*(Выпіў.)* Якая смачная, калі ласка, яшчэ *(п'е)*, а характар у пана, як у нябожчыка дзеда. І той, вечны пакой, не шкадаваў і трэцяй чаркі, калі чарка за чаркай гладка качілася.

Пісар. Ну, пі яшчэ, і годзе.

Мар'я. Вон адсюль, махляр!

Панас. Пайду, пайду, дзякую, паночку, за шчырасць і за трактамант. *(Да Мар'і.)* А ты, начніца касавокая, не прыйдзеш дахаты. *(Пайшоў.)*

Мар'я. Гэта завецца помач, растоўк два сподкі, выпіў кілішкі са тры гарэлкі, выенчыў залатоўку і пайшоў, а нанач з'явіцца п'яны, як смоўж. Я ўжо манілася пана прасіць, каб пад яго стацыю якую падвясці ды ў адседку на дні 3—4 пасадзіць.

Пісар. Па службе ён спраўны, а што любіць выпіць, гэта да справы не адносіцца.

Жонка пісара.

Жонка *(трымаючыся за галаву)*.

Пісар. Як жа чуваешся?

Жонка. Вельмі дрэнна.

Пісар *(да Мар'і)*. Пакліч ты, Мар'я, фельчара і па дарозе да дзяка забяжы, каб не пазніўся...

Мар'я. Дзяк не запозніцца, а фельчар тут, за сцяной. *(Выйшла.)*

Пісар. Вось толькі прыжджом лета, завязу ў Крым, грошы не пашкадую.

Жонка. Дзе тое лета, і дзе той Крым, пакуль я дажduся, косці спарахнеюць.

Пісар. Што ты, што ты. Барані божа, а мяне на каго пакінеш?

Жонка. Другая будзе.

Фельчар.

Фельчар. Добрага дня!

Пісар. Даруй, браце, што патурбаваў цябе, жонка хвора, паміраць хоча.

Фельчар. Што гэта ён пляце?

Жонка. Праўду кажа.

Фельчар. А вось зараз спазнаем. Калі ласка, адчыніце губу. Так, так, язык крышку сюды, на хату, сюды яго, так, так. *(Дастаў дзяўляную лапатку з лучыны, прыціснуў ёй язык.)* Схавайце язык назад, замкніце губу... *(Дастаў гадзіннік, слухае пульс.)* Шалёны пульс. Не ванітуе?

Жонка. Не.

Фельчар. Ну, а кіслае і салёнае таксама ясцё?

Жонка. Высцерагаюся.

Фельчар. Гэта добра.

Пісар. Лжэ, лжэ, у апошнія часы вялікі спрыт да агуркоў мае, за тыдзень капы са дзве спражыла.

Жонка. І як не сорам табе лгаць?

Фельчар. Агурок — рэч спажыўная, але вам забараняю есці.

Пісар. Што з ёю?

Фельчар. Як выглядае язык, то ў жонкі вашай — крышку нястраўнасць.

Пісар. І я так мыслю.

Жонка. Берыцёся вы распазнаваць кабету, не ведаючы, які гэта кабета твор.

Пісар. Самы звычайны, як пісана ў Ветхім Завеце. Адамава рабро, райская гліна, і больш нічога.

Жонка. Мыляешся.

Фельчар. Так, панічка, так, першая кабета Ева створана богам з кавалачка рабрынкі і камочка гліны.

Жонка. І вы мыляецеся.

Фельчар. Да душы кажу, да душы, з райскай гліны, з той гліны, з каторай нашы ганчары танныя гаршкі выробляюць.

Жонка. Не буду вас слухаць. *(Выйшла.)*

Фельчар. Ха-ха-ха... Абразілася... Ну, жарты жартамі, а трэба адыходзіць.

Пісар. Хіба пачакаўшы, а цяпер сядзі, імяніны гуляць будзем.

Вучыцель.

Пісар. Прадстаўніку граматы.

Вучыцель. Ён самы. Віншую вас з днём імянін, жычу шчасця, добрай долі, моцнай волі, каб нікога не баяцца, бражку піць, любіць, смяяцца, жыць з начальствам у добрай згодзе, быць любімым у народзе.

Пісар. Як добра зложана, не была б то прафесарская галава, дзякую за пажаданне.

Вучыцель. А дзе ж гаспадынька?

Пісар. А тут — не зусім здарова.

Вучыцель. Фельчар вінен.

Фельчар. Усё залежыць ад бога, паддаецца хвароба лекам — лечым, а не, такой бяды, плыві на той свет.

Пісар. Лёгка сказаць — плыві, а нябось сам не захацеў бы на той свет, другіх выпраўляеш?

Фельчар. А дзе гэта ахвотнікі ёсць. Наш сусед рабін кажа, што на тым свеце рай, а сам калі захварэў, то ўсё багацце пралячыў, а на той свет не пайшоў, тут застаўся.

Вучыцель. Бо ў яго шмат вэксаляў ёсць, так нашто спяшыць.

Ф е л ь ч а р *(дастае табакерку)*. Калі ласка, спрабуйце, з крышталём і парфумай.

П і с а р, в у ч ы ц е л ь. Спрабуем, чы сярдзітая.

Ф е л ь ч а р. Фабрычная марка «Воўк», добра длубае ў носе.

В у ч ы ц е л ь. З непрывычкі не зусім добрае ўражанне.

П і с а р. Бо малады твой нос.

Ф е л ь ч а р. І я кажу, пажыві ды на смаках спазнайся. Бывае, у непагоду пазаткаецца прадушына, то хоць гармату вязі, зараз шавыль, шавыль у кішэнь, бярэш у рукі таба-кер *(чыхае)* ды калі чхнеш, то, здаецца, у рай трапіў, па носе нейкім халадком пацягне, на вочы слёзкі набягуць, а жылкі так дробна затрасуцца, як быццам у мароз гарэлкі чарку паднясуць.

П і с а р. Ну, а цана якая?

Ф е л ь ч а р. Дарагая.

П і с а р. Восем капеек вагон, і самаму таптаць трэба.

Ф е л ь ч а р. Яшчэ што намыслішся.

С т р а ж н і к і, А б і б о к і Л у п а д з ё р.

П і с а р. Прадстаўнікі ўласці, слупы гасударства расейскага.

А б і б о к. Яны самыя, Рыгор Марцінавіч, вы імяніннік, паздраўляю і жадаю капу чыноў і ардэноў.

Л у п а д з ё р. Здароўе, сілы, каб моцны быў, каб рэбры гнуў усім, хто будзе процiў вашай вышэўказанай лічнасці. *(Вітаюцца і садзяцца.)*

П і с а р. Дзякую, братцы.

Д з я к.

Д з я к. Благаславен увесь сінадрыён і абрэтаемыя ў нём *(на вучыцеля)* сеяцель навукі, *(на фельчара)* памочнік смерці, або, іначы кажучы, кастапраў, *(на стражнікаў)* і касталомы ўключыцельно. У сей дастапамятны дзень жычу табе, дружа, шчасця і далгадзенствія, жычу быць сільным, акі дапатопный, а ныне іскомпа... іскопаемый звер мамонт, вёрткім, акі капернаўмскій сельдзь, не баяцца падазрыцельнай шаціі, быць ганіцелем няпраўды, вяршыцелем увераннага валаснога праўленія і яго лічнага састава. *(Дзяк пры гэтым часта цалуецца, пісар дзякуе. Дзяк вітаецца з другімі)*. Грэчаскіе гладзіатары, не судзіце раба божыя, еліко я сяду пры вас.

Лупадзёр. Мы не такія сярдзітыя, як на погляд здаецца.

Абібок. У гасцях мы зусім іншы погляд маем.

Дзяк *(да пісара)*. Слухай, дружа, сеў я за стол, а мне здаецца, што дзесь у садочку; з таго боку выглядае рабіна, тут журавіна, там царская пахучая, а там хахлацкая цягучая, падабраў нішто.

Пісар. Збіраў усюды.

Дзяк. Ну, а дзе ж гаспадынька?

Пісар. А тут, прыхарашваецца.

Дзяк. Значыць, убачым у поўнай парадзе?

Пісар. Зараз выйдзе.

Дзяк *(да фельчара)*. Ну, а як жа ваша мосць жывяцё?

Фельчар. Як шынкара пры шляху ніхто не мінае, так і ў мяне,— едзе чалавек шляхам і не мысліць пра хваробу, а глянуў на бальніцу — зараз каня пад пярэплаць, а сам па фельчара, хваробу нашукаў...

Дзяк. У кожнага сваё, да цябе людзі ідуць, каб мікстуры піць, а да мяне людзей нясуць за пашпартам на той свет.

Лупадзёр. А да нас ідуць, каб са зводам законаў, стацей і параграфаў азнаёміцца.

Абібок. І з высядкай нашай.

Дзяк *(да вучыцеля)*. А ў вас, разрушыцель цьмы, што добрага?

Вучыцель. Прасвета, прасвета і прасвета.

Дзяк. Благаславен тот, хто із нязрачага зрачага творыць. *(Да стражнікаў.)* А ў вас, арлы паднябесныя?

Лупадзёр. У нас ціш і гладзь.

Абібок. Благанадзёжные на волі, а мяцежнікі на засове.

Дзяк. Так, акі бог учыл?

Лупадзёр. Усё па божаму распісанію...

Жонка пісара.

Жонка. О! Я разумею, патрохі збіраюцца. *(Вітаецца.)*

Дзяк. З імяніннікам; жычу любіць друга, яко голубі сізакрылые, жыць да старасці ў міре і сагласіі, не ізменяя друг другу ні на том, ні на этом свеце, ні ў будні, ні ў празднічные дні.

Жонка. Вашы словы і вы сам варты вялікай цаны.

**Сядзелец з жонкай.**

Пісар. Паважанаму госцю, пану сядзельцу.

Сядзелец. Віншую, жычу сіл, здароўя, спрыту ў мазгах і моцы ў нагах.

Жонка сядзельца. І я жадаю таго самага, спрыту ў нагах і моцы ў мазгах.

Дзяк *(калі да яго падыходзіць вітацца сядзелец)*. Віначэрпію, навадзяшчэму на людскіе чэрдакі умапамрачэніе, а на ногі шаткае выдрыганскае састаяніе.

Сядзелец. Пляці ты ўжо, пляці, на языку бандэролька не паложана.

Дзяк. Язык акцызу не прызнае, для языка патрэбна гарэліца, а для бутэлькі бяздзеліца.

Усе смяюцца.

Пісар. Нічога б я не хацеў, каб на бабскія языкі ды акцыз налажылі, вось даход быў бы.

Фельчар. Ніякага даходу.

Пісар. А чаму?

Фельчар. На ўсякую рэч, за якую трэба плаціць акцыз, накладаюць бандэроль, ну, скажыце мне вы, чы ўтрымаецца якая бандэроль на языку ў кабеты?

Дзяк. На языку, каторы ніколі сухі не бывае.

Сядзелец. Рэч вядомая, што не, бандэрольку з'есць і скажа: язык мой вольны ад налога.

Дзяк. А акцызніка, накладваючага бандэроль, пленіт, еліко он саатветствуюшчы малец.

Жонка сядзельца. Я вось не разумею, чаго вы чапляецеся да нас, кабет, дзе вы бачылі, каб кабета ела бандэрролькі?

Сядзелец. Хіба ты жартаў не разумееш?

Жонка сядзельца. З такімі жартамі трэба асцярожна.

Пісар. Кумка, пакіньце; у гэты дзень не павінна быць сваркі.

Жонка сядзельца. Вашы словы мне зразумелы, бо ў іх абразы няма.

Набінос, старшы ўраднік.

Набінос. Усім агульнае прывітанне. *(Да пісара.)* Жыць і радавацца. *(Вітаецца з усімі.)*

Дзяк. Гордасць і краса нашых правіцелей усея Расіі — і чаму вы не старшына?

Набінос. Я старшы над ураднікамі, таксама не малы чын.

Дзяк. Нам патрэбна яшчэ адна галава, каб пачаць апаражніваць сей вінны склад.

Набінос. Прыйдзе... нідзе дзенецца.

Старшына Біч з жонкай (у Біча на грудзях медаль).

Дзяк. Сезам, растварісь, гвоздзь сей воласці явілся есі.

Біч. Гаспадару, гаспадыньцы і ўсім — добры вечар.

Пісар. Як рады бачыць вас!

Біч. Прадпісаць якому соцкаму чы дзесяцкаму — гэта адно, а пажадаць свайму прыяцелю і яго жонцы — гэта другое, вось якраз у гэтым другім столькі прыязных жаданняў, чы ўмесціць тваё сэрца?

Пісар. Маё сэрца, як мех,— умесціць.

Жонка Біча. Прыміце і ад мяне тыя словы, якія выказаў мой.

Жонка пісара. Дзякую, мая добрая суседачка.

Дзяк *(да старшыны)*. Соль зямлі, увага! Еліко не было вас памежду нас, я, грэшан человек, пал духам і скарбіл, што наш цветнік, наша аранжарэя не можэт насіць этага дастойнага імені; а цяпер мы ў полном саставе: Саша, Маша і Тацяна, леў, лісіца, абез'яна, ад Арыны да Грыпіны, ад барына да лакея, ад папа да архірэя, усе на местах.

Біч. Можам асудзіць.

Абібок. У катаргу саслаць.

Лупадзёр. Галаву адарваць.

Дзяк. Адпець і пахаваць.

Пісар. Нашто так многа, лепш вып'ем.

Вучыцель *(устае з чаркай)*.

Вып'ем мы чарку, забудзем пра гора,
Засмягшыя губы хоць чуць прамачым,
Годзе нам млеці у здзеку, ў пакоры.
І так ўжо досыць, век цэлы маўчым.
Дзе там пра шчасце і долю нам дбаці,
Няскора нам гэта яшчэ дачакаць,
Бяда, недастаткі цягам у хаце,
Вып'ем, так неяк лягчэй гараваць.

Так вып'ем за паважаных нашых гасцей, жыць і радавацца. Ур-ра!

Усе. Ур-ра!

Жонка сядзельца. Кажы ты цяпер, кажы. *(Да гасцей.)* Калі ласка, увага; мой муж хоча віншаваць імянінніка.

Сядзелец (*з чаркай*). У той час, калі мая расчыненая губа памыкаецца сказаць колькі слоў і мае рукі трымаюць поўную чарку царскай гарэліцы, я, шчыры паслугач... (*Не садзіцца.*)

Жонка сядзельца. Боўдзіла, не з таго пачаў.

Сядзелец. Хіба ж не з таго? У той час, калі сялянне нашы як ваду жлукцяць гарэліцу, купляючы яе ў шынкароў, я, сядзелец Быхаўскай манаполіі № 145, так абураны за гэта, што не магу дачакацца, калі начальства зачыніць патайныя шынкі і дасць большы разгон нашай казённай краме.

Набінос. З подлінным верна. (*П'е.*)

Пісар. З занясеннем в ісхадзяшчы журнал. (*П'е.*)

Дзяк. І з адпраўкаю гэтай паперы ў лаўку селядцы заварачваць (*п'е*).

Сядзелец (*стоячы*). Няхай вам не здаецца, што я селядзец, у паперу заварачваць не прыйдзецца, я драпежны.

Біч. Што ты — цукерак?

Сядзелец. Я не цукерак, а чалавек.

Біч. Ну так не чапляйся, а кажы, што хочаш?

Сядзелец. Я шмат хачу.

Біч. Ты дзе?

Сядзелец. На імянінах.

Біч. Гамані пра імяніны, слухаем.

Сядзелец. Вы, пане старшына, не слухаеце, а толькі перашкаджаеце, але такой бяды, ізноў кажу вам, што я не селядзец. Я... сядзелец, каторы жадае імяніннііку здароўя, каб ён ніколі нічога не згубіў, а знаходзіў тое, што людзі згубяць, каб нікуды не зблудзіў, а ішоў бы жыццёвай сцежкай. (*Не садзіцца.*)

Дзяк. У рай Адамаў, праз Іркутск, на востраў Сахалін.

Усе смяюцца.

Жонка сядзельца. І што гэта, сапраўды, за мода не даваць распачатае скончыць.

Сядзелец (*стоячы*). І я кажу... а затым я жадаю, э... э... вось і сам не ведаю чаго...

Жонка сядзельца. Бо сарвалі думку.

Сядзелец. Каб пісар быў храбры, як леў, а дужы, як штабы ў дзвярах маёй манапольні. (*Сталіць.*)

Дзяк. І несокрушым, акі Давід, расплытаўшый Голіафа на зямлі Вавілонскай.

Жонка сядзельца. Я на вас злую і зусім не разумею, чаму не далі сказаць чалавеку, нядобра гэтак. Ён колькі дзён развучваў, каб добра павіншаваць суседа, а вы, як млын, лапочаце, лапочаце і лапочаце.

Дзяк. Добрага званара не саб'еш з панталыку.

Сядзелец (*стоячы*). Ага, прыпомніў! Дай божа, каб пісара здароўе плавала, як курыца па вадзе, ах, памыліўся, як гусь па вадзе, а шчасце круцілася, як калясо ў млыне. Ура! (*Сеў.*)

Усе смяюцца.

Жонка сядзельца. Дурны, дурны і дурны.

Дзяк. Так за здароўе тых курэй, што плаваюць па вадзе.

Усе рагочуць.

Фельчар (*з чаркай*). Што варта было б наша жыццё, каб не вызначыць калі такіх дзён, як гэты. Рваць людзям зубы, пхаць рыцыну — не ёсць уздавальненне душы. Душа ўздаволена тады, калі ні рыцынай, ні зубамі не дакучаць ёй. Бывае, спіш і бачыш сон, што ўжо не фельчар, і абрыдлая рыцына перад вачыма не стаіць; хворыя паздаравелі, незлячымыя паўміралі; быццам нанова жыць пачаў. Вось і цяпер мне здаецца, я сплю і ні адной хворай клячы няма перада мной.

Мар'я з хворым.

Мар'я (*да фельчара*). Панок, мілы, палячыце зуб хвораму, качаецца па бальніцы, аж толькі пошчак разлягаецца.

Дзяк (*да фельчара*). Касторка, прачнісь, яшчэ адзін страждушчый нашолся.

Фельчар. Вось табе і ўздавальненне душы. (*П'е.*)

Дзяк (*да Мар'і*). Будзь ты в атсутствіі зубадзёра зубадзёрам і выграві ему баляшчы зуб, а ты, жывая душа, шэствуй за эцім эскулапам у юбке і повінуйся ей строга.

Пісар. Фельчар зараз прыйдзе, пачакайце ў бальніцы.

Жонка пісара. Вядзі, Мар'я, вядзі.

Біч. Тут не бальніца, а сход начальствуюшчых ліц.

Набінос. І на аснаванні гэтага пастанаўлення выпаўзі, хворы, з гэтай фатэры да асобага распараджэння.

Біч. Прэдпісываю к неуклонному ісполненію.

Мар'я выйшла з хворым.

Дзяк *(да фельчара)*. Налівай, брат, і засынай, няхай табе сняцца сны, што ты не фельчар, а ветэрынар, і мы ў цябе на вечарынцы.

Фельчар. Наліць налью і выпіць выпью, толькі не засну.

Жонка пісара. П'ю за здароўе пана фельчара.

Фельчар. Дай божа, каб я ў вас быў не як фельчар, а як госць.

Жонка пісара. А цяпер — за здароўе пана вучыцеля.

Вучыцель. Бязмерна рад вашай прыхільнасці.

Жонка сядзельца. Не было б вас, дзеці нашы невучоныя былі б.

Сядзелец. Чакай, я скажу.

Вучыцель. Бязмерна рад вашай прыхільнасці.

Жонка сядзельца. Не лезь, а то як дам пад бараду, язык ушчэміш.

Сядзелец. Сабе ўшчамі.

Дзяк. Бандэроль палажы.

Жонка сядзельца. Наша дачка Ганка, а ваша вучаніца спрытна таргуе.

Сядзелец. А яшчэ спрытней крадзе грошы.

Жонка сядзельца. А яшчэ і бацька, як не сорам.

Сядзелец. Я айчым, а па-другое, праўда!

Жонка сядзельца. Цьфу на цябе!

Біч *(з чаркай)*. Па-мойму, прэдпісаць — адно, а выпіць — другое. Таксама маўчаць і не сказаць — адно, а сказаць — другое. Хто мая правая рука? Пісар! Хто перуном уздумае і напіша, што самому Люцыпару горача стане? Пісар! Хто мужыка наскрозь бачыць? Пісар! Хто пад мяцежнікаў стаццю падвёў за парубку лесу? Пісар! А праз каго матыля гэтага павесілі мне? *(Паказвае на медаль.)* Так вось, маючы яго на ўвазе, як спрытнага чалавека, сам шаную яго і вам усім прэдпісваю шанаваць яго. *(П'е.)*

Пісар. За словы шчырыя дзякую; пажывём і другога матыля зловім.

Жонка Біча. Я не магу зразумець цябе, то ты раз кажаш, што я твая правая рука, то пісар правая рука.

Біч. Падасінавік ты, і больш нічога.

Жонка Біча. Няхай падасінавік, але ў кош не паложыш. *(Да пісарыхі.)* Учора прыйшоў падгуляўшы, то бог ведае чаго наплёў, а ты красавіца, кажа, а ты шча-

бятушка, кажа, а ты мая правая рука, кажа; і ўсё кажа і кажа, і шмат чаго казаў, ды забылася, а цяпер у другі бок звярнуў.

Жонка пісара. П'янаму мужу ніколі не вер, п'яны што ні скажа, усё збрэша.

Дзяк *(да жонкі Біча)*. Он лішает вас даверыя, а вы лішыце яго на палгода взаімнасці.

Біч. Пакуль хто мяне лішыць, я хутчэй таго лішу ўсіх правоў.

Дзяк *(устае з чаркай)*. Чарка ў руцэ, а слова на языцэ. Скажы мне, герой гэтага дня, хочаш чуць братняе слова?

Пісар. З ахвотаю.

Дзяк. Так вось і я...

Жонка сядзельца. Пятае калясо ў панарадзе.

Дзяк. Прадстаўнік сей чрэваугодніцкай воласці, не магу не сказаць.

Жонка сядзельца. Ага! Выдахся.

Дзяк. Пару цёплых слоў табе — віноўніку Бахусава празднества; чалавек, акі ладдзя, плавае по сінім волнам океана...

Жонка сядзельца. Даруйце, я не лодка і плаваць не ўмею.

Сядзелец. І я не лодка, а чалавек.

Біч. А хто кажа, што ты звер?

Жонка сядзельца. А во хто!

Біч. А пашпарт ты маеш?

Сядзелец. Яна па майму пашпарту жыве.

Жонка сядзельца. Па бяссрочнаму.

Біч. Значыць, ты чалавек, а не вярблюд. *(Да дзяка.)* Кажы яшчэ, слухаем.

Дзяк. Бывае, лодка, плаваючы, разаб'ецца ў шчэпкі, а бывае, прыстане да берага. Вось і я, як тая лодка, прыбіўся к берагу гэтай воласці і спазнаўся з людзьмі шчырай душы.

Жонка сядзельца. Ага! Спакарнеў!

Дзяк. У вашых очах я не бачыў няпраўды, але бачыў агонь, яко ў жэртвенніку Аўраама.

Жонка сядзельца. Што ён пляце?

Біч. Баба! Я ўтраціў цярплівасць, дай гаманіць чалавеку, а не то я...

Набінос. І я прысоедзіняюся!..

Лупадзёр. І я.

А б і б о к. І я. *(Да Лупадзёра)*. Што, каго біць трэба? *(Закасаў рукавы.)*

Н а б і н о с. Ага! Цябе, што мала выпіў.

Б і ч *(да дзяка)*. Які там бачыў агонь?

Д з я к. І той агонь, што бачыў у вашых очах.

Б і ч. Агонь — добрая рэч. А што яшчэ бачыў?

Д з я к. Прывабіў мяне да вас, маі мілыя брація, і я вас усіх пакахаў сваім целам.

Б і ч. Агнём і целам?.. Разумею.

Д з я к. Усею душою, разуменіем і крэпасцью.

Б і ч. Ага! Зразумеў, значыць, некага пакахаў так, што аж у крэпасць трапіў, прэдпісываю сесці! *(Стукнуў па стале.)*

Д з я к *(сеў)*. Я хаця і сеў, але, седзячы, шлю благадарносць сядзельцу і яго жонцы за падбрэхіванне.

Ж о н к а с я д з е л ь ц а. Гэта што? Хто, па-вашаму, я?

Д з я к. Першаапрэльская цёшча.

Б і ч. Чула?

Ж о н к а Б і ч а. А ты патрупехлы чашчавік. Не баюся нікога і не бачу такіх паноў.

Б і ч. Прэдпісываю замоўкнуць.

Ж о н к а п і с а р а. Кумка, пакінь злаваць, пакінь.

П і с а р. Лепш выпьем.

Ж о н к а с я д з е л ь ц а. А чаго ён чапляецца?

Б і ч. Баба, яшчэ раз прэдпісываю замоўкнуць.

Ж о н к а с я д з е л ь ц а. Не баюся, не бачу, не чую. Гонару набраўся, навесіўшы медаля.

Л у п а д з ё р *(паднімаецца)*. Я распачынаю сваю рэч, каб не здавалася, што ў галаве маёй апілкі ляжаць. Не толькі на кірмашы я магу закамандаваць: асадзі на плінтуар, але і тут скажу: увага! І мяне павінны паслухаць. Рыгор Валяр'янавіч. Вер мне, што гэта кажа сверхсрочны фельдфебель Лупадзёр, каторы так служыў, што ні разу не стаяў пад ранцам і не мыў падлогі ў тых непрылічных мястах. Ведай сабе, што я, Лупадзёр, калі п'ю, а калі пачну рваць, то рву...

Б і ч. Што, цябе рваць? На двор выходзь.

Л у п а д з ё р. Мне і тут добра.

А б і б о к *(пасадзіў Лупадзёра, а сам устаў)*. Хто не ведае мяне, той будзе пытацца, што за чалавек стражнік Абібок. Стражнік Абібок вядомы цэламу свету. Я маю за стральбу гадзіннік, я маю падарунак ад самога цара, калі хрыстосаваўся з ім у вялікдзень.

Л у п а д з ё р. А куды яго вялічаства пацалаваў цябе?

А б і б о к. У шчаку.

Л у п а д з ё р. Дай і я пацалую. *(Цалуе.)*

Н а б і н о с. Старшы ўраднік Набінос трымае рэч. Старшынство — не муха, а чын — не камар. Старшынство даецца не за тое, што ўмееш выпіць ці закусіць. Старшынство даецца за веру, за любоў к ацечаству, за скараненне забастоўшчыкаў, за спакой у воласці і ваколіцах яе. Наша воласць — гэта бочка, а мы — жалезныя абручы; падумайце і скажыце: што варты клёпкі без абручоў?

Д з я к. І што варты людзі без клёпак?

Сядзелец абняў і пасадзіў Набіноса.
П а н а с і М а р ' я.

П а н а с *(п'яны)*. Панас Лявонавіч Чашчавік, праўда, цёмны чалавек, але чарку патрапіў выпіць за здароўе свайго пана ў шынку. Панас, як самі бачыце, за дзве залатовачкі п'яны, як грыб, а яны і за 30 рублёў п'яныя не будуць. Тупайце, паночку, тупайце і ведайце, што ў Панаса знаёмасць шырокая, Панаса ведаюць у сяле і за сялом, кум Халімон, кума Міхаліна, сват Марымон, сваццл Агрыпіна, коні, сабакі, гусі, вужакі.

П і с ар. Ну, годзе, Панас, стань тут, пры сцяне.

П а н а с. А за стол нябось не пасадзіце? Дзе там.

П і с а р. Госці, радуецца душа, калышацца сэрца, гледзячы на гэты пекны вянок нашага поля, нашай воласці, я, як той садоўнік, і воч не спускаю з вас. Усе мы ў згодзе жывём, адзін піша, другі падпісуе, трэці пакуе, чацвёрты ў астрог мяркуе, пяты гарэлкай таргуе, шосты звоніць і хавае, сёмы галовы здымае. Біцца не біліся і сварыцца не сварыліся; удзень я ў воласці пішу, а думку ў сэрцы нашу; лепш мець сто рублей, чымсь сто друзей. Ура!..

У с е. Ура!

Н а б і н о с *(узяў чарку і бутэльку, да Мар'і)*. Ну, а мы з табою, філасофская баба, вып'ем! *(Налівае.)*

М а р ' я. Як скажаце, так чаму ж *(бярэ чарку)*. Дай божа. *(П'е. Набінос налівае яшчэ.)* А цяпер за здароўе маёй пані *(п'е)*, а цяпер за здароўе пана *(п'е)*, панок мілы, не хто другі, як я, старажыха Мар'я, у той чарачцы, што выпіла, пасылала пану сілы, здароўя і ўсялякую немач. Я, Мар'я, мяту ў воласці падлогу і ў чырвоных панчохах фартыкую, ваюю з мужыкамі, палю ў печы, ем гарачыя бліны. А калі зганяла з польскіх папераў мух і

павучынне, пан ушчыпнулі мяне і казалі трымаць нос тапарышчам, а няхай яе, гэтую картаплянку, чарку выпіла, а язык лезе за вуха.

Н а б і н о с. А цяпер стань ля Панаса.

Д з я к. А цяпер запяём.

У с е. Запяём, запяём!

Ж о н к а п і с а р а. Вось гэта добра. *(Шле дзяку паветраны пацалунак.)*

Д з я к. Усё вздушныя да вздушныя, а да настаяшчых нікак не дастукаюсь. І так, брація, пусць голас наш, акі львіны рэў, наполніць звукам горніцу сію.

Мар'я ўпушчае на сцэну д з я ў ч а т, х л а п ц о ў.

Д з я к *(запявае)*.

Як па рэчцы, па рацэ
Чоўен новенькі плыве.

У с е.

Чоўен новы, новенькі,
Струганы, кляновенькі.

Д з я к.

А ў тым чоўне-чаўнаку
Праз Бярозачку-раку.

У с е.

Едуць дзеўкі ноч гуляць,
Ноч купальскую спраўляць.

Д з я к.

Там, дзе цёмны бор шуміць,
Грамада хлапцоў сядзіць.

У с е.

Ждуць дзяўчат ў паўночны час,
Засвяціўся зорак пас.

Д з я к.

Ў небе месячык блішчыць
Агніво, як змей, гарыць.

У с е.

Зычны смех, як звон, чуваць,
Дзеўкі едуць ўжо гуляць.

Д з я к.

Вось па рэчцы, па рацэ
Чоўен за чаўном плыве.

У с е.

Шмат іх ціхенька паўзуць,
Шчабятух дзяўчат вязуць.

Д з я к.

Дым нясецца, вецер дзьме,
Раса льсніцца на траве.

У с е.

Мглой пацягнута рака,
Спіць у лузе асака.

Д з я к.

Скрыпкі граюць, дудар дзьме,
Міла моладзі у цьме.

У с е.

У небе месячык блішчыць
Агніво, як змей, гарыць.

М а р 'я.

А цяпер паслухайце, запяю я:
Тут у хаце вечарынка,
Баліць мая серадзінка.
І чаму ж ёй не балеці,
Калі некаму жалеці.
Косці ныюць, жылля круціць,
Кроў іграе, каламуціць.
Хачу ласкі, пацалункаў,
Хачу шчырых падарункаў.
А тут, бач, няма нікога,
Ні сляпога, ні храмога.
Муж мой п'яніца адпеты
Ў будні, у свята так адзеты.
Водку п'е, жуе табаку,
Мяне бэсціць, небараку.

П а н а с.

Ой, пайду я у даліну
Ды там выламлю дубіну.
Пачну рэбры лічыць ёю,
Пакуль пан я над табою.
Ты, здаецца, прысягала,
Не пакінуць абяцала.
А цяпер нуду заводзіш
І другіх сабе знаходзіш.
Ой, Марыля, не крыўляйся,
На мой зуб не пападайся.
Як вазьму у рукі дзягу,
Так успомніш пра прысягу.

М а р 'я.

За табою толькі знаю
Сваё жыцце праклінаю.

Дзён шчаслівых я не бачу,
К ліхой долі цябе страчу.
Будзеш гніць у дамавіне,
А я буду гаспадыня.
Ты нябожчык таго свету,
Хоць бы хвілю хутчэй гэту.

Панас.

Не баюся я нікога,
Апроч пісара самога.
Пісар сцяміць і напіша,
Рубля ў рукі, Панас дыша.
Смачна ем, куру табаку,
Хвост кручу свайму каняку
І скрозь пальцы пазіраю,
Цябе, хоўру, мала знаю.

Пісар.

Пакуль пісар пяром піша,
Панас сыты, смела дыша.
А скажу узяць паперы,
Тады лезь, Панас, за дзверы.
А пакуль што, брат, трымайся,
Бабе ў рукі не давайся.
Кліч хутчэй сюды музыкаў,
Зададзім вяселлю шыку.

Музыкі.

Біч. Капэльдудкіны, я змёрз, прэдпісываю вам раскалыхаць маю ўдубеўшую душу.

Усе. Польку нам, польку. *(Танцуюць, апроч Лупадзёра, каторы сядзіць за сталом, п'е.)*

Дзяк *(пасля танцаў)*. Ну, і далі ж мне гарту...

Набінос *(да Біча)*. Разрашыце вам прэдлажыць закурыць. *(Раскрывае партсігар.)*

Біч *(бярэ папяросу)*. *Разрашаю.* А спічка ёсць?

Набінос. Нікак нет.

Біч. Штоб была.

Набінос *(убачыў, што Лупадзёр п'е з бутэлькі)*. Эй, ты! Не ў вочарадзь п'еш!

Лупадзёр. Брэшаш, гаспадзін старшы, п'ём у вочарадзь.

Набінос. Не разгаварываць, а то лыч набок звярну.

Абібок. Што гэта, мой кум свіння?

Лупадзёр. Лыч набок звернеш, звярні!

Набінос. Звярну! *(Нападаюць адзін на другога з крыкам: «Звярні — звярну!»)*

Пісар. Братцы, што з вамі?

Жонка пісара. Пабойцеся бога.

Абібок і Лупадзёр валяць на падлогу Набіноса, усе бягуць. Панас кідаецца праз стол у акно, дрыгае нагамі.

Дзяк *(жагнаецца)*. Царыца нябесная, спасі мяне! *(Лезе пад стол)*.

Заслона

## АКТ II

Жонка пісара ляжыць на софцы, галава павязана белай хусткай.

Жонка *(пяе)*:

Ные маё сэрца, шукае спагады,
Хоча ляцець ў горад, бо няма тут рады.
Тут без часу сойдзеш у сыру зямліцу,
Тут без часу возьмеш у руку грамніцу.
Там, за борам цёмным, горадзерка ззяе
І мяне, малоду, туды заклікае.
Пабягу хутчэй я з гэтага балота,
На вачах не будзе зрэбная галота.

І нашто ён сцягнуў мяне ў гэту ваўкаўню, я гуляць хачу, жыць хачу, а тут нудна, як на могільніку. У акне толькі і бачу шэрае неба і шэрых мужыкоў, а там у горадзе гульні, забавы, музыка, танцы. Дзе ж былі мае вочы, чаго ж я валаклася сюды... чаго?

Мар'я.

Жонка. Ты чаго, Мар'я?

Мар'я. Пан казаў, калі пані нудна, каб у канцыралію прыйшлі.

Жонка. Э, Мар'я, Мар'я, чы ж канцыралія?

Мар'я. Для мяне гэтыя заморскія словы не вельмі падаюцца на язык. Я ўжо сама не ведаю, чы гэта ад таго, што мой язык мала адукаваны, чы ад таго, што ад дзяцінства ў вёсцы жыве.

Жонка. Чы язык твой жыве ў вёсцы?

М а р ' я. У вёсцы жыве галава, а ў галаве кватаруе язык.

Ж о н к а. Камедыянтка ты, Мар'я.

М а р ' я. Добра, пані, жартаваць, пажыўшы ў горадзе і пабачыўшы шыкі, а я што бачыла?

Ж о н к а. Ты не бачыла, то табе і не рупіць, а мяне ой як цягне горад назад, там цеатры, бульвары, матаграфы.

М а р ' я. А скажыце, пані, што-небудзь пра той ціянцер чы бульвар.

Ж о н к а. Цеатр — гэта вялікая будыніна, на вялікім пляцу, вось туды і збіраюцца людзі.

М а р ' я. На начлег?

Ж о н к а. Зусім не, ты, як бачу, не разумееш, што гэта.

М а р ' я. На мой розум, гэта або карчма, або лазня, або начлежка.

Ж о н к а *(смяецца)*. Ну, і Мар'я! У цеатры паказуюць спевы, танцы і каханне. Вось, напрыклад, хлапец закахаўся у адну дзяўчыну, другую, трэцюю, а дзяўчына таксама ўпадабала хлапца, другога, трэцяга, затым справа дайшлася бацькам, суседзям, сваякам, пачынаюцца плёткі, спорка, той нападае на таго, ломяць адзін другому рэбры, выбіваюць зубы, пасля мірацца, цалуюцца, абнімаюцца.

М а р ' я. Забаўна, дзіва што, ну, а ў тых, як яго?

Ж о н к а. Матаграфе?

М а р ' я. Але ж.

Ж о н к а. Матаграф — гэта вялікі пакой, дзе скачуць на ліксідрычастве неба, зямля.

М а р ' я. Цяпер я не дзіўлюся, чаму пані сумуе аб месцы.

П і с а р.

П і с а р. Чаму ж ты не прыйшла, хіба гневаешся?

Ж о н к а. Няўжо ж радуюся, навёў гэтых барбосаў, напіліся і сарвалі мне сілы.

П і с а р. Хто ведаў, што біцца пачнуць, хацелася, каб усё добра было, каб у згодзе жыць, асабліва з імі.

М а р ' я. Праўду кажаце, панок, гэтыя крумкачы — патрэбныя людзі, іх абмінуць нельга, здаецца, ён пазірае ў неба і нічога не бачыць, што на зямлі робіцца, байкі,— усё бачыць.

Ж о н к а. На ліха ты іх клікаў?

П і с а р. Трэба было. Як ты не можаш зразумець, Мар'я і тая зразумела.

М а р ' я. Не такая я дурная, як мо вам здаецца, але, праўду кажучы, страху мела, пакуль вынеслася адсюль.

П і с а р. Было страху ўсім.

М а р ' я. Мне шкоды ад гэтага ніякой, а пані, відаць, уздрыгнулася. Лячыць трэба.

П і с а р. Але чым? Сама бачыш, я гатоў на ўсё. Аптэку лекаў выпіла.

М а р ' я. Што вашы лекі, наш брат ад хваробы сваімі лекамі бароніцца, і калі б толькі падлічыць, гарадскіх больш памірае, чымсь вясковых.

П і с а р. А ты б чымсь гутарыць, раздабыла б тых знахароў, авось палепшала б.

М а р ' я. Перш распазнаю хваробу, а пасля і дараджу *(у акно)*. Нехта да пана з лістом прыйшоў.

П і с а р *(да акна)*. Ад земскага, чы што?

Г о л а с з а а к н о м. Ад земскага.

П і с а р *(чытае ліст)*. На карты заве. *(Паўза.)* Ну, што ты скажаш?

Ж о н к а. Рабі як хочаш.

П і с а р. А ты як будзеш адна?

Ж о н к а. Так і буду, не памру; а памру, другую возьмеш.

П і с а р. Неразумная гутарка.

М а р ' я. Што, паночку, доўга думаць, ёсць спосаб хвілінку пагуляць, карыстайце.

П і с а р *(да жонкі)*. А мо разам паедзем?

Ж о н к а. Я з месца не магу парушыць, а ён хоча па каляінах растрэсці.

П і с а р. Ну, так і быць, я адзін. Мар'я! Кліч Панаса.

М а р ' я. Вось гэта па-мойму. Панас, гу-у-у...

Панас адзываецца за сцэнай.

М а р ' я. Хутчэй сюды, хутчэй.

П а н а с убягае.

П а н а с. Што тут, што?

М а р ' я. Пана павязём да земскага.

П а н а с. Толькі ўсяго, а я ўзрадаваўся, мысліў, што, цябе завязу на бойню.

М а р ' я. О! Чулі, паночкі?

П і с а р. Панас, запрагай коні, да земскага едзем.

П а н а с. Конь у мяне запрэжаны,— залатоўку фурману ў руку, пугавішча ў другую, і пайшлі... пайшлі.

М а р ' я. Калі ты ўжо пакінеш папрашайнічаць?

П а н а с. Як памру.

П і с а р *(да Мар'і)*. Давай бурку.

Ж о н к а. Калі ж вернешся?

П і с а р. Буду старацца раней.

Ж о н к а. Ведаю я тваё раней, заўтра раніцой.

П а н а с *(да Мар'і)*. А чаму ж ты не пытаешся, калі я вярнуся?

М а р ' я. Па мне хоць зусім не вяртайся, плакаць не буду.

П а н а с *(пяе)*.

Марыля Марылеўна, будзь ты ласкавей,
Не глядзі так грозна, я ж не ліхадзей.
Буду ехаць к земскаму, нельга абмінуць
Лаўку манапольную, каб не заглянуць.
Дай ты залатовачку, смагу каб прагнаць,
Сілы каб хваціла конікаў ганяць.

М а р ' я.

Каб ты са мной ехаў, тады інша рэч.
А раз едзеш з панам, ідзі з вачэй прэч.
Прасі грошы ў пана, ён у нас багат.
Там не залатоўкі, а рублёў ёсць шмат.

П а н а с выходзіць.

П і с а р *(пяе)*.

Не сумуй, мая ты рыбка,
Я вярнуся дамоў прытка,
Прыдабуду грошы шмат,
Куплю новы панарад.
Куплю вузкую спадніцу,
Капялюш, быццам даўніцу,
Куплю з гэмсай чаравікі,
Куплю шпількі, быццам пікі.
Абажурныя панчохі,
Ружу, мазі, духоў трохі.
На кірмаш не павязу,
Усім людзям пакажу.

Ж о н к а.

Не патрэбна мне нічога.
Мне на могілкі дарога.
Пашукай сабе другой,
І купі усё для той.

Маё сэрца скамянела,
Ў жыллях кроў ахаладзела.
Смерць глядзіць з частых у вочы,
Дабіваецца уночы.
Ты чырвоны, як рабіна,
К табе прыйдзе журавіна.
А я век свой дажыву,
Рукі табе развяжу.

Пісар.

Годзе, годзе, мая міла,
І ты чырвона, як рабіна,
Пакуль ты яшчэ памрэш,
Пудоў з 200 хлеба з'еш.
А пакуль што будзь вясёла,
У аконца паглядай.
Сонца сядзе і устане,
Я вярнуся, гэта знай.

*(Пайшоў.)*

Мар'я. Весела жывецца нашаму земскаму, ой, весела, была раз у яго служанкі, то там свет пеклам здаваўся, гасцей, як сініц, гарэлку п'юць, у карты рэжуць.

Жонка. Ды не б'юцца, як у нас.

Мар'я. Там барбосаў у хату не пушчаюць, земскі не малы чын, стражнікі хронт трымаюць... а калі каму ў пакоі далезці, то сперш павінен падысці да дзвярэй, націснуць чорненькі гузік і чакаць, і тады вось выходзіць паслужанка, што я ў гасцях была, і кажа ў сенцах пачакаць, а адразу ў пакоі не лезці.

Жонка. І добра робяць.

Мар'я. У земскага не такія шырокія дзверы, як тут.

Жонка. Праз гэта я павінна мучыцца.

Мар'я. Задалі ўсім пуду, а дзяку больш за ўсіх дасталося, пад стол прыйшлося бедаку хавацца.

Жонка. І таксама мог захварэць.

Мар'я. Усё можа быць, чалавек ён не вайсковы, у гэткіх завірухах не быў.

Жонка. А што з таго, што твой Панас быў у войску, нябось убачыў звярыны твар Набіноса, як рыба выплыў праз акно.

Мар'я. Ён шустры... *(Глядзіць у акно.)*

Жонка. Каго выглядаеш?

Мар'я. Лёгкі на ўспамін, мы пра дзяка гамонім, а ён якраз праз вуліцу ідзе.

Жонка. Хто, кажаш, дзяк?

Мар'я. А ўжо ж ён, хіба клікнуць?
Жонка. Клікні, Мар'я, клікні.

Мар'я выбягае.

Жонка (*скідае павязку, прыхарошваецца*). Вось добра, што ідзе, прынамсі, сэрца акамянеўшае зварухнецца. (*Садзіцца на софку.*)

Дзяк.

Дзяк. Сакровішчніца нябесна, жамчужына неацэнная, сама адна іль супруг паблізасці абрэтаецца?
Жонка. Паехаў на карты да земскага.
Дзяк. І немажліва знаць, калі з'явіцца?
Жонка. Як заўжды, раніцой.
Дзяк. Пусць не таропіцца... а я пабуду з пцічкай невялічкай, што томіцца ў жалезнай клетке.
Жонка. Два гады, як марнею я ў гэтай клетцы, і як вылецець, сама не ведаю.
Дзяк. Вясною вылецім, а пакуль што ў мінуты грусці я развлекаць буду. А як здароўе?
Жонка. Не зусім здарова, напужалася, як тыя басякі біліся.
Дзяк. Эта не людзі, а дзікае стада свіное, навадзяшчае страх на ўсякае смірэннае ваплашчэніе, да будзет проклята іх імя, отчэства і фамілія.
Венера Мілоская, кедр ліванскій мой, паднімі сваё благоуханное тело і палажы сваю Саламонаву голову на маё плечо.
Жонка. І сама не ведаю, чаму я вас слухаю. (*Нахіляецца.*)
Дзяк. О, агнец смірэнный мой, што за перамена вдруг са мной? Серца стракочэт, в насу шчакочэт, а во рту так сладко, точно куль саломкі абрыкосавскай палажылі.
Жонка. Я рада гэтаму.
Дзяк. Смірэн і кротак чалавек, а шчокі разгарэлісь так пламенна, точна ў праатца Адама, кагда он с'ел яблычка і яблыню вмесце.
Жонка. Адам лепшым быў за вас, ён часцей бачыўся з ёю, а вы і воч не паказуеце.
Дзяк. За эта яго і з раю пагналі, баюсь, штобы і са мною так не случылась, пісар падмеціт, скажэт Набіносу, а Набінос, как Вельзеул, ізгоніт мяне за вароты воласці сей.

Жонка. А я плакаць буду.

Дзяк. О, нет, ачараvацельные вокі не далжны слязою абліваццa, я іх галубіць буду.

Жонка. Толькі кажаце!

Дзяк. О! Хрізантэма душыстая, о карал драгацэнный мой, я дагадался... я узнал... я... цяпер веру, веру, што сэрца жэншчыны, акі страннік, встретілась з маім... ну, колі так... вот плады рая, вот ані... *(Цалуе.)*

Мар'я.

Мар'я. Клікалі мяне?

Дзяк і жонка адскочыўшы.

Жонка. Глухому заўжды нешта здаецца.

Мар'я. А мне здалося, быццам клікалі, вось мае паночкі, з перапуду ўсё гэта, ад імянін сталася, куды ні гляну, усё тыя барабжынцы ўваччу мітусяцца: то стражнік Лупадзёр душыць Набіноса, а то Набінос грызе Лупадзёра, даруйце, з перапуду сталася. *(Адыходзіць і натыкаецца на вушак.)* Во і аслепла ўжо, замест дзвярэй на шула трапіла. *(Выйшла.)*

Дзяк. Хітрасць ілі проста глупасць?

Жонка. Дур... прэцца, як вар'ят на кірмаш, прагаганю к чорту, і толькі.

Дзяк *(жахаецца)*. О, не ўспамінай у страдны час власцеліна ада, да будет проклят он у недрах Ісаака і Аўраама, дзьявал — враг харошых дзел і памышленій, і патаму імя яго ў доме, гдзе нет хазяіна,— непрэсушчэ.

Жонка. Вечар наш, ніхто не забароніць.

Дзяк. Власцелін ада можэт дзело ізгадзіць так, што і сабакі нос атвернут.

Жонка. Вечар наш... мужу весела там, а нам тут.

Дзяк. Нядарам сэрца маё з трыумфам іграет пабеду...

Жонка. Няхай іграе, я люблю музыку... а што, каб і ўпраўду зайграць, паскакаць, каб было весела, каб не цягнула ў горад.

Дзяк. Без шуму, без шуму, цішэ едзеш, дальше будзеш, вот лучшэ пасідзім, там...

Жонка. Я гуляць хачу, мне абрыдла гэтак жыць, мяне ніхто не бачыць, я маладая, жыць хачу, чаго сядзець?

Дзяк. О! Как я рад, што вышэл на дарогу... Цяпер я чуствую, што калясо фартуны верціт, верціт, верціт.

Ж о н к а *(прыслухоўваецца)*. Чакайце, чакайце, чы мне здаецца, чы такі праўда... *(Да акна.)* Ён. Сапраўды ён...

Д з я к. Хто он?

Ж о н к а. Муж вярнуўся, муж.

Д з я к. Вот і трыумф победы... Я гаварыл, кагда вспамінают імя дзьявала, он яўляецца і влачыт за сабою калясніцу гадасцей і недаразуменій.

Ж о н к а *(бегае па хаце)*. Што мне рабіць, дзе ж вас падзеці, праз дзверы нельга выйсці...

Д з я к. Нет такога палажэння, із каторага не было б выхада.

Ж о н к а. Так кудой жа, кудой?

Д з я к. Унясу і чэраз акно свае ногі. *(Лезе ў акно.)* О! Мора жыцейскае. О! Трыумф победы. *(Вылез.)*

Ж о н к а. Як бы стопудовы камень зваліўся, так стала лёгка. *(Выбягае ў бакоўку.)*

М а р ' я.

М а р ' я. А мае ж міленькія, дзе ж яны падзеліся, ні дзяка, ні хворай няма, агэй, агэй. *(Глядзіць пад стол.)* Але ж куды гэта спанатрыўся дзяк, знік, нібы ў тыматографе з ліксідрычаствам, шкода, што пісар не ўлавіў, ведаў бы, якая хвароба ў жонкі.

П і с а р.

П і с а р. Чаго ты скаліш зубы?

М а р ' я. Што ж гэта я, Лыска павінна скаліць, а не смяяцца, Мар'я хоць мужычка, ціянцераў не бачыла, але смяецца там, дзе трэба смяяцца. Скажыце, пан, чым не смешна было б слугам земскага, каб вы ўвайшлі праз дзверы, а выйшлі праз акно?

П і с а р. Не разумею я цябе, непрытомная, чы якое ліха?

М а р ' я *(пяе)*

Не пытайце, панок, Мар'я не здурнела,
Што учора было цёмна, сёння зразумела.
Той, хто думаў паміраць, паміраць не хоча.
Пану ў картах не спазнаць, чаго баба хоча.
Там на печы вяз расце, а за печкай грушка,
Вунь плавае на рацэ гусь дурны і гуска.

Ха-ха-ха, ну што, зразумелі?

П і с а р. Нічагусенькі.

М а р ' я. З часам зразумееце!

П а н а с.

П а н а с. Ну і горача, думаў, што сапрэю... Вёз я пана ды і думаю, у гэтую спякоту не ездзіць, а пад елкай ляжаць, маючы пры сабе чарку гарэліцы, праўда, панок?

П і с а р. Напой, Панас, коні.

П а н а с. Вось жа аб тое, што напаіць трэба.

М а р ' я. Так чаго ж стаіш, аслабані хату, вось дзверы, хіба не бачыш?

П а н а с. Бачыць бачу. *(Да пісара.)* Паночак, конікі вып'юць, але і мне, гледзячы на іх, лыкнуць захочацца, калі ласка, даўжок, каторы абяцаліся.

М а р ' я. Не давайце ані шэлегу.

П і с а р. На даўжок.

П а н а с. Дзякую, паночку, такі характар — дзень з ноччу хваліцца трэба. *(Да Мар'і.)* Хіба пойдзем, Марыля Марылеўна, пастаўлю і табе адну чарку. *(Выходзіць.)*

М а р ' я. Ідзі ўжо, ідзі, а то дзеркачом угрэю.

Ж о н к а (галава павязана хусткай).

Ж о н к а. Ужо вярнуўся?

П і с а р. Вярнуўся.

Ж о н к а. Чаму так хутка?

П і с а р. Пакуль я прыехаў, усе п'яныя былі і біцца збіраліся, так я за нагодай і ўцёк.

Ж о н к а. Што гэта з людзьмі парабілася?

М а р ' я. Мода, пэўна, такая, б'юцца ў земскага: б'юцца ў пісара, б'юцца і ў стоража, і ўсё па модзе, ах, памылілася, па мордзе, як у тых ціянцерах, што пані казала.

П і с а р. Нагрэй, Мар'я, самавар.

М а р ' я. Як перуном высмаліць, ён пэўне ўжо гатоў. *(Выходзіць.)*

П і с а р. Занясеш у садок, я там буду. *(Да жонкі.)* Ну, як чуешся?

Ж о н к а. Што і пытацца, галава адарвацца хоча, восень тут перабуду, а на зіму паеду ў горад жыць.

П і с а р. А мяне тут пакінеш?

Ж о н к а. Ты здаровы.

П і с а р. Палепшаеш і ты.

Ж о н к а. Мне тут нудна, а па-другое, гнілое паветра, цяжка дыхаць.

П і с а р. Пашукаем доктара, павязу ў Крым.

Ж о н к а. Я ўжо не ведаю, рабі як знаеш. (*Да дзвярэй.*)

П і с а р. Куды ж ты?

Ж о н к а. Мне душна, у садок іду. (*Пайшла.*)

П і с а р. Занудзілася баба.

М а р ' я.

М а р ' я (*хціўна*). А самаграйчык у садочку.

П і с а р. Чую, чую, а скажы мне, Мар'я, што гэта ты пляла пра вокны-дзверы.

М а р ' я. Які пан цікавы!

П і с а р. Ну, толькі без філасофіі.

М а р ' я. Вось добра, што ўспомнілі, гэта калі ў вашы імяніны старшы вураднік мяне так называў, чы брыдкае яно?

П і с а р. Яно не брыдкае, але вымагае, каб ты сказала, аб чым пытаюся.

М а р ' я. А што за гэта будзе?

П і с а р. Што захочаш.

М а р ' я. Захачу, каб не давалі Панасу залатовак і каб на дзён 5 у халодную яго пасадзілі, ён не любіць мяне.

П і с а р. Ну, добра, будзе па-твойму, кажы.

М а р ' я. Вось бачыце, у той час (*садзіцца*), калі вы былі ў земскага...

П і с а р. Няўжо ты, Мар'я стоячы не можаш, канешне трэба сесці?

М а р ' я. Перш магла, а цяпер не магу, ад імянін вашых. (*Хоча выйсці.*)

П і с а р. Ну, садзіся, толькі расказвай.

М а р ' я (*набок*). Адразу б так сказаў. (*Паўза.*) Так вось, паехалі, значыць, да земскага, а да пані прыйшоў дзяк.

П і с а р. Так што з таго?

М а р ' я. Праз дзверы прыйшоў, а праз акно выйшаў.

П і с а р. Я цябе не разумею, ты здарова чы хвора; бо калі маеш у галаве запаленне, то раю ўзліць вады вядры са два.

М а р ' я. Не турбуйцеся, панок, учора ў лазні была, вадзіца для каго іншага прыдасца.

П і с а р. Чаму ён праз акно выйшаў?

М а р ' я. Бо пан знянацку вярнуўся.

П і с а р. Ты брэшаш.

М а р ' я. Другі раз кажу — я не Лыска.

Пісар. Кажы ўсё ад пачатку.

Мар'я. Пачатак распачаўся, але пан не бачылі.

Пісар. А што ты бачыла?

Мар'я. Бачыла, як смачна цалаваліся, але сэрца маё трэслася, як барані хвост.

Пісар. Цалаваліся, хто цалаваўся?

Мар'я. Ды ваша ж хворанькая з дзякам.

Пісар. Што я чую, і гэта праўда?

Мар'я. Калі няпраўда, права ў судзе ваша.

Пісар. Як ты дагледзіла?

Мар'я. Праз шчэлку.

Пісар. Што яшчэ?

Мар'я. І не ўспомніш усяго, дзяк казаў, што ў яго ў носе шчакоча, што ён саломы салодкай хоча...

Пісар. Нічога не разумею.

Мар'я. І я не зразумела, але такой бяды, вось лепш сядзьце, то пакажу, як пацалункі адбываліся. Садзіцеся, садзіцеся, не ўважайце, што старажыха, боты дзёгцем не мажу. *(Пісар сеў).* Нахілілася, значыць, яна і ён да яе, а после плюсь, плюсь і пацалаваліся. *(Цалуе пісара.)*

Пісар *(усхопліваецца).* Ліха ведае што. *(Паўза.)* О, як жа галава гарыць.

Мар'я. А можа, вадзіцы вядзерцы са два?

Пісар. Дай святы спакой.

Мар'я. Вось бачыце, панок, дзе вадзіца падалася. *(Паўза.)* Больш цярплівасці, панок, а то горш будзе, ідзіце піце гарбату, бо сакрэт цану страціць, а я застануся тут ды падумаю, чым хворую лячыць, толькі міну зрабіце, быццам вы такі дурны, як і раней былі.

Пісар выходзіць.

Мар'я *(адна).* Эх, целяпай, целяпай, а яшчэ за пісара абраўся, у Крым, кажа, павязу... Але што ж гэта я напляла на яе, можа, ёй і сапраўды нудна, усё ж, жывучы ў горадзе, бачыла роскаш, а тут хамы перад вачыма. Пайшла і я за Панаса і век гарую з ім, ні слоўца ласкавага не чула, ні жыцця згоднага не бачыла.

Панас.

Панас. Баба варажыла, на калоду палажыла, тут кнут, здарова была Марыля Марылеўна.

Мар'я. Ужо напіўся.

Панас. Не п'яны, далі бог цвярозы, але як зану-

дзіўся, як пачаў шукаць цябе, як пайшоў і ў хаце, і ў шынку, а пасля як ўбачыў, што няма, то з гора і ап'янеў, а так цвярозы. Марылечка, матылёк, залатовачку дай — пацалую.

Мар'я. Ах, каб цябе свінні цалавалі, яму заплаці, то ён пацалуе, ды я цябе калі пацалую, то вырачашся не толькі пацалунку, але кашулі.

Панас. Так, значыць, залатоўкі няма?

Мар'я. Замест залатоўкі вось што! *(Паказвае фігу.)*

Панас. А за якім ражном я з-за цябе ногі біў?

Мар'я. Вон адсюль! *(Хватае венік.)*

Панас. Што?

Мар'я. Вон, а то заб'ю. *(Замахваецца.)*

Панас *(з другім венікам)*. А я не патраплю? *(Замахваецца.)*

Пісар.

Пісар. Гэта што?

Мар'я. Вымятаць збіраюся.

Панас. Вымятаемся, панок, вымятаемся...

Пісар, Мар'я і Панас выходзяць.

Заслона

## АКТ III

Жонка на софцы з павязанай галавой.

Жонка *(пяе)*.

Прыйдзі, прыйдзі, мой ясны сокал,
І глянь, як нудна тут навокал.
Пагасла вера, што сонца ўзыдзе,
Што хвіля радасці надыдзе.
Мне сніўся сон, што мы у раю.
Хоць гэта сон, я добра знаю,
Але ж і сну я рада, рада,
Што кіну воласць, мужа-гада.
Пагасла вера, што сонца ўзыдзе,
Што хвіля радасці надыдзе,

Прыйдзі, прыйдзі, мой ясны сокал,
І глянь, як нудта тут навокал!

Хіба паслухаць, што кажа Мар'я, толькі адно, чы паслухае ён. Вось добра было б, каб пазбыцца на колькі дзён, адпачыла б душой і прыйшоў бы той, каго так хочацца пабачыць.

Мар'я.

Мар'я. Як жа, панічка, чы намысліліся? Можаце верыць, што гэтыя лекі вам дапамогуць. Калі, па-вашаму, лгу я, Аўдоцця-знахарка тое самае скажа.

Жонка. Я табе веру, але чы можна так далёка гнаць чалавека, жартачкі, аж на мора.

Мар'я. Каб жа гнаць, а то ехаць па чыгунцы.

Жонка. А колькі дзён трэба быць у дарозе?

Мар'я. 5—6 дзён.

Жонка. Усё гэта так, але чы захоча.

Мар'я. Хоча не хоча, а ехаць павінен, жонка шле, павінен слухаць, адкладаць не можна, хвароба прыбывае пудамі.

Жонка. Але чы захоча?

Мар'я. Эх, пані, самі вінаваты ў сваёй хваробе, а пан гатоў жыццё аддаць, абы ратаваць.

Жонка. Дзе сам?

Мар'я. У воласці.

Жонка. Пайду да яго, што скажа. *(Выйшла.)*

Мар'я. Ідзі, ідзі,— вылечым, будзеш здарова.

Панас.

Мар'я. Панасыньку, анёлачак. *(Круціць яго ля сябе.)*

Панас. Ашалела чы якое ліха, кажы праўду, а то ў вар'яцкі дом завязу.

Мар'я. Панасыньку, годзе сварыцца, на табе залатоўку і скажы, чы любіш мяне?

Панас. Што гэта так раздабрухалася?

Мар'я. Кажы, любіш, любіш? На табе яшчэ залатоўку, напіся п'яным, толькі скажы.

Панас. Мусіць-то люблю.

Мар'я. Так вось, Панасыньку, павінен і паслухаць мяне, я табе загадаю, а ты дай слова, што ўсё зробіш.

Панас. Абы залатоўка, Панас на галаве пойдзе.

Мар'я. Будзе чарка, будзе палка, памажы толькі хворую на ногі паставіць. Я табе пасля ўсё давяду.

Панас. Не лыкам я шыты, добра і сам ведаю.

Мар'я. Так глядзі ж, Панаску, шмат гарэлкі не пі, хутка паклічу.

Панас (*пяе*).
Заварыла Мар'я кашу, хоча лячыць паню нашу,
Не мікстурай, не вадой, а зялёнаю лазой.

Мар'я.
Гэта таннае лякарства, шэпты бабскія, знахарства,—
Шмат кабет на ногі ставяць, да работы прымушаюць.

Панас.
Дзівуйцеся, дактары, што за сіла — знахары,
На хворага вокам глянуць, і хваробе трэба звянуць.

Мар'я.
Мы не такія штукі вытваралі без прынукі,
Хоць мужычка, зрэб'я шаты, але цяміць, як багаты.

Панас.
Што за розум ў маёй бабы, хаця ж вочы, як у жабы,
На свет воўкам пазірае, усё бачыць, усё знае.

Мар'я.
Ты, Панас, маўчы ды слухай, калі горача, так дзьмухай,
Калі баляча — крычы, калі весела — свішчы.

Панас. А цяпер пусці, у горле перасохла. (*Пабег.*)

Мар'я. Патроху справа падаецца, цяпер трэба пісару ў вушы натрубіць.

Пісар.

Пісар. А дзе ж пані?

Мар'я. У воласць пайшла. Ну, панок, усё складаецца як не трэба лепей, трымайцеся толькі самі, пашлем мы пана, як казала, на мора, па пясочак, ідзіце — не адмаўляйцеся, а там я скажу, што рабіць.

Пісар. Ну, добра, буду слухаць цябе.

Мар'я. А цяпер пабягу, Панаса задабрыць яшчэ трэба. (*Выйшла.*)

Пісар. Ну, і гармідасія, галаву можна скруціць. Слухаеш жонкі, здаецца, праўду кажа, паслухаеш Мар'ю — зусім другое, глянеш на дзяка — штука не зразумелая. І як гэта я раней не бачыў. У сваім жыцці трэці раз дурня маю. Першы раз, калі быў старшым намеснікам малодшага пісара, на радасцях так напіўся, што замест пакаёўкі доктара па абмылцы абняў жонку доктара, за гэта дастаў па вушах і са службы выгналі. Другі раз паехаў на шалёнай кабыле ў горад і замест дарогі ўехаў

з аглаблямі ў аптэку, за гэта адседзеў два дні ў часці, два зубы выбілі і за акно заплаціў. А цяпер трэцяя бяда.

Жонка.

Жонка. А я цябе ў воласці і ў садочку шукала.

Пісар. А я тут, ну, як жа чуешся?

Жонка. Дрэнна, і шуміць і грычыць, а тут *(паказвае на сэрца)* як бы кот сядзіць і драпае.

Пісар *(набок)*. Пастку трэба.

Жонка. Што трэба?

Пісар. Лячыць трэба.

Жонка. Памру, пэўне, у хуткім часе.

Пісар. Барані бог, я цябе з магілы вывалаку, гатоў усё аддаць, гатоў бегчы на край свету, а смерці не аддам.

Жонка. І ты праўду кажаш?

Пісар. Як ясны дзень бачу.

Жонка. Добры мой, Рыгорка, гатоў бегчы на край свету.

Пісар. Толькі скажы, вось зараз і гайда.

Жонка. Кажуць людзі, што ў маёй хваробе замор-скія лекі патрэбны.

Пісар. А хто казаў?

Жонка. Мельніка жонка казала, яе дачка лячылася гэтым.

Пісар. Ну, і палепшала?

Жонка. Кажуць, здарова.

Пісар. Э! То мы зараз даведаемся. Мар'я, а Мар'я?

Мар'я.

Пісар. Зараз бяжы на млын, мельнічыху пакліч сюды.

Мар'я. А яна якраз да мяне за даўгом прыйшла.

Пісар. Кліч сюды. *(Мар'я выйшла.)* Вось як сам дапытаюся, можа, што і будзе, а не, на вясну павязу ў Крым, карову бурую прадам, грошы будуць.

Мар'я і Аўдоцця.

Мар'я *(цягне Аўдоццю за руку)*. Упіраецца, веры не дае, што пан клічаце яе. Кажы панам, чым дачку лячыла сваю?

Аўдоцця. Чакай, трэба панам пашаноту... пахвалёны ў хату.

Пісар. Навекі. Ты Аўдоцця?

Аўдоцця. Я, гаспадзін пісар, Аўдоцця Клышанога,

па мужу так, бо ён такі, і сапраўды, ні гарбуз, ні жолудзь, вы яго пэўне ведаеце, ён вам галаву вадой паліваў, калі вы п'яныя былі.

Пісар. Не памятаю, пэўна, даўно было.

Аўдоцця. Не так даўно, гэта было ў той дзень, калі Лыска Язэпаў вашага памочніка за лытку рвануў.

Пісар. Ну, добра! Скажы, Аўдоцця, ты лекамі займаешся?

Аўдоцця. Трохі займаюся. Супрон Жаўрук адзінаццаць гадоў ляжаў на смяротнай пасцелі, а цяпер ходзіць здаровенек. А Тэклю з Вуглоў ведалі?

Пісар. Знаў.

Аўдоцця. Так вось і яна адной нагой на могільніку была. Язык адняло і губу выкруціла так, а дапала я, стаіць баба, бы шула ў браме.

Пісар. Што я чую, во дзе збавенне.

Мар'я. Гэта баба — не куст альховы, яна вашых дактароў без хлеба пакіне.

Пісар. Ну, скажы, Аўдоцця, чым ты сваю дачку лячыла і як бы гэта маю жонку вызваліць з бяды?

Мар'я *(да Аўдоцці)*. Я табе ўжо казала, чым пані хвора.

Аўдоцця. Тады пясок патрэбен тут.

Пісар. Які пясок, у магілу, значыцца, ды я гатоў таго забіць, што мне паўслоўца скажа аб гэтым.

Аўдоцця. Які пан дзіўны, пясочак з мора, каб купацца, націрацца ім.

Пісар. Ах, так, а мне вунь што здалося.

Мар'я. Ну і пан, як ён жалее паню, аж слёзы паказаліся.

Пісар. А дзе дастаць таго пясочку і што з ім рабіць?

Аўдоцця. Злётаць на мора і торбачку пясочку прынесці, а пасля націрацца ім.

Пісар. Толькі ўсяго?

Аўдоцця. Толькі.

Пісар. Хіба жартуеш баба, а па пясок хоць зараз.

Мар'я. Во дзе шчырасць, во дзе сэрца!

Аўдоцця. Не сумуйце, панічка, пан праз 5—6 дзён вернецца і здароўе прывязе.

Пісар. Што тут байкі доўга слухаць, пясок, пясок і пясок. Мар'я, а Мар'я, дзе ты? *(К дзвярам.)*

Мар'я. А ку-ку, я тут.

Пісар. А няхай цябе качалка, з радасці памяць утраціў. Збірай хутчэй кош і кліч Панаса.

Мар'я. Перш Панаса клікну, а пасля... *(Выйшла.)*

Пісар. Вось калі я на дарогу трапіў.

Аўдоцця. Вы і былі на дарозе, ды дарогі не пыталіся.

Пісар. Вось табе, Аўдоцька, рубля, а буду на моры — прывязу гасцінца.

Аўдоцця. Шчасліва ехаць і здаровым вярнуцца, трэба будзе, клікнеце,— прыбягу. *(Выйшла.)*

Пісар. Не сумуй толькі, галубачка, не забаўлюся.

Жонка. Лёгка сказаць — не сумуй: я адна баяцца буду.

Пісар. Я сторажу скажу, усю ноч пры акне вартаваць будзе.

Жонка. Не трэба мне вартаўніка, каб падглядаў пад акно.

Пісар. Ну, як хочаш.

Мар'я.

Мар'я. Кош гатоў і коні такжа, толькі што вярнуўся ад земскага Панас.

Пісар. Мар'я, я ад'язджаю, трымай парадак, бачыш хворую?

Мар'я. Бачу і жалею, як родную.

Панас. Панас Лявонавіч Чашчавік, валасны сторaж, кучар і ўсялякая бяда.

Пісар. Панас Лявонавіч, едзем на мора!

Панас. Хоць у пекла, абы чарка.

Пісар. Вязі, будзе дзве.

Панас. Ну, то едзем.

Пісар *(да жонкі)*. Не сумуй, прыеду, прывязу збавенне.

Паўза.

Жонка. Пакуль ты вернешся, чаго-чаго я не перадумаю.

Пісар. Гані прэч усе думкі. Ну, Мар'я, бывай здарова.

Панас. Толькі не цалуйся з ёю, панок, я тут.

Мар'я. Паночак, дазвольце мне да брата адлучыцца на дзень, брат новую хату збудаваў, улазіны праўляе.

Пісар. Можаш гуляць, і падвязём цябе.

Панас. Калі мяне возьме на гульбішча — падвязу.

Мар'я. З ахвотаю, разам гуляць будзем. Вось пабягу апрануся. *(Выйшла.)*

Пісар. І так, Панас, гайда! *(Да жонкі.)* Так, памятай: шануй здароўе, не сумуй. *(Выходзіць.)*

Панас *(пяе)*. Разлука ты разлука... *(Выйшаў.)*

Жонка. Вось і ад'язджаюць, і верыць не хочацца, што ўся багадзельня разам выбралася, дурань дурню ахвоты паддаў, а разумны скарыстае. *(Скідае павязку. Пяе.)*

Вось урэшце пазбылася
Мужа, Мар'ю і слугу.
Гладка думка ўдалася,
Пагуляць цяпер магу.
Прыйдзе той, каго чакаю,
Каго бачу я ў сне.
Прыйдзе той, каго кахаю,
Будзе доўга ён пры мне.
Будзе весела і гучна,
Вып'ем чарку сабе зручна,
Скарыстаем увесь час,
Пакуль будзе двое нас.

*(К акну.)* Слухай, хлопчык, падыдзі сюды, збегай да дзяка, аднясі вось гэту пісульку. *(Піша.)* Гэта аддай дзяку, а гэта табе на арэхі. Урэшце ўсё ўдалося. Ну і воласць, каб яе вада. *(У акно.)* А во ён і сам праз дарогу пераходзіць, чытае запіску... *(Паўза.)* Ідзе.

Дзяк.

Дзяк. Сіе краткае пасланіе васкрэсіла ўміраюшчую маю надзежду — храбрасць і мужаства снова жывут ва мне. *(Паказвае запіску.)*

Жонка. Каб ведалі, што ў нас парабілася?

Дзяк. С заміраннем сэрца слушаю.

Жонка. Усе ў дарозе: муж, Панас, Мар'я. Я адна.

Дзяк. Адзін да адзін — будзет два, а гдзе два — там весела.

Жонка. Будзе весела, як ніколі.

Дзяк. І так — эта праўда, што входзяшчый журнал не абрэтаецца ў горніцы сей?

Жонка. Далёка адсюль.

Дзяк. Он падальше, а я пабліжэ. *(Падсоўваецца.)*

Жонка. Не заўсягды нам за вярсту быць, чы праўда?

Дзяк. Прошлае канула ў вечнасць, настаяшчае прыблізіт нас па воле нашага взаімнага жаланія.

Жонка. Вось пасядзіце, а я... *(Устае.)*

Дзяк. Куды ж эта, куды?

Жонка. На хвілю — не больш. *(Выходзіць убок.)*

Дзяк. Хе, хе, хе, на хвілю можна і дажа нужна, чалавек не машына і выходзіць на хвілю донедзе есць на то прычыны,— нада.

Жонка *(уносіць выпіць і закусіць)*. Вось бачылі... Сягоння вечар мы правядзём так, як ніхто і ніколі.

Дзяк. Грэшан чалавек, а я падумал, што вы не за выпіўкай пошлі.

Жонка. Не трэба думаць.

Дзяк. Недарам нос мой, акі пракажонный, часался, не даваў пакоя.

Жонка *(налівае)*. За тое і чарку добрую яму. *(Дае.)*

Дзяк. Дзякую, буду піць за здароўе неапалітанскай красавіцы. *(П'е.)*

Жонка. А цяпер яшчэ адну.

Дзяк. Калі любіць, то раз, а калі піць, то можна дважды, трыжды, з паўтарэніямі, еліко пазваляет утроба чалавека. *(Налівае сам і п'е адну за другой.)* О, скарб душы маёй, как шчасліў я з табой.

Жонка. А я, каб ведалі, як рада!

Дзяк. Как горкае віно, так сладок пацалуй. *(Цалуе.)*

Жонка. Не праўда, і гарэлка салодкая, хіба не смакуеце?

Дзяк. Перад маіма ачыма вот сладкая канфета, ана, как мёд пчаліный, усладзіла жызнь маю... о, мая радасць, о, маё шчасце — не сон лі эта?

Жонка. Ушчыпніце за руку, так паверыце.

Дзяк *(шчыпае яе)*. С пазваленія!

Жонка. Ні мяне, а сябе... я веру, што не сон.

Дзяк *(выпівае чарку)*. І я цяпер веру... не сон!

Жонка. Вось бачыце... тое, што раней было,— сон, цяпер далёка не...

Дзяк. Ад радасці мазгі затармазіла... язык не ведает, што адказаць, я гатоў пець, плясаць і весяліцца, як дзіця.

Жонка. І ў мяне язык затармазіла, я шмат хачу чаго сказаць.

Дзяк. Мы молча друг друга паймём — не нада многа гаварыць, лучшэ выпіць.

Жонка. Вып'ем! За дурных мужоў! Каб не зводзіліся!

Д з я к. З ахотаю, за ўсех мужэй, каторым жоны ізменялі, а што ж ім пажалать,— ага, што б впрэдзь умнее былі.

Ж о н к а. Мой не паразумнее.

Д з я к. А дзе ж далёка он?

Ж о н к а. Паехаў за лякарствам аж на мора.

Д з я к. Шчаслівый пуць пакорному рабу.

Ж о н к а. Лепш, каб запазніўся... на дні 3—4.

Д з я к. В атсутствіе яго я буду ахраняць ваш дом, дабы ока пракажонное не заглянула бы сюды.

Ж о н к а *(зявае)*. Я рада гэтаму.

Д з я к *(зявае)*. Зевота заразітельна. *(Крэсціць рот.)* Это прызнак, што віно берет сілу над чалавекам і рэчот: павінуйся і спаць ідзі... но как тут спаць,— райскій кут, дай вволю наглядецся на цябе, пока к берагу воласці не прычаліт галава пісара, туга набітая марскім пяском.

Ж о н к а. Даражэнькі мой.

Д з я к. Галубачка мая.

Ж о н к а. І чаму ўсё не так.

Д з я к. А што, мая радасць?

Ж о н к а. Я хацела б, каб вы не былі дзякам.

Д з я к *(скідае падраснік)*. Вот, перад яснымі очыма волк в овечай шкуры.

Ж о н к а. О! Каб вас чэрці ўхапілі!

Д з я к *(жагнаецца)*. Опяць в отрадный начной час завёш власцеліна ада, опяць хочаш, штобы он, анафема, прынёс гадасць і недаразуменіе.

Ж о н к а. Ніхто не прыйдзе...

Д з я к. Ты знаеш лі, прэкрасная Юдіф, што еслі імя дзьявала вспамінают, он является, і дзело, какіх бы ні абешчало складчайшых пладоў, ізгадзіт так, што і сабакі нос атвернут, вот лучше сатвары плоды пакаянія. *(Дае румку.)*

Ж о н к а. Ніхто не прыйдзе, кажу другі раз.

П а д а р о ж н ы (пераадзеты Панас).

П а н а с. Добры вечар.

Дзяк і пісарыха спужаліся.

Ж о н к а. Ты хто, ты хто?

Д з я к. Прэдставіцель ада крамешнага, вызванный в начной час табою.

П а н а с. Я падарожны, з-пад Смаргоня іду, чы не будзе ласка ваша пусціць пaначаваць.

Ж о н к а. О не, тут няма месца, валі на сяло.

Д з я к. Скажы мне, кудзеснік, любімец багоў, ты музыкант?

П а н а с. Музыкант.

Д з я к. Так вот, смаргонскі музыкант, астанавісь, стань перада мной, как ліст перад травой.

П а н а с. Слухаю вас, стаю.

Д з я к. Ты мне сыграеш санату.

П а н а с. Я не толькі сыграю салдатам, але і генералу патраплю.

Д з я к. Самаркандская варона, саната — эта не салдат і не генерал, саната — эта есць саната, музыкальное тварэніе, навадзяшчае ужас на нас, грэшных, уразумел?

П а н а с. Ані ў зуб, нічога не ўцяміў, я, панок, чалавек цёмны, як воўк з лесу.

Д з я к. Ну, а што іграеш?

П а н а с. Вясковыя вытылінгачы.

Д з я к. Пачынай.

Панас іграе.

Д з я к. За слаўную ігру даю права начаваць пад крышай дома сяго, ты будзеш стаяць в прэддверыі ада і ахраняць мірный пакой мірных рабоў божыіх.

П а н а с. Гэта па маёй часці — вось толькі ўнясу мой мех, каб не ўкраў хто. *(Выйшаў.)*

Ж о н к а. А я б не пусціла.

Д з я к. І я не вездзе яго пушчу...

Панас уцягвае мех.

Д з я к. Не акадземію лі ты смаргоньскую влачыш за сабою?

П а н а с. Не, панок, трунне ўсялякія.

Д з я к. А скажы мне, смаргоньскій дзікабраз, віно п'еш?

П а н а с. Віна з роду не піў, а гарэлку часам п'ю.

Д з я к. На, выпі, і зайграй мне песню грусную...

Панас іграе.

Д з я к. Сіе тварэніе, ашчэ жывіцельны бальзам, пранікла ў маю душу і наполніла такавую да самага дна, музыка — эта сімвал грусці і вяселья... Венецыанская роза, а што на душы ў цябе?

Ж о н к а. У мяне на душы так салодка, што і сказаць не магу. І як жа не смяяцца: той асёл, вушы халод-

ныя, паслухаўшыся гутаркі дурных баб, пляцецца нейдзе на мора, у той час, калі я здарова. Ну, вып'ем.

Дзяк. Вып'ем і пажалаем, штобы ў твайго асла уму-разуму большэ было.

Жонка. Эй, музыка, зайграй нам вясёлую песню.

Дзяк. А мы запяём. Іерыхонава труба, пасылаю ў тваі вены яшчэ каплю зелена віна, пашлі мне голас псалмапеўца Давіда.

Панас. Пачынаю.

Жонка (*пяе*).

Матылёчак майскі мой,
Як шчаслiва я з табой.
Хачу кінуць гэты храм
І ляцець, дзе жыў Адам.

Дзяк.

О сапфір бясцэнный мой, я нявольнік, я раб твой,
Рад я кінуць гэты храм і ляцець, дзе жыў Адам.

Жонка.

Чымсь асобна нам тут жыць,
Лепей разам вечна быць,
Разам дзень з ноччу гуляць,
Разам шчасце карыстаць.

Дзяк.

О сапфір бясцэнный мой, я нявольнік, я раб твой,
Чымсь асобна нам тут жыць, лепей разам вечна быць.

Жонка.

Будзем пісару гукаць,
Каб не думаў сумаваць,
І радзей успамінаў,
І нам жыць не замінаў.

Дзяк.

О сапфір бясцэнный мой, я нявольнік, я раб твой,
Буду пісару гукаць, каб пакінуў нас шукаць.

Жонка.

Пісар дурны, як мяшок,
Едзе к мору на пясок,
Хоча мяне ратаваць,
Смерці ў руку не даваць.

Дзяк.

О сапфір бясцэнный мой, я нявольнік, я раб твой,
Буду цябе ратаваць, смерці ў рукі не даваць.

Жонка.

Пакуль пяску набярэ,
Ночка будзе на двярэ,

Я ж адна баюся спаць,
Дзяк, астанься начаваць.
Дзяк.
О сапфір бясцэнный мой, я нявольнік, я раб твой,
Мушу слухаць твой прыказ і на варце стаць ураз.
Жонка.
Няма ж майго Рыгора, пайшоў пяску на мора,
Як пайшоў, так і няма...
Дзяк. Тунда, тунда, тунданда.
Панас. Не вытрываю, запяю і я.
А мой жа ты, Рыгору, вылазь з меха на волю,
Канчук на сцяне, дай ты дзяку і жане.
Дзяку раз, жонцы два.

Пісар *(з мяшка)*. Тунда, тунда, тунданда. *(Б'е нагайкай іх абаіх.)*

Мар'я ў дзвярах пляскае ў далоні.

Заслона

# БЯЗВІННАЯ КРОЎ

*Драма ў трох актах*

## АСОБЫ

Г а с п а д а р — заможны шляхціц.
Г а с п а д ы н я.
С т у д э н т.
Ц і т - п а с т у х.
Д а р о т а.
Ф у р м а н.
С я л я н к а.
Х л о п ч ы к.

## АКТ I

### З'ЯВА I

У хаце заможнага шляхціца. Сам г а с п а д а р сядзіць у крэсле, чытае газету. Хворая ж о н к а сядзіць у другім канцы.

Г а с п а д а р. Чытаю і думаю, да чаго можа дайсці, азвярэўшы, утраціўшы воблік чалавека, чалавек. Трымаю ў руках газету, а мне здаецца, трымаю акрываўлены ліст паперы, надрукаваны кроўю людзей: там разбілі, там спалілі, а тут выразалі ўсю сям'ю. Няма закону, няма парадку. Чалавек, што быдлё: бізун з рук не выпускай.

Г а с п а д ы н я. А ты не чытай. Нашто трывожыць сваё сэрца крывавымі весткамі.

Г а с п а д а р. Як можна не чытаць? Мярцвяк у дамавіне перавернецца, а я — жывы чалавек. А прытым, газетная вестка малюе ўсю будучыню, якую нясе для нас вораг.

Г а с п а д ы н я. Які вораг?

Г а с п а д а р. А такі, каторы задушыць нас і адбярэ зямлю.

Гаспадыня. Не разумею.

Гаспадар. Многа чаго ты не разумееш!

Гаспадыня. Але ж выразней сказаць можаш? Які вораг адбярэ зямлю?

Гаспадар. А такі, які зусім недалёчка жыве ад нашага двара... А гэтых ворагаў шмат ёсць. Яны толькі і чакаюць, калі пажар гэты дакоціцца да нас, і тады мае абшары будзе рэзаць чужы плуг, а векавечныя лясы паваліць бязлітасная іх піла.

Гаспадыня закашляла.

Гаспадар. Ты маўчыш,— вусцішна становіцца пры мыслі, а як жа мне? Я ўжо бачу на тым далёкім небасхіле пажар і чую пах крыві людской.

Гаспадыня. Калі на тое пойдзе — частку зямлі аддамо.

Гаспадар. О не... зямлі я не аддам. Тут вітае дух маіх дзядоў, я чую голас іх, я бачу іх цені... Мне, слаўнаму патомку, лепш смерць.

Гаспадыня. Хто ведае, як будзе... Двор наш далёка ад гасцінца,— абмінуць.

Гаспадар. А двор князя абмінулі? Азвярэўшыя салдаты ў палацах князя парвалі на анучы габелены, парэзалі малюнкі Рафаэля, пасеклі мэблю.

Гаспадыня. Адкуль жа салдаты ўзяліся?

Гаспадар. Фронт кінулі... і з сялянамі рабуюць край. Дні чорныя прыйшлі для нас. Вайну прайгралі, законы пішуць усе, а мужыкі рады гэтаму бязладдзю, нажы точаць — адамсціцца хочуць.

Гаспадыня. Праўду кажучы, ты сам вінен...

Гаспадар. У чым мая віна?

Гаспадыня. Не маеш спагадных рук, якія б ратавалі цябе... ты...

Гаспадар. Што я?

Гаспадыня. Паневяраў ты вечна мужыком... зневажаў, як быдлё якое... калі бачыў перад сабою станавога...

Гаспадар. Як так?

Гаспадыня. А так. Ты ўспомні, як ламаў кіі на мужычых карках, калі што было не так. Аднаму Ціту горб набіў кіямі... Маўчыш?

Гаспадар. Словы не памагалі.

Гаспадыня. А кіі памагалі?

Гаспадар. Ах, пакінь ты свае маралі, твая галава больш занята справай чужой, чымсь сваёй...

Гаспадыня. Праз гэта я і памру раней, што адчуваю і чужыя слёзы. Не шкадую жыцця. *(Прыкрая паўза.)* Ах, хоць бы сын хутчэй прыехаў...

Гаспадар. Я прашу не ўспамінаць аб ім... Ён для мяне — чужы...

Гаспадыня. Які чорствы ты чалавек, і ён жа родны твой, век жыць не будзем.

Гаспадар. Перш чым мы памром, у нас можа нічога не быць, і сынку твайму не будзе на чым гаспадарыць, а па-другое, ён і сам не хоча гаспадаркі... Памятаеш, казаў зямлю аддаць мужыкам... Ён сацыяліст.

Гаспадыня. Дык што, калі сацыяліст. Што гэта, забойца які?

Гаспадар. Як хочаш разумей. У яго галава занята, каб задушыць багатага і даць прастору галадранцу.

Гаспадыня *(плачучы)*. Ды што — мой сын душагуб, за што ты зневажаеш мяне?

Гаспадар. Праўду кажу. Сын твой — вецер-буралом. У сталіцы сядзіць і водзіць рой бунтаўшчыкоў.

Прыкрая паўза.
Гаспадыня плача.

З'ЯВА II

Уваходзіць аканомка Дарота.

Аканомка. Прывяла кабеціна хлапца, што за падпасавіча маніцца аддаць.

Гаспадыня. Ты бачыла яго?

Аканомка. Ды чаму ж, бачыла... Вось гэтакае парасё, а ўжо на службу лезе.

Гаспадыня. Не з роскашы нябось... *(Да гаспадара.)* Ну што, возьмем падпаска?

Гаспадар. Ты сабе бяры, а я атрасаю рукі. Хутка самому ў пастухі наймацца прыйдзецца.

Аканомка. Начыталіся, паночку, газетаў і страху сабе нагналі. Плюньце, паночку, на гэту гармідасію, газеты шмат каму шпік высушылі і ў вар'яцкі дом загналі. Вось хоць бы ўзяць Лейзарава сына: чытаў дзень, чытаў ноч і дачытаўся да таго, што розум раскіс на зацірку, узлез на хату, запяяў пеўнем і... паляцеў старчаком уніз. Гаротныя бацькі костачкі сабралі, на могільнік завезлі,

і толькі. Свет не мае ні разумнага, ні дурнога. Я гэтай брыды ў рукі не бяру, у мяне раніцой і ўвечар на руках кантычка, а на вуснах слова божае, і верце мне, і на дах не палезу, і пеўнем не запяю.

Гаспадар. У гэтым напрамку ты шчаслівейшая, не маеш нічога і не чытаеш нічога... (*Паўза*). Гарэў двор князя, ты глядзела і не адчувала?

Аканомка. Бо чужое.

Гаспадыня (*да гаспадара*). Так скажы, возьмем хлапца ці не?

Гаспадар (*да аканомкі*). Пакліч...

Аканомка. Зараз клікну... (*Выйшла.*)

## З'ЯВА III

Сялянка, хлопчык і аканомка.

Сялянка. Дзень добры ў хату.

Гаспадыня. Гэтага хлапца аддаеш на службу?

Сялянка. Гэтага... адзін ён у мяне, сірата.

Гаспадыня. Адкуль, здалёку?

Сялянка. З Красналук, панечка.

Гаспадыня (*да аканомкі*). Паклічце Ціта.

Аканомка. А ён толькі прыгнаў быдла...

Гаспадыня. Ну, а плакаць па мамцы не будзеш?

Хлопчык. Я ўжо служыў і не плакаў...

Гаспадыня. Ну, і маладзец, падыдзі да мяне... (*Цалуе хлапца.*) Люблю дзяцей... (*Кашляе.*)

## З'ЯВА IV

Ціт (пастух)

Ціт. Даражэнькім панам шчырае прывітанне. (*Хоча цалаваць руку пані.*)

Гаспадыня. Ах, Ціт, калі барада ў цябе...

Ціт. Ваша праўда — як памяло... але барада — рэч вельмі добрая, ні шаліка, ні каўняра ніколі не трэба... І калі толькі верыць, што цыган мне казаў, то барадатых і смерць не любіць, каса аб валоссе тупіцца...

Гаспадыня. Вось табе, Ціт, падпасавіч, што скажаш?

Ціт. Гэты анельчык? Ну, што ж я скажу? Падзякую панам за ласку, а яго хваліць буду за службу... І як гэта на свеце ўсё складаецца: праз усю ноч сягоння дабіваўся шчыглік у хату,— прыгожы, рахманы, воч не ада-

рвеш! Абудзіўся я і думаю, як шчыгол да мяне прыляціць, аж во ён, шчыгол... Здароў будзь, сынок... (*Цалуе.*) Дзякую панам за ласку, а табе, маці, што ўзгадавала яго. Хлапец пад рукой — вялікая помач: бывае, у непагоду косці калі пачнуць ныць, калі пачнуць, здаецца, воўкам выў бы... а тут жывёла ў полі... ганяцца трэба, ну, і, не звяртаючы ўвагі, шамуль, ды калі крыкнеш: гэй, куды, рабая! (*Моцна крыкнуў.*)

Гаспадыня (*спужаўшыся*). Ты што гэта, Ціт?

Гаспадар. П'яны, ці якое ліха?

Ціт. З радасці памяць страціў.

### З'ЯВА V

Аканомка.

Аканомка. Звалі мяне?

Ціт. Звалі кароўку рабую.

Аканомка. Гэта што за жарты?

Ціт. І як жа мне не радавацца: усюды, дзе трэба косці старыя нясці, хлапчанё даляціць.

Гаспадыня. А ты рад, Ціт?

Гаспадар. Чаму не! Свой абавязак ды некаму другому на горб узваліць.

Ціт. Хіба ж, паночку, самі ведаеце, колькі працы валілі на Цітаў горб... хо! хо! хо! Ціт на сваім гарбе вёз усіх, хто хацеў ехаць, і маўчаў, а цяпер саслабеў, не важу нікога... А колькі Ціту кіёў уклеілі, паганяючы... ой, ой, пан, ведаеце!

Гаспадар. Пачаў ужо сваю валачобную...

Ціт. Ды я так сабе, успомнілася... цяпер мне не да гэтага... старасць агрэла, непагода мучыць мяне, на дождж круціць жылле, нібы чэрці на кантрабасы іх цягнуць, а ўночы баляць косці.

Аканомка. Вось язык, так язык... нібы вехаць.

Ціт. Ах, і ваша мосць тут! Выбачайце, што няўважна стаю; будзьце ласкавы, пасоўвайце свой нос бліжэй...

Аканомка. Пудзіла агароднае.

Ціт. Няхай буду пудзіла... (*Да гаспадароў.*) Жартаваць, паночкі, я люблю, але ўсё ж лічыце Ціта за спагаднага чалавека, які высока шануе вас.

Гаспадар (*да гаспадыні*). Рабі які канец з гэтым хлапцом.

Гаспадыня. Ну, дык скажы, кабеціна, за якую цану аддасі хлапца?

Сялянка. Хіба ж не скрыўдзіце?

Гаспадыня. Ну, добра, да каляд ён наш... пакармлю, апрану і заплачу.

Сялянка. Згодна, панічка.

Гаспадыня *(да аканомкі)*. Завядзіце яго на другую палавіну, пакарміце, а заўтра — да працы.

Аканомка. А красці ты, часам, не ўмееш?

Ціт. Во! Не ўцярпела, запыталася! Я скажу: хіба ад цябе навучыцца.

Аканомка. Пытаюся, бо хачу ведаць.

Сялянка. Крушні золата кладзіце — не возьме.

Ціт. І калі гэта, ваша мосць, іначай на людзей глядзець будзеце, няўжо гэта ўсё зладзеі?

Аканомка. Не адзывайся да мяне, гэта мая рэч.

Ціт. Пойдзем, дзіця!

Сялянка. І так, шчасліва заставацца. *(Выйшла з хлапцом.)*

Ціт. Яшчэ раз дзякую панам. *(Хоча пацалаваць руку.)*

Гаспадыня. Не трэба, Ціт, барада твая...

Аканомка. Ён увесь як пудзіла, хоць у каноплі.

Ціт. На вясну абое станем, я ў адным канцы агарода, а ваша мосць у другім... во зададзім жаху вераб'ям... *(Адыходзіць і наступае на нагу аканомцы.)*

Аканомка. Куды ж ты ўзбіўся, рынгутант, ці табе лупачы не свецяць...

Ціт. А ў чым жа рэч?

Аканомка. Косці пахрамсаў і яшчэ пытаецца.

Ціт. Косці! Як не сорамна лгаць, лапаць пахрамсаў косці.

Аканомка. Не ва ўсіх жа скура такая грубая, як твая.

Ціт. Што казаць, твая, мая цана, мусіць-то, адна...

Аканомка. Цьфу на цябе, вадзянік. *(Плюнула і выйшла.)*

Ціт. Я б крышку іначай плюнуў, ды паноў шаную.

Гаспадар. Застаў нас адных.

Ціт. Пайду, мой дарагі пан, але хацеў адно здарэнне ўспомніць.

Гаспадар. І да раніцы, пэўне, не скончыш?

Ціт. Кароценькае, во гэтачкае.

Гаспадыня. Будзь ласкаў, Ціт, я рада слухаць.

Ціт. Выправіўся я раз з суседам Анупрэем у горад дзіваў паглядзець. Сусед узлажыў дзедаўскія з жалез-

нымі падкоўкамі боты, а я — босы, і пайшлі. Невялічкі я тады быў, але ведаў, што нам, мужыкам, сярод дарогі выгадней ісці. Кажу Анупрэю: «Не лезь, дзядзька, на тыя дошкі, дзе паны ходзяць», а ён нібы не чуе, лезе ў самы гушчар. Пакінуў я Анупрэя ды йду адзін. Толькі вокам я міргнуў, аж бачу — успёрся мой Анупрэй з ботамі на нагу нейкай пані. А міленькія мае! Калі заякоча яна ды калі ўгрэе Анупрэя парасонікам па носе, аж застагнаў, бедны, але ўсё ж, не ўтраціўшы прытомнасці, ссунуўся ўбок, хацеў, знаць, саступіць, ды шась на нагу нейкаму пузатаму пану, і той, як каршун, на яго, згроб аберуч Анупрэеву бараду ды калі даў, то, як казаў бядак, з галавы званіца зрабілася, у сто званоў званіць пачало. Вырваўся ён з рук таго пузатага дабрадзея ды пытаецца ў мяне, ці цэла барада, а я кажу яму: «На адну драку яшчэ хваціць». Ідучы дамоў, мой Анупрэй сказаў, што больш у места не пойдзе, каб зусім бароды не страціць. Так і я: загадаваў бараду, як засланку, і рад, што ўзімку ні шаліка, ні каўняра не трэба.

Даруйце, паночкі, заняў вас дурной размовай, а аканомка няпраўду казала: лапаць ці бот касцей не паломіць. *(Выйшаў.)*

Г а с п а д а р. Ну, як? Задаволена апавяданнем?

Г а с п а д ы н я. І раней, і цяпер я слухаю гэтага жартаўлівага чалавека, і як жа іначай: ён пры мне састарыўся, ён аддаў свае сілы нам, я яму верыла, слухала, а чаму не слухаць цяпер?

Г а с п а д а р. Чуў я гэта не раз, але кожны павінен ведаць сваё месца: маёй думкі ніхто не павінен ведаць. Кожны чалавек у гэты грозны час можа быць шкадлівы.

Г а с п а д ы н я. А гэты якраз не; ён гатоў жыццё сваё аддаць за нас, ён узгадаваў мне сына.

Г а с п а д а р. Сацыяліста! Вялікая заслуга...

З'ЯВА VI

Уваходзіць ф у р м а н з газетамі і пугавішчам.

Ф у р м а н *(здаволена)*. Паночкі, даражэнькія... ах, выбачайце: перш лісты і газеты. *(Дае гаспадару замест газет пугавішча.)*

Г а с п а д а р. Ты спіш?

Ф у р м а н. А бадай яго, бадай... з радасці памяць утраціў...

Г а с п а д ы н я. А чаго ж так узрадаваўся?

Ф у р м а н. Толькі гэта скончыў я смактаць люльку і пацягнуў апошні дымок у вантробы, аж чую, калі раўне цягнік, калі чмыхне, як бугай, ды ла-та-та-та на вакзал... Адкуль толькі ўзяліся людзі...

Г а с п а д а р. Ці карацей, часам, не можна?

Ф у р м а н. Скарачу, панок, скарачу. Адкуль, значыць, узяліся людзі! Адны з вагона, а другія ў вагон... пасыпаліся праз галовы бочкі, мяшкі, дзеці, бабы... гусі... парасяты, і я, значыць, кінуўся ў гушчар... Тут нехта — тыц у рукі мне газеты і кажуць хавацца... Спужаўся я... і не ведаю, што рабіць... але як хавацца, так хавацца... разагнаўся гэта я — ды калі шухнуў убок... І сам не агледзеўся, як узбіўся на козлы. Конь сабе пайшоў памаленьку, а я, нібы пан, еду сабе, еду, еду сабе, еду...

Г а с п а д а р. І дакуль ты, боўдзіла, будзеш плясці?

Ф у р м а н. І вось еду сабе, еду сабе... еду, пугавішча ў руках, люлька ў зубах... аж бачу: чалавек нейкі йдзе... Прыглядаецца на збажынку, кветкі рве... з адзежы нібы і мужык, а з фігуры — пан... руку акалечаную на стужцы трымае. Пад'ехаў я да яго і толькі рот разявіў, каб запытацца, куды йдзе... аж тут і люлька рываліся, і вочы паказеліліся...

Г а с п а д ы н я. Хто ж гэта быў, хто?

Ф у р м а н. Паглядаю, як баран, і тпру...

Г а с п а д ы н я. Але ж кажы, хто той чалавек?

Ф у р м а н. І вось неяк памяць з'явілася... і я ўбачыў перад сваіма люльку ў возе — і паніча нашага...

Г а с п а д ы н я. Хто? Сын?

Ф у р м а н. Ён, наш панічок даражэнькі!

Г а с п а д а р. Лёгкі на ўспамін.

Г а с п а д ы н я. Дзе ж ён, дзе?

Ф у р м а н. Ды за Лысай гарой застаўся... кветкі рве, на збажынку ўглядаецца і руку, значыць, на стужачцы трымае...

Г а с п а д ы н я. Чаму ж ты яго не падвёз?

Ф у р м а н. Ды я б яго на руках прынёс, але не захацеў. Кажа, не прывык да роскашы, і пайшоў сабе памаленечку, кветачкі рвучы ды на збажынку ўглядаючыся. Зараз падойдзе.

Г а с п а д ы н я. Як я рада, як я рада! Сынок мой тут, радасць мая тут!

Ф у р м а н. І як я не спазнаў, сам дзіўлюся... Усё ў галаве пакілбасілася... і цягнік, і мяшкі, і бабы, дзеці і

газеты... Ну, пабягу на сяло, вестку людзям дам... (*Стукнуў шапкай аб падлогу, зарагатаў і выбег.*)

Г а с п а д а р. У званы зазваніце...

Г а с п а д ы н я (*хоча ўстаць, але не можа*). Дзе ж мае сілы! Сын мой тут, чуе неспакой, дадому едзе... (*Успамінаючы.*) Ці то мне здалося, ці такі фурман праўду казаў, што рука зраненая, будзь ласкаў, скажы.

Г а с п а д а р. Усё можа быць; у пятым годзе прыехаў — скуру казацкія нагайкі зрэзалі, а цяпер маглі раніць. Хто з чым ваюе, той ад таго і памірае.

Г а с п а д ы н я. Які адказ, які адказ, як балюча!

Г а с п а д а р. Ты не дзівіся, я іначай не магу. Сын твой не гасіць прыехаў агонь, а падпальваць.

Г а с п а д ы н я. Няпраўда...

Г а с п а д а р. Але пакуль я жыў, пакуль не астыне кроў, я не аддам прадзедава гняздо нікому. Лепш бачыць смерць, чым быць здрайцам і не датрымаць прысягі, каторую я даваў свайму бацьку. Ён, седзячы ў гэтым крэсле перад смерцю, заклінаў мяне бараніць прадзедавыя гоні... і я іх бараню...

Г а с п а д ы н я. Калі ж ён прыйдзе... чаму не йдзе?

## З'ЯВА VII

Убягае с т у д э н т, рука на павязцы.

С т у д э н т. Матуленька! (*Цалуе.*)

Г а с п а д ы н я. Сыночак! Што з ручанькай?

С т у д э н т. Пустое. Усё добра... (*Да гаспадара.*) Ну, як здаровы? (*Хоча прывітацца.*)

Г а с п а д а р (*ухіляючыся*). Як глянеш на твар, адразу відаць.

Г а с п а д ы н я. Сыночак, не муч мяне, што з ручанькай?

С т у д э н т. Нічога страшнага! Было і прайшло...

Г а с п а д ы н я. Чаму ж не пісаў аб сваім няшчасці?

С т у д э н т. Бо ведаў вашы слабыя сілы...

Г а с п а д ы н я. Я цяпер буду здарова, я цяпер хачу жыць... Ну, хваліся, як жыў?

С т у д э н т. Жылося ўсяк.

Г а с п а д ы н я. Змучаны, схудалы... Што з табой, сынок?

С т у д э н т. Вялікая праца выпала на долю маю... пэўне, чулі, матуленька, якая навальніца абурылася на царскі трон?..

Гаспадыня. Чула, сыночак, і радавалася...
Гаспадар. Спявай гімн шчасця.
Студэнт. Трон абурылі... а колькі беднага народу лягло!
Гаспадар. А хто клікаў гэту беднату на смерць?
Студэнт. Жыццё клікала... *(Да гаспадыні.)* Няўжо бацька і па гэты час разважае па-старому?
Гаспадар. Я не змяняю погляду.
Студэнт. І я таксама...
Гаспадыня. Сыночак, пакінь спрэчку... Бацька вораг лепшай долі... Сонца свеціць толькі для яго... Скажы мне, чыя на табе вопратка?
Студэнт. Майго сябра.
Гаспадыня. А твая ж дзе?
Студэнт. Мая была скачаная... скрываўленая...
Гаспадыня. Што я чую!
Студэнт. О, матуленька... каб бачылі, якая была бойка... народ біты валяўся, як трэскі. Быў і я між імі.
Гаспадыня. І як жа ты жыў застаўся?
Студэнт. Не ведаю...
Гаспадыня. На пацеху маю, дарагі сынок, лёс пакінуў цябе... Ты цяпер мой, не выпушчу з рук... Заўтра ты ў мяне будзеш адзеты, як лялька.
Студэнт. Матуленька, добра будзе і так.
Гаспадыня. Ну, як можна... Гэта вопратка не па табе.
Студэнт. Розніцы няма ніякай.
Гаспадыня. Як жа няма?
Гаспадар. Паміж добрай адзежынай і нейкім рыззём...
Студэнт. Павярхоўная розніца... Бывае, што ў багатага пад яго дарагой вопраткай б'ецца сэрца вялікага грэшніка, а ў чалавека, адзетага ў лахманы,— вялікага праведніка.
Гаспадар. Так скажы мне, вялікі праведнік...
Студэнт. Даруйце, я гэтага вялікага імені не нашу, я — самы звычайны чалавек.
Гаспадыня. Сыночак! Ён проціў гэтай вопраткі; мне здаецца, на расшыты золатам мундзір і зоркі на грудзях ён нічога не сказаў бы. *(Гэта кажа іранічна.)*
Студэнт. А я проціў гэтага шыку, душа павінна быць бліскучая!
Аканомка *(праз дзверы)*. Полудзень гатоў.

Гаспадыня. Ну, сыночак, падтрымай мяне, я пайду пакармлю цябе, здарожыўся...

Студэнт. Рад слухаць вас, матуленька. *(Паўза.)* А хіба ж мы адны?

Гаспадар. Я шчаслівы, калі адзін...

Гаспадыня *(да гаспадара)*. Будзь жа ласкаў, прыходзь. *(Пайшлі.)*

Гаспадар *(адзін)*. Чула маё сэрца, ныла праз увесь дзень, і чаго ён прыйшоў сюды, што добрага зробіць? Як і раней, збярэ мужыкоў і пачне ім галовы тлуміць...

## З'ЯВА VIII

Уваходзіць фурман.

Гаспадар. Табе чаго?

Фурман. Ад грамады, значыць, паніча клічуць... Сяляне, як дачуліся, што прыехаў, так мяне ледзьве не раздзёрлі... адзін пытаецца, другі пытаецца, трэці пытаецца, чацвёрты пытаецца. Макрына пякла бліны — кінула, Супрон лавіў рыбу — кінуў...

Гаспадар. Асталоп ты... годзе лапатаць!..

Фурман. І ўсе пытаюцца і пытаюцца, а я кажу аднаму, кажу другому, кажу трэцяму, кажу чацвёртаму... наказаў, чаго — і сам не ведаю, кажу, значыць, як стаў на вакзале цягнік, як шухнулі з вагона бабы, бочкі, дзеці, гусі...

Гаспадар. Выходзь, боўдзіла, бо я цябе іначай паганю...

Фурман. А пасля кажу ім, як чмыхнуў я ўбок... як скакануў на козлы і як убачыў паніча... а пасля, значыць, як кветкі рваў, на збажынку ўглядаўся і руку, значыць, акалечаную на стужачцы...

Гаспадар. Пакінь мяне і выходзь!

Фурман. Гляньце, што робіцца на сяле... Народ сыпле, як на вяселле... Адны кажуць — зямля наша, другі кажа — зямля ваша... а я крычу, каб клікалі музыкаў, упрысядкі пайду.

Гаспадар *(прыйшоў да дзвярэй, адчыніўшы іх)*. Выйдзі!

Фурман. Пайду, пайду, але ад грамады, значыць, сяляне, як дачуліся, так ледзьве мяне не раздзёрлі. Адзін пытаецца, другі пытаецца, трэці...

Гаспадар. Вон!

Фурман (*выйшаў і пад акно*). Так будзьце ласкавы, паніча на сход, там і Макрына, і Супрон, бабы, бочкі, гусі... (*Знік.*)

Гаспадар. Злятаюцца дзікія каршуны з усіх бакоў, чуюць спажыву, чуюць смерць, а я... адзін, пакінуты, павінен бараніцца... Ох, ох! Каб усталі з магіл мае дзяды ды глянулі, што парабілася... гром... навальніца.

### З'ЯВА IX

Уваходзіць аканомка.

Аканомка. Паночку! I на гэты раз паніч прывёз лісткоў мяцежных: у сенцах цэлы стус ляжыць.

Гаспадар. Прывёз?

Аканомка. Ціт ужо круціцца каля іх,— пэўна, пачне раздаваць сялянам. Хіба прынесці паказаць?

Гаспадар. О, не! Не чапай!

Аканомка. Даруйце, пан, але я вас не паслухаю; і так кругом гарыць, а тут новыя мяцежнікі... Я лісткі спалю.

Гаспадар. Я сам ведаю, што рабіць...

Аканомка. Штодня мой план ідзе наперад, паніч і цяпер — сацыяліст, ні зямлі, ні гаспадаркі не хоча, гаспадыня незадоўга памрэ. Ціта прагонім, а гаспадара разам з зямлёю возьмем у прыпол. (*К дзвярам.*)

### З'ЯВА X

Уваходзіць Ціт. Наступіў на нагу аканомцы.

Аканомка. Ты зноў узбіўся на нагу!

Ціт. З такой неспадзеўнай радасці не толькі на нагу — і на галаву ўзаб'ешся.

Аканомка. Каб ён свету не ведаў, чаму гэта я з ім у дзвярах спатыкаюся...

Ціт. Крычаць трэба, калі свой доўгі нос у дзверы вытыркнеш: Ціт, сцеражыся, я паўзу, а Ціт таксама будзе галёкаць: Дарота, адчыняй вароты, едзе Ціт-галота.

Аканомка. Бач, як адразу паразумнеў.

Ціт. Я і раней дурней за цябе не быў, умён, разумён і на капейку грамацен, галава-булава, барада, як засланка, лапці-цюхцявікі, кум каралю — дый годзе!

Аканомка. Каралю?

Ціт. А няўжо ж такой лазе, як ты?

Аканомка. Рынгутант ты.

Ц і т. Чую.

А к а н о м к а. Кракадзіл ты...

Ц і т. Чую.

А к а н о м к а. Ваўкалак, разбойнік ты.

Ц і т. Ну, калі разбойнік, то трымайся, чортава цешча: гэта будзе па-разбойніцку! *(Бярэ за карак і выкідвае.)*

А к а н о м к а. Я на цябе пану пажалюся.

Ц і т. Не пужай, мой абаронца прыехаў.

А к а н о м к а. Я на цябе стражнікаў, ураднікаў... *(Выходзіць.)*

Ц і т. Пакуль твае ўраднікі з фронту прыйдуць — спарахнееш!

## З'ЯВА XI

Уваходзіць с т у д э н т.

С т у д э н т. Ціт, родны мой!

Ц і т. Панічок, мілы! *(К руцэ.)*

С т у д э н т. Ціт, давай пацалуемся, як брат з братам... Вось так. Ну, кажы, чакаў ты мяне?

Ц і т. Як сонца, штодня. Панічок, а што з рукою?

С т у д э н т. У той час, калі ты спаў, Ціт, у сталіцы здабывалі волю і ўміралі, не ўбачыўшы яе... О, колькі ж лягло людзей! Ты разумееш, Ціт! Смерць на парозе шчасця!

Ц і т. Разумею, панічок.

С т у д э н т. Вось і я быў там, але застаўся жыў.

Ц і т. Чула маё сэрца, што вы ў агні.

С т у д э н т. Так, Ціт! Смерць не раз заглядала і мне ў вочы.

Ц і т. О, не! Вы, панічок, павінны жыць, я хачу вас бачыць гаспадаром і памерці пры вас. Я ж вас сіратою няньчыў, спавіваў, калыхаў, бараніў ад спякоты, ад мух; я, на вас гледзячы, маліўся, як на святое дзіця. Бывала, запяю над калыскай — дзіцятка засне, зайграю на жалейцы — смяецца...

Пасля падраслі... Ціт пазнаёміў вас з мужычым жыццём. Ціт правёў розніцу паміж курнай хатай і царскім палацам... Ціт зблізіў вас з мужычымі дзецьмі і разам пялі «Долю»,— панічок мой, мужычую долю... *(Пяе «Долю» і плача.)* Пяю, бывала, тую песню, а слёзы сыплюцца на сівую світку, быццам то сама доля плача, што мы такія гаротныя.

Студэнт. Ціт, не плач. Голас тваёй песні не памёр — жыве... Твая песня, як вецер, вольная, панеслася к народу, і злажылася ў гімн, і пераходзіць з вуснаў у вусны.

Ціт! Дзякуючы табе я — барацьбіт за волю; дзякуючы табе я з народам, бо ты навучыў мяне, як любіць брата. Ты — мой настаўнік, дзякую табе. *(Цалуюцца.)*

Ціт. Я і тады бачыў гарачае сэрца... радаваўся гледзячы... Слёзы бедных людзей і тады ранілі ваша сэрца...

Студэнт. А шмат слёз было!

Ціт. Адзін айчым колькі наздзекаваўся над народам... глядзець не можна было...

Студэнт. Грозны цяпер час... Можа быць крывавая помста.

Ціт. А скажыце, панічок, ці скончыцца гэты неспакой, забойствы, грабествы?

Студэнт. Скончацца, калі народ узвядуць на добрую дарогу, а наш народ, бедны, сляпы, блудзіць у пушчы. Трэба безупынна працаваць, вучыць,— і тады, як чалавек у чалавеку ўбачыць брата, будзе добра. Сляпога не судзяць, калі ён ткнецца на плот, так і народ наш...

Праз дзверы паглядае аканомка.

Студэнт. Маю да народа адозвы... частку раздам сам, а частку раздасі ты. *(Дае адозвы.)* Няхай чытаюць: тут словы праўды.

Ціт. Добра, што не запомнілі, хоць бы пан не ўбачыў... вельмі ж не рад панічу.

Студэнт. Не хавайся, Ціт, тут злога нічога няма. Я прыехаў, каб прынесці карысць, бо ведаю, які трывожны час.

Ціт. Вось жа аб тое. Салдаты, кінуўшы фронт, поруч з сялянамі нішчаць усё.

## З'ЯВА XII

Уваходзіць гаспадыня, апіраючыся на плячо хлопчыка-пастушка.

Гаспадыня. Сыночак, і чаму ж не йдзеш?

Студэнт. Убачыў Ціта, здаецца, роднага брата напаткаў...

Ціт. Я так рад, так рад. *(Выйшаў.)*

Гаспадыня. Пойдзем, сыночак.

Студэнт. Каб ведалі, матуля, як прыкра пазіраць

адзін аднаму ў вочы! Я разумею, што айчым не зносіць мяне, так нашто мне йсці?

Г а с п а д ы н я. Але ж зрабі гэта для мяне, пойдзем...

С т у д э н т. Рад слухаць вас.

За сцэнай голас гаспадара: «Стой, слуга мяцежны, стой! Гэта ў цябе што? Афішкі, інструкцыя, як зямлю дзяліць, хто табе даў? Ён — мяцежная душа?»

Г а с п а д ы н я. А што, сыночак, вось і шум.

С т у д э н т. Чую, чую...

З'ЯВА XIII

Убягае г а с п а д а р з афішкамі.

Г а с п а д а р. А, мяцежная душа! Кажы, што хочаш рабіць са мной?!

Г а с п а д ы н я (*садзіцца на дыване*). Што з табою, чаго ты?

Г а с п а д а р. Я пытаюся, чаго ты прыехаў, што хочаш рабіць са мной?

С т у д э н т. Зусім нічога.

Г а с п а д а р. Яшчэ й жартуеш!

Г а с п а д ы н я (*кашляе*). Чаго ты прыстаў да яго, чаго?

Г а с п а д а р. А што ж ты хацела, каб вораг у маёй хаце на покуце сеў? Не дачакаеш ты, не дачакае і ён!..

С т у д э н т. Вы мяне лічыце ворагам?

Г а с п а д а р. Цябе, цябе! Ты вораг не толькі мой, але ўсіх тых, каму праца дала спосаб мець грошы і зямлю. Вы хочаце задушыць нас і на трупах нашых гуляць дзікую вакханалію поруч з дзікім народам...

Гаспадыня плача.

С т у д э н т. Я вас не разумею, вы чыталі гэтыя лісткі?

Г а с п а д а р. Ды няхай мае косці кінуць сабакам, калі я ўскіну свой погляд на гэты мяцежны прызыў! Як гіне гэта папера, так згінь ты ад мяне. (*Рве афішкі і кідае ў твар.*)

Г а с п а д ы н я. Я не перажитыву гэтага, не пераживу.

С т у д э н т. Не плачце, матуленька, ці аднаго мяне пабілі каменнямі?.. Не плачце.

Г а с п а д а р. Каменнямі білі толькі ліхадзеяў...

С т у д э н т. Тады дазвольце вам сказаць, што вы —

патомак тых ліхадзеяў, якія кідалі каменне ў сваіх вучыцеляў... Я гаварыць больш не буду і не магу... я трымаюся тых слоў вялікага прарока, які сказаў: не сейце бісеру перад свіннямі, бо яны патопчуць...

Гаспадар. Так будзь ты праклят, мяцежная душа!.. Ад гэтай хвілі каб і нага твая на парозе не была!.. Вон!..

Гаспадыня ўскрыквае і памірае.

Студэнт *(да маткі)*. Мамачка, мамачка, што з вамі?

## З'ЯВА XIV

**Убягае Ціт.**

Ціт *(на каленкі перад гаспадаром)*. Пан, за што, за што?

**Заслона**

# ГАНКА

*Драма ў пяці актах*

## АСОБЫ

Палкоўнік, былы ваяка японскай вайны, без левай рукі, любіць выпіць, балака, 50 гадоў.

Яго жонка, жорсткая кабета, 40 гадоў.

Студэнт Васіль, круглы сірата, узяты з мужыцкай сям'і, 20 гадоў.

Ганка, пакаёўка, 18 гадоў.

Пастух, бацька Ганкі, 45 гадоў.

Хімка, слуга палкоўніцы, 16 гадоў.

Пясецкая, багатая ўдава, вар'ятка, 50 гадоў.

Марыся, яе дачка, 18 гадоў.

Альфонс, збяднелы дваранін, заляцаецца да Пясецкай, 35 гадоў.

Незнаёмы, перавознік-падпольнік, 30 гадоў.

Дзяўчынка, дачка Ганкі, 7 гадоў.

2 ураднікі.

Хор.

### ТЫПЫ [1]

Палкоўнік — сівы, з вялікімі вусамі, гаворыць па-вайсковаму, у голасе чуваць каманда.

Яго жонка — хітрая кабеціна, гаворыць павольна.

Васіль — упачатку нясмелы, бязвольны хлапчук, а пасля зусім іншы.

Ганка — прыгожая дзяўчына.

Пастух — звычайны селянін, перш з невялікай барадой, а пасля зусім сівы, з доўгай барадой.

Пясецкая — камічная кабеціна, на ёй старасвецкая вопратка; сівая.

Альфонс — апрануты ў фрак гарохавага колеру, сам рыжы, валасы прылізаныя.

Незнаёмы — нібы звычайны рабочы, апрануты па-сялянску: боты, світка; твар аброслы, выразныя вочы, гаворыць разважна, курыць люльку.

---

[1] У гэтай п'есе, як ў некаторых іншых, не для ўсіх персанажаў пазначаны драматургам сцэнічныя тыпы. *(Рэд.)*

# АКТ І

На сцэне гаспадыня сядзіць за сталом у роспачы.

Гаспадыня. Банкрот, банкрот, банкрот,— час аплаты вэксаляў, а тут, хоць запалі, грошай ані шэлега! *(Звоніць)*. Зноў няма, і дзе яна гіне!

Убягае Ганка.

Гаспадыня. Ты чаго задыхалася?

Ганка. Бегла.

Гаспадыня. Куды ты ўсё бегаеш?

Ганка. Ды нікуды, так, за гару.

Гаспадыня. Дзіўна, штодзень бегае за гару,— учора бегала, сягоння бегала; выглядаеш каго?! *(Паўза.)* Пакліч мне пана, а потым ідзі на панадворак і чакай. Зараз павінна пані Пясецкая ехаць, папросіш яе да нас.

Ганка. Слухаю, пані. *(Пайшла.)*

Гаспадыня. Яшчэ адзін план... Калі не ўдасца, усё згіне.

Уваходзіць палкоўнік.

Палкоўнік *(трохі падвыпіўшы)*. Здравія жалаю, Венера Мілоская.

Гаспадыня. О, рад, вясёл, як сонца вясною... Ужо пахмяліўся?

Палкоўнік. А так, чарачку гакнуў!

Гаспадыня. Яму нічога не страх.

Палкоўнік. Наш брат вайсковы нічога на свеце не баіцца.

Гаспадыня. Прыйдзі ты да памяці, паглядзі навокал сябе,— даўгі зарэзалі, прададуць з малатка ўсё.

Палкоўнік. Дык што ж зрабіць загадаеце? Пад мост пайсці з нажом?

Гаспадыня. Толькі чую жарты, жарты ды жарты. Зараз улезе ў мае пакоі мужычы лапаць, а ён байкі бае.

Палкоўнік. Ты ведаеш, баба?.. Усё можа быць магчыма — па нашых паркетах зашапаціць мужычы лапаць!

Гаспадыня. Здурнеў, дальбог, здурнеў.

Палкоўнік. А цікава будзе глянуць,— і дзед і прадзед нічога падобнага не бачылі, а я — патомак іх — убачу, як мужычок прыгорне да сваіх рук нашы маёнткі.

Гаспадыня. Ну, годзе, мне не да жартаў, трэба ратавацца. Я намысліла дзеля спасення адзін досыць хітры план.

Палкоўнік. Хітры? Прынцыпова не слухаю.

Гаспадыня. Ды пакінь ты жарты, сэрца крывёю абліваецца, а ён...

Палкоўнік. Валі праўду — я твой, а хітрыкі гані вон.

Гаспадыня. Чакай, чакай, мілы мой, пажартуеш, калі з малатка прададуць і лес, і зямлю ды не будзе чаго есці.

Палкоўнік. Пайду зноў у полк і буду з салдатамі гарох есці.

Гаспадыня. Размова скончана; будзеш слухаць ці не?

Палкоўнік. Валі праўду — я твой!

Гаспадыня. Я атрымала ліст. Сягоння павінен прыехаць студэнт.

Палкоўнік. Сягоння прыедзе Васіль?

Гаспадыня. Ну што ж асаблівага! Прыедзе і будзе тут.

Палкоўнік. Рад, вельмі рад. Прыедзе мой гадунец.

Гаспадыня. Сам ведаеш,— ён нам чужы. Гэта, што мы ўзгадавалі сірату і давялі да становішча студэнта, не прымусіць яго, каб ён нас любіў, як бацькоў, і шанаваў бы нашу старасць.

Палкоўнік. Э, куды хваціла! Дай мне ўспомніць, як ён выглядае. Год не бачыў.

Гаспадыня. Зноў пляце глупства!

Палкоўнік. Зусім не. Хлопца я шаную і люблю яго, як сына. Вось, як сягоння памятаю,— мужычок бацька, мужычка маці жывуць у курнай хаце, паміраюць, застаецца дзіця, круглая сірата... Ану яго сюды! Выкручваю са зрэбных пялёнак, гадую, вучу, даю дарогу ў інстытут.

Гаспадыня. Так вось прыедзе Васіль!

Палкоўнік. Свята, вялікае свята!

Гаспадыня (*грозна*). Ты будзеш слухаць ці не?

Палкоўнік. А нашто крык!

Гаспадыня. Яму ўжо 18 год!

Палкоўнік. Самы грэнадзёр.

Гаспадыня. Трэба яго пазнаёміць з дачкой пані Пясецкай і...

П а л к о ў н і к. І павесіць...

Г а с п а д ы н я. Не павесіць, але ажаніць.

П а л к о ў н і к. Не адно ліха — ці павесіць, ці ажаніць...

Г а с п а д ы н я. Па-мойму, не адно.

П а л к о ў н і к. А на якое ліха яго жаніць?

Г а с п а д ы н я. Трэба так. Яна адна дачка, багацце незлічонае. Аб тым, што ён мужычы сын, яны не ведаюць.

П а л к о ў н і к. Але нашто ўсё гэта?

Г а с п а д ы н я. Ажаню Васіля, возьмем вялікі пасаг, ад якога стане на ногі наша гаспадарка.

П а л к о ў н і к. Так, план твой хітры. Значыцца, на чужым няшчасці хочаш будаваць сваё шчасце! Вось мая рэзалюцыя: Васіля не вешаць, але аддаць у вайсковую акадэмію, а цябе за хітрыкі пасадзіць у карцэр на дзесяць дзён. *(Пайшоў у бакоўку.)*

Г а с п а д ы н я. Не хочаш?! Як хочаш, не буду пытацца тваёй згоды, а зраблю сама: Васіля ажаню з дачкой пані Пясецкай, вазьму які хачу пасаг, а пасля зайграю на свой лад. Яму ўсё жарты... Я хлопца выцягнула з мужыцкага балота, аддала ў інстытут, плачу гэтакія грошы і буду ля мора пагоды чакаць. О, не, я буду глядзець удаль, бо, як бачу, жабракамі будзем!

Убягае Г а н к а з вялікай радасцю.

Г а н к а. Пані Пясецкая едзе з вакзала!

Г а с п а д ы н я. Што з табой?

Г а н к а. Толькі, значыць, я выйшла за гару, аж убачыла...

Г а с п а д ы н я. Каго ты ўбачыла?

Г а н к а. Паніча нашага!

Г а с п а д ы н я. Паніч тут?

Г а н к а *(паказваючы ў акно)*. Вось гляньце ў акно! *(Убачыла грозныя вочы гаспадыні і панурылася.)*

Г а с п а д ы н я *(пасля вялікай паўзы)*. Ну, добра, але чаго ты пачырванела як рак!

Г а н к а *(упаўшым голасам)*. Нічога, гэта я бегла.

Г а с п а д ы н я. Ідзі сабе! *(Ганка пайшла.)* Якраз у пару. Хлапец спакойны, прыцісну — ажэніцца, а старая вар'ятка раскашэліцца. Усё аддасць яму, а ён мне.

Уваходзіць с т у д э н т у закураных ботах, з клумкам у руках.

С т у д э н т. Добры дзень, цётачка! *(Шапку трымае ў руках.)*

Гаспадыня. Ну, мой каласок, прыехаў!

Студэнт. Прыйшоў.

Гаспадыня. Рада, вельмі рада! Год не бачыла! Ну, сядзь! Як навука? Перайшоў на другі курс?

Студэнт. Перайшоў.

Гаспадыня. Выбачай, дзеткі, мала пасылала грошай: бяда за бядой; дзядзька на вайне руку як страціў, гаспадарку апусцілі. *(Глядзіць яму на ногі.)* Што ж ты гэтак закурыўся?

Студэнт *(стукаючы шапкай па халявах ботаў)*. У дарозе, цётачка.

Гаспадыня *(адвярнулася, нездаволена)*. Пехатой, бядак, з вакзала пракульгаў? Ну што ж — маладому сем міль не ў наклад. Прабег і не заўважыў.

Студэнт. Як здароўе дзядзькі?

Гаспадыня. Меле языком, як цэпам. Зараз убачыш. Ганка! *(Кліча. За сцэнай аказалася Ганка.)*

Студэнт, пачуўшы голас Ганкі, крута павярнуўся.

Гаспадыня *(убачыла гэта. Зразумеўшы)*. Пакліч пана, прыгатуй панічу вады! *(Паўза.)* Прыгожы ты хлапчук і вучышся добра, толькі бяда наша — не зможам памагаць табе больш.

Студэнт. Як? Што?

Гаспадыня. А так, прыйдзецца распрадаць усю маёмасць — і гайда за граніцу.

Студэнт. За граніцу? А мяне?

Гаспадыня. Як ні шкада, а прыйдзецца тут пакінуць.

Студэнт. Цётачка, што вы?

Гаспадыня. Нічога дзіўнага! Калі нам толькі хто не дапаможа, я гаспадарку прадаю — і гайда за граніцу!

Студэнт. Ад каго залежыць помач?

Гаспадыня *(хітра)*. Вось ад каго!

Студэнт. Цётачка, скажыце, што зрабіць? Я гатоў на ўсё.

Гаспадыня. Ну-ну, пабачым!

Студэнт. Усё, што загадаеце, зраблю.

Гаспадыня. Гэта мяне радуе!

Студэнт. Дык скажыце, цётачка, не мучце!

Гаспадыня. Ну, добра, скажу, але раней памыйся і прыходзь.

Студэнт пайшоў.

Г а с п а д ы н я. Здаецца, усё будзе добра. Мужычая натура — што лаза: гні як хочаш і куды хочаш.

Уваходзіць Г а н к а.

Г а н к а. Пані Пясецкая тут!

Г а с п а д ы н я. Ага, пабягу прыму. *(Выйшла.)*

Г а н к а. О, што са мной? Трасуцца рукі, заныла сэрца, як убачыла, што выйшаў з-за гары. Убачыў мяне і пытае: «Ганначка, ці памятаеш мяне?» Я сказаць нічога не магла, іскры пасыпаліся з вачэй, ці помню я... Год як быў тут, і штодня сустракаліся за гарой. Эх, шчасцю нашаму не было канца. А пасля паехаў, а ад'язджаючы казаў: «Ганка, я прыеду, не запомні!» І вось год, як выхаджу за гару і ўглядаюся, ці не едзе мой сакалок. І здавалася мне, што ўжо пакінуў, не прыедзе... Аж не. Ён тут, я жыву.

Пры гэтых словах увайшоў с т у д э н т і напалову гэты маналог чуў.

С т у д э н т. Ганначка!

Г а н к а *(спалохаўшыся, але радасна)*. Ах, як вы спалохалі мяне.

С т у д э н т. Ну, чаго ж ты спалохалася? Я ж той самы, ты ж мяне памятаеш?

Г а н к а. Памятаю.

С т у д э н т. Ганначка, як у вёсцы добра, вачэй не адарваць. А там, у пушчы, нешта незвычайнае,— птушкі заліваюцца, а сонца ж свеціць як!

Г а н к а. Я чую, як пяюць птушкі, і часта слухаю, як лес шуміць.

С т у д э н т. Шчаслівая ты, Ганundefinedуся, што можаш слухаць казкі векавога лесу. А я, жывучы ў горадзе, засумаваў па табе. Скажы, Ганначка, у пушчы ты бываеш часта?

Г а н к а. Бываю рэдка.

С т у д э н т. А за гарой?

Г а н к а. Штодзень.

С т у д э н т. Адна?

Г а н к а *(з жалем)*. Адна.

С т у д э н т. Скажы, памятаеш усё?

Г а н к а. Усё памятаю, год чакала.

С т у д э н т. Ну, то добра. А мы з табой пойдзем зноў туды, у пушчу, каб паслухаць, аб чым цяпер яна будзе нам шаптаць. Ну, скажы, пойдзем?

Ганка. Скажаце — пайду.

Студэнт. Ганусеся, мая родная! Як я рады, што маю шчасце бачыць тваe блакітныя, як неба, вочы! Яны, як васількі з каласістага жыта, паглядаюць на мяне і запаляюць іскру былога кахання. Ганначка, ці верыш ты, што я таксама, як і раней, люблю цябе? *(Паўза.)* Ну, скажы, мая зорка! *(Ганка маўчыць.)* Я зразумеў цябе.... Не месца тут. Заўтра ўвечары за гарой ты мне скажаш, а цяпер бяжы, мая каханая! Чую — цётка надыходзіць. *(За сцэнай чуваць гоман.)* Што ж, Ганусеся, будзеш?

Ганка. Буду, мой даражэнькі!

Абое пайшлі ў бакоўку. Уваходзіць гаспадыня і Пясецкая.

Гаспадыня. Выбачайце, даражэнькая, што затрымала на дарозе.

Пясецкая. Я сама прасіла, калі прыедзе студэнт, паведаміць мне.

Гаспадыня. Прыехаў, толькі што з дарогі.

Пясецкая. Дык дай жа мне яго, пакажы!

Гаспадыня. Зараз паклічу!

Пясецкая. Я на яго гляну і зараз скажу, ці будзе даспадобы, ці не, бо Марыся пакладзецца на мяне.

Гаспадыня. Будзе даспадобы, будзе!

Пясецкая. Я многа не хачу: зяць павінен быць дваранін, любіць прыроду, любіць Марысю і мяне.

Гаспадыня. Будзе даспадобы, будзе!

Пясецкая. Век мой кароткі, усё ім здам на рукі, а сама буду жыць *(уздыхнула)* з прыродай.

Гаспадыня. Ці варта аб гэтым казаць?

Пясецкая. А я і забылася, з каго паходзіць студэнт. Ён дваранін?

Гаспадыня. А то як жа! Самай чыстай крыві дваранін, патэнтаваны дваранін.

Пясецкая. Ну, калі ж ён выйдзе? Я чакаю.

Гаспадыня. А вось зараз. *(Кліча.)* Васіль! Васілёчак!

Уваходзіць Васіль з закасанымі рукавамі, з расшпіленым каўняром і з ручніком у руках.

**Гаспадыня** *(не пабачыўшы яго)*. Васілёк. Гэта пані Пясецкая, пазнаёмся. *(Глянула на яго.)* Няўжо ж ты яшчэ не памыўся?

Студэнт. Яшчэ не паспеў.

Пясецкая. А ці не вас я спаткала на дарозе?

Гаспадыня засланіла сабой студэнта, дае знак, каб ён выйшаў.

Студэнт. Так, гэта быў я.

Пясецкая. Няўжо ж вы пехатой ішлі?

Студэнт. Э, не першыня.

Гаспадыня. Ён у нас такі, любіць прыроду. *(Няўзнак павярнула яго і выпхнула вон.)*

Пясецкая *(не пабачыўшы гэтага)*. Першы раз бачу, каб так любіў прыроду: пехатой сем міль!

Гаспадыня. Маладыя ногі.

Пясецкая. І моцныя нервы. Гэткія людзі радуюць мяне. Прырода для мяне — найвялікшая асалода жыцця. Вясной ажывае прырода, ажываю і я. Зімой памірае прырода, паміраю і я. А скажыце мне, пан студэнт... *(Паўза.)* Дзе ж ён?

Гаспадыня. Засаромеўся, уцёк... Маладзёнак яшчэ!

Пясецкая. А шкада, я хацела пагутарыць аб прыродзе. Прыгожы хлапчына, дваранская постаць, нос, падбародак, вочы, ну, і наогул усё такое! Ну што ж, будзем гаварыць з Марысяй! А я згодна, ён мне спадабаўся.

Гаспадыня. І Марыся будзе згодна.

Пясецкая. Для сваіх дзяцей душу аддам. Век мой кароткі, жыву, пакуль прырода. Ну, мая дарагая, я павінна ехаць. Марыся адна сумуе.

Гаспадыня. Ай, ай, як хутка. Ну, буду прасіць разам з Марысяй. Трэба пазнаёміць маладых.

Пясецкая. Пазнаёмім і ажэнім. *(Кажуць гэта некалькі разоў. Цалуюцца і са смехам выходзяць.)*

Выходзяць палкоўнік і студэнт з бакоўкі.

Палкоўнік. Цяпер ты наш! Ад гэтага дня лічу цябе палонным, адбяру аружжа і пастаўлю вартавых, каб не ўцёк.

Студэнт. Які суровы загад!

Палкоўнік. Так, брат, суровы! Сядзі да самай восені ў нашых межах.

Студэнт. Пабуду тут не вельмі многа.

Палкоўнік. О не, я не згодзен; ты павінен адпачыць, а потым з новымі сіламі да навукі. Навука любіць людзей здаровых. Ты думай сабе, што мы з табой на бі-

вуаку. Ноч... Лагер наш... І вораг спіць. Адны вартаўнічыя ўглядаюцца ўдаль.

Пры гэтых словах увайшла гаспадыня.

Гаспадыня. Пачаў ужо сваю валачобную!

Палкоўнік. Я так і ведаў, сарвала ў мяне думку.

Гаспадыня. Твая размова мала цікавая, можна і пасля!

Палкоўнік. Што каму: бабе — сырадой, а салдату — вайна на першым плане. Кажы! Слухаю!

Гаспадыня. Скажы мне, Васілёк, як навука ішла?

Студэнт. Кульгаючы.

Палкоўнік. Ха, ха, ха! Жартаўлівы хлапец, адразу відаць! Калісь у даўнія часіны быў у мяне салдацік жартаўлівы. Бывала, вернецца з выведкі і такіх вестак паднясе, такіх вестак... Дзівіцца трэба. Ваша благароддзе, грыт...

Гаспадыня. Пачаў ужо!

Палкоўнік. Але, ваша благароддзе, грыт... Залеглі мы ў кустах і бачым — двое мусульман ідуць. Сталіся. Мой салдацік з унцерам за кустом і сядзяць, а пасля калі гакнуць: «Стой!» *(Моцна крыкнуў.)*

Гаспадыня *(спалохаўшыся)*. Ах, з ім жыць мог бы толькі салдат.

Палкоўнік. Ты сказала праўду! Душу салдата можа зразумець толькі салдат. Значыць — стой! Японцы ад страху як салома паляглі, а пасля, як убачылі, што нашых двое, хапіліся за стрэльбы. Эге-ге, братцы мае! Вось мой салдацік на хітрыкі пайшоў. «Стой,— кажа,— басурманская шэрсць! Нашто нам кроў дарэмна праліваць? Давай лепш толкам разбярэмся, каму палонным быць?» — «Давай»,— адказалі японцы і наважылі барокацца вось гэткім спосабам. *(Схапіў упол студэнта.)*

Гаспадыня. Чакай, чакай; ты памяць страціў?

Палкоўнік. Ды я хацеў паказаць, як мой фельдфебель японцу косці пакрамсаў. Вось, значыць, пачалі. Фельдфебель гне сабе, а японец — сабе. Гляджу я на барцоў і думаю — хто ж каго? Аж бачу — захістаўся японец, затупаў, як казёл, нагамі, расцягнуўся на траве.

Гаспадыня. Вось і салгаў! Цябе ж там не было.

Палкоўнік. А ты слухай і маўчы. *(Паўза.)* І так фельдфебель расплытаў японца, а другі палажыў майго унцера.

Студэнт. Палажыў?

Палкоўнік. І так палажыў, што той не важыўся ўставаць. Я памог на ногі паставіць.

Студэнт. Ну, і што было?

Палкоўнік. А было тое, што фельдфебель прывёў да мяне японца, а унцера павялі ў Японію... А цяпер яшчэ адно здарэнне.

Гаспадыня. Але дай жа мне з ім гаварыць.

Палкоўнік. Будзь ласкава, прашу. Ты не дзівіся! Вайсковая душа на волю рвецца, атакі, баталіі ды кананады сняцца.

Гаспадыня. Скажы мне, Васілёк, як скончыш навуку — на каго ты пойдзеш?

Студэнт. На агранома.

Палкоўнік. Падавайся ў вайсковыя!

Студэнт. А ці ж добра будзе?!

Палкоўнік. Будзеш грозны для ворага і мілы для салдата, скончыш акадэмію... Поле для працы, ну, дасі гарту ворагу! Паміраючы, будзе ўспамінаць. Прыкладам, пойдзеш ты ў атаку... Ты ведаеш, што такое атака?

Студэнт. Збольшага.

Палкоўнік. Атака — гэта гураганны налёт на ворага... Думай сабе, што гэта сцяна — наш вораг, а загад кажа з бою ўзяць усё. Ну, і пайшла рваць дружына! Толькі пыл ды дым. Смерць косіць направа і налева. Ні сваяк, ні знаёмы не пападайся пад рукі, усе на валасок ад смерці. Вораг бяжыць, а мы з крыкам «ур-ра»... *(Моцна крычучы ды ідучы па пакоі.)*

Гаспадыня. Стой, стой!

Палкоўнік. Стаю. У, як трапечацца сэрца. Я, брат, часамі забываюся, што я ў хаце. Мне здаецца, што я на вайне. Ну, цяпер ты зразумеў атаку?

Студэнт. Зразумеў.

Палкоўнік. Цяпер ты гавары з цёткай, а я хвілінку адпачну.

Гаспадыня. Усё роўна не дасць нічога сказаць.

Палкоўнік. Даю, будзь ласкава, даю!

Гаспадыня. Скончыўшы інстытут, будзеш аграномам?

Палкоўнік. Гэта пытанне... Вайсковая акадэмія на дарозе стаіць.

Гаспадыня. Не ўцярпеў-такі!

Студэнт. Так, цётачка, пайду! *(Глянуў на палкоўніка.)*

Палкоўнік. Васіль!

Студэнт *(глянуў на гаспадыню, убачыў яе суровыя вочы)*. Пайду на гаспадарку.

Палкоўнік. Прапаў адзін генерал!

Гаспадыня. Ды не прапаў гаспадар; будзеш мець свой хлеб, гаспадарку на слуг здаць нельга, слуга ніколі не спрыяе пану.

Палкоўнік. Ну, ясна, тады трэба жаніцца.

Гаспадыня. А хто цябе за язык цягне?

Палкоўнік. Выбачай, вайсковага за язык не пацягнеш, бо ён зубам калі хваціць, як мяне аскепкам гранаты.

Гаспадыня. Ну, будзь ласкаў, не ўспамінай! Я без болю ў сэрцы не магу перанесці.

Палкоўнік. А я перанёс. Рука адляцела, што лісток з дрэва, нават і не чуў.

Гаспадыня. Хвалішся, мой родны.

Палкоўнік. Кажу праўду. Добры салдат і на галаву не звяртае ўвагі, калі яна коціцца з плеч. А ты, браце, жаніцца не спяшайся. Нагуляйся добра, а пасля... Я супраць жанення, калі яно не ў пару.

Гаспадыня. Я цябе не разумею. Ты не ведаеш, у чым справа, пачынаеш плесці глупства.

Палкоўнік. Мілая і дарагая жонка, я добра ведаю, у чым справа... Не старайся атакаваць хлопца, бо ён дасць адпор.

Гаспадыня. Я прашу — не перапыняй размову.

Палкоўнік. Студэнту не патрэбна жонка, але навука.

Гаспадыня. Я сама ведаю, што яму патрэбна.

Палкоўнік. Студэнт, без бойкі не здавайся, ведай сабе тое, што муж — гэта вярблюд, які цягне праз усё жыццё паклажу і сам не ведае за што. Твая мэта — вайсковая акадэмія, атака, кананада, баталіі, а бабу — фіц... Хадзем піць гарбату! *(Пайшоў.)*

Гаспадыня. Намалаціў, намалаціў і пайшоў.

Студэнт. Як мне здаецца, дзядзька праўду кажа.

Гаспадыня. Слухай не дзядзьку, а мяне. Ты ж добра ведаеш, праз каго ты студэнт і хто аплачвае права навукі...

Студэнт. Ведаю... За гэта вечна ўдзячны.

Гаспадыня. Наша становішча найгоршае. Гаспа-

дара няма, і дзе гаспадара няма — гіне ўсё. Парабкі — зладзеі, а я адна. Так вось, баючыся таго, каб наша дабро не дасталося ў рукі мужыкоў, я адпісала ўсё табе.

Студэнт. Мне? За што такая міласць?

Гаспадыня. Ты наш выхаванец. Усё роўна што наш сын.

Студэнт. Я хацеў іначай жыць.

Гаспадыня. Як іначай? Няўжо разам з мужыкамі? Ну, аб гэтым пакінем... І вось я хачу, каб гаспадарку ўзяў у рукі ты, каб на маіх абшарах красаваўся наш шляхецкі герб, каб ты не дазволіў па нашай смерці таптацца мужыку з брудпымі нагамі. Дзядзька на ўсё глядзіць скрозь пальцы. Я сіл не маю, а гаспадарка патрабуе моцнай рукі, і вось, пакуль ты тут, трэба ўзяцца за працу.

Студэнт. Я згодзен хоць зараз.

Гаспадыня. Ты ж не падумай, што я цябе хачу ўпрэгчы ў саху. Зусім не. Я хачу, каб людзі працавалі, а тваё вока было б усюды.

Студэнт. Дрэнны з мяне наглядач.

Гаспадыня. У гэтым-то і бяда. Вось дзеля чаго і сам пехатой па сем міль ходзіш, і права навук яшчэ не аплочана. А чаму? Бо ў нас няма грошай. А потым я хачу цябе... ажаніць.

Студэнт. Мяне?

Гаспадыня. Чаго ж так спалохаўся? Ажаніць — самая звычайная рэч. Ажаніць з багатай паненкай.

Студэнт. О не, цётачка, баюся і памысліць.

Гаспадыня. Зноў раблю гэта для таго, каб у тваю адсутнасць гаспадарка апіралася на моцныя плечы. Табе трэба вучыцца, а мне трэба глядзець, каб быў хлеб і для цябе, і для мяне.

Студэнт. О не, цётачка. Не патрэбны мне ні жонка, ні грошы.

Гаспадыня. А ты ж абяцаў мяне слухаць. Твая адзінота, як і наша адзінота, прывядзе наша шляхецкае гняздо да заняпаду. Паўміраем мы: хто наменнік? Ты. І што ж ты зробіш адзін? Ці табе будзе ў галаве гаспадарка? Будзеш ты ў сталіцы куціць направа і налева, а ў нашых пакоях засядзе лапаць, мужычая руда.

Увайшла Ганка.

Гаспадыня. Ты павінен ажаніцца з дачкой пані Пясецкай. Прыгожая паненка. *(Ганкі не бачыць.)*

Студэнт (*убачыўшы Ганку*). О не, цётачка, гэтага не абяцаю.

Гаспадыня. Ну, хіба захочаш пайсці супраць нас? Але павінна напомніць табе, што ад гэтага будзе дрэнна,— кіну памагаць і будзеш зноў голы студэнт. (*Павярнулася і ўбачыла Ганку.*) А ты чаго тут?

Ганка (*з болем*). Пан просіць, каб ішлі. Чакае...

Гаспадыня (*нездаволена*). А я і забылася. Хадзі, дзетка, я пакармлю цябе. (*Адыходзіць і ўбачыла, што студэнт хоча спыніцца з Ганкай. Грозна.*) Васілёк! (*Пайшлі.*)

Ганка (*адна*). Так, вось і паненку панічу сватаюць багатую, вучоную дваранку. Не зайздрошчу, але радуюся шчасцю людзей. Абы ім добра было. Толькі ў мяне нічога лепшага ў будучыні няма. Мужычка я, бедная батрацкая дачка, не маю права думаць ні аб шчасці, ні аб долі і сказаць нікому не магу, што ў маім сэрцы жыве. Павінна маўчаць і маўчаць. О, доля батрачкі. О, шчасце наймічкі. Дзе ж ты? (*Плача, прыпаўшы к сталу.*)

Заслона

## АКТ II

Лес. На пні сядзіць пастух, пляце лапаць. З'яўляецца студэнт, у руках кніжка.
Студэнт аглядаецца па баках, убачыў пастуха.

Пастух. Добры дзень, панічок.

Студэнт. Скаціну пасеш?

Пастух. Скаціну.

Студэнт. Яшчэ не ўзыходзіла сонца, а я праз сон чуў голас пастуха, які зазываў на паству скаціну.

Пастух. Досвіткам стараюся выганяць, авадні не дакучаюць.

Студэнт. Шчаслівы селянін тым, што можа бачыць усё хараство прыроды.

Пастух. А якая карысць яму ад гэтага, калі ён за працай сонца яснага не бачыць?

Студэнт. І гэта праўда.

Пастух. Нарадзіўся мужык,— следам за ім холад, голад, хвароба, бяда... Змагайся, бо зломіць, як шчэп-

ку. Пераківаўся, не даўся ў лапы смерці,— другое ліха на дарозе: пажар, навальніца. Панам другое. Ім ні сеяць, ні баранаваць, хлеб гатовы сам прыйдзе.

Студэнт. Ты ж, браток, не лічы мяне за пана.

Пастух. Чаму, паніч, так кажаце?

Студэнт. Табе ж ведама, хто я. Таксама мужык.

Пастух. Мала што калі было. Паніч цяпер пан. Вучоны і чалавек добры.

Студэнт. Нічога добрага я не зрабіў для вас.

Пастух. Ласкавае слова — і то радасць селяніну.

Студэнт. Ад каго табе чуць яго? Нябось далей панскіх абшараў нідзе не бываеш.

Пастух. Ды ведама. Больш на полі ды ля дзвярэй палацаў панскіх.

Студэнт. Нябось пані палкоўніца часта благаслаўляе?

Пастух. Пан — чалавек добры, а сама гаспадыня за сабаку лічыць.

Студэнт. І Ганначку крыўдзяць?

Пастух. Яна маладая, менш адчувае, а калі часам і зашчыміць сэрца, дык ненадоўга.

Студэнт. Пацярпі, браце, прыйдзе лепшы час, менш будзе бяды.

Пастух. Страціў я веру, панічок. Жабраку адвеку жабрацкая доля.

Студэнт. Ганначку тваю выцягнем адтуль, вучыць пачнём.

Пастух. Вось гэта добра было б. Здольнае дзіця, вялікую ахвоту да навукі мае.

Студэнт. У палкоўніка лесу выпрасім, хату адбудуем.

Пастух. Мой лес яшчэ расце. Не хутка гэта будзе. Дзякую.

Студэнт. Я не жартую, давай прасіць у палкоўніка.

Пастух. Не турбуйцеся, панічок, пажыву яшчэ так. Можа, за свой мазоль і адбудуюся.

Студэнт. Не верыш у ласку панскую? *(Пастух махнуў рукой.)* А скажы, браце, як даўно згарэла твая хата?

Пастух *(уздыхнуў)*. Гадоў пяць назад.

Студэнт. Здаецца, і жонка твая... *(Пастух заплакаў.)* Давядзі, браток, усё, як было.

Пастух. Баліць сэрца, калі ўспомніш. Не хацеў бы

крaтaць зa жывую рaну, aле тaкой бяды. Нa полі я з дaчушкaй прaцaвaў, a жонкa хворaя ляжaлa ў хaце. Быў гaрaчы летні дзень, прaцaвaлі і рaдaвaліся, aле рaдaсць aбярнулaся ў слёзы. Сонцa схaвaлaся зa хмaрку, зaмігaцелa мaлaнкa, пaсыпaўся дождж з грaдaм, удaрыў пярун, і недaлёкa нaс, здaвaлaся, у лес удaрыў. Аж не, бaчым — зaлілaся нaшa вёскa полымем. Пaкуль дaбеглі — усё згaрэлa. І жонкa, спaкой вечны, смерць тaм знaйшлa. Пaхaвaў жонку, сіл нa гaспaдaрку не меў, пaйшлі дa пaноў нa службу. Гaнуся школу пaкінулa, a тaк добрa вучылaся, цешылa мяне, як скончыць нaвуку... жыць будзем. Ах, вось яно, жыццё. Гэтa ж я зaгaвaрыўся, a скaцінкa мaя куды хaця рaзбрылaся. Дзякую, пaночку, што пaслухaлі мяне, мужыкa; з рaдaсці плaкaў бы, ды слёз нямa. Выплaкaў усе. *(Пaйшоў.)*

С т у д э н т. Бедныя людзі. Пaрaбчaне пa прыгaвору.

Пaдыходзіць н е з н a ё м ы з вязкaй дроў нa плячaх.

Н е з н a ё м ы *(мaлaды хлaпец, aброслы бaрaдой. Прыглядaецца дa Вaсіля)*. Вaсіль, ты?

С т у д э н т. Зaрэжце — не пaзнaў.

Н е з н a ё м ы. А я цябе пaзнaў aдрaзу.

С т у д э н т. Здaроў, брaток. Якaя зменa, брaт, з тaбою?

Н е з н a ё м ы. Ды яно ведaмa, жывучы ў лесе — хaрaствa не нaжывеш.

С т у д э н т. Чaго ж ты тут у лесе?

Н е з н a ё м ы. Хочaш ведaць? Скaжу.

С т у д э н т. Вельмі цікaвa. *(Селі.)*

Н е з н a ё м ы. Жыву тут нездaлёк, пры возеры, нa берaзе, пaд лодкaй.

С т у д э н т. Хібa жaртуеш? Нa берaзе, пaд лодкaй?

Н е з н a ё м ы. Перaвознік, a перaвознікі ўсе тaк — пaд лодкaй.

С т у д э н т. Няўжо ты не змог чaго лепшaгa дaбыць? Ты ж кaлісь вучыўся сa мной рaзaм у інстытуце. І бaч, вучоны чaлaвек-перaвознік.

Н е з н a ё м ы. Не кожнaму суджaнa быць пaмешчыкaм.

С т у д э н т. Ну вось, aдрaзу ты і пaкрыўдзіў мяне. Ці ж я пaмешчык? Адкуль ты гэтa ўзяў? Ты ж добрa ведaеш, хто я.

Н е з н a ё м ы. Выбaчaй, брaт, я не хaцеў. Перaвознік я пa свaёй волі. Ад тaго чaсу, як мяне выслaлі сa

сталіцы, пасядзеў у адным, у другім астрозе, тут абраў сабе месца і жыву паводдаль ад шуму гарадскога.

Студэнт. І што ж тут добрага знайшоў?

Незнаёмы. Глебу добрую. Хіба не бачыш, навокал колькі вёсак? А там адна, другая фабрыка, чыгунка недалёчка, рабочых шмат.

Студэнт. Ага, зразумеў.

Незнаёмы. Гледзячы як ты зразумеў.

Студэнт. Значыць, і цяпер ты вольна мысліш?

Незнаёмы. І цяпер, і заўжды.

Студэнт. Не спалохаў цябе ні астрог, ні высылка з сталіцы.

Незнаёмы. Наадварот, больш загартаваў.

Студэнт. Браток, рад я, што сустрэў цябе. Я і раней, калі мы разам былі ў інстытуце, душой гарэў да вольных думак. Я дзень і ноч будаваў планы, як мне злучыцца з працоўнай беднатой, але спосабу мне не было. Цяпер буду прасіць цябе, дай мне працу. Я ўвесь, і сэрцам і душой, з рабочымі, сялянамі.

Незнаёмы. Не ведаю, што табе сказаць. У той час, калі цябе я ведаў, ты падабаўся мне, бо ў тваёй асобе бачыў я роднага па духу, па крыві. А цяпер хто ведае, якіх поглядаў ты? Жывеш ты ў людзей, якія карыстаюцца з чужога поту.

Студэнт. Я той самы, які і быў. Палкоўніцкія рамкі не змяняюць пачуцця, якое жыло і жыць будзе ў мужыцкім целе.

Незнаёмы. Пані палкоўніца жорсткі чалавек. Сялян эксплуатуе і крыўдзіць як мага. Я выступаў не раз на абарону іх; ну, што ж — цкаваць пачала, паліцыю ўзняла, аблаву зрабілі і пасадзілі ў астрог.

Студэнт. Ну, і што?

Незнаёмы. Быў суд, сяляне не выдалі, канцы гладка захавалі, а тым часам год адседзеў.

Студэнт. Ну, і палкоўніца. Як зямля яе носіць?

Незнаёмы. Зямля ўсіх носіць.

Студэнт. Я ніколі не думаў, каб яна была такая гадаўка.

Незнаёмы. Старайся больш пазнаваць людзей, убачыш не гэта. Прытым, хіба не адрозніваеш класы, да якое належыць гэта пані?

Студэнт. Цяпер ясна.

Незнаёмы. Пара табе ведаць, што мы, рабочыя і сяляне,— ворагі паноў, а яны — нашы.

Студэнт. Ну, ды як жа будзе, аб чым прашу?

Незнаёмы. Пакуль што не скажу нічога. Часцей прыходзь, а там пабачым, у душу тваю загляну глыбей.

Студэнт. Сам я мужычы сын.

Незнаёмы. А не будзь так, я б табе не даў веры, прайшоў бы міма. Ведаю, усё ведаю. (*Паўза.*) Ты на каторым курсе?

Студэнт. На другім.

Незнаёмы. Ты што ж — на адпачынак сюды прыехаў?

Студэнт. Так.

Незнаёмы. Як жа думаеш адпачынак скарыстаць?

Студэнт. Давай працу, я ўвесь твой.

Незнаёмы. Ну вось, мы твой адпачынак скарыстаем для другой справы.

Студэнт. Рад вельмі гэтаму.

Незнаёмы. Спіш дзе?

Студэнт. У садзе, у альтанцы, пад бярэзінай.

Незнаёмы. Кантроль які над табой ёсць?

Студэнт. Ніякага.

Незнаёмы. І калі б ноч-другую ты не з'явіўся начаваць — не заўважаць?

Студэнт. Ды не.

Незнаёмы. Ну, дык вось. Спі больш удзень, а ночы каратаць мы будзем для справы палітычнай.

Студэнт. Добра.

Незнаёмы. Дык вось сягоння і прыходзь, як толькі сцямнее.

Студэнт. Прыбягу.

Незнаёмы. Мяне ты не бачыў і ні слова са мной не гаварыў.

Студэнт. Вялікі сакрэт.

Незнаёмы. За адно неасцярожнае тваё слова...

Студэнт. Жыццём заплачу. (*Азіраецца.*)

Незнаёмы. Ты чаго азіраешся. Выглядаеш каго?

Студэнт. Ды нічога, я так...

Незнаёмы. Толькі не мані, кажы мне праўду. Людзі, якія працуюць са мной, павінны быць высокай сумленнасці. Пастуха ведаеш?

Студэнт. Ведаю.

Незнаёмы. Цэлымі днямі гавару з ім. А вось бачыш... жабрак... А дачку Ганусю?

Студэнт. Служыць яна ў іх.

Незнаёмы. Добрае дзіця, штодзень бачу. Выбежыць за гару і ўглядаецца ў бок вакзала. Каго яна чакала, не ведаю. А прыгожа, ведаеш, глядзець; вецер развявае яе валасы; здаецца, каб умеў — малюнак намаляваў бы. *(Чуваць песня Ганкі. Студэнт зацікавіўся. Незнаёмы заўважыў.)* Лёгкая на ўспаміны. Ганка, ідзі сюды. *(Студэнт больш зацікавіўся.)* Ты чаго так зацікавіўся?

Студэнт. Ды нічога, я так.

Незнаёмы. Толькі не мані. Абяцаў казаць мне праўду. Ну, мне з табою быць нельга. Даведаецца пані палкоўніца, няхай яе немач! Будзе бяда. Хадзем! *(Пайшлі разам.)*

Падыходзіць Ганка спяваючы.

Ганка. Прыйшла я, а чаго — і сама не ведаю. Учора казаў мне быць за гарой, а сам, пэўна, з другой. Эх, вялікая гара між намі. Ніколі не абмінуць яе. І нашто яму ісці сюды, да каго? Да мужыцкай дачкі, да беднай наймічкі? Любы мой панічок, не ідзі сюды, цурайся мяне, цурайся. *(Села на калоду і плача.)*

Падышоў студэнт.

Студэнт. Ганначка.

Ганка. Ах, я думала, што я тут адна.

Студэнт. А я думаў, што цябе, Ганначка, не будзе. Ну, скажы, Ганначка, чаму ты так думала?

Ганка. Бо на вас лепшая чакае.

Студэнт. Я не бачыў той лепшай і глядзець не хачу.

Ганка. О не, так не кажыце, месца маё да парога.

Студэнт. Ганулся, што ты гэтым хочаш сказаць?

Ганка. А тое, што я мужычка.

Студэнт. Ганулся, усе мы людзі.

Ганка. Ваша праўда... людзі, але розніца між намі ў тым, што з адным можна гаварыць пры людзях, а з другім — хаваючыся ў лесе.

Студэнт. Ганулся, як ты разумна развважаеш. *(Хацеў пацалаваць.)*

Ганка *(спыніла)*. Што вы, панічок?

Студэнт. Ганначка, якая ж ты нядобрая.

Ганка. Даруйце мне.

Студэнт. А ці рада ты, Ганулся, што мы разам?

Ганка. Год чакала.

Студэнт. Год чакала. (*Прыкрая паўза.*)

Ганка (*дае яму кветкі*). Гэтыя кветкі на памятку вам, мо калі ўспомніце Ганку — яны завялі.

Студэнт. Дзякую, Ганnormalуся. Я на іх век буду глядзець. Яны мне будуць напамінаць шчырую, добрую Ганусю. (*Кветкі палажыў у кніжку.*)

Ганка. Няхай будзе так.

Студэнт. А скажы, Ганначка, ты бывала тут, дзе калісь мы рвалі кветкі?

Ганка (*з болем*). Ах, чаму ж вы так не разумееце мяне?

Студэнт. Адна?

Ганка з болем глянула яму ў вочы.

Студэнт. Разумею. Ганначка, разумею. І чаму я не вольная птушка; на тую пару, як ты бывала тут, я прыляцеў бы сюды...

Ганка. Нашто я вам, мужычка?

Студэнт. Ганначка, калі ты яшчэ так скажаш, я ад цябе пайду.

Ганка (*за руку*). А я не пушчу.

Студэнт. Ну, тады не жартуй з маім сэрцам, калі яно так шчыра б'ецца да цябе. Усе мы з мужыкоў. Ні кароль, ні князь, не зваліўся з неба з гэткім тытулам. Чуеш?

Ганка (*уздыхнула*). Чую.

Студэнт. Ну, чаго ж ты ўздыхнула, галубачка?

Ганка (*заплакала*). Эх, як цяжка было чакаць год.

Студэнт. Ганнуся, ты плачаш? Скажы, дарагая, чаго? Я сэрцам адчуваю нейкую трывогу.

Ганка. Панічок мой дарагі. Каб ведалі, як шчыра я кахаю вас. Хоць не можна гэтага казаць, але я забылася на ўсё, год чакала, год мучылася, а цяпер ад радасці слёзы.

Студэнт. Ганначка, дарагая, любіш?

Ганка (*абняла і пацалавала*). Шчыра, горача.

Студэнт. І чаму я раней гэтага не чуў? Чаму раней не ацаніў цябе, мужычае дзіця?

Ганка. Нічога мне не трэба. Я за адну хвілю шчасця аддам жыццё, а гэта шчасце тут, пры мне.

Студэнт. Ганнуся, я ўсхваляю той дзень, калі я пазнаў цябе. Я прысягаю перад гэтым блакітным небам, што ты не будзеш адна.

Ганка. Сон, толькі сон.

С т у д э н т. Ты пачакаеш год?

Г а н к а. І што тады?

С т у д э н т. Я скончу інстытут, і ты будзеш маёй.

Г а н к а. Я пачакаю і дзесяць год, а вашай не буду.

С т у д э н т. Чаму?

Г а н к а. Не магу быць вашай жонкай, не магу. А наглядзецца ўволю дайце мне, бо хутка надыдзе тая пара, калі вас пазнаёмяць з багатай паненкай, і тады Ганка павінна заняць сваё месца.

С т у д э н т. Ганнуся, ты будзеш маёй, і наша шчасце будзе вечным.

Г а н к а. Не будзе яно спрыяць ніколі, бо на вас чакаюць людзі лепшыя, чым я.

С т у д э н т. Ты мая лепшая, адзіная, ты мужычае дзіця, і сам я мужычы сын; мы родныя па духу, па крыві, гэта я скажу ўсім.

Г а н к а. Адкрыць перад людзьмі сваё каханне мы не можам, а шукаць радасць тут, у лесе, не заўжды можна.

С т у д э н т. Ну, дык выступім перад усімі і скажам. Няхай усё тое, што было страхам, будзе смелым і вольным.

Г а н к а. Не выступім і не скажам, бо адно слова вашай цёткі разбурыць усё.

С т у д э н т. А я цёткі не паслухаю. *(Чуваць голас гаспадыні: «Васілёк, Васілёчак». Студэнт спахапіўся.)* Цётка ідзе.

Г а н к а. Сон, толькі сон.

С т у д э н т. Ганнуся, уцякаем разам.

Г а н к а. Я не маю права быць з вамі разам; заставайцеся, мой дарагі.

С т у д э н т. Ганнуся, заўтра будзь у пушчы, там нас ніхто не пабачыць.

Г а н к а *(з болем)*. Я ж вам казала, адкрыць перад людзьмі сваё каханне мы не можам.

С т у д э н т. Ах, Ганначка!

Г а н к а. Буду, мой дарагі, буду.

Абняла і цалуе. У гэты час падышлі г а с п а д ы н я з п а л к о ў н і к а м і ўбачылі.

Г а с п а д ы н я *(грозна)*. Васіль!

Г а н к а ўцякла.

П а л к о ў н і к. Ха-ха-ха!

Г а с п а д ы н я. Марш!

Палкоўнік. Смірна!

Гаспадыня. Што за жарты? Хлопец цалуецца з мужычкай!

Палкоўнік. А што ж, мужык не чалавек? Пацалаваў — не зарэзаў. Сэрца не камень. За мной!

Студэнт і палкоўнік пайшлі.

Гаспадыня. Здурэў, далібог, здурэў. *(Пайшла ў другі бок.)*

Заслона

## АКТ III

Дэкарацыя I акта. Увайшоў студэнт, а за ім незнаёмы.

Студэнт *(зазываючы Незнаёмага)*. Заходзь, заходзь на хвілінку, можна.

Незнаёмы. Карыстаючы з таго, што пані палкоўніца гуляе ў садзе, я хацеў з табой пагаварыць.

Студэнт. Будзь ласкаў, слухаю.

Незнаёмы. Слова, якое ты даў мне, не трымаеш. Сімпатыя да дзяўчыны ў цябе стала куды вышэй справы грамадскай. Калі разглядаць з боку кахання, яно праўда — дзяўчына, але я так не гляджу. Перш справа, а пасля дзяўчына.

Студэнт. Выбачай, браток, выбачай. Гэта ўсё выйшла, сам не разумею як. Адно тваё заданне, якое ты даручыў мне, я не выканаў дзеля таго...

Незнаёмы. Дзеля таго, што ты сягоння з Ганкай быў у пушчы.

Студэнт. Адкуль ты ведаеш?

Незнаёмы. Ну, ведаю я ці не — гэта справа іншая, але павінен напомніць табе, што дзяўчыну можаш загубіць. Яна шчыра адданая дзяўчына, каханне з ёю можа завязацца так моцна, што развяжа толькі яго пані палкоўніца ў дрэнны бок. Я добра ведаю, што табе сватаюць паненку зусім другое класы і дзякуючы тваёй слабай волі зламаюць цябе лёгка, ты жэнішся з багатай, а Ганка можа застацца не адна, і тваё сумленне будзе заплямлена навек. Схамяніся, брат, слухай, што кажу, адхілі каханне ўбок, а бліжэй да справы. Ты ма-

лады, і твая сіла разам злучыцца з маладымі барацьбітамі. *(Студэнт задумаўся.)* Ну, годзе спаць, больш жыцця, усё тое, што недагаварыў табе цяпер, я скажу ўвечары. Спадзяюся, што ты мяне паслухаеш. Сягоння ўвечары ў нас паважны сход, і ты павінен быць, а заўтра будзе даручана табе на фабрыку адозвы занесці. Ну, я пайшоў.

С т у д э н т. Выбачайце, браток, віна мая вялікая, пастараюся паправіць. *(Незнаёмы пайшоў.)* Які жудасны малюнак, усё так перад вачыма і стаіць! Няўжо ж усё будзе так, як ён намаляваў? Не, не павінна! *(Пры гэтых словах увайшла палкоўніца; студэнт не заўважае, што яна тут.)* Эх, пушча, пушча, як ты далёка завяла нас. Ці мог я верыць, што так здарыцца. Ганусю, дарагая! Зайшлі далёка мы з табой.

Г а с п а д ы н я. Пан студэнт! Я павінна зазначыць, што ваша мосць больш звяртае ўвагі на пабягушкі, чым на справу. Дзе быў?

С т у д э н т. Блудзіў у пушчы.

Г а с п а д ы н я. Так і загінеш у балоце, штодня цягаючыся па лесе. Мне гэта не падабаецца, кажу апошні раз. Зараз у нас будзе пані Пясецкая з дачкой, і сягоння аб жаненні будзе канчаткова развяжана.

С т у д э н т. Мне, цётачка, не да жанення.

Г а с п а д ы н я. Размова скончана.

С т у д э н т. Мне, цётачка, трэба скончыць навуку, і тады...

Г а с п а д ы н я. Нічога процi не маю, але за свае грошы. Я памагаць больш не буду.

С т у д э н т. Які выхад?

Г а с п а д ы н я. А такі: слухаць, што кажуць людзі, якія жадаюць табе дабра.

С т у д э н т. Я не бачыў свету.

Г а с п а д ы н я. Што ты хочаш гэтым сказаць?

С т у д э н т. А тое, што для мяне жаненне — страх.

Г а с п а д ы н я. А цалавацца ў лесе з мужычкай не страх? Бач ты яго,— не бачыў свету; мужыкам спачуваеш, хочаш, каб Ганка гаспадарыла тут? Слухаць мне, што кажу, а не — дык калі ласка. *(На дзверы. Пасля вялікай паўзы.)* Я думаю, што больш торгу не будзе. *(Кажа гэта зусім спакойна, звоніць.)* Няма. Нябось разам блудзілі ў пушчы! *(Пільна глядзіць на яго, звоніць.)* Праганю, каб і духу не было.

Уваходзіць Г а н к а.

Г а с п а д ы н я. Гэй ты, дзе прападаеш? *(Глуха.)* Дзе прападаеш ты, гадаўка?

С т у д э н т. Цётачка, прашу вас.

Г а с п а д ы н я. Ну, ну, толькі без гэтага! Яна мая слуга, я хачу ведаць. Зараз павінна быць пані Пясецкая з дачкой. Ідзі на дарогу і чакай, і калі толькі ўбачыш — скажы. Выходзь. *(Ганка пайшла.)* Я гэту брыду праганю.

С т у д э н т. Як дзіка ж вы паступаеце з ёю.

Г а с п а д ы н я. А няўжо ж пачну абнімацца з мужычкай?

С т у д э н т. Крыўдзіце вы іх.

Г а с п а д ы н я. Менш толькі шкадуй.

С т у д э н т. Як жа не шкадаваць? Не скаціна ж гэта.

Г а с п а д ы н я. Скаціна, скаціна і скаціна!

С т у д э н т. І людзі так дрэнна кажуць аб вас.

Г а с п а д ы н я. Цікава ведаць, якія такія людзі. *(На дзверы.)* Гэта? Гэта не людзі, а быдла. Ты, можа, з перавознікам пазнаёміўся? *(Паўза.)* Ну, кажы, бачыў на беразе перавозніка, гутарыў з ім?

С т у д э н т. Нікога не бачыў.

Г а с п а д ы н я. Ты мне глядзі, каб і блізка да яго не падыходзіў, бо гэты чалавек такі, якога ўсе баяцца, як заразы. Прапаганду вядзе, да бунту кліча чэрнь. *(Паўза.)* І ліха ведае, чаго ён там сядзіць? Катаржнік, адукаваны катаржнік! Быў студэнт, а цяпер перавознік. Займаецца паэзіяй. І што паліцыя робіць? Ён рыхтуе бунт, а яны спяць. Здаецца, усё зрабіла: напісала куды трэба, арыштавала, год патрымалі — і выпусцілі. Доказаў няма. Цьфу. Ды адкуль яны і будуць, калі мужыкі пакрываюць яго? Мая просьба — менш цягацца па лесе і не слухаць, што бунтаўшчык той брэша.

С т у д э н т. Не слухаю, а далятае.

Г а с п а д ы н я. Не, усё-такі ты мала спрыяеш нам, калі бароніш чэрнь.

С т у д э н т. Бараню бедных людзей... Мой абавязак.

Г а с п а д ы н я. Даруй, папраўлю... не абавязак, а сам такі. З мужычых пялёнак узяла цябе, а колькі ваўка ні кармі — усё ў лес паглядае.

Увайшла Г а н к а.

Г а с п а д ы н я. Што? Едуць?

Г а н к а. Прыехалі.

Г а с п а д ы н я. Ну, добра, якраз ў пару. Васіль, памятай, больш увагі.

С т у д э н т (*не пабачыўшы, што Ганка тут*). І нашто я сюды прыехаў?

Г а н к а (*на каленкі*). Панічок, панічок! (*Плача.*)

Чуваць галасы гасцей за сцэнай.

С т у д э н т (*выводзячы Ганку*). Ганууся, дарагая, не плач! (*Пайшлі абое.*)

Уваходзяць П я с е ц к а я, М а р ы с я і А л ь ф о н с.

Г а с п а д ы н я. Прашу, прашу, дарагія госці.

П я с е ц к а я. Ну, а дзе ж студэнт?

Г а с п а д ы н я. Студэнт наш амаль што не жыве ў хаце, а праз цэлыя дні гуляе ў пушчы. Зараз паклічу. Прашу выбачэння. (*Выйшла.*)

П я с е ц к а я. Зусім зразумела. Горад зімой — рай, а летам — закураная пляма, затое вёска... Божа мой! Прырода, прырода і прырода. Пан Альфонс, папяроску! (*Той дае.*)

М а р ы с я. Мамачка! І наша пушча — рай.

П я с е ц к а я. Ах, Марыся, ты не ведаеш, што такое рай.

М а р ы с я. Мамачка, ведаю, але мала. Адам, Ева і ўсякая нечысць.

П я с е ц к а я. Пан Альфонс, растлумачце Марысі, што такое рай, адкінуўшы інцыдэнт пра Адама, Еву ды яблыкі.

А л ь ф о н с. Фэ, фэ. Як гэта можна?

М а р ы с я. А аб гэтым не трэба, я лепш за вас ведаю.

П я с е ц к а я. Для цябе, Марыся, яшчэ незразумела, што такое прырода, што такое пушча. Пушча — гэта бязмежная прырода, прырода і прырода. Куды ні пойдзеш — прырода, куды ні глянеш — прырода. Кожны кусцік, кожная траўка дыхае прыродай. (*У гэты час Альфонс нешта тлумачыць Марысі, размахваючы рукамі.*) Пан Альфонс, схавайце рукі ў кішэні, вы не вятрак.

А л ь ф о н с. Пакорны ваш слуга! (*Схаваў рукі ў кішэні і разглядае стол.*)

П я с е ц к а я. Зімою — снег, мароз, мяцеліца, вясною — рэкі, прылёт птушак. Пан Альфонс, вы ловіце варон.

А л ь ф о н с. Даруйце, у мяне ж рукі ў кішэнях.

Пясецкая. Пан Альфонс, вы немагчымы чалавек.

Гаспадыня ўводзіць студэнта.

Гаспадыня. Вось і студэнт.

Пясецкая. Якраз у пару. *(Студэнт падышоў да Пясецкай, тая працягнула руку, каб пацалаваў, ды той руку далікатна адхіліў. Пясецкая здзіўлена.)* А гэта мая дачушка Марыся, прашу пазнаёміцца. Пан Альфонс, займіце другое месца. *(На студэнта.)* А ваша месца тут. *(Пасадзіла ля Марысі.)* Вось так. *(Да гаспадыні.)* Ну, што ты на гэта?

Гаспадыня. Так, так, мая дарагая.

Пясецкая. Цяпер няхай галубочкі мілуюцца, а мы пачакаем палкоўніка і скончым справу.

Гаспадыня. А ён зараз прыйдзе.

Пясецкая. Можна пачакаць. Пан Альфонс, папяроску!

Альфонс. Даруйце, у мяне ж рукі ў кішэнях.

Пясецкая. Выкіньце іх на волю!

Альфонс. Выбачайце, папяроскі няма.

Пясецкая. Загадваю сядзець і маўчаць. Ведаеш, даражэнькая, пан Альфонс за апошні час зусім апусціўся. Яго нішто не цікавіць. Калі я гавару аб прыродзе, дык ён марыць аб нябескіх міндалах, калі я аб смерці, дык ён — аб каханні. А трэба ведаць, што такому радавітаму шляхціцу, як пан Альфонс Додэ-Додэ... Ты ведаеш, гэта магнацкая фамілія. Гэта старадаўні род, спрадвечны род Додэ — не да твару быць фіглярам.

Гаспадыня. Пан Альфонс вельмі рухавы чалавек, дзеля таго яму марыць аб маладосці можна.

Пясецкая. А мне гэта даспадобы. Пан Альфонс мой сакратар, мая правая рука, і таму ён павінен граць у мой тон.

З'явіўся палкоўнік.

Палкоўнік *(за сцэнай)*. Рота, смірна, раўненне направа! *(Чуваць галасы дзяцей: «Здравія жалаем!» і г. д.)* А, каго бачу! Дарагія мае госці!

Пясецкая. А няхай вас, так спалохалі мяне. Якая ў вас рота? Дзе вашы салдаты?

Палкоўнік. Ды гэта мае дзеці — мужычкі на двары гуляюць. Вось я і вітаюся з імі. *(Вітаецца.)* Студэнт, кажы, дзе быў?

Студэнт. Быў там, дзе цёмны бор шуміць і ручаёк, як змей, цішком бяжыць.

Палкоўнік. Шчаслівы чалавек.

Гаспадыня. Гэта па-твойму.

Пясецкая. І па-мойму добра. Бор шуміць, ручаёк цішком бяжыць. Прырода, прырода і прырода.

Палкоўнік. Мне, адстаўному ветэрану, і то зажадалася ў пушчу.

Гаспадыня. Мала табе было маньчжурскіх пушчаў?

Палкоўнік. А ты ведаеш, будзе яшчэ вайна — я з адной рукой у бой пайду.

Пясецкая. На якое ліха нам вайна? Б'юць людзей, псуюць прыроду.

Палкоўнік. Не прырода нам патрэбна, а баталіі, атакі, кананады.

Гаспадыня. Гэта вам, вайсковым, а нам — зусім другое. *(Гэстам паказвае на студэнта і Марысю.)*

Пясецкая. Так, так, у нас справа паважная.

Палкоўнік. Сватанне?

Гаспадыня *(робіць гэст, каб маўчаў)*.

Палкоўнік. О не, выбачайце, абавязкі свата на сябе не бяру і прысутнічаць пры гэтым лічу непатрэбным. Правае плячо ўпярод, шагам арш... *(Пайшоў.)*

Гаспадыня. А няхай сабе ідзе, малая з яго карысць.

Пясецкая. Пан студэнт, калі ласка, аб прыродзе. Чаму вам мілы бор зялёны і ручаёк?

Студэнт. А таму, што мне, чалавеку, адарванаму ад горада, незвычайным шчасцем здалася пушча.

Пры гэтых словах увайшла Ганка і чуе яго словы; у руках яе пасудак.

Ганка. Самавар загатаваўся!

Студэнт адразу змоўк.

Гаспадыня *(ідучы да студэнта, кажа ціха)*. Шчасце, ха-ха-ха-ха! Мне ведама, якое шчасце. *(Паварочваецца да Ганкі.)* Дрэнны ж ты кавалер, калі сваё шчасце выстаўляеш на пасмех другім. *(Грозна на Ганку.)* Мне ведама ўсё! *(У Ганкі выпаў пасудак.)* Варона!

Ганка пайшла.

Пясецкая *(у гэты час глядзела ў другі бок)*. Нічога не зразумела. У чым фактычна справа?

Г а с п а д ы н я. Самая звычайная рэч. Наша пакаёўка, калі хоча сказаць, што самавар загатаваўся, прыходзіць і разбівае пасудак.

П я с е ц к а я. Які дзікі, мужычы спосаб. Замест таго каб сказаць: «Хадзем піць гарбату»,— яна бах аб падлогу пасудак. Марыся, што ты на гэта?.. Га?

М а р ы с я. Мамачка, мне шкада Ганкі!

Г а с п а д ы н я. А вам, пан студэнт? *(Іранічна паказваючы на пабітую пасуду.)* У пушчы шчасце?

С т у д э н т *(устаў)*. Вы мне даруйце, я не магу, я пайду...

Г а с п а д ы н я. О не, не, я яе сама паклічу. Яна прыйдзе і прыбярэ. Лёс талерак такі: сягоння ў панскіх палацах, заўтра — на сметніку. *(Хітра.)* Ты мяне зразумеў, Васіль? *(Да Пясецкай.)* Студэнт спалохаўся! *(Іранічна.)* Спалохаўся! *(Выйшла ў бакоўку.)*

Уваходзіць п а л к о ў н і к.

П а л к о ў н і к. А па-мойму, хоць і бомба разарвіся, я і вокам не міргну. Памятаю, у японскую вайну аскепкам руку мне адарвала і чорт ведае куды закінула. Два дні шукалі і не знайшлі.

П я с е ц к а я. Ох, што я чую. Руку шукалі і не знайшлі. Марысечка, вады.

П а л к о ў н і к. Гарбату, калі ласка, піць.

Увайшла п а л к о ў н і ц а.

Г а с п а д ы н я. Дарагія госці, прашу на гарбату.

П я с е ц к а я. Пан Альфонс, за мной! *(Да палкоўніка.)* А я з вамі буду гаварыць...

П а л к о ў н і к. Толькі не пра жаненне.

П я с е ц к а я. Аб прыродзе.

П а л к о ў н і к. Гэта можна. Я вам раскажу, як мой салдат у соннага японца боты зняў, а замест ботаў лапці са шпорамі надзеў. *(Пайшлі.)*

Г а с п а д ы н я *(да студэнта і Марысі)*. А вы, галубочкі, тут застаньцеся! *(Адводзіць Марысю ўбок і нешта ёй шэпча на вуха; студэнт у гэты час уцёк за дзверы. Марыся вярнулася.)*

М а р ы с я. Што гэта значыць. Чаго ён уцёк? *(Глянула ў акно, убачыла, што ён пайшоў па дарожцы.)* А, вось дзе! Чакай жа ты мяне, я цябе злаўлю! *(Пабегла за ім.)*

Уваходзіць Г а н к а.

Г а н к а (*шукае вачыма студэнта*). Няма! Ой, які ж сорам, ганьба, здзек... Верыла, душу і сэрца аддала, а ён смяяўся тут, пры ўсіх. Эх ты, жыццё батрацкае, нікчэмнае, як гэта шкло! (*Паўза.*) А можа, усё не так і я дарэмна пасудзіла Васілька? (*Глянула ў акно, убачыла яго там.*) Так, сэрца маё дарма не б'е трывогі, пайшоў з ёю,— багатыя шляхі, бедная павінна саступіць... Ідзі, мой панічок, ідзі, будзь шчаслівы і жыві, а я... Сон, толькі сон! (*Плачучы, выйшла.*)

Уваходзіць г а с п а д ы н я.

Г а с п а д ы н я. Васілёк, дзе ж ты дзеўся? І Марысі няма. (*Глянула ў акно.*) Ах ты, вірутнік, дзе апынуўся, і Марыся разам з ім. Рада, вельмі рада, план мой не загінуў.

Прыйшла П я с е ц к а я.

П я с е ц к а я. Марыся, Марысечка! Дзе ж Марыся?

Г а с п а д ы н я. Глянь, глянь, мая даражэнькая, дзе нашы дзеткі!

П я с е ц к а я. Што ж гэта, Марыся? Куды ж яны?

Г а с п а д ы н я. Куды б дарога ні вяла, абы добра было.

П я с е ц к а я. Марыся без майго дазволу? Адна з кавалерам?

Г а с п а д ы н я. Даражэнькая! Студэнта трэба разглядаць не як кавалера, а як...

П я с е ц к а я. Ах, выбачайце, як жаніха, я і забылася!

Г а с п а д ы н я. Усё ідзе гладка!

П я с е ц к а я. Нарэшце збылося, а я так чакала мілага і дарагога зяця! Ах, як я рада! Цяпер я магу пазбыцца ад пана Альфонса. Ну, які ж гэта сакратар? Пан Альфонс, папяроску! Папяроскі няма? Пан Альфонс! Якая пагода? Ён не ведае.

Убягае слуга Х і м к а.

Х і м к а (*моцна крыкнуўшы*). Божа мой! У нас няшчасце!

А б е д з в е. Якое?

Х і м к а. Ганка ў студню ўвалілася! Ратуйце, памажыце!

П я с е ц к а я. Адной мужычкай менш будзе.

Гаспадыня. Выйдзі вон! *(Хімка пайшла. Звяртаецца да Пясецкай.)* Выбачайце, даражэнькая, я зараз.

Пясецкая. Але ж куды, куды? Няўжо ты будзеш прымаць удзел у гэтай мужычай трагедыі?

Гаспадыня. І не думаю! Я проста так, гляну, у чым справа. *(Пайшла.)*

Пясецкая. Проста дзіўна! Ну, няхай ужо ў нас нервы, а то і ў мужыкоў нервы: тут разбіла пасудак, а там валіцца ў студню. Як жорстка, нягладка, непрыгожа! Ну, але што ад іх вымагаць? *(Да акна.)* Марыся! Марыся! Марысечка! Хадзі, дзеткі, сюды! Кліч з сабою пана студэнта. Прыгожы хлапец! Моцны духам, моцныя нервы! Эх, каб не мае сівыя валасы, я б яго сама...

Убягае Марыся.

Марыся. Я слухаю, мамачка, вас. Сядзела на лавачцы са студэнтам. Што скажаце?

Пясецкая. Можа, ты, дзеткі, сюды б з ім ішла?

Марыся. Я і сама не ведаю. Ён нікуды не хоча ісці. Ці то ён нясмелы, ці мяне баіцца. *(Уцякае.)*

Пясецкая. Маладзёнак яшчэ! Зловім, дзеткі, зловім!

Уваходзяць гаспадыня і палкоўнік.

Гаспадыня *(грозна)*. Я так не папушчу!

Палкоўнік. І чаго гарачыцца, чаго?

Гаспадыня. Зараз клікну бацьку — і вон з майго поля! Нашто мне неспакой?

Пясецкая. Нервовая трагедыя!

Гаспадыня. Ліха ведае што! Так напалохала.

Палкоўнік. Эх ты, нестраявая рота! Напалохала! А як нашаму брату ў вайну з Японіяй галавешкі за каўнер кідалі? Вось, прыкладам, даліна, а вось кусты, а ў кустах я і унцер з кулямётам.

Пясецкая. Пекная прырода — і кулямёт.

Палкоўнік. Аж бачу — полк японцаў маршам падаецца. «Унцер! Дзяржы хвост пісталетам!» — камандую я. «Дзяржу, ваша благароддзе, дзяржу!» Эх, і пасыпаліся кулі, і паваліліся басурманы. Чую: «Стойце, ваша благароддзе, ніводнага няма!»

Гаспадыня. Там ніводнага і не было!

Палкоўнік. Цэлы полк быў! Усіх пачысцілі, як бараноў.

Марыся. Мамачка, што тут здарылася?

П я с е ц к а я. Мужычая трагедыя. Глупства!

П а л к о ў н і к. А я б не сказаў. Не глупства. Ганка ў студню ўвалілася!

М а р ы с я. Ваша пакаёўка? Дзе ж яна?

Г а с п а д ы н я. Пан студэнт апеку ўзяў.

М а р ы с я. З якой прычыны гэта наймічка...

П я с е ц к а я. Дух нячысты спакусіў, а прытым, як ні смешна сказаць,— нервы. Цяпер і ў мужыкоў ёсць нервы.

М а р ы с я. І згадаць цяжка.

П а л к о ў н і к. Нічога цяжкага. Гражданскі прыём. У нас, вайсковых,— куля ў лоб, і годзе!

М а р ы с я. Паклікаць бы доктара!

Г а с п а д ы н я *(з іроніяй)*. Прафесара выпішам.

П а л к о ў н і к. Усё ўжо зроблена. Фельчар зараз будзе. Студэнт стралой панёсся.

П я с е ц к а я. Дзіўна! Нашто гэта руплівасць? Што можа быць супольнага — пакаёўка-батрачка і...

П а л к о ў н і к. Я б так сказаў. І пакаёўка — чалавек.

М а р ы с я. Ах, хоць бы не памерла!

Г а с п а д ы н я. А калі і памрэ, то не ў мяне, а за варотамі. Заўтра выкіну, каб і духу не было.

П а л к о ў н і к. А што на гэта скажу я?

Г а с п а д ы н я. Што я скажу, то і будзе.

П а л к о ў н і к. Вось успомнілася мне, як мы бралі сопку ў Маньчжурыі, і недалёчка лёг басурманскі снарад. Сперш зашумела, загуло, а пасля — бах... *(Моцна стукнуў.)*

П я с е ц к а я. А няхай вас з вашымі снарадамі!

П а л к о ў н і к. То мая фігура, як матыль,— то ўгару, то ўніз, а пасля зарылася па самыя вушы ў пясок.

П я с е ц к а я. Вайна — біч божы! Ох, грахі, грахі!

Гаспадыня звоніць. Уваходзіць Х і м к а, заплаканая.

Г а с п а д ы н я. Пакліч мне пастуха! *(Паўза.)* А ты чаго слініш?

Х і м к а. Шкада мне Ганкі.

Г а с п а́ д ы н я. Глядзі лепш за сабой! Выходзь!

Х і м к а пайшла.

П я с е ц к а я. Характэрная жылка, і мне вельмі даспадобы. Яны адзін аднаму спачуваюць.

П а л к о ў н і к. Так і трэба. Мая закваска. У часе вайсковай службы я таксама жыў з салдатамі, спаў ра-

зам з імі, гарох еў, гуляў у бабкі, і тут прыжыўся спосаб мой спаміж сялян.

Гаспадыня. Дзякуючы твайму спосабу мяне на старасці цягаць будуць па судах.

Палкоўнік. Не гарачыся, мая радасць, не гарачыся. Ніхто цябе нікуды не пацягне.

Уваходзіць пастух.

Гаспадыня. Учынак тваёй Ганкі прымушае мяне адмовіць табе ў службе і заўтра выехаць з нашага двара.

Палкоўнік. Учынак тваёй Ганкі прымушае мяне пакінуць цябе на службе і нікуды не ехаць з нашага двара.

Гаспадыня. Я сказала — да заўтра.

Пастух. Куды ж мы паедзем? Самі ведаеце наша бядацкае становішча.

Палкоўнік. Нікуды ты не пойдзеш.

Гаспадыня. Я сказала. Можаш ісці.

Палкоўнік. Але пачакай, я яшчэ нічога не сказаў.

Гаспадыня. Я сказала — да заўтра. *(Пайшла ў бакоўку.)*

Марыся *(за ёй)*. Цётачка, пашкадуйце, не выкідайце. *(Пабегла за ёй.)*

Палкоўнік. Не палохайся, стары, не палохайся. Маё слова — сіла.

Пастух. Паночку, даражэнькі, паслухаць мы вас паслухаем. Але ж буду прасіць — не выганяйце, пакуль паздаравее Ганка. Куды ж я з хвораю пайду!

Палкоўнік. Твая праўда. Свет любіць здаровых людзей, і дзеля гэтага пастанову нашай пані касую.

Пясецкая. А дачцэ скажы, каб свечку богу паставіла, бо ў калодзежы дух нячысты жыве.

Палкоўнік. Мы архірэя паклічам, усіх чарцей павыганяем.

Убягае Альфонс.

Альфонс *(спатыкнуўся)*. Быў фельчар і казаў, што жыць будзе.

Пясецкая. Я ж і казала — хамы жывучыя.

Палкоўнік. Няхай жывуць хамы. Я з імі век пражыў. Ну, хадзем, скончым піць гарбату.

Пясецкая. Пан Альфонс, за мной! *(Пайшлі.)*

Палкоўнік *(да пастуха)*. Не плач, усё будзе добра, я цябе не пушчу. *(Пайшоў.)*

Увайшоў студэнт.

Пастух. Панічок, панічок. *(На каленкі.)* Вы, як родны, памаглі нам у бядзе, не пакідайце нас далей. Прасіце цётку, каб не выкідала. Палепшае Ганка, мы самі пойдзем, мы самі пойдзем... *(Горка плача.)*

Заслона

## АКТ IV

Тая самая дэкарацыя. Праз шэсць месяцаў.

Гаспадыня *(лічыць грошы)*. План мой удаўся як найлепей. У працягу шасці месяцаў сталі на ногі самі і паставілі на ногі гаспадарку. Студэнта ажаніла, заграбла багацце да сваіх рук, пані Пясецкая голая, як мыш. Цяпер трэба парваць сувязь са студэнтам, і манеўр скончаны. А матэрыялы для гэтага ёсць. *(Бярэ пракламацыі.)* Адозвы да бунту. *(Чытае.)* «Браты рабочыя і сяляне! З дарогі прэч капіталістых». Гэта значыць — нас. Не, мой дарагі, з дарогі сыдзеш сам, бо ты мне на дарозе; я не дапушчу, каб хам, мужык свае законы дыктаваў. *(Піша ліст, звоніць.)*

Увайшла Хімка.

Гаспадыня. Гэты ліст зараз перадай станавому прыставу, ён якраз цяпер у валасці, і як вернешся — мне скажаш.

Хімка. А я зараз, толькі хустачкай галаву накрыю.

Гаспадыня. Нікуды ні на крок! У валасць да станавога прystава. *(Грозна.)* Ну... *(Хімка пайшла.)* А цяпер растраўлю студэнта — і справе канец.

Уваходзіць палкоўнік, падвыпіўшы.

Палкоўнік *(бачыць, што яна лічыць грошы)*. На чужым няшчасці будуеш сваё шчасце?

Гаспадыня. Хто там ведае, чыё яно?

Палкоўнік. Ты ж абула ў лапці Пясецкую.

Гаспадыня. Не абувала б я, абуў бы нехта другі. На тое шчупак у моры...

Палкоўнік. Ажаніла студэнта, атлуміла Пясецкую, забрала грошы і рада.

Г а с п а д ы н я. Абы жыць.

П а л к о ў н і к. А ты глыбей глянь. Васіль шчаслівы са сваёй жонкай?

Г а с п а д ы н я. Гэта іх справа.

П а л к о ў н і к. Растравіла хлопца, быццам звер.

Г а с п а д ы н я. Я хутка супакою гэтага звера, ён у маіх руках.

П а л к о ў н і к. Я цябе не разумею — здагадкі, здагадкі і здагадкі.

Г а с п а д ы н я. Вось цяпер і я табе скажу: глыбей глянь, мілы мой. За гарэлачкай не бачыш, як хата ў нейкую друкарню абярнулася.

П а л к о ў н і к. У якую друкарню?

Г а с п а д ы н я. А такую. Куды ні глянеш — адозвы да бунту. Рэвалюцыянера на сваіх плячах адкармілі.

П а л к о ў н і к. Ну, і добра, хай здароў жыве.

Г а с п а д ы н я. З паромшчыкам здружыўся.

П а л к о ў н і к. Не паверу.

Г а с п а д ы н я. Не верыш — схадзі ў альтанку, убачыш... І прыгатуй сваю сівую галаву. *(Дае адозвы.)* На, чытай.

П а л к о ў н і к *(чытае)*. «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» Ха-ха!

Г а с п а д ы н я. Ты што? Здурэў, ці што?

П а л к о ў н і к. Ты глянь, што за роскаш. «Пролетарии, соединяйтесь!»

Г а с п а д ы н я. Што тут смешнага?

П а л к о ў н і к. А тое, што ад першых радкоў піша праўду.

Г а с п а д ы н я. Ашалеў дзед на старасці.

П а л к о ў н і к. Зусім зразумела. Пролетары і шукае пролетара і заклікае іх у сваю грамаду.

Г а с п а д ы н я. Недарэчныя жарты.

П а л к о ў н і к. Ну, а як іначай. Ты хацела, каб ён заклікаў у пралетарскія рады палкоўнікаў, генералаў і цябе за кіраўніка? Ану, далей.

Г а с п а д ы н я. Выйдзі, выйдзі, я не хачу з табой гаварыць.

П а л к о ў н і к. Не слухай, а я пайду ў садочак, прачытаю — і сваю пастанову скажу. *(Адыходзячы.)* Пролетарии, соединяйтесь! Ха-ха-ха! *(Пайшоў.)*

Г а с п а д ы н я. Пакуль твая пастанова, то мая ўжо гатова. *(Пайшла.)*

Уваходзіць с т у д э н т.

С т у д э н т. Сягоння паўгода, як я жанаты; паслухаў цётку, усё праз цябе, навука. За кавалак хлеба і ногі і рукі скутыя ланцугамі. Няўжо не скінуць гэтых пут? *(Узяў кніжку, убачыў там кветкі і задумаўся.)* Ганка, Ганка!

Увайшла Х і м к а.

С т у д э н т. Ты чаго, Хімка?

Х і м к а. Я да пані; хацела сказаць, што ліст перадала.

С т у д э н т. Які ліст? Каму?

Х і м к а. Станавому.

С т у д э н т. Станавому?

Х і м к а. Пані даручыла.

С т у д э н т *(задумаўся)*. А што, калі аблава? А станавы дзе?

Х і м к а. Ды ён тут, непадалёчка.

С т у д э н т *(сам да сябе)*. Быць не можа! Гэта нешта не так. Скажы, Хімка, ты была ў Ганкі?

Х і м к а. Была, але больш, панічок, не пайду.

С т у д э н т. Чаму?

Х і м к а. Як ні стараюся бегчы дзесяць вёрст туды, дзесяць назад, дзень скаратаю, пані грызе, кажа — вон пагоніць мяне.

С т у д э н т. Як яе здароўе?

Х і м к а. Ды якое здароўе, хутка маткай будзе! *(Паўза.)* Грошы я аддала.

С т у д э н т *(доўга думаў)*. Вось што, Хімка! Заўтра я іду да Ганкі, буду там і жыць, а гэту чортаву багну я кіну. Ты пойдзеш да нас? Будзеш з намі жыць?

Х і м к а. Абы толькі ваша згода — я пайду. Ганка мне бліжэй, чым пані.

С т у д э н т. Ну, вось і добра. Ідзі, збірайся, ды нікому толькі не кажы. Заўтра ў дарогу.

Х і м к а. А як я рада, нарэшце збылося! Прынясём радасць Ганцы, кіне сумаваць. Ну, дык я пайду збірацца. *(Пабегла.)*

С т у д э н т. Пара ўжо скончыць! Там маё ўсё, а тут няма нічога, апроч гэтай дарагой памяткі. *(Узяў у рукі кніжку, углядаецца на кветкі.)* Былы ўспамін, які жыў і век будзе жыць.

Увайшла г а с п а д ы н я і чула яго апошнія словы.

Г а с п а д ы н я *(з іроніяй)*. Старое ўспомніў? Восень. Кветкі завялі.

Студэнт. Якраз наадварот. Жывуць і будуць жыць.

Гаспадыня. На сметніку.

Студэнт. Няпраўда! Гэтага не будзе!

Гаспадыня. Ты чаго крычыш, хам, мужык?

Студэнт. Ваша праўда — я мужык, бо ў маіх жылах цячэ мужычая кроў. Я люблю гэты мужычы народ, а вас не люблю. Вось тут мне заселі вашы пясецкія, марысі, альфонсы.

Гаспадыня. Так вось яно дзе праўда?

Студэнт. Так, гэта праўда! Думкі мае былі і ёсць спаміж сялян. Яны вашы нявольнікі, а я — іх абаронца. Дзякую вам за навуку, дзякую за багатую жонку; жонку я вам пакідаю, а навуку я аддам таму народу, з якога я выйшаў. Хімка, памажы скласці мае рэчы!

Уваходзяць станавы і два ўраднікі.

Станавы. Не беспокойтесь, незачем. Вперед!

У студэнта выпала кніжка.

Гаспадыня. Кветкі завялі.

Студэнт. Сволач! *(Пайшоў. Урaднік за ім.)*

Заслона

## ПРАЦЯГ IV АКТА
*(праз тры месяцы)*

Тая самая дэкарацыя. На сцэне Марыся (голасна плача). Уваходзіць палкоўнік. Марыся, убачыўшы палкоўніка, пачынае плакаць мацней.

Палкоўнік. Зноў слёзы, зноў істэрыка! Хоць ты ў лес уцякай. *(Паўза.)* Ды кінь ты выць, слухаць не магу!

Марыся. Дайце мне паплакаць.

Палкоўнік. Паплакаць! Вые, як быццам 6-цалёвая граната... І гэта плач!

Марыся. Але ж прашу — не перашкаджайце, дайце мне паплакаць.

Палкоўнік. Так ідзі да цёткі і трубі на вуха ёй. Што ты трубіш мне? Тры месяцы слухаю канцэрт.

Марыся. Гэтак будзе ўсё жыццё.

Палкоўнік. Яна вас ажаніла, яна і разлучыла. Я сам за гэту справу пад нагляд паліцыі трапіў. Калісь

уголас я крычаў: «Не ўпрагайце хлопца ў аглоблі!» — дык не, жанілі, а цяпер штодня сцэны адбываюцца. Дачка вые, а маці штодзень з візітамі з'яўляецца. Не, гэтаму я палажу канец.

Марыся. Я ахвяра, разумееце — ахвяра!

Палкоўнік. Ясна, ты — ахвяра. Жыццё — гэта вайна... Гармата сама не страляе, снарад не ляціць куды хоча.

Марыся. Памерці... Хачу памерці.

Палкоўнік. Паміраць таксама трэба ўмець; не ўмеўшы, не памрэш.

Марыся пачынае плакаць мацней.

Палкоўнік. Ды пакінеш ты ці не? Гэта ж можна адурнець! Тры месяцы адна мелодыя. *(Паўза.)* Які шукаць выхад, калі будзе канец? *(За сцэнай чуваць голас Пясецкай.)* О, новае ліха, чорт Пясецкую нясе! Ах ты, ёлкі зялёныя. *(Сказаў гэта моцна і пайшоў у бакоўку.)*

Уваходзяць Пясецкая і Альфонс.

Пясецкая. Пан Альфонс, за мной! Перш чым прывітацца, буду лаяцца. Чаго сядзіш у хаце, чаго марнуеш дні? Хіба прыроду разлюбіла?

Марыся. Дрэннае надвор'е... Мусіць, будзе дождж.

Пясецкая. Зараз табе скажу. Пан Альфонс, дождж будзе?

Альфонс. Павінен быць, згодна прыкметы. Наш бычок сягоння праз увесь дзень хвост трымае баранкам, значыць...

Пясецкая. Значыць, будзе дождж.

Марыся. То што ж гэта? Хвост бычка, па-вашаму, барометр?

Пясецкая. Спрадвеку барометр. У мяне ёсць знаёмы астраном, які, гледзячы бычку пад хвост, выяўляе пагоду.

Марыся. Ай, нудная размова!

Пясецкая. Пан Альфонс, чуеце, Марысі нудна; зараз жа развесяліць яе!

Альфонс. Калі патраплю.

Пясецкая. Ні слова, а павінны!

Альфонс на мігі пачынае размаўляць з Марысяй.

Пясецкая. Потым скажы, як з тваім маргарынавым мужам?

Марыся. Ну што ж, сядзіць!

Пясецкая. Тры месяцы адно і тое... сядзіць... Дзе палкоўнік?

Марыся. Толькі што быў.

Пясецкая. Пахаваліся. Што ж гэта такое? Не такая я матка, не для гэтага гадавала цябе, каб нехта карыстаўся маім дабром. Студэнт сядзіць у астрозе, яна сумуе тут, а палкоўніца пануе за мае грошы. Пан Альфонс!

Альфонс. Я!

Пясецкая. Заўтра ехаць мне ў горад і прывезці адваката.

Альфонс. Паеду і прывязу.

Марыся. Мама, што вы надумаліся рабіць?

Пясецкая. Я вас развяду!

Марыся. Аб гэтым я вас не прасіла.

Пясецкая. Пытацца буду! Пан Альфонс, адваката!

Альфонс. Адваката?

Пясецкая. Ліха ведае што? Зачынілі пад замок маё дзіця, цяпер самая пара павесяліцца, пазнаць прыроду, а яна сядзіць — слёзы пралівае. Пан Альфонс, папяроску!

Альфонс. Калі ласка!

Пясецкая. Так, напэўна, будзе дождж.

Альфонс. Парыць, галава баліць.

Пясецкая. Ды ў вас не галава, а качан капусты. *(Стукнула па лысіне і села.)* І дакуль жа я буду сядзець? Яны наўмысля паўцякалі, а я буду чакаць. Пан Альфонс, за мной!

Альфонс. Рад слухаць!

Марыся. Мама, куды вы?

Пясецкая. Я не прыйшла ў госці, мне патрэбна вырашыць справу — і канец. Пан Альфонс, марш. *(Пайшлі.)*

Марыся. Два дурні.

Уваходзіць Хімка.

Марыся. Што скажаш, Хімка?

Хімка. І хочацца сказаць, і сама не ведаю як.

Марыся. У чым справа?

Хімка. Вы Ганку памятаеце?

Марыся. Якую Ганку?

Хімка. Ды тую, што ў паноў служыла.

Марыся. Ну, і што?

Хімка. Ды ёй ужо — ці вяроўка на шыю, ці ўтапіцца!

Марыся. А што з ёю?

Хімка. Дачка нарадзілася.

Марыся. Ну, і добра, няхай сабе гадуецца!

Хімка. Гэтага мала. Памагчы трэба — і няма адкуль. Бацька яе хворы, аслеп, а яна ў роспачы.

Марыся. Гэта да нас не стасуецца.

Хімка. Да вас то не, а да вашага паніча стасуецца.

Марыся. Нічога не разумею.

Хімка. І што тут разумець? Яго дачка — і квіт.

Марыся. Як яго? Што яго?

Хімка. А так. Любіў, значыць, Ганку, а пасля пані палкоўніца прымусіла жаніцца з вамі, а пасля ён хацеў вярнуцца да Ганкі, але паліцыя арыштавала... Каб я сабе ногі пакруціла, як я мела той ліст несці да станавога.

Марыся. І ты праўду кажаш? Ёсць дачка?

Хімка. Кропля вады — бацька.

Марыся. Што я чую? Што я чую? *(Падае на калені ў істэрыцы.)*

Хімка. Панечка, галубачка, што з вамі? Ай-ай, вады, вады! *(Крычучы.)* Пані Пясецкая, пан палкоўнік... Памірае, памірае... *(Пабегла ў бакоўку.)*

Выбягаюць Пясецкая і Хімка.

Пясецкая. Марыся, дачушка, што з табой?

Хімка *(бегаючы па хаце)*. Вады, вады. *(Потым моцна Пясецкай на вуха.)* Вады!

Пясецкая схапілася за сэрца, села ў крэсла, адкінула галаву, быццам бы памерла. Хімка пабегла. Выбягае Альфонс.

Альфонс *(бегучы ўпаў)*. Пані Пясецкая, што з вамі? Істэрыка, параліч, смерць! *(Прылажыў вуха да сэрца.)* Як быць, што рабіць! *(Пачынае моцна трэсці.)* Пані Пясецкая, што вам даць? Можа, цукерак, трасцу, хваробу? Але ж кажыце! Пан палкоўнік, ваша благароддзе, ваша правасхадзіцельства, ваша сіяцельства! Ах, чаму ж я не млею? *(Сеў у крэсла і таксама быццам памёр.)*

Уваходзяць Хімка і палкоўнік.

Хімка. Паночку, даражэнькі, усе паўміралі! Вады, вады!

Палкоўнік *(моцна)*. Цыц! Ані шум баравы! *(Хімка ўцякла, тады падышоў да Альфонса.)* Гэп!

Альфонс (*усхапіўся ад страху, высока падскочыў*). Што, ваша благароддзе?

Палкоўнік (*зграб за карак*). Вон! (*Выкінуў, тады падышоў да Пясецкай, моцна тупнуў нагой, тая ўсхапілася.*) Вон!

Пясецкая (*здзіўлена*). Мяне?

Палкоўнік. Вон! (*Пясецкая, згорбіўшыся, выйшла; тады палкоўнік да Марысі, моцна стукнуўшы нагой аб падлогу*). Гэп!

Марыся (*усхапілася*). Што вам патрэбна?

Палкоўнік. Проста і направа!

Марыся пайшла.

Палкоўнік. Я вам пакажу, кісляціна!

Заслона

## АКТ V

*(праз сем год)*

Дэкарацыя II акта. Восень. На дрэвах пажоўклае лісце. На тым самым месцы, дзе і ў II акце, стаіць пень, з правага боку — магіла, крыж; паводдаль палатка, ля палаткі стаяць човен, шасты і розныя прылады перавозніка.

Падыходзіць студэнт.

Студэнт (*абросшы барадой, у беднай вопратцы, з кіем у руках, доўга аглядае ўсю гэту мясцовасць*). Сем год, як я не быў у гэтай старонцы. Сем год! Не сам я прыйшоў сюды, а сумленне прывяло мяне ў гэты край, дзе засталося столькі прыемных успамінаў. Здавалася, што ўжо пуста ў душы маёй і я забыўся на Ганку. Аж не, нейкая сіла прывяла мяне, і вось я тут. Тут, дзе на прывяўшай траве сляды маёй Ганусі. Ганначка, я прыйшоў да цябе! Выйдзі, мая дарагая! (*Паўза*). Ціха кругом, як і калісь было...

Здалёк чуваць голас. Нехта крычыць: «Перавознік, перавознік!»
З палаткі вылазіць незнаёмы.

Незнаёмы (*з ім таксама змена, убачыў Васіля*). Васіль! Ты?

Студэнт. Я!

Незнаёмы. Я ўжо не важыўся падысці да цябе, мо ты даўно пракляў мяне?

Студэнт. Ну, то я падыду да цябе і прывітаюся, як з братам.

Незнаёмы. Ледзь пазнаў цябе.

Студэнт. Нічога дзіўнага! Вялікія змены ў маім жыцці!

Незнаёмы. Вялікая радасць, неспадзеўнае спатканне. Ну, кажы хутчэй, дзе ты быў, як жыў да таго часу, як цябе выслалі? Зусім страціў сляды.

Студэнт. Сем год у сасланні быў, як звера дзікага ганялі.

Незнаёмы. Сам вінен. Разлапушыў вушы, а падругое, палкоўніца прадала цябе.

Студэнт. Адозвы падлавіла, навяла паліцыю; ёй было патрэбна ўтапіць мяне, а ўкрыцца было цяжка.

Незнаёмы. А я табе казаў, увесь план будучыні я табе калісь намаляваў — і ўсё збылося так.

Студэнт. Малады быў, няспрактыкаваны.

Незнаёмы. Ёй то нічога, а палкоўнік сядзеў, ды нядоўга.

Студэнт. А ты?

Незнаёмы. Я выкруціўся.

Студэнт. Я вельмі рад гэтаму!

Незнаёмы. Дзякуючы табе, ты не выказаў.

Студэнт. А як іначай?

Незнаёмы. Дарагі ты чалавек!

Студэнт. Не хвалі, не люблю!

Незнаёмы. Дваранскае гняздо згарэла.

Студэнт. Туды яму і дарога!

Незнаёмы. Сяляне петуха пусцілі. Палкоўнік кудысь выехаў, палкоўніца — на той свет. Жонка твая жыве, але не тут, а ўглядаецца ў вочы другому.

Студэнт. Мыдляны пухір!

Незнаёмы. А я, як і было,— перавознік. Вяду патроху справу бунту, моладзь падрастае. Шмат новых барацьбітоў прыбудзе, яны штодня ў лесе. Эх, каб паглядзеў! Агонь, адвага, рэвалюцыя! Часамі, у вольную хвіліну, зайграюць, песню запяюць... Жыць хочацца... пабудзеш тут, пабачыш іх, пачуеш.

Студэнт. Эх, каб пачуць, уваскрасіць былое!

Незнаёмы. Уваскрасім, толькі ў другім кірунку. Ты нанава павінен жыць, забыцца на ўсё былое, пачаць зноў працаваць са мной разам на карысць тых людзей, з якіх ты выйшаў. Катарга, астрог, я спадзяюся, загартавалі цябе больш; ты не схіліў галавы сваёй перад гвал-

там, ты пойдзеш разам з намі ў крывавы бой, які павінен быць не ў далёкім часе.

Студэнт. План і аружжа! Я з вамі!

Незнаёмы. Рады, вельмі рады! Ну, а скажы, чаго ты сюды накіраваўся? Тут жа твайго нічога няма?

Студэнт (*з болем*). Успаміны ёсць!

Незнаёмы (*пасля паўзы*). Дай мне тваю руку! Люблю цябе! Чалавеку, у якога няма душы, рукі я не падаю. Так, брат, чулая ў цябе душа! Успаміны дарагі для чалавека, ніколі яны не паміраюць, заўжды яны маладыя. Калісьці я глядзеў у кішэню дзіцяці і ўбачыў там кавалачак чырвонага шкла, беленькі каменьчык, бліскучы чарэпчык і падумаў — мазаіка душы чалавека. Малому цацкі, а вялікаму — успаміны.

Студэнт. Ты зразумеў, чаго я прыйшоў?

Незнаёмы. Позна, брат, прыйшоў! Восень, памерла лета.

Студэнт. Бачу і сэрцам адчуваю, што няма лета — восень. (*Пасля паўзы.*) А скажы мне, чыя гэта магіла?

Незнаёмы (*нехаця*). Эх, брат, шкада лета! Бачыў, як памірала. Усё жыло, цвіло, а вось наляцела восень, пажоўклі ліcткі, бачыш, як яны ападаюць. Вось цісха сарваўся лісток... і няма! (*Павінны зверху сыпацца жоўтыя ліcткі.*) Глыбокае, брат, возера, ой, глыбокае! Маўчыць яно, і ніхто не ведае яго думкі.

Студэнт. А што з Ганкай?

Незнаёмы. З Ганкай? (*Устаў.*) Выбачай, брат, мяне клічуць, перавезці трэба. Я зараз усё скажу. Шкада, брат, лета. Восень бязлітасная. Усю прыгажосць знішчыла. Вось зноў — сарваўся лісток — і няма. (*Паказаў пальцам на магілу і пайшоў, а студэнт паплёўся за ім.*)

Падыходзіць пастух сляпы з дзяўчынкаю. Абое бедна апрануты: пастух у лапцях, а дзяўчынка босая.

Дзяўчынка падвяла пастуха да магілы, стала на калені.

Пастух (*на каленкі*). Выбірай, дзеткі, выбірай непатрэбную траўку, яна глушыць добрую мураўку і не дае ўзросту. Выбірай, дзеткі, выбірай! Матуленька ўпросіць бога для цябе шчасця, ты вырасцеш і будзеш жыць без бяды. Сягоння, дзеткі, сем гадоў, як матуленька пакінула нас. Сем гадоў... Сем гадоў мук і маіх слёз. (*Устаюць і адыходзяць, студэнт — насустрач.*)

Студэнт. Дзядок, ты, пэўна, з дарогі збіўся? Твой маленькі павадыр не туды цябе павёў.

П а с т у х. Сюды, панок, сюды. Я хоць слеп, але мясцінку гэту добра ведаю, штодзень бываю тут.

С т у д э н т. Ты тутэйшы?

П а с т у х. Нібы і так. Старасць, сілы страціў, памерці рад, але гэтага дзіцяці шкада.

С т у д э н т. Як даўно не бачыш?

П а с т у х. Гадоў з сем.

С т у д э н т. А з якой прычыны аслеп?

П а с т у х. Плакаў шмат, няпраўды знёс — вой-вой!

С т у д э н т. А скажы, дзядок, хто цяпер гаспадарыць над гэтай зямлёй?

П а с т у х. Таксама нейкі пан. А ці ведалі іх?

С т у д э н т. Ведаў.

П а с т у х. Я калісь на пасту ганяў.

С т у д э н т *(схамянуўся, углядаецца)*. На пасту?

П а с т у х. Слухаю я, слухаю, а голас ваш нешта ўспамінае мне знаёмае. Эх, старасць, старасць!

С т у д э н т. А чыё гэта дзіцятка пры табе?

П а с т у х. Сірацінку гадую, унучка яна мне.

С т у д э н т. А маці яе дзе?

П а с т у х. Памерла. *(У студэнта выпаў кій.)* Служылі ў двары, а пасля як ліха з ланцуга сарвалася. Засумавала чагось Ганускя, з нейкай бяды ў студню ўвалілася. Адхаялі, нейкі пан малады доктара прывёз, на ногі паставілі. Васілём, здаецца, клікалі яго... На катаргу саслалі бедака... Пасля дачушка нарадзілася, прыйшла Ганусечка сюды да возера і... дзіця пакінула на мураўцы, а сама... *(Заплакаў.)* Бацюшка не хацеў хаваць на могілках, тут я і пахаваў. *(Здалёку чуваць хор, які пяе нудную-нудную песню. Пастух схамянуўся.)* Вось гэтую самую песню Ганускя спявала над калыскай гэтага дзіцяці. Гэтую самую песню спявала яна тут, калі хадзіла збіраць кветкі.

С т у д э н т. Дзядок! Ты бедны, ты нешчаслівы, аддай мне гэтую сіротку, я ўзгадую яе.

П а с т у х *(спалохаўся, рукою пераставіў дзіця на другі бок ад студэнта, зусім сур'ёзна)*. О не, панічок, не аддам! Каб хоць родны бацька прасіў — не аддам... Яна мне павекі закрые ў час смерці. Адзін жа я на свеце — і жабрак. Бывайце здаровы! *(Пайшлі.)*

С т у д э н т *(застаўся адзін. Доўга глядзеў услед, а пасля падышоў да магілы, стаў на калені)*. Ганначка, Ганначка! *(Прыпаў да магілы.)*

З а с л о н а

# БЯЗРОДНЫ

*Драма ў пяці актах*

АСОБЫ

Бацька — 45 г.
Маці — 45 г.
Гапка — 18 г.
Янук Бязродны — 21 г.
Знахарка — 50 г.
Стражнік — 25 г.
Селянін I — 60 г.
Селянін II — 45 г.
I іншыя.

## АКТ I

Вуліца. Ідуць са жніва дзяўчаты.

Гаспадыня *(з хаты)*. Добры вечар, мае дзеткі, мае шчырыя працаўнікі. *(Адказваюць.)* І так, збажынку зжалі, у снапкі зламжылі, серп і ручкі адпачнуць. Дзякую вам за спагадную працу, дай божа вам мець тое шчасце, якое самі жадаеце. *(Адказ.)* Але ж і песню пяялі, дзівіцца трэба. Галасы працягам нясліся здалёку і змусілі паслухаць. З вялікай ахвотай паслухаю, дзеткі, яшчэ, калі запеяцё. *(Адказ: запяём, запяём.)* Так, будзьце ласкавы, заспявайце, скраніце сэрца.

Выбягаюць хлопцы.

I дзяўчына. А няхай вас, напужалі нас.

II дзяўчына. Да памяці дайсці не магу.

Хлопцы. Нічагутка, нічагутка.

Гаспадыня. Вось добра, хлопчыкі, што ў пару падышлі, цяпер просьба мая будзе да ўсіх.

Хлопцы. А што, цётачка?

Гаспадыня. Дый заспяваць. (*Усе: запяём, запяём!*) Як добра налаўчыліся, дзіва, дый толькі. Дзякую, дзякую вам. А дзе ж гэта Гапачка мая, чаму нешта не бачу яе і голасу не чую зусім.

I дзяўчына. Ішла з поля з намі разам, ды Янук Бязродны затрымаў.

Прыходзіць Гапка.

II дзяўчына. А вось і Гапка, мы пра ваўка гамонім, а воўк тут. Гляньце, якая сумная.

Гаспадыня. Дачушка, я ж цябе шукаю, голасу твайго не чую, дзе ж ты загубілася?

I дзяўчына. Янук Гапку затрымаў, на дарозе з ражном стаў, Гапка ў лес, ён за ёю, Гапка села, і ён з ёю.

Усе хахочуць.

II дзяўчына. І чаго яны рагочуць, хіба не бачыце, што дзяўчаці не да жартаў.

Гаспадыня. І сапраўды, ты, дачушка, нешта нудная, скажы, не скрывай, чаго засумавала.

Гапка. Не пытайцеся ў мяне.

Хлапец. Сэрца запытайце.

I дзяўчына. Добра ты, Ігнат, сказаў, сэрца запытайце, я ведаю, дзе сум жыве, прыйшлося зазнаёміцца з ім, на сухі лес яго.

Гаспадыня. Нічагутка, мае дзеткі, ваш брат, што маленькія кураняткі, на дождж — пахмурнеюць, на пагоду — весялеюць. Вось лепш заспявайце для мяне адну частушку, ды ў хату пойдзем дажынкі спраўляць.

Хлапец. А па сэрцу будзе?

Гаспадыня. Вам па сэрцу, а дзяўчатам па 2, яны на полі працавалі.

I хлапец. Ану, грамада, для цёткі запяём «Бульбу».

Усе. Бульбу, бульбу, бульбу. (*Пяюць.*)

Гапка плача.

Гаспадыня. Гапачка, ты, здаецца, плачаш? Што з табою, сонейка маё?

У с е. Авэй, авэй, як не сорам.

Г а с п а д ы н я. І чаго ж ты, дачушка, засумавала?

Г а п к а. А так, матуленька, горка на сэрцы, што і жыць не хочацца.

Г а с п а д ы н я. Пакінь, дзіцятка, пакінь. Сягоння ў нас дажынкі, гуляць будзем, а ты плакаць надумалася адна. Гуляць будзем, весяліцца будзем, гэй, музыкі. Юрку нам, Юрку нам. Ану, у пары. (*Танцуюць, апроч Гапкі.*)

Г а с п а д ы н я. А цяпер у хату, дзеткі, пойдзем, там перакусім, пагуляем.

У с е. Згода, згода. (*Пайшлі.*)

Прыходзіць Б я з р о д н ы.

Б я з р о д н ы. Як весела людзям, як добра, жывуць, бяды не знаюць, а я адзін блукаю і сам не ведаю, куды ісці.

Жыву, як той павук пад столлю, і кожны мае права сялібу разбурыць маю. Сягоння я батрак, а заўтра ў салдаты, а там ізноў батрак, ах, доля, доля. І дня шчаслівага ў жыцці сваім не бачыў.

Выходзіць Гапка.

Г а п к а. Янучок! І ты, родненькі, тут?

Б я з р о д н ы. Прыйшоў, а чаго, і сам не ведаю. Людзям і месца, і пашана ёсць, а мне — не дальш, як да парога. Ім, бачыш, можна скакаць і весяліцца, а мне і тут на лавачцы быць не можна. Айчым твой раз і назаўсёды забараніў бываць у вас.

Г а п к а. Янучок, каб ведаў ты, як цяжка перадаць усё. Ты кажаш — весела, толькі не мне. Яны вясёлыя, а я сумую, плачу, бо ведаю, што хутка скончыцца чароўная казка нашага кахання. Цябе возьмуць у салдаты, а я застануся, ты ведаеш. Асмяюць мяне людзі, адчураюцца дзяўчаты, пракляне маці, а айчым жывую закапае.

Б я з р о д н ы. Не кажы, я баюся слухаць.

Г а п к а. Так яно і будзе. Табе дарога ў свет, а мне — на могільнік.

Б я з р о д н ы. Гапачка, не кажы гэтага.

Г а п к а. Ну, добра. Скажы, мой дарагі, няўжо чакаць, пакуль я буду маткай, і зносіць горкую абразу ад усіх? О, не! Няма цябе, няма мяне.

Б я з р о д н ы. А можа, у салдаты не возьмуць мяне.

Г а п к а. Прычувае маё сэрца, што мы разлучымся з табою.

Бязродны. Я не ведаю, што і адказаць табе.

Гапка. Не радуе мяне нічога, бо ведаю, што ты ў мяне — госць.

Бязродны. Гапачка, а што, калі і так, у салдаты я пайду, але ж гэта не забараняе табе быць маёй жонкай.

Гапка. Здавалася так, але выйшла іначай. Я не казала табе. Бацька хоча мяне за стражніка выдаць.

Бязродны. За стражніка? За якога?

Гапка. А хто яго ведае, нейкі стражнік, і толькі.

Бязродны. Так, гэта навіна. А што ты на гэта?

Гапка *(іранічна смяецца)*. Ну што ж, трэба выйсці, ха, ха, ха... Якое можа быць пытанне, Янучок?

Бязродны. А ты бачыла таго стражніка?

Гапка. Ні разу.

Бязродны. І як жа ты абаронішся ад свайго грознага айчыма, ты ж ведаеш, што ён за чалавек.

Гапка. Абаранюся лёгка, гвалтам не выдадуць.

Бязродны. А маці што на гэта?

Гапка. Мама на маёй старане.

Бязродны. Гапачка! Мы не паслухаем нікога, пастановім так, як лепш для нас.

Гапка. Я не ведаю. Пойдзеш ты ў салдаты, я пакіну дом, сыду, куды павядуць вочы. Не перанясу. Не так я цябе люблю, каб лёгка перанесці разлуку.

Бязродны. Гапачка! Чаму мы такія няшчасныя? Няўжо нам суджана вечная пакута?

Гапка. Янучок, будуць у цябе дні радасці, дні шчасця, а ў мяне іх не было і не будзе. Сіраце век сірочая доля.

Бязродны. І я сірата, адзін, як крыж у полі.

Гапка. Тваё становішча далёка лепшае, чым маё. Дарога вольна. На дарозе, Янучок, напаткаеш не адну, якой будзеш заглядаць у вочы і казаць тое, што і мне. Але не, што я кажу,— я цябе не аддам, нікому не аддам. Праўда, Янучок, ты мой навекі, мой!

Бязродны. Твой навекі, твой.

Гапка. Ні войска, ніщто не разлучыць нас.

Бязродны. Ніколі.

Гапка. Мы будзем вечна, вечна любіць адзін другога.

Бязродны. Вечна, вечна.

Гапка. Эх, Янучок! І ў муках радасць бывае. Вось і цяпер я ведаю, што ты праз колькі дзён мяне пакінеш

і я застануся,— эх, запамінаю гэту хвілю аб усім і рада, што я хоць на хвілю шчаслівa.

Бязродны. Гапачка! Наша шчасце не хвілінка, а цэлая вечнасць. Мы з табой пойдзем адважна наперад і абмінём усе перашкоды.

Эх вы, мае вачаняткі, кахаю я іх за тое, што, нібы зоркі, прыветліва пазіраюць на мяне. *(Цалуе.)* І ўчора, і сягоння яны такія самыя ласкавыя, прыхільныя. Эх, Гапачка, не для стражніка прырода стварыла цябе, быць табе за парабкам...

Гапка. За парабкам, за парабкам. Вось за гэтым, якога кахаю больш за ўсё на свеце. *(Цалуе.)* Я не хачу багацця, не хачу шляхецкага чыну, я хачу быць за такім мужычым сынам, як я сама. А ён, гэты мужычы, тут, у лапцях, з белакурай чупрынай. Ну, мужычы сынок: ні кала ні двара.

Бязродны. Гапачка! Слухаючы цябе, слёзы высыхаюць. Сэрца часцей б'ецца. Не плакаць, а смяяцца хочацца, аб радасці, аб шчасці хваліцца на ўвесь свет, ты, як сонца, абагрэеш праменьчыкам гарачым, і горача стане.

Гапка. Чуеш, пяюць, весяляцца жнейкі, а мы, што ж мы?

Бязродны. Яны шчаслівыя па-свайму, а мы — па-свайму, няхай весяляцца. Зайграе музыка і ў нашай хаце.

Гапка. У чыёй хаце? Ты ж хаты не маеш. Парабак.

Бязродны. А ў тваёй хаце музыка зайграе, толькі не для мяне.

Гапка. Пэўне для мяне не зайграе.

Голас гаспадара.

Гаспадар *(пеючы)*. Салавейка, дабрадзеінька, а пакінь сошку ды пацеш трошку.

Бязродны. Што мне рабіць, быць тут ці захавацца? Ён жа сказаў, што я не маю права пераступаць парог хаты тваёй.

Гапка. Я гэтага не скажу, будзь тут, вайна так вайна.

Бязродны. Ды ён, як бачу, не адзін.

Гапка. Стражнік з ім.

Бязродны. Як тут ваяваць без аружжа і з п'янымі.

Гапка. А вось паспрабуем.

Г а с п а д а р і с т р а ж н і к.

Г а с п а д а р. Сюды, Панцялей Панцялеевіч, сюды. Вось мая хата, а вось і яна. *(Паўза.)* А гэта хто?

Б я з р о д н ы. Добры вечар, пане гаспадару.

Г а с п а д а р. Глух я стаў. Дарогі пытаеш ці так сабе выглядаеш, як запоры ў клеці?

Б я з р о д н ы. Нічога не пытаю, нічога не выглядаю.

Г а с п а д а р *(да Гапкі)*. А ты што ж, сцежку памагаеш знайсці?

Г а п к а. Я не разумею вас, тату.

Г а с п а д а р. Вось зазнаёмся з начальствам, а пасля і зразумееш. Ну, руку падай, чуеш?

С т р а ж н і к. Честь имею представицца, Пантелей Пантелеев Кочергин, старшы ўрадник.

Г а с п а д а р. Во, чуеш Пан-Цялей, а мала таго, яшчэ і старшы. Ну, зварухніся, гасця прымі, у хату вядзі.

Г а п к а. У хаце дзверы не зачынены.

Г а с п а д а р. Ні слова... а слухай, што кажу.

С т р а ж н і к. А вы з нами, мамзель сизакрылая, не пархнёте?

Г а п к а. Пакуль што не.

С т р а ж н і к. А на каком таком основательном основании, чем мотивируете и формулируете настоящий ответ? Какия такия прычыны возбудили отказ от исполнения воли вашего отца?

Г а с п а д а р. Чакай, я скажу. *(Да Янука)*. Ты чаго, атопак цыганскі, вісіш тут? Бачыш Заблоцкага двор, марш туды.

Янук хоча ісці.

Г а п к а *(затрымала)*. Тату, вы здзекуецеся над чалавекам, як можна так.

Г а с п а д а р. Яму тут не месца. Ён прыблуда, з поля вецер, а я не абы-хто, хачу мець зяця і разумнага, і бліскучага.

Г а п к а. Які вы, тату, неразумны чалавек.

Г а с п а д а р. Но, но, гавары і памятай, бо язык ушчэміш.

С т р а ж н і к. Скажыце мне, хто ён такой?

Г а п к а. Я скажу. Ён мой любы, мой дарагі, якога кахаю больш за ўсё на свеце.

С т р а ж н і к. Вот так штука.

Г а с п а д а р. А я скажу, ён ніхто. Нехта нечый, ды нячый. Матку меў ды і тую не людскую.

Я н у к. Пане гаспадару. Мая маці не жыве, і прашу не кратаць яе касцей.

Г а с п а д а р. Вон ты, цыганскі свінапас, а то колікам агрэю.

Г а п к а. Тату, вы гэтага не зробіце.

Г а с п а д а р. Пытацца яшчэ буду. Панцялей Панцялеевіч, ану яго шабляй раз-другі.

Г а п к а. Спрабуйце толькі.

Г а с п а д а р. Панцялей Панцялеевіч, ану агрэй...

С т р а ж н і к. Атец! Выдержка, выдержка... *(Да Бязроднага.)* Ану, прыяцель, паспарт дай сюды...

Г а п к а. Заўтра запытаецеся, а сягоння і так будзе.

С т р а ж н і к. Пачтенная барышня, если у вашего свинапаса нет паспарта, он бродяга, а бродяги не имеют никаких дакументав, законных прав и состояний путешествовать ни по шосейным, ни по грунтовым, а также и просёлочным дорогам.

Г а с п а д а р. Ну, годзе байкі плясці. Бяжы ў хату, мацеры скажы, каб начальства спатыкала, а сама пячы яешню. Ну...

Г а п к а. Я не пайду ў хату, я буду тут.

Г а с п а д а р. Не тут, а там.

Г а п к а. Не там, а тут. *(Узяла Бязроднага за руку і пайшлі.)*

Г а с п а д а р. Ідзі, хоць ты ногі пакруці, такой бяды. Іван Марцінавіч, хадзем у хату, прыйдзе, нідзе дзенецца. Я казаў: бі шабляй па носе — не хацеў. Вось бачыш. Ну, хадзем, чуеш, музыкі рэжуць. Дажынкі баба спраўляе. Яна будзе наша.

С т р а ж н і к. С нашим ярым удовольствием.

Г а с п а д а р і с т р а ж н і к пайшлі. Прыходзіць Г а п к а.

Г а п к а. О! Дзікі звер, прагнаў мне Янучка.

Выходзіць м а ц і.

М а ц і. Дачушка, хутчэй ідзі ў хату, бацька нейкага дзецюка прывёў, каб бачыла, бліскучы, пахучы і, калі не мыляюся, Пан-Цялей завецца.

Г а п к а. Да ліха ён няхай ідзе.

М а ц і. Старшы над ураднікамі, у медалях.

Г а п к а. Не патрэбен ён мне, мамка, добра ведаеце. *(Пайза.)* Я кахаю другога.

М а ц і. Так-то яно так, але гэты прыгожы, блішчыць.

Ґ а п к а. Лепш я выйду за беднага.

М а ц і. Дачушка мая, не працiў я гэтага, выходзь за беднага, але ж ён госць у нас. Яму ж прызыў на носе. У войска забяруць, а па-другім, сама ведаеш, айчым і блізка яго не падпушчае, хоча, каб ты за стражніка ішла, каб абаронцу мець ад ворагаў і пашану ад людзей.

Г а п к а. О не, матуленька, будзе што-небудзь адно, або Янук, або ніхто. Я ні перад чым не застанаўлюся. Я ведаю, што ён бязродны, я ведаю, што ён чужы ў нашай вёсцы, парабак, быць так павінна.

М а ц і. Ведаю я і гэта, ён на маіх вачах вырас. Маці яго, чужая, захожая дзяўчына, пакінула на беразе маленькага, а сама смерць знайшла ў возеры глыбокім. Людзі яго да веры давялі. Бог сілу даў.

Г а п к а. Толькі долі не даў.

М а ц і. Было гэта так. Цябе і на свеце не было.

Г а п к а. Так, матуленька, невясёлая жыццёвая дарога яго, цяжка ўсё гэта.

М а ц і. Цяжка было жыць, не чуць ласкавага слова ні ад каго.

Г а п к а. Матуленька! Як на ваш погляд, добры ён чалавек, працавіты, не гультай?

М а ц і. Хто ж кажа.

Г а п к а. Матуленька! Прымем яго ў нашу сям'ю; пабачыце, што добра будзе.

Г а с п а д ы н я. Абмінуў бы ён войска, а там усё можа быць.

Г а п к а. І, матуленька, не пэўне кажаце, няўжо і вам айчым страшан?

М а ц і. Ды пэўне ж — калі пачне бушаваць.

Г а п к а. А старасць пры кім ён будзе дажываць? Сыноў не мае, а я — наперад кажу — не абяцаю.

М а ц і. Хто ведае, якая там будзе старасць, калі за гарэлкай свету не бачыць.

Г а п к а. Тым горш.

М а ц і. Ну, дык што ж, дачушка, у хату так і не пойдзеш? Паглядзець, як гуляе грамада.

Г а п к а. Не пайду. Даруйце мне за гэта, але не магу. Зразумейце, матуленька, што іначай нельга.

М а ц і. Як знаеш.

Г а п к а. Вось, я чую, бацька ідзе сюды, пэўне мяне шукаць. Я ўцяку. *(Пабегла.)*

М а ц і. Вось і зразумей іх... не хачу і не хачу, хоць

бы і залаты жаніх быў, а па мне так лепшага і не трэба шукаць.

Выходзяць гаспадар і стражнік.

Гаспадар. Маці, і цябе і дачку тваю біць трэба.

Маці. А завошта?

Гаспадар. Госць у хату, а гаспадыня з хаты; чаму ж ты госця не даглядаеш?

Маці. А хіба ж ты не патрапіў, здаецца, на стале ўсё ёсць. Просім, паночку.

Гаспадар. Тады ўжо не просяць птушку, калі яна вылецела з клеткі. Праўда, Пан-Цялей?

Стражнік. Мы лучше дыхнём араматным воздухам на воздусе, а то в вашей хате хлапцы накурили, хоть тапор повесь.

Гаспадар. Ну, што ж, просім дыхаць, чым вашай міласці лепш падабаецца. Хлапцы нашы ведама мужыкі,— паветра сапсуюць у момант, кураць усе...

Стражнік. Прысядзем. Я, видите ли, хотел о самочувствиях сердечных переговорить, а в стоячем виде не годицца.

Гаспадар. Сядзі, браток, мы ўжо стоячы паслухаем.

Маці. Нам што, мы зразумеем усё, што пан скажаце, і стоячы.

Стражнік. Девачка ваша, во первых строках, с огоньком.

Маці. Як гэта, не разумею.

Гаспадар. І што тут разумець. Фанабэрыстая.

Стражнік. І не эта. А так, гибкий стан, соответствующая красота, перламутровыя глаза, алчныя губки, ну и вообще невеста по всем категориям приспособлена к моей личности.

Маці. Так што, пан, ганіце маю дачку?

Гаспадар. Я ж кажу, твая галава, што калода, нічога не разумее. Пан-Цялей тваю дачку хваліць, а табе здаецца, што ганіць.

Стражнік. Так, так, мамаша, благодарствие вам за такую деревенскую идилию.

Гаспадар *(да жонкі)*. Тут, брат, не па-нашаму антымонію разводзіць, а калі пачне і гэтак і так, то ўсяго патроху дасць, і немец, і француз акажыцца.

Маці. Ды яно, ведама, лепш чуць хвальбу, як ганьбу.

Стражнік. А скажыце, мамаша, если бы от меня последовало чувство сияющей любви и все вышеуказанные мотивы, мотивирующие сердечные признательности, вы бы готовы дочь свою отпустить для сожительства с моей персоной?

Маці. Я ўжо і сама не ведаю. Бабская галава, што курыная, усяго чарку на дажынках выпіла і нічога не ўцямлю, што пан кажаце.

Гаспадар. Праўду кажучы, тут і я нешта з глузду з'ехаў — не зразумеў.

Стражнік. Вам простительно.

Маці. І не дзіва. Усё ў адной галаве: і парасё, і карова, і пасеяць, і пажаць, і купіць, і прадаць. Гэта не тое што ў пана. Хлеб сам да рук ідзе.

Гаспадар. Так, калі ласка, Пан-Цялей, скажы — можа, чым нездаволен?

Стражнік. Я, видите ли, насчет таво, на каких брачных вспомогательных условиях отпустить готовы дочь свою.

Выходзяць усе з хаты.

Стражнік. Ну, пока подождём.

Гаспадар. Нагуляліся... маладзічкі?

Усе. У хаце горача, цесна.

Маці. Ну, то і добра.

Гаспадар. Цяпер трэба, каб зайгралі нашаму начальству, а вы, маладзёж, паскачаце.

Маці. Перш, дзеткі, заспявайце.

Усе. А чаму ж, запяём, запяём.

Стражнік. А што ж вы будзеце пець?

Усе. Вясковыя песні.

Стражнік. Дешёвка! Ну, а таких не знаете ли: «Последний, последний денёчек» или «Сама цветочек я садила»?

Усе. Такіх мы не чулі.

Стражнік. Ах вы, кукушечки. Небось умеете, да сароместесь. Не стыдитесь, я ведь знаю, с мужичков много не спросишь. Ану, затяните разлуку.

Усе. І такой не ведаем.

Стражнік. А «Чудный месяц»?

Усе. І такой не ведаем.

Стражнік. Тогда и не надо.

Гаспадар. А каршун вас дзяры, заспявайце хоць штоколечы. Няўжо вам глузды залажыла. Ану...

Усе пяюць.

Стражнік. Сносно.

Гаспадар. Ану, яшчэ адну.

Усе пяюць.

Стражнік. Терпимо.

Гаспадар. А цяпер што-колечы зайграйце.

Стражнік. А што вы играете? Играете ли вальс «Аджившая любовь»?

Усе. Куды нам такія граць.

Стражнік. Ну, а галоп «Бой быкоў» играете?

Усе хахочуць.

Стражнік. Ну, и чаго вы, медвежата, рагочаце?

Хлапец. Ды мы з гэтага панскага танца, што з быкамі ў бой ідзе.

Гаспадар. Хлопцы! Пашана на першым месцы. Вы ўважаеце, з кім жартуеце, бачыце фігуру?

Усе. Бачым, бачым.

Гаспадар. Ну дык вось, іграйце, а то сварыцца буду.

Маці. Зайграйце, дзетачкі, зайграйце. А вы, дзетачкі, патанцуйце. *(Да стражніка.)* Паночку, калі ласка, яны саромяцца, просім... просім...

Усе. Просім, просім.

Стражнік. Ану, музыканты, польку военную. *(Да дзяўчыны.)* Прашу. *(Танцуе.)* Жизни больше, жизни больше.

Заслона

## АКТ II

У хаце Гапкі. Уваходзіць стражнік.

Стражнік *(пяе)*.

Сама цветочек я садзіла,
Сама и буду полiваць,

Сама я мілага любіла,
Сама я буду век страдаць.

Пуста, ни одной резаной сабаки нет. Подождём, авось ветерок и молодую нанесёт. *(Убачыў на сталe люстра.)* Не столь красив, как миловиден. Листикратская рожа, как ни поверни. *(Пачынае чысціцца.)* Вот только нос подгулял, цветёт, точно роза, красный и зеленый цвет.

Уваходзіць Гапка.

Стражнік. Здравия желаем, глубокоуважаемая Грипина Антимосовна.

Гапка. Як вы мяне спалохалі.

Стражнік. Первое доказательство, што жена будет хорошая, мужа бояться будет, как живёте?

Гапка. Жыву, а вы?

Стражнік. Скучаю, страдаю, мала ем і всё в сон клонит.

Гапка. Ну, што ж, засніце, сон не благая рэч.

Стражнік. Но я не пришёл сюда спать.

Гапка. А за чым?

Стражнік. Я пришёл передать вам ураганные чувства, квартирующие в моей молодецкой груди, которые рвутся на волю, чтобы соединиться брачными узами на всю жизнь, до могилы включительно. Вашей мамаше привет и с любовью низкий поклон. Вашему папашу привет и с любовью низкий поклон, и вам также привет и с любовью низкий поклон.

Гапка. Ну і што?

Стражнік. И на основании всего вышеизложенного, принимая во внимание мою беспорочную службу, начиная с рядового и кончая, как сами видеть изволите, отличиями, сверху донизу увешанную медалями, не оставьте без должного внимания, почтенного покровительства и нежных лобзаний вашего покорного слугу Пантелея Кочергина. Жду ответа.

Гапка. Што ж я павінна зрабіць, я не зразумела вас.

Стражнік. Не зразумелі? Это значит не поняли, ну то я лепш объясню. Дело, видите ли, Агрипина Антимосовна, в том, что я приглашаю вас женицца, а потом, согласно брачных установов, статей и параграфов, всецело перейти в полное супружеское распоряжение до глубокой старости включительно.

Гапка. Я не разумею, у чым справа, і не магу вам нічога адказаць.

Стражнік. А если вы призналі маю рэч несоразмерной и не можете стямить, в чем дело, я, как военный человек, не отступающий перед врагом, не отступлю и перед моим милым другом и потому, сообразуясь с горячим темпераментом урадницкай души, припадаю своей широкой грудью к вашей груди и прошу признания. *(Абнімае.)*

Уваходзіць гаспадар.

Гаспадар. О! Я разумею, хвалю за рызыку, хвалю.

Стражнік. Здравия желаем, гаспадин хазяин, прашу извинения, что я произвожу нападение на вашу дочь среди бела дня в вашей квартире, с глазу на глаз.

Гаспадар. Нічагутка, пацалаваў — не зарэзаў. Тупай, брат, тупай.

Гапка. Тату, як можна так казаць.

Гаспадар. Но, но, з вашым братам іначай нельга. Пан-Цялей, тупай, брат, тупай.

Стражнік. Полюбил я вашу дочь за её твёрдый характер, за гибкий стан, за алчные губки и вообще за все магнитные чувства, которыя магнитят меня.

Гаспадар. Ну, дык і чаго? Памагай табе божа. Я рад гэтаму буду. Сядзь, браток. Ты мне, браток, так патрэбен, як сонца. Бараніць, бараніць і бараніць будзеш мяне.

Стражнік. А почему ж, я согласен. Я, изволите видеть, не куст альховы, и моя личность ещё не ударяла лицом в грязь.

Гаспадар. Хто ж кажа, што ты куст альховы, зараз вып'ем і справу раскумекаем. *(Да Гапкі.)* А дзе маці?

Гапка. Хіба запомнілі? Самі ў горад выправілі.

Гаспадар. Так, памяць утраціў. Ну, тады сама прынясі нам закусіць, а гарэлка вось яна. *(Ставіць на стол.)*

Гапка. А чаго прынесці?

Гаспадар. Нясі пеўня таго засмажанага.

Гапка. Пеўня Лыска з'еў.

Гаспадар. Як так?

Гапка. Вы пакінулі расчыненыя дзверы, а Лыска ўлез і з'еў.

Стражнік. Если желаете, можно протокол ото-

драть со всякими категориями да параграфами, а затем в тюрьму за кражу.

Г а п к а. А хіба ж на сабак пішуць пратаколы?

С т р а ж н і к. А разве ворам оказалась собака?

Г а с п а д а р. Ён у нас такі, нічога не пастаў, усё ўкрадзе.

С т р а ж н і к. Да, с собаки не взыщешь.

Г а п к а. А можа, паклікаць, ён тут. *(Выйшла.)*

Г а с п а д а р *(услед)*. Ну, тады нясі нам сала, хлеба... Там вам што, браток мой даражэнькі... ворагаў шмат у мяне ёсць, зямлю адабраць хочуць, суды, суды і суды. Ты мне так патрэбен, як вясною дождж.

С т р а ж н і к. Я потрудиться могу. Чего не сварит мой котёл, до царя поедем. Там для меня двери открыты.

Г а с п а д а р. А, браток мой... ты вялікай цаны чалавек.

С т р а ж н і к. Отдайте толькі дочь в мое полное владение, а враги сами разбегуться. Я тольки взгляну глазом *(жэст)*, и все как тараканы в щели.

Г а с п а д а р. Дачку я табе аддаў, гамані з маткай і вязі ў стан.

С т р а ж н і к. А колесы скрыпеть будут, помазать надо.

Г а с п а д а р. Таксама з бабай. У яе грошы, у мяне гаспадарка. Зараз баба павінна быць, пагамоніш. А я, брат, не родны бацька, я айчым-прымака.

С т р а ж н і к. Ну, што ж, падаждём мамаши.

Г а с п а д а р. Толькі, браток, не дай у крыўду мяне. Я — цёмны мужык, непісьменны, а ты і пішаш, і чытаеш, а прытым з царом за пана-браце.

С т р а ж н і к. Знакомых полсвета.

Г а с п а д а р. Вось жа аб тое.

Уваходзіць Г а п к а з закускай.

Г а с п а д а р. Гапка! Ты бачыш Пана-Цялся?

Г а п к а. Што за пытанне? Бачу.

Г а с п а д а р. Нішто сабе чалавек?

Г а п к а. Ну, ведама, чалавек.

Г а с п а д а р. Не роўня таму, як яго?..

Г а п к а. Кожнаму сваё. Татку соладка гарэлка, а мне не, татку падабаецца шык, а мне Янка-мужык.

Г а с п а д а р. Ты ізноў сваё.

Г а п к а. Ізноў і ніколі іначай.

Гаспадар. Ты, брат, не ўважай, што яна пляце, а слухай мяне. Падабаецца?

Стражнік. Ужасна. Влюблён до глубины души.

Гаспадар. За жонку хочаш мець?

Стражнік. Хоть сию минуту.

Гаспадар. І згодна! Гапка, ты яго жонка, хадзі, сядзь тут.

Гапка. Не пайду і не сяду.

Гаспадар. Як так?

Гапка. А так.

Гаспадар. Сапраўды кажаш?

Гапка. А вам што, здаецца?

Гаспадар. Кажу, сядзь тут.

Гапка. Не сяду.

Гаспадар. А бізун на што?

Гапка. Біць будзеце?

Гаспадар. А няўжо ж дзьмухаць буду?

Стражнік. Отец, положите нагайку и успокойте свою нервную систему, ни одни правила не позволяют пороть женщин нагайками. Вы возбудились сами, возбудили других, что-то на мятеж похоже.

Гаспадар. Мяне не слухаць?

Гапка. Палажыце нагайку і скажыце па-людску.

Стражнік. І па-моему так.

Гаспадар. Пан-Цялей, не перашкаджай мне гаспадарыць у маёй хаце.

Стражнік. Агрипина Антимосовна, послушайте тяжеловесное слово отца и сядьте против моей личности. Зачем вам нарушение тишины и спокойствия?

Гапка. Я не сяду.

Гаспадар. Табе здаецца, што будзеш шуры-муры разводзіць з тым басяком?

Гапка. Даруйце, тату, я аб гэтым яшчэ не мысліла. Трэба ведаць вам тое, што гэта дзікі спосаб. Вы зробіце тое, што я адракуся і хаты і хлеба, уцяку, куды пасвецяць вочы. *(Плача.)*

Гаспадар. Эх ты, сарока бясхвостая, ды я цябе за гэтыя словы... *(Замахваецца.)*

Стражнік. Отец! Не нарушайте тишины.

Гаспадар. А як жа быць? Хто ж па-твойму я?

Стражнік. Давайте лучше вып'ем, а там и до ладу дойдём. *(Налівае.)*

Гаспадар. Каб мне ды гэтак адказваць.

Стражнік. Желаю счастья земного.

Г а с п а д а р. Браток, ты пі, а мне дай хвілінку з ёй пагаварыць.

С т р а ж н і к. Отец, или вы перестанете, или я от вас ускользну.

Г а с п а д а р. Ты гэтага не зробіш.

С т р а ж н і к. Вып'ем — і тады я ваш.

Г а с п а д а р. Я п'ю. *(П'юць.)*

С т р а ж н і к. А теперь ещё по одной.

Г а с п а д а р. І на гэта я згодзен... *(П'юць.)*

С т р а ж н і к. А теперь ещё по одной, и...

Г а с п а д а р. Ну і чалавек з цябе... *(П'е.)*

С т р а ж н і к. А затем послушайте мою сладострастную речь. Отец, мать, а потом дочь, а с ними жених составляют могучую семью, которая считается единой, нераздельной семьей...

Зачем ссора, зачем драка, побои и нарушение спокойствия и тишины. Давайте жить по всем правилам очаровательной любви, а нагайки бросим. Нагайка... что ж такое нагайка? Нагайка — это такое хитрое плетение, называющееся нагайкой. И поэтому нагайке нет места на теле вашей дочери. Тело вашей дочери должно быть неприкосновенным.

Г а с п а д а р. Я хачу, каб яна мяне слухала.

С т р а ж н і к. Паслушает, паслушает, правда, Агрипина Антимосовна?

Г а п к а. Ну, паглядзім. Пара ўжо запомніць тыя часы, калі білі мяне і я маўчала, цяпер я маўчаць не буду.

Г а с п а д а р. А што ж ты цяпер зробіш?

Г а п к а. Досыць таго, што маўчаць не буду.

Г а с п а д а р. Но, но, прыкусі свой язык.

Уваходзіць м а ц і.

М а ц і. Што тут за шум? Ізноў слёзы, ізноў п'еш?

Г а с п а д а р. Так, п'ю...

С т р а ж н і к. Совершенно правдоподобно. Пить — п'ём, но тишину нарушаю не я. Личность моя в скандале не участвует.

М а ц і. Ты мне скажы, нашто крыўдзіш сірату, мала здзекаваўся раней?

С т р а ж н і к. Мамаша, я скажу. Кровопролития здесь не было, насильственности также не было, отец нападает на дочь, дочь на отца, обоюдная свалка.

М а ц і. Стыдзіўся б.

Г а с п а д а р. А чаму яна не слухае мяне?

Маці. А чаго табе трэба?

Стражнік. Мамаша, я скажу.

Гаспадар. Скажы, брат, скажы, а я... паслухаю... *(П'е.)*

*Стражнік.* Началось это с того петуха, которого ваш Лыска съел воровским способом. Старик хотел закусить, а петуха на месте не оказалось. Слово за слово, про петуха забыли, а начали про свадьбу. Я, значит, предложил свою руку, дочь ваша не пожелала и наконец привела в истерическое состояние всю нервную систему и по собственной охоте начала плакать. Вот и всё.

Гаспадар. Арол Пан-Цялей, арол, во дзе розум. Дзяржыся крэпка, брат. *(Налівае і п'е.)*

Маці. Не плач, дачушка. Слёзы твае так не пройдуць, не плач.

Гаспадар. Ну, ну, годзе там слюніць, дачку тваю на ўбой карміць не буду, не сягоння-заўтра з хаты выпхнуць трэба.

Маці. Чаму гэта выпхнуць, што яна ў мяне, бадзяка?

Гаспадар. А так. Ёсць чалавек, значыць, добра. У мяне ворагі ў хату ломяцца. А пакуль ён мне не свой, бараніць не будзе.

Маці. Смеху варта. Узяў бізун і замуж выпраўляе. Нечага сказаць. А вы што ж, паночку, згодны на гэткіх умовах маю дачушку ўзяць?

Стражнік. Не панимаю вас, мамаша.

Маці. Ну, каб бізуном дзяўчына заганялася.

Стражнік. Мне не то нужно, мамаша.

Гапка. Я ж кажу, вам пасаг патрэбен. *(Паўза.)* Мама, скажыце, што пасагу ў мяне няма. Я пайду за таго, хто мяне без пасагу возьме.

Гаспадар. Пасаг ёсць, во ён. *(Паказвае на бізун.)*

Маці. Гэта трэба ўзяць пад увагу, паночку, што пасагу ў нас няма.

Стражнік. Та-ак.

Гаспадар. Пан-Цялей, не слухай іх, яны лгуць, а слухай, што я скажу: пасаг ёсць. Доўга з імі не гавары, а пішы пратакол, рабі грозны від і гані ў стан. *(Налівае.)* Дзяржым. *(П'е.)*

Стражнік. Я, кажись, выметусь за двери. Скучная песенка.

Гапка. Весялейшай і быць не можа. Я за вас не пайду, гэта трэба ведаць вам...

Гаспадар *(устае)*. Ану, паслухайце маю песню.

*(Грозна.)* Ты доўга будзеш мне абражаць майго госця? *(Замахваецца.)*

Мацi *(хапiўшы вiлы)*. Ах ты, п'янюга, бiць будзеш?

Гаспадар. Дзьмухаць буду.

Мацi. Ды я цябе калi дзьмухну...

Стражнiк. Да перестаньте вы.

Гаспадар. Хто я тут?

Мацi. Прымака... вон з хаты.

Гаспадар. Прымака?

Мацi. Так, прымака. Ты яе не гадаваў i бiць не будзеш.

Гапка. Вы без сэрца чалавек, я б вас лiчыла за роднага бацьку, але вы не можаце насiць гэтага iменi, бо вы бяздушны чалавек.

Гаспадар. Брыда, анi пiкнi. *(Замахваецца.)*

Мацi *(накiнулася)*. Аддай бiзун, ты анцыхрыст, а то я цябе... *(Адбiрае i кiдае.)*

Стражнiк. I па-мойму так, успокойтесь, отец.

Гаспадар. Як-то ўспакоiцца, каб мяне, гаспадара, выганяць з хаты?

Мацi. Як ты робiш, так робяць i табе.

Гапка. I так, паночку, яшчэ раз паведамляем вам, што пасагу ў нас няма.

Стражнiк. Слышу.

Гапка. I дзеля гэтага пара нас заставiць.

Гаспадар. Як-то, майго госця выкiнуць з хаты?

Гапка. Не выкiнуць, а просiм. Вашаму госцю, як i вам, патрэбны выгады, а выгад няма.

Гаспадар. Пан-Цялей, сядзь, стой.

Стражнiк. Позвольте доложить вам, что я не кот и меня на щепки не возьмёте и не выбросите за окно. Я сам уйду.

Гаспадар. Я цябе не выкiдаю.

Стражнiк. Мой чин и моя личность не позволяют такого унижения, и потому... *(Выходзiць.)*

Гаспадар. Пан-Цялей, куды ты, стой... *(Седзячы.)*

Мацi. Нарэшце пайшоў.

Гаспадар. Ну, а цяпер што вы скажаце? Госць мой дзе... га... *(Устаў.)*

Мацi *(беручы за руку Гапку)*. Госць твой там...

Гаспадар *(грозна)*. Каб у момант мне быў тут. *(Сеў.)*

Мацi. Пачакай трошкi, цьфу... *(Выйшла.)*

Г а с п а д а р. Ага! Пабеглі... уздагон... спалохаліся... каб у момант быў тут. Ах вы, ліхадзеі. *(Нагінае бутэльку, п'е.)* Вось табе мой план. Няма абаронцы, няма зямлі, няма гаспадаркі. *(Дрэмле.)* Пан-Цялей, ну, падыдзі да мяне і скажы... скажы... Пан-Цялей... *(Заснуў.)*

Пасля вялікай паўзы ўваходзяць м а ц і і Г а п к а.

М а ц і. Здаўся. Няхай спіць. Хоць на хвілінку спакой будзе. Сядзь і скажы, што тут было.

Г а п к а. Сперш прыйшоў стражнік і пачаў сваю песню спяваць, а затым п'яны айчым, як адзін, так і другі, адно кажуць. Жонкай каб была. Матуленька, вы самі чулі, яму патрэбны грошы.

М а ц і. Чула, дзеткі, чула. Для яго ты не жонка, бо такіх грошай, як ён хоча, у мяне няма.

Г а п к а. Хоць бы й былі, я за яго не пайду.

М а ц і. На ліха ён нам, а скажы, родненькая, яшчэ не вярнуўся Янучок?

Г а п к а. Не вярнуўся. Нет ведама.

М а ц і. Нет ведама, што добрага прывязе нам.

Г а п к а. Чуе маё сэрца, што нядобрае.

М а ц і. Усё можа быць.

Г а п к а. Ні ў яго льготы, ні ў яго права, адзін, ну і забяруць.

М а ц і. Шкода будзе хлопца.

Г а п к а. А цяпер якраз аб вайне пішуць. Прызыў суровы, пабяруць не гэткіх, як ён.

М а ц і. Не бядуй, дачушка, неяк ужо будзе.

Г а п к а. Так яно і будзе. Не жыць мне ўдому, калі роднага бацькі нямашака.

М а ц і. Дачушка, пакуль я жыва, не дам пакрыўдзіць цябе.

Г а п к а. Эх, колькі ён крыўдзіў, колькі біў, а за што, у чым мая віна? *(Плача.)*

М а ц і. Не плач, слёзы твае раняць маё сэрца. Не плач, дзеткі. Усё пераможам.

Г а п к а. І што ён да яго мае? Забараняе і на парог паказвацца. Цяпер такі час, а я не буду мець магчымасці пагаварыць з ім як належыць.

М а ц і. Не бядуй, пагаворыце.

Уваходзіць Я н у к.

Г а с п а д ы н я. Вось бачыш, і ён тут, лёгкі на ўспамін.

Г а п к а. Янучок, родненькі, як шчасліва, што ты прыйшоў. Якія ж вестачкі прынёс? Ну, глянь мне ў вочы.

Б я з р о д н ы. Не пужайся, Гапачка, нічога страшнага.

Г а п к а. Ну, як жа з прызывам, забракавалі, а мо здалі, кажы, родненькі, не муч.

Б я з р о д н ы. Нічога страшнага, прызыў адлажылі.

Г а п к а. Не веру, Янучок, не веру. Сэрца маё трывожыцца, і пагляд тваіх вачэй не такі, як заўжды.

М а ц і. Усё роўна, дзеткі, ліхтаром пушчы не асвеціш, кажы, не скрывай. Калі радасць, то ўсе ўзрадуемся, а калі гора, разам заплачам.

Б я з р о д н ы. Матуленька, дарагая, я не ведаю, як і сказаць вам.. Я не ведаю, як прыйшоў да вас сягоння, апошні дзень я з вамі.

Г а п к а. Здалі? Значыць, ты не мой, пакідаеш? *(Плача.)*

М а ц і. Вось табе і радасць.

Б я з р о д н ы. Гапачка, родненькая, не плач, усё будзе добра, часова разлучаемся, а там...

Г а п к а. Янучок, без цябе і мяне не будзе. Ты пакідаеш мяне ў такую дрэнную пару. Ты сюды не вернешся і мяне запомніш.

Б я з р о д н ы. Не пакіну і не перастану мысліць аб табе. Пакуль будзе біцца сэрца ў маёй грудзі, ты будзеш маёй адвагай, ты будзеш маёй пуцяводнай зоркай на вайне, змагайся і жыві.

Г а п к а. Янучок, якое будзе жыццё, калі я буду хутка маткай. *(Плача.)*

М а ц і. Што я чула, божа мой!

Б я з р о д н ы. Не плач, дарагая, не плач. *(Апёршыся на плячо.)* Матуленька, становішча маё, як і Гапкі, найгоршае; будзеце памагаць для вашай дачушкі — яна не загіне, апусціце рукі — яна прападзе.

М а ц і. Лепш бы мяне смерць прыбрала, чымсь чуць такую навіну.

Гаспадар абудзіўся і ўбачыў Янука.

Г а с п а д а р. Гэта што, аднаго толькі выправіла, а другому нашто пачапілася. *(Устае.)* Э, ды тут рамансы, слёзы. Ты чаго, сцяповы ветрагон, прывалокся, калі я табе забараніў бываць тут? Вон з маёй хаты, а то я цябе колікам агрэю.

Г а п к а. Тату, за што вы гоніце яго?

Б я з р о д н ы. Даруйце мне, тату, што я не паслухаў вас, але гэта апошні раз, я іду ў салдаты, а там на фронт.

Г а с п а д а р. У салдаты заўтра, а ад мяне сягоння.

Б я з р о д н ы. У мяне ж нікога няма, апроч вас. Дайце сіраце благаславенства.

Г а с п а д а р. Нічога я не чую. Вон!

Г а п к а *(на каленкі)*. Тату, пашкадуйце, за што?

Б я з р о д н ы *(на каленкі)*. Тату, пашкадуйце.

Г а с п а д а р *(адпіхнуўшы Гапку і адчыніўшы дзверы)*. Вон!

М а ц і. Зяруга, за што ты кідаеш яе?

Г а с п а д а р. Я плачу тым самым, чым плацілі мне. Вон!

Я н у к. Матуленька не апушчайце, даглядайце, вярнуся, не запомню вас. *(Пацалаваў.)* Гапачка, жыві і цярпі сірочыя слёзы, не зважай на ачарсцвеўшую душу тырана. *(Выбег, пакінуўшы шапку.)*

Г а п к а. Янучок, Янучок!

З а с л о н а

## А К Т III

У хаце на ложку ляжыць Г а п к а хворая. У калысцы дзіця, знахарка варыць лекі, м а ц і плача.

М а ц і. Доля мая, долечка, век жыву, век мучаюсь, і за які грэх?

З н а х а р к а. Яно ўжо так, дзеці блудзяць, бацькі пакутуюць.

М а ц і. Ці ж гэта родны бацька пакінуў бы дзіця, калі яно ўглядаецца ў вочы смерці?

З н а х а р к а. Што ты ад яго хочаш, айчым — чужы чалавек.

М а ц і. З шынка не вылазіць, утраціў воблік чалавека.

З н а х а р к а. Нячысціку запрадаўся разам са скурай.

М а ц і. І што мне рабіць? І дзе шукаць рады, няўжо помачы ніякай не будзе?

З н а х а р к а (падыходзіць да стала, налівае ў міс-

ку ваду на 4 берагі, налівае зноў, жагнае стол, бярэ качалку, плюе на яе тры разы і кідае за акно).

Кацiся, качалачка, з хаты у поле,
У пушчу, у бязлюддзе, у лес-сухастой.
З сабою хваробу каці у прыволле,
Дай душачцы волю і сэрцу спакой.

*(Кінула качалку праз акно. Да хворай.)*

Устань, мая родная, з пасцелькі мяккай
Ды разлучыся з хваробачкай цяжкай,
Глянь жа у вочанькі бабкі-знахаркі,
Прымі вадзіцу, жывую, святую,
Прагонім хваробу благую, цяжкую. *(Дае ў лыжцы.)*

Гапка *(абудзілася)*. Дзе я, дзе я, чаму пакінулі мяне адну ў полі, я баюся, ой, не глядзіце так агністымі вачыма, мне страшна, страшна. *(Прыглядаецца.)* А ты хто, ты хто? Янучок, дарагі, ты прыйшоў, ну, падыдзі да мяне, я ж адна, абяздоленая. *(Уздрыганулася.)* Ой, мамка, не пушчайце, не пушчайце, звяры ідуць, парвуць мяне, загубяць,— пашкадуйце. *(Падае на падушкі.)*

Маці. Што будзе, што будзе? Няўжо лекі твае не памогуць?

Знахарка. А ты хочаш адразу, ні села, ні пала, на ўсё свой час. *(Да Гапкі.)* Паслухай мяне, дзеткі, напіся вадзіцы, здаровенькая будзеш, вясёленькая будзеш. Вось гэдак, вось гэдак. *(Падыходзіць да стала.)* Захварэць адразу, а ўстаць, пакуль яго. Я ж не прарок, не загадаю хворай, каб устала ды ні села, ні пала. На ўсё свой час.

Маці. Я ўжо не ведаю, што сказаць, чаго чакаць. Каб магла — сама за яе адпакутавала.

Знахарка. Кожнаму сваё, ні села, ні пала.

Маці. Бедная мая галовачка, бедная, што я пачну рабіць, нешчаслівая, загіне маё дзіцятка, пакіне мяне гаротную. *(Паўза.)* І нашто ты казала, што ён зранены, хіба ў цябе галавы на плячах няма?

Знахарка. Хто ведаў, што гэдак будзе, не так вінна я, як ліст ад яго.

Маці. Я ж казала табе не паказваць ёй, а ты нябось парупілася.

Знахарка. Ды вось так, ні села, ні пала, нячысцік спакусіў: пахваліся, парадаваць хацелася.

Маці. Вось бачыш — парадавала. Ёй сягоння куды горш. Усю ноч плакала, воч не сплюшчыла, а цяпер гарачка.

З н а х а р к а. Нічагутка, палепшае.

М а ц і. А дзе ты падзела ліст?

З н а х а р к а. Ды ў яе ж пад падушкай у торбачцы. Там і шапка яго, усё трымае, не разлучаецца.

М а ц і. І што цяпер рабіць, у яго няшчасце, і ў нас няшчасце. Ён можа памерці там, а яна тут. Пры кім жа я застануся, хто ў помачы будзе на старасці? *(Плача.)*

З н а х а р к а. І што цяпер рабіць, ды нічога не трэба рабіць. Будзеш гадаваць сама, ды і толькі. Паслізнулася дзяўчына, ні села, ні пала. Цяпер і плачаш, і скачаш, а чаму раней не даглядала, дзе былі вочы твае?

М а ц і. Не данімай хоць ты, і так сэрца кроўю абліваецца.

Г а п к а *(праз сон)*. Не адбірайце ад мяне, я не аддам... вы хочаце забраць *(усхвацілася)*, прэч ад мяне, звяры дзікія... я вас баюся... *(Прыглядаецца.)* Янучок! Гэта ты, ты, ну падыдзі, гэта я, не бойся, ты не чурайся мяне, мы будзем разам, вечна разам... а там, мой родны, ты бачыш, якое неба яснае, трава зялёная, і сонца свеціць... Ну, падыдзі, я цень твая. *(Водзіць рукамі па сяцяне і падушцы.)*

М а ц і *(плачучы)*. Не, што ўжо будзе, тое будзе. Я пабягу ў воласць, фельчара прывяду... Твае лекі не дапамогуць...

З н а х а р к а. А ты хочаш адразу, ні села, ні пала. Ну, што ж, вядзі фельчара.

М а ц і. Кінуся ў ногі, няхай вызваляе. Калі ласка, ты тут даглядай, я хутка вярнуся...

З н а х а р к а. А мне што, дагледжу.

М а ц і. А часам прыйдзе той п'яніца, і блізка да хворай не падпусці.

З н а х а р к а. А на мой розум, сядзі, баба, у хаце, а то якраз смерць у хату прывалачэш.

М а ц і. Чаму смерць?

З н а х а р к а. А што ж табе здаецца, фельчар — не смерць? Смерць, мая міленькая, смерць.

М а ц і. Што ўжо будзе, пабягу. Слухалі тваёй рады, паслухаем яго. *(Апранаецца.)*

З н а х а р к а. Паможа табе фельчар, як лысай галаве шмаравідла.

М а ц і *(падыходзіць да Гапкі)*. Дзеванька мая, родная, заставайся адна, а я пабягу, быць можа, прыйдзе табе збавенне, а матцы радасць. *(Пайшла.)*

З н а х а р к а. Усе яны лечаць, ды вылечыць не мо-

гуць. Грыпіну рэзалі — зарэзалі. Васілю нагу адпілавалі — памёр. Язэпу тыфу прышчапілі — памёр. З Анупрэя кроў высмакталі ды нейкаму пану за скуру залілі — памёр. Будуць і тут хаўтуры,— вядзі. Я ведаю, як у іх робіцца. Прыедзе, пацягне носам паветра, дзяцей можа выгнаць, выцягне хвораму язык з мяліцы, прыцісне лучынай, пераліча зубы, пагрымзеліць на паперцы, і толькі. І што ж, фельчар у адзін бок, а душа — у другі.

Уваходзіць п'яны гаспадар.

Гаспадар. Вось і я... Каб яго качкі, нос умарозіў. Халадэча шалёная. А! Каго бачу, знахарка...

Знахарка. Яна самая...

Гаспадар. Якога ражна робіш тут?

Знахарка. Хворую лечым.

Гаспадар. Ну, гэта не хвароба, а капрызы.

Знахарка. Жартуеш, старэнькі. Дачка твая хворая, дзіцятка не ў пору з'явілася.

Гаспадар. Аб гэтым усе ведаюць.

Знахарка. Жар у галаве, боль у грудзях. І зноў кажу, дачка твая хворая.

Гаспадар. Такая яна мне дачка, як ты сястра, шкада, не маю часу, а то вылечыў бы адразу.

Знахарка. Чым бы вылечыў?

Гаспадар. Паленам.

Знахарка. Но, но, няхай палена гарыць у печы, а табе скулу на язык, каб не брахаў.

Гаспадар. Жонка дзе?

Знахарка. Ды па фельчара пабегла.

Гаспадар. Ну і добра. Збяруцца фельчары, знахары, паклічам дзяка, пачнём хаўтуры спраўляць. А ты, ведзьма, выць будзеш?

Знахарка. Як заплоціце, так чаму ж.

Гаспадар *(дастае бутэльку)*. А то як жа — заплачу.

Знахарка. Ах ты, п'янюга, без гарэлкі ані кроку.

Гаспадар. А то як жа, заліваем балючае нутро гарэліцай, і ліха не бярэ, толькі, ведаеш, часамі нячыстая сіла падсуецца да мяне і свае парадкі ў маёй галаве заводзіць.

Знахарка. Крыжом бараніся, крыжом.

Гаспадар. Я бутэлькай баранюся.

Знахарка. Ну і што?

Г а с п а д а р. Слухае, падла. *(Налівае.)* Ну, будзь жыва. *(П'е.)*

З н а х а р к а. На здароўе.

Г а с п а д а р *(налівае)*. Пі.

З н а х а р к а. Боязна трохі, даўно піла, нап'юся, а тут хворая адна.

Г а с п а д а р. Хворая не адна. Глянь, які ў калысцы ляжыць.

З н а х а р к а. Бачыла, бачыла, быццам то анельчык дрыгае ножкамі.

Г а с п а д а р. А я глядзець не хачу.

З н а х а р к а. Бо самасейка, без паспарту.

Г а с п а д а р. Памятка, што Бязродны быў.

З н а х а р к а. Быў Бязродны, а цяпер, бач, і радню мае. Хіба нездаволен?

Г а с п а д а р. О, як здаволен. Частку зямлі адабралі, суд прайграў, добрыя людзі адчураліся, а той ураднік Панцялей і рукі пры спатканні не падае.

З н а х а р к а *(выпівае і сваю і яго)*. А... і трэба ж так.

Г а с п а д а р. Ганяў яго, таго шалахвоста, дый мала, а цяпер глядзі на гэткую абразу. Ляжыць, каб яна не ўстала.

З н а х а р к а. Але ж ціха, не лайся. Яшчэ пачуе, разжаліцца.

Г а с п а д а р. Такога чалавека выгнала, а з басяком падружылася.

З н а х а р к а. Важны быў чалавек і разумны. *(Налівае.)*

Г а с п а д а р. Так вось бачыш, аднаго выгнала, а другому на шыю пачапілася. Добра, што ў пару абудзіўся, а то з сабой у салдаты і павалок бы.

З н а х а р к а. І што ж ты зрабіў?

Г а с п а д а р. За карак ды вон. Пусціў з сенцаў так, ажно памяць утраціў, шапку і тую не паспеў узяць...

З н а х а р к а. Шапка яго тут пры ёй у торбачцы ляжыць пад падушкай.

Г а с п а д а р. Каб ён першай кулі не мінуў, як ён мне ўсе планы пабурыў.

З н а х а р к а. Ціха, не крычы, ён ужо зранены, жыць ці будзе.

Г а п к а. Грэх вам, тату, апамятайцеся, што кажаце.

Г а с п а д а р. Яшчэ дыхаеш?

З н а х а р к а *(п'е абедзве чаркі)*. Ціха, не лунь у

вочы. *(Набок.)* Лекі мае памаглі, дзяўчына пры памяці. Праўда, дзеткі, грэх, вялікі грэх, мукі несчыслёныя, агонь пякельны вечны.

Гаспадар. Грэх кажаш?

Гапка. Ён вас баяўся, бо вы былі, ох... *(Паўза.)* Шапку я яму аддам.

Гаспадар. Збегай, аддай і жывёлу гэтую вазьмі. Ну, баба, налівай чарку. *(Налівае.)*

Знахарка. Гапачка, п'ю за тваю душаньку, за твайго анельчыка і за татку яго. Няхай малы бегае і нас даганяе, а твой Янучок дамоў вароціцца. *(П'е.)*

Гаспадар. А, чортава качарга. Ап'янела. Пляцеш ліха ведае што.

Знахарка. І не дзівіся. Працую, працую і працую, праз усю ноч вока не сплюшчыла. Даруй, каласочак, а я прыкархну хвілінку, галава мая, ой, галава... *(Засынае пад сталом.)*

Гаспадар. Спі, старое памяло.

Знахарка. А калі запытаецца, скажы, там, пад печкай, пад печкай.

Гаспадар. Хто пад печкай?

Знахарка. А ён, той смуглявы. Бяда з ім, дый годзе, ганяла, ганяла і замарылася. Я на печ, ён пад печ, я на прыпек, ён у печ, а пасля пайшоў, пайшоў, пайшоў...

Гаспадар. А, яна пэўне з нячыстым хаўрус завяла, не аднаго мяне гора водзіць па печы і не дае спакою. *(Нагінае бутэльку, п'е.)* Гэта завецца, я гаспадар. У маёй хаце самасей расце. Нішто сабе... Ану, спытаюся у гэтай гіцлёўкі, чаму выгнала Пана-Цялея. *(Падыходзіць і стукнуўшы кулаком.)* Гэй, ты!

Гапка ўсхватваецца.

Гаспадар. Я пытаюся, хто гэта?

Гапка. Я, я, я...

Гаспадар. Мову заняло. Казаць няма чаго. Вон з маёй хаты, каб і следу не было, тут месца і здаровым мала, а хворым з кахання і падаўна.

Гапка. Тату, у чым мая віна? За што?

Гаспадар. Каб і звання не было. Вон!..

Гапка. Куды ж я хворая пайду?

Гаспадар. Ідзі і прывядзі мне таго, каго выгнала, памятаеш?

Гапка стаіць пры ложку.

Гаспадар. Ну, чаго ж яшчэ? Ад слова...

Г а п к а *(бярэ дзіця)*. Пойдзем, мая родная дзетка, мы — бяздомныя, нам няма месца. *(Узяла торбу.)* Даруйце, тату, я ні ў чым не вінна... даруйце. *(Пайшла.)*

Г а с п а д а р. А бабе галаву пашчапаю, чаму дапусціла, а не ганяла таго свінапаса. Я ёй дам. Эх, Пан-Цялей, Пан-Цялей, дзе мая зямля, дзе мае суды... Што чакае мяне, дзе радасць, дзе мой абаронца? *(Дрэмле.)* ...Ага, во мая радасць, мая ўцеха, ты дзелішся са мной усім, ты весяліш маё гора. *(Дрэмле.)* А ты куды лезеш, чортаў смык? Каго табе трэба, мяне? О, не, мяне не возьмеш. Я сілу маю... Стоп, стоп, тпру... тпру... Ні з месца. *(Засынае.)*

Уваходзіць м а ц і і ф е л ь ч а р.

М а ц і. Дачушка мая... фельчар ёсць. Што я бачу, дзе ж дачушка мая... дзе дзіцятка маё? *(Тармосіць п'яных.)* Дзіця дзе маё падзелі, дзіця дзе? Забіў, забіў... *(Падае на калені пры ложку.)* І за што такое гора, такая кара, за што? *(Плача.)*

З а с л о н а

## АКТ IV

Дэкарацыя І акта. Дзверы і вокны забіты дошкамі.

Б я з р о д н ы *(ідзе зранены)*. Як дрыжыць сэрца, аж халадзее кроў. І радасна пры мыслі, што зараз убачу, і страшна, калі падумаю, што замуж выдалі. Я акалечаны, без сіл прыйшоў сюды да мілай Гапачкі маёй. Так выйдзі ж, маё сонца, выйдзі глянь... А сэрца так дрыжыць, як у непагоду ліст... *(Падыходзіць бліжэй.)* Што я бачу?.. Чаму і дзверы і вокны дошкамі забіты? Мабыць, не жывуць? Як так? Што са мной? Як заныла сэрца. *(Сеў на лавачку.)*

Праходзяць д в о е с я л я н.

І с е л я н і н. Спяшайся, кум, а то спознімся.

II с е л я н і н. Пыстаў зусім, старасць не радасць.

І с е л я н і н. Хто ж гэта, салдат нейкі, што з табою, чалавеча добры?

II с е л я н і н. Пэўне хворы. Што з табою? Га?

Бязродны. Нічога! Заныла сэрца.

II селянін. А хто ж будзеш?

Бязродны. Не спазналі? Я — Бязродны. Парабкам служыў у гэтай вёсцы.

Абое. А, вось хто — Бязродны. З вайны вярнуўся.

I селянін. Што ж гэта, зранілі цябе?

II селянін. Ды пэўне ж — нага скалечана.

I селянін. Вайна — біч божы.

Бязродны. Скажыце, даражэнькія, чаму іх хата дошкамі забіта, дзе ж яны, што з імі?

I селянін. І ўспамінаць вусцішна. Нешта страшнае ўзвалілася на долю гэтых бедакоў.

Бязродны. Не мучце, кажыце, дзе Гапка?

II селянін. Так вось за Гапку і бяда ўся. Сам айчым піў без памяці і душу сваю пэўне чорту запрадаў, калі ўжо наважыўся такую расправу ўчыніць над тваёй маладзіцай. Яна была хвора. Дзіцятка нарадзілася, а ён уз'юшыўся і прагнаў...

Бязродны. Прагнаў?

II селянін. Прагнаў, і толькі бачылі. Ці яна дзе ў раку рынулася, ці так куды сышла, але дос таго, што й па гэты дзень няма.

I селянін. Кажуць людзі ўсяк. Адны кажуць, што да цябе пайшла ды збілася з дарогі, у пушчу трапіла і там смерць напаткала, а другія кажуць, што ў віры глыбокім ляжыць. Хто ж яго ведае? Толькі ўжо, калі трапіла ў пушчу, там смерць немінучая, ваўкі нападуць, і чалавек згінуў.

II селянін. А я чуў, што яна ў віры глыбокім ляжыць на самым дне і ў маладзіковую нядзелю, калі ў царкве дзвягне першы звон, яна ўстае і плача над трупам свайго дзіцяці. І, праўду кажучы, стогн гэты, плач замучанай душы мы чулі.

I селянін. Быццам то вецер у асеннюю ноч заводзіць. Слухаеш, і страх агортвае тваю душу.

II селянін. А вось хто табе скажа, знахарка наша, яна лячыла хворую і больш ведае за нас.

Прыходзіць знахарка.

Знахарка. Каго ж лячыла я? Хто пытаецца?

I селянін. Ды Гапку з гэтай хаты, давядзі ўсё як след, а мы пайшлі.

Знахарка. А! Гапку з гэтай хаты? Памятаю.

Бязродны. Цётачка, скажыце ўсё, што толькі ведаеце.

Знахарка. А то як жа, скажу. Больш ад мяне ніхто не ведае. Мне толькі і прыйшлося бараніць яе ад азвярэўшага айчыма. Ну і чалавек, не людское сэрца меў, што ні прасіла, што ні маліла, нічога не памагло.

Вось, значыць, паклікалі мяне. Яна хворая ляжала. Вочы ўпаўшы, галава гарыць, дзіцянётка нехрышчонае было, у калысачцы ляжала, а яна кідалася ў гарачцы, клікала кагось, запомніла, чыё імя ўспамінала. *(Прыпамінае.)* Як яго? Янучка нейкага, Янучка клікала.

Бязродны. Ох! Якія перажыткі!

Знахарка. Шапачку ў торбачцы пад падушкай трымала і ліст ад некага, ой, цяжка ёй было, цяжка, рукамі пераймае, кліча, быццам цень бачыла перад сабой, і так мучылася, пакуль айчым не прагнаў.

А хто ж сам будзеш? Ці не той самы, аб якім успамінала, а... якая шкода, на вайне быў, зранены, цяпер я зразумела, ад цябе і ліст быў аб няшчасці.

Янук. Так, ліст быў ад мяне.

Знахарка. Адно пры другім, а дзяўчына загінула, дапамог-то п'янюга, хаця ж па смерці не варта дрэнным словам успамінаць душачку яго.

Янук. А што з ім?

Знахарка. Таксама злажыў сваю галаву, напіўся і памёр сярод дарогі, як быдла.

Янук. А маці дзе?

Знахарка. Звар'яцела, бядачка, ходзіць непрытомная па сяле, страх глядзець.

Янук. Што за страшная хмара пранеслася над хаткай пахілай? О, неба! За што ж гэта, за што?

Знахарка. А вось праз вуліцу маці ідзе. Мне заставацца нельга, я сыду з воч, бо не магу. А ты пагавары. Ох, божа, божа, даруй цяжкі грэх. *(Пайшла.)*

Маці з кветкамі. Яна прыглядаецца.

Янук. Матуленька! Ці пазналі мяне?

Маці. Ці пазнаю цябе, цябе, такога, што вырваў з матчыных грудзей дзіця. Пазнаю. Я ведаю, ты страх, мой біч, ты следам соваешся і хочаш спадцішка ўвайсці у мой палац. Вось мой палац, вось мае кветкі, а тут на траўцы сляды маёй гаротніцы. Ох, яна, бедная, адна. *(Плача.)* Дзіця маё, дзіцятачка, цябе няма, цябе загналі тут, цвіком прыбілі... Ой, прыбілі, не вырвешся і не

ўстанеш. *(Раскладвае кветкі ў парозе.)* Гэтыя кветкі сум душы маёй, я не аддам іх, не аддам нікому. А ты ідзі адсюль, ты хочаш патаптаць сляды яе. О, не! Я не дапушчу, буду бараніць.

Янук. Нашто ж спяшаў, нашто я верыў? Усё скончана. Усё!

Чуваць звоняць.

Маці. Вось! Чуеш! Гэта кліч яе! Голас загубленай душы, стань тут і стой, а я пайду, можа, чакаюць, я адчыню ёй браму светлую і на пасад іх пасаджу. *(Пайшла.)*

Янук. Гапка! Гапка! Які цяжкі паражытак залёг у сэрца мне. Крывавыя абразы, крывавыя сляды. *(Становіцца на калені.)*

О неба! Справядлівае, сонца агністае, асвяці цярністы шлях майго сірочага жыцця і ўзвядзі на сцежку, каб мог знайсці сваё загубленае шчасце.

Заслона

## АКТ V

Дзікая пушча. На снезе ляжаць торба і косці чалавека.

Янук *(ідзе храмаючы)*. Змяркае, і дарогі далей няма, ваўкі выюць. Нікога не відаць, нікога не чуваць, толькі рэха нібы насміхаецца нада мной і ўторыць майму голасу. *(Убачыў торбу.)* Што гэта? Хата пастушша дзе недалёка, можа, шчасцем напаткаю яго. *(Разглядае і бярэ там сваю шапку і ліст.)* Што я бачу, ці праўда, мая шапка, мой ліст, няўжо тут, тут сходзіць дарога, няўжо тут смерць знайшла ў дзікай пушчы?

О, вы! Нямыя сведкі, ці бачылі вы дарагую маю Гапку, як блудзіла яна, скажыце, скажыце? *(Убачыў косці і хваціў у рукі чэрап.)* Гапка! Гапка!

Заслона

# СУД

*П'еса ў адным акце*

## АСОБЫ

Пісар валасны, гадоў 25.
Старшыня, гадоў 40.
Суддзя, гадоў 30.
Стораж Мірон, гадоў 50.
Гарбуз, селянін гадоў 40.
Яго жонка, гадоў 35.
Авечка, іх сведка, гадоў 40.
Упраўляючы, гадоў 40.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

Канцылярыя воласці, пасярэдзіне і па баках — дзверы, справа ад публікі — акно, пры акне — лава.
На сцэне стол, на стале — справы, паперы, кнігі, аловак, люстра, грабянёк. На падлозе ўсё паварочана, валяюцца парожнія бутэлькі.

## РЭКВІЗІТ

2 вядры, адно з вадой.
Венік з кіем.
1 бутэлька з вадой.
Стол, крэслы (3), кнігі, паперы, справы, аловак, грабянёк, люстра.
Гадзіннік у пісара.
Торба і хлеб у Гарбуза.
Кій сукаваты ў Авечкі.

## ТЫПЫ

Пісар, старшыня, суддзя — п'яніцы.
Старшыня — з вялікай чорнай барадой.
Гарбуз — пакорны чалавек, барады толькі палова.
Жонка — рухавая кабета.

Авечка — жвавы чалавечак, зусім лысы, ніякай расліны, храмы на правую нагу, з наклееным носам. Нагу, каб не сагіналася, трэба браць у ляшчоткі. Апрануты бедна. Авечка зусім як жабрак.

Упраўляючы — апрануты багата. Пальто, сурдут, новыя калёшы, складны цыліндр.

## З'ЯВА I

Уваходзіць стораж, трымаючы венік у руках.

Стораж *(здзіўлены)*. Ах, каб на вас чума, столькі смецця за адзін вечар нарабілі, адных коркаў ды акуркаў повен кут назмятаў. Ну, і людзі, апундырыліся гарэлкай *(метучы)*, смакталі гэту няшчасніцу да таго, што і памяць страцілі. Пісар да таго дапіўся, што мяне, старога чалавека, за бабу палічыў і цалаваць пачаў, абзываючы нейкай Забэлькай, во каб яго свінні цалавалі, намысліўся; а старшыня і ваўком выў, і сабакам брахаў, і плаваў па падлозе; адзін фельчар маладзец: той калі пачуў, што ногі адняліся, падазваў мяне і папрасіў, каб занёс у пуню на салому, а мне што кажуць — слухаю, ужджабурыў, як ягнё, на плечы і завалок па адрасу. І як у іх галавы на карках трымаюцца: сягоння суд, а яны, як мухаморы, п'яныя. Пісар ад гарэлкі азыск, галава, як церліца, вочы акуртаціліся, а рукі, як машына, маланкаю паперы скрыгаюць — шась, шась! Я з венікам так не спраўлюся.

## З'ЯВА II

Уваходзіць Гарбуз.

Гарбуз. Добрага дня.

Стораж *(спужаўшыся)*. А ліханька тваім кастылям, спужаў мяне; хто ты і адкуль ты?

Гарбуз. Я — Дзяніс Гарбуз, з Негнавіч.

Стораж. На якое ліха тут?

Гарбуз. А хіба ж запомнілі? Паперай клікалі на суд.

Стораж. Адкуль мне ведаць, я цябе не клікаў і паперы не пісаў.

Гарбуз. А хто ж вы?

СторАж. Хіба ж не ведаеш, як прозвішча таго, што піша венікам па падлозе?

Гарбуз. Ведаю.

Сторож. Нашто ж пытаеш?

Гарбуз. Хто пытаецца, той не блудзіць.

Сторож. Дык чаго ты прыехаў з-за свету сюды?

Гарбуз. Ды не прыехаў, а прыйшоў. Каня ваўкі аблажылі, а пасля кароста з'ела. На суд, значыцца.

Сторож (*прыглядаецца*). Што гэта ў цябе: барада не барада, касмыль не касмыль?

Гарбуз. Была барада, і досыць рослая, але як палову выдралі, касмыль застаўся.

Сторож. У каго гэта рукі свярбелі рваць яе?

Гарбуз. У аканома князёўскага, вось за гэта ж і суд.

Сторож. І ліха ж яму дало рваць чалавеку бараду.

Гарбуз. Выдраў, каб з яго вантробы выдралі.

Сторож. А ў цябе ж хіба адвагі не было па руцэ ўгрэць таму аканому?

Гарбуз. Калі я чалавек без адвагі; я ніколі нікога не біў, а мяне білі.

Сторож. У войску служыў?

Гарбуз. Я — белабілетнік, нікуды не гожы.

З'ЯВА III

Уваходзіць Гарбузіха.

Гарбуз. Вось мая баба, Гарбузіха Магжата.

Жонка. Добрага дня; не ведаю, хто будзеце,— ці не старшыня воласці?

Сторож. Але ж, старшыня над гэтым дзеркачом.

Жонка. Тым лепш; прынамсі адкажаце, калі запытаемся.

Сторож. А чаму ж, пытайцеся.

Гарбуз. Будзьце ласкавы, браток...

Жонка. Чакай, я пачну. Ці не вядома вам, як суд паглядзіць на гэткую знявагу; бачылі бараду?

Сторож. Бачыў.

Гарбуз. Бачыць мала, трэба ведаць, які боль.

Жонка. Стой, не адзывайся, не дзіця,— усё ведае.

Сторож. Калі б былі сведкі...

Гарбуз. А то як жа, былі...

Ж о н к а. Стой, не адзывайся; сведка ёсць, сусед, Авечка кульгавы.

Г а р б у з. Але ж, ён кульгавы; трохі пройдзе, дый сядзе, трохі пройдзе, дый сядзе.

С т о р а ж. Ды гэта да справы не адносіцца.

Г а р б у з. У судзе ўсё разгледзяць, што адносіцца і што не адносіцца.

С т о р а ж. О, яны разгледзяць, толькі моцна на нагах трымайцеся.

Ж о н к а. Мала барады, дык яшчэ гуплікаў надаваў і тры зубы выбіў.

Г а р б у з. Што ў мяне, бакі дубовыя?

С т о р а ж. Я не суддзя, але наперад кажу, што з багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.

Ж о н к а. Мы яго засудзім, наша крыўда відочная.

С т о р а ж. Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.

Ж о н к а. Хіба ж у судзе дзверы не роўна адчыняюцца для ўсіх?

С т о р а ж. Пабачыце, тады скажаце.

Г а р б у з. То як жа будзе?

С т о р а ж. Так і будзе, даў — насі на здароўе.

Ж о н к а. Хіба ж на яго суду няма?

С т о р а ж. Ёсць. Пісар храпе там, старшыня ў хляве на саломе, а суддзя тут; абы ачнуліся, калі шухнуць — уздзівішся.

Г а р б у з. Працавітыя людзі.

С т о р а ж. Так, працавітыя. Ну, вы тутка пасядзіце, а я пайду вадзіцы прынясу, ачнуцца — запатрабуюць. *(Бярэ вядро і выходзіць.)*

Ж о н к а. А мы тым часам закусім трохі. *(Села на лаву.)* Ну, давай сюды торбу, нешта пад грудзямі смокча.

Гарбуз шукае ў торбе.

Ж о н к а. Ну, чаго ж сапеш, як кавалёў мех, даставай бараніну.

Г а р б у з. Нешта не знайсці яе.

Ж о н к а. Хіба ты запомніў узяць яе?

Г а р б у з. Яно так і будзе: адыходзячы, паклаў на стале і запомніў.

Ж о н к а. А, разява, ліханька тваім бакам, як ірвану цябе за гэты касмыль!

Г а р б у з. Чакай, чакай, баба.

Ж о н к а. Выправіўся дурналяп з пустой торбай.

Г а р б у з. Не так ужо і пустая, хлеб і сала ёсць. *(Дае хлеб.)*

Ж о н к а. Давай. *(Адламала маленькі кавалачак, аддала Гарбузу. І пачынае есці.)* О! Старое карыта...

Г а р б у з. Ну, годзе ўжо лаяцца, а то папярхнешся сухім хлебам.

Жонка пачала душыцца.

Г а р б у з. А што я табе казаў... не плявузгай. *(Стукае кулаком у карак.)*

Ж о н к а. Маўчы, дурналяп.

Г а р б у з *(стукаючы ў карак)*. Ты лепш маўчы, а то горш будзе. Во дзе розум у бабы: трэба ж, напхала ў мяліцу гэтулькі хлеба. Ну, глытай, глытай. *(Паўза.)* Нарэшце — паехаў...

Ж о н к а. У... Заледзьве не задушылася.

Г а р б у з. Напужала толькі, а мне ліха ведае што здалося.

Ж о н к а. Няхай табе не здаецца, не памру. *(Есць.)*

Г а р б у з. Ізноў кладзеш цэлы акраец, ці пры памяці ты, баба?

Ж о н к а. Не ў госці прыйшлі, трактаваць не будуць.

Г а р б у з. А што, каб Авечку клікнуць — няхай бы і ён укусіў трохі, таксама здарожыўся.

Ж о н к а. Не трэба, нажрэцца, а пасля не сойдзецца. *(Есць.)*

Г а р б у з. Як хочаш, зноў кажу табе — не спяшайся, баба, і не кладзі такіх вялікіх кавалкаў; што цябе ў горб б'юць?

Ж о н к а. Я не ў гасцях, ем свой хлеб.

## З'ЯВА IV

Уваходзіць з бакоўкі п і с а р, галава ў пуху.

П і с а р *(пацягваецца)*. І сам згадаць не магу, ці гэта раніца, ці вечар,— нічога не кемлю. Сонца за бярозамі не відаць, галава — як палена. Напіўся ўчора на імянінах, як свіння... *(Дастаў гадзіннік.)* Ды што гэта з ім? Памёр, пахілены, хто ж гэта яго пахіляў? Ну, тут нічога не даб'юся, ну, а чэрап мой цэлы? *(Глядзіць у люстра.)* А бацюхны мае, няўжо гэта я? Адна страхата, вось дзе кветка лугавая, каб цяпер шмаргануў цэглай па гэтым гарбузу.

Г а р б у з і ж о н к а. Паночку, Гарбузы ўжо тут.

П і с а р (спужаўшыся). Хто вы такія, якая мара ўнесла сюды?

Г а р б у з. Мы, паночку, Гарбузы: я — Дзяніс, а яна — Магжата.

Ж о н к а. Пашаноту пану перш. (Кланяецца ў пояс.)

Г а р б у з. Добрага здаровейка.

П і с а р. Вы чаго тут?

Ж о н к а. Стой, не адзывайся. Мы, паночку, па загадзе вашым прыйшлі. (Да мужа.) Дзе абвестка?

Г а р б у з. Няма абвесткі, скурылі з Авечкам.

Ж о н к а. Скурылі? Ах, каб твая шэрсць курэла; бараніну запомніў, абвестку скурыў. Мы, паночку, на суд прыйшлі.

П і с а р. На які суд?

Ж о н к а. Толькі сонейка ўзышло, мы ўжо былі тутка; панок за сцяной смачна спалі, бо храплі, не раўнуючы, як басэтля.

П і с а р. Зноў пытаюся, на які суд?

Г а р б у з. Мне, паночку, вылупілі бараду.

Ж о н к а. І выбілі тры зубы.

П і с а р. Хто вырваў бараду, пытаюся?

Г а р б у з. Аканом князёўскі.

Ж о н к а. Але ж, ён, аканом.

П і с а р. Ага, памятаю, гэта справа на чарзе; вылазьце за дзверы, рассудзіма як след. (Паўза.) Ну, чаго ж лыпаеце вачыма, бач іх — расселіся паветра псуць. Курылі тут?

Г а р б у з. Ніхто не курыў, хлеб елі, ды баба папярхнулася.

Ж о н к а. Так, паночку, папярхнулася.

П і с а р. Ну, вылазьце — паклічу. (Гарбузы пайшлі.) Значыць, сягоння суд, во каб цябе распаразала, заледзьве не праспаў. (Разглядае на стале справы.) Дзело ўправляюшчэго і эканома с крэсцьянінам Гарбузом. Эканом і ўправляюшчый обвіняются, а Гарбуз поцерпевшый. (Паўза.) Справа досыць паважная, толькі п'янай галавой і разбіраць яе. (Паўза.) Ліха ведае, да чаго я дайшоў, адна страхата. Старшыня не прачнуўся, суддзя таксама. Мірон, а Мірон! (Паўза.) Не ідзе, ён пасля гэтакіх папоек недаступны. Мірон, а Мірон, дзе ты, а то ў адседку пасаджу.

## З'ЯВА V

Уваходзіць з 2-ма вёдрамі сторaж Мiрон.

Пісар. Вось добра, Міронка, што ты тут, а яшчэ лепш, што вады прыпёр. Сцюдзёная?

Сторaж. Хіба ж не цяпер ведаю, што пасля такіх папоек вада з крыніцы патрэбна.

Пісар. Ты, Мірон, залаты чалавек, усё ведаеш, што начальству патрэбна, за гэта прадстаўляю цябе к нарадзе.

Сторaж. Так, к нарадзе.

Пісар. Прадстаўляю к нарадзе і напішу: Мірону, залатому чалавеку, дайце залаты медаль.

Сторaж. Пакуль той медаль дадуць, а на паўбутэлькі зараз скажаце даць, ведаю я вас.

Пісар. Начальства запытаецца: хто такі Мірон? А я напішу: Мірон — сторaж, Мірон — бацька, служыць не за страх, а за сумленне; разумееш, Мірон, што гэта за словы?

Мірон. Разумець я іх не разумею, але на памяць ведаю; штодзень гаворыце, як пахмяліцца трэба, а як ужо пахмяліліся, тады кажаце: Мірон, вылазь вон.

Пісар. Эх, Мірон, Мірон, утраціў ты веру, не хочаш медаль.

Сторaж. Чаму не хацеў бы, але яго няма. Калі ён будзе?

Пісар. Будзе, Мірон, будзе. Ты ўяві сабе, Мірон, як будзеш выглядаць, калі на тваіх грудзях заблішчыць залаты медаль з царскім партрэтам. Едзеш ты праз вёску, сяляне шапкі здымаюць, прыйшоў ты ў карчму — а табе без грошы чарку наліваюць, прыйшоў ты ў суд — цябе садзяць за чырвоны стол, а прыехаў ты ў горад,— не кажу, што прыйшоў, а прыехаў: хто з медалямі, пехатой не ходзіць,— табе ў горадзе гарадавы аддае чэсць, дворнік не мяце вуліцы, каб не закурыць твайго медаля, афіцэры на цябе глядзяць, салдаты ціхком перашэптваюцца,— во, кажуць, заслужаны чалавек паўзе.

Сторaж. Ну, годзе, панок, падстаўляйце галаву, палью трохі, ды прычашыцеся трохі, а то галава на макотру выглядае.

Пісар *(у люстра)*. Праўду кажаш, Мірон, гэта галава не пісара.

Сторaж *(набок)*. А канакрада нейкага.

П і с а р. А скажы мне, Мірон, чаму мой гадзіннік не ідзе?

С т о р а ж. А як ён можа ісці, калі пан яго аб сцяну гакнулі, аж толькі падрабязгі пасыпаліся.

П і с а р. Аб сцяну? З якой прычыны?

С т о р а ж. А з якой прычыны мяне за бабу палічылі, цалавалі, Забэлькай абзывалі... цьфу...

П і с а р. Нічога не памятаю.

С т о р а ж. Так п'ючы, і памятаваць ніхто не зможа. Гляньце, да чаго выглядае канцылярыя, усё гарэлкай пазалівалі; ледзьве да парадку давёў.

П і с а р. Каторая цяпер гадзіна?

С т о р а ж. Паўдня.

П і с а р. Ліха ведае што, так позна абудзіўся, а тут суд такі паважны, сам упраўляючы павінен быць.

С т о р а ж. Безбароды ўжо тут.

П і с а р. Гэта што... Ну, будзь ласкаў, палівай.

С т о р а ж. Лью.

П і с а р. Толькі асцярожна, за карак не залі.

С т о р а ж. Не першыня. *(Лье ваду.)*

П і с а р. А... а... як добра.

С т о р а ж. Годзе.

П і с а р. Дзякую табе, Мірон, ты мяне вылечыў.

С т о р а ж. Ручнік даць?

П і с а р. Ручніка не трэба, з мокрай галавы хутчэй жар выйдзе, гэтак кажа разумны чалавек, прафесар Кнэйп. Ты чуў што аб тым Кнэйпе?

С т о р а ж. Нічога я не чуў, але без прафесара ведаю, што карысней ліць ваду на галаву, як гарэлку ў галаву.

П і с а р. Ты, Мірон, разумны чалавек, табе трэба ў гасударственным савеце сядзець, а не тут.

С т о р а ж. Зноў пачынаеце хваліць і зараз скажаце прынесці пахмяліцца.

П і с а р. Залаты чалавек, залаты: наперад ведае патрэбу маю.

С т о р а ж. На ліха вам патрэба, прачухаліся — і добра.

П і с а р. Зразумей жа ты, Мірон, што чарку не вып'ю — галава, як палена, канцылярыя — сірата, ты без службы, сяляне без пашпартоў, воласці няма, ну, а падругое,— сягоння суд, упраўляючы сам будзе. Ну, будзь ласкаў, Мірон, схадзі прынясі паўпляшкі ды па дарозе раскурстай старшыню.

С т о р а ж. Дайце ж грошы!

Пісар. Зноў камедыя. Купі, Міронка, за свае, я праматаўся ў карты, разлічымся.

Стораж. Калі гэта будзе? Я са шчоту збіўся.

Пісар. Я памятаю. Ну, плыві, Мірон, плыві.

Стораж. Ах, пакіньце так казаць, я не рыба, не паплыву.

Пісар. Ну, дык пяшэчкам.

Стораж. Гэта апошняя паўбутэлька на доўг. (*Пайшоў.*)

Пісар. Вось да чаго дайшоў. Я, пісар, грошы ў стоража пазычаю. Дзела № 447, праклятае дзела. (*Панюхаў.*) І яно гарэлкай смярдзіць; ну, а хто тут ёсць, хто сведкі, ці ўсе паперы. Сведка нейкі Лаўрэн Авечка, пэўна — дурань, калі авечка. Ну, а ўрачэбнае свідзецельства ёсць... што бараду выдралі і тры зубы выбілі? (*Шукае.*) Няма. Ну, тады Гарбуз пакоціцца назад; я магу сказаць, што мяне соннага пацук за нос укусіў,— хто гэтаму паверыць? Ану, глянуць, які ў іх Авечка. (*Сеў за стол.*) Ці Авечка тут ёсць? (*За сцэнай: «Тут, панок».*) Паўзі сюды!

## З'ЯВА VI

Уваходзіць сведка Авечка.

Пісар. Ты Авечка?

Авечка. Так точна, я Лаўрэн Авечка.

Пісар. Прайдзіся па канцылярыі.

Авечка. А закурыць дасцё?

Пісар (*грозна*). Прайдзіся па канцылярыі!

Авечка ідзе.

Пісар. Кульгаеш трохі?

Авечка. Не трохі, а такі і добра кульгаю; яна ў мяне сухая, як таран, і карацей на цалі дзве. (*Паўза.*) А хто, пан, будзеце, ці не доктар?

Пісар. Я — пісар.

Авечка. Пісар? А, добрага здаровейка! (*Працягнуў руку.*)

Пісар (*штурхануў Авечку нагой*). Цяпер ведаеш, хто я?

Авечка. Ведаю.

Пісар. Так ідзі туды і чакай, паклічу.

Авечка. Зноў туды? Калі там нудна, Гарбуз накурыў, хоць ты сякеру павесь. (*Паўза.*) А можа, у пана закурыць ёсць,— нешта тут смокча.

Пісар. Я не куру.

Авечка. Дзіўна, каб начальства не курыла. А гарэлку пэўна ж п'яце?

Пісар (*грозна стукнуўшы па стале*). Што ты мяне спавядаеш? Вон!

Авечка. Іду, паночку, іду. (*Уцёк.*)

Пісар. Ну й Авечка, ха-ха-ха... Ну, а хто там у бакоўцы храпе? А, паважаны суддзя! (*Пайшоў у бакоўку.*)

## З'ЯВА VII

Уваходзіць старшыня з галоўных дзвярэй, галава ў саломе.

Старшыня. Вось да чаго дажыўся старшыня, спаў недзе ў хляве; цьфу, які сорам! Добра, што, апроч парсюка, ніхто не бачыў. І як гэта я трапіў туды, хоць рэж — не ўспомню, усё гарэлка вінна; хатнюю добрую пасцель змяніў на свінячую падсцілку. Пісар, звадыяш, напаіў, як шаўца.

## З'ЯВА VIII

Выходзіць з бакоўкі пісар.

Пісар. А, каго бачу! Як спалася?

Старшыня. Дзе спаў і як спаў — не памятаю, ведаю толькі, што было шмат вольнага і цёплага паветра.

Пісар. Ведама, як для начальства, усе выгоды, а я спачываў тут. Галава, як човен. Мірон паліваў ужо.

Старшыня. Кажаш, паліваў?

Пісар. А то як жа іначай? Назначылі суд, а тут мы во...

Старшыня. Дай сюды люстра.

Пісар. На, толькі не спалохайся.

Старшыня. Няўжо гэта я, няўжо старшыня?

Пісар. Хіба ж ён.

Старшыня. Налпа не налпа, мядзведзь не мядзведзь, сябе не пазнаю. Вада ёсць?

Пісар. Ёсць.

Старшыня. Будзь ласкаў, узлі на мой чэрап.

Пісар. З вялікай ахвотай; прыказка нездарма кажа: п'яніца п'яніцы спагадае. (*Нагнуў.*)

Старшыня. А... як добра, як добра.

Пісар. Прафесар Кнэйп гэтым толькі і лечыць людзей.

Старшыня. Лечыць, апроч п'яніц.

П і с а р. За гэта не бяруся, браў пад увагу п'яніц ці не. Уся.

С т а р ш ы н я. Адразу пасвятлела, цяпер я і цябе бачу, і свет бачу. Дай ручнік.

П і с а р. Кнэйп кажа не выціраццa.

С т а р ш ы н я. Няхай будзе й так. Дзе Мірон?

П і с а р. Я паслаў.

С т а р ш ы н я. Хіба я здагадваюся?

П і с а р. А то як жа інaчай? Трэба!

С т а р ш ы н я. За гэта і пашанота табе, што адчуваеш тое, што і я.

П і с а р. Не так адчуваю я, як адчувае Мірон; казаў, што крэдыт мне зачыніць.

З'ЯВА IX

Уваходзіць М і р о н з бутэлькай у руках.

П і с а р. Ну, Мірон, прынёс збавенне?

С т о р а ж. Прынёс. *(Дае.)*

П і с а р. Давай шклянкі.

С т о р а ж. Як іх даваць, калі ўчора ўсе патаўклі.

П і с а р. Няма — не трэба. *(Стукнуў аб далонь і абліў Мірона.)*

С т о р а ж. Паночку, не кідайце коркаў на падлогу, толькі што вымеў цэлы воз.

С т а р ш ы н я *(грозна)*. Ты хіба не ведаеш сваіх абавязкаў?

С т о р а ж. Як-то не ведаю: прыносіць за свае грошы гарэлку, зносіць лаянку і цягаць п'яных па ўсіх хлявах — ведаю.

С т а р ш ы н я *(убок)*. Вось цяпер я зразумеў, чаму я спаў разам з парсюком у хляве.

П і с а р. Ну, Мірон, вылазь вон, а то будзе бура.

С т а р ш ы н я. Ад слова, а то заначуеш у халадніцы.

С т о р а ж. Я ж кажу, як на паўбутэлькі даць, тады — братачка Мірон, сватачка Мірон, медальку Мірону, а як даў — тады скулу яму, Мірон, вылазь вон. Апошняя паўбутэлька на доўг. *(Пайшоў.)*

С т а р ш ы н я. Я яго жывога з'ем.

П і с а р. За што?

С т а р ш ы н я. Я ведаю за што.

П і с а р. Ну, годзе злаваць, абудзім лепш суддзю.

С т а р ш ы н я. А хіба ж ён тут?

П і с а р. Тут, спіць. *(Пайшоў у бакоўку.)*

Старшыня. Гэта ж знявага, суддзі спяць тут, а старшыня ў хляве; хіба я не буду старшынёй, а Мірону падзякую. Ліха ведае што, гэта ж калі дазнаюцца людзі — асмяюць. Старшыня ў кампаніі з парсюком... А які ж прыемны бачыў сон: быццам мы з кумам Гаўрылам так доўга не бачыліся і, нарэшце, спаткаліся, на радасцях добра выпілі і, абняўшыся, праспалі ўсю ноч. І трэба ж — так даставалася, ніякага кума і блізка не было, а замест кума парсюк пудоў з дзесяць.

## З'ЯВА X

Выходзяць з бакоўкі пісар і суддзя.

Пісар. Ну, бычок божы, вылазь на свет, а то і суд праспіш.

Суддзя. І якія гэта дурні вызначаюць пасля імянін суды?

Пісар. Пытаешся, якія дурні,— вось яны, дзівіся!

Суддзя. Павар'яцелі.

Старшыня. Ну, годзе, пастарайся лахманы прысуліць, а то на ваўка падобны.

Суддзя. Каб, здаецца, чарку гарэлкі — у ногі пакланіўся б.

Пісар. Ну, так і быць, кланяйся. *(Паказвае гарэлку.)*

Суддзя. А браток ты мой, ратуй...

Пісар. Чакай, чакай, па начальству... Ну, старшыня, пачынай.

Старшыня. Каб не суд — не піў бы, а так мушу. *(П'е, затым перадае ў рукі суддзі і пісару.)*

Пісар *(п'ючы)*. Каб за год даждаць і заўжды з парсюкамі спаць.

Старшыня. Смяецца, гад.

## З'ЯВА XI

Уваходзяць Авечка, Гарбуз і жонка.

Авечка. На здаровейка, панок.

Старшыня. Хто вас клікаў?

Пісар. Вы чаго ўпаўзлі сюды?

Гарбуз. Паны на суд клікалі.

Авечка. Так точна, на суд і я прыкульгаў.

Жонка. Паперу прыслалі, але гэтыя салапякі скурылі.

Старшыня *(да пісара)*. Хто яны?

Пісар штосьці шэпча на вуха старшыні.

Старшыня. А! гэта тыя мяцежнікі, што ўпраўляючага абразілі?

Гарбуз. Гляньце, паночку, на бараду — то ўбачыце абразу.

Старшыня. І глядзець не хачу, дай сюды абвестку.

Гарбуз. Я ж пану пісару прызнаўся, што скурылі з Авечкам.

Авечка. Так точна, скурылі, і я памагаў.

Жонка. Я ўжо лаяла іх за гэта, а прыйшоўшы дахаты, і штурханцоў надаю.

Старшыня. Гэта ж знявага.

Авечка. Так точна, знявага, скурылі абвестку, але ў нас звычай такі: усё, што пад рукі пападзецца папяровае, курыць — ксёнжку, газету, абвестку; ведама, народ цёмны, чытаць не ўмее, а курыць усё. Я, памятаю, лемантар дзяціны скурыў, во як...

Гарбуз. Я ўжо адумаўся, але па часе.

Авечка. Так точна, і я адумаўся, але па часе.

Старшыня. Аштрафаваць гада.

Гарбуз. Паночку!

Жонка. Але ж гэта ён зрабіў не з роскашы!

Авечка. Так точна, убачылі паперу, як нешта асаблівае, скруцілі па дзве сабачыя ножкі, і толькі.

Старшыня. Я табе скручу ножку.

Авечка. Хіба ўжо другую, бо адна скручаная,— во, што за штука. *(Ідзе.)*

Суддзя. Распачынайце дапрос.

Пісар *(бярэ ў рукі справу)*. Гарбузіха, кажы ўсё, што ведаеш, і памятай, салжэш — сядзеш у астрог.

Авечка. Так точна, за гэта астрог.

Жонка. Скажам усё, як на споведзі.

Старшыня. Пачынай.

Жонка. Было гэта перад нядзелькай, сонца толькі села за лесам, кот Мацей саскочыў з печы, пачаў мыцца, аж чую, пішчыць нехта за хатай. Што за ліха, думаю сабе, ці не парасё дзе ўшчамілася; зірк у акно, аж бачу, душаць майго Гарбуза.

Авечка. Так точна, душаць.

Жонка. Я за чапялу, і туды.

Старшыня *(да пісара)*. Запішы — чапялу. Што далей?

Жонка (*спужаўшыся*). Дапала, значыць, я туды і давай выдзіраць Гарбуза.

Авечка. Так точна, выдзіраць Гарбуза ды з кіпцёў пана каршуна.

Суддзя. Чым ты выдзірала? Чапялой?

Жонка. Дзе вы бачылі, каб я ад сваёй цені валілася, як чапяла ў мяне вывалілася на дарозе; я, значыць, падбегшы, тузаю Гарбуза да сябе (*тузае Гарбуза*), а аканом — да сябе.

Авечка (*тузаючы Гарбуза*). Так точна, да сябе.

Жонка. Я Гарбуза да сябе, а аканом — да сябе. (*Тузае.*)

Авечка. Так точна, да сябе.

Жонка. А пасля, калі рванула...

Гарбуз паваліўся ў адзін бок, Авечка — у другі. Авечка ляжыць і трымае адну нагу роўна на падлозе, а другую ўгару.

Жонка. То вось што ўбачыла: Гарбуз без барады...

Гарбуз падняў Авечку.

Авечка. Так точна, рванула добра.

Старшыня. А што з барадой?

Гарбуз. Вылупілі з карэннямі.

Авечка. Так точна, ададралі з карэннямі і са скурай.

Жонка. Частку выдраў, а частку пакінуў,— расце.

Авечка. Які гэта рост, адзін жаль.

Гарбуз. На сухі лес гэтакі рост.

Суддзя. За што вы біліся?

Гарбуз. Я не біўся, мяне білі.

Авечка. Так точна, яго калашмацілі.

Гарбуз. За кароўку-перадойку ўсё ліха пайшло. Кароўка мая часта бегала да паноў у двор.

Старшыня. Чаго ёй трэба было там?

Гарбуз. Ці яна скажа? Бегала.

Авечка. Так точна, бегала, ля майго гумна, нацянькі, значыцца. Я, было, раз спрабаваў пераняць, другі — ды дзе там, пшэпрашаёнц, калі чмыхне, калі паставіць хвост дудой, а няхай цябе воўк, бяжы, хоць ты ногі пакруці, шалёную карову і шалёнага сабаку не кожны спыніць.

Гарбуз. У панскім двары, гэта ж не ў нас. Узышла жывёліна — штрап; я раз заплаціў, другі.

Авечка. Так точна, штрапы плаціў.

Старшыня. Па квітках?

Гарбуз. Па квітках.

Старшыня. Дай сюды квіткі.

Гарбуз. Няма, паночку, скурылі і квіткі.

Авечка. Так точна, услед і скурылі, у нас гэтак.

Гарбуз. А пасля махнуў рукой. Трэба ж, на ліха, зноў зачынілі маю перадойку і кажуць штрап заплаціць. «А скулу не хочаш?» — гакнуў я...

Суддзя. Так і сказаў?

Гарбуз. Так і сказаў.

Авечка. Ён у нас гэтакі, скажа.

Гарбуз. А што, мая кароўка пісьменная, умее чытаць тыя надпісы, што паны на слупах напапісвалі?!

Суддзя. Зрабіце ўвагу пра скулу.

Старшыня. Упісаць слова. Далей.

Гарбуз. «Кароўку маю аддайце!» — пачаў крычаць я. Не даюць. Аж тут падбег Авечка.

Авечка. Так точна, прыкульгаў я.

Гарбуз. Бачыць аканом, што нас двое, карову за рогі — ды ў хлеў, а мы да сябе. Бачыць карова, што дрэнная справа — адарвуць хвост, стукнула рагамі аканому пад мікіткі ды наўцёкі з двара; мы за ёй, аж тут паваліўся Авечка — лёг і я, і пачалі яны нас глушыць. Замітусілася ў маіх вачах, свет зрабіўся з хвігу, і я асунуўся.

Авечка. Так точна, абамлеў.

Жонка. Тут падбегла я, загаласіла, заенчыла.

Пісар. І што было?

Гарбуз. А яны сабе ўлажылі колькі хацелі і пайшлі.

Авечка. Так точна, пайшлі, закурыўшы смярдзючыя сігары з добрага пацука.

Суддзя. Колькі разоў ён цябе ўдарыў?

Гарбуз. А хто яго лічыў, глушыў колькі хацеў.

Авечка. Я скажу, паўкапы ўшкварыў яму і гэтулькі даў мне.

Суддзя. А ты як злічыў?

Авечка. На вока праў. Я, пшэпрашаёнц, хоць няграматны, але на вока добра лічу. Я, глянуўшы на гурт, узгадаю, колькі там кароў, а глянуўшы на чалавека, узгадаю, колькі ён выпіў гарэлкі.

Старшыня. А ты хто?

Авечка. Я Лаўрэн Авечка, Гарбузоў сведка, жыву

ў Негнавічах у старэнькай хатцы, што вокнамі ды ў пушчу ўглядаецца.

Старшыня. Кажы што ведаеш, толькі не лжы.

Авечка. Няхай бог крые, каб Авечкі лгалі. Авечкі на гэта не здатны. Наша радня ўся шляхетнай крыві. Авечкі стражнікамі былі, у канцылярыях паперы пісалі. Адзін я, бядак, дзякуючы калецтву змужычэў, седзячы ў вёсцы.

Суддзя. Скажы, ці слупы на панскіх межах былі расстаўлены?

Авечка. Ёсць, роўненька адзін у адзін.

Суддзя. З надпісамі?

Авечка. Пэўна ж.

Суддзя. Што там было напісана?

Авечка. А каршун яго ведае, няграматны я чалавек, прыйду да слупа і гляджу, як гусь на бліскавіцу, ані ў зуб. Але, як чуў, казалі людзі, быццам там забаронена сячы лес, лавіць зайцаў, пушчаць сабак па ягады (а, памыліўся,— дзяцей па ягады), і наогул, каб не ткнуць носа ў панскі бор.

Суддзя. Запішы пра слупы.

Авечка. Пішыце і пра слупы, і пра ягады, зайцаў. *(Забыўшыся, стукнуў палкай па стале.)*

Старшыня *(адпіхнуўшы)*. Цяпер пра драку пачынай.

Авечка. Так точна, цяпер пра драку. Было гэта перад святам. Дакульгаўшы з мястэчка дадому, я сеў на вячэру, і, як цяпер, памятаю, еў я заціракчу з малаком. І трэба ж гэта, заціра была такая гарачая, што хлапец нос апёк. Вось баба ліе адну міску заціркі, я спаражніў; ліе другую — спаражніў і толькі, пшэпрашаёнц, за трэцюю ўзяўся... *(Гэта казаў да суддзі.)*

Старшыня. Абжора нейкі.

Авечка. Гэта было не ўчора, а перад святам.

Старшыня. Я кажу, што ты абжора.

Авечка. А так, богу дзякаваць, з'есці магу, па дзеду пайшоў, дзед мой быў з духоўнікаў, еў не ў свой дух; памятаю, пакой вечны, нанач з'еў дзежку саладухі і богу душу аддаў. Так, баба ліе мне трэцюю місу заціркі, спаражніў, аж чую, пшэпрашаёнц, дух заняло і нібы цэпам малоціць. Выляцеў гэта я на ганак і дыхаю, як баран у спякоту, вось гэтак *(дыхае)*, нешта пішчыць. Я — штырх убок, бачу: цягне Гарбуз карову за хвост з панскага хлява, аж вочы на лоб лезуць; здагадаўся я, у чым

справа,— за кол ды туды. «Вы што ж гэта, каб на вас гром!» — гакнуў я... *(Спахапіўся.)*

С т а р ш ы н я. Запішы — гром.

П і с а р. Запісаў.

А в е ч к а. Тут падбегла Гарбузіха.

С т а р ш ы н я. З чапялой?

А в е ч к а *(хітра)*. Здаецца, без чапялы.

С у д д з я. Не можа здавацца, а кажы проста — была чапяла ці не было?

А в е ч к а. Не, не было; чапяла ў яе вялікая, як аглабля,— убачыў бы. Так, значыць, падбег я і ўчарэпіўся за хвост кароўкі-перадойкі, аж вочы на лоб лезуць, і цягнем удвох. Бачыць кароўка, што дрэнная справа, адарвуць хвост, збіла з ног аканома — і наўцёкі. Мы за ёй, але заблуталіся мае качэргі — паваліўся; мякнуўся вобземлю і Гарбуз; а яны з нагамі — і давай акладаць.

Ж о н к а. Тут падбегла я, нарабіла крыку, дык яны пакінулі іх біць, закурылі цыгары — і пайшлі.

А в е ч к а. Так точна, пайшлі рагочучы, як лесуны перад маладзіком.

П і с а р. А што ты ім услед казаў?

А в е ч к а. А што я, Авечка, ды на паноў магу казаць,— глядзеў, пшэпрашаёнц, і маўчаў.

С у д д з я. А як ты смеў пасылаць на іх гром?

А в е ч к а. Ды яны гэтага не чулі; я, бегучы, у духу забубнеў сабе, а рот заткнуў рукавом.

С у д д з я. А ты часам не радня Гарбузу?

А в е ч к а. Далёкая радня. Мой бацька з яго бацькам разам у бані мыліся, кумамі былі.

С т а р ш ы н я. А з ёй ты не радня?

А в е ч к а. Ззамаладу меліся жаніцца, але як я закульгаў, то яна за кульгавага не пайшла; тады я жаніўся з другой бабай; баба вельмі добрая, зацірку варыць — о, ой! Толькі вельмі сярдзітая, з частых біцца кідаецца.

П і с а р. Гэта да справы не адносіцца.

С т а р ш ы н я. Дапрос зняты.

А в е ч к а. Паночку, а ці можна ведаць, на колькі пасадзіце нашых ворагаў?

С т а р ш ы н я. Пачакаўшы, будзеш ведаць.

## З'ЯВА XII

Убягае сторож М і р о н.

С т о р а ж. Пан едзе, пан едзе...

С т а р ш ы н я. Стой, не гарачыся, прыняць коні ў двор, адчыніць дзверы і быць начыку. Хадзем. *(Пайшлі.)*

Пісар пачынае збіраць паперы.

С у д д з я *(пры акне)*. Вось уязджаюць у двор, на тройцы...

Гарбуз і жонка — да акна.
Авечка п'е з вядра ваду ў другім кутку.

## З'ЯВА XIII

Уваходзіць с т а р ш ы н я, а за ім у п р а ў л я ю ч ы ў цыліндры, паліто, калёшах і з палачкай і папяроскай.

С т а р ш ы н я *(адчыніўшы дзверы)*. Міласці просім.

Упраўляючы, паважна ўвайшоўшы, кінуў папяроску. Старшыня знімае паліто. Пісар знімае цыліндр і бярэ кіёк. Суддзя кінуўся да ног знімаць калёшы.

С т а р ш ы н я *(як усё знялі, адчыніўшы дзверы ў бакоўку)*. Міласці просім на пачэснае месца.

У п р а ў л я ю ч ы, с т а р ш ы н я і с у д д з я пайшлі.

П і с а р *(да Гарбузоў)*. Ну, яшчэ чаго, дапрос зняты, паклічам, будзе пара.

Усе выходзяць. П і с а р з паперамі ідзе ў бакоўку.

## З'ЯВА XIV

Уваходзіць сторож М і р о н.

С т о р а ж. Вось гэта я разумею, коні — нібы звяры, не раўня нашым пацукам, уляцелі ў двор стралой. Прыгледзеўся я на старшыню і памысліў: трывалы чалавек, не так даўно выпаўз адсюль ракам, а прыйшлося — вунь як пакіраваў, з вазка зняў, дзверы адчыніў і, здаецца, паспеў нешта зняць,— гэта спрыт. Але на мяне крыўду мае, нашто разам з парсюком спаць паклаў. Нічагутка, я — таксама чалавек, адчуваю боль. Гэта што ты старшыня, так Мірона можна ганьбіць; другі раз нап'ешся — на сметнік завалаку на чарэп'і. А што, каб гэта я адважыўся гэту світку з упраўляючага зняць,— о не, няздатны, зняў бы так, што полы былі б асобна, а рукавы асоб-

на. *(Паўза.)* Крамная рэч — ні вузельчыка, ні нітачкі, блішчыць, шалухціць *(нюхае)* і цыбулькай аддае. *(Убачыў капялюш.)* А капялюш, капялюш! Гэткага я зроду не бачыў; пан накрывае свой чэрап, а я ў ягады хадзіў бы, вельмі прыгодны, чорны, цыбаты і тугі. *(Папляваў на яго, абцёр рукавом і палажыў на крэсла, на тое месца, дзе сядзе суддзя, справа ад публікі.)* А гэтыя гумалястковыя хадакі — таксама рэч паважная, па гразі цялепкацца. Божа, божа, як ты нароўна падзяліў, адным гэткую прыгоду, а другому — век зрэб'е.

П і с а р *(збоку)*. Пакліч сюды Гарбузоў.

С т о р а ж *(да дзвярэй)*. Гарбузы, каціцеся сюды.

## З'ЯВА XV

Уваходзяць Г а р б у з і ж о н к а.

С т о р а ж. Ідзіце на суд, толькі не тупайце, як коні.

Ж о н к а. Мы ўважненька. *(Пайшлі ў бакоўку.)*

## З'ЯВА XVI

Уваходзіць А в е ч к а.

С т о р а ж. Што занудзіўся?

А в е ч к а. А так, замаркоціўся; у сон пачало весці: ноч не спаў, на суд, значыцца, шкандыбалі. Ці не маеце часам закурыць, нешта тут пад грудзямі...

С т о р а ж. Не маю, кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

А в е ч к а. Так точна, павінен, ды няма. *(Убачыў на падлозе папяроску.)* А вось шчасце, нехта папяроску кінуў.

С т о р а ж. Не нехта, а сам упраўляючы курыў.

А в е ч к а. Галоднаму чалавеку ўсё роўна. *(Запальвае і курыць.)* А моцная, так за язык і шчыпле.

С т о р а ж. Які далікатны.

А в е ч к а. У Авечак языкі чулыя.

С т о р а ж. Ды ты ўвесь, як авечка, і кульгавы, мне здаецца.

А в е ч к а. Не здаецца, а кульгавы, вось гляньце. *(Адыходзіць да таго месца, дзе ляжыць цылiндр.)*

С т о р а ж. Даўно кульгаеш?

А в е ч к а. Гадоў з дзесяць.

С т о р а ж. З якой прычыны?

А в е ч к а. Грошы шукалі, не паклаўшы.

С т о р а ж. Ну, і што?

А в е ч к а. Прысніўся, было, маёй сястры сон, быццам-то на Лысай гары бочка дукатаў закапана ляжыць. Вось мы ўначы, разам з Гарбузом, пабраўшы рыдлёвачкі, шчупы, пайшлі туды. Курган высока на гары, на ім камень, пудоў з 20,— мы яго капаць, мы яго пароць, каб камень той ды ў даліну сагнаць; капалі доўга, а цёмна — хоць забіся. Нарэшце чую, скрыганула нешта пад рыдлёўкай; я зірк убок: бачу — галава бялее чалавека. *(У часе размовы сторож слухае, што робіцца ў бакоўцы, і зусім не слухае, што кажа Авечка.)* Кум, крычу я, гэта ж мы раскапалі чыюсь магілу. Гарбуз, не кажучы ні слова, рыдлёўку аб зямлю, а сам — шабоўсь уніз, ліхтар патух, я за ім... Толькі чую, штось ляціць за мной: ла-та-та-та, а пасля — бух... *(Сеў на цыліндр.)* Зваліўся камень да мне па назе...

С т о р а ж *(убачыўшы, што Авечка сеў на цыліндр)*. Куды ж ты гэта ўсеўся? *(Схапіў за карак.)*

А в е ч к а *(са страху пачаў жагнацца)*. Міца, міца, свяціцелі-чудадзеі...

С т о р а ж. Што ты зрабіў? Што табе — дух заняло?

А в е ч к а. Браток мой, у чым мая віна, калека я, усю ноч валокся, хацелася сесці.

С т о р а ж. Вось цяпер пасядзіш.

А в е ч к а. Няўжо пасадзіць?

С т о р а ж. Пашкадуе.

А в е ч к а. Даражэнькі мой! А што, каб спрабаваць выраўнаваць.

С т о р а ж. Раўнуй не раўнуй, капелюша няма, а табе — астрог.

А в е ч к а. Тады я ўцяку; будзь ласкаў, не кажы: я жыву ў пушчы — не знойдуць.

С т о р а ж. Нікуды не схаваешся, знойдуць.

А в е ч к а. А чаму мой дзед у паўстанне два гады хаваўся, і не знайшлі. Бывай здароў. *(Да дзвярэй.)*

П і с а р *(праз дзверы і назад)*. Авечка, на суд!

С т о р а ж. Што, схаваўся? Ану, пайшоў, пайшоў. *(Выпхнуў убок.)* Во каб яго пакруціла, скруціў капялюш, аж страх глянуць, ну, што ж мне зрабіць? А што, каб узяць на дзяркач і тарканууць туды-сюды. *(Бярэ венік і пачынае.)* Ану, сюды, ану, туды. А бацюхны, выраўнаваў,— вось шчасце, так шчасце. Цяпер абы ўпраўляючы выйшаў, я спрытна надзену яму на галаву, не спазнае.

## З'ЯВА XVII

Выходзяць з бакоўкі Г а р б у з і ж о н к а.

Г а р б у з. Вось табе суд, вось табе і цуд; абабілі бакі, выдралі бараду, яшчэ ў адседку садзяць на тры дні.

С т о р а ж. А хіба ж я не казаў,— тут праўда жыве.

Ж о н к а. На сухі лес такі суд; чапялу пакінула ў хаце, а на судзе чапяла апынулася пры мне. Сядзі, баба, тры дні ў халадніцы.

## З'ЯВА XVIII

Выходзіць А в е ч к а.

А в е ч к а. Гэта не суд, а, пшэпрашаёнц, глупства; я на паноў шапнуў «гром», і за гэта ў адсеку на тры дні.

С т о р а ж. Ну, годзе, суд ідзе... *(Сам за цыліндр.)*

## З'ЯВА XIX

Выходзіць з бакоўкі с т а р ш ы н я, за ім у п р а ў л я ю ч ы, п і с а р і с у д д з я.

С т а р ш ы н я. Дзякую, што не запомнілі. *(Падае паліто.)*

Суддзя надзяе калёшы.
Стораж падае цыліндр.
Пісар — кіёчак.

С т а р ш ы н я *(адчыніўшы дзверы)*. Міласці прашу.

Усе яны выйшлі, засталіся Гарбузы, Авечка і Стораж.

С т о р а ж *(пачынае вымятаць)*. Ну, браткі мае, уцякайце, а то, чаго добрага, яшчэ падбавіць.

Г а р б у з і ж о н к а ціха выходзяць.

А в е ч к а. Вось дзе праўда на свеце!..

З а с л о н а

# БЕЛЫ ВЯНОК

## *Драма ў адным акце*

З ЖЫЦЦЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

### АСОБЫ

Гарасім — селянін, 40 г.
Яго жонка — хітрая кабеціна, 35 г.
Аксіння — іх дачка, 10 г.
Войт — польскі служачы, шапка з белым арлом, 35 г.
Разносніца тавараў, 35 г.

### ДЭКАРАЦЫЯ

Сялянская хата. Пасярэдзіне і справа (ад суфлёра) дзверы. Злева акно. Збоку стол; на ім запаленая лямпа, люстэрка, скрыначка, а ў ёй дзіцячыя цацкі і медзякі — грошы. З боку ад стала, пры сцяне, пасцель, на ёй спіць дзяўчынка Аксіння. За сталом сядзіць у роспачы Гарасім. Печ. Ля печы сякера. На лаве шапка. Дзея адбываецца ўвечары, летам. За сцэнай ліхтар са свечкай.

Гарасім. Падаткі, падаткі. Думка не выходзіць з памяці, і ўстаю, і кладуся — усё падаткі, падаткі. Ну, чым жа заплачу? Чацвёртую павестку пан пасылае. Эх, напіцца б з гора ды бяды... Хоць на хвілю атупела б галава... *(Паўза.)* І гэтага не можна, няма грошай. *(Паўза.)* Шчаслівая дачушка, Аксіння, нагулялася за дзень і спіць, нішто яе не рупіць... Былі б цацкі, а гора не будзе. *(Перабірае на стале яе цацкі.)* Што гэта? Грошы? Адкуль яны? А, яна ж збірала ягады — зарабіла, купіць хоча кніжку... *(Паўза.)* Падаткі, падаткі, думка не схо-

дзіць з памяці. Эх, напіцца б... *(Задумаўся.)* А што, каб... узяць. Што будзе... *(Паўза.)* Дзіця дарує мне... *(За шапку.)* Даруй, дзеткі, бацьку-п'яніцу, ён зневажае цябе, змушае плакаць горкімі слязьмі. З часам, дзеткі, падрасцеш — будзеш ведаць, чаму твой бацька п'яніца. *(Выходзіць.)*

А к с і н н я *(абудзілася)*. Дзіўна, чаму гэта мяне на сон морыць, і мамка нічога не кажа — маўчыць. Але годзе спаць, пабягу зараз на сяло і запытаюся ў дзяўчат, калі па ягады пойдзем. А цяжка збіраць маліны, ой, цяжка. З аднаго боку — леснікі панскія, а з другога — глядзі, каб на сонную гадзюку не наступіць. Учора я наступіла... І за малым-малым не пакусала мяне. Уцякла. Зарабіла грыўню, а страху мела — вой-вой!.. Але нічагуткі: збегаю ў дзялянку, збяру ягад і прадам, і як будзе рубель, куплю сабе кніжку. Тут мае цацкі, тут мае грошы. *(Шукае.)* А дзе ж яны?.. Няма... забралі... Хто ж гэта забраў? *(Плача.)*

Уваходзіць ж о н к а.

Ж о н к а. Ну, чаго плачаш?

А к с і н н я. Ды нічога, я так.

Ж о н к а. На пагоду ці на дождж?

А к с і н н я. Гэта я ўспомніла, як мяне ў лесе гадзіна хацела ўкусіць. *(Кажа гэта, манячы.)*

Ж о н к а. Ува сне?

А к с і н н я. Ды не, учора ў лесе, як збірала ягады.

Ж о н к а. А дзе ж твае грошы, што зарабіла?

А к с і н н я. Грошы... грошы не аддаў мне фурман; ён купіў у мяне ягады. *(І гэта маніць.)*

Ж о н к а. Купіў? Дзіўна! А калі ж ён аддасць?

А к с і н н я. Казаў, сягоння.

Ж о н к а. Ну, дык сходзі да яго і скажы, каб аддаў грошы, есці няма чаго.

А к с і н н я. Добра, я пайду.

Ж о н к а. А бацька дзе?

А к с і н н я. Не ведаю, яго не было. *(Пайшла.)*

Ж о н к а. Каб яно затанула, гэткае жыццё, дажыліся да астатку. Грошай няма, хлеба няма, скаціна пазводзілася. Ужо чацвёртую абвестку прыслалі падаткі плаціць. Што будзе? Прагоніць пан з зямлі, старцамі пойдзем у свет.

За сцэнай забрахаў сабака. Уваходзіць в о й т.

В о й т. Твой гэта сабака на дарозе мяне пераняў?

Жонка. Калі руды, то мой.

Войт. І што ж сабе думаеш, маўчаць буду?

Жонка. А што здарылася, паночку?

Войт. За нагу рвануў.

Жонка. Ах, каб яго ваўкі, ён у нас такі,— спадцішка.

Войт. Ну, а я рвану, каб усе ведалі, будзе ведама табе і твайму сабаку, што войт, а не абы-хто.

Жонка. Паночку, то што ж будзе?

Войт. Як паклічуць на суд, будзеш ведаць.

Жонка. І адкуль такое насланнё?

Войт. Ну, годзе. Не за тым я прыехаў, каб сабака за лыткі рваў. Падаткі ёсць?

Жонка. Няма, паночку!

Войт. І за чацвёртым разам няма?

Жонка. Адкуль жа іх узяць? Самі ведаеце.

Войт. А няма падаткаў — з зямлі вон. Пан такіх не любіць, і мне такія не даспадобы. Я калі з'яўлюся да каго ў хату, сабак не выпускаюць, а пераймаюць і частуюць.

Жонка. Паночку, пабойцеся бога!

Войт. Не бога трэба баяцца, а пана; пан — твой бог. Можа прагнаць, можа пакінуць, можа ўзяць падаткі і не ўзяць. Пан! Дзе твой мужык?

Жонка. Не ведаю. А нашто пану?

Войт. Распісацца трэба.

Уваходзіць Гарасім.

Жонка. А вось ён, лёгкі на ўспамін.

Войт. Гэй ты, чортаў смык, дзе цягаешся?

Гарасім. Ды тут, ля хаты.

Войт. Падаткі калі будуць?

Гарасім. Я ўжо і сам не ведаю.

Войт. Я не прыехаў жартаваць: а кажы толкам, калі падаткі будуць?

Гарасім. Хіба ўвосень.

Войт. А што, увосені хлеба намалоціш, шмат насеяў?

Гарасім. Чаму ж бы не насеяў, але насён не было. А пры тым, град поле папсуў.

Жонка. Увосень мо заробім. Будуць сячы лес, а мы пацярэбім.

Войт. Падпішы гэтую паперу! Вось тут.

Гарасім падпісвае.

Жонка. А можна ведаць, што гэта?

Войт. Папера, якая такіх арандатараў выкіне вон з панскіх абшараў. Сабаку прытрымай. *(Пайшоў, а за ім Гарасім.)*

Жонка. Вось табе новае ліха. Цяпер з зямлі прагоняць, калі паперу падпісаў. Што будзе: на старасці засталіся жабракамі і самі, і дзіця.

Уваходзіць Гарасім.

Жонка. Ну, што, падпісаў?

Гарасім. Адкуль я мог ведаць?

Жонка. Не ведаеш?! А зекры заліць гарэлкай мог ведаць. О... чортава кузня, гад смалены!

Гарасім. І чаго, баба, лаешся? Старайся нейкі спосаб дабраць, няўжо адрачыся зямлі?

Жонка. Ды раней ты вырачашся кашулі, пакуль я выракуся зямлі. На коленках папаўзеш да пана, ногі цалаваць будзеш, а зямлю выпрасіш.

Гарасім. Так нас і паслухаюць.

Жонка. А не паслухаюць, дык горш для цябе; не будзе табе ні хвілінкі спакою: я цябе загрызу!

Гарасім. Рабі што хочаш. *(Сеў.)*

Жонка. П'янюга, абібок!

Разносніца праз дзверы.

Разносніца. Можа, тавары крамныя патрэбны?

Жонка. Ды на ліха яны — капейкі за душой няма.

Разносніца. То, можа, заначаваць дазволіце? Ноч набліжаецца.

Жонка. Заходзьце.

Уваходзіць з вялікім клумкам разносніца.

Разносніца. Пахвалёны ў хату!

Жонка. Адкуль ідзяцё?

Разносніца. Ведае цыган, адкуль ён ідзе? З-за свету. Жыццё наша валацужнае. Кутка ўласнага няма.

Жонка. Але ж, пэўна, добра зарабляеце, калі не абрыдла цягаць за сабой гэткі клумак.

Разносніца. О, яшчэ і як абрыдла! Ды нічога не зробіш. Хлеб.

Жонка. Купляў хто ў нашым сяле?

Разносніца. Ды не, толькі з шляху ўзышла. Ваша першая хата паслужыць мне прыпынкам.

Жонка *(да мужа)*. Чаму гэта Аксіння не ідзе?

Г а р а с і м. А куды яна пайшла?

Ж о н к а. Ды па грошы да фурмана. Ягады купляў, ды грошы не аддаў.

Г а р а с і м. Як мне ведама, ён ягад у яе не купляў і грошай не вінен.

Уваходзіць А к с і н н я.

Ж о н к а. Ну, як? Аддаў? *(Паўза.)* Чаго ж маўчыш? Кажы, грошы прынесла?

А к с і н н я. Не аддаў.

Ж о н к а. Чаму не аддаў? *(Паўза.)* А можа, ты страціла?

А к с і н н я. Мамачка, даруйце, я вам зманіла! Я па грошы не хадзіла, бо ніхто не вінен: яны згінулі... у скрынцы былі...

Ж о н к а. Ах, так! *(За палку.)* Ты мяне на ашуканства браць?

Г а р а с і м *(спаміж іх)*. Сядзь, шалёная, не палохай дзіця!

Ж о н к а. Як-то сядзь, ды я.. *(Замахнулася.)*

Г а р а с і м. Кажу, не гарачыся, біць не будзеш, бо ў гэтым не яе віна, а мая,— я ўзяў грошы!

Ж о н к а. Ты? Ах ты, п'янюга прагорклы! За яе грошы напіўся?

Г а р а с і м. Так, за яе.

Ж о н к а. Чакай жа ты мне!

Г а р а с і м. Аксіння, дачушка, даруй мне, гэта я ўзяў твае грошы; узяў я не дзеля таго, каб зрабіць табе боль, а каб заліць балючыя раны сэрца. Цяжка мне, сумна мне; усё гіне, усё валіцца ў бяздонне. Ты сама, дзіцятка, бачыш наша становішча; зямельку і тую адбіраюць. *(Плача.)*

А к с і н н я. Не плачце, татачка, не трэба мне грошы!

Ж о н к а. Табе не трэба, яму не трэба, а падаткі плаціць трэба? А ведаеш ты, сабака бяздомны, што нас з зямлі выкідаюць?

А к с і н н я. А за што, мама?

Ж о н к а. А за тое, што падаткі не плацім. Пан шкадаваць не будзе!

Р а з н о с н і ц а. Пані гаспадыня, аб чым у вас шум?

Ж о н к а. Ды аб тым, што гэты п'янюга ў дзіцяці грошы ўзяў ды прапіў.

Р а з н о с н і ц а. Толькі ўсяго? І за гэта сварыцца? Кіньце! Хадзі, дзеткі, да мяне, я табе дам грошы. *(Вы-*

*пусціла з рук мяшэчак грошай).* А ліханька, з рук валяцца. *(Як выпалі ў разносніцы грошы, маці хітра глянула.)* Ну, а цяпер будзе ціха.

Аксіння грошы аддае маці.

А к с і н н я. Цётачка, якая вы добрая, дзякую вам!

Р а з н о с н і ц а. Не трэба, дзеткі, не трэба! Няхай у вашай хатцы згода будзе! Не магу бачыць сваркі.

Ж о н к а. Вы добра абмяркуйце: у хаце ні хлеба, ні солі, а ён абы капейку — у шынок.

Г а р а с і м. Не разумееш душы чалавека, не разумееш! Не сам я ў шынок іду, а доля горкая заганяе туды... Хатаваліцца, падрубы згнілі, зямлі і той няма. Эх, чаму ж не ўдарыць гром і не пахавае мяне, гаротнага, тут, на месцы?

Р а з н о с н і ц а. Кіньце сварку, неяк будзе!

Г а р а с і м. Так і будзе. Голас мой не пачуе ніхто, а слёз свет не пазнае.

Ж о н к а. Ну, годзе ўжо, годзе!.. І так горка ўжо!

Разносніца нечага шукае.

Ж о н к а. Чаго шукаеце, страцілі што?

Р а з н о с н і ц а. Аршын дзесь задэчыла і сама не ведаю.

Ж о н к а. Як мне здаецца, да нас прыйшлі без аршына.

Р а з н о с н і ц а. Пэўне, на дарозе згубіла.

Ж о н к а. Можа, дзе недалёчка? Аксіння, збегай пашукай!

Р а з н о с н і ц а. А мы разам.

А к с і н н я. Згода, цётачка, разам!

Ж о н к а. Запалі ліхтар, а то нічога не ўбачыш!

А к с і н н я. Я знайду і так. *(Пайшлі.)*

Г а р а с і м. Прыказка нездарма кажа: свет не без добрых людзей. Чужы чалавек, а прыняў у сваё сэрца і нашу бяду.

Ж о н к а. Добра прымаць, меўшы гэтулькі грошай. Ты бачыў?

Г а р а с і м. А нашто я маю заглядацца на чужое дабро?

Ж о н к а *(ласкава)*. Нам, браце, не суджана мець нічога людскога, апроч гэтага ламачча, а мець хацелася б, ой, як хацелася б. *(Паўза.)* Ну, скажы, чым дрэнна,

каб мець гэтулькі грошай: апрануўся б, хату новую ўзгарусціў і чарку гарэлкі яшчэ.

Г а р а с і м. Перш падаткі заплаціў бы.

Ж о н к а. Вось гэта разумна! Перш падаткі. Ты мне даруй, што я накрычала на цябе.

Г а р а с і м. Крычы, я не баюся. Звягі толькі не люблю.

Ж о н к а. Праўду кажучы, ты сам вінен, у такую пару разважаеш, як дзіця, а пры тым паперу войту падпісаў.

Г а р а с і м. Падпішаш, калі загадае.

Ж о н к а. Так вось што! Гора горам, а радасць радасцю. Схадзі ты ў шынок і прынясі гарэлкі... Маеш грошы?

Г а р а с і м. Гарэлкі? Жартуеш, ці што?

Ж о н к а. Не жарты, а сапраўды. Прынясі гарэлкі сюды, а рэшту выпі там.

Г а р а с і м. Нашто табе гарэлка?

Ж о н к а. Вось дурны, піць будзем. Хіба дрэнна? Ну, ідзі, пакуль не злосная.

Г а р а с і м. А можа, не трэба піць? Нешта ахвота адпала адразу.

Ж о н к а. Ну, хутчэй ідзі, у мяне важная справа ёсць!

Г а р а с і м. Якая такая справа?

Ж о н к а. А вось бяжы, тады скажу.

Г а р а с і м. Не пайду.

Ж о н к а. Ну, і дурны. А ў мяне спосаб ёсць, як паперу тую вярнуць назад, што войту падпісаў.

Г а р а с і м. Жартуеш, баба!

Ж о н к а. А вось ідзі — і папера будзе ў нас, а падаткі ў пана.

Г а р а с і м. Я трачу прытомнасць. *(Доўга думаў і пайшоў.)*

Ж о н к а. Толькі не марудзь. *(Думае.)* На сяле яе ніхто не бачыў, грошы не малыя.

Уваходзіць А к с і н н я.

Ж о н к а. Ну, што, знайшлі?

А к с і н н я. Цёмна! Трэба запаліць ліхтар.

Ж о н к а. А я ж табе казала.

А к с і н н я. А дзе ліхтар?

Ж о н к а. У сенцах.

А к с і н н я. Мамачка!

Ж о н к а. А што?

А к с і н н я. Мамачка, не крычыце на татку, ён не вінен!

Ж о н к а. Ды я не крычала.

А к с і н н я. І на мяне не крычыце! Я зманіла.

Ж о н к а. І на цябе не крычу.

А к с і н н я. Я зараблю шмат грошай і ўсе вам аддам. Мне грошы не патрэбны.

Ж о н к а. Ну, добра, ідзі ўжо, ідзі!

А к с і н н я. Матуленька, а я вам пахвалюся! Яна мне абяцала, як знойдзецца згуба, на сукенку даць.

Ж о н к а. Вось бачыш, як добра. Шукай, будзеш мець гасцінец!

А к с і н н я. О, я буду шукаць, папрашу белай тканіны, і мне пашыюць белую вопратку. *(Адышлася і вярнулася назад — пацалавала матку і пабегла.)*

Ж о н к а. Ах, хоць бы ўдалося! А тады наша зямля, наша будова!

Уваходзіць Г а р а с і м.

Ж о н к а. Ну, вось, адразу відаць, што выпіў, вочы і тыя пасалавелі.

Г а р а с і м. Не тое каб пасалавелі, але так нешта ў галаве каламуціць.

Ж о н к а. Нябось і сілы больш, і адвагі больш.

Г а р а с і м. А пэўне, што цяпер перад войтам не ўздрыгнуўся б.

Ж о н к а. Веру, веру.

Г а р а с і м. Табе патрэбны падаткі? Во падаткі — мазольныя мужыцкія рукі. Табе патрэбны словы? Маеш словы. Эх, сказаў бы... што з гарматы.

Ж о н к а. Адважны, адважны ты ў мяне.

Г а р а с і м. Ну, а чым я не адважны? Я адважны. Праўда, калі цвярозы — маўчу, а вып'ю — агрызнуся. Хіба няпраўда?

Ж о н к а. Ды якая там праўда, калі тыануча.

Г а р а с і м. Як-то ануча?

Ж о н к а. А так, каб ты быў крышку смялейшы, не сядзеў бы без хлеба, і зямля наша была б.

Г а р а с і м. Усё наша пры нас. Зямлі я не аддам, бо не год, не два баранаваў яе і плаціў падаткі, а цяпер не маю чым, могуць пачакаць, не згалее ад гэтага пан.

Ж о н к а. Падаткі ёсць, толькі трэба ўзяць іх.

Г а р а с і м. А дзе іх узяць? Хіба прысніла?

Ж о н к а. Не прысніла, а сваімі вачыма бачыла, і ты бачыў.

Г а р а с і м. У каго?

Ж о н к а. У разносніцы.

Г а р а с і м. Ну, і што?

Ж о н к а. Так вось, кіўні пальцам — і грошы ў тваёй кішэні, і зямля пры нас.

Г а р а с і м. Не разумею.

Ж о н к а. На сяле яе ніхто не бачыў.

Г а р а с і м. Але што трэба зрабіць?

Ж о н к а. Адабраць грошы.

Г а р а с і м. Што ты, баба? Да цябе нячысты прыстаў. Перажагнайся!

Ж о н к а. Не палохайся, дурненькі, не адганяй шчасця, калі само ў рукі ідзе.

Г а р а с і м. Ну, дык у чым рэч? Адбяры! Смеху варта. У бабы адабраць грошы. Ды яна, мае міленькія, такі вэрхал падыме, што нябожчыкі пачуюць. Спрабуй жа ты ў мяне што адабраць, то я за сякеру вазьмуся.

Ж о н к а. А вось жа зямлю адабралі, а за сякеру не ўзяўся, а яшчэ дзверы войту адчыніў.

Г а р а с і м. А што мне было рабіць?

Ж о н к а. Тое, што было, не вернеш. Рабі так, як кажу. Адбярэш, і маўчаць будзе.

Г а р а с і м. Як-то маўчаць, калі яна жывы чалавек?

Ж о н к а. Яна будзе спаць.

Г а р а с і м. А як абудзіцца, дзе падзенешся?

Ж о н к а. Тут будзеш.

Г а р а с і м. Рабі сама, я няздольны на злачынства! За свой век блага нікому не зрабіў.

Ж о н к а. Дарма не марнуй часу на пустую гутарку, а то будзе позна.

Г а р а с і м. І слухаць не хачу!

Ж о н к а. Ты добра памяркуй, якое тваё жыццё: калі ты быў сыты? Ніколі! Калі ты меў боты — ніколі! Век на табе зрэб'е, век на табе лапці. Ты ўспомні, на каго ты працаваў? Што ў цябе ёсць? Зямля і тая не твая. А старасць за дзвярыма. Што тады будзе? Выганіць пан з хаты, і пойдзем, як мышы рудыя, у свет.

Г а р а с і м. Не было да гэтага часу граху, няхай і не будзе; бедны жабрак, але сумленны.

Ж о н к а. Злыдзень, не адмаўляйся, кожная хвіля

дорага; табе здаецца, я жартую, гад смалены; паперу падпісаў і слюнкі распусціў. Зрабіць, што кажу, а то самога са свету звяду. Бачыш ты яго — не магу, не магу. Калі не рвалі сабакі твае ногі, дык парвуць, калі жабраваць будзеш. Самога будуць пускаць начаваць, бо свайго кутка мець не будзеш. На яшчэ грыўню, выпі ды прыходзь, бо калі так не зробіш, вочы табе павысмальваю. *(Палажыла грошы на стале.)*

Гарасім. Рабі што хочаш, а так не зраблю.

Жонка. Тады вон з хаты, я сама зраблю. Вон! *(Выпіхае.)*

Гарасім. Ачмурэла баба, дальбог.

Жонка. Так, ачмурэла, бо голад прымушае. А галодны чалавек не ведае, што робіць. Трэ будзе — табе лаву сякерай адсяку. Са мной жарты малыя... апошні раз пытаюся... ідзеш?

Гарасім узяў грошы, выйшаў.

Жонка. О, як жа цяжка было ўгаварыць... упёрся, як бык...

Уваходзяць разносніца і Аксіння.

Жонка. А што, знайшлі?

Разносніца. Знайшлі, ля самага лесу быў.

Жонка. А хто ж знайшоў.

Аксіння. Я.

Разносніца. У яе вочкі свецяць добра, як зоркі, за гэта гасцінца ёй дам.

Аксіння. Цётачка, як я рада,— буду мець новую вопратку.

Разносніца. Будзеш, дзеткі, будзеш, дам табе лепшай тканіны, дам грошы, каб пашылі.

Аксіння. Якая вы добрая! Матуленька, чулі,— усё ў мяне будзе.

Жонка. На свеце жывучы, усяго нажывеш.

Аксіння. Мама, а куды татка пайшоў?

Жонка. Да суседзяў. А нашто ён табе?

Аксіння. Я хацела прасіць і татку, і вас, каб вы не сварыліся; я буду памагаць вам, і ў нас будзе хлеб.

Жонка. Будзе — ды не ў нас.

Разносніца. Ну, нашто так развaжаць? Не заўсёды так будзе.

Жонка. Праз усё жыццё гэтак... доля ўжо такая...

ну, Аксіння, ты зусім асалавела, спіш ужо. Кладзіся!..

Аксіння. Добра, мамачка, лягу.

Разносніца. Гляджу я на вашу дачушку і радуюся,— залатое дзіця... столькі розуму... уцеха на старасці...

Жонка. Якое яе жыццё ў гэткай нудзе?

Аксіння. Ну, мамуленька, пайду спаць. Бывайце здаровы, не гневайцеся на мяне.

Жонка. Добра ўжо, добра; не дуры галавы, цётка таксама адпачыць хоча.

Разносніца. Праўду кажаце, за дзень натупалася, з вамі размаўляю, а вочы зліпаюцца.

Жонка. Ну, дык і кладзіцеся.

Аксіння. І з вамі, цётачка, развітаюся...

Разносніца. Спі, маё дзіцятка.

Аксіння. Ах хоць бы прысніць белую вопратку. Вось я і пайшла. *(Выйшла ў бакоўку.)*

Жонка. А вы кладзіцеся тутака.

Разносніца. Дзякую, мне абы прыткнуцца.

Жонка. Вось гэтым накрыйцеся, а я пайду старога пашукаю. *(Пайшла.)*

Разносніца. Ох, жыццё, жыццё, век па чужых хатах.

Аксіння. Цётачка, а-ку-ку-ку. *(Праз дзверы.)*

Разносніца. Ты яшчэ не спіш?

Аксіння. Не сплю, цётачка! Усё думаю, як буду мець новую вопратку, як выйду на вуліцу і ўсе здзівяцца.

Разносніца. Выйдзеш, дзеткі, выйдзеш.

Аксіння *(пасля вялікай паўзы)*. Цётачка!

Разносніца. А што?

Аксіння. А мне хочацца паглядзець, якую дасце вопратку?

Разносніца. Ну, калі так хочаш, устану ды пакажу. *(Устае.)*

Аксіння. Цётачка, даруйце, я вас патурбавала.

Разносніца. Нічагутка, пакажу. *(Развязала клумак.)* Вось гэта табе падабаецца? *(Дастала з клумка белую з блакітнымі стужкамі сукенку, дала Аксінні, тая прылажыла да грудзей, склаўшы накрыж рукі.)*

Аксіння. Падабаецца, цётачка, падабаецца.

Разносніца. А вось табе і вяночак, белы, як снег. *(Кладзе на галаву.)*

Аксіння. Цётачка, мусіць, прыгожа?

Разносніца *(дае люстэрка)*. Глянь, дзеткі, глянь!

Аксіння глянула і дзіка ўскрыкнула.

Разносніца. Дзеткі, што з табой?

Аксіння. Страшна мне, страшна, вазьміце, не хачу, баюся... *(Здзела.)*

Разносніца. Чаго ж, ты, дзеткі, спалохалася?

Аксіння. Я была падобна...

Разносніца. Да чаго?

Аксіння. Да нябожчыцы.

Разносніца. І зусім не, пакінь, дзеткі, палохацца; нядобра супроць ночы смерць успамінаць.

Аксіння. І мамы няма.

Разносніца. Мама прыйдзе, не палохайся, дзеткі, кладзіся, кладзіся.

Аксіння. Цётачка, вы мне падаравалі гасцінец, а я вам аддаю сваё месца,— яно і цяплейшае і раскашнейшае.

Разносніца. А ты ж дзе ляжаш?

Аксіння. А тутака.

Разносніца. Ну, добра... дзякую табе, родненькая!

Аксіння *(кладзецца)*. Я, цётачка, накрыюся з галавой... каб адразу заснуць, смерці баюся.

Разносніца. Спі! *(Пайшла ў бакоўку.)*

Аксіння. Цётачка, а прыйдзе мама, так скажаце, што гэта падарункі вашы... і я спалохалася смерці.

Разносніца. Пакінь ты, дзеткі, супроць ночы смерць успамінаць.

Аксіння. Не буду, цётачка, не буду. *(Закрылася.)*

Разносніца выйшла. Вялікая паўза. Жонка паглядзела праз акно, а пасля ўваходзіць. Агледзелася, агонь зменшыла. Упускае Гарасіма. Жэстам паказвае, каб ён сеў. Прыкрая і доўгая паўза.

Гарасім. А чые гэта рэчы?

Жонка. Вось табе і на! Пакуль з шынка вярнуўся — і забыўся. Падарунак для Аксінні.

Гарасім. Ага, успомніў! Дрэнныя думкі доўга ў галаве не сядзяць. *(Глядзіць на вянок.)*

Ж о н к а. Ды пакінь ты ўглядацца!

Г а р а с і м. Белыя кветкі, як вочкі маёй дачушкі; гляджу я на гэты вяночак і бачу яе перад сабой. Мне здаецца, што яна зараз з'явіцца перада мной у гэтай вопратцы і запытаецца, хто я: сумленны чалавек ці забойца?

Ж о н к а. Зусім раскіс... і гарэлка не памагла.

Г а р а с і м. Быццам я не піў...

Ж о н к а. Ну, здаецца, усё абгаварылі, застаецца зрабіць канец. Чуеш? Спіць!

Г а р а с і м. Баба, што ты робіш?.. Вусцішна... Сумленны ж я чалавек.

Ж о н к а. І будзеш.

Г а р а с і м. Баюся! Абудзіцца, наробіць крыку.

Ж о н к а. Ото ж дурань... *(Дае гарэлку.)* На выпі і зрабі, што кажу! Ну, пі, табе кажу!

Г а р а с і м. Што са мной?.. *(П'е.)*

Ж о н к а. Падаткі аддамо, зямля наша, скінеш лахманы. *(Дае сякеру.)*

Г а р а с і м *(са страхам)*. Забіць...

Ж о н к а. А то як жа... сам казаў — абудзіцца, у астрозе згніеш.

Г а р а с і м. О, не... Згінь ты, прападзі!..

Ж о н к а. Не бойся! Адзін раз сякерай кіўнеш, і лепшая доля перад намі.

Г а р а с і м. Што яна робіць са мной, куды нахіляе?

Ж о н к а. Куды нахіляю? А вось туды *(паказвае)*, бо калі не паслухаеш... Сам толькі памятай... Табе на дарозе катарга.

Г а р а с і м. Але ж як гэта можна?

Ж о н к а. Усё можна... абы жыць... Чалавек, калі топіцца, не глядзіць. Смерць — страх!

Г а р а с і м. А дзе ж ты падзенеш?

Ж о н к а. Дзе?.. За хатай вір глыбокі — завалаку, што ў магілу. Ану, хутчэй, больш адвагі, вунь яна... Я выношу святло... Чуеш? *(Узяла лямпу і выйшла.)*

Г а р а с і м *(сеў)*. Не, не магу... будзь ты проклята!

Ж о н к а *(праз акно)*. Доля лепшая перад намі, аддамо падаткі, будзем самі жыць і дзіця гадаваць...

Г а р а с і м. Не магу!..

Ж о н к а *(уваходзіць з лямпай)*. Развяжы пятлю, што душыць нас, хоць бы дзеля Аксінні... жабраваць будзе па свеце.

Г а р а с і м *(схамянуўся)*. Жабраваць, маё дзіця... *(Заплакаў.)* Маё дзіцятка, не дапушчу... Згодны. *(Узяў сякеру.)* Няхай будзе спакой у палацах пана і ў беднай хаце. Выйдзі!

Ж о н к а з лямпай выйшла.

Гарасім замахнуўся сякерай, але ў гэты час Аксіння хутка са сну ўсхапілася. Гарасім са страху дзіка ўскрыкнуў, кінуў сякеру, выбег на сярэдзіну сцэны, нервова заплакаў.

А к с і н н я *(не ведаючы, у чым справа, падышла да бацькі, супакойвае)*. Не плачце, татаньку, падаткі мы аддамо, не плачце!

Уваходзіць ж о н к а з лямпай, а з бакоўкі — р а з н о с н і ц а. Жонка са страхам глядзіць то на разносніцу, то на Аксінню.

З а с л о н а

# ПАН СУРЫНТА

*Гістарычная драма канца XVII веку ў пяці дзеях з пралогам*

## АСОБЫ

Пан Сурынта — 32 і 50 г.
Яго жонка Рузя — 25 г.
Нянька — 30 і 48 г.
Казак — 25 г.
Кася, дачка пана Сурынты — 18 г.
Аканом пана Сурынты — 40 г.
Агата, панская ахмістрыня — 30 г.
Ганна — 18 г. } парабчанкі
Параска — 19 г. } парабчанкі
Аксіння — 20 г. } парабчанкі
Супрон, стары музыка — 60 г.
Пракоп, парабак-наглядчік — 60 г.
Бутрым, парабак — 18 г.
Янук, парабак, прыкідваецца дурнем — 25 г.
Віцька, парабак-паўстанец — 20 г.
Трызна, пан — 60 г.
Гарбарын, пан — 45 г.
Музыка I, скрыпач — 25 г.
Музыка II, цымбаліст — 30 г.
Казакі.
Татары.

### ЗАЎВАГІ ДА ПАСТАНОЎКІ

У першым акце на сенажаці павінна быць шмат хлапцоў і дзяўчат; з іх складаецца хор.

У другім і трэцім актах гэтыя парабкі могуць быць казакамі, а таксама і музыкамі, апрача старога Супрона, які павінен дзейнічаць з казакамі ў другім акце, у сваёй вопратцы.

### ТЫПЫ

Сурынта — вялікага росту, брунет, з доўгімі закручанымі вусамі, нос з гарбінкай. Праз 18 год прабіваецца сівізна.

У чацвёртым акце — хворы, твар паблажэў, зубы не тыя; у апошнім акце — зусім як цень.

Т р ы з н а — дробненькі, маленькі чалавечак, зусім сівы, бязвусы, носіць бакенбарды, з кіёчкам у руках.

Г а р б а р ы н — з жывоцікам, больш рухавы.

А к а н о м — руды, казліная бародка, востры нос; ходзіць заўсёды з канчуком.

К а с я — маладая прыгожая брунетка, доўгія косы, на левай шчацэ досыць значная радзімка (намаляваць грымам).

В і ц ь к а — рослы дужы хлапец, брунет.

Т а т а р ы н — у доўгіх шараварах, без кашулі, моцна загарэлы.

Хлопцы і дзяўчаты на сенажаці ў бедных сялянскіх вопратках, у лапцях. Казакі здаровыя, загарэлыя, добра апранутыя.

Парабак Янук прыкідваецца дурнем, а на справе не такі. У другім акце ён прыгожа ўбраны і служыць пры палацы.

# ПРАЛОГ

Дэкарацыя: лес, дарога. Пры дарозе стары дарожны слуп з надпісам (надпісу не відаць); з левага боку ад гледача — вялікае дрэва і куст; з правага боку — сялянскія могілкі, крыжы. Адзін крыж ляжыць на магіле. Чуваць спеў салаўёў. Летняя ноч. Крадучыся між магіл, на дарогу выходзіць узброены к а з а к, які выглядае некага. Потым падыходзіць да магілы, бярэ ў рукі крыж і кажа.

К а з а к. Брат мой, калі ты паміраў, на тваіх вуснах застыгнуў смяротны праклён. «Браты! — казаў ты,— я паміраю, як нявольнік, са скутымі рукамі і нагамі, паміраю за волю, за сваіх братоў — падданых!» Ты пасылаў праклянцце дзікаму зверу пану Сурынту за яго ўчынкі, ты прасіў мяне, калі настане дзень помсты, прыйсці на тваю магілу. Слухай жа, брат мой! Дзень помсты надышоў! *(Дастаў пісталет і схаваўся за дрэвам.)*

Выходзяць С у р ы н т а, ж о н к а, н я н ь к а з д з і ц я н ё м (ад гледача справа).

С у р ы н т а. Нянечка, асцярожна: не зачапіся і не выпусці дзіцятка!

Н я н ь к а. О не, вялікі пане, трымаю, як той дыямент дарагі!

С у р ы н т а. Прыгожы быў дзень, прыгожы зараз і вечар... Салаўі аж заліваюцца... Аднак, Рузечка, паспяшайма ў палацы; ноч надыходзіць ужо.

Н я н ь к а. І для дзіцяці дрэнна: сыра.

Ж о н к а. А я гатова да раніцы тут быць, такі прыгожы вечар.

С у р ы н т а. Ты, Рузечка, нашпацыравалася даволі!.. Пара дадому!..

Н я н ь к а. Узышлі мы на могільнік сялянскі — яшчэ чаго напалохаецеся!.. Хадзем лепш!

Ж о н к а. Могільнік не страшан мне, а вось ад гэтай магілы неяк жудасна...

С у р ы н т а. А што гэта за магіла?

Н я н ь к а. Ды тут парабак пахаваны, якога пан пакараў смерцю...

С у р ы н т а. Ага, памятаю! У маёй волі гэта!.. Хадзем!..

Н я н ь к а. Крыж паваліўся... *(Хацела падняць.)*

Ж о н к а. Я памагу табе, нянечка!..

С у р ы н т а. Няхай ляжыць!..

Ж о н к а. Нябось і яго ж матка радзіла — гадавала... Не спадзявалася ж яна, што нехта заб'е...

С у р ы н т а. Рузя!.. Ты пляцеш недум!.. Што ён для нас?

Ж о н к а. Ты грэх вялікі ўчыніў, забіўшы яго!..

С у р ы н т а. Чаму гэта?

Ж о н к а. Дык так! Парабак валяўся ў крыві, я глянула — і вось нарадзілася дзіця з радзімкай на шчацэ...

С у р ы н т а. Гэта не прычына.

Н я н ь к а. Якраз гэта прычына, чаму радзімка ў дзіцяці...

С у р ы н т а. Ну, годзе! Хадзем!

Ж о н к а *(углядаецца на могільнік)*. Гэх, які ён вялікі!.. Колькі тут слёз праліта было!

С у р ы н т а. На тое ён і могільнік. *(Паўза.)* Рузя, ты нешта неспакойна, хадзем лепш адсюль! *(Падышоў да яе.)* Ты чаго ўздрыганулася?

Ж о н к а. Мне страшна!

С у р ы н т а. Рузечка, што з табою?

Ж о н к а. Адчула раптам, што хутка памру!

С у р ы н т а. Рузя!

Н я н ь к а. Панечка, хадзем лепш адсюль!

Ж о н к а. Дай мне дзіця!

Н я н ь к а. Дзіцятка спіць, не трэба! *(Не дае.)*

Жонка. Я толькі пацалую! *(Моцна пацалавала.)*

Сурынта. Рузя, ці ж так можна?!. Дзіця ж спіць!

Жонка. Я ж яго кахаю!.. *(Углядаецца.)*

Сурынта. Рузя, ты што, мая дарагая?..

Жонка. Вось тут, на гэтым месцы, пахавайце і мяне!..

Сурынта *(здзіўлена)*. Рузя, ну што ты кажаш?!.

З таго боку, адкуль яны выходзілі, завыў воўк.

Жонка *(са страхам дзіка крыкнула)*. Няня! Трымай дзіцятка мацней!

Сурынта кінуўся ў бок, дзе завыў воўк. Грымнуў стрэл, і жонка пана паваліласся забітаю. Сурынта кінуўся да яе, нахіліўся. У гэты час выскачыў казак і да нянькі.

Казак. Давай дзіця! *(Пачынае вырываць, нянька не дае, нарэшце вырваў і ўцёк у левы бок. Нянька з крыкам пабегла за ім і падае.)*

Заслона

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Тая самая дэкарацыя. Праз 18 год. На могільніку на авансцэне стаіць вялікі помнік з партрэтам жонкі Сурынты. Побач сенажаць. Парабкі і парабчанкі, падграбаючы сена, пяюць песню.

Бутрым *(як скончылі песню)*. Гэта я разумею!.. Новая песня — жывая, як вада!..

Параска. У нашай старонцы і не чутно такіх!

Ганна *(паказваючы на Касю, якая стаіць ля помніка)*. Ёй вось трэба дзякаваць: яна нас навучыла!..

Параска. Прыказка праўду кажа, чужое ўсё смачней!..

Ганна. Прыляцела галубка з чужога краю і падарунaчак прынесла!.. Дзякуем табе!..

Пракоп. А цікава ведаць, нябось у хахлоў, дзеткі, навучылася?

Кася. Чула, як пяялі гайдамакі... Спадабалася... сабе завабіла...

Аксіння. Ну, досыць распытваць, дзе пяялі ды хто пяяў!.. Трэба ведаць, што яна госць у нас: збяглянка!..

П р а к о п. Яно і праўда: лепш маўчаць!.. Яшчэ даведаецца пан — дзяўчына тады прападзе!..

Б у т р ы м. Вясёлая песня!.. Не раўня нашым!.. Весела не толькі нам, а і пані нябожчыцы, што ў гэтай магіле ляжыць.

П а р а с к а. А ты, Бутрым, не чапай касцей бядачкі!.. Спіць... і няхай спіць!..

Б у т р ы м. Наша песня яе не абудзіць!

Г а н н а. А канешне трэба вам закрануць нябожчыцу?!

П р а к о п. Для яе ўсё роўна! 18 год, як парыць зямлю... Даўно ўжо спарахнела!..

К а с я. А скажыце, чыя гэта магіла?

Б у т р ы м. Жонкі нашага пана!.. На гэтым месцы застрэліў яе казак, тут і пахавалі...

П р а к о п. Казак страляў у пана, а куля трапіла ў грудзі ёй... Так увесь набой і застаўся ў грудзях яе... 18 год ужо прайшло!..

Б у т р ы м. А казакі тут з частых гулялі... Бывала, наляцяць — горача сядзець. Асабліва панам давалі гарту!..

П р а к о п. Скуль гэта ты ўсё ведаеш, смаркач?

Усе зарагаталі.

Б у т р ы м. Казалі людзі...

П р а к о п. Людзі, людзі... Ты ў мяне лепш запытайся — я скажу...

У с е. Скажы, Пракоп! Скажы!

П а р а с к а. Табе вядома, Пракоп, як усё было!

П р а к о п. Слухайце!.. Сурынта, наш пан, грозны вельмі быў... Бывала, як забушуе — канец чалавеку,— то гайдукі на стайні засякуць, а то сам галаву кіем пашчапае... Была ў яго жонка... Любіў ён яе... ой, як любіў!.. Раз увечары вось тут на сенажаці ён з ёю праз дарогу ішоў, аж аднекуль выскачыў казак, стрэліў і замест пана забіў ягоную жонку, пасля выхапіў з рук у нянькі дзіцянё... *(Кася ўскрыкнула.)*

У с е. Што з табой?

К а с я. Нічога!.. Страшна!.. Казак выхапіў дзіця?..

П р а к о п. Дык вось, выхапіў дзіця і знік. Паплакаў пан наш, пахаваў яе тут, і ўсё... 18 ужо год прайшло з таго часу...

Г а н н а. А чаму ж яе пахавалі якраз тут: на сялянскім могільніку?..

У с е. Але — чаму?..

П р а к о п. Яна прасіла, каб на гэтым месцы яе пахаваць...

Усе ўглядаюцца на помнік.

П а р а с к а. Але ж і прыгожая яна была!..

П р а к о п. Лялька!..

У с е. Ведаў яе, Пракоп?

П р а к о п. Ведаў? Колькі разоў слова добрае чуў!.. Дапамагала яна беднаце!..

Я н у к. А дзе ж дзіця, што адабраў казак?

П р а к о п. Пэўна, загінула!..

Я н у к. А мо дзе і жыве...

П а р а с к а *(доўга ўглядалася на Касю)*. Дзяўчаты, гляньце!.. Як яна падобна да нябожчыцы пані!..

Усе глядзяць.

Г а н н а. І тварам... і носам, быццам тая сама пані перад намі стаіць!..

П р а к о п. Ды кіньце вы жартаваць!.. Ну, што супольнага: яна — мужычка, а тут...

П а р а с к а. Але ж гляньце — вочы, нос...

Б у т р ы м. Годзе вам лапатаць! Яна так падобна да жонкі пана, як я да самога Сурынты! *(Залажыў рукі назад і паважна пайшоў убок. Усе рагочуць.)*

П р а к о п *(да Касі)*. Не слухай, дзеткі! Яны адно жартуюць... Старайся, каб не даведаўся пан, што ты збеглая! Усё тады будзе добра, і мы цябе пакрыем!..

А к с і н н я. А ты, Пракоп, цішэй..

Г а н н а. А ці праўду кажуць людзі, быццам бы ў ноч на радуніцу цень нябожчыцы над магілкай з'яўляецца?..

П а р а с к а. Праўда, праўда! Я сама ўчора бачыла!

У с е. А што ж ты бачыла?

П а р а с к а. Страх над магілкай бачыла!

У с е. Які там табе страх?

П а р а с к а. А такі: нешта белае стаяла па-над магілаю і хісталася ад ветру...

У с е. А-я-яй!..

П а р а с к а. Так, так!.. Белае... падобнае да чалавека...

Г а н н а. Ну, гэта, пэўна, яна была!..

Б у т р ы м. А потым што?

П а р а с к а. Я і памяць страціла... Ледзьве ўцякла...

Бутрым. Ну і дуркеша ты, Парася!.. Ці ж гэта быў страх?!

Параска. А то як жа!.. Страх, каб я свету не бачыла!..

Бутрым. Гэта ж быў я! Ха, ха, ха!..

Усе рагочуць.

Параска. Маніш, маніш!..

Бутрым. Я яшчэ пеўнем заспяваў, каб табе больш страху нагнаць!..

Параска. Во, злыдзень! Напужаў толькі!..

Ганна. І добра зрабіў! Бо не трэба цягацца апоўначы, а лепш у хаце сядзець!

Параска. Трэба было!..

Ганна. Бач яе — марцовая паненка!..

Параска. Хто б смяяўся, ды не ты б!..

Ганна. Я ж поначы не цягаюся...

Параска. Святая!.. Анёльчык!.. А з Сымонам хто галубіцца?..

Ганна. А з Дзянісам хто мілуецца?

Параска. Твой Сымон смаркаты!

Ганна. А твой Дзяніс гарбаты!

Усе рагочуць.

Янук. Ну, годзе, сакатухі!.. Спляліся ўжо!..

Параска. А чаго ёй ад мяне трэба?

Ганна. А табе чаго?

Параска. Дурніца, змоўкні!

Ганна. Ты сама дурніца!

Дзеўкі пачалі біцца.

Янук. Кіньце, авечкі бясхвостыя, а то я вас інакш папрашу!.. *(Пачаў іх разводзіць, а яны яго павалілі і надавалі гуплікаў. Ён адбег убок.)*

Усе. Давай, давай.

Янук. Дзяўчаткі, завошта?

Параска. А хто цябе выклікаў на гутарку?

Ганна. І я кажу, чаго ты выскачыў?.. Мы пасварыліся, мы і памірымся!..

Бутрым *(падышоў да Янука, узяў яго за вуха)*. Хадзі сюды! *(Прывёў на авансцэну.)*

Янук *(ідучы)*. Чаго?

Бутрым. Добра далі? *(Пусціў. Усе рагочуць.)*

Пракоп. Віцька ідзе!

Бутрым. Ну, годзе сварыцца!

Усе хлапцы. Ага, добра! *(Узрадаваліся.)*

Ганна. Нарэшце! Цэлы дзень недзе бадзяўся, а на-нач цягнецца!..

Бутрым. А гэта справа не твая! Маўчы і не гаўкай, а то вецер падхопіць і да пана замчыць!..

Пракоп. А пан вуха трымае востра!

Янук. Воўк здалёк стрэльбу чуе!

Бутрым. На тое ён і воўк!

Параска. А скажыце, браткі, толкам, куды гэта Віцька адлучаецца?

Ганна. Мала ўдзень, дык і ўночы!..

Бутрым. Маладзенькія яшчэ!.. Няхай вось зубкі адрастуць, каб языкі мацней трымаліся!

Аксіння. Зялёная яшчэ, галубачка!

Ганна. Бач, якая спелая — нябось на прыпечку ляжала, дык падсохла!..

Аксіння. Ці не замнога гаворыш?

Бутрым. Ну, досыць вам сварыцца! Рыхтуйцеся да полудня з Віцькам... Вунь і стары Супрон ідзе...

Усе *(радасна)*. Гэта ж ён полудзень нясе! *(Гоман.)*

Прыйшоў стары парабак Супрон з вядром, міскамі, лыжкамі і хлебам. Усе кінуліся да яго.

Супрон. Чакайце, чакайце!.. *(Дзеліць хлеб. Усе пачынаюць есці. Янук моцна сёрбае.)*

Ганна *(да Янука)*. Ды не сёрбай ты так, а то яшчэ мяне ў сваю мяліцу ўцягнеш!

Усе рагочуць.

Параска. У яго рот, як торба!

Ганна. І стварыў жа бог такую недарэку!..

Янук. Ну, годзе, годзе, а то сухім хлебам падавішся!..

Ганна. Не бойся, не падаўлюся! *(Папярхнулася, усе рагочуць.)*

Янук *(стукнуўшы ёй у карак)*. Ну, глытай! Глытай!

Параска *(да Агаты, якая сядзела паводдаль і не ела)*. Агата! Хадзі да нас, укусі трохі парабчанскай долі!..

Ганна. Будзе яна есці хлеб з жарствою?!

Бутрым. Яна нядаўна з панам каравай ела!

Параска. Хадзі, Агата, ды раскажы, як ты з панам стол дзяліла!..

Усе рагочуць.

Агата. Ды кіньце вы жарты з гэтага строіць!..

Прыйшоў Віцька.

Параска. Віцька, дзе ты бадзяешся?..

Віцька. Занудзілася?..

Параска. Мы хочам ведаць!..

Віцька. У лесе на прыволлі быў!.. Слухаў, пра што шапацелі дрэвы...

Бутрым. Во, чула!

Параска. Абы час змарнаваць!

Ганна. Разгультаіўся хлапец!

Аксіння. А табе што?

Віцька. Прыйдзе час — расквітаемся!.. Сягоння вы за мяне, а там я за вас!..

Ганна. Ён прыстаў да мяцежнікаў!..

Бутрым. Цыц!

Усе хлопцы ўстрывожыліся, незадаволена глядзяць на Ганну.

Бутрым. Авечка ты шалёная, маўчы, а то нос на порхаўку саб'ю!.. Дзе табе тыя мяцежнікі?.. Хочаш, каб панскія конюхі дачуліся ды скуру тваю на рамяні парэзалі?

Віцька. Перш чым казаць, добра адмяркуй, што кажаш!.. А па-другое, мяцежнікаў не бойся: яны нашы прыхільнікі!..

Агата. Каб іх свет не ведаў, такіх прыхільнікаў! Маёнткі панскія рабуюць!

Бутрым. Зноў гаўкаеш?

Агата. А што ж, няпраўда?

Аксіння. Слухай, Бутрым, пакінь ты з ёю спрачацца, бо дурня ніколі не навучыш!..

Агата. Ты сама дурань!..

Бутрым. Ой, прыйдзецца табе, Агата, пастку зачыніць!..

Пракоп. Як далікатна — зачыніць, кажы проста — замазаць!..

Агата. Сабе замаж!

Віцька. Агата, няўжо ты не навучылася, як жыць на свеце?

Агата. Навучы, калі ласка!

Віцька. Нашто так бароніш паноў?

Агата. А што пан — не чалавек?

Бутрым. Во дзе прыхільніца!

Віцька. Ды што з ёю гаварыць!

А г а т а. Не гавары, будзь ласкаў!

Чуцен рог мыслівага.

В і ц ь к а. Пан сюды ідзе!

Узняўся гоман. Усе ўзяліся падграбаць сена.

Б у т р ы м. Паклікалі, ну дык ідзе. Бач, як узяліся за працу!..

П а р а с к а. Нешта ён часта пачаў заглядаць сюды!

А к с і н н я. Шукае нечага!..

В і ц ь к а. Добрага сука, каб павесіцца!

Б у т р ы м. Лоўка, Віцька!

П р а к о п. Ямчэй і быць не можа!.. А мне, Віценька, здаецца, што пан ужо вісіць і вецер ногі калыша!..

Я н у к. А пан усё дыша! *(Зарагатаў.)*

П а р а с к а. А ўсё ж хочацца ведаць, чаго ён заглядае сюды!..

Г а н н а. А калі так хочаш ведаць, падыдзі ды запытайся: паночку даражэнькі, чаго гэта ты бадзяешся па сенажаці?

Б у т р ы м. І адказ быў ба!.. Тры дні чухала б патыліцу!..

П а р а с к а. Жарты жартамі, а як убачыць ён нашу працу, дастануць на арэхі і парабкі, і парабчанкі!..

А г а т а. І чаму вы так дрэнна думаеце пра пана? Няўжо ён такі нядобры?

У с е. І!.. Як расхваліла, падумаць!..

Б у т р ы м. Бач, якая заступніца!

У с е. Змоўкні ты!..

П а р а с к а. Пажыла з ім не так многа, а розуму набралася вунь колькі!..

В і ц ь к а. Мала яшчэ паплакала праз яго?

А г а т а. Ты не бачыў маіх слёз!

А к с і н н я. Трохі пачакай, запяеш ваўком!..

В і ц ь к а. Прыказка нездарма кажа: хвалі сена ў стагу, а пана ў грабу!..

А г а т а. Няхай ён жыве! Смерці я яго не жадаю!..

П р а к о п. Цішэй вы, цішэй!.. Ён зусім блізка!..

В і ц ь к а *(глядзіць удаль)*. І сабака рудая следам за ім!..

Б у т р ы м. Ды ён жа без яго ані кроку!..

П р а к о п. Ой, відаць, злы сёння пан Сурынта, у зямлю глядзіць і вус круціць!

П а р а с к а. Будзе бяда!

П р а к о п. А тут загультаілі ўсе, сена не паспелі ў стагі злажыць! На мой горб бяда будзе!..

Б у т р ы м. А што, каб затуманіць пану вочы?!

П р а к о п. Ды чым?

Б у т р ы м. Песню заспяваць, а ён спевы любіць!

П р а к о п. Заспявайце, дзеткі!

Б у т р ы м. А якую?..

Г а н н а. Ды гэтую новую, што збяглянка навучыла нас!..

Б у т р ы м. Цішэй, няможна ж!.. Хочаш, каб такі даведаўся пан?!

В і ц ь к а. Песню спявайце яе! *(На Касю.)* Чаго палохацца?!

А к с і н н я. Вы, хлопцы, памятайце ж, каб ніхто з вас і слова не ўспомніў пра яе!..

Б у т р ы м. Па нас будзьце спакойны!..

А к с і н н я. А ты, Кася, глядзі! Як падыдзе пан, каб вачэй не ўзняла!.. Убачыць — прападзеш: ён прыгожых любіць!..

К а с я. А можа, мне схавацца?

А г а т а. Яшчэ чаго, павінна тут застацца!..

А к с і н н я. Ну, дык памятайце ж, пра тое, што яна збеглая, пан ведаць не павінен!

Запяялі песню, Віцька схаваўся раней за капою сена. Падышоў С у р ы н т а. За плячамі ў яго стрэльба, торба, стаў за дрэвам і слухае. Парабкі яго не бачаць.

С у р ы н т а *(пад канец спеву)*. Нішто сабе песня! Я яе з ахвотаю слухаю!..

У с е. Дзень добры, вяльможны пане!

С у р ы н т а. Я гэткай песні і не чуў раней! *(Паўза.)* А ў якой старонцы пяюць такую песню? *(Усе маўчаць.)* Хіба глухі?.. У якой старонцы?..

Б у т р ы м. Не ведаем, паночку!..

А г а т а. Я ведаю!.. Вось гэта парабчанка *(на Касю)* навучыла нас!

Усе захваляваліся. Пракоп адышоў убок. Кася стаіць пры помніку, тварам да публікі.

С у р ы н т а. А хіба ж яна не мая? *(Паўза.)* Глухія вы, ці што? *(Гнеўна.)* Наглядчік!

П р а к о п. Я тут, панок!

С у р ы н т а. Чыя яна?

П р а к о п. Не ведаю, панок. Учора толькі я з лесу вярнуўся.

С у р ы н т а *(упарта разглядаючы Касю, не гледзячы на Пракопа).* А ты што ў лесе робіш?

Б у т р ы м *(падшапнуў таму).* Лес карчаваў...

П р а к о п. Лес карчаваў...

С у р ы н т а. Дык хто ж яна?

А г а т а. Я скажу. Яна не наша.

Усе захваляваліся, хлопцы скрытна замахалі на яе кулакамі.

С у р ы н т а. А... Значыць, бяглянка. Нябось аднекуль уцякла. *(Падышоў да яе.)* Адкуль ты, дзяўчына?

Кася павярнулася, Сурынта глянуў на яе і спыніўся.

К а с я. З Мазыршчыны! *(Становіцца на калені.)* Паночку, даражэнькі! Я бяглянка... пашкадуйце!..

Віцька хацеў быў кінуцца на пана, але хлопцы стрымалі яго.

С у р ы н т а. Устань! *(Кася ўстала.)* Як даўно тут?

К а с я. Два тыдні...

С у р ы н т а. Якога пана парабчанка? *(Паглядае то на Касю, то на помнік.)*

К а с я. Пана Свяцкага.

С у р ы н т а. А раней ты не была тут?

К а с я. Не...

С у р ы н т а. Чаму ж мне твар твой як бы знаёмы. *(Паўза. Пра сябе.)* Як падобна! Ну, добра! *(Парабкі ў час размовы зацікавіліся і перасталі працаваць.)* Ну, а вы чаго ўтаропіліся? *(Грозна.)* Вам што?.. Аканом! *(Сурова глядзіць на парабкаў.)*

Прыбег а к а н о м. У руках яго некалькі палак.

А к а н о м. Я тут! *(Убачыўшы, што пан заглядзеўся на парабкаў, разглядае Касю.)*

С у р ы н т а. Як працуюць?!. Дагледзь іх...

А к а н о м. Рад слухаць! *(Дае палкі.)* Выбірайце, ваша мосць! *(Сурынта ўзяў.)* Адстане цела ад касцей, а кій жыць будзе.

С у р ы н т а. Гэтую парабчанку да мяне ў двор!

А к а н о м. Рад слухаць! *(Сурынта адышоў.)* О!.. Вы — гультаі! *(Сурова агрызнуўся.)* Чумы на вас няма! *(Падышоў да Касі, ласкавым голасам.)* Не палохайся, я не на цябе! Пойдзем сабе сцежачкай да пана, а не, заначуеш у мяне! *(Хутка пайшоў следам за панам.)*

Б у т р ы м. Не відаць ужо пана!..

В і ц ь к а. Зараз вернецца, пагладзіць косці новым кіем!.. Гэх, высока ўздымаюцца мае грудзі!..

Б у т р ы м *(да Агаты)*. Сучка, набрахала!

А г а т а. Ён усё ведаў аб ёй. У яго зрок спрытны!..

Б у т р ы м. Біць цябе трэба! *(Замахнуўся.)*

В і ц ь к а *(спыніў)*. Стой!..

А г а т а. Ану, спрабуй!

Б у т р ы м. Рук не хачу брудзіць...

В і ц ь к а. Маўчыце, хлопцы!.. Дайце хвілінку супачыць... Сэрца сціскаецца, да помсты кліча!..

П р а к о п. Што ж цяпер будзе?

А г а т а. Анічога не будзе, трэба ёй ісці да пана.

К а с я. Зараз ісці?

А г а т а. Раз пан загадаў — трэба!

Кася хацела ісці.

В і ц ь к а. Чакай, не хадзі!

А г а т а. Як-то чакай, пусці!

В і ц ь к а. Ды я цябе калі пушчу, на дарогу не трапіш!

А г а т а. Ого, які страх!

В і ц ь к а. Ты мне глядзі! Я жартаваць не ўмею!

А г а т а. І чаго ты вызверыўся?

В і ц ь к а. А нашто ж ты яе выпраўляеш!.. Хочаш, каб хутчэй тваё месца заняла!.. Здаецца ж, не так даўно сама была панскай палюбоўніцай, а цяпер, калі красу страціла, граблі ў рукі даў...

А г а т а. Маўчы ты, ліхадзей!

Б у т р ы м. Хоць бы дзе камень знайсці ды па мызе заехаць!..

П р а к о п. Утапіць ведзьму!

А к с і н н я. Камень на шыю ды ў вір галавою!

Г а н н а. Гэткую і вада не прыме!..

А г а т а. Цьфу на вас!

Б у т р ы м. А ты не плюйся, а то — як плюну!..

В і ц ь к а. І прыйшло ж у галаву падсылаць дзяўчыну да гэтага павука!..

П а р а с к а. Справа вядомая!.. Уловіць у свае лапы, высмакча кроў, а пасля граблі ў рукі ды на сенажаць!..

Г а н н а. Не першая ўжо!

Б у т р ы м. І як жа цяпер быць?

В і ц ь к а. А што?

Б у т р ы м. Казаў жа прыйсці ў двор!..

П р а к о п. Яшчэ судзіць будзе за пабег!..

В і ц ь к а *(грозна)*. Судзіць! Няхай спрабуе! Хадзем, Кася! *(Пайшоў з Касяй; граблі яе засталіся ля помніка.)*

Бутрым. Вось табе і загваздка!

Пракоп. А нешта такі будзе!

Агата. А будзе тое, што і са мною! У палац праз дзверы, а з палаца праз акно!.. Як гразь — на дарогу!..

Параска. Такую, як ты, за нагу ды на асіну!

Агата. Глядзі, каб сама не палезла!

Бутрым. Сыдзі з воч, гадзіна! *(Прапёрлі яе прэч.)* Колькі жоўці ў гэтай дзяўчыне!..

Пракоп. А раней яна не была гэткая!..

Параска. Пажыла ў палацах — навучылася!..

Бутрым *(глянуў убок)*. Во, зноў чэша наш пан Сурынта!..

Параска. І чаго яго нячысты носіць?

Ганна. Каб ён свету не ведаў!

Аксіння. Але ж цішэй, цішэй! Ён яшчэ пачуе!..

Падышоў Віцька.

Віцька. Нічога не пачуе: ён яшчэ далёка! Ану, хлопцы, сюды, а вы, дзяўчаткі, на хвілінку прэч адсюль *(Дзяўчаты выходзяць, апроч Аксінні.)* Вось што, браткі! *(Убачыў Янука.)* А дурны чаго тут?

Янук. Браточкі, і я з вамі.

Хлопцы адводзяць яго прэч. Хлопцы гуртаваліся ля Віцькі, а Янук здалёк прысеў, быццам папраўляе лапці, слухае.

Віцька. Сягоння ўначы мы павінны ўцякаць!.. Усё падрыхтавана!.. З гэтага двара бягуць 20 хлопцаў, ад Трызны — 18 і ад Гарбарына — 35.

Бутрым. Якім шляхам?

Віцька. Раней у Сіні Бор, а там да гайдамакаў! Сягоння ўначы павяду вас!..

Аксіння. А як на развітанне... запалім панскія харомы?

Віцька. Якраз не трэба!

Аксіння. Як жа без падзякі адысці?

Віцька. У свой час падзякуем! *(Да дзяўчат.)* Ану, падсуньцеся бліжэй!

Выходзяць усе дзяўчаты, да іх далучыўся Янук, агульны гоман. Віцька знік. Падышоў Сурынта.

Сурынта. Эй, эй, як бачу, праца не пасоўваецца ў вас!.. Байкі адзін другому баеце?! Граблі чые валяюцца?..

Бутрым. Ды гэта ж яе...

С у р ы н т а. А дзе яна?

Б у т р ы м. Па загаду панскаму — у двор пайшла!..

С у р ы н т а. У двор, чаму ж я яе не бачыў!.. Хто на імшарыне працуе?

Б у т р ы м. Пакуль што ніхто!

С у р ы н т а. Марш на імшарыну! Сена ў копы злажыць! *(Усе адыходзяць.)* Погляд вачэй у гэтай дзяўчыны нейкі асаблівы!.. Гэта калі я глянуў у глыбіню яе вачэй, то мне ўспомнілася мая нябожчыца жонка!..

Крадучыся, падышоў Я н у к.

Я н у к *(стаў на калені)*. Паночку, будзьце асцярожны!.. Парабкі, зладзеі, хочуць маёнтак панскі запаліць і да гайдамакаў сягоння ўначы ўцякаць!..

С у р ы н т а. Мае парабкі?

Я н у к. Вашыя, паночку, вашы!..

С у р ы н т а. А ты скуль гэта ведаеш?

Я н у к. Сам на свае вушы чуў! Вось толькі што на гэтым месцы!..

С у р ы н т а. Хто ж з іх заводчык?!.

Я н у к. Ды Віцька-парабак!..

С у р ы н т а. А ты добра даведаўся?

Я н у к. Усё да каліўца!.. Я, паночку, верны ваш слуга, і дзень і ноч на варце... Усё, што толькі яны брэшуць, я збіраюся пану давесці! Мяне яны за дурня лічаць, а я, богу дзякаваць, далёка не такі!..

С у р ы н т а. Вось што! Бяжы зараз у двор, старожы дай загад! *(Паўза.)* Але не, я сам!.. Дзякую табе за службу верную! Заўтра пачэсную мясціну ты зоймеш у маіх палацах!..

Я н у к *(цалуючы рукі)*. Галаву гатоў зламыць за пана!

С у р ы н т а. Скінеш лапці — кунтуш надзенеш! Шляхецтва табе потым дам!

Я н у к *(рукі да неба)*. Божа мой, якая міласць, нарэшце дачакаўся!

С у р ы н т а. Ідзі!

Я н у к пайшоў управа і знік за магілкамі.

С у р ы н т а. Вось дык навіна! Добра, што дазнаўся! Усіх павешу, як сабак!

Падышла А г а т а плачучы.

С у р ы н т а. А ты чаго, як той цень, снуеш за мною?

А г а т а. Я граблі прыйшла ўзяць!

С у р ы н т а. Чаго ж плачаш?

А г а т а. Як жа мне не плакаць, калі сэрца маё так баліць, так баліць! З мяне смяюцца, паняверацць, плююць у твар!.. А што дрэннага зрабіла я вам, за што выгналі на смех да парабкаў!

С у р ы н т а. Усё сказала?

А г а т а. Успомніце ж, як я не здавалася на ваш загад!.. Я баялася ісці ў вашыя харомы, вы ж мяне гвалтам прымусілі, а потым выгналі.

С у р ы н т а. Ідзі да парабкаў!

А г а т а. Застрэльце мяне лепш, як так здзекавацца!

С у р ы н т а. Я сказаў — марш!

А г а т а. Я не хачу ад вас нічога, толькі не пасылайце мяне да парабкаў.

С у р ы н т а. Я ведаю, што раблю!.. Паставіў — і працуй!..

А г а т а. Я хворая і не магу працаваць!

С у р ы н т а *(грозна)*. Марш!

Агата хацела ўзяць граблі, але Сурынта наступіў на іх нагой. А г а т а, сурова глянуўшы, пайшла.

С у р ы н т а. Як блізка да сэрца ўзяла!.. Вы гвалтам мяне прымусілі!.. Я права меў на гэта, на тое ты мая падданая!

Чуцен голас Касі: «Віценька, пачакай, я толькі граблі забяру!» Убегла, убачыла Сурынту і са страхам стала.

С у р ы н т а. Ну, чаго ж спалохалася?

К а с я. Я граблі хацела ўзяць!

С у р ы н т а. Паслухмяная ты, дзяўчынка, і песні зычныя пяеш... Ты сірата?

К а с я. У мяне няма нікога!..

С у р ы н т а. Маці твая дзе?

К а с я. Мамы я не бачыла ніколі!..

С у р ы н т а. Бацька?

К а с я. Не ведала!

С у р ы н т а. Тым лепш!.. Я запішу цябе да сваіх падданых!..

К а с я. Паночку, не карайце мяне за пабег!..

С у р ы н т а. Па закону кожны ўцякач, калі самаўладна пакідае свайго пана, падлягае вялікай кары! *(Кася спалохалася.)* Але... але табе будзе даравана мною воля!..

К а с я *(хацела пацалаваць руку)*. Дзякую, паночку, вы як родны бацька!

С у р ы н т а. Не трэба дзякаваць, бяры свае грабелькі, і пойдзем!..

К а с я. А мяне там чакае...

С у р ы н т а. Хто?

К а с я *(не адразу)*. Віцька!..

С у р ы н т а. Які такі Віцька?..

К а с я *(упаўшым голасам)*. Ваш парабак!

С у р ы н т а. А ў цябе што з ім? *(Паўза.)* Любіш яго? *(Яшчэ мацней.)* Любіш яго? *(Кася кіўнула галавою.)* Хадзем за мною! *(Пайшоў, а Кася за ім.)*

В і ц ь к а *(як яны пайшлі, выскачыў з-за куста)*. Гэх ты, пракляты!.. З-пад рук узяў! Ну, што ж цяпер рабіць?! Уся кроў узбурана... дагнаць бы ды прасадзіць нажом!.. Н-не... пачакаю, сцішся, маё сэрца, будуць і нашыя дні радасці! *(Убачыў, што бяжыць аканом.)* Во, яшчэ адзін спяшаецца сюды, спажыву чуе! Ану набок! *(Схаваўся зноў за куст.)*

Прыйшоў а к а н о м.

А к а н о м. Эге-ге! Працаваць перасталі!.. Сонца над лесам, а яны так сабе!.. Чакайце ж вы ў мяне, гультаі!.. Я вам дам!.. І новенькая парабчанка таксама знікла, а важная дзяўчынка! Душу ўсю маю ўскалыхнула, так перад вачыма і стаіць!.. Гэх, хоць бы пан Сурынта да сябе яе не прыгарнуў, але не!.. Я трупам лягу, а яна будзе маёю!..

Віцька ціха выйшаў з-за куста і стукнуў яму па плячы, аканом аж сеў.

А к а н о м *(убачыўшы яго)*. Гэта што яшчэ?

В і ц ь к а. Цыц, а то ў зямлю ўганю!..

А к а н о м *(ласкава, не ўстаючы)*. Браток, за што ж?

В і ц ь к а. Уставай, паскуда! *(Хапіў яго за карак і паставіў на ногі.)*

В і ц ь к а. Ты з кім тут гаварыў?

А к а н о м. Гэта я з ветрам!..

В і ц ь к а. А пра новенькую парабчанку не ўспамінаў?

А к а н о м. Нашто яна мне, я баб цярпець не магу!..

В і ц ь к а *(замахнуўся)*. Эх ты, каршун крыважэрны!

А к а н о м *(згінаючы каленкі)*. Браток, браток!..

В і ц ь к а *(грозна)*. Ты мне глядзі!.. Хоць адным словам пакрыўдзіш яе — не дарую!..

Аканом. Клянуся небам!.. Не пакрыўджу!..

Віцька. А цяпер жаліцца да пана пабяжыш?!

Аканом. Ці ж я баба?!.

Віцька. Бачыў мяне?

Аканом. Сягоння не бачыў!..

Віцька. Гаварыў са мною?..

Аканом. Ні слова!..

Віцька. Мне твой пан не страшны, зачэпіць мяне, з дымам паляціць усё!.. А з цябе, калі даведаюся, жылы выматаю. З Віцькам жарты малыя!..

Аканом. Я цяпер ведаю!..

Віцька. Ну, калі ведаеш, дык будзь жа асцярожным!..

Аканом. А то як жа! Трэба ж!..

Віцька. Ідзі... і памятай!..

Аканом адыходзіць з асцярогаю. Віцька на яго замахнуўся, аканом пабег. Прыйшла Агата.

Агата. Віця! Я вінавата, судзі мяне!.. Я сама не ведаю, што чыню, я не паслухала цябе, выдала гэту няшчасную парабчанку... Бараніла пана — даруй мне!..

Віцька. Мала гэтага, Агата! Каб разагнаць думкі, якія злажыліся ў нас пра цябе, ты павінна...

Агата. Усё выкажу, усё!.. Ад шчырага сэрца, каб не быць больш вашым ворагам!.. Праўда, я бараніла яго, бараніла яго сягоння яшчэ, вось тут, а цяпер праклінаю яго!.. Шмат праз яго няшчасных, а разам з імі і я!.. Не праганяй жа, Віця, мяне!.. Я пастараюся заслужыць іншых да сябе адносін!..

Віцька. Мала гэтага, Агата! Такі раптоўны нахіл у наш бок мала выклікае да сябе веры... Так бараніць яго мог толькі яго сабрат — пан, а ты ж мужычка, яго падданая, чалавек без права і голасу!.. Ну, скажы, што добрага мела ты ад яго? Нічога!.. Ён цябе прымусам уцягнуў у панскія палацы і потым выкінуў на вуліцу! Што добрага мы маем ад яго? Век працуем, а ў нагароду гайдукі вечна лупцуюць нас! *(Грозна.)* Не бараніць, а нож тачыць востры трэба!.. Але калі ўжо ты хочаш быць нашай прыхільніцай, дык не шукай шчасця пану, а кліч народ да помсты! Ад гэтага залежыць нашае шчасце!..

Агата. Віця. Клянуся ж, клянуся касцьмі *(на магілы)* гэтых сялян, што я памшчуся, і так памшчуся, што зямля зазззяе чырвоным полымем!..

Віцька. Ведаеш, Агата? Менш гавары, больш рабі!

Агата. Ну, добра, я сказала, і на сэрцы ўжо куды лягчэй! Даруй жа мне і лічы мяне сваёю аднадумніцаю, якая з табою пойдзе ў агонь! *(Пайшла.)*

Віцька. Якая змена! Агата, такая прыхільніца пана, перайшла цяпер на наш бок!.. Гэта ўцешна!..

Прыбегла Кася.

Кася *(радасна)*. Віця, каб ты ведаў, які добры пан!

Віцька *(спахмурнеў)*. Няўжо добры?

Кася. Ласкава са мною гаварыў і забірае мяне да сябе ў двор!

Віцька. Якая міласць!

Кася. Я так рада! Так рада!

Віцька. Радуйся!.. Скінеш андарак, надзенеш аксаміты!..

Кася. Я папрашу пана, каб і цябе ён паставіў да лягчэйшай працы!..

Віцька. Не прасі.

Кася. Чаму?

Віцька. Дорага табе будзе гэта каштаваць.

Кася. Не разумею я цябе, Віця!

Віцька. Ты шмат чаго яшчэ не разумееш!

Кася. І таму ты, Віця, гэтакі злы?

Віцька. Эх, Кася, не пытайся.

У гэты час, крадучыся, падышоў Сурынта, убачыў і схаваўся за дрэва, зняўшы стрэльбу з пляча.

Кася. Віця, у чым жа справа?..

Віцька. Ты ж сама лезеш у пятлю, не зважаючы на тое, што праз гэтага чалавека мора праліта слёз!..

Сурынта *(выскачыўшы)*. Ты, што гэта, мяцежнік, парабкаў збіраеш?

Віцька. Што? Не падабаецца вам, панок?..

Сурынта. У, гад!

Хацеў стрэліць, Віцька выхапіў з халявы нож, замахнуўся. Кася кінулася між імі, загарадзіла сваімі грудзьмі Віцьку. У гэты час з-за каменя выскачыў парабак Янук, схапіў за руку Віцьку, у таго выпаў нож, між імі пачалася бойка. Віцька, нарэшце, кінуў аб зямлю Янука і сам наўцёкі.

Сурынта *(у другі бок)*. Гэй, служба!.. Сюды!.. Мяцеж!.. *(Пабег.)*

Кася *(за ім)*. Што будзе?! Што будзе?!

А к а н о м *(з-за куста)*. Ах, каб цябе чума!.. Ледзь пана Сурынту не забіў!.. Вось шкада дык шкада!.. Я толькі гэтага і чакаю! Але нічагутка! *(У той бок, куды пайшоў Сурынта.)* Ты загінеш, і на тваіх касцях крумкачы гуляць вяселле будуць, а з ёю жыць буду я, я!..

З а с л о н а

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

У пакоях Сурынты. Пасярэдзіне вялікае венецыянскае акно, злева і справа — дзверы. Па сценах — партрэты продкаў-магнатаў, развешана зброя. Пасярэдзіне сцэны — стол, за сталом сядзяць паны: С у р ы н т а, Г а р б а р ы н і Т р ы з н а. У іх гулянка. На стале пітво і закуска.

У с е *(падняўшы чары)*. Віват! Віват!

Г а р б а р ы н і Т р ы з н а. Няхай жыве пан Сурынта!..

С у р ы н т а. І я дабра жадаю вам, суседзі слаўныя мае! І межы, і лясны абшар уладанняў нашых далучаць нас у моцную сям'ю. Патомак слаўны Трызнаў, радавіты Гарбарын — вы родныя мне па духу, па крыві... Мы з вамі сёння сонца разам сустрэнем!..

Г а р б а р ы н. Да раніцы гуляцьмем!..

Т р ы з н а. Да свету!..

С у р ы н т а. Музыкаў зараз клікнем, і маладзіц сюды прывалакуць, загад такі я даў!..

Г а р б а р ы н. Няўжо?

С у р ы н т а. Прыгожых... свежых... з-пад вянца!..

Т р ы з н а. Шокі-бокі, гоцаца, гані дзевак з-пад вянца!..

Г а р б а р ы н. Люблю разгул-вяселле, гатоў за гэта жыццё аддаць!..

С у р ы н т а. Не аддавай жыцця затанна, бо жыць на свеце будзеш толькі раз!

Г а р б а р ы н. Хоць раз, але ўжо так, каб памятна ўсім было!..

Т р ы з н а. Шокі-бокі, гані дзевак з-пад вянца!..

С у р ы н т а. Вось зараз прыйдзе верны мой слуга, і маладух сюды прыгоняць. *(Папляскаў у далоні.)*

З'явіўся Я н у к — ён ужо апрануты ў кунтуш; за пояском у яго канчук.

С у р ы н т а. Аканома сюды дай!
Я н у к. Праз хвілю будзе тут! *(Выйшаў.)*
С у р ы н т а. Вось верны мне слуга — як той сабака!.. Шмат парабкаў да гайдамакаў уцяклі, а ён сам захацеў застацца!..
Г а р б а р ы н. Ну, будзь здароў!
Т р ы з н а. Жыві і ты сабе на радасць! Віват!

Уваходзіць а к а н о м.

А к а н о м. Я тут, вялікі пане!
С у р ы н т а. Кажы, сабачы сын, што, як дзяўчаты?!.
А к а н о м. Вось толькі поп звянчае, на панскі каравай малодак прывяду. Няхай гуляюць на здароўе вам!..
Т р ы з н а. Шокі-бокі, гоцаца, гані дзевак з-пад вянца!..
Г а р б а р ы н. А колькі іх у цябе?..
А к а н о м. Тры!
Т р ы з н а. Замала для мяне!..
С у р ы н т а. Здаволяць!..
Г а р б а р ы н. Так, мудрая галава!.. Жыві ж на радасць нашу!..
С у р ы н т а *(да аканома)*. Чые дзяўчаты пад вянцом?
Т р ы з н а. Ці не ўсё роўна? Абы дзяўчынкі!..
Г а р б а р ы н. І я кажу!.. У гэткім разе не пытаюць!..
Т р ы з н а. Ды нам і не да твару ведаць радаслоўе мужыкоў!..
С у р ы н т а. Ну, чые ж дзяўчаты пад вянцом?
А к а н о м. Ганулька сінявокая, Параска сіраціна і Марыся, дачка музыкі!
С у р ы н т а *(здзіўлена)*. Сягоння шлюб Марыські?
А к а н о м. Якраз цяпер!
С у р ы н т а. І ты цяпер мне толькі кажаш?
А к а н о м. Даруйце, пане, яна ж у мужа яшчэ і не была!.. Пачын ваш першы!..
С у р ы н т а. А ты не памятаеш, руды сабака, мой загад, як за Марыськай наглядаць?
А к а н о м. Я і наглядаў!..
С у р ы н т а. Ой, глядзі мне, злыдне, наклічаш немачы на карак свой!..
А к а н о м. Я спадзяюся толькі ласку заслужыць!..
С у р ы н т а. Чаму не ідуць!
Т р ы з н а *(з Гарбарынам у час размовы Сурынты з аканомам мімічна гутарылі)*. Я буду поп!
Г а р б а р ы н. А я жаніх!

С у р ы н т а *(да аканома)*. Для цябе дзве дарогі. Заслужыш міласць панскую — шляхецкі герб, зямля, а не — я бізунамі засяку!..

А к а н о м. Душу гатоў аддаць!

Т р ы з н а. Пакуль там душу, дзяўчыну лепш давай!

Г а р б а р ы н. З душы тваёй я чаравік не пашыю!..

Відаць праз акно, як Янук вядзе трох музыкаў.

А к а н о м. А вось і музыкі пад акном!..

Т р ы з н а. А маладзіцы?..

А к а н о м. Праз хвілю будуць!..

Г а р б а р ы н. А не ўцякуць?

А к а н о м. З рук маіх яшчэ ніхто не ўцякаў! Там людзі пэўныя сочаць за імі, не выпусцяць!..

С у р ы н т а. Усё ў парадку, мае вы дарагія госці!.. Маладзічак мы сустрэнем з музыкай, з парадам!..

Т р ы з н а. З парадам, з карнавалам!..

Г а р б а р ы н. З салодкім караваем!..

С у р ы н т а *(да аканома)*. Кліч сюды музыкаў!

А к а н о м *(адчыніўшы дзверы)*. Гэй, музыкі! Хутчэй перад ясныя паноў вяльможныя вочы!

Увайшлі т р о е м у з ы к а ў — 2 скрыпкі і цымбалы; між імі стары музыка, парабак С у п р о н; ён скрыпач.

А к а н о м. Пашану перш злажыце, хамы! *(Сарваў з Супрона з галавы шапку і кінуў яе аб зямлю.)*

С у р ы н т а *(да старога Супрона)*. Ну, стары, даўно не чуў я тваёй музыкі!.. Сягоння будзеш весяліць нашу грамаду!..

Чуваць галасы мужчын і кабет за сцэнай, і ўсё больш і больш.

С у р ы н т а. Што там за шум?

А к а н о м. Маладзіц вядуць... Вядома, гаспадары іх не рады праву пана...

С у р ы н т а. Бач іх!..

Т р ы з н а. Па раніцы няхай прыходзяць — аддамо!..

Г а р б а р ы н. А пакуль ноч, то будуць нашы!..

За акном відаць, як Янук адганяе канчуком народ і нарэшце пераганяе да дзвярэй трох маладзіц. Шум патроху сціхае.

С у р ы н т а. Ану-тка, расчыні ты дзверы як належыць!..

Аканом расчыняе дзверы. Увайшлі тры дзяўчыны: Г а н н а, П а р а с к а, М а р ы с я, убраныя ў шлюбнае; усе яны плачуць. Паны ж радасна рагочуць.

А к а н о м. Вось гусачкі-сівалапкі!.. Ану, смялей, смялей да пана!

Т р ы з н а. Я пан.

Г а р б а р ы н. І я пан!

Т р ы з н а. Мне адну!

Г а р б а р ы н. І мне адну!

А к а н о м *(падводзіць да пана Сурынты Марысю)*. А вось і Марыся сінявока!..

С у р ы н т а. Ну, чаго ж засаромелася, як чырвоная калінка?..

А к а н о м. Сумленная, паночку!..

С у р ы н т а. Пад вянцом стаяла?

М а р ы с я. Стаяла!

С у р ы н т а. З кім?

М а р ы с я. З Ігнатам!

С у р ы н т а. А даўно ты знаёма з ім?

М а р ы с я. Разам гадаваліся!

С у р ы н т а *(грозна тупнуўшы нагою)*. Знаёма, знацца, блізка з ім?!.

Марыся спалохалася і не можа адказаць.

А к а н о м. Яна з ім спатыкалася, паночку, толькі ўдзень! Мая ў тым парука!..

Г а р б а р ы н. Чаго тут байкі баяць! Вызначай хутчэй, каму якую!..

Т р ы з н а. Па мне давай сюды любую!..

С у р ы н т а. Вось гэтыя для вас, Марыся ж для мяне!.. *(Дзяўчаты кінуліся на калені з плачам: «Паночку, пашкадуйце!»)* Дарэмна просіце! У вашай хаце не будзе весялей ад нас! Усё ў нас тут ёсць: музыкі, гарэлка, за свата аканом...

Т р ы з н а. А я жаніх!..

С у р ы н т а. Ты, аканоме, сват!

А к а н о м. Абы загад — сабакам брахаць пачну!..

Г а р б а р ы н. Ану, загаўкай!

Аканом чакае загаду пана.

С у р ы н т а. Ну, што ж! *(Аканом брэша, як сабака, яны рагочуць, дзяўчаты плачуць. Потым Сурынта ўзяў ручнік, падазваў аканома.)* Хадзі сюды! Ты будзеш за свата ў нас! *(Аканом стаў перад ім на каленкі, ён завязаў яму ручнік, штурхнуў нагою, аканом паваліўся.)*

Т р ы з н а. Вясельны карнавал!

Сурынта. Стол накрыць і маладзіц дап'яна напаіць!
Трызна. Тут маладосць жыве!
Гарбарын. І радасць, і вяселле!..
Сурынта. Музыкі! Грайце!

Музыкі, апрача Супрона, граюць польку.

Трызна (вылезшы з-за стала). Слёзы прэч! (Пачынае скакаць, а пасля схапіўся за нагу і сеў.)
Сурынта (да музыкаў). Грайце вясёлую! Ты, аканом, скачы! (Музыкі граюць, дзяўчаты плачуць, аканом скача.) Часцей, часцей! Упрысядкі! (Аканом пайшоў упрысядкі.) Казой, казой! (Аканом стаў ракам, Сурынта сеў на яго, аканом яго возіць.) А стары ж музыка чаму не грае? (Кажа гэта, седзячы на аканоме.)
Супрон (гнеўна). Рука мая адсохне, калі паслухаю цябе! Дзіця маё тут пралівае слёзы, а ты загадваеш, каб я іграў!.. Пракляцце на цябе!.. Пярун забі цябе!..
Сурынта. Ды як ты смееў?!.
Супрон. Не страшна твая кара, не страшна мне і смерць!.. Скажу я табе праўду ў вочы!.. Ты — вырадак з людзей, ты ваўкалак!.. Я праклінаю!..
Сурынта (кінуўся да сцяны, схапіў пістоль).. Заб'ю сабаку! (Але стрымаўся.)
Марыся (кінулася да бацькі, засланіла сабою яго). Лепш я памру!
Супрон. Дзеткі, не застуй лепш мяне ад душагуба!..
Сурынта. Н-не, гэтага замала! Аканом, кліч сюды мне гайдукоў!

Аканом дабег толькі да дзвярэй. Убег Янук.

Янук. Я тут!..
Сурынта. Забраць старога і пасадзіць на кол!..

Янук з аканомам выводзяць Супрона.

Супрон. Будзь пракляты, душагуб! Ты кары не мінеш! (Вывелі.)
Гарбарын. Знявага роду слаўнаму!
Трызна. Герба шляхецкага!
Сурынта. О ты, мара праклятая!.. Я пакажу, як абражаць мяне! (Адышоў убок, пістоль паклаў на крэсла.)
Трызна. Устрывожыў, парушыў наш спакой!..
Сурынта. Падлогі толькі не хацеў запляміць кроўю

гэтага гада! Плач не плач, а ты ўжо, Марыська, бацькі не ўбачыш!

Дзяўчаты плачуць. Уваходзіць а к а н о м.

А к а н о м. Вялікі пане, сюды ідзе старая нянька!

С у р ы н т а. Не пушчаць!

А к а н о м пабег назад.

Г а р б а р ы н. Нашто старая баба нам...

Т р ы з н а. Раз маладая ёсць у нас!..

С у р ы н т а. Пакіньце скігітаць, дзяўчаткі!.. А музыкі чаго змоўклі?!. Што? Мо суд не спадабаўся панскі?!

I м у з ы к а. Ды мы нічога! Разважаем, як людзі брэшуць!..

С у р ы н т а. А што яны брахалі?

Т р ы з н а. Браток, дай спосаб мне ўспомніць маладосць! Хутчэй вызнач мне дзяўчыну!..

Г а р б а р ы н. Мінтрэжыцца ўся мая істота!..

С у р ы н т а. Хвілінку пачакайце!.. *(Да музыкаў.)* Што ж брахалі?

I м у з ы к а. Ля царквы сёння казалі людзі, што быццам бы той Віцька-парабак за атамана ў гайдамакаў!

Т р ы з н а. Царыца неба, што я чую?!.

Г а р б а р ы н. Гэта навіна!..

С у р ы н т а. А што яшчэ?..

I м у з ы к а. Войска нібыта ў яго і не злічыць!..

Т р ы з н а. Да іх маіх падданых 28 уцякло!

Г а р б а р ы н. А маіх 35!

С у р ы н т а. А раней казалі людзі, быццам бы ён акалеў і косці дзікія звяры па свеце разнеслі...

I м у з ы к а. А мо і так!..

Г а р б а р ы н. Мяне ўжо і непакоіць!.. Не так даўно маёнтак пана Свіды з дымам паляцеў! Напэўна, ад рукі яго!..

Т р ы з н а. Вечны пакой, і пан Замойскі лёг ад яго рукі!

С у р ы н т а. Зараз будзем ведаць! Музыкі, выйдзіце, паклічце аканома!

М у з ы к і выйшлі.

Т р ы з н а. Вось табе і парабак!

Г а р б а р ы н. У, злыдзень!..

Убягае а к а н о м.

С у р ы н т а. Ты што, руды сабака, устрывожаны?

Аканом. Ды з мужыкамі, значыць, ваяваў!..

Трызна. Чулі, ужо — чулі!

Сурынта. Скажы, якія весткі ёсць пра Віцьку-парабка?

Аканом. Ужо ніякіх! Віцька галавою налажыў, ад чумы памёр!..

Гарбарын. Самая найлепшая для гада смерць!..

Сурынта. Гэта няпэўныя весткі!

Аканом. А чаму, вялікі пане, запыталі?

Сурынта. Кажуць, ён у гайдамакаў!

Аканом. Быў, а цяпер на тым свеце!

Трызна. Вось гэта весткі!..

Сурынта. Не зусім, кажу, пэўныя!..

Гарбарын. А калі і так, ды больш увагі на сваю старожу!..

Сурынта *(да аканома)*. Зараз жа бяжы да майго дазорцы і скажы, уланы каб былі на месцы і коні ў даглядзе!..

Аканом. Усё, панок, на месцы, але ж той Віцька на тым свеце! *(Пабег.)*

Сурынта. Перасцярога быць павінна!

Трызна. Табе трэба ў караля гармату папрасіць!

Гарбарын. Ды кароль не пашкадуе яму і дзве гарматы!

Сурынта. Ёсць у мяне свае ўласныя ўдалыя: людзі надзейныя, коні ліхія, самапалы...

Трызна. Ну, дык за пана Сурынты моц!..

Гарбарын. А я... *(устаў)* за караля і тыя гарматы, якія ахвяруе ён табе! Віват!

Усе. Віват!

Сурынта. Усё ішло так добра, а вось гэты хам папсуў мне ўвесь настрой!

Трызна. А я ў настроі! *(Вылез з-за стала.)* Давай хутчэй дзяўчыну!..

Сурынта. Ну, вось гэта табе! *(Падводзіць адну.)* А гэта пану! *(Падводзіць другую.)* А Марыся — мне! *(Схапіў яе на рукі, але ў гэты момант грымнуў стрэл. Сурынта выпусціў Марысю.)*

Трызна *(са страху)*. Гром!

Гарбарын. Гармата!

Сурынта кінуўся да акна. Кася пад акном.

Кася. Вялікі пане, Віцька з бандай тут! *(Схавалася.)*

Убягае **Віцька**. Ён апрануты казаком, узброены. Стрэліў у Сурынту, той паваліўся[1]. Дзяўчаты кінуліся з крыкам да Віцькі. З усіх бакоў з'явіліся **казакі**, **татарын** з булавою, з імі **Агата** і **Супрон**.

Віцька. Дзяўчаты, вы вольны! *(Да казакаў.)* Няхай ідуць дадому!

Дзяўчаты выйшлі.

Трызна. Дзяўчаткі, пачакайце і мяне!
Гарбарын. І мяне!
Віцька *(грозна)*. Назад!
Трызна. Пане есауле!
Гарбарын. Пане палкоўніку!
Віцька. Забраць!

Казакі вывелі Трызну і Гарбарына.

Сурынта *(пачаў уставаць. Супрон стаіць над ім)*. Што са мною? Хто тут гэта?

Віцька. Я!.. Віцька!..

Сурынта *(устаючы)*. Ты як пасмеў?! *(Хапіў пістоль, які ляжаў на крэсле, але Супрон адабраў і трымае Сурынту за рукі.)*

Татарын *(замахнуўшыся на яго булавою)*. На краяла, ка кратаялы, гарбыр сакыр!

Віцька *(да татарына)*. Стой! Стой! *(Той плюнуў і застанавіўся.)* *(Да Супрона.)* Дай сюды пістоль! *(Той аддае.)* Няхай застанецца на памяць!

Казак прывёў **аканома**. Ён амаль яго ўнёс, трымаючы за карак, са словамі: «Вось ён!»

Аканом. А родненькія мае, хто гэта?

Віцька. Не пазнаў?

Аканом. Віценька!.. З радасці не пазнаў!..

Віцька. Ну, як здароў?

Аканом. Дзякую!.. Здароў!.. *(Віцька стукнуў яго па плячы. Аканом аж прысеў.)* Ой, як ты нязграбна пасадзіў!.. *(Седзячы.)*

Віцька. Што, не па-панску?!. Уставай!

Аканом. Дзякую!.. Я пасяджу: за дзень натупаўся, ногі баляць!..

---

[1] Заўвагі да пастаноўкі. Сурынта ў той момант, як павінен убегчы Віцька, павінен чырвоным грымам зрабіць сабе шрам на лбе і закрыць яго рукой, і як толькі Віцька стрэліць, лоб адкрыць. Грым павінен быць прыгатаваны на стале.

В і ц ь к а *(узяў яго за карак і паставіў на ногі).* Уставай!

А к а н о м. Устаў!

В і ц ь к а. Што табе, сцюдзёна, што зубы ляскаюць?

А к а н о м. З вялікай радасці, што цябе пабачыў!.. Як ты лоўка да нас з'явіўся, што ніхто цябе раней і не заўважыў!..

В і ц ь к а. Ты што гэта, сват?

А к а н о м. А так!.. Паны нашы жаніцца збіраліся, дык мяне за свата абралі!.. Але ты ім перашкодзіў...

В і ц ь к а. Цяпер іх вяроўка пажэніць!.. Агата дзе?

А к а н о м *(уздыхнуўшы).* Вечны пакой!.. Ад чумы памерла!..

А г а т а ўвайшла, узяла яго за карак.

А к а н о м. І яна тут!.. Выбачай, Агатка!.. Гэта, мусіць, сястра твая памерла...

А г а т а. А ты рад быў бы маёй смерці?

А к а н о м. Плакаў бы, як горкае дзіця!.. Я гэтакі: возьме за сэрца жаль — слёзы ракою!..

В і ц ь к а. Ну, годзе, руды сабака!..

А к а н о м. Руды, руды!..

В і ц ь к а. Запражы лепшых пару коней і адвязі нас у лес!..

А к а н о м *(набок).* Прапаў!.. А дазвол у пана ты пытаўся?

В і ц ь к а. Ад слова, а то...

А к а н о м. Іду, іду! А што закладаць — брычку ці каптуру на пасах?

В і ц ь к а. Для нас — што лепшае, а для твайго пана — драбінкі, на якіх гной возяць!

А к а н о м. Зразумеў!

В і ц ь к а. Язык моцна трымай, а то лоб трэсне!..

А к а н о м. Чаму не, як гакнеш, дык адразу!.. У пана нашто ўжо чэрап моцны, і то падаўся!.. Можна?..

В і ц ь к а. Двое за ім, каб не ўцёк! *(Аканом з гайдамакамі выйшаў.)* Ну, вяльможны пане, адгулялі вяселле, а цяпер паедзем да гайдамакаў!.. Коні ўжо гатовы!..

А г а т а. Няхай скажа, дзе Кася!..

В і ц ь к а. Кася дзе?.. Вольная?

Сурынта адвярнуўся моўчкі.

А г а т а. Зразумеў!

В і ц ь к а. Мы прыйшлі забраць Касю!..

Сурынта *(гнеўна)*. Што? Скажыце смерць прыняць, прыму, а яе не аддам!

Віцька. Во, чула?! *(Да казакаў.)* Адшукаць зараз жа Касю і прывесці сюды!..

Агата выйшла.

Сурынта. А я не дазволю!..

Віцька. Пытацца буду! *(Да казакаў.)* Вядзіце яго!..

Супрон. Дазволь, браце, я яго падніму!.. Ану, вяльможны пане! *(Узяў Сурынту за карак; яму яшчэ дапамог казак.)*

Віцька. Чырвонага пеўня сюды!

За сцэнаю ўзнімаецца шум.

Віцька *(да акна)*. Хлопцы, што такое?

Татарын *(праз акно)*. Уланы панавы наскочылі!..

Віцька толькі што хацеў уцячы праз акно, як убег улан з шабляй. Пачынаецца бойка, улан падае забітым. Убягае другі, Віцька зладжыўся ў яго з пісталета, стрэліў і забіў. Сам уцёк, чуваць голас, крыкі, звон і г. д.

Заслона

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Вечар. Гайдамацкі лес. Гарыць вогнішча, кругом казакі; пяюць песню і п'юць. Злева ад публікі ляжыць калода, засланая дыванам.

I казак *(перавязвае свайму таварышу рану на галаве)*. Ды сядзі ты спакойна, чортава скура — вузла завязаць не магу!..

II казак. А ты хутчэй завязвай, гуляе, быццам з цацкаю!..

III казак. Шануй, браце, галаву!.. Гэту скінуць, другая не вырасце!

II казак. Бач, пакуль што засталася!..

I казак. І ёмка ж цябе улан пагладзіў — часць косці нават сцяў!..

II казак. Паквіталіся!

IV казак. Добра паквіталіся: ён галаву пагладзіў, а ты яго так-такі напалам!.. Зухавы з цябе баец!..

II казак. Не гладзь — не люблю!..

III казак. Атаман ідзе.

Прыйшоў Віцька, з ім татарын.

Віцька. Здаровы, браты! *(Адказалі.)* Ну, што, ужо адпачылі?

I казак. Давай загад, зноў пойдзем гуляць!..

III казак. Не гуляць, а Агату трэба адшукаць. Нябось уланы захапілі!.. Да сёння так і няма!..

Віцька. Не клапаціцеся пра Агату... Весткі ёсць: сягоння ці заўтра вернецца!..

III казак. Ой, рызыка вялікая, бабе даручаць справы выведаў!..

Віцька. Баба хітрэй ад чорта!

I казак. Нездарма кажуць, дзе чорт не возьме, баба справіцца!..

Віцька *(да татарына)*. Кучум! Скажы там вартавым, каб прывялі нам на допыт панскага слугу!

Татарын пайшоў.

II казак. Нашто яго яшчэ пытаць!.. Скажы Кучуму — ён адразу ж адашле душу сабакі ў рай!

Віцька. На ўсё свой час!

I казак. Раней паслухаем, аб чым забрэша рыжы цюцька!..

IV казак. Ну вось і ён!

Прыйшлі татарын і Аканом са звязанымі рукамі.

Віцька. Давай сюды!.. Паслухаем, што добрага раскажа слуга верны пана Сурынты!..

Аканом. Каб ён так дыхаў, як я яму быў верны!

Віцька. Развязаць!

Аканом *(як развязалі)*. Пану атаману і ўсяму вольнаму кругу добрага здаровейка!

I казак. Руку!

Аканом сунуўся быў падаць руку, але казак узяў яго за карак і адвёў. Агульны рогат.

Віцька. Ну, верны служка, давядзі нам, як пан твой жаніўся!

Аканом. А каб яго вяроўка ажаніла!.. Ад гэтае жаніцьбы ў мяне бакі баляць!.. Ці жартачкі! Узбіўся на гарбель вось гэтакі бугай!..

Віцька. А хто уланаў панскіх папярэдзіў?

Аканом. Гэта вы ўжо самі, браткі, вінны!.. Неасцярожна нехта стрэліў, як увайшлі,— завіруха і ўзнялася!..

Віцька. А ты дазорцу не шапнуў на вуха?

Аканом. Ды каб мяне пярун забіў, што не!.. Я рады быў вам!..

Усе рагочуць, аканом таксама смяецца, гледзячы на іх.

Віцька. А чаго ты рагочаш?

Аканом. Памагаю ў сіле, каб весялей было!..

II казак. Кучум! Дай яму паміж лапатак!

Татарын, выцягнуўшы нож, падыходзіць да аканома.

Віцька. Гэп!

Татарын спыніўся.

Аканом. Пане атаман! Ці я, ці ён павінны адысці ўбок! Баюся я твайго Кучума!

Віцька. Чаго баяцца?..

Аканом. Калі не па-шляхецку выглядае, а быццам чорт які!

Усе рагочуць.

II казак. Кучум, ты чуеш?.. Цябе ён зневажае!..

Татарын забурчэў, плюнуў і адышоў убок. Усе рагочуць.

Аканом. Пане атамане, дазвольце мне з вялікай просьбаю звярнуцца!

II казак. Нябось дахаты адпусціць?

Аканом. Якраз наадварот! Хачу я тут застацца ў лесе з вамі. *(Усе рагочуць.)* А пра маю адвагу пытацца шмат не трэба, атаман напэўна памятае!..

Віцька. Памятаю!

Аканом. Я ж адзін з грамадою парабкаў спраўляўся! *(Усе рагочуць.)* Застануся ў войску вашым, тады, як сокал той, наперад! Ну, тады трымайцеся, паны!

Віцька. А нябось пана свайго ўбачыш — на каленкі перад ім.

Аканом. Гэтаму не быць!

Віцька. А пан нябось рыхтуе зноў сваю старожу!..

Аканом. Не да таго цяпер, бо галаву расквасілі, ледзь дыша!..

Віцька. А цікава ведаць, як яго здароўе...

Аканом. Калі вам трэба ведаць, я скокну, разнюхаю і сюды назад!..

Усе рагочуць.

I казак. Жартуеш?

Аканом. Якія жарты!.. Праз два-тры дні адказ прымчу!..

II казак. Не брашы, ніхто табе не верыць!

Аканом. Воля ваша! Ну, як жа будзе, бацька атаман,— прымеце ў войска?!. Зрабіце ласку! Я буду бога век маліць за гэта!

Усе рагочуць.

Віцька. З гэтым пачакаю! *(Да татарына.)* Прывядзі сюды паноў палонных!

Татарын пайшоў.

Аканом. Дазвольце, бацька атаман, тут не быць, калі сюды іх прывядуць! *(З агідаю.)* Я з імі спатыкацца нават не жадаю!..

Віцька. Тут павінен быць!

Аканом. Ну, што ж, няхай паны даруюць, але мая сустрэча з імі будзе жорсткая... Ого!..

Татарын прывёў Трызну і Гарбарына, яны амаль раздзетыя, у лапцях.

Віцька. Развязаць!

Казак пачаў развязваць рукі Гарбарыну.

Аканом *(да Трызны)*. А я, паночку, вас!.. Можна, пане атамане?..

Віцька. Услужы па старой прыязні!..

Аканом *(калі пачаў развязваць вяроўкі, казакі не бачаць; яны гамоняць між сабою)*. Але ж завязалі! Каб ім было пуста!.. Аж пальчыкі ў пана пасінелі!.. *(Глянуў, што ніхто не бачыць, пацалаваў руку пану.)* Выбачце ім, пане!.. Людзі нешляхетныя, вядома, мужыкі!.. Ну, вось! *(Да Віцькі, які на яго глянуў)*. А вяровачку куды?

Віцька. Патрымай у руках!

Аканом. А, здагадаўся! *(Робіць жэст, што пана трэба будзе павесіць.)*

Віцька. Вяльможныя паны, на вольнай тут зямлі, перад тварам людзей вольных, папытаю вас, і вы павінны мне адказаць! *(Да Трызны.)* Колькі вам гадоў?

Трызна. Лічу я непатрэбным адказваць!

Аканом. Пане Трызна, што вы робіце, хіба не бачыце? *(Паказвае вяроўку.)*

Віцька. 65 — ёсць?

Аканом. З гакам!

Віцька. Жанаты?

Аканом. Пан Трызна нежанаты, ды нашто яму было жаніцца, калі сябры жанатыя!

I казак. Курыны жарабец!

II казак. Дзяркач пацёрты!

III казак. Нос — што прасніца!

Аканом. Фамілійны нос!

Віцька. Ногі ў магіле, а што намысліўся!.. Гвалт учыніць над бяспраўнымі дзяўчатамі!

Аканом. Пан Трызна нічога не чыніў!

Трызна *(у гневе)*. Годзе! Я не дазволю, каб мяне, патомка роду слаўнага, пыталі людзі дзікія!.. Я ведаю, хто вы, і не чакаю вашай ласкі!.. Сягоння — ваша свята, дзікая арда!.. Рабіце што хочаце са мною!..

Гарбарын. Разбойнікі!..

Падняўся агульны гоман.

I казак. Кінуць у Дняпро!

II казак. Спаліць на вогнішчы!

III казак. Кучуму даць у рукі!

Віцька. Чакайце, грамада! *(Усе сціхлі.)* Пастанова быць павінна ваша!

Усе. Павесіць!

Аканом *(услед)*. Пане Трызна! Не сумуйце: вам і на тым свеце будзе добра!.. Калі ласка, вяровачку! *(Кінуў вяроўку.)*

Віцька *(услед, да грамады)*. На пяць хвілін чакайце!

Аканом. Чуеце, што кажуць, пяць хвілін чакаць!.. Я ўжо здагадаўся!..

II казак. А калі такі здагадлівы, хадзі, сабачы сын, за мною! *(Цягне аканома.)* Я цябе павешу!

Аканом *(упіраючыся)*. Стой! Стой! Куды?.. Але ж чакай!.. Бацька атаман, што гэта за жарты?!

Віцька. Гэтага пакінуць!

II казак. Ды на ліха ён патрэбен! *(Кінуў)*.

Аканом. Ой, якія нешляхетныя людзі!.. Як жыву — не бачыў!..

Віцька. Увага!

Аканом *(падцягнуў штаны)*. Увага!

Віцька. Цябе, калі пакажаш нам сваю адвагу, ад шыбеніцы мы пазбавім!

Аканом. Кажы якую?

Віцька. А вось паслухай!

Аканом. А? Я троху здагадаўся!

Віцька. Ты павінен зараз жа павесіць Трызну і Гарбарына! Ну, што ты скажаш?

Аканом. А што казаць!.. Дайце мне дарогу — я ўсіх паноў звяду, як вавёрак!..

II казак. А потым я ўжо цябе павешу!

Аканом. Ого, які ты смелы! Плытка, брат, плаваеш, бруха відаць! *(Казак замахнуўся.)* Ты ў мяне глядзі, а то я калі дзьмухну!.. *(Казак смяецца.)* Вось тады пасмяешся!..

Віцька. І так, расправа за табою!.. Марш!..

Аканом *(на казака, прыказваючы)*. За мною! *(Казак, адыходзячы за аканомам, смяецца)*.

Прыйшла Агата.

Віцька. Агата, ты?!.

Агата. Толькі што з дарогі!

Віцька. Ну хваліся, аб чым даведалася?

Агата. Была амаль што ў Сурынты ў палацы!..

Віцька. Пралезла?

Агата. Пралезла. Сурынта хворы, што пакалечылі тады. Кругом палацаў панскіх гарматы на курганах стаяць, дазор уланаў павялічаны...

Віцька. А што яшчэ?

Агата. З прычыны панскай занядугі уланы над сабою рукі не чуюць!.. П'юць, гуляюць, і часта ля гармат жывой душы няма!..

Віцька. А што з Касяй?

Агата. Забраў і жыве, як з жонкай!

Віцька. Яна ж?..

Агата. І плача, і сумуе!.. Хоча ўцякаць, аднак шляхі спынены!

Віцька задумаўся.

Агата. Віця, не тужы!.. На ўсіх і сэрца будзе мала!..

Віцька. Не шкадуй мяне, Агата, не разумееш!

Агата. Віця, любы мой, я разумею!.. Горкую я навіну табе прынесла!..

Віцька. Лепшай я і не чакаў!

Агата. А скажы мне, Віця, ці рад бы ты быў, калі б я з сабою Касю прывяла?!.

Віцька. Вырваць яе стуль не так-та лёгка!..

Агата. Віця, скажы, ты любіш Касю?

Віцька. Агата, люблю я волю, вас усіх люблю!.. Для гэтага жыву... Не ўспамінай, Агата, радасць для мяне, што ты вярнулася! *(Хвалюецца, але гэта скрывае; сеў. Агата стаіць і пільна глядзіць на яго. Устаў, бо ўбачыў, што аканом ідзе.)* Агата! Схавайся на хвілінку! Аканом сюды ідзе!

Агата схавалася. Прыйшоў аканом. Выцірае хусткай рукі.

Віцька. Ну, што?

Аканом. Вісяць ужо зграбненька!

Віцька. Туды і дарога!..

Аканом. Аман!.. Цяпер давай мне, брат, казацкія прылады: я — твой! *(Гаворыць гэта з гонарам.)*

Віцька *(дае пістоль)*. Вось табе і зброя!..

Аканом уважна разглядае пісталет.

Віцька. Пазнаў?

Аканом. Як жа не прызнаць! Гэта ж пана нашага, Сурынты!

Віцька. Так, яго!

Аканом. Тады на ліха ён мне?

Віцька. Ты з гэтага пісталета павінен забіць пана Сурынту!

Аканом. Прамахнуся... не траплю!..

Віцька. І вось, калі ты мне паабяцаеш выканаць учынак гэты, тады я цябе выпушчу на волю!.. Але ж з умоваю, што вернешся сюды назад... Зразумеў?

Аканом. Абы мне бог памог! Як палажу яго на месцы, сюды тады назад!..

Віцька *(моцна)*. Гэй, хто там?

Аканом *(пасля паўзы, моцна)*. Гэй, хто там?

Прыбег II казак.

Аканом. Вы што там, сучкіны сыны, з варты саступілі?! *(Казак смяецца.)* Ой, пасмяюся я табе!..

Віцька. Завяжы яму вочы, выведзі на шлях і пусці на волю!

II казак. Назусім на волю?

Аканом. А як табе здаецца?

Віцька. На дарогу!..

II казак. Шкада!.. Дарэмна толькі трэці сук прыгатаваў.

Аканом. Для сябе пакінь!

II казак (*замахнуўся*). Ну, ты, каза рудая!..

Аканом (*адскочыў убок, навёў пістоль*). Но, но! Лягчэй!.. Лягчэй!..

Віцька. Ну, марш у дарогу! (*Казак завязвае аканому вочы сваім поясам.*) Здымі з яго боты, дай лапці! (*Да аканома.*) Скажы панам, што іх усіх чакаюць лапці!..

Аканом. А што ім лепшага?.. Скажу!..

Віцька. А праз тры дні сюды назад!

Аканом. Я і раней вярнуся! (*Віцька паклікаў да сябе казака, нешта яму шэпча, аканом, адыходзячы, ціха кажа.*) Даў мне ты на свой чэрап стрэльбу! (*Да казака.*) Ну вядзі ж!

Казак павёў, чуваць здалёк спеў. Віцька сеў, замысліўся, а пасля дае сігнал у рог.

Віцька (*моцна*). Гэй, грамада, каці віно сюды. Гуляць сягоння будзем, а заўтра ў дарогу зноў.

З песняй прыйшлі казакі, з імі музыкі, пачалі скакаць. Раней чатыры пары скачуць казацкі танец з шаблямі, а потым стары казак танцуе гапака.

Заслона

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Дэкарацыя II акта. У пакоях пана Сурынты. Уваходзіць нянька з запаленаю свечкаю і ставіць яе ля абраза.

Нянька (*стала на калені*). Божа міласцівы! Ты даравaў яму жыццё, вырваў з рук гайдамакаў, вярні ж яму сілы!.. Не дай памерці!..

Уваходзіць Кася, глянула на запаленыя свечкі і спалохалася.

Нянька. Чаго, дзеткі, спалохалася?..

Кася. Няня! Што — памёр?..

Нянька. Заснуў!.. Не палохайся, галубачка, палепшае!.. Няшчасце абмінула, іначай цяпер жыць пачнём!.. Міласць ён табе вялікую дараваў: чалавек ты цяпер вольны!..

Кася. Не радуе мяне ўсё гэта!

Нянька. Жывеш жа ты цяпер не з парабкамі. *(Сказала гэта, уздыхнуўшы.)*

Кася. А з ім! *(Прыкрая паўза.)* Так, нянечка, павінна я прызнацца!.. Я жыву з ім... *(Заплакала.)*

Нянька. Чаго ж ты плачаш, дзеткі! Няўжо ж ты сэрцам адчуваеш нейкую трывогу?

Кася. Так, нянечка, я адчуваю, што я на краю гібелі, што скончыцца ўсё няшчасцем! *(Плача.)*

Нянька. Не плач! Ты ж будзеш гаспадыняю над усім!.. Табе апіша ўсё!..

Кася *(здзіўлена)*. Мне?

Нянька. Табе! Ты яму напамінаеш нябожчыцу, падобна вельмі да яе! *(Туліць яе да сябе.)* І твар, і вочкі!.. *(Уздыхнула.)* Такая самая радзімка на шчацэ!.. Дзіцятка ты маё!.. *(Моцна прытуліла і заплакала.)* Дзіцятка роднае!.. Як моцна я цябе кахаю!..

Кася *(са страхам)*. Нянечка! Чаго ты плачаш? Мне ж страшна! *(Мацней.)* Скажы, у чым справа?..

Нянька *(стрымаўшы слёзы)*. Было гэта ў летні вечар... Праз могільнік мы ішлі... Спявалі салаўі, і раптам завыў воўк, стрэл... *(Са страхам.)* Ах!.. Пралілася кроў! *(Паўза.)* Не палохайся, галубка, гэта ўспамін далёкі — страшны ўспамін!..

Кася. Нянечка! Тут нейкая ёсць таямніца! А здагадацца не магу... Казалі, я падобна... Нянечка, я гэта чула... Казалі парабкі, на могільніку помнік, на ім партрэт... Няня, чаму мяне так цягне на магілу пані?..

Нянька *(скрываючы)*. Не ведаю, галубачка, не ведаю!..

Кася. Нянечка! Скажы, якая была пані! Ці ёсць дзе вопратка яе?

Нянька. Ёсць! 18 год я берагла... Хадзем, я пакажу табе!

Кася. Хадзем! *(Пайшла ў бакоўку, а няня засталася.)*

Нянька. На сваіх руках яе маленькую я калыхала, а цяпер глядзець павінна на страшную памылку і маўчаць! Бацька жыве з дачкою, ні яна, ні ён не ведаюць!

Пайшла ў бакоўку. Прыйшоў Аканом у падранай світцы; у лапцях, пры баку нейкая старая шабля.

Аканом. Пуста! А бацюхны, ледзь я дабраўся!.. Без малога два дні ішоў!.. Хоць бы мне хутчэй пабачыць

Касеньку, хачу даведацца, ці праўда, быццам бы яна жыве ў палацах з панам!.. Нешта нікога тут няма! *(Падышоў да дзвярэй і глянуў.)* А, вось дзе ён ляжыць!.. Спіць, як змяніўся, быццам смерць... О! Пракляты богам чалавек!.. Як ты мне агідны!.. Дзякуючы толькі мне жывеш, бо я уланаў папярэдзіў! І адбілі, а то б павесілі, як Трызну і Гарбарына!... Ужо і конікі былі гатовы, толькі, значыць, звязанага пана збіраліся ўзяць, як бах уланы!.. Ну і пайшла кадрыль!.. *(Глядзіць у дзверы.)* Устаў, ідзе сюды!.. Ну, аканом, трымайся!..

Увайшоў Сурынта, страшна схудалы, з павязанаю галавою.

Сурынта *(убачыўшы аканома)*. Ты? Скуль?

Аканом. Я, верны ваш слуга!..

Сурынта. Пусцілі?

Аканом. Пытаўся я ў іх!.. Уцёк!.. Дазвольце сесці, з дарогі баляць ногі!..

Сурынта. Сядай!.. Кажы!..

Аканом. Прывезлі гайдамакі нас у лес і кінулі ў яму. Паноў Гарбарына і Трызну на раніцу забралі, а мяне пакінулі. Ноч, неба ў зорках... Што рабіць?.. Дай, думаю, спрабую шчасця!.. Палезу! Напнуўся раз, другі і вылез!.. Паўзу на бруху, як вужака, у іхні стан. Нарэшце бачу — вартавы іх спіць, п'яны-п'яны, а ночка цёмная... Пры ім вось гэта шабля... Я спрытна выцягнуў... *(хацеў быў выцягнуць, рвануў раз, другі, заржавела)*, і вартавы як сноп упаў...

Сурынта. Забіў?..

Аканом. Адразу!.. Тады паўзу далей і бачу, Віцька п'яны, як пень, ляжыць...

Сурынта. Віцька?

Аканом. Але, ён!..

Сурынта. Ну, і што ж?

Аканом. Гэх, думаю сабе, папаўся!.. Толькі хацеў па горлу шахнуць, аж бачу, пры баку пістоль пана Сурынты, той самы, што заграбіў ён у вас...

Сурынта. Але! Пістоль мой ён узяў!..

Аканом. Гэх ты, паганец!.. Выцягнуў з-за пояса ў Віцькі я пістоль, і толькі хацеў гакнуць, аж бачу... Не палохайцеся толькі!.. Вісяць на дрэве, пакой ім вечны, пан Гарбарын і Трызна... .

Сурынта *(са страхам)*. Павесілі?

Аканом. Галавою ўніз!

Сурынта. Што далей?

А к а н о м. Укленчыў я перад панамі, за душы іх шапнуў малітву, узвёў я курок і бах у патыліцу...

С у р ы н т а. Каму?..

А к а н о м. Віцьку!..

С у р ы н т а. Забіў?..

А к а н о м. Як зайца-шарака, ані скрануўся!..

С у р ы н т а. І гэта праўда?

А к а н о м. Як жыву, не лгаў!.. Вось і довад! *(Дае пістоль.)* Ваш?

С у р ы н т а. Здасцца, мой!

А к а н о м. Не здаецца, а ваш! Панюхайце вы пулю — яшчэ і порахам смярдзіць! *(Паўза.)* Ну, што на гэта скажаце? *(Пістоль трымае ў руках.)*

С у р ы н т а. Я скажу, што нявіданы ў гісторыі герой!..

А к а н о м. Я вам даўно казаў, што я — не абы-хто!..

С у р ы н т а. А як жа банда іх?

А к а н о м. Якая банда... без правадыра!..

С у р ы н т а. Зразумела! Вялікую награду атрымаеш!

А к а н о м. З ахвотаю прыму!..

С у р ы н т а. Узнагарода будзе, а пакуль што заўтра бярыся за парабкаў!.. Я хворы, ты справу павядзеш!..

А к а н о м. Згода! А змен у нас няма ніякіх?.. Парабкі ўсе тыя самыя?..

С у р ы н т а. Апроч адной, ну, той... яе ты ведаеш... ну, парабчанкі Касі... Ёй дарована мною воля!.. Яна жыве вось тут *(паўза)*, са мною!.. Ты пасядзі хвілінку тут, а я загад аддам сакратару, каб напісаў паперы каралю... *(Пайшоў.)*

А к а н о м. Вось табе і на!.. Значыць, запрадалася!.. Дарэмна і спяшаўся!.. Але нічога, вяльможны пан Сурынта! Ты вырваў яе з маіх рук, я ж вырву з рук тваіх!..

Уваходзіць К а с я, апранутая ў вопраткі жонкі Сурынты.

А к а н о м *(здзіўлена)*. Свят, свят!.. Царыца неба!.. Гэта хто?..

К а с я. Гэта ж я! Хіба ж вы не пазналі?

А к а н о м. Каб сонца яснага не бачыў, як не пазнаў!.. Мне здалося — пані з таго свету!..

К а с я. Вы што, уцяклі ад іх?

А к а н о м. Як бачыце — уцёк!

К а с я. Даўно вас не было!..

А к а н о м. Праз Віцьку, калом яму зямля!

Кася. Як?

Аканом. А так, Віцька цяпер на тым свеце ракаў ловіць?

Кася. Што значыць?

Аканом. Забілі!.. Вось гэтай цацкай. (*Паказвае пістоль.*) Я забіў!

Кася. Які адважны сталі?!

Аканом. Толькі што ад іх!.. Зрабіў там сваю справу... Пакарміў я Віцьку гарохам алавяным і назад...

Кася. Ой, нешта тут не так!..

Аканом. Не верыце, хадзем да іх у стан!

Кася. Згода! Хадзем!..

Аканом. О, не! Туды з'явіцца зараз не выпадае!.. Там страшэнны перапуд, я шмат людзей перастраляў, зламаўся мой пістольчык!..

Кася. Ага, спалохаўся!..

Аканом. Я не палахлівы!

Кася. А вось зараз пабачым! (*Хітра.*) Вы да Сурынты?

Аканом. Праўду кажучы, на вас прыйшоў я глянуць!..

Кася. Адкуль жа вядома, што я тут?

Аканом. Я сэрцам чуў!

Кася. Якое чулае ў вас сэрца!

Аканом. Штоноч у сне вас бачыў!.. Толькі і чакаў тае шчаслівае хвіліны, як вас пабачу ў сне!..

Кася. Ды што вы?

Аканом. Так, так! Калі гляджу на вас — здаецца мне, гляджу на каласістае жыта, адкуль выглядаюць блакітныя васількі!.. То ж вашы вочкі!..

Кася. Ой, як вы складна мовіце!

Аканом. Гатоў я салавейкам заспяваць!

Кася. Ну, заспявайце!..

Аканом. Баюся, пан яшчэ пачуе!

Кася. Ды не пачуе!

Аканом. Голас у мяне, што ў салаўя!.. Як зацягну... але баюся пана...

Кася (*хітра*). Значыць, вам Сурынта страшны?

Аканом. Ну, вядома, бо пан!..

Кася (*хітра*). А Віцька!

Аканом. Мерцвякі не страшныя!

Кася (*стоячы ля акна, дзіка крыкнула*). Ах!

Аканом. Што з вамі?

К а с я. Віцька тут!

Аканом са страху паваліўся.

К а с я (*тупаючы нагамі, крычыць*). Сюды зноў ідзе... З калом вялікім...

Аканом, паўзучы, уцякае і крычыць: «Уланы! Уланы!»

К а с я (*смеючыся*). Ну і адважны... Налгаў, налгаў і мысліў, што паверу. (*Пайшла ўслед за ім.*)

Увайшла н я н ь к а.

Н я н ь к а. Як кропля вады — маці!.. Што будзе, калі ён яе спаткае — бяда!..

Убягае парабак П р а к о п.

П р а к о п (*устрывожана*). Нянечка! Толькі я ўзышоў на ганак, аж бачу...

Н я н ь к а. Каго?

П р а к о п. Паню... з таго свету!..

Увайшла К а с я.

П р а к о п (*глядзіць на Касю, хрысціцца*). Вось... пані... былая наша! (*Выбег.*)

К а с я (*са страхам*). Нянечка! Што гэта значыць? Хто ж я? (*Прытулілася са страхам да яе.*)

Увайшоў С у р ы н т а.

С у р ы н т а (*з жахам моцна крыкнуў*). Рузя!

К а с я (*дзіка крыкнуўшы*). Мама! (*Паваліласся.*)

С у р ы н т а (*стоячы пры крэсле*). Нянька, хто ж яна? (*Захістаўся і сеў.*)

З а с л о н а

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Тая ж самая дэкарацыя. Ноч. На сцэне цёмна, адна свечка гарыць перад абразом. Чуваць, як спявае хор царкоўную песню, граюць арганы. Гадзіннік б'е 12. З-пад стала вылазіць а к а н о м.

Н я н ь к а. Дачка пана!

А к а н о м (*крадучыся, выйшаў на сярэдзіну пакоя,*

*азірнуўся).* Моляцца!.. Сурынта дажывае свае дні!.. У бога ласку вымаліць ён хоча!.. Н-не, мой даражэнькі!.. Усё рушыцца, усё ляціць у бяздонне!.. Каторую ўжо ноч не сплю, чакаю яго смерці!.. *(Становіцца на калені перад абразом.)* Божа літасцівы, будзь ласкаў, памажы мне ў гэты цяжкі момант!.. Рукамі ўласнымі капліцу я збудую ў імя спаса!.. *(Прыслухоўваецца.)* Нехта ідзе. Яна, няй-начай!.. *(Кідаецца ў роспачы, шукае выхада.)* Цяпер мая ты будзеш!.. *(Зноў пад стол схаваўся.)*

Увайшла Кася, апранутая ў сваю ранейшую вопратку.

Кася. І дзень, і хвіліну праклінаю!.. Праклінаю цябе ў тваім палацы, як вырадка людскога!.. Няхай прабе ў тваім палацы, як вырадка людскога!.. Няхай пра-клён пачуе зямля сырая!.. Хай паглыне яго і палац пра-клятыі О доля, доля!.. Куды ж ты завяла мяне!.. Дзе цяпер мая дарога! *(Упала на калені ля крэсла і ціха плача.)*

Увайшла нянька.

Нянька *(на абраз).* Божа справядлівы!.. За што твая напасць?!. Божа, божа!..

Кася *(моцна крыкнуўшы).* Няпраўда!.. Няма бога!.. Я перад усім светам скажу, што яго няма!..

Нянька *(спалохаўшыся).* Кася! Што ты кажаш?!

Кася. Ну, нянечка, якую ж назву заслужыла я цяпер?.. Дзе ж быў бог! Я з родным бацькам жыла, як яго жонка!.. Дзе ж божая рука была?!. На месцы сваёй маткі!..

Нянька. Ты ахвяра перад богам!.. Касенька, усё даравана табе!.. Бог літасцівы!..

Кася. Лепш памажы мне ўцячы!

Нянька. Дзеткі, нікуды не ўцячэш!..

Кася. Тады я рукі налажу!..

Арганы і спевы спыніліся.

Нянька. Дзеткі, пашануй хоць маю старасць, застанься з намі!..

Кася. Не, толькі ўцякаць магу я!..

Нянька. А як жа будзе з бацькам?

Кася. Мне ўсё роўна!..

Нянька. Ён зусім хворы!.. Хто ж зашануе і матчыну магілу?..

Кася. Не магу!.. Праклятаю перад усім светам стану!.. Не, толькі ўцякаць!

Н я н ь к а. Як рассудзіць такую справу!..

К а с я. Скажы мне, нянечка, магла б ты для мяне?..

Н я н ь к а. Што, дзеткі?

К а с я. Я хачу паклон апошні аддаць матчынай магіле!.. Пойдзем разам!..

Н я н ь к а. Зараз?.. Ноччу?..

К а с я. Не страшна! Прыйду я, прытулюся да сырой магілы... Няхай пачуе слёзы свайго дзіцяці!.. Я ж у гэтым, ведаеш, не вінавата!..

Н я н ь к а. Касенька, не трэба зараз!..

К а с я. Тады адна! *(Пайшла.)*

Н я н ь к а. Касенька, не трэба зараз!.. Куды ж ты ў гэтакую цем! *(Пайшла за ёю.)*

Увайшоў С у р ы н т а зусім хворы.

С у р ы н т а. Бясконцая якая ноч!.. Страхі... прывіды... спаць не даюць мне, сіл няма змагацца... *(Сеў на крэсла, апусціўшы галаву, пасля вялікай паўзы.)* Хто? Тут... хто?.. *(Углядаецца ў цёмны куток.)* Не пазнаю!.. Хто? Парабак?.. Што, засеклі?.. Хто засек?.. Я?.. Не памятаю!.. Я ж казаў... не памятаю!.. Дай мне спакой — за тваю душу духоўнік моліцца штодня!.. О, не магу!.. *(Сеў, апусціўшы галаву.)*

Ціха ўвайшла н я н ь к а.

С у р ы н т а. Маліцца не магу!..

Н я н ь к а. Чаго ж было ўставаць вам, пане!..

С у р ы н т а *(са страхам, доўга ўглядаючыся)*. Няня! Ты? *(Нянька адказвае.)* Пабудзь тут, нянечка, са мною: страшна... Сіл няма змагацца... прывіды выгналі мяне адтуль, прыйшоў сюды, яны і тут!.. Вунь глянь!.. Ён... гэты парабак!..

Н я н ь к а. Нічога і нікога тут, панок, няма!..

С у р ы н т а. Я ж толькі што іх голас чуў!..

Н я н ь к а. Каго?..

С у р ы н т а. Той парабак, якога... нібы я... забіў!.. Ох, памяць, памяць... іх было шмат... Хто можа помніць усіх і ведаць?!.

Н я н ь к а. Ляглі б, паночку!..

С у р ы н т а. Не!.. Не магу!.. Чакаю аканома...

Н я н ь к а. Ён дзесьці прапаў!.. Тры дні яго няма...

С у р ы н т а. Ён прыйдзе!.. Што абяцаў, тое прынясе!.. *(Дзесь далёка певень запяяў. Сурынта ўстрывожана, шэптам.)* Няня! Чуеш?..

Нянька. Чаго палохацца?! Гэта ж на сяле пяюць певні!..

Сурынта. Няпраўда! Гэта — страхі, прывіды!.. Яны штоноч пяюць!.. Са страху сэрца біцца перастала!.. Няня!.. Ідзі скажы духоўніку, каб ён маліўся за мяне!.. Няхай і хор спявае ціха, ціха... Можа, я пад спеў засну, быць можа, я не буду чуць...

Нянька. Духоўнік ужо з сіл выбіўся і спевакі паснулі! Хай адпачнуць; каторую ўжо ноч яны не спяць!..

Сурынта. Няня! Прашу цябе — ты разбудзі духоўніка; няхай ён моліцца!.. *(Глянуў у кут.)* Во! Ён зноў стаіць тут!.. *(Моцна.)* Няня! Я цябе малю... *(Яшчэ мацней.)* На ногі ўсіх маіх падданых, уланаў, верных слуг!.. Я ж не магу, мне страшна!.. Няня! Выгані яго адсюль. *(Мацней.)* Ну, выгані, прашу цябе, дзверы яму ты адчыні!.. *(Нянька адчыніла дзверы.)* Ну, вось ён выйшаў... Цяперака спакойна я засну!.. Дык разбудзі ж духоўніка!

Сеў, апёрся аб стол, вялікая паўза. Нянька пастаяла, заламала рукі і выйшла. Увайшла Кася, доўга глядзіць на Сурынту.

Сурынта *(устаў, падышоў да яе)*. Не праклінай мяне, дачушка!..

Кася. Прэч ад мяне!..

Сурынта. Пакідаеш?

Кася. Пакідаю, праклінаю!..

Сурынта. Кругом мяне страшэннае бяздонне!.. Астатні дажываю дзень!.. Застанься!..

Кася. Ні адной хвіліны!..

Сурынта. Тут будзеш гаспадарыць над усім!.. Табе ўсё я апішу!..

Кася. Мне нічога не патрэбна!.. Няхай люд бедны скарыстае, убогай я прыйшла і гэткаю адыду!

Сурынта. О, злітуйся над сваім бацькам!..

Кася. Усё кончана між намі! *(Пайшла ў другія дзверы.)*

Сурынта. Адзін, як пень той у полі!.. Ні сіл, ні блізкае душы!.. Блукаў у жыцці і не агледзеўся, як на краю пагібелі! Ну, які ж выхад?! Слуга загінуў верны мой!.. Тры дні як ужо яго няма!.. Ён абяцаў мне прынесці атруты! *(Сеў на лаву; у гэты час ціха вылез з-пад стала аканом і стаў ззаду, пан спалохаўся.)* Хто тут?!. Хто?.. *(Са страху абамлеў.)*

Аканом *(узяў ліхтар, запаліў у ім свечку, пады-*

*шоў, з агідаю глядзіць, а потым плюнуў яму ў твар).* Вялікі пане, перад вамі ваш слуга пакорны, аканом, ачніцеся!..

Сурынта *(ачнуўшыся).* Ты вярнуўся?.. *(Устаў, аканом яго падтрымлівае; Сурынта абняў яго за шыю і квапна глядзіць у твар.)* Ну, прынёс?

Аканом павольна паказвае бутэлечку, нічога не кажучы.

Сурынта *(паволі ўзяў бутэльку).* Сягоння мы з табою пойдзем на паляванне!.. Будзем ганяць лісаў... Але, што я кажу, нашто ганяць іх... *(Запнуўся.)*

Аканом *(хціўна).* Атруцім!..

У Сурынты задрыжалі страшна рукі.

Аканом. Моцная, як той агонь!.. Ледзь адна капля — і смерць на месцы! *(Апошнія словы кажа расцяжна.)*

Сурынта *(гледзячы ўдаль, паўтарае апошнія словы).* І смерць на месцы! *(Перамогшы сябе.)* Ну, аканом, будзь жа гатоў!..

Аканом. Я гатоў! Чакаю толькі вашага загаду!..

Сурынта *(паказаў рукою на дзверы).* Выйдзі! *(Сам адвярнуўся. Аканом, быццам адыходзячы да дзвярэй, зноў спрытна схаваўся за стол.)* Іншага выхаду няма! *(Нешта думае і каля сябе шукае.)* Чаго шукаю я?.. Ох, памяць, памяць, і ты мяне пакінула!.. *(Убачыў на стале паперу.)* Але, павінен напісаць я тастамант! *(Сеў, пачаў пісаць, дрыжаць рукі.)* О, што са мною?!. Дрыжаць рукі... я сам не напішу!.. *(Закрыў твар рукамі і думае, у гэты час вылез з-пад стала аканом, падышоў да дзвярэй і скрыпнуў імі. Сурынта спалохаўся.)* Хто тут?

Аканом. Я!

Сурынта. Якраз ты мне патрэбен!.. Сядай... Пішы, што я скажу!

Аканом сеў.

Сурынта. Я, Сурынта Зыгмунд, уладар зямлі ад межаў Рыжамполю да межаў Лесаводы, уладар будовы, і статкаў, і здабыткаў, гэтым тастамантам упаважняю па маёй смерці *(моцна задрыжаў)*... так, па маёй смерці... быць поўнай гаспадыняю *(аканом хітра спыніўся)* над усім рухомым і нерухомым маім дабром падданую — Касю, Кацярыну. Ніхто не можа перашкаджаць ёй гаспадарыць так, як яна захоча, і ад сёння вольная яна. Месяца красавіка, дня не памятаю.

А к а н о м. Красавіка, 10-га дня 1675 года.

С у р ы н т а *(устаў, падпісаў паперу)*. А цяпер я прынясу пячатку! *(Выйшаў у бакоўку.)*

А к а н о м *(азірнуўшыся)*. Што ўжо будзе, то будзе! Альбо пан, альбо прапаў. Такога моманту не ўлаўлю ніколі! Альбо загіну, як сабака, альбо век буду багаты! *(Чытае.)* Гэтым упаважняю свайго аканома такога-та быць поўным гаспадаром над усім. Подпіс, а пячатка зараз будзе!..

Увайшоў С у р ы н т а.

С у р ы н т а *(паставіў пячатку, аканом злажыў тастамант, пакінуў на стале)*. А цяпер выйдзі і будзь гатоў... сягоння ўночы! *(Адвярнуўся, аканом зноў схаваўся.)*

С у р ы н т а. Усё мінула, як той сон!.. Багацце, сіла і ўладарства!.. Свяціла калісь сонца мне, ззялі зоркі, да ног падданы мне мужык хіліўся... А цяпер ужо нада мною груган кружыць, весціць смерць!.. Тастамант тут, а разам *(дастае з-за пазухі мяшочак з грашыма)* і мае дукаты!.. Жыві і карыстай, а мне ва ўзнагароду за блуднае жыццё — кропля атруты! *(Наліў у шклянку атруты, паднёс да вуснаў, трасуцца рукі.)* Што, страшна, н-не, усё загінула, адна хіба адвага засталася са мною. *(Выпіў.)* Ах!.. Сэрца!.. *(Апусціўся на падлогу.)* Млеюць рукі, гарыць у грудзях... Што я зрабіў, я ж не паклікаў, не аддаў! *(Пайзе да стала, бярэ грошы і тастамант, стогнучы крычыць.)* Кася, Кася, выйдзі!.. Апошні раз я гляну на цябе!..

Аканом, як вужака, вылез і, крадучыся, падыходзіць да яго.

С у р ы н т а *(трымаючы ў руцэ, ледзь кажа)*. Аддай вось гэта ёй!..

А к а н о м *(вырваўшы ў Сурынты з рук)*. Не ёй, а мне! *(Наступіўшы нагою на пана.)* А, подлы ты, сабака! Жыў, як быдлё, і паміраеш, як быдлё!.. Адна кропля атруты — вось нагарода за твае ўчынкі!.. Здох?! Цяпер я на тваіх касцях збудую сабе шчасце! *(Трымаючы ў руках, падыходзіць да абраза, як бы хвалячыся.)* Усё маё!.. І грошы!.. І зямля!.. І Касенька — мая!

У гэты момант, крадучыся, увайшоў В і ц ь к а, пачуў усё, злажыўся з пісталета і стрэліў.

В і ц ь к а. І куля твая! *(Аканом як сноп валіцца.)* Сабаку — сабачая і смерць!..

Убегла К а с я.

К а с я *(не гледзячы на падлогу, са страхам)*. Віця! Ты страляў?

В і ц ь к а. Я!

К а с я *(убачыўшы трупы)*. Ты абодвух забіў?

В і ц ь к а. Я аднаго! *(На аканома.)* Вось гэтага!.. Пан Сурынта атруціўся!..

К а с я *(з жахам)*. Віця! Што цяпер будзе? Што? *(Глядзіць на труп бацькі.)*

В і ц ь к а. Шырокая дарога перад намі — увесь белы свет!..

К а с я. А дзе ж яна, мая дарога?

В і ц ь к а. Са мною, любая! З усімі намі, хто змагаецца з няпраўдай чорнай. Туды, дзе ёсць прастор і воля! Дзе няма прыгнёту!..

Пачынае гарэць палац. Уваходзіць з каганцом А г а т а, трымае паходню ў руках.

В і ц ь к а. Палі ўсё, Агата!.. Няхай агонь яскравы на попел нішчыць месца людское нядолі!.. Ну, Касенька, у дарогу!..

А г а т а. За слёзы, за знявагу, за кроў нявольнікаў — агнём адказ наш!..

В і ц ь к а ўзяў на рукі К а с ю і панёс. Палац гарыць.

З а с л о н а

# ПЛЫТАГОНЫ

*Драма ў пяці дзеях,*
*з мінулага плытніцкага жыцця*

## АСОБЫ

Андрэй, г. 23.
Воўк — стары рэвалюцыянер, быўшы на ссылцы, г. 47
Адзінота, г. 40

| | | |
|---|---|---|
| Пацук — стары салдат | плытнікі | г. 50 |
| Кучма | | г. 35 |
| Жаўрук — стараста | | г. 50 |
| Гапцуль — быўшы дзячок | | г. 48 |

Янкель — стары карчмар, г. 60
Рэвека — яго дачка, г. 18
Самуіл — жаніх, г. 19
Тамаш — заможны селянін, г. 50
Праксэда — яго жонка, г. 40
Кася — іх дачка, г. 18
Даміцэля — сялянка, г. 28
Базыль — заможны селянін, г. 50
Васіль — яго сын, г. 18
Хлапцы, дзяўчаты, музыкі, маладыя плытагоны.

### ТЫПЫ І ХАРАКТАРЫСТЫКА

Андрэй — малады прыгожы хлопец.
Воўк — хмуры, ніколі не смяецца, разумны чалавек.
Адзінота — чалавек, які не прызнае сям'і, жартаўлівы тып, камічны грым.
Пацук — стары салдат, рыжы, нежанаты, многа гаворыць глупства.
Жаўрук — стараста, разумна разважае, любіць сям'ю.
Гапцуль — рыжы дзячок, якога прагналі за кражу, прыбіўся да плытнікаў, як беспрытульны: ходзіць у старым парыжэўшым падрасніку і ў лапцях, на галаве старая шапка паліцэйскага (без значка).
Кучма — калматы чалавек.
Янкель — тыповы яўрэй, добры чалавек.
Рэвека — прыгожая дзяўчына, брунетка з доўгімі косамі.

Самуіл — местачковы хлапец, брунет, з пэйсікамі, ходзіць у доўгім аксамітавым паліто.
Тамаш — брухаты, з вялікай сівой барадой.
Праксэда — звычайная сялянка.
Кася — прыгожая дзяўчына, брунетка з доўгімі косамі, вельмі падобна да Рэвекі.
Базыль — рыжы, прыземісты селянін, камічны грым.
Васіль — хлапец з дурынкай.

## АКТ І

Ля хаты Янкеля. На прызбе сядзіць плытнік Жаўрук, курыць. Янкель палошча бутэльку. Плот. На плоце вісяць нейкія ўборы, за плотам салома.

Жаўрук *(гледзячы навокал)*. Э-хе-хе — душа радуецца, гледзячы на гэты вясновы дзянёчак.

Янкель. Прайшоў дождж, і ўсё ажыло.

Жаўрук. Цвіце чаромуха — вясна. *(Паўза.)* А ты памятаеш, Янкель, у мінулым годзе гэтаксама мы з табой сядзелі тут і балакалі, і таксама была вясна.

Янкель. Чаму не памятаю,— памятаю.

Жаўрук. У цябе тады няшчасце было.

Янкель *(заплакаў)*. Год ужо прайшоў, як я ў гэтай старонцы пахаваў сваю жонку. Эх, доля, доля, асірацiла яна нас.

Жаўрук. Нічога не зробіш, лёс яе гэтакі, рана пакінула свет. Не плач, мой дарагі, шануй сваё здароўе для дачкі.

Янкель. Толькі для яе і жыву, Рэвека для мяне адна ўцеха.

Жаўрук. І прыгожая яна ў цябе.

Янкель. Па матцы пайшла.

Жаўрук. Сэрца мае добрае, нашто мы, плытагоны, чужыя людзі, а любім яе як сваю родную, імя і тое перакруцілі: ты клічаш яе Рэвекай, а мы Прысяй, яна нас часам і накорміць, і грошы за гэта не бярэ.

Янкель. Ведаю, усё ведаю, абы на здароўе, люблю

я вас усіх. Вось пахвалюся і табе, шчаслівую вестачку атрымаў. *(Дастае ліст.)*

Ж а ў р у к. А я ўжо чуў. Плытнікі казалі, ты, мусіць, хваліўся ім.

Я н к е л ь. А то як жа, хваліўся. Я з радасці ўсім хвалюся.

Ж а ў р у к. Ну, чытай, чытай, паслухаю і я.

Я н к е л ь. Піша мой дарагі Самуіл, што прыедзе заручыны згуляць, з Рэвекай, значыцца. Паслухай, паслухай, што ён піша: «Не ем, не сплю і не магу дачакацца той хвіліны, калі пабачу дарагую Рэвеку і цябе, Янкель». Мяне, значыцца. «Стралой буду імчацца». *(З жартам.)* Стралой, во што значыць моладасць. «Еду, каб згуляць заручыны. Сын Файбуса — Самуіл. Буду ў сераду пад вечар».

Ж а ў р у к. Сягоння, значыцца?

Я н к е л ь. Як сягоння?

Ж а ў р у к. Сягоння ж серада.

Я н к е л ь. Няўжо серада?

Ж а ў р у к. Учора быў аўторак.

Я н к е л ь *(заклапочана)*. Ай, ай, а я не ведаў, мне ж трэба падрыхтавацца, у хаце рэвах, на дварэ смецце. Рэвека, Рэвека!

Ж а ў р у к. Ну, а я пайду ды аб тваім шчасці плытагонам скажу.

Я н к е л ь. Трэба, трэба. Прыедзе жаніх, я і вас, браточкі, запрашу на заручыны.

Ж а ў р у к. А то як жа — прыйдзем. *(Адыходзіць.)* А вось Андрэй сюды ідзе, яму першаму і пахвалюся. *(Затрымаўся.)*

Я н к е л ь. Андрэй? Ай, яму нічога не кажы.

Ж а ў р у к. Чаму?

Я н к е л ь. Бачыш, ён... *(Паўза.)* Але ўсё роўна, кажы.

Ж а ў р у к *(голасна)*. Андрэй, Андрэй, пачакай, навіну скажу. Ты ведаеш, браце — і г. д. *(Скрыўся.)*

Я н к е л ь *(адзін)*. Прыедзе Самуіл, забярэ дачку *(задумаўся)*, а я што ж, пры кім старасць дажыву, адзін застануся. Эх, доля, доля. *(Сеў і заплакаў.)*

Выйшла Р э в е к а з хаты з клумачкам.

Р э в е к а. Тату, пабудзьце у хаце, а я на бераг пайду, плытагонам хлеб занясу.

Я н к е л ь *(хаваючы слёзы)*. Добра, дачушка, ідзі.

Рэвека. Ды што вы, тату, плакалі? *(Села пры ім.)*

Янкель. А так, дачушка, заплакаў, матуленьку ўспомніў.

Рэвека. Не плачце, татаньку.

Янкель. Лепш бы я памёр, якое маё жыццё?

Рэвека. Чаму якое? Тату я шаную, кахаю, ну чаго яшчэ?

Янкель. Сына ў мяне няма, а ты птушка пералётная, сягоння пры мне, а заўтра пойдзеш замуж, жыві, Янкель, адзін.

Рэвека. Э... калі я пайду замуж?

Янкель. Зязюля кукавала, што хутка пойдзеш.

Рэвека. Зязюля няпраўду кукавала.

Янкель. А я маю пэўныя весткі, што праўда, хочаш, парадую?

Рэвека. Чым?

Янкель. Ану, здагадайся.

Рэвека. Не ведаю.

Янкель. Самуіл піша, што сягоння прыедзе, заручыны, значыць.

Рэвека *(здзіўлена)*. Самуіл прыедзе і сягоння заручыны?

Янкель. Ну, не хочаш сягоння, адложым на заўтра.

Рэвека. Тату, я не згодна. *(Устала.)*

Янкель. Чаму не згодна? Хлапец даўно чакае цябе.

Рэвека. Тату, я вас прашу, не давайце згоды на мой шлюб.

Янкель. Што значыць, чаму? Хлапец заможных бацькоў, два дамы ў мястэчку, будзеш шчасліва жыць.

Рэвека. Я не пайду за багатага.

Янкель. Чаму такая змена? Пісаў ён табе, пісала і ты яму.

Рэвека. Калісь я іначай мысліла, а цяпер іначай.

Янкель. Так не можна, дзеткі, трэба паварушыць справу. Сохне ён, сохнеш ты.

Рэвека. Тату так здаецца.

Янкель. Цябе выдам замуж, а сам пакіну гэты жабрацкі гандаль, патэнту я не маю, таргую гарэлкай спадцішка, якое гэта жыццё, а так пойдзеш жыць у мястэчка, а за табой пазадку пайду і я. Можа, старому Янкелю будзе куточак на старасці.

Рэвека. Я не пайду за Самуіла.

Янкель. Чаму, дзеткі, чаму?

Р э в е к а. Бо я кахаю *(паўза)* другога. *(Пайшла ў другі бок.)*

Я н к е л ь. Другога? Каго ж гэта, каго? Тут жа і хлапцоў, апрача плытагонаў, няма. *(Думае.)* І здагадацца не магу, кахае другога. *(Паўза.)* Э, яна, пэўна, жартуе. *(Глядзіць на неба.)* Сягоння прыедзе Самуіл, хоць бы дожджыка не было.

Падышоў плытнік П а ц у к.

П а ц у к. Янкель!

Я н к е л ь. А! Каго бачу? Здароў, брат.

П а ц у к. Каго ж гэта, Янкель, на небе выглядаеш?

Я н к е л ь. Хачу ведаць, ці пагода будзе.

П а ц у к. Я скажу. Як мае вусы?

Я н к е л ь. Як вусы? *(Прыгляд)*. Абодва ўгару.

П а ц у к. Спадзявайся на пагоду.

Я н к е л ь. Ой, каб ты здароў быў, любіш жартаваць.

П а ц у к. Гэта мая слабасць. Янкель, навіну пачулі, вяселле будзе у цябе?

Я н к е л ь. А так, нешта ў паветры чуваць.

П а ц у к. Радуюся, браток, радуюся.

Я н к е л ь. А я з радасці гатоў скакаць.

П а ц у к. Ну, Янкель, пакуль у цябе вяселле, мы сваё справім, спатыкай гасцей.

Я н к е л ь. Ты не адзін?

П а ц у к *(паказваючы ўдаль)*. Глянь!

Я н к е л ь. Прашу, прашу, чым хата багата.

Падыходзяць н е к а л ь к і п л ы т н і к а ў, ззаду за імі Г а п ц у л ь і Ж а ў р у к.

У с е. Здароў, Янкель!

Я н к е л ь. Добры дзень, мае дарагія.

К у ч м а *(да Пацука)*. Аб чым ты, Пацук?

П а ц у к. Дачушка слаўная ў Янкеля, аб ёй размову вёў.

К у ч м а. А, так, прыгожая яна.

Г а п ц у л ь. Звычайная дзяўчына, патомак Юды.

Усе гэтым нездаволены, асабліва Пацук.

Ж а ў р у к. А што дрэннага, калі і Юды. Не слухай, Янкель, гэтага прахвоста, любім мы цябе.

Я н к е л ь. Дзякую, браток.

К у ч м а *(да Гапцуля)*. Розніцу нейкую робіш паміж Янкелем і сабой, дурны ты чалавек, ды розніца толькі ў

тым, што ён *(на Янкеля)* чалавек сумленны, а ты *(на Гапцуля)* жулік.

Усе. Во!

Пацук. Царкву абакраў, і выгналі.

Янкель. Ой, нашто так голасна, каб усе чулі.

Гапцуль. Язык як у сабакі брэша.

Пацук. А нашто ты абражаеш Янкеля?

Янкель. Ды я не абразлівы, жартуе чалавек, няхай.

Жаўрук. Янкель наш брат, не можна крыўдзіць яго.

Янкель. Праўду кажаш, брат. Зжыўся я з вамі.

Пацук. Янкель, вядзі нас у хату, пакуль тваё вяселле, мы сваё справім.

Янкель *(адчыніў дзверы)*. Калі ласка, прашу.

Пацук *(да усіх)*. Во, бачылі, душа нараспашку, ну хадзем, браткі. *(Усіх прапускае.)*

Жаўрук *(на Пацука)*. Вы ж доўга не сядзіце, хутчэй прыходзьце.

Пацук. А ты з намі чарку?

Жаўрук. Не хачу.

Пацук пайшоў у хату, а Жаўрук у другі бок. Янкель правёў Жаўрука, мімічна з ім гаварыў, ідзе назад.

Гапцуль *(які ў хату не пайшоў)*. Янкель, а Янкель!

Янкель супыніўся.

Гапцуль. На хвілiначку. *(Падышоў да яго.)* Прыкрую табе навіну скажу.

Янкель. Прыкрую?

Гапцуль. Як не шкада цябе, а мушу.

Янкель. Але ў чым рэч, не шкадуй, а кажы.

Гапцуль. Брудная справа.

Янкель. Што значыць — брудная?

Гапцуль. Дачка твая з нашым здружылася.

Янкель. Мая дачка ды з вашым? З кім, хто такі?

Гапцуль. З Андрэем, плытагонам.

Янкель *(са смехам)*. З Андрэем, ну гэта няпраўда, на ліха ёй плытагон, калі яна засватана з панам, два дамы ў мястэчку, вялікі гандаль. Не паверу.

Гапцуль. Як сабе хочаш, мая справа папярэдзіць цябе.

Я н к е л ь. Кожнай птушцы свой куст, ёй будзе наш, а яму будзе ваша.

Г а п ц у л ь. Ну, глядзі, стары, каб пасля не плакаў, ты гонішся на багацце, а дачка твая — на прыгажосць, ты ж добра прыгледзься да Андрэя, хлапец надзіва рослы, твар белы, валасы чорныя.

Я н к е л ь. А я ёй падрыхтую хлапца аміхае, таксама будзе твар белы. А валасы, што валасы? Глупства!

Г а п ц у л ь. Жартуй, жартуй, стары, глядзі, каб пасля не плакаў.

Я н к е л ь. Няхай мае ворагі плачуць, а я скакаць буду. Плытагон... Што гэта, свет клінам сышоўся. Для плытагона гадуецца нейкая Ганна, Праксэда, а для майго дзіцяці Шуле, Муле.

Г а п ц у л ь. Ну, глядзі, каб твой Муле не змуліўся, плытагон, што чараўнік, дзеўкі дух раняюць за ім.

Я н к е л ь *(з гонарам)*. А мая Рэвека не такая. *(Спахваціўся і сам да сябе.)* Ой, не, не, яна толькі што казала...

Г а п ц у л ь *(хітра)*. А што, што?

Я н к е л ь *(весела)*. Эт, гэта я дарэмна спалохаўся, хадзі, хадзі. *(Адводзячы яго ўбок.)* Скажу табе пад сакрэтам. *(Паўза.)* У мяне сягоння заручыны.

Г а п ц у л ь. Заручыны? Ты жэнішся?

Я н к е л ь. Што ты глупства кажаш? Якая баба пойдзе за мяне? Труп, порах сыплецца. Заручыны дачкі маёй, Рэвекі. Жаніх прыедзе, Самуіл, зайграе музыка, а я на старасці паскачу.

Г а п ц у л ь. Ну, што ж, скачы на здароўе.

Я н к е л ь. Два дамы ў мястэчку, вялікі гандаль.

Пацук праз дзверы.

П а ц у к. Янкель! Калі ж прыйдзеш, чакаем цябе.

Я н к е л ь. Выбачай, браток, загаварыўся.

Пайшоў у хату, а П а ц у к выйшаў з хаты.

П а ц у к *(да Гапцуля)*. А ты, слуга божы, хадзі да нас. *(Гапцуль паткнуўся ісці.)* Ты нам лазара папяеш? *(Гапцуль павярнуў назад.)* Не хочаш? А мы табе чарачку.

Г а п ц у л ь *(радасна)*. Чарачку?

П а ц у к. Згодзен?

Г а п ц у л ь скачучы пабег у хату, а П а ц у к за ім. Падыходзяць А н д р э й і Р э в е к а.

Р э в е к а (*стрымліваючы Андрэя, які хоча ісці да плытнікаў у хату*). Андрэй, мілы мой, не йдзі да іх, я не хачу, каб ты піў гарэлку.

А н д р э й. Пусці, Прыся, вып'ю, лягчэй будзе.

Р э в е к а. І што з табой, Андрэй? Адразу ты спахмурнеў.

А н д р э й. Не пытайся, Прыся. (*Селі.*)

Р э в е к а. Скажы, браток, быць можа, мае слова парадай табе будзе.

А н д р э й. Затужыў я, Прыся.

Р э в е к а. Андрэй, па кім ты затужыў?

А н д р э й. У даль мяне цягне, не можна мне быць тут.

Р э в е к а. Сэрцам я прычуваю, што ты чужы для нас, думкі твае дзесь далёка... Эх, Андрэй, нашто я пакахала цябе?

А н д р э й. Прыся, не вінаваць мяне.

Р э в е к а. Я нікога, апрача цябе, не кахала, другога шчасця я не жадала, каб ты застаўся тут. Андрэй, застанься тут.

А н д р э й. Не магу, Прыся. Брадзяга адчувае асалоду ў валачашчым жыцці, а я ж брадзяга, буду валачыцца па свеце, але буду спакойны, што нікому злога не зрабіў, не разбіў чужога шчасця.

Р э в е к а. Андрэй, няўжо ўсё няпраўда, што ты казаў?

А н д р э й. Прыся, ты мне не верыш. (*З болем.*) Эх, Прыся, цяжка табе паказаць сэрца, каб ведаць, што там робіцца. (*На грудзі.*) Вось тут нейчы голас грозна кажа: «Ідзі, не разбівай чужога шчасця», і я павінен саступіць. (*Адышоў убок.*)

Р э в е к а. Андрэй, ты пакінуць мяне хочаш? (*Заплакала, вялікая прыкрая паўза.*)

А н д р э й (*стоячы на авансцэне*). І нашто яны мне сказалі, не ведаў бы, лягчэй было б. (*Убачыў, што Прыся плача, працягнуў рукі.*) Прыся, радасць мая!

Прыся падбегла да яго, ён яе прытуліў і пацалаваў, у гэты час выйшаў з хаты Я н к е л ь, пабачыў і ад неспадзеўкі крыкнуў. Прыся, убачыўшы бацьку, адскочыла.

А н д р э й (*жартаўліва*). Ну, што бацька, бачыў? (*Янкель маўчыць.*) Прыся, скажы бацьку тое, што казала мне. (*Прыся робіць мімічныя жэсты, каб ён не казаў.*) Не хочаш, ну, то я скажу. Вось што, Янкель, кахаю я тваю дачку, і яна мяне кахае.

Я н к е л ь. О не, мой дарагі, не пазволю. Рэвека, марш у хату!

Р э в е к а. Тату, нашто так грозна!

Я н к е л ь. У хату марш!

А н д р э й. Слухай, Янкель, чаго ты петушышся?

Я н к е л ь. Як-то чаго, ён петушыцца каля маёй дачкі, цалуе сярод бела дня і хоча, каб я маўчаў.

А н д р э й. Гэта яе справа.

Я н к е л ь. Не яе, а мая.

А н д р э й. Няўжо ж ты ёй будзеш выбіраць хлапца?

Я н к е л ь. Я. Яна яшчэ маладая, выбіраць хлапцоў не ўмее, патрэбна помач бацькі.

Р э в е к а. Тату, я абыдуся без вас.

Я н к е л ь. Ты ўжо ўмееш выбіраць хлапцоў, ён цябе навучыў, агэйле мішугіна копф.

Р э в е к а. Я не пайду ў хату.

Я н к е л ь. Ты хочаш тут застацца, рамансы клеіць. У хату марш, каза бясхвостая. *(Рэвека пабегла ў хату, ён схапіў некалькі саломінак, замахнуўся.)* Саломай косці паламаю!

А н д р э й. Янкель, зноў кажу табе, пакінь петушыцца. Прыся цябе не паслухае.

Я н к е л ь. Яна не пойдзе за цябе.

А н д р э й. Захачу і вазьму.

Я н к е л ь. Ну, хіба горла маё перагрызеш, а так буду бараніць, не дам.

А н д р э й. Ану, пабачым.

Я н к е л ь. Пабачым. Кожнай птушцы свой куст, табе будзе хрысціянка, а ёй Ізраіль.

А н д р э й. А калі наадварот.

Я н к е л ь. Сам бог супраць гэтага.

А н д р э й. Які ты, Янкель, неразумны чалавек.

Я н к е л ь. Ой, нашто мне многа гаварыць, вось у маіх руках ліст.

Андрэй махнуў рукой.

Я н к е л ь. Ліст, які кажа, што ў мяне сягоння заручыны.

Андрэй спыніўся.

Я н к е л ь. Так, так тноім.

А н д р э й *(з болем)*. Ведаю, ведаю.

Я н к е л ь. Прыедзе Самуіл. Ты хочаш ведаць, хто

такі Самуіл? Самуіл — гэта прыгожы хлапец, які мае два дамы ў мястэчку. І з галавы да ног наш, сын Ізраіля.

А н д р э й *(грозна)*. І блізка не падпушчу твайго Самуіла.

Я н к е л ь. Падпусціш, падпусціш.

А н д р э й. Ану, няхай паткнецца твой Самуіл. Пабачым.

Я н к е л ь. Пабачым.

А н д р э й *(грозна)*. Свет перавярну.

Я н к е л ь. Ой, а клок цу мір за бабу.

А н д р э й. Усё перавярну.

Я н к е л ь. Ой, што з ім зрабілася? Андрэй, дай святы спакой.

А н д р э й. Не паслухаю. *(Адышоў да плота.)*

Я н к е л ь *(падыходзячы да яго)*. Пакінь мой двор, ідзі на плыты, дай вольна дыхаць.

А н д р э й *(апершыся нагой аб лаўку)*. Кроку не адступлю. *(Стаіць задам да Янкеля.)*

Я н к е л ь *(стоячы ззаду за ім)*. Апаражні мой двор.

А н д р э й. Не паслухаю.

Я н к е л ь. Ты паслухаеш мяне ці не?

А н д р э й. Кроку не адступлю.

Я н к е л ь *(грозна)*. Адступіш!

А н д р э й *(крута павярнуўся да Янкеля. Грозна)*. Не адступлю.

Янкель спалохаўся Андрэя, пасунуўся назад, але ў гэты час выйшаў С а м у і л, і Янкель стукнуўся аб яго.

Я н к е л ь *(радасна)*. О! Лёгкі на ўспамін, як снег на галаву, здароў, сынку, здароў. *(Цалуе.)*

С а м у і л *(паставіўшы свае два чамаданчыкі)*. Што ў вас за крык?

Я н к е л ь. Ды вось, бачыш, хто хоча на старога, той і крычыць. Чакай, сынку, чакай. *(Захаваўся за Самуіла.)* Ану, Андрэй, крыкні цяпер.

А н д р э й *(ціха)*. Хто гэта?

Я н к е л ь. Ага, пацішэў. Ты пытаешся хто, ну дык слухай: гэта Самуіл.

А н д р э й *(грозна)*. Чаго ён тут?

С а м у і л *(захаваўся за Янкеля)*. Кажы бацька сам, я з ім не знаёмы.

Я н к е л ь. Не палохайся, я цябе пазнаёмлю. *(Выпхнуў Самуіла наперад.)*

С а м у і л. Ой, лепш не трэба, адразу адпала ахвота.

Я н к е л ь. Стой, сынку, стой. Андрэй, пазнаёмся, гэта Самуіл, жаніх Рэвекі.

А н д р э й (*застыў на месцы*). Жаніх? (*Аглядае.*)

С а м у і л. Так, маю гонар звацца ім.

Я н к е л ь. Самуіл, пакажы далікатнасць, падай руку.

С а м у і л (*не адразу*). Самуіл, сын Файбуса. (*Працягнуў руку.*)

А н д р э й. Рад пазнаць цябе. Здароў, брат. (*Падаў руку.*)

Я н к е л ь. О! Бачыш, Андрэй у нас добрай душы.

А н д р э й. А вам што здалося?

С а м у і л. Калі я стаяў ззаду, то нічога не здавалася, а калі вылез наперад, то крыху напалохаўся.

Я н к е л ь (*выйшаў наперад*). А я дзе хочаш стану і не спалохаюся.

А н д р э й. Ну, досыць, Янкель, жартаваць, хадзем у хату, гарэлкі дасі, балючыя раны сэрца залью.

Я н к е л ь. Калі ты ў хату пойдзеш, як чужы чалавек, я цябе пушчу, а калі будзеш паглядаць на Рэвеку, я цябе не пушчу.

А н д р э й (*уздыхнуў*). Як чужы чалавек.

Я н к е л ь. О... гэта мяне радуе. Самуіл, калі ты не бачыў лепшага ў свеце чалавека, так пабач. Вось ён, Андрэй-плытагон.

А н д р э й. Ну годзе, Янкель, не хвалі.

Я н к е л ь. У мяне ў хаце два пачэсных месцы. Адно табе, Самуіл, а другое табе, Андрэй. Самуіл! Смірна! (*Самуіл выраўнаваўся.*) Шагам марш у хату. (*Самуіл узяў у рукі свае чамаданчыкі.*) Рэвека, Рэвека, прымі гасця. (*Адчыніўшы дзверы, кліча яе.*)

Выбегла Р э в е к а з талеркай у руках. Яна, як убачыла Самуіла, ускрыкнула, талерка выпала і разбілася, а сама пабегла назад.

Я н к е л ь. Шчасце, шчасце. (*Б'е ў ладошкі.*)

С а м у і л радасна ўхмыльнуўся, пайшоў у хату. Андрэй ірвануў кашулю і абарваў каўнер.

Я н к е л ь (*доўга глядзеў на Андрэя, а пасля падышоў*). Андрэй, а цяпер ідзі ты.

А н д р э й (*з болем*). Янкель, мілы мой, я для Прысі брат, між намі нічога не было. Любіў яе, як матка сваё дзіця, не судзі нас.

Я н к е л ь. Андрэй, што ты за чалавек, першага такога спатыкаю, дай, брат, памірымся, пацалуемся. (*Цалуюцца.*)

Андрэй. Ты хочаш лепшай долі для яе, шукаеш шчасця для свайго дзіцяці. Час добры, перашкаджаць не буду. Разарыць гняздо, разбіваць чужое шчасце не магу я, Янкель. Няхай лепш баліць маё сэрца, льюцца гаручыя слёзы, абы вам добра было. Хадзем, Янкель, у хату, гарэлкі дасі, балючыя раны сэрца залью. *(Падышоў да дзвярэй, адчыніў, глянуў, махнуў рукой і хутка пайшоў назад.)*

Янкель *(бачачы ўсё гэта, услед)*. Гэта хлапец, голд алэйн. *(Пайшоў у хату.)*

## АКТ II

Пад вечар. На беразе Нёмна. Кусты. Уся грамада плытнікаў тут. Хто сядзіць ля вогнішча, хто гуляе ў карты, пеючы песню. Андрэй стаіць паводдаль сумны; Гапцуль, трымаючы ў руках вялікі коўш, кіруе хорам, зацягаючы канцы песні петушыным галаском. На вогнішчы варыцца ў гаршку каша. Жаўрук, седзячы ля самага вогнішча, мешалкай варочае ў гаршку кашу. Чуваць спеў салаўёў, гучыць песня.

Плытагоны-людзі, горкай долі дзеці,
Катаржна працуюць, жывучы на свеце.
На вадзе і сонца першыя спаткаюць,
На вадзе і ночку яны каратаюць.
На вадзе часамі жаль душу агорне,
На вадзе і смерць іх да сябе прыгорне.
Год за годам мкнуцца, моладасць праходзіць,
А там, крадучыся, старасць надыходзіць.
За цяжкую працу доля насмяецца.
Плытніка магіла вадой наліецца.
Жабрацкія косці вада апалошча,
А мяцежны вецер сцюжаю пахвошча.
Забушуе вецер, к зямле дрэвы гнуцца,
Плытагон сумуе, самі слёзы льюцца.
А чаго сумуе, куды думкі мкнуцца,
Разгадайце, людзі, чаго слёзы льюцца.

Адзінота. Ну і зацягнулі, быццам на хаўтурах. Ану, музыкі, дайце нашу, жабрацкую.

Усе *(кінуўшы карты)*. Заграйце, паскачам. *(Музыкі толькі хацелі зайграць.)*

Пацук. Чакайце, чакайце. *(Усе супыніліся.)* Раней нам трэба расстрыгчы дзячка, а пасля. *(Усе загаманілі,*

*на гэта згодны, дзячок Гапцуль сядзіць на авансцэне злева ад гледача. Пацук узяў вялікія нажнічкі, зайшоў ззаду.)* Увага! *(Усе чакаюць.)* Перш адчытаю над ім малітву. *(Трымаючы над ім абедзве рукі.)*

Ні цялё, ні бычок, гэта божы дзячок.
Ён у цэркві служыў і кадзілам кадзіў.
*(Усе рагочуць.)*
А пасля божы дом абабраў, абакраў
І да нас, бедакоў, на плыты ён папаў.
*(Усе рагочуць.)*
Мы яго расстрыжом, як авечку, нажом.
Меней будзе папом, няхай правіць вяслом.

*(Усе рагочуць, Пацук узяў у рукі касічку і адрэзаў, Гапцуль узяў яе сабе.)*

Адзінота. А цяпер давай! *(Усе згодны, музыкі гучна зайгралі, пару лепшых танцораў пайшлі танцаваць.)*

Адзінота *(як скончылі)*. Ну й далі гарту.

Кучма *(да Пацука)*. Слухай, Пацук, а цяпер ты мяне падстрыжы.

Пацук. А чаго ж, давай.

Кучма. Будзь ласкаў. *(Сеў на тое месца, дзе сядзеў дзячок.)*

Пацук. Як хочаш?

Кучма. Пад польку.

Пацук. А раз так, трэба пад гаршчок. *(Узяў гліняны гаршчок, які стаяў паводдаль, накрыў Кучме галаву і пачаў грабяньком раўняць яму валасы.)*

Адзінота *(да Андрэя, які праз увесь час сядзеў сумны)*. Андрэй, чаго ты сумны?

Андрэй. Не пытайся, не зразумееш. *(Пайшоў.)*

Пацук. Я скажу. Адзін застаўся, вось дзеля чаго і сумны.

Адзінота. Адзін? А я шчаслівы, што адзін, ні жонкі, ні дзяцей. Жыву адзін, памру адзін, голы, босы, без кашулі, а была б у мяне жонка *(скінуў світку)*, быў бы без штаноў. *(Павярнуўся да Жаўрука.)* Дай закурыць.

Усе зарагаталі, бо ў яго амаль што і няма штаноў — вельмі палатаныя.

Жаўрук. Каб ты не быў адзін, быў бы чалавекам, а так...

Адзінота. А што асаблівага ў тваім жыцці, ты ж жанаты?

Жаўрук. Жонка, дзеткі, жыву я з імі, радуюся,

жыву адзін — плачу. Цяпер я на чужыне, а вярнуся дадому, убачу дзетак, прыгарну іх да свайго сэрца, з радасці і заплачу.

Пацук. Ды яно праўда, з радасці і па-сабаччу забрэшаш. *(Стрыгучы.)* Я памятаю, як мы ваявалі... *(Стрыгануў нажнічкамі па вуху.)*

Кучма *(з болем)*. Вуха! *(Усе зарагаталі.)*

Пацук. Так, так, у японскую вайну, калі японец дзень і ноч з гармат страляў, было не тое. *(Махаючы нажнічкамі.)* Бух ды бух, бух ды бух. *(Неспадзеўкі даў нажнічкамі па гаршку, гаршчок разбіўся ў шматкі.)* [1]

Усе зарагаталі.

Кучма. А няхай цябе з тваёй вайной. *(Усхапіўся.)* Ты ж гэтак увесь мажджэр паб'еш. *(Пабег.)*

Адзінота. Пацук, што табе здалося, ты на вайне?

Пацук. Я паказаць хацеў, як вораг ды з гармат страляў.

Адзінота. Добра паказаў, звярнуў чалавеку галаву. *(Смяецца.)* Паказаў.

Пацук. І чаго ты, райдун, рагочаш, не разумееш старога салдата. *(Адышоў убок, сеў і закручвае лапаць.)*

Гапцуль *(падбіраючы чарапкі)*. І трэба ж так, разбіў, і звязаць не ўдасца.

Адзінота. Цягні за ўпакой гаршка, капейку дам.

Гапцуль. Брашы, брашы, акалееш, слова перад богам не закіну.

Адзінота. Патрэбна мне тваё слова, як лысай галаве шмаравідла.

Гапцуль. Вечную памяць і тую не запяю.

Адзінота. Над маім трупам салавей будзе пець. *(Спеў салаўя праз увесь час чуваць.)* Ён, брат, калі засьпявае, то ў магіле мае косці зварухнуцца, і нічога не возьме, дарма будзе пець.

Гапцуль. Ды што твой салавей, душа праведніка як пападае ў рай, не такіх птушак там пачуе.

Адзінота. Для плытніка рай на беразе. Акалееў, зложуць твае косці ў яму, налітую вадой, а над ямай — вярба і салавей.

Гапцуль. Так што ж ты не верыш у загробную жызнь?

Адзінота. Не веру.

---

[1] Заўвага: гаршчок трэба выбіраць ценькі, а нажнічкі павінны быць вялікія, грубыя, якімі бляху рэжуць.

Пацук. І я кажу, брахня. У вайну з Японіяй злажылі нашых тысяч з дваццаць, і па гэты дзень ляжыць мужык, чакаючы загробнага жыцця.

Адзінота *(да Гапцуля)*. Ваш брат казаў чакаць.

Гапцуль. За сквернасловіе адкажаце вы перад богам. *(Сеў і пачаў маліцца па кніжцы.)*

Адзінота. Яшчэ ці будзем мы з ім гаварыць. Пацук, куды Андрэй пайшоў?

Пацук. Не ведаю.

Жаўрук. Ды вунь сядзіць на беразе, галаву нізка апусціўшы.

Пацук. Затужыў, бядак, па Прысі.

Жаўрук. Сумленны чалавек убачыў, што не можна чужое шчасце разбіваць, ну і саступіў.

Адзінота. І добра зрабіў, далей ад бабы, сон спакайнейшы.

Пацук. А... гэта праўда.

Адзінота. За бабу гінулі князі і каралі, за бабу гінулі вёскі і гарады.

Жаўрук. А хто там ведае, хто праз каго гінуў?

Адзінота. Ад бабы ўсё няшчасце, я ведаю.

Жаўрук. Хто, па-твойму, згінуў праз кабету, ну хаця б з нас. Хто?

Воўк *(які ляжаў пад саломай воддаль, адразу выскачыў і закрычаў)*. Я... згінуў...[1]

Усе ад неспадзеўкі спалохаліся, Гапцуль перажагнаўся. Пацук ад страху ўцёк.

Воўк. Праз кабету ўсё няшчасце на свеце. Пасмей мне хто пярэчыць, горла перагрызу.

Адзінота. Ты чаго ўсхапіўся?

Воўк. Кабета сэрца не мае, ашуканства, хціўнасць, вось што ў кабеты.

Адзінота. Зусім па-мойму разважае.

Жаўрук. Пакінь яму ты патураць. *(Да Воўка.)* А ты замоўкні, ніхто цябе не слухае.

Воўк. Языка не завяжуць. Кабета — гэта вір глыбокі, пападзеш — загінуў. Кабета — гэта воспа, дакрануўся — знак навек. Кабета — гэта сілок, завяз — няма. Праз каго я плытагон? Праз кабету! Праз каго я на катарзе быў?.. *(Спахваціўся, упаўшы тонам.)* Праз кабету.

Усе здзівіліся.

---

[1] Заўвага: павінен выскачыць так, каб уся салома, якой накрыты ён, паляцела клоччам уверх.

Ж а ў р у к. Быў на катарзе... Скажы, будзь ласкаў, за што? *(Паўза.)* Мы ж чакаем — скажы.

В о ў к. Не хацеў бы кратаць балючую рану, але нічога, слухайце: маладым калісь я быў, займаў пасаду землямера. Мяцежная душа была ў маладым целе, няпраўду не любіў, волечку кахаў. Была ў нас падпольная арганізацыя, я адказным быў сакратаром, мне давяралі ўсё, былі сходы, пастановы.

І вось, зазнаёміўся з дзяўчынай. Шчырая, адданая была. Ганнай клікалі. Прайшоў год. Прыгледзеўся: — уся наша, просіцца да нас у арганізацыю, я напёр, прынялі. Найлепшы працаўнік, я не агледзеўся, як пакахаў яе. Ды як! Эх, успомніць шорхна. Глядзім — добра. Сталі даручаць усё. Воўк, ты выканаць павінен пастанову схода, забіць загадалі мне губернатара. Згода. Назаўтра я каля мэты. План і аружжа ў руках. Дрыжу, чакаю. І вось ён едзе. Бачу, як імчацца коні, як гарыць на сонцы азызлы яго твар. Заціснуў у руцэ я бомбу... *(Ускрыкнуў.)* Эх... ты, мара праклятая. *(Упаўшым тонам.)* Не ўдалося. Моцныя рукі двух гарадавых мяне здушылі, у астрозе апынуўся... Судзілі — 10 год катаргі...

А д з і н о т а. А хто цябе прадаў?

В о ў к *(не адразу)*. Ганна прадала, правакатар.

А д з і н о т а. А што, я не казаў?

В о ў к. Адбыў я 10 цяжкіх год, на волі апынуўся. Дзе Ганна, якая ўтапіла нас усіх, дзе яна? Шукаў я доўга... І вось нарэшце спатыкаю. Ганна, тая самая Ганна, якую моцна так кахаў, тыя самыя хціўныя вочы, лісой па сцежачцы бяжыць. Не спазнала. Штовечар стаў, як цень, за ёй снаваць. Спрыялі ночкі.

І вось пад чорным параванам ночы ў садок яна чагосьці прыйшла. Я за ёй... Скрыганулі мае зубы, затрапятала сэрца, замахнуўся і ўдарыў... Глыбока сеў мой нож.

Гапцуль перажагнаўся.

Ж а ў р у к. Ты што зрабіў?

В о ў к. І не пікнула. На месцы.

Ж а ў р у к. Значыцца, забіў... *(Паўза.)* Ну, што. Судзіць цябе, на розум мой,— не можна. Такая крыўда — таксама кроў, адно за другое. *(Чуцен рог, які ззывае плытнікаў.)* Ну, хлопцы, рыхтуйцеся ехаць. *(Пайшоў.)*

А д з і н о т а. Шчаслівы той, хто адзін, нікога рэзаць не прыходзіцца, жывеш адзін, паміраеш адзін. *(Пайшоў.)*

Г а п ц у л ь *(які стаяў у старане, падышоў да Вац-*

*ка)*. Браток мой, добра, што ты адкрыў свой цяжкі грэх. Душа твая мучыцца ад пралітай крыві і шукае адпачынку. Я старэйшы ад цябе, буду братам табе, паслухай: пакінь плыты, прадай усё, ідзі на горы Афонскія, да святых угоднікаў, каб у пасце і малітве адпакутаваць за свой грэх.

А пакуль тое будзе, я над табой святыя словы адчытаю. *(Раскрыў кнігу.)*

Воўк. Не чытай, не хачу.

Гапцуль. Так сам памаліся богу.

Воўк. Якому?

Гапцуль. Ну *(на неба)*, усявышняму.

Воўк *(пасля паўзы)*. Пайшоў вон. Не веру я твайму богу.

Гапцуль. І гэта праўда. Ну, тады выбачай, мучся, як і мучыўся. *(Пайшоў, чытаючы пад нос нейкую малітву.)*

Воўк. Рану растравілі, стараніцца пачнуць, але што хочаце кажыце, а я сваё: кабета — вір глыбокі, пападзеш — загінеш. *(Пайшоў.)*

На сцэне пачынае цямнець. Прыйшла Рэвека.

Рэвека *(аглядаючыся)*. Няма нікога, толькі вогнішча сіратою ў полі, пагас агонь, пагаслі іскры, цёмна зараз будзе, над рэчкай ляжа беспрасветная імгла, запануе ночка. Эх, ночка, ночка, якая ж ты цёмная. Дзе ж мой плытагон, няўжо нам суджана разлука?

Здалёку чуваць нейчы свіст. Прыбег Андрэй і, не пабачыўшы Рэвекі, забраў світку, падышоў да вогнішча прыкурыць папяросу.

Рэвека. Андрэй!

Андрэй. Прыся, ты? *(Хацеў было падысці да яе.)*

Рэвека. Пачакай хвілінку, паслухай, што скажу.

Андрэй. Кажы, дарагая, слухаю.

Рэвека. Пакахала я цябе, жыць без цябе не магу, а ты цураешся, паедзеш, а мяне пакінеш.

Андрэй. Прыся, як быць іначай?

Рэвека. За нялюбага замуж аддаюць, жывую пахаваюць, нашто ты з'явіўся да нас, нашто?

Андрэй. Не праклінай мяне, Прыся!

Рэвека. І па сягоння я не ведаю, за што намысліў кінуць, адразу стала чужою я табе.

Андрэй. Прыся, не вінаваць мяне. З часам зразумееш.

Р э в е к а. Паедзеш ты, я не змагу хадзіць па тых слядах, дзе ты хадзіў. Кожная мясціна мне будзе ўспамінаць цябе. Андрэй, вазьмі мяне з сабой.

Чуцен працяжны голас Пацука.

П а ц у к. Андрэй, дзе ты, плыты скрануліся.

Плытнікі пяюць песню.

А н д р э й. Прыся! Ад'язджаюць!

Р э в е к а *(моцна прытуліўшы яго да сябе)*. Не пушчу, не пушчу.

А н д р э й. Пусці, Прыся!

Прыбег П а ц у к.

П а ц у к. Андрэй! Плыты скрануліся. *(Падышоў да вогнішча, узяў гаршчок — пайшоў.)*

А н д р э й *(вырваўся)*. Прыся, будзь шчаслівa і жыві. *(Пабег, махаючы шапкай.)*

П р ы с я. Андрэй, Андрэй! О, доля, доля, за што ты крыўдзіш сірату. *(Павалілася на зямлю і плача, відаць, як за прыгоркам плывуць плыты, спяваюць песню плытнікі.)*

З а с л о н а

## АКТ III

Вёска. З краю хата заможнага селяніна Тамаша. Каля хаты на сцяне развешаны шынкі, каўбасы. На плоце вісіць вядро. Жонка Тамаша — П р а к с э д а мяце двор, змятае з лаўкі пыл, рыхтуе стол, які стаіць злева ад гледача. Чуваць здалёк песня плытагонаў.

П р а к с э д а *(перастала мясці)*. Ну й песня, аж за душу бярэ, і трэба ж, так плытнікі налаўчыліся, старое вуха, а слухаць любіць.

Выбегла К а с я і затрымалася ў дзвярах.

П р а к с э д а. Ты зноў тут? І дакуль ты будзеш скакаць, ужо дзесяты раз выбягае з хаты, каб паглядзець на гэтых басякоў. Сядзі мне ў хаце, абыдзецца там і без цябе.

К а с я. Калі ж вельмі хочацца паслухаць, як пяюць нашы плытагоны.

П р а к с э д а. Як гэта нашы, што значыць нашы? Якая можа быць дружба з басякамі?

К а с я. А чаму ж не можа? Яны добрыя людзі.

П р а к с э д а. Ну, ты мне глядзі, добрыя. Завельмі пачала хваліць гэтых галадранцаў, як падружылася з Андрэем-плытагонам.

К а с я. Што дрэннага, мама, убачыла ў іх?

П р а к с э д а. Не нашага поля ягады. Недаяркі. Ну, марш у хату.

К а с я. Мама, пусціце на бераг.

П р а к с э д а. Як паедуць плытнікі — пушчу, а цяпер сядзі ў хаце.

К а с я. Я цяпер хачу. Хоць на хвіліначку пусціце.

П р а к с э д а. Ну, што гэта за торг, пайшла мне ў хату, а то венікам агрэю. *(Замахнулася і пагнала яе ў хату, а сама засталася.)* Бач ты яе, забегала. Закруціў дзяўчыне галаву прахвост, каб ён сабе шыю скруціў. Трэба хутчэй канчаць справу, а то будзе бяда. *(Зноў слухае спеў.)*

Выходзіць з хаты Д а м і ц э л я з закасанымі рукавамі.

Д а м і ц э л я *(узяла з плота вядро)*. Што, кумка, прыстала?

П р а к с э д а. Прыстанеш, калі пачуеш гэткую прыгожасць. Чуеш?

Д а м і ц э л я. Як не чуць, у хаце ля печы стаю, а ногі вон бягуць, паслухаць.

П р а к с э д а. Вось і я гэтак, на іх, плытагонаў, глядзець не хачу, а пачую песню, быццам хто цвіком прыбіў, ні з месца.

Д а м і ц э л я. У іх Андрэй-плытагон, ух, добра пяе.

П р а к с э д а. Ды не ўспамінай ты аб ім, праз яго няшчасце ў хаце. Кася ў адзін голас крычыць: «Пайду і пайду за плытагона».

Д а м і ц э л я. А ты вазьмі і выдай, няхай жывуць шчасліва.

П р а к с э д а. Ты хіба звар'яцела, каб мы, гаспадары, ды за гэтага недаярка, цьфу, што гэта, маёй дачцэ лепшага каго няма, апрача нейкага Андрэя-плытагона?

Д а м і ц э л я. Не аддасцё самі, пакіне і ўцячэ, што вы ёй зробіце?

П р а к с э д а. Зробім, мая мілая, зробім. Магу табе ўжо пахваліцца: сягоння заручыны. Дзеля гэтага і прасіла цябе, каб памагла трохі.

Д а м і ц э л я. А... вось яно што.

П р а к с э д а. Вось яно гэта. А як у цябе бараніна ўсмажылася? *(Адказ.)* А парасё? *(Адказ.)* Ну й добра, незадоўга госці.

Д а м і ц э л я. А можна ведаць, якія госці будуць?

П р а к с э д а. Стары Базыль ды маладога Базылёнка прывядзе, а малады Базылёнак ды й караваю прынясе.

Д а м і ц э л я. Э, што з таго Базылёнка, калі ён ні гарбуз, ні жолудзь, бычок божы.

П р а к с э д а. Няхай сабе бычок, але залатыя рогі.

Д а м і ц э л я. Не шукайце, цётка, золата, а добрага чалавека, разумнага, працавітага. З дурнем ёй не жыць.

П р а к с э д а. Нічагутка, загадаем — будзе жыць.

Д а м і ц э л я. Якое ж гэта будзе жыццё пад прымусам?

П р а к с э д а. А як жылі мы? Загадалі бацькі — слухалі. І, глядзі, жывём.

Д а м і ц э л я. Адна дачка — і тую абы-як.

П р а к с э д а. Трэба так, суседачка, трэба. Ад гэтай жаніцьбы будзе ў нас шырэйшы загончык ды мацнейшы кішэнь. Золата, во!

Д а м і ц э л я. Ну, глядзіце, каб часам чорт кішаня не падзёр, тады і золата з ветрам паляціць.

П р а к с э д а. Нічагутка, пераймем!

Д а м і ц э л я. Ваша справа. *(Паўза).* Ну, я пайду ўжо дадому.

П р а к с э д а. Шчасліва. Толькі ж глядзі. Касі не кажы ні слова. Зробім справу адразу — знячэўкі. *(Пайшла ў хату.)*

Д а м і ц э л я. Хоць за вала, абы залатыя рогі. *(Хоча адыходзіць.)* Таргуюць дачкой, як скацінай.

Падышоў А н д р э й.

А н д р э й. А... цётка Даміцэля, добры дзень.

Д а м і ц э л я. Заблудзіў, Андрэй?

А н д р э й. Ды вось блукаю.

Д а м і ц э л я. І з твару змяніўся, і песні сумныя пяеш. Чаму ўсё гэта?

А н д р э й. З гора, цётка, з гора. Утраціў дарагога чалавека, утраціў усё.

Д а м і ц э л я. Чула, браток, чула. Усё па Прысечцы сумуеш?

Андрэй моўчкі кіўнуў галавой.

Д а м і ц э л я. Я ведаю яе. Прыгожая дзяўчына, падобна вельмі да Касі.

А н д р э й. Падобна. Я калі першы раз спаткаў Касю, а было гэта нядаўна, то мысліў, што гэта Прыся. І з таго дня — быццам няведамая сіла мяне цягне да яе.

Д а м і ц э л я. Ты што ж, яе хацеў пабачыць?

А н д р э й. А так, хацеў. Але баюся, каб старыя не заўважылі.

Д а м і ц э л я. І сама не ведаю, ці сказаць яму, ці не?

А н д р э й. А што, цётка?

Д а м і ц э л я *(набок)*. Э, лепш не трэба. Ты вось схавайся за паркан, а я зараз.

А н д р э й. Цётка Даміцэля, толькі прашу вас, ні слова ёй аб Прысі.

Д а м і ц э л я. Ну, як можна? *(Пайшла ў хату.)*

Андрэй схаваўся за плот. Выбегла К а с я.

К а с я *(пабачыўшы Андрэя)*. Мілы мой, дарагі мой.

А н д р э й. Радасць мая, шчасце маё.

К а с я. Тры дні цябе не бачыла.

А н д р э й. Здавалася, што цэлы век.

К а с я. Для таго, хто любіць, тры дні — век.

А н д р э й. Здарова?

К а с я. Як бачыш, засумавала вельмі.

А н д р э й. Нудна было і мне. Гарэлкай весяліў сябе, а ўначы заб'юся на плыты і так да раніцы сонца спатыкаў.

К а с я. Эх, ці раз я спатыкала сонца. Ты з плытамі там, а я тут сяджу на беразе адна, а думкамі пераношуся да цябе, і слёзы пасыплюцца.

А н д р э й. Як бы далёка я ні быў, але заўжды верыў, што плыты загонім мы ў Прусы, і хутчэй дадому. І вось, еду. Мігацяць бары, мінаем чужаземны край, перад вачамі родныя загоны і ты, мая *(прытуліў яе да сябе)* дарагая Прыся. *(Спахапіўся і ўстаў.)*

К а с я *(пасля вялікай паўзы)*. Андрэй, што гэта значыць? Якая такая Прыся?

А н д р э й. Ды нічога, Кася, дзяўчыну ведаў, Прысяй клікалі.

К а с я. Дзе яна?

А н д р э й. Далёка, у другой губерні.

К а с я. Калі гэта было?

А н д р э й. Гэта было тады, калі я цябе яшчэ не ведаў.

К а с я. І гэта праўда?

Андрэй. Праўда.

Кася. Глянь мне ў вочы. *(Паўза.)* І скажы, у цябе Прысі няма.

Андрэй моўчкі кіўнуў галавой, але па ім відаць, што ён вельмі па ёй сумуе.

Кася. Ну, добра, толькі памятай, калі ў тваім сэрцы Прыся жыве — я не жыву. Альбо Прыся, альбо я.

Андрэй. Кася! Дый годзе, я прашу — не муч. Пойдзем адсюль, нас могуць пабачыць.

Кася. Андрэй, пачула я ад цябе балючую вестку, слухай жа і ты. *(Паўза.)* Бацькі, як дачуліся аб каханні нашым, наважылі парваць усё і замуж мяне выдаць.

Андрэй. За каго?

Кася. Ды тут, з суседняй вёскі.

Андрэй. Зноў перашкода. І што маё за шчасце?

Кася. Але нічога, чым горш яны будуць працівіцца на згоду нашу, тым даражэй ты для мяне. Стануць бацькі папярок дарогі,— свет шырокі, пакіну і ўцяку.

Андрэй. З кім?

Кася. З табой, Андрэй.

Чуцен голас бацькі Тамаша: «Янка, свіння ў гародзе, усе буракі парые, у... вы, дармаеды». З гэтым уваходзіць на двор. Кася захавалася каля хаты. Андрэй застаўся. Падышоў Тамаш.

Андрэй. Добры дзень, дзядзька Тамаш. *(Хацеў падаць яму руку, той не падаў.)* Як здаровы?

Тамаш. А ты што, доктар? Лячыць мяне хочаш?

Андрэй. Ды які плытагон доктар, хацеў з вамі прывітацца.

Тамаш. Я басякам рукі не падаю.

Андрэй. Ого-го.

Тамаш *(перадражніваючы)*. Вось табе і ого-го. *(Паўза.)* Хацеў бы я ведаць, каго гэта пад маёй хатай выглядаеш?

Андрэй. Ды нікога.

Тамаш. І лгаць навучыўся. Ідзі сабе на плыты, не месца табе тут. Там зграя басякоў, а тут гэтакіх няма. *(Ступіў некалькі крокаў і ўбачыў Касю.)* А ты чаго туляешся па завуголлях? Марш мне ў хату. *(Кася пайшла.)* Бач яе, захавалася. *(Да Андрэя.)* Ну, чаго яшчэ, ласкай прашу, а то калом агрэю. *(Адыходзіць у хату.)*

Андрэй *(адзін)*. Як абухом па галаве. *(Перадражніваючы.)* «Ідзі туды, дзе зграя басякоў», эх, доля, доля.

*(Хутка паварочвае, каб адыходзіць, натыкаецца на старога Базыля з Васілём, якога збіў з ног, той паваліўся.)*

Б а з ы л ь *(плазам лежачы на зямлі)*. А бацюхны мае, хто ж гэта?

В а с і л ь *(паднімаючы бацьку)*. Во, каб яго пакруціла.

Б а з ы л ь *(стаўшы на ногі)*. Хто ж гэта такога штурханца даў?

В а с і л ь. Андрэй-плытагон.

Б а з ы л ь. Во, цэцярук яго рэж.

В а с і л ь. Усё скамечыў.

Б а з ы л ь. Дарэмна толькі святочную вопратку надзеў. Пакачаў, цэцярук яго рэж.

В а с і л ь *(пачынае чысціць)*. Хоць бы дзядзька Тамаш не пабачыў.

Б а з ы л ь. Пачысці, сынку, пачысці, каб яго нячысцік чысціў.

Выйшаў Т а м а ш з хаты.

Т а м а ш. Даражэнькія мае, каго ж гэта няласкавым словам акладаеце?

Б а з ы л ь. Андрэя-плытагона, цэцярук яго рэж.

Т а м а ш. А што ж ён учыніў, кумок?

Б а з ы л ь. Нязграбны, цэцярук яго рэж, размінуцца не мог.

Т а м а ш. Няўжо ён кума штурхануў?

Б а з ы л ь. А... такой бяды. Здароў, кумок. Васіль, чаго ж ты лыпаеш вачыма, як сава? Прывітайся.

Т а м а ш. Здароў, сынку, здароў. Падрос, пахарашэў, лялька хлапец.

Б а з ы л ь. Завельмі ўжо пахваліў хлапца. Пачырванеў, як журавінка.

Т а м а ш. Вялікая цана такому дзецюку, не папсутае сэрца.

Б а з ы л ь *(з гонарам)*. О, мой сын, цэцярук яго рэж, не раўня плытагону.

Т а м а ш. Толькі што быў тут. Пэўна на Касютку хацеў глянуць, а я за каўнер ды вон.

Б а з ы л ь. Добра кумок зрабіў.

Т а м а ш. Ці то ён нам раўня? Касютка — ягадка іншага поля, для яе і хлапец будзе іншы. Праўда, Васілёк?

В а с і л ь *(саромячыся)*. Я не ведаю.

Т а м а ш. Но, но, не скрывайся, усім вядома, што тваё сэрца па Касютцы сумуе.

Б а з ы л ь. Праўда, кумок, сумуе, цецярук яго рэж, а часамі праз сон успамінае.

В а с і л ь. Ды што вы, тату, калі вы чулі?

Б а з ы л ь. Но, но, не хлусі, цецярук цябе рэж, кажу, значыць, чуў.

Т а м а ш. Не саромся, дзетка, дрэннага нічога няма, успамінаеш, значыць, любіш, а раз так, я слова свайго не змяню. Касютка будзе твая. *(Пры гэтых словах выйшла з хаты Кася.)* А вось і яна, чуе дзявочае сэрца.

Б а з ы л ь. Ну, мая дарагая хрэсніца, як здарова, цецярук цябе рэж?

К а с я. Здарова, даўно бачыліся.

Т а м а ш. Запомніў кум зусім.

Б а з ы л ь. У падарожжы ўсё быў, учора толькі вярнуўся. Вялікдзень і той у дарозе спраўляў.

Васіль дастаў глінянага коніка і пачаў свістаць. Базыль два разы кашлянуў, той перастаў.

Т а м а ш. А я ўжо думаў: кум, а пагарджае.

Б а з ы л ь. Выбачай, браце, хоць трохі прыпазніўся, але цяпер павіншую. *(Цалуюцца.)* Віншую, жычу сілаў, каб меў грошай шмат, каб доўга жыў і быў багат.

Т а м а ш. І я жадаю таго самага.

Б а з ы л ь. І цябе, Касютка, віншую, усяго лепшага, цецярук цябе рэж.

К а с я. І я дзядзьку віншую.

Б а з ы л ь. Ну, а Васіль пэўне ж быў у цябе, віншаваў?

Т а м а ш. А сын не пайшоў.

Б а з ы л ь. Сыночак, цецярук цябе рэж, я праз цябе чырванею.

Т а м а ш. Нічагутка, мы яму даруем.

Б а з ы л ь. Зараз жа павіншуй. Ласкавае слова ніколі не позна сказаць.

В а с і л ь *(ідзе)*. Віншую вас, дзядзенька. *(Наступіў Тамашу на нагу, той крыкнуў.)*

Б а з ы л ь *(па карку сыну)*. Ах ты, касалапы!

В а с і л ь. Тату!

Т а м а ш. Расці, красуйся на пацеху старым.

Б а з ы л ь. А цяпер з Касюткай.

В а с і л ь. Што? *(Хацеў было ўцячы, але Базыль яго хапіў за кашулю, лупянуў па заду і, трымаючы за карк, падпіхае да Тамаша, а той гэтаксама падпіхае Касю.)*

Т а м а ш. Цалуйцеся. *(Кася і Васіль упіраюцца).*

Васіль (*просіцца*). Тату, не трэба, тату.

Базыль (*як ужо яны апынуліся адзін ля другога*). Нос вытры, нос! (*Нарэшце пацалаваліся, Кася ўцякла ў хату, Васіль застаўся на месцы, закрыўшы шапкай вочы. Старыя рагочуць.*)

Базыль. Засаромелася, уцякла.

Тамаш. Нічагутка, зловім. Праўда, Васілёк?

Васіль (*прыняў шапку з твару*). Я не ведаю. (*І зноў закрыў твар.*)

Тамаш. І на пасад пасадзім.

Базыль. Пасадзім.

Тамаш. А пакуль што ў хату, кум, пойдзем, там за чаркай і пагутарым.

Базыль. Пакульгаем, сваток. (*Адыходзяць.*) Васіль, за мной! Глянь, глянь, які ў мяне сын, па мне ўдаўся. (*Пайшлі ў хату. Васіль застаўся.*)

Васіль. Аж у жар кінула. (*Хацеў ісці ў хату.*)

Падышоў Андрэй.

Андрэй. Э! (*Васіль затрымаўся.*) Ты чаго тут?

Васіль. З бацькам віншаваць прыйшлі з вялікаднем.

Андрэй. У спасаўку — з вялікаднем. А дзе твой бацька?

Васіль. Там. (*Паказаў на хату.*)

Андрэй. Сватае. Добры сват, багат грашыма і зямлёй, але дарэмна, браце, ходзіш. Кася такая рыбка, якую на залаты кручок не зловіш.

З хаты Тамаш.

Тамаш. Васілёк! А, зноў ваша мосць тут? Што ж гэта, маё слова так сабе? Будзь ласкаў, а то сабак зараз натраўлю.

Андрэй. Я і сам пайду. (*Адыходзіць.*)

Тамаш (*наступаючы*). Пайшоў, пайшоў. (*Васіль за Тамашом.*)

Васіль. Ідзі, ідзі.

Андрэй як замахнуўся, Тамаш стукнуўся аб Васіля. Андрэй пайшоў.

Тамаш. Ой, ой, ой... (*Трымаецца рукамі за жывот.*)

Васіль. Што, ён вам даў? (*Паўза.*) Куды?

Тамаш. Даў. Хадзем у хату. (*Адыходзячы, гаворыць.*) Ах ты, прахвост, басяк. (*Скрыўся.*)

В а с і л ь *(адзін)*. Ого, які грозны, як мне абараніцца ад яго?

Кася з хаты.

К а с я. Васілёк, цябе ў хату клічуць, чаму не йдзеш?

В а с і л ь. З Андрэем спаткаўся.

К а с я. Ты яго бачыў? Што ён казаў? *(Паўза.)* Але, што ён табе казаў? Не скажаш?

В а с і л ь. Не скажу.

Падышоў А н д р э й.

А н д р э й *(грозна)*. Я скажу. *(Васіль спалохаўся і схаваўся за Касю.)* Кася, ты што ж, радуешся гэтаму госцю? На тваім твары вясёлая ўсмешка. Ты ведаеш, чаго ён тут?

К а с я. Андрэй, што я рабіць павінна?

А н д р э й. Ты павінна чурацца іх, калі любіш мяне.

К а с я. Я згодна.

А н д р э й. Ну, калі згодна, то скажы гэтаму дурню...

В а с і л ь. Дзе дурань? *(Шукае вачыма.)*

А н д р э й. Скажы, каб ішоў у хату.

К а с я. Гэтага я не зраблю.

А н д р э й. Ну, тады я зраблю. *(Грозна на Васіля.)* Вон!

В а с і л ь паваліўся, пабег у хату крычучы.

К а с я. Андрэй, як можна?

А н д р э й. Можна.

К а с я. Ён пажаліцца старым.

А н д р э й. Няхай.

Чуваць у хаце гоман.

К а с я. Я чую, старыя ідуць, уцякайма на бераг.

А н д р э й. Хоць к чорту. *(Пайшлі.)*

Выбеглі з хаты Т а м а ш, Б а з ы л ь з палкамі і В а с і л ь.

Т а м а ш. Дзе ён, дзе ён? *(Уздагон і назад.)*

Б а з ы л ь. Лаві яго, лаві!

Т а м а ш. Што, ён цябе біў?

В а с і л ь. Не, не біў, а толькі напалохаў.

Б а з ы л ь. Ах ты, ламака! *(За вуха.)*

В а с і л ь. Я лепш пайду дадому.

Яго затрымалі.

Тамаш. А ведаеш, кумок, што? Зараз закамандую бабе, каб сюды гарэлку несла, тут мы і запоіны зробім. Праксэда! *(Чуцен з хаты голас Праксэды.)* Цягні сюды трактамант. *(Сам пайшоў, за ім ідзе Базыль.)*

Васіль. Тату. *(Той не пачуў.)* Тату. *(Той не абярнуўся.)* Тату!

Базыль. Чаго табе?

Васіль. Ён мяне...

Базыль. Што ён цябе?

Васіль. Ён мяне напалохаў.

Базыль *(замахнуўся кіем).* Жаніцца ідзі, мядзведзь касалапы. *(Пагнаў яго перад сабой у хату.)*

Падышоў Пацук. На ім вайсковы мундзір, у белых рукавічках, на галаве стары капялюш, чорны, тугі, на шыі белы габляваны каўнярок, пры боку на паяску конаўка.

Пацук *(углядаецца на хату).* Прыказка нездарма кажа, багатаму чорт дзяцей калыша. Гаспадарка дыхт, воўк яго еш. Багаты гаспадар, усяго мае: і зямлю, і скаціну, і дачушку-сакатушку. Вось каб бог дапамог ажаніцца з ёй! Гэта ж я ў сваты прыпёрся.

Праксэда з хаты з абрусам.

Праксэда. А, каго бачу, Пацук!

Пацук. Здаравенька жывеш, воўк цябе еш. *(Зняў з левай рукі рукавічку, а правую ў рукавічцы падаў.)*

Праксэда. Нешта ты па-святочнаму?

Пацук. Не зусім яшчэ. У мяне здарэнне было.

Праксэда. Якое ж?

Пацук. Кот манішку з'еў.

Праксэда. Як жа гэта?

Пацук. Быў я ў гасцях і еў там верашчаку з салам. Ну, вядома, абкапаў салам манішку, а галодны мой кот як дабраўся, усю манішку спляжыў, толькі шпоначку і пакінуў.

Праксэда. Не шанцуе табе.

Пацук. Не бяда. Ажанюся, спраўлю.

Праксэда. Жаніся, жаніся, я сваццяй буду.

Пацук. А чаму не цешчай?

Праксэда. Магу і цешчай. *(Хоча засцілаць стол.)*

Пацук *(набок).* Адкуль ёй вядома, што я ў сваты прыйшоў? А каго гэта, цётка Праксэда, у госці жджэш?

Праксэда. А каго ж мне ждаць, вядома, цябе.

Пацук. Ну, калі так, давай памагу.

Уладзіслаў Галубок.
*1923 г.*



Уладзіслаў Галубок
сярод беларускіх
пісьменнікаў.





Дочкі пісьменніка і зяць мастак Я. Ціхановіч на вечары, прысвечаным 90-годдзю У. Галубка.



Ганак дома на вуліцы Праваднай, дзе жыла сям'я У. Галубка.



У. Галубок. Краявіды. *20-я гады.*



У. Галубок. Лясны ручэй.



Слухаючы музыку-дудара.
*Пачатак 30-х гадоў.*







Дзеці У. Галубка.
*Злева направа:*
Багуслава, Вільгельміна,
Эмілія, Леапольд, Эдуард.



Дзяржаўная Беларуская трупа «пад загадам Галубка».



Пасля чарговага канцэрта.







Ядвіга Аляксандраўна. *1925 г.*

Ядвіга Аляксандраўна
на сцэне. *1926 г.*

Малодшы сын У. Галубка
Сігізмунд у ролі дзяўчынкі-сіроткі
з п'есы «Ганка».



Уладзіслаў Галубок. *20-я гады.*







У. Галубок на сцэне. У ролях: вар'ята з п'есы «Васіль Хмель»; Міхалкі з аднайменнай п'есы Далецкіх; урадніка з п'есы «Бязродны».

П р а к с э д а. Ну, засцілай, а я ў хату пайду. *(Пайшла.)*

П а ц у к *(заслаў)*. Якраз у пару. Цяпер бы чарачку гарэлкі ды лытку парасячую, вось добра было б.

П р а к с э д а *(выносіць з хаты бутэльку гарэлкі і некалькі кілішкаў)*. Вось і гарэліца! *(Аддае Пацуку, а сама — назад.)*

П а ц у к. А бацюхны мае, толькі памысліў аб гарэліцы, бах, і ёсць. Ану, чарачку, дзядзька Пацук! *(Наліў, выпіў і зморшчыўся.)* Э, гэта малая, ану нашу, плытніцкую. *(Адвязаў конаўку, наліў і п'е.)*

Падышла К а с я.

К а с я *(убачыўшы Пацука)*. На здароўе, дзядзька Пацук.

П а ц у к. А... мая канапелька, як жывеш, воўк цябе еш.

К а с я. Жыву.

П а ц у к. А я занудзіўся па табе.

К а с я. І я занудзілася, як не было Пацука.

П а ц у к. Цяпер табе павесялее, я штодня буду з'яўляцца да цябе, песні буду пець.

К а с я. І ўсё ж будзе нудна.

П а ц у к. Цяпер мае песні за душу бяруць. Гэта калі на голас успаду дый калі зацягну, кроў стыгне.

К а с я. Эх, дзядзька Пацук, чаму ўсё так?

П а ц у к. Нічога дрэннага. Воўк цябе еш.

К а с я. Каб ведалі, як горка на сэрцы.

П а ц у к. Чарку выпі і пацалункам закусі.

К а с я. Не да жартаў мне.

П а ц у к. Яно і мне не да жартаў, хачу, значыцца, сягоння скончыць справу. Годзе бабылём жыць. Скажы мне, падыходжу да густу?

К а с я. Аб чым гэта, Пацук?

П а ц у к. Ажаніцца з табой. *(Падцягнуў штаны.)*

К а с я. Позна адумаўся. Сэрца ж маё належыць другому.

П а ц у к *(здзіўлена)*. Другому? Каму ж гэта, каму? Тут жа прыгажэйшых хлапцоў за мяне і няма. *(Паўза.)* Ці не Андрэю толькі?

К а с я. Вось і памыліўся.

П а ц у к. Тады я не ведаю. Але Андрэю ты не вер, бо ў яго там на чужыне жыдовачка Прыся засталася.

К а с я. Кажаце, Прыся?

П а ц у к. А так, Прыся. Прыгожая, як макаў цвет. Улюбілася, бядачка, і засталася адна. *(Кася задумалася.)* Падумай, Касютка, падумай, пашкадуй мяне, гаротнага, верны я табе буду да магілы, а любіць буду, воўк цябе еш...

К а с я. Дзядзька Пацук, вы не лжыцё?

П а ц у к. Пальцы крыжам складаю, любіць буду да магілы.

К а с я. Ды не тое зусім. Скажыце мне, ці далёка яна, тая Прыся?

П а ц у к. Далёка, у другой губерні.

К а с я. Хто з нас прыгажэй?

П а ц у к. Яна прыгожая, як макаў цвет.

К а с я. Часта ён спатыкаўся з ёй?

П а ц у к. Штодня, а ў момант ад'езду ўчарэпілася яна яму за шыю і ў адзін голас крычыць: «Не пушчу», а ў самой слёзы ракой.

К а с я. Дзядзька Пацук, і гэта праўда?

П а ц у к. Не верыш, хадзем у царкву, крыжам лягу, каменне есці буду, папа з'ем.

К а с я. Усё, што казалі, самі бачылі?

П а ц у к. Усё бачыў.

К а с я. Нашто я яму верыла? *(Кажа гэта ў роспачы.)*

П а ц у к. Нашаму брату ніколі не вер, усе мы гэткія.

Выходзяць з хаты Т а м а ш, П р а к с э д а, Б а з ы л ь, В а с і л ь і Д а м і ц э л я.

Т а м а ш. Сюды, мае дарагія госці, сюды. А! І Пацук тут?

П а ц у к. Як бачыце, тут.

Т а м а ш. Ну добра, госцем будзеш, гуляць будзем заручыны.

П а ц у к. Якая гульня, калі яна не хоча ісці за мяне.

Т а м а ш *(са смехам).* За цябе? Э... у мяне другі зяць ёсць. *(На Васіля.)* Во!

П а ц у к *(зусім апешыў).* Вось табе і на. А я спадзяваўся.

Т а м а ш. Ну, мае дарагія, гукнем на ўсю ваколіцу, што Васілёк мой зяць.

Пры апошніх словах падышоў А н д р э й, які гэта чуў, а за ім ззаду паводдаль пайшоў А д з і н о т а.

В а с і л ь. Дзядзенька, дзякую вам.

Т а м а ш. Кася, ухілі калена: ты яго жонка.

Кася стаіць, як слуп, у задуменні.

Т а м а ш *(грозна)*. Кася!

Кася павярнулася і ўбачыла Андрэя.

А н д р э й. Кася!

Пацук убачыў Андрэя — спалохаўся.

К а с я. Позна, мілы мой, на цябе чакае Прыся. *(З імпэтам.)* Благаславіце, тату! *(На каленкі.)*

Т а м а ш. Будзьце шчаслівы, мае дзеці. *(Благаслаўляе.)*

Пацук узяў за карак Васіля, які глядзеў на Касю, і паказаў на Андрэя.

В а с і л ь. А што, басяк, наша бярэ!

А н д р э й. Ах, так! *(Выцягнуў з халявы нож і хацеў кінуцца на Васіля.)*

Пацук кінуўся між імі, схапіў упол Андрэя, нож выпаў.

Т а м а ш, Б а з ы л ь *(пачалі крычаць.)* Да ўрадніка, да ўрадніка!

Андрэй хацеў зваліць Пацука, але тут падышоў Адзінота, ірвануў з сілай яго за руку, адкінуў у другі бок, грозна крыкнуўшы: «Ты што гэта, здурэў?» Андрэй плюнуў і пайшоў.

З а с л о н а

## АКТ IV

Дэкарацыя III акта. У хаце вясельныя спевы і гоман гасцей. К а с я апранута ў шлюбны ўбор, сядзіць на лаўцы ля авансцэны, заплаканая. Д а м і ц э л я ля яе.

Д а м і ц э л я. Позна цяпер плакаць, дарэмна слёзы ліць, не паслухала маёй парады, гуляй кадрыль з дурнем. Бацькі дапамаглі, каб ім вочы павылазілі, на грошыкі паквапіліся.

Было гэтак і мне. Калісь хлапца кахала, бацькі перайначылі, выдалі, за каго яны хацелі.

К а с я. Я сама вінна — ніхто другі.

Адчыняюцца дзверы, і ўся в я с е л ь н а я д р у ж ы н а з музыкай, апрача Васіля, выходзіць з песняй з хаты. М о л а д з ь падышла да Касі.

Праксэда. Дзяўчаткі, а цяпер заспявайце да маладой. *(Пяюць.)* А цяпер да свата. *(Пяюць.)*

Затым пачалі ўсе пад музыку скакаць.

Базыль *(як скончыў скакаць)*. Ну й далі гарту, аж у баках лапоча.

Тамаш. На тое вяселле, кумок.

Праксэда. Стыдзіся, кум, яшчэ не стары.

Базыль. Дыхавіца, цецярук яе рэж.

Тамаш. Вадзіцы сербані.

Базыль. Лепш гарэліцы.

Праксэда. Тады ў хату пойдзем. Музыкі! За мной! *(Адыходзячы.)* Дзяўчаткі, давайце маладую сюды. *(Пайшлі ў хату, а за імі і моладзь пайшла. Некалькі дзяўчат запрашалі ў хату Касю, але яна не пайшла.)*

Кася *(адна)*. Эх, доля, доля, што мяне чакае? *(Пайшла за хату.)*

Пацук вядзе за сабою некалькі маладзейшых плытнікаў. Тут Адзінота, Гапцуль, які сягоння ў лепшым падрасніку.

Адзінота. А ўсё ж ты мне скажы, нашто ты нас прывалок сюды?

Усе. Але, нашто?

Гапцуль маўчыць.

Пацук. Ну, цяпер скажу. *(Паўза.)* На вяселле. Дачка Тамаша замуж выходзіць. Чаму ж бы не пагуляць і нам?

Адзінота. Так бы і казаў. Я далей не йду.

Пацук. А чаму?

Адзінота. Я супраць усялякага вяселля. Вяселле — гэта спосаб павелічэння бяды і няшчасця на свеце. А я — вораг гэтага. Адзінота — раз, а па-другое, я, басяк, не пазволю сабе быць у кампаніі з таўстапузым, ён мне не пара.

Усе *(апроч Гапцуля)*. І нам ён не пара.

Выйшаў з хаты Тамаш.

Тамаш. Кася, дзе ты? *(Убачыў плытнікаў.)* А гэта што, чаго пазбіраліся?

Пацук. На вяселле прыйшлі, воўк цябе еш.

Тамаш. А хто ж вас клікаў?

Пацук. Ды так, значыць.

Тамаш. Не прошаныя?

А д з і н о т а *(да Пацука)*. Слухай ты, галавешка асмаленая, ніхто да яго на вяселле, апрача цябе, не ішоў. *(Да Тамаша.)* Не палохайся, бычок божы, хлеба твайго есці не будзем.

Т а м а ш. Ну, дык прашу за пагодай, а то колікам папрашу.

А д з і н о т а. Хаця ты нас спалохай.

Т а м а ш. А вось як агрэю! *(Павярнуўся, каб узяць кол; у гэты час Адзінота, быццам сабака, ірвануў яго за нагу. Тамаш спалохаўся, павярнуўся і, як убачыў, што гэта не сабака, зноў хацеў хапіць кол. У гэты час Адзінота ўзяў венік, які стаяў за плотам, і перацяг яго па спіне. Тамаш расцягнуўся, усе плытнікі рагочуць, апрача Пацука. Ён пачаў паднімаць Тамаша, а Гапцуль памагаць.)*

А д з і н о т а *(да Тамаша)*. Уцякай лепш у хату, а то без барады застанешся.

Т а м а ш. Прахвосты, недавяркі.

А д з і н о т а. Чаго з ім займацца. Гуляе, няхай гуляе.

К у ч м а. Гуляй здароў, парсюк таўстабрухі.

Т а м а ш. Басякі, барбажынцы.

А д з і н о т а. Конік пана Езуса. *(Пайшлі, апрача Пацука і Гапцуля.)*

Т а м а ш. У госці прыйшлі, басяч'ё. *(Да Пацука.)* Ты, Пацук, застанься. Гэта не да цябе.

П а ц у к. Дзякую за пашаноту.

Т а м а ш. Ідзі ў хату і сядай за стол. *(Толькі хацеў ісці ў хату.)*

Гапцуль бачыць, што яго не запрасілі, закашляў.

П а ц у к *(смеючыся, да Тамаша)*. А во, яшчэ адзін.

Т а м а ш. І табе за сталом месца будзе.

Г а п ц у л ь. Радуюся добраму слову.

Т а м а ш. Цяпер ты плытнік, але раней каля хвалы боскай хадзіў.

Г а п ц у л ь. Хадзіў, браток, хадзіў.

П а ц у к. Вельмі блізка падышоў, царкву абакраў, прагналі.

Т а м а ш. Ну, дык пайшлі. *(Сам пайшоў у хату.)*

П а ц у к. Пойдзем, слуга божы. Мы з табой плытніцкую польку згуляем.

Чуваць у хаце, як музыкі граюць польку.

Гапцуль. Ці мне да танцаў, мне аб збавенні душы...

Пацук. Э, усё роўна, як памрэш, чэрві з'ядуць і цябе, і тваю душу. *(Прытопваючы.)* Ну...

Гапцуль разварушыўся, пачынае прытоптваць. Скачучы, удвух уваходзяць у хату. Праксэда выйшла з хаты.

Праксэда *(у дзвярах)*. Пацук, ці не бачыў ты нашу маладую?

Пацук. А дзе яна?

Праксэда. У хаце няма, недзе згінула.

У гэты час з-за хаты выйшла Кася.

Пацук. А вось яна.

Праксэда. Дачушка, маладая жонка, дзе ты хаваешся? Маладым спяваў, спяваў, ды ўжо плакаць пачаў. Годзе сумаваць. *(З гонарам.)* Гэтакі хлапец.

Пацук *(набок)*. Печаная рэпа. *(З агідай.)* Хлапец.

Праксэда. І грошы, і зямля, і гаспадарка.

Кася *(іранічна)*. Вам будзе выгада.

Праксэда. А пры багацці і каханне знойдзецца. Праўда, дзядзька Пацук?

Пацук. Не веру, каб знайшлося.

Тамаш з хаты кліча праз дзверы Праксэду.

Праксэда. Іду ўжо, іду. *(Пайшла.)*

Пацук *(застаўся)*. Слухай, Кася, не маленькі я, добра разумею, што ў цябе на сэрцы творыцца, трэба ведаць, што поп вузла завязаў, еш цяпер гэту кашу.

Кася. Судзіць лёгка, дзядзька Пацук.

Пацук. За Прысечку і калатня пайшла, а калі добра разабрацца, так Андрэй не вінен, любіў ён цябе і цяпер душу гатоў аддаць.

Кася задумалася.

Пацук *(набок)*. Нейкае нялюдскае каханне. *(Паўза.)* Годзе табе кіснуць, хадзем у хату, чарку гарэлкі з табой вып'ю. *(Паўза.)* Ну! Хадзем, Касютка, сядзем, як галубочкі, вось гэтак, абнімемся, я падніму сваю чарку *(паказаў на конаўку)* і закрычу: горка! Дзівуйцеся, людзі, як Пацуку добра.

Кася. Дзядзька Пацук, схадзі на плыты, пакліч мне Андрэя.

П а ц у к. На плыты? Нашто ён табе?

К а с я. Я прашу, пакліч мне Андрэя.

П а ц у к. Ды ён пэўне ўжо ашалеў, бо да гэтага часу галавой аб бярвенне біўся.

К а с я. Зараз жа бяжы на плыты.

П а ц у к. Ды як жа будзе, я ж галодзен, хацеў крышку падмацавацца.

К а с я. Паспееш, усё будзе.

П а ц у к. Пакуль я вярнуся, госці ўсё пажаруць.

К а с я. Усяго не з'ядуць.

П а ц у к. Хто? Гэтыя абжоры? Ведаю я іх.

К а с я. Пацук, ідзі.

П а ц у к. Ну, зусім павадна поўзаць уначы па плытах, але раз так хочаш, пайду. Толькі скажы мамцы, каб выпіць ды закусіць пакінула. *(Пайшоў.)*

К а с я. Ах, што я ўчыніла? *(Села і заплакала.)*

В а с і л ь выйшаў з хаты з кветкаю на грудзях, п'янаваты.

В а с і л ь *(не пабачыўшы Касі)*. О, як я рады, маё вяселле адбылося, і Кася — мая жонка. Хто шчаслівейшы ад мяне? Я шчаслівейшы ў свеце чалавек! *(Пабачыў Касю.)* Кася, рыбка мая, ты тут? А я шукаю цябе. Кася, ты плачаш? Скажы, чаго?

К а с я. Ад радасці.

В а с і л ь. І я плакаў ад радасці. Пад'еў добра, а пасля плакаў, піў гарэлку і зноў плакаў. Кася, рыбка мая, хадзем у хату, гукнем, тупнем, ты ж мая...

К а с я. Дай мне спакойна пасядзець.

В а с і л ь. А можа, паклікаць сюды музыкаў?

К а с я *(сама да сябе)*. А што, калі не прыйдзе?

В а с і л ь. Усе ўжо прыйшлі, гасцей, як сабак, усе п'яныя. І я... п'яны, цяпер самы гарт, гарэлка ракой льецца.

К а с я. Ідзі ў хату.

В а с і л ь. Слухаю, рыбка мая, пайду і закамандую, каб зайгралі *(паўза)*, а што зайграць *(успомніў)*, ага, вось такую. *(Заспяваў «Лявоніху» і зваліўся з лавы.)* Ой, як весела жаніцца. *(Устаў.)* Кася, не плач, бацька твой абяцаў нам даць мех золата, а бацька мой мех серабра. Мех ды мех, будзе два. А два ды два, будзе... *(Думае.)* Мех — во які мех, панаваць будзеш, рыбка мая.

К а с я. Ідзі ў хату.

В а с і л ь. Іду. Музыкі, грайце, расчыняйцеся дзверы, шчаслівы муж ідзе. *(Пайшоў.)*

Кася. Як доўга няма. Мусіць, не прыйдзе. *(Паўза.)* Я сама пайду. *(Пайшла.)*

Базыль і Тамаш выйшлі з хаты. Базыль трымаецца за жывот.

Тамаш. Што, сваток, з табой?

Базыль. З'еў гэта я парася зашмат, і жывот пачаў балець.

Тамаш. Ага, так ты на зоры хочаш паглядзець?

Базыль. Але, глянуў бы.

Тамаш. Тады валі, брат, пад паветку, там усё неба капялюшам. *(Паказвае рукой, куды трэба ісці.)*

Базыль. Капялюшам. *(Адвязвае паясок, вешае яго на шыю.)* Ну, дык я зараз. *(Пайшоў.)*

Прыбег Пацук.

Пацук *(трымаючыся рукой за бок)*. Вось табе і паклікаў. Даў кулаком па баку, аж косці затрашчалі. Ашалеў, людзей не спазнае. Падыходжу і кажу: «Андрэй, цябе Кася кліча». А ён калі даў... Але мне трэба так, за язык, каб не збрахнуў, што каханне з Прысяй было, так і вяселля гэтага не было б, а так... *(Паўза.)* Ну, пабягу ў хату, а то, нябось, усё пажорлі.

Падышла Рэвека (яна хворая).

Рэвека. Дзядзька Пацук!

Пацук *(углядаецца)*. Прыся, ты?

Рэвека. Не спазналі? Я.

Пацук *(падышоў да яе)*. Ой, што з табой, хвора?

Рэвека. Хвора.

Пацук. І да каго ж ты сюды?

Рэвека. Пасля скажу. А цяпер скажыце, ці дазволяць мне прыпыніцца на начлег у гэтай хаце, ноч набліжаецца.

Пацук *(набок)*. Як жа тут быць? Ды яно, вядома, хаты другой няма, кругом вада.

Рэвека. Мне выгады не трэба.

Пацук. Не зручна тут, мая ты гаротная.

Рэвека. А чаму?

Пацук. Вяселле тут *(памыліўся)*. Андрэй жэніцца.

Рэвека *(ускрыкнула)*. Які, мой?

Пацук. Ды не, я памыліўся. Васіль жэніцца, Васіль.

Рэвека. Ах, як заныла сэрца. Вады, дайце вады.

Пацук. Хадзем, Прысечка, на бераг, тут нам быць не можна. *(Павёў.)*

Выйшаў з хаты Гапцуль.

Гапцуль *(выціраючы з галавы пот)*. Прости, господи, мое согрешение. Дыхаць няма чым, гэта не людзі, а стада свіное, цьфу, усё паелі, папілі і мне нічога не пакінулі, галодны на плыты ідзі. *(Панюхаў паветра, убачыў, што на сцяне вісяць шынкі, каўбасы.)*

А... вось дзе для мяне вячэра... А я дарэмна там на стале шукаў... *(Азірнуўся кругом, стаў на лаву і знімае каўбасы.)* Имущий да поделится с неимущим. Господи, будь милостив к рабу твоему грешному. *(Хутка пайшоў.)*

Прыйшоў Андрэй.

Андрэй. І нашто яна мяне кліча, няўжо яшчэ мала знявагі? Эх, доля, доля, як ты жартуеш са мной. *(Сеў на лаву.)*

Прыйшла Кася.

Кася. Андрэй!

Андрэй. Кася, за што ўсё гэта? Што добрага зрабіла ты?

Кася. Ты вінен гэтаму. Любіла я цябе, і што ж, у цябе была другая.

Андрэй. Была.

Кася. Ты любіў яе?

Андрэй. Любіў, гэта была святая дзяўчына.

Кася. Мне казалі інакш.

Андрэй. Я ведаю, Пацук. Дорага ён заплоціць за няпраўду, ой, дорага!

Кася. Я табе веру.

Андрэй. Позна, Кася, ты адумалася, глянь на сябе, убачыш.

Кася. Байкі, усё пад ногі кіну. Ну, скажы, мой дарагі, ты мой?

Андрэй. Кася, не муч, каго пытаеш?

Кася *(зрывае фату)*. Тады пад ногі гэтую прысягу, павінен згінуць прымусовы шлюб.

Андрэй. Ці мог я верыць?

Кася. Вер, Андрэй, што маё сэрца да цябе інакш не білася ніколі. Андрэй! Няма Прысі?

Андрэй *(з жалем)*. Няма.

Кася. Няма і Васіля. Пойдзем на плыты, а там у свет шырокі.

Андрэй. Кася, ці добра ты зразумела, што робіш?

Кася. Той, хто любіць, шкадаваць нічога не павінен.

Андрэй. А бацькі?

Кася. Тут будуць, а я з табой. Пойдзем, мой мілы.

Андрэй. Пойдзем, мая дарагая, мы з табой вольныя, як вецер. *(Зрабіў крок наперад і затрымаўся.)* Касютка, забяры сваю фанцінку, нашто ёй валяцца на зямлі.

Кася. Няхай мой малады павесіцца на ёй, зрабі пятлю яму. *(Пайшла.)*

Андрэй. Раз так, зраблю пятлю, вось яна, пятля, а кветкі забяру сабе на памятку. *(Прычапляе кветкі сабе да кашулі.)*

Прыбег Пацук.

Пацук *(убачыўшы Андрэя)*. Андрэй!

Андрэй *(грозна)*. Сабака, зарэжу! Набрахаў! *(Замахнуўся.)*

Пацук. Чакай, чакай, паслухай, цябе шукаюць.

Андрэй. Хто мяне шукае?

Пацук. Няшчасная дзяўчына. Цень смерці.

Андрэй. Хто такая?

Падышла Рэвека.

Пацук. Вось хто. *(Сам пайшоў.)*

Андрэй *(не адразу)*. Прыся, ты?

Рэвека. Не спазнаў, Андрэй?

Андрэй. Якая змена...

Рэвека. Не палохайся, мой дарагі, ну падыдзі, яшчэ раз гляну на цябе.

Андрэй *(падышоў)*. Прыся, што з табой?

Рэвека. Не зразумеў калісь мяне, то, можа, цяпер зразумееш, любіла я цябе, як ніхто другі, скалечыла сваё жыццё і праз гэта гіну.

Андрэй. Прыся, у чым мая віна?

Рэвека. Віны тваёй няма.

Андрэй. Любіў і я цябе, разлука наша мела вялікія прычыны. Я доўга мучыўся, не хацеў цябе аддаць. Ой, як не хацеў... Але пашкадаваў старога твайго бацьку, саступіў. І шчасця вашага я не парушыў.

Рэвека *(кашляе)*. Бачыш маё шчасце?

Андрэй. Прыся, гледзячы на твае намутнелыя во-

чы, мне страшна, што ты надумала, скажы, чым паправіць усё гэта?

Рэвека. Адкажы мне на два пытанні, адказ твой і паправіць.

Андрэй. Пытайся.

Рэвека. Як зваць тую, якую любіш ты?

Андрэй. Кася.

Рэвека. Дзе яна жыве?

Андрэй. Тут. *(Працягвае руку з фанцінкай.)*

Рэвека. Што ў цябе ў руцэ? *(Прыкрая паўза. Андрэй захваляваўся.)* Жыві, мой дарагі, будзь шчаслівы, а я, я пайду. *(Скранулася.)*

Андрэй *(да яе)*. Прыся! Дазволь сказаць табе, не маё гэта вяселле, не маё. *(Прытуліў яе да сябе.)*

Рэвека. А чыё?

Падышла Кася.

Кася *(убачыла)*. Так вось яна, дзе праўда? Ты гэтак плоціш мне за шчырасць. Ты хто — Прыся? Маё няшчасце?

Андрэй. Кася, апамятайся, каго ты крыўдзіш?

Кася *(грозна)*. Ворага свайго. Здрайца, ты вінен усяму, так будзьце вы прокляты. *(Пайшла.)*

Рэвека закашляла і апусцілася на лавачку.

Андрэй *(да яе)*. Прыся, мая дарагая Прыся.

Заслона

## АКТ V

Дэкарацыя II акта. Ноч. На тым самым месцы гарыць вогнішча. Справа ад гледача на саломе спіць Андрэй, больш нікога няма. Крадучыся, уваходзіць Тамаш.

Тамаш *(азіраючыся)*. І куды ж ён схаваўся? Няўжо ж мне не ўдасца ўлавіць гэтага прахвоста Андрэя і памсціць за сваю крыўду. *(Убачыў.)* Нехта тут ёсць... Ану, гляну хто. *(Крадучыся, падыходзіць.)* Ён... Андрэй. Спіць... Ага, нарэшце папаўся, брат, хоць бы хто не перашкодзіў. *(Кліча з кустоў.)* Хадзі сюды, хадзі...

Прыходзіць Васіль.

Тамаш *(паказваючы здалёку)*. Бачыш, ляжыць?

Васіль. Бачу, ляжыць.

Тамаш. Ведаеш, хто гэта?

Васіль. Не ведаю.

Тамаш. Гэта ж той, каго шукаем. Андрэй-плытагон.

Васіль. Так уцякайма адсюль.

Тамаш. Хіба ты здурнеў... цяпер уцякаць? Мы павінны памсціцца над ім, ты за жонку, а я за дачку, за Касю, значыцца.

Васіль. А што зрабіць?

Тамаш. Забіць сабаку — і па ўсім.

Васіль. Як забіць, чым забіць?

Тамаш. Нажом зарэзаць, як авечку.

Васіль. А хто заб'е?

Тамаш. Хто? Не ўсё роўна? Абы-хто, ну, хаця б ты...

Васіль *(засмяяўся)*. Я? А я ж не ўмею.

Тамаш. О-то ж дурны, не ўмею. Хіба ніколі ты не бачыў, як рэзалі курэй, свіней.

Васіль *(смеючыся)*. Бачыў, рэзалі, і сам душыў.

Тамаш. Так вось вазьмі і задушы яго.

Васіль *(смеючыся)*. А калі ён мяне задушыць?

Тамаш. А ты яго раней, вось гэтай цацкай *(дастаў нож)* па горлу — шась, і не зварухнецца.

Васіль *(беручы ў рукі нож)*. А востры, падла...

Тамаш. Востры, як агонь, яго тачыў я дні са два.

Васіль. А чый ён?

Тамаш. А ты хіба не спазнаў?

Васіль. Ды не.

Тамаш. Гэта ж нож яго. Запомніў, як ён цябе хацеў тады зарэзаць? Памятаеш?

Васіль. А... памятаю.

Тамаш. Ён гэты ножык тады страціў, а я знайшоў.

Васіль. А добра будзе, яго ж нажом ды па ўласным горле.

Тамаш. Лепш і не трэба.

Васіль. А пасля сяду сабе ў човен і паеду дадому, як пан.

Тамаш. Паедзеш, як пан.

Васіль зарагатаў.

Тамаш. Ну, годзе рагатаць. Ідзі дай, ён спіць.

Васіль. Іду.

Тамаш *(падпіхваючы)*. Смялей, смялей...

**Васіль толькі падышоў, як Андрэй праз сон адкінуў руку. Васіль спалохаўся.**

Т а м а ш *(трымаючы)*. Чакай, чакай, куды ты? Бі...

Васіль толькі замахнуўся, як пачуліся ў кустах галасы. Яны ўцяклі туды, адкуль прыйшлі. Прыйшлі А д з і н о т а і К у ч м а.

А д з і н о т а *(падышоў да Андрэя і бачыць, што ён спіць, да Кучмы)*. Скакаў, скакаў і даскакаўся. Бег за адной, скокнуў за другой. І ні той, і ні другой, а цяпер ляжыць каторы дзень.

К у ч м а. Слова не кажа, есці пакінуў.

А д з і н о т а. Марцовы кот. Нічога добрага ў галаве няма, адно каханне толькі.

К у ч м а. Ну, што хочаш — малады.

А д з і н о т а. Малады і дурны, за спадніцу гатоў свет перавярнуць. Ты ж чуў, ён жа Пацука абяцаў зарэзаць за тое, што ён нешта набрахаў.

К у ч м а. Ды аб гэтым усе ведаюць.

А д з і н о т а. Так што ж па-твойму, гэта розум?

К у ч м а. А хто ж кажа.

А д з і н о т а. Гэта ж дурань, грош цана такому чалавеку. Разумны чалавек і на плытах разумную справу зробіць, а гэты заблытаўся, у бабскіх спадніцах капошыцца і крычыць гвалт, з дарогі збіўся. Цьфу.

Крадучыся, на карачках падпаўзае П а ц у к.

П а ц у к *(ціха)*. Браточкі!

А д з і н о т а. А гэта яшчэ хто?

К у ч м а. Хто гэта?

П а ц у к. Гэта я, Пацук.

К у ч м а. Ты гэта чаго, як вужака, поўзаеш, па пацёмках? *(Паўза.)* Ну, чаго маўчыш, кажы.

П а ц у к. Браточкі, даражэнькія, скажу, а вы скажыце мне, дзе Андрэй?

А д з і н о т а. А... зразумеў цяпер. *(Да Кучмы.)* Гэта ж ён пужаецца Андрэя, зарэзаць яго хоча.

К у ч м а. А яшчэ салдат, баіцца смерці, сагнуўся, як той корч, і поўзае. *(Бярэ яго за карак.)* Уставай, райдун, сароміш свой мундзір... *(Пацук не ўстае.)* Уставай.

П а ц у к. Браточкі, не да жартаў, пятую ноч не сплю. Скажыце, дзе Андрэй?

А д з і н о т а. Не бачыш, хіба слеп — вунь ён спіць.

П а ц у к. Ён тут? Тады мяне няма. Не кажыце, што я быў. *(Папоўз ракам назад.)*

А д з і н о т а. Во, брат, храбрэц. Ха-ха-ха...

К у ч м а. А яшчэ на вайне быў...

Адзінота. Жарты жартамі, а Пацуку, брат, горача.

Кучма. Як ноч, так ён з плытоў стракача дае.

Адзінота. Не хоча з намі начаваць.

Кучма. Нічога — захоча.

Адзінота *(да Кучмы)*. Пячы бульбу. Павячэраем і спаць ляжам.

Кучма. А хіба ж ты не бачыў, я ўжо даўно спёк.

Адзінота. Ну, тады добра. Абудзім Андрэя, будзе весялей.

Кучма. Ці варта, няхай спіць.

Адзінота. Ды абудзі, шкада ж хлапца.

Кучма. Баюся, яшчэ нездаволен будзе...

Адзінота. Тады давай я. *(Падышоў да Андрэя і моцна крыкнуў на вуха.)* Андрэй!

Андрэй *(усхапіўся і кінуўся да яго, той наўцёкі, а Кучма схаваўся ў кусты)*. Сабакі. *(Пайшоў.)*

Кучма *(вылазіць з аднаго куста справа, а Адзінота злева)*. Ну што, як? Накарміў бульбай?

Адзінота. Прах яго забяры, самі будзем есці.

Кучма. Гэта, брат, сіла... Зачэпіць, рабра няма.

Адзінота. А ты ведаеш, з кустоў нейкі чалавек шухнуў, як убачыў мяне, не заўважыў?

Кучма. А хто яго ўгледзіць па пацёмках.

Падыходзіць Гапцуль і вядзе за сабою Пацука.

Гапцуль. Ды не палохайся, Пацук, смялей, антыхрыста ўжо няма. Як бура, пранёсся на плыты. *(Убачыў Адзіноту і Кучму.)* Вось тут яшчэ ёсць нашы.

Адзінота *(да Гапцуля)*. Што, ты нарваўся на яго?

Гапцуль. Мне страх, я крыжам і малітвай баранюсая ад врага і супастата, а вось Пацук няшчасны...

Пацук. Пятую ноч не сплю.

Гапцуль. Цяпер заснеш. Кладзіся.

Пацук. Браточкі, страшна.

Кучма. Кладзіся, дурны. Біць мы не пазволім, а калі трохі паласне нажом, глупства. *(Узяў вядро і пайшоў.)*

Пацук. Што вы, братцы, я жыць хачу.

Адзінота. Сам на свой хвост, як цюцька, набрахаў, а колькі бяды натварыў. Каханне было. Прысю любіў. А Кася, жартаў не спазнаўшы, вяроўку на шыю. І — бух...

Пацук топчацца на месцы.

Адзінота. Ну, годзе таптацца, як мядзведзь. Або кладзіся, або не матляйся перад вачмі.

Гапцуль. Табе ўсё жарты, а ён, бядак, мучыцца. Пятую ноч не спіць, баіцца смерці.

Адзінота. Падлі ў яго душу свянцонага алею, каб чэрці адгарнуліся.

Гапцуль. Бывала гэтак і са мной, калі страхі агорнуць маю душу. Я тады склікаю ўсіх святых, да кожнага асобна святое слова. Як памалюся добра, светла зробіцца.

Адзінота. Ну, дык чаго ж, выклікай святых, маліся.

Пацук. Запомніў я малітвы, як на плыты папаў.

Гапцуль. Нічога дзіўнага, усе бязбожнікі, антыхрысты.

Адзінота. Хочаш, навучу? У мяне малітвы плытніцкія, на вадзе складаў. Усе да вадзянога бога.

Гапцуль. Недавярак ты, чортава барадаўка. Вось я калі цябе аблаю.

Адзінота. Свянцоных зёлак яму дай ды алейчыкам святым лысіну прамаж.

Гапцуль. Язык табе прамазаць, каб не брахаў.

Адзінота. Лапці сабе прамаж, каб не трэскаліся.

Гапцуль. Кладзіся, Пацук, і спі, а я над табою святую малітву адчытаю.

Адзінота. Давай раней кадрыль станцуем.

Гапцуль. Ах, каб ты на вяроўцы танцаваў.

Адзінота. Пацук, расчыні мяліцу, глытаць святыя словы будзеш.

Гапцуль. Дай да хвалы боскай падысці. *(Пацук лёг.)* Вось так.

Адзінота. А цяпер пачынай.

Гапцуль *(шукае нечага)*. Свечкі няма.

Адзінота *(дае палена — кругляк)*. Галавешку запалі.

Гапцуль. Перастань брахаць.

Адзінота. Маўчу, ужо маўчу.

Гапцуль *(чытае)*. «От юности моея» і г. д.

Адзінота пабрэхвае сабакам.

Гапцуль *(у некаторых месцах, калі Адзінота перашкаджае, гаворыць малітву са злосцю.)* Усціхаміры́ўся, заснуў.

Адзінота. Чаму не, святое слова на зуб улавіў, ну, і спіць.

Гапцуль. Вядома, засне.

Адзінота. Давай, давай.

Гапцуль. Пачакай, брат, пажартуеш, як даляціць да неба твой дур.

Адзінота. А ты ведаеш, пудзіла, што ў небе адно паветра, і нават такога дурня няма там на смех.

Гапцуль. Слухай, або замоўкні, або я цябе малітвай абярну ў яловы куст.

Адзінота. Скажы гэтакаму асталопу, як сам, а я не паверу.

Гапцуль. Не перашкаджай спаць Пацуку, бачыш, святая малітва памагла — спіць.

Адзінота. Хочаш — абуджу?

Гапцуль. А чым жа ты яго абудзіш?

Адзінота. Ката паклічу.

Гапцуль. Дурныя твае жарты.

Адзінота. А вось глянь. *(Падышоў да Пацука.)*

Гапцуль. Нічога не зробіш, святая малітва — сцяна.

Адзінота. Бяры вочы ў жменю. *(Моцна крыкнуў.)* Пацук, хавайся, Андрэй з нажом ідзе!

Пацук усхапіўся ўцякаць. Гапцуль яго затрымаў, кажучы: «Ніякага Андрэя няма». Пацук боязна паводзіць вачыма, Адзінота рагоча.

Адзінота. І літаніі святыя не памаглі.

Гапцуль. Ды пакінь ты рагатаць.

Адзінота. Ну, шапчы сабе, шапчы, а я зараз пайду.

Гапцуль *(зноў жагнае Пацука)*. Кладзіся! *(Чытае малітву)*. Свяціцелі апосталы, 40 мучанікаў-гаротнікаў, вам рай і неба, нам сон патрэба.

Адзінота *(адыходзіць, разы два брахнуў сабакам і пайшоў.)* Ото ж дурны!

Гапцуль. Пашліце ў меру святую веру, каб вока драмала і доўга спала. Ні гром, ні пярун няхай не абудзіць пакуль. Міласць ваша апякункай будзе. Няхай спіць слуга ваш, як святы Карафаш. Бог ба слаў, бог ба слаў, свят, свят, свят. Вось і заснуў Пацук, сон змарыў яго. Як-ніяк, а святая малітва сілу мае. Ну, няхай усявышні бог будзе тваім апекуном, а я пайду ламачча пашукаю ды вогнішча большае раскладу, каб камары не

кусалі. *(Накрыў Пацука дзяругамі з галавой. Сам пайшоў.)*

Прыйшлі Жаўрук і Рэвека.

Жаўрук. Ну, вось мы і тут.

Рэвека. Зусім без сіл.

Жаўрук. Ды яно, вядома, на чаўне ехаць — гэта не на машыне. Трохі адпачні, а я Андрэя пашукаю, вось узрадуецца.

Рэвека. Які вы добры, дзядзька Жаўрук.

Жаўрук. Усе мы людзі. А па-другое, многа дабра і ты рабіла нам. Усё гэта ў памяці. Дарагі ты чалавек, ну і Андрэй душа. Такіх людзей цяпер няма. Ён жа і па сягоння любіць цябе. А тую Касю пакахаў толькі дзеля таго, што была падобна да цябе.

Рэвека. А я дарэмна пасудзіла яго.

Жаўрук. Нічагутка, паправім. Пасядзі хвілінку, а я зараз. *(Адыходзіць і бачыць, што нехта спіць.)* А хто ж гэта? А... Пацук наш. *(Пайшоў.)*

Рэвека *(адна)*. Мілы мой, дарагі мой Андрэй, дзе ты, я прыйшла да цябе. Прыйдзі хутчэй сюды. *(Прыслухоўваецца.)* Нехта йдзе. А можа, гэта ён? *(Прыглядаецца.)* О не, чужы, незнаёмы. *(Захавалася за куст.)*

Прыйшлі Васіль і Тамаш.

Тамаш *(пакінуўшы ззаду Васіля)*. Ну, здаецца, усё добра. Няма нікога, кругом ціха — спіць. Бі! *(Паўза.)* Ану, смялей... Бі. *(Падпіхае.)*

Васіль моўчкі, без паспеху падышоў, паглядзеў, а пасля размахнуўся і ўдарыў. За кустом Рэвека дзіка ўскрыкнула. Васіль спалохаўся, нож кінуў, уцёк, а Тамаш за ім. Прыйшлі Адзінота і Гапцуль з ламаччам.

Адзінота. Ці то мне здалося, ці нехта тут крычаў?

Гапцуль. Гэта сава, пціца господня, сваім крыкам усхваляе імя тварца ўсяленнай.

Адзінота. А як ні кажы, а твая малітва памагла Пацуку, спіць.

Гапцуль. Бог паслаў яму сон за тое, што ён богабаязны — верыць.

Адзінота. Ну, цяпер ты мне пашапчы, можа, я засну.

Гапцуль. Табе не паможа, бо ты ў бога не верыш.

Адзінота. Як радзіўся, не веру.

Гапцуль *(падняў нож)*. Што гэта, нож?

Адзінота. Чый?

Гапцуль. Нож Андрэя, але ў крыві.

Адзінота *(устаў)*. У крыві, чыя ж гэта кроў? *(Вялікая паўза, глядзяць адзін на другога, а пасля са страхам глядзяць на Пацука. Адзінота падышоў, падняў дзяругу і закрычаў: «Зарэзалі!»)*

Гапцуль. Гэта ж ён, Андрэй, зарэзаў, яго нож. *(У гэты час уваходзіць Андрэй.)* Ага, гэта ты, ты памсціўся над чалавекам, зарэзаў. Вось твой нож.

Адзінота. Не спадзявайся, брат, не спадзявайся.

Андрэй кінуўся да Пацука. У гэты час Гапцуль пачаў ззываць людзей, а Адзінота схапіў Андрэя ззаду. Тут набеглі плытнікі, пачалі вязаць Андрэя, той не даецца.

Андрэй. Братцы, гэта не я... братцы, што вы? *(Вяжуць.)* Ну, што ж, калі я вінен — вяжыце!

Выскачыла Рэвека.

Рэвека *(моцна)*. Стойце! *(Усе ўспалашыліся.)* Не ён зарэзаў, не ён! Я тут была і бачыла!

Усе. Прыся, ты?

Рэвека. Я! Не ён зарэзаў, забойца ў кустах сядзіць!

У гэты час выскачыў Васіль.

Рэвека. Вось ён.

Васіль *(як убачыў, што Андрэй жыў)*. Андрэй? *(Глянуў на труп Пацука.)* Не яго хацеў зарэзаць, а вось каго.

Адзінота. Так гэта ты? *(Развязвае рукі Андрэю.)*

Васіль. Я. Дзядзька Тамаш падгаварыў. І ён тут. *(Пабег. Усе плытнікі за ім. Засталіся Андрэй і Прыся.)*

Андрэй *(кінуўся з плачам да Прысі)*. Прыся, мая дарагая, Прыся!

Прыся. Не плач, Андрэй, не плач!

Заслона

# ВЕТРАГОНЫ

*Камедыя ў чатырох актах*

## АСОБЫ

Бабка, 60 гадоў.
Фрося, яе ўнучка, 18 гадоў.
Яе маці, 40 гадоў.
Свацця, 35 гадоў.
Ігнат, 23 гады.
Сцяпан, 23 гады.
Каваль Пётра, 25 гадоў.
Агент вышуку, 30 гадоў.
Грыбоўскі, 40 гадоў.
Губарэвіч, 50 гадоў.
Міліцыянер, статыст, госці, музыкі.

## ТЫПЫ І ХАРАКТАРЫСТЫКА

Бабка — мяшчанская баба, сівая, вельмі рухавая.
Фрося — звычайная мяшчанская дзяўчына.
Маці — мяшчанская баба.
Свацця — хітрая баба, вельмі рухавая, вастраносая, рыжая.
Ігнат, Сцяпан — прыгожа апранутыя хлапцы — жулікі.
Каваль — вясковы хлапец, камуніст, апрануты бедна.
Грыбоўскі — камічны тып, носіць жоўтую кашулю і камізэльку зверху, у цвёрдым капелюшы.
Губарэвіч — таксама камічны тып мешчаніна, зусім лысы, бяззубы.

## ДЭКАРАЦЫЯ

Мяшчанская кватэра праз усе акты, пасярэдзіне і па баках дзверы і адно акно, звычайная мэбля, столік з шуфлядай.

# АКТ ПЕРШЫ

На сцэне **Фрося** — падмятае падлогу. Гадзіннік б'е 6.

**Фрося.** Шэсць, шэсць, шэсць. Зараз ля акна будзе бегчы мой каваль, закураны, замурзаны. Ах, хоць бы хутчэй!.. Як я занудзілася.

Уваходзіць **маці**.

М а ц і. Ты з кім, Фросечка?

Ф р о с я. З кавалём, мамачка, з кавалём.

М а ц і. Ды яго ж тут няма.

Ф р о с я. Яно ж пэўна няма, але я так яго люблю, што мне здаецца, быццам ён тут.

М а ц і. Радуюся гэтаму, дзеткі, радуюся, добры ён хлапец, з ім будзеш жыць, што казачку чароўную слухаць.

Ф р о с я. Рэч вядомая, што буду; праз месяц вяселле.

М а ц і. А месяц не век, пройдзе, і не агледзішся.

Ф р о с я *(гледзячы ў акно)*. Ідзе, ідзе. Пётрачка мой ідзе!

М а ц і. Ну, вось і добра, пераймі яго, прыгалуб пасля цяжкай працы.

Ф р о с я. Што пераймі? Што прыгалуб? Я проста праз акно вазьму ды і пацалую.

М а ц і. А ці можна, Фрося, да шлюбу цалаваць хлапца?

Ф р о с я *(фыркнула)*. Што вы, мамачка. Такое глупства цяпер можна.

М а ц і. Гэта цяпер, а ў наш век, бывала, хлопец дзеўку сягоння пацалуе, заўтра просіць у бацькоў згоды — жаніцца павінен.

Ф р о с я. Гэта было раней, а цяпер многа не гавораць, цалуй колькі хочаш і з бацькамі не гавары.

М а ц і. Эх, моладзь, моладзь, розаг вам трэба, розаг!

Ф р о с я. Не вучыце, мамачка, нас, цяпер мы вас навучым.

М а ц і. Ну і ветрагон ты... У каго толькі ўдалася?

Ф р о с я. Па бабцы пайшла, вось як.

М а ц і. Вось добра, што ўспомніла: ці бабка яшчэ не вярнулася?

Ф р о с я. Як бачыце, няма.

М а ц і. Звар'яцела баба на старасці, звар'яцела, нехта наплёў ёй аб вайне, яна бах — дом прадала.

Ф р о с я. І добра зрабіла. На ліха ёй дом,— прыйдзе сюды кітаянец з англічанкай, газамі задушаць.

М а ц і. Якая англічанка? Які кітаянец?

Ф р о с я. А такія, што за сінім морам жывуць.

М а ц і. Хто гэта сюды пойдзе, каму гэта не шкода

галавы; з бальшавікамі ваяваць — усё роўна што супроць ветру ісці,— паб'юць ушчэнт.

Ф р о с я. Ды што нам разбіраць, хто каго паб'е. Я хачу жыць, хачу гуляць, нічога не рабіць: не век сядзець мне з вамі і бачыць толькі праз акно стары хлеў і агарод.

М а ц і. І што ж ты думаеш рабіць?

Ф р о с я. А вось што, вазьму ад бабкі пасаг, пайду за Пётру замуж, пакінем гэта абрыдлае мястэчка і — гайда ў свет.

М а ц і. А ці ўпэўнена ты, што Пётра, чалавек разважны, пабяжыць за табой, каб гуляць і нічога не рабіць.

Ф р о с я. Нічагутка, націсну — пабяжыць...

М а ц і. Мне здаецца, ты памыляешся. Ён чалавек разумны, цвёрдай волі — камуніст.

Ф р о с я *(дражнячы)*. Камуніст, камуніст, не ведаеш, мамка, маўчы!

М а ц і. Глупства пляцеш, дзяўчына.

Ф р о с я. А не захоча Пётра, такой бяды, мала ёсць, ой, ой!..

М а ц і. Ды чаму няма, ёсць свістуноў, многа ёсць.

Ф р о с я. Абы добра свістаў — будзем неяк слухаць.

М а ц і. А ты, Фросечка, кінь пра свістуноў думаць, а трымайся каваля, ён працавіты і сумленны, не слухай дурных баб.

Ф р о с я. Ды што мне вашы бабы, у мяне свой розум ёсць. *(Да акна.)* Ну, мамка, вылазь, Пётра на парозе, ты нам перашкода, вылазь.

М а ц і. Ну і ветрагон, ну і малатарня! *(Пайшла.)*

Ф р о с я *(да акна)*. Ну, ну, хутчэй, хутчэй ідзі ў хату, у хату, я хачу на цябе глянуць замурзанага. Звар'яцею, дальбог, звар'яцею. Улюбілася ў хлапца і не ведаю, што чыню.

Уваходзіць к а в а л ь, відаць, што з працы.

К а в а л ь. Ну, вось і я.

Ф р о с я. Бачу, бачу, мой любы.

К а в а л ь. Толькі адарваўся ад працы, рукі не паспеў памыць.

Ф р о с я. І не трэба, я цябе хачу любіць вось гэтакага, у сажы, у мазалях!

К а в а л ь. Згода!

Ф р о с я. А пасля, як толькі мы пажэнімся, ты пакінеш кузню?

К а в а л ь. І што?

Ф р о с я. І будзеш са мною тут.

К а в а л ь. А жыць з чаго будзем?

Ф р о с я. На бабчыны грошы.

К а в а л ь. Ты што, жартуеш, каб я, рабочы, ды на гэткі спосаб. О не!.. Так не можна, ты ведаеш — ёсць такі закон: хто не працуе — той не есць.

Ф р о с я. Нашто працаваць? Яна прадала хату, грошай прынясе мех, пасаг будзе во!..

К а в а л ь. Пасагу мне не трэба, вось мой пасаг. *(Паказвае на рукі.)*

Ф р о с я. Значыць, кузню не пакінеш?

К а в а л ь. Значыць, не пакіну.

Ф р о с я. Дзіўлюся, як табе падабаецца кавальскі хлеб?

К а в а л ь. Падабаецца, яшчэ і як! Мне здаецца, калі я кую гарачае жалеза, я кую долю працоўных!

Ф р о с я. Ах ты, лантух з вуглём! *(Цалуе.)*

К а в а л ь. Ах ты, іскрачка яскравая!

Ф р о с я. Вось каб пабачыла мама, ото ж бы задала мне чосу!

К а в а л ь. А за што?

Ф р о с я. Яна ж мне забараніла да шлюбу цалавацца з табой.

К а в а л ь. І добра робіць.

Ф р о с я. А я не паслухаю і буду.

К а в а л ь. З кім?

Ф р о с я. Вось з кім! *(Пацалавала.)*

К а в а л ь. Ах ты мая сакатуха, як дарага мне ўсё гэта!

Ф р о с я. А ты мне даражэй усяго на свеце!

К а в а л ь. Радуюся гэтаму!

Ф р о с я. Ну, скажы, ці многа было працы? Як дзень прайшоў?

К а в а л ь. Дзень прайшоў уміг, а працы заўжды многа; адны калёсы ладзяць, другія — лемяшы, падковы коням падбіваюць, а я з кавадлам ваюю — бах ды бах, дым, агонь. *(Фрося адышла ад акна.)*

Ф р о с я. Ой, якая нудная размова — дым, агонь, калёсы, лемяшы... *(Глядзіць у акно.)*

К а в а л ь. А ты слухай і шануй мазоль рабочых рук.

Ф р о с я. Ой, ой, ой, які прыгожы хлапец ля акна пайшоў, блішчыць, як золата, глянь, глянь!..

К а в а л ь. Ну што ж, калі блішчыць, глядзі сабе. *(Адвярнуўся.)*

Ф р о с я. Ах, які ж ён прыгожы! Глянь! Глянь! Не такі, як ты.

К а в а л ь. І не сорам табе ў вочы кпіць? Тут і казаць не трэба — я не бліскучы і не прыгожы.

Ф р о с я. Даруй, мой родны, я пажартавала. Ты ж маё шчасце, ты ж мая радасць, і не бліскучы, і не прыгожы. Ну што, цяпер задаволен?

К а в а л ь. Ды я не спалохаўся, ведаю добра, што праз месяц ты будзеш маёй.

Ф р о с я. Я цяпер твая, глядзі на мяне колькі хочаш, цалуй колькі хочаш, і... толькі, а праз месяц запішы мяне на сваю фамілію.

К а в а л ь. Згода.

Ф р о с я. Але ж памятай, ты павінен даць мне волю, каб магла я жыць у горадзе, быць апранутай па модзе, а ты — пакінуць кузню.

К а в а л ь. І наняцца ў балаголы?

Ф р о с я. Не ў балаголы, а ў камісары. Зрабіцца начальнікам, сесці ў скураное крэсла, скураны партфель, сядзець, курыць і нічога не рабіць!..

К а в а л ь. О не, мая радасць! Усё гэта не па мне; камісарам я не буду, кавалём застануся.

Ф р о с я. Ну, тады я пакіну цябе.

К а в а л ь. Дзіўны ты чалавек, якога нельга зразумець, раз — так, раз — гэтак.

Ф р о с я. Я не магу зразумець цябе, капаешся ты век у ржавым жалезе і нейкую асалоду смакуеш у ім.

К а в а л ь. Так, гэта мая асалода, бо я рабочы. Праца — мой гонар, а пакінуць працу і сесці, як хочаш ты, злажыўшы рукі, гэта — выбачай. Я працую ў кузні, працую над сабой, хачу і цябе выцягнуць з гэтага мяшчанскага балота і накіраваць на іншы шлях.

Ф р о с я. І вось я ўзыду на новы шлях, з жалезным лемяшом у руках, а побач — ты з доўгай жалезнай качаргой, ха, ха, ха!..

К а в а л ь. Які дрэнны жарт.

Ф р о с я. Маўчу, маўчу, маўчу. Прашу прабачэння. *(Цалуе.)* Не верыш? *(Цалуе.)* Не верыш? Ну, дык і не трэба. *(Насупілася.)*

К а в а л ь. Ну вось і надзьмулася.

Ф р о с я. Але, надзьмулася.

К а в а л ь. І за што?

Ф р о с я. А так, ні за што.

Каваль. Ну, дык што ж цяпер рабіць?

Фрося. Анічога не рабіць, ідзі зараз да папа і скажы, што адна шалёная дзяўчына, якая завецца Фрося, хоча пайсці замуж, і больш нічога.

Каваль. Да папа я не пайду, а ў загс напэўна.

Фрося. У загс?

Каваль. Так, у загс.

Фрося. Ну, тут я ведаю, я з табой пайду куды хочаш, а бабка паставіць кол; ты ж сам ведаеш, яна хоча, каб з папом ды ў царкве, па-старому. *(Адыходзіць да акна.)*

Каваль. А мы бабкі не паслухаем ды зробім па-новаму.

Фрося *(стоячы пры акне)*. Ах, ён зноў ідзе... а там другі, трэці, глянь, глянь, што за роскаш!..

Каваль. Ну, дык чаго ж, падабаецца — бяжы!

Фрося. Нашто бегчы, пальцам кіўну — самі прыйдуць!

Каваль. Вецер ты, і толькі.

Фрося. Ага, спалохаўся, а вось вазьму дый выйду за якога франта.

Каваль. За жанатага?

Фрося. Як так?

Каваль. А так, цяпер куды ні кінь, усё ў жанатага пападзеш.

Фрося. Будзе для мяне і нежанаты.

Каваль. Глядзі, каб не апяклася.

Фрося. Будзе, будзе, хоць ты і кажаш, што цяпер усе жанатыя, але гэта няпраўда, адзін застаўся.

Каваль. Нябось, той бліскучы.

Фрося. І не бліскучы, а так сабе, вось гэтакі. *(Пацалавала.)*

Каваль. Як лоўка ты ўмееш зубы маляваць.

Фрося. У гэтым жа наша здольнасць.

Каваль. Ну, вось што, Фрося, на гэтай здольнасці далёка не паедзеш. Прыходзь сягоння да мяне, пачну цябе знаёміць з ведамі навукі.

Фрося. Якое навукі?

Каваль. Ды патроху аб усім,— газеты пачытаю, растлумачу, навучу цябе.

Фрося. Згода. Калі прыйсці?

Каваль. Як сонца сядзе ў садках.

Фрося. Буду. *(Чутны за дзвярыма галасы.)* Бабка

ідзе. Пойдзем, брат, сюдой. Ну, хутчэй, кавальскі мех. *(Пайшлі ў бакоўку.)*

Уваходзяць бабка і свацця.

Свацця *(адчыніўшы дзверы, упускае бабку)*. Калі ласка, родненькая, калі ласка, прыказка нездарма кажа, грошыкам і месца і пашана.

Бабка *(кінуўшы мяшок з грашыма на стол)*. Ох, як у баку закалола. Каб яму гэтак цяжка было жыць, як мне цяжка было цягнуць. І трэба ж, напёр гэтулькі медзякоў, каб з яго дух выперла.

Свацця. Цар меў золата, а бальшавікі медзь!

Бабка. Не галёкай так, яшчэ пачуюць ды пасадзяць.

Свацця. І то праўда, лепш маўчаць. Яны ж не любяць грошы ды людзей багатых.

Бабка. Ім па сэрцу, калі б грошы здаў у банк.

Свацця. Банк? Што вы, панічка, як можна, які банк, не сягоння-заўтра ўзнімецца з кітайцамі вайна, што тады?

Бабка. І я кажу, тады шукай у полі ветру.

Свацця. А там націсне англічанка, усё сатруць на порах.

Бабка. Вайны то я баюся, асабліва англічанкі.

Свацця. Англічанка што, глупства, вось кітайцы, калі шугнуць...

Бабка. А іх жа многа.

Свацця. Як мурашак,— жоўтыя, худыя, нібы ваўкі галодныя.

Бабка. Ой, не кажы, баюся.

Уваходзіць маці.

Маці. Ну што, мамачка, атрымалі грошы?

Бабка. Хіба сляпа, не бачыш, атрымала.

Свацця. Выплацілі ўсе, на зэкс!

Бабка. Напёрлі медзі, серабра...

Свацця. І чырвончыкі ёсць.

Маці. І дзе іх цяпер дзець, хоць бы не ўкралі?

Бабка. У цябе пытацца не буду!

Свацця. І я кажу, абы былі, а месца будзе.

Маці. Так то яно так, але боязна.

Бабка. Ну, годзе стагнаць, не наганяй сырасці.

Свацця. Цяпер бы толькі падлічыць ды ў парадачак паскладаць, няхай адпачываюць з богам.

Маці. Трымаць у хаце?

Сваццi я. А няўжо ж у банк!

Маці. Ведама, у банк.

Бабка. Ну, гэта справа не твая, куды захачу, туды і пакладу.

Сваццi я. Аддаць у банк — усё роўна што на вуліцу.

Бабка. І я кажу, прыйдзе галодны кітаянец, шухне газу — будзе табе банк!

Маці. Ды кіньце глупства плесці. Хто сюды пойдзе? Каму трэба гузак на галаву?

Бабка. Я ведаю каму. Папытай у сваццi.

Сваццi я. Праўда, панічка, праўда, Кітай ужо ідзе.

Маці. Адкуль вам ведама?

Сваццi я. Мне? Вы хіба жартуеце? Пачытайце святое пісанне, што яно кажа?

Маці. Нічога яно не кажа. Брэша!

Бабка. Во, каб табе язык адубеў, чулі?

Сваццi я. Святое пісанне кажа: «І како оплецецца стальнымі шнурамі, земля і стадо ўцерахом свайго пастыра»,— цара, значыцца.

Бабка. А цара ж няма.

Сваццi я. «І тады прыйдохам із-за мора сіняга Кітай, а за ім па ветры прыляціць англічанка, паддадуць веліе зело газу смердзючага і ўмертвяхом весь род чалавечы». Во!

Бабка перажагналася.

Маці *(да сваццi)*. А ты нябось застанешся, цябе ніякі газ не пройме. Цьфу. *(Пайшла.)*

Сваццi я *(услед)*. Ой, які ж вы адсталы алімент.

Бабка *(услед)*. Слухай, баба, прыкусі язык.

Сваццi я. Яна не верыць, ёй трэба нейкіх довадаў! Каму не ведама, што англічанка з намі біцца хоча, а нашы камісары па рылу кулаком далі, а тут Кітай на дапамогу вылез, замасцілі і яму.

Бабка. Няўжо далі?

Сваццi я. Ды яшчэ як!

Бабка. Як жа гэта ім дало спаткацца: дзе англічанка, а дзе мы?

Сваццi я. Ды па тэлефону, значыцца, адзін другога і аблажылі!

Бабка. Па тэлефону біліся?

Сваццi я. А што ж тут дзіўнага, цяпер гэткі век — тут гаворыш, за граніцай чуваць — па радыю, значыцца.

Б а б к а. Дзіва, і толькі!

С в а ц ц я. У іх гэтак, калі захочуць адзін другога павіншаваць, зараз па тэлефону — круць, круць гэтак ды так, каб цябе пакруціла.

Б а б к а. Усё кажа за вайну, чуе маё сэрца, вайна будзе.

С в а ц ц я. Будзе, панічка, будзе, бо як на безгалоўе моладзь без памяці жэніцца, у царкве чарга стаіць, поп не ўпраўляецца крыжам махаць.

Б а б к а. Гэта, галубачка, прыкмета.

С в а ц ц я. А ведама, прыкмета. Дый людзі старыя кажуць, дзеці родзяцца — вайна будзе, а цяпер дзеці як з меху сыплюцца, што ні дзень — коп з восем, а паміраць — не паміраюць.

Б а б к а. Усё кажа, што вайна будзе.

С в а ц ц я. А як жа, панічка, з Фросяй мысліце, няўжо на марынад дзяўчыну захаваеце?

Б а б к а. Чаму на марынад, у яе ж каваль прыгожы ёсць.

С в а ц ц я. Каваль? Ха, ха, ха!.. Панічка, ці ж каваль чалавек?

Б а б к а. А чым ён дрэнны?

С в а ц ц я. Пры гэтакім багацці ды каваль, фэ!.. Не каваль павінен быць зяцем, а туз — во!

Б а б к а. Адкуль тыя тузы?

С в а ц ц я. Як та адкуль? А я не раздабуду жаніха? Якая ж я свацця? Нашто ж тады жыць? Мой хлеб гэтакі: я і сваццяя, і фактарка, трэба пажаніць — пажаню, трэба развесці — развяду. Пасватаю, панічка, хлапца... на зэкс... З добрай пасадай, набожны, з царквы не вылазіць.

Б а б к а. Толькі каб, божа барані, не камуніст!

С в а ц ц я. Што вы, панічка. З камуністамі да ладу не дойдзеш. Камуніст сёння запісваецца, а заўтра выпісваецца.

Б а б к а. Гэтак, гэтак...

С в а ц ц я. Я пасватаю меншавіка...

Б а б к а. Меншавіка? А што гэта за звер?

С в а ц ц я. Меншавік — гэта значыцца, ні тое ні сёе, меншавік — ён і нашым і вашым, у яго сярэдзіны няма.

Б а б к а. Дык на якое ліха ён нам без сярэдзіны... Ты давай нам хлапца, каб меў усё.

С в а ц ц я *(доўга смяецца)*. Не зразумелі мяне, па-

нічка, хлапец будзе на зэкс, а што хістаецца туды, сюды, гэта, бачыце, час такі, да шлюбу не стасуецца.

Б а б к а. Ну, добра, добра, калі ж пакажаш нам яго?

С в а ц ц я. У нядзелю, як перуном высмаліць.

Б а б к а. Згода, ну, а цяпер дзякую табе за помач, што хату прадаць дапамагла... Пасля разлічымся.

С в а ц ц я. Згода, панічка, згода... Толькі каваля не дапушчайце сюды, а проста за каўнер ды вон...

Б а б к а. Ды неяк ужо будзе.

С в а ц ц я. Ну, а калі ж, панічка, на вашым вяселлі паскачам?

Бабка. І сама ўжо не ведаю.

С в а ц ц я. Чалавека вам пасватала, куды там, і хатку і зямельку мае.

Б а б к а. Так то яно так, але перашкоды, бачыш, ёсць.

С в а ц ц я. Кажыце якія, быць можа, што і зробім.

Б а б к а. І сама не ведаю, як бы гэта вытлумачыць, троху неяк сорамна.

С в а ц ц я. Сорамна? Аб якім сораме, пані, кажаце? Цяпер людзі сораму не ведаюць, валі з пляча, і годзе.

Б а б к а. Бачыш, шэсць разоў я замужам была, тры царкоўных, а трыццаць тры... *(Спахапілася.)* Цьфу, памылілася, а тры так сабе. Ну, а цяпер хацелася, каб у царкве з парадай, ды бацюшка не згодзіцца?

С в а ц ц я *(здзіўлена)*. У гэтым толькі перашкода?

Б а б к а. Толькі.

С в а ц ц я. А міленькія мае, ды як жа гэта, каб пры гэтакім становішчы, з грашыма, ды не справіцца. Я на сябе бяру фатыгу. Колькі ахвяруеце папу?

Б а б к а. 50 рублёў.

С в а ц ц я. А мне за пабягушкі?

Б а б к а. Дзесяць.

С в а ц ц я *(радасна)*. Ёсць! Будзе шлюб царкоўны, давайце грошы.

Б а б к а. А не брэшаш?

С в а ц ц я. Вось крыж. *(Жагнаецца.)* Міца, міца, міца, каб мяне пярун, лясун — што не лгу.

Б а б к а *(дае грошы)*. Тады шый боцікі, вяселле спраўлю заадно. Бяры грошы.

С в а ц ц я. Вось гэта добра, за адным скрыпам унучку і бабулю ажаню.

Б а б к а. Няхай будзе так.

С в а ц ц я. Ну, я адразу да папа. 50 рублёў нідзе не валяюцца, мы яму грошы, а ён нам шлюб.

Б а б к а. А калі ж бы гэта галаву пафарбаваць, дзе абяцаныя прылады?

С в а ц ц я. Фарба ёсць, патрэбен толькі кубел вару, і валасы як жук будуць зіхацець.

Б а б к а. Калі ж мы будзем фарбаваць?

С в а ц ц я. Прыходзьце заўтра да мяне, ніхто не будзе перашкаджаць.

Б а б к а. Буду.

С в а ц ц я. На раніцы чакаю. Ну, я пайшла. *(Пайшла.)*

Б а б к а. Шчаслівенька, галубачка, шчаслівенька.

С в а ц ц я. Хавайце грошы ямчэй... *(Пайшла.)*

Б а б к а. Дзякуй табе, божа, усё добра складаецца. Грошы тут, жаніх тут на жменю. Ох, як у баку закалола.

З а с л о н а

## АКТ ДРУГІ

Тая самая дэкарацыя.

Б а б к а *(ужо з пафарбаванай галавой, лічыць грошы)*. Лічу, лічу і толку дайсці не магу. Тут пасаг Фросі... тут па тысячы... адна, дзве, тры тысячы... а тут чырвончыкі, 25, 26, 27, 28, 29, дваццаць дзесяць *(паўза)*, а як далей?.. Даў бог цяля, ды не даў хлява... Ну, а што мне зрабіць з гэтымі, што пацукі дзірку прагрызлі?.. Хоць ты выкінь за акно... І трэба ж, так лоўка вылушчыў сярэдзінку, нібы свярдзёлкам выкруціў. Такую грубіню прагрыз.

Увайшла м а ц і. Яна чула, як бедавала бабка.

М а ц і. А што, не мая праўда, паелі грошы пацукі.

Б а б к а. Ну паелі, а табе што?

М а ц і. А тое, што не трымайце іх у хаце, а нясіце ў банк, бо ўсе зжаруць.

Б а б к а. Я скарыстаць сама хачу. Вяселлі два ў хаце.

М а ц і. Розуму ў вас, бабуленька, няма.

Б а б к а. Пазычаць, матуленька, не буду ў цябе.

М а ц і. Аб смерці пара думаць, а вы замуж.

Б а б к а. А чым жа я не баба?

М а ц і. Каму патрэбны вашы косці?

Б а б к а. Ахвотнік ёсць.

М а ц і. Ой, ой, што гэта за чалавек? Вам жа зараз гакне 70 гадоў.

Б а б к а. Выбачай, толькі 60.

М а ц і. І дзе ж вы бачылі, каб баба ў 60 гадоў...

Б а б к а Гэтакая ёсць... *(Паўза.)* Я!

М а ц і. Ці гэтым скрылі сваю старасць, што пафарбавалі галаву?

Б а б к а. Хіба ты слепа, памаладзела на год 20.

М а ц і. Зубоў і тых няма, век кашай жыць павінны.

Б а б к а. Ну годзе, пачуюць людзі — падумаюць і праўда.

М а ц і. Рабіце, як вам падабае, ідзіце сабе замуж, але я Фросю замуж не аддам.

Б а б к а. Чаму?

М а ц і. Не падабаюцца мне гэтыя свістуны.

Б а б к а. Даруй, галубачка, не маеш густу. Хлапцы прыдатныя, абмінуць іх нельга.

М а ц і. Я буду супроць.

Б а б к а. Што тваё супроць, калі я дам згоду.

М а ц і. Ану, пабачым.

Б а б к а. Ану, пабачым. *(Маці пайшла.)* Яна мяне вучыць, як на свеце жыць. Замуж не ідзі, грошы нясі ў банк, галавы не фарбуй, так я цябе і паслухаю. *(Перабірае грошы.)* Ну, чым ім дрэнна ў мяне, га? Ах вы мае саколікі, лепш адпачывайце тут у хаце. Тут вам месца і пашана. *(Чутно, як брэшуць сабакі.)* Во, некага нячысцік прэ; і калі б толькі не села грошы палічыць, заўжды перашкода. *(Складае грошы ў капшук.)*

Убягае с в а ц ц я.

С в а ц ц я. Ну і сабакі ў пані, нібы звяры, так і мерацца, каб за лытку рвануць.

Б а б к а. Ну, а як жа без сабак, сама ведаеш, які цяпер час.

С в а ц ц я. Хто ж гэта не ведае, што бедны чалавек дзесяцера сабак не трымае.

Б а б к а. Завяліся грошы, завяліся сабакі.

С в а ц ц я. Няхай брэшуць на здароўе.

Б а б к а. Ну, перш павінна падзякаваць табе за кавалераў.

С в а ц ц я. Спадабаліся?

Б а б к а. Падабрала ты хлапцоў!

С в а ц ц я. На зэкс.

Б а б к а. І я задаволена, і Фросечка задаволена, відаць, што людзі далікатныя.

С в а ц ц я. Лісцікраты. У іх, мая дарагая, і костка белая.

Б а б к а. Белая?

С в а ц ц я. У пашпарце адзнака ёсць — белая...

Б а б к а. Вельмі рада гэтаму, вельмі рада.

С в а ц ц я. А які ж паненцы даспадобы?

Б а б к а. Ды абодва падабаюцца, а якога Фрося возьме — гэта рэч яе.

С в а ц ц я. Па-мойму — хоць абодвух.

Б а б к а. Не ведаю, што Пётра-каваль скажа?

С в а ц ц я. Няўжо ж вы, пані, не выперлі яго?

Б а б к а. Не важуся, родненькая, любіць шчыра Фросю, няхай яна камандуе.

С в а ц ц я. Як мне здаецца, Фрося сама зразумее, хто для яе пара — пан ці хам.

Б а б к а. Яна ўжо зразумела.

С в а ц ц я. Калі зразумела, пэўна, вон пагоніць.

Б а б к а. А як сабе хоча, а тым часам, мая дарагая, падзякую табе за сватаўство. *(Дае дзіравую дзесятку.)*

С в а ц ц я. Дзякую, дзякую, але ж выбачайце, панічка, нешта дзірачка, нешта дзірачка ў ім, хто ж гэта вылушчыў?

Б а б к а. Ды гэта ж, мая родная, пацукі ўслужыліся, цэлы пачак прадзіравілі.

С в а ц ц я. Во, каб на іх безгалоўе, і трэба ж, услужыў — подпіс камісара з'еў, а касір застаўся...

Б а б к а. То як жа будзе?

С в а ц ц я. Як на мой розум — грошы вартасць утрацілі.

Б а б к а. А чаму?

С в а ц ц я. А праз тое, што камуніста з'елі, а касір непартыйны застаўся, грошы вартасць утрацілі.

Б а б к а. Во, каб на іх звод, на гэтых пацукоў, ох, як у баку закалола.

С в а ц ц я. Цяпер, панічка, гэтакія здарэнні часта бываюць. У людзей грошай шмат, ну, а куды ж іх дзець,— у банк баяцца несці, ну, значыцца, у панчоху ды за абразы, а там пацукі.

Б а б к а. Дык, можа, гэта дрэнна?

С в а ц ц я. Тое дрэнна, што захавалі ў панчоху, лепш пакладзіце ў гаршчок або цёрліцу.

Б а б к а. І гэта праўда, трэба пералажыць.

С в а ц ц я. А тым часам дзіравенькі рубельчык далучыце да дзіравых, а мне за працу цэленькі.

Б а б к а. А вось гэты маеш.

С в а ц ц я. Дзякую. У кожнага свая бяда. Ці дасце веры, у мяне ўчора дух нячысты печ разарваў і ўсе гаршкі на галаву выкуліў.

Б а б к а. Які там дух, нябось дзеці патрон укінулі.

С в а ц ц я. Не. Была міліцыя.

Б а б к а. Ну і што?

С в а ц ц я. Адмовіліся пісаць пратакол, каб не займацца з нячыстым духам.

Б а б к а. Дык чаму ж ты да папа не йдзеш, каб святую малітву адчытаў?

С в а ц ц я. Цяпер вось і пайду, грошы ёсць — рубля дам, адчытае.

Б а б к а. За рубля?

С в а ц ц я. Такая там будзе і малітва, за рубля ды яшчэ супроць нячыстага.

Б а б к а. Яно вядома, якія грошы, такая і малітва. А як з вайной, галубачка, будзе?

С в а ц ц я. А то як жа, будзе.

Б а б к а. З газет вычытала, ці так?

С в а ц ц я. З якіх газет, я газетаў не чытаю і ў рукі не бяру. Нос дзяржу па ветры і ўсё ведаю на зэкс. Вайна будзе. Кажуць, нейкі чалавек купіў на рынку гусь. І толькі прывалок яе дадому, гусь пачала крычаць пачалавечаму і пра вайну.

Б а б к а. Гусь — па-чалавечаму?

С в а ц ц я. Але, па-чалавечаму. Вось яна і кажа, гэтая гусь,— сцеражыцеся, людзі, вайны. Кітай, японка, англічанка точаць нож, збіраюць газы, рыхтуюць стрэльбы, кулямёты!..

Б а б к а. А бацюхны мае, што я чую?

С в а ц ц я. Ну і пайшла кадрыль. Хто верыць у бога — шухнуў у царкву, а хто не — пачалі рыхтавацца да вайны. Старых пачалі муштраваць страляць, а камсамольцаў — плаваць. І што ж скажаце,— старыя селі, а моладзь узяла верх!.. Адна суседская дзяўчына-камсамолка дзве вярсты плыла пад лёдам — і жывая вылезла.

Б а б к а. Вылезла?

С в а ц ц я. Як тут была.

Б а б к а. Але ж нашто гэта ўсіх гэтак муштруюць?

С в а ц ц я. А вось нашто: узнімецца вайна — адны будуць насядаць на англічанку з зямлі, а камсамольцы з мора.

Б а б к а. Дык гэта ж добра, няхай ім бог памагае.

С в а ц ц я. Што кажаце! Які бог. Бог іх сам баіцца: яны ж бога абабралі, абадралі, як кажуць, без штаноў пакінулі... Усе цэрквы, усё багацце ачысцілі.

Б а б к а. А хто ж ім памагае?

С в а ц ц я. І ўгадаць цяжка, самі сабой без бога.

Б а б к а. Каламут нейкі, дый толькі.

С в а ц ц я. Ну, а цяпер, панічка, да галоўнай справы: бацюшка грошыкі з падзякай вялікай прыняў і шлюб царкоўны для вас, казаў, дасць.

Б а б к а. Дасць?

С в а ц ц я. Праўда, з вялікімі патугамі, але зробіць, бог яму даруе.

Б а б к а. О то ж дзякую табе, буду рыхтавацца да вяселля.

С в а ц ц я. Ну, усяго лепшага, панічка, пайду, дзякую за грошы.

Б а б к а. А табе за жаніхоў.

С в а ц ц я. Каваля ганіце вон.

Б а б к а. Ды пэўна ж, прыйдзецца. *(Пайшлі абедзве.)*

Уваходзяць Ф р о с я і П ё т р а з бакоўкі з шапкай у руках, шапку паклаў на стол.

Ф р о с я. Не хачу, не хачу і не хачу.

К а в а л ь. Ды ты ж нядаўна была згодна.

Ф р о с я. А цяпер не згодна, бо ты каваль, заўжды брудны, ад цябе аддае дымам, мужычымі падкоўкамі.

К а в а л ь. Фрося, дзе твае слова?

Ф р о с я. Няма, ты мне не пара.

К а в а л ь. І калі ж ты ўбачыла?

Ф р о с я. Не так даўно.

К а в а л ь. Пэўна, ад таго часу, калі да цябе пачалі цягацца бліскучыя панічы?

Ф р о с я. Ты ўгадаў. Я выходжу замуж за аднаго.

К а в а л ь. Дзіўлюся, як можна выходзіць замуж, не ведаючы чалавека?

Ф р о с я. Я ведаю, ён — тэхнік.

К а в а л ь. Тэхнік па кішанёвых справах?

Ф р о с я. Но, но, толькі без абразы. Ён табе не пара.

Каваль. Фрося, Фрося, ці ты гэта гаворыш? Ці даўно гэта было, калі ты іначай разважала?

Фрося. А цяпер разважаю так: ты кавальскі мех, мужычая падкоўка.

Каваль. Яшчэ і насміхаешся, дзе ж тваё сэрца?

Фрося. Калісь было ў цябе, а цяпер у другога.

Каваль. Фрося, апамятайся, будзеш няшчасная за панічом.

Фрося. Ці толькі шчасце за мужыком? Шчасце там, дзе шык і бляск,— прыміце пад увагу, таварыш каваль.

Каваль. Ну што ж, гэтым усё сказана; няма тут чаго быць: сама ведаеш, што робіш. А хацелася б цябе вывесці на добрую пуцявіну, выцягнуць з гэтага мяшчанскага балота, зрабіць свядомай і мець маладога, грамадскага працаўніка. Не шкада мне цябе як паненкі, а шкада як чалавека, бо ты гніеш у цемры пад уплывам дурной бабы.

Фрося. Складна гаворыш, але няма часу слухаць. *(Пайшла ў бакоўку.)*

Уваходзіць бабка з вуліцы.

Бабка. А, Пётрачка ў нас! Дзе ж Фрося?

Каваль. Была, ды ўцякла.

Бабка. Яно быццам і так. Даганяючы не нацалуешся. Ох, як у баку закалола. Ці ведаеш, браток, да Фросі жаніхі, як з меха, сталі сыпацца. Гляджу я на іх і мыслю: адкуль такая прыгожасць,— лялькі, а гляну на цябе — адзін жаль; яно, ведама, праца, бруд.

Каваль. Ваша справа, бабуля. Бярыце, хто вам лепш, толькі глядзіце, каб пасля не плакалі.

Бабка. Ну, што ты... каб мы плакалі. У нас цяпер спосаб да жыцця ёсць, і дзеля гэтага няхай да нашай радні панскі сыр далучыцца, а мужыку — будзе мужычка. *(Паўза.)* Ты яшчэ аб чым будзеш казаць, бо мне трэба рахункі падлічыць, а галава мая слабая.

Каваль. Калі ласка, лічыце, я пайду.

Бабка. Ідзі, дзеткі, з богам, ідзі, няхай бог табе сілу дасць, каб добры каваль з цябе быў.

Каваль *(у дзвярах)*. Бабуля, а што б вы рабілі, каб жаніх Фросі ды жанаты?

Бабка. Ш-т-о-о?

Каваль. Жанаты, і не раз. І зараз па вяселлі жонка з дзіцянём сюды з'явіцца.

Бабка. О не, не — што ты чаўпеш; ты хіба не бачыў, што за чалавек? Не буду цябе слухаць, брэшаш, ды не гладка. *(Пайшла.)*

Каваль *(падышоў да стала, узяў шапку)*. Дубовае палена! *(Услед бабцы.)*

Увайшоў Ігнат, выфранчаны.

Ігнат *(пасля вялікай паўзы)*. Што ж гэта вы паглядаеце, як бы баран на новыя вароты?

Каваль. А што ж нам забароніце глядзець?

Ігнат. Гляньце лепш на боты і ўгадайце, з якой скуры пашыты яны.

Каваль. З такога ж самага сыр'я, якім абцягнуты вашы пісарскія косці.

Ігнат. Вы грубіян, як можаце так абражаць мяне?

Каваль. Я на запытанне даў толькі адказ.

Ігнат. Ты ведаеш, хто я?

Каваль. Ведаю — з-пад бані.

Ігнат. Я дзелавод таможні, не раўня там нейкаму кавалю.

Каваль. І нягледзячы на такі высокі чын каваль не хоча з вамі гаварыць. Цьфу! *(Плюе ў твар.)*

Ігнат. Вы як пасмелі пляваць на мой твар?

Каваль. Каваль гэта можа зрабіць, калі такія свінні залішне дазваляюць сабе. Вам, пэўна, здалося, што калі я без белага каўняра, дык без права, без голасу, у каваля няма адвагі,— вялікая памылка: вытрыце сабе нос і другі раз будзьце асцярожны, бо калі вас пачнуць вучыць шаўцы ды кавалі, дык ваша пісарская скура можа патрэскацца.

Ігнат. Не разгаварываць, а то на порах сатру.

Каваль. Я зноў вам кажу: вытрыце сабе нос і не пужайце мяне; я перад вамі не ўхілюся.

Ігнат. Вон адсюль!

Каваль. Пэўна, што не паслухаю.

Ігнат. Дык я выкіну. *(Падступае бліжэй.)*

Каваль. А сілы ж хопіць?

Ігнат. Хопіць. *(Наступае бліжэй.)*

Каваль. Ну калі так, пачынайце!

Ігнат. І пачну. *(Наступае.)*

Каваль. Пэўна, не маеце адвагі, ну дык я пачну. *(Закасаў рукавы.)*

Ігнат *(адыходзячы назад)*. Но, но, лягчэй, а то я зубы пачышчу.

**Каваль** *(стукнуў па твары, той паваліўся)*. Вось і пачысціў, а з другога боку пасля пачышчу... *(Пайшоў.)*

**Ігнат** *(устаў)*. Ой, ой, вось даў... у сто званоў званіць пачало. Ну, пачакай, ты, памаўза, я цябе падпільную; прыйдзі ты толькі на нашу вуліцу. *(Глядзіцца ў люстэрка.)* Адразу сіняк.

Уваходзіць **Фрося**.

**Фрося.** А... дарагі Ігнат! Як рада бачыць цябе! Даўно прыйшоў, чаму я цябе не бачыла?

**Ігнат.** Ды лепш бы і не прыходзіў.

**Фрося.** А чаму?

**Ігнат.** Прыйшоў сюды і застаў нейкага каваля. Чалавек неінтэлігентны, валіць усё з пляча, а я не прывык да гэтага. Слова за слова — я ўзяў яго за каўнер і выкінуў вон,— шапку і тую не паспеў узяць. Чый гэта? Да каго ён прыйшоў?

**Фрося.** Ён прыйшоў да бабкі.

**Ігнат.** А можа, да цябе і твой жаніх?

**Фрося.** Не пляці глупства, жаніх... На ліха ён мне, калі ты мой жаніх.

**Ігнат.** Я дзіўлюся, як можа такая шуя бываць у вас, нейкі каваль і, мусіць, камуніст, бо такую хвізіку развёў па фізкультуры...

**Фрося.** Пакінем аб гэтым. Скажы, быў ты ў царкве, гаварыў з бацюшкам?

**Ігнат.** Быў і гаварыў, усё ў парадку, ён благаславіў наш шлюб, а ў нядзелю ажэніць.

**Фрося.** Нарэшце збудзецца — у мяне будзе такі прыгожы муж!

**Ігнат.** А ў мяне такая прыгожая жонка!

**Фрося** *(страсянуўшы яго)*. Ігнат!

**Ігнат** *(таксама)*. Фрося!

**Фрося.** Цалуй мяне!

**Ігнат.** Згода! *(Цалуюцца.)*

Увайшоў **каваль**, падышоў да стала, узяў шапку, сціснуў Ігната за нос, той закрычаў і прысеў, каваль пайшоў.

**Ігнат** *(за ім)*. Ага, уцёк!

**Фрося** *(пераняла)*. Пачакай, пачакай!

**Ігнат.** Шчасце, што ўцёк, а то было б. Я завельмі гарачы, магу ў часе злосці выкінуць чалавека праз акно, магу і забіць, за малым-малым тут не забіў яго, але пабаяўся, за камуніста вялікая адказнасць.

Ф р о с я. Цяпер ён больш не пойдзе!

І г н а т. І хто з вас патурае яму, чаго ён ходзіць?

Ф р о с я. Разбярэш, чаго ходзіць. Суседні хлапец, лічаць за свайго.

І г н а т. Завельмі многа дабраты ў тваёй бабулі, не можна так.

Ф р о с я. Аб дабраце яе сведчыць тое, што яна аддала абяцаны мне пасаг.

І г н а т *(прыкідваецца нездаволеным)*. Ну, вось зноў,— нашто грошы, хто іх пытаўся, каму патрэбны?

Ф р о с я. Патрэбны будуць нам.

І г н а т. Не даспадобы гэта мне, я грошы не люблю.

Ф р о с я. А я люблю. Тры тысячы дала цяпер, а яшчэ тры ў дзень шлюбу.

І г н а т. Ну, а цяпер будзеш скакаць, дзе іх схаваць.

Ф р о с я. Пакуль трымаю пры сабе, але думаю схаваць у гэты столік, давай схаваем разам.

І г н а т. Хавай сабе адна, я грошы не люблю.

Ф р о с я. Ну, мае капіталы, тры дні адпачывайце тут... *(Хавае грошы.)*

І г н а т *(набок)*. Нашто так многа, мы забяром раней.

Ф р о с я. Што ты казаў?

І г н а т. Я ўздыхнуў з радасці, што ты дала ім месца, сама ведаеш — за грошы можа быць грабёж, навала, а схавала — сэрцу будзе спакайней.

Ф р о с я. Якое ў цябе добрае сэрца, любы мой, дарагі мой!..

І г н а т. А сама хіба не верыш?

Ф р о с я. Чаму не веру — веру. Ну, а скажы, калі ж ты паедзеш па сваякоў?

І г н а т. Сягоння ўначы, а сюды вярнуся праз тры дні...

Ф р о с я. Мне цябе не хочацца пускаць.

І г н а т. Але тады на нашым вяселлі радні маёй не будзе, а радня мая, сама ведаеш...

Ф р о с я. Ну што ж, калі так — згода.

І г н а т. Адзін дзядзька мой колькі падарункаў прывязе, а цётка... Ты паглядзі на сябе — у вушах пуста, на руках нічога, а з'явіцца радня — заззяюць дыяменты, дыяменты!..

Ф р о с я. Ой, ой, ап'янею ад радасці, ап'янею — у мяне на пальцах будуць дыяменты!

І г н а т. Кажу табе праўду.

Ф р о с я. Ой, пабягу, клікну бабулю і пахвалюся ёй, вось яна ўзрадуецца!

І г н а т. Кліч, кліч!

Ф р о с я (*адыходзячы*). Падзелім шчасце разам. (*Пабегла.*)

І г н а т (*зразу пабег да століка, украў грошы*). Шчасце падзялю адзін.

Уваходзіць С ц я п а н.

І г н а т. Ша!

С ц я п а н. Адзін?

І г н а т. Пакуль што адзін.

С ц я п а н. Калі выязджаеш?

І г н а т. Сягоння ўвечары.

С ц я п а н. Хутчэй спраўляйся, бо гэты каваль бегае, як рысь, збірае даведкі.

І г н а т. Пакуль ён збярэ, я сваё ўзяў і буду далёка!

С ц я п а н. А што, калі да ГПУ дойдзе і давядзе, хто мы, як тады?

І г н а т. Ну што ж: зловяць і пасадзяць, але я не такі дурны, пакуль зловяць, я заўтра буду за мяжой.

С ц я п а н. А мяне зловяць і на Камароўку завязуць.

І г н а т. Не наганяй дарэмна страху, будзеш жыў.

С ц я п а н. Пра мяне яна не пыталася?

І г н а т. Пакуль што не.

С ц я п а н. Гаварыў, што мы з табой заклятыя ворагі і... праз яе.

І г н а т. А што скажаш, чаго прыйшоў?

С ц я п а н. Я буду запрашаць яе на вечарынку, а ты не пушчай, я запратэстую, і пасварымся.

І г н а т. Для большага ўражання можам і пабіцца.

С ц я п а н. Рабі гладка, каб не астрыглі вушы.

І г н а т. Не з такімі спраўляўся. 10-я жонка.

С ц я п а н. Пасля твайго ад'езду я пачну налягаць на бабчыны грошы.

І г н а т. Налягай, брат, налягай, там яшчэ тры тысячы пасагу засталося.

С ц я п а н. Мяне страшыць гэты каваль.

І г н а т. А так, ён страшны, у яго, брат, рука!..

С ц я п а н. Быў калі ў руках?

І г н а т. Ну яшчэ што.

За сцэнай чуваць голас Фросі.

С ц я п а н. А сіняк?

І г н а т. Так... дровы калоў... сук.

С ц я п а н. Ціха, яна сюды ідзе.

І г н а т. Адыходзь да дзвярэй!

Сцяпан адыходзіць да дзвярэй.
Уваходзіць Ф р о с я.

Ф р о с я. А... каго бачу — пан Сцяпан! Чаму так рэдка бываеце ў нас?

С ц я п а н. З ахвотай прыходзіў бы часцей, але што сказаў бы на гэта вам...

Ф р о с я. Думаю, што нічога.

І г н а т. Мыляешся, Фрося.

С ц я п а н. Вось чуеце.

Ф р о с я. Дзіўна, чаму ты забараняеш прымаць знаёмых?

І г н а т. Гэтага свістуна забараняю.

С ц я п а н. Вы самі свістун.

І г н а т. Ну, ці не можна без абразы.

С ц я п а н. Не нукайце, не паедзеце.

Ф р о с я. Але ж прашу, пакіньце спрэчкі.

І г н а т. Вон адсюль, а то іначай распраўлюся! *(Пачалі біцца.)*

С ц я п а н. Ах, так!

Ф р о с я *(кінулася між імі)*. Але ж кіньце, як не сорам.

І г н а т. Я хачу ведаць, чаго ён тут.

С ц я п а н. А я хачу ведаць, чаго вы тут.

І г н а т. Праз тры дні даведаецеся.

Ф р о с я. Але ж пакіньце, прашу яшчэ раз.

С ц я п а н. Паненачка, даруйце, што праз мяне парушан ваш спакой. Я не прыйшоў дзеля скандалу, я прыйшоў прасіць вас на вечарыначку, і калі б не адмовіліся, для мяне ваша прысутнасць была б вялікім шчасцем!

І г н а т. Фрося нікуды не пойдзе.

Ф р о с я. Але ж дайце мне сказаць.

І г н а т. Ды што з ім гаварыць. Пяхота!

С ц я п а н. Артылерыя.

Ф р о с я *(да Сцяпана)*. Вы хочаце, каб я была ў вас на вечарынцы?

С ц я п а н. Як сонца, бачыць так хачу.

І г н а т. Ды якая вечарынка — вечарынка пад шарманку. Праз тры дні падскочыце да нас, пачуеце не шарманку, а басы, трамбоны, геліконы.

Ф р о с я. Так, пан Сцяпан, я амаль што ўжо замужам і без дазволу Ігната не пайду.

С ц я п а н. Тады выбачайце. *(Пацалаваў руку, расшаркаўся — і да дзвярэй.)*

І г н а т. А што, свістун,— прасвістаўся?

С ц я п а н. Райдун. *(Скрыўся.)*

І г н а т. Асталоп.

Ф р о с я. І як не сорам выганяць такога далікатнага чалавека і свайго ж прыяцеля.

І г н а т. Такія прыяцелі жонку адаб'юць.

Ф р о с я. Не разумею, што табе здаецца?

І г н а т. А тое, што ён любіць цябе.

Ф р о с я. Ну і няхай.

І г н а т. Тады ты не можаш быць маёй жонкай.

Ф р о с я. З гэтага боку твая праўда.

І г н а т. З усіх бакоў праўда. Шчасце, што ты спыніла мяне, я так абурыўся, гатоў бы на шматкі разадраць яго, няхай ён у Пётры-каваля спытаецца, як той выкуліўся адсюль.

Ф р о с я. Ну, годзе, годзе. *(Прытулілася да яго.)*

Уваходзіць б а б к а.

Б а б к а. А мае міленькія... дзеткі мае, што ж гэта вы да шлюбу прыціскаецеся?

І г н а т. А так, бабуся, на тры дні раней, авансам, добрага дня. *(Расшаркваецца, цалуючы ёй руку, а яна яму галаву.)*

Ф р о с я. Хіба непрыгожы малюнак... Ну, скажыце, бабуся?

Б а б к а. Прыгожы-то ён прыгожы. *(Набок.)* Я б і сама сыр ціскала б, але як не сорам дзяўчыне ды абнімацца з хлапцом.

Ф р о с я. А як жа вы, бабуся, хацелі, каб я ды абнімалася з дзяўчынай?

Б а б к а. Самі сабой адны?

Ф р о с я. У гэтай справе трэці будзе перашкодай.

І г н а т. Мы, бабуся, не былі адны.

Б а б к а. Я калі была паненкай, ох, як у баку закалола, то баялася...

Ф р о с я. А калі гэта было? Дый ці баяліся?

Б а б к а. Было, дзеткі, было — усё было.

І г н а т. У наш век, бабуся, моладзь нічога не баіцца.

Ф р о с я. Мора па калена.

Б а б к а. Ну, калі так, мілуйцеся сабе, я забараняць не буду, усё роўна ты наш.

І г н а т. Я даўно ваш. Вось толькі паеду на дзень-другі па сваякоў, і тады Ігнат сябе пакажа.

Б а б к а. Вось каб ты ад хваробы пазбавіў мяне, яшчэ лепш было б.

І г н а т. А што ў вас?

Б а б к а. У баку баліць.

І г н а т. На курорт, на курорт у Кракаў, Вену, Будапешт.

Б а б к а. А што гэта такое?

І г н а т. Мора, сонца і пясок. Там і бязногія ходзяць, хто і ўмірае — ажывае.

Б а б к а. І там можна будзе падлячыцца?

І г н а т. Маладою нават стаць.

Б а б к а. Не разумею, як?

І г н а т. А так — моладасць назад прываліць, сівы волас і той чарнець пачне.

Б а б к а. Ну, гэта ўжо ёсць — пачарнеў.

І г н а т. Зубы новыя павырастаюць, во!

Б а б к а *(здзіўлена)*. І зубы? Сынок мой, няўжо гэта праўда?

І г н а т. Вы мне не верыце?

Ф р о с я. Бабуля, Ігнат кажа толькі праўду.

І г н а т. Вада салёная, марская, значыцца, маладою зробіць вас, замуж можна пайсці.

Б а б к а. А бацюхны мае, што чую... У моры буду я купацца?!.

І г н а т. Будзеце купацца ў цёплай марской вадзіцы, лавіць ракушак.

Б а б к а. А што гэта ракушкі,— селядцы, ці што?

І г н а т. Ракушкі — гэта значыць, ракушкі,— вось вы, значыцца, удзень будзеце ляжаць на сонцы, а ўвечары вазіцца на каруселях.

Б а б к а. А што гэта за каруселі?

І г н а т. Каруселі — гэта спрунжыновыя коні, якія без аўса і без вады бегаюць, хвост трымаючы так.

Б а б к а. Гэта можна, коні — мая слабасць, любіла змоладу, люблю і цяпер.

Уваходзіць м а ц і.

І г н а т. Добрага дня, матуля, вам.

Тая нічога не адказала.

Б а б к а. Чаму гэта цябе так доўга чакаць трэба? Чалавек на агледзіны прыйшоў.

М а ц і. Выбачайце, мама, мяне Пётра на дарозе пераняў.

Б а б к а. Цяпер для Пётры дарогі сюды няма, Фрося вось чыя, ох, як у баку кальнула.

М а ц і. Ну, гэта яшчэ пытанне.

Б а б к а. Якраз так. Ігнат мне абяцаў, што, калі Фрося будзе яго жонкай, мы ўсе едзем. Куды, пан Ігнат?

І г н а т. Кракаў, Вену, Будапешт.

Б а б к а. О, чула, катацца, купацца, лячыць бок, есці пясок і лавіць ракушак.

М а ц і. Усё гэта нам не трэба, старым людзям цягацца па свеце!

Б а б к а. Дзе ты бачыш тых старых? А па-другое, не цягацца, а ездзіць, ездзіць, пан Ігнат.

І г н а т. На экспрэсах-люксах.

Б а б к а. А няхай цябе, няхай, як скажа слова, быццам з гарматы высмаліць.

І г н а т. А што, бабулечка?

Б а б к а. Стань пасярэдзіне.

І г н а т. Стаю.

Б а б к а. Фрося!

Ф р о с я. Я тут.

Б а б к а. Стань да Ігната.

Ф р о с я. Стаю.

Б а б к а. Вось паглядзі, якая пара галубкоў, ну як: ганьбы няма?

М а ц і. Зноў вам кажу — гэта ягады не нашага поля.

Б а б к а. Недарэчы пляцеш, сядайце, дзеці. *(Селі.)*

Ф р о с я. І чаму, мама, вы так кажаце.

Б а б к а. Яна не хоча, каб дачка была замужам за такім ясным месяцам.

М а ц і. Не трэба нам яснага, няхай з намі жыве той, які не блішчыць. А вы б, паночку, куды б далей ад нас пайшлі. Нашто мы вам, бедныя людзі?

Б а б к а. Не так ужо бедныя, хіба вы запомнілі, што грошы ў мяне ёсць?

І г н а т. З вашага дому дарога мне адна,— у вір галавой.

Б а б к а. О, сказаў, як пугавішчам высмаліў. Адразу відаць пана па халявах.

Ф р о с я. Мама, калі вы пакінеце праціўіцца?

М а ц і. Як памру, разумееш, як памру. Ты маё дзіця,

я твая маці, а якое я маю права зрабіць па-свойму? Не маю, цябе сватаюць без мяне, цябе аддаюць замуж без мяне, выганяюць таго, хто матчынаму сэрцу любы, ад нейкага часу права маткі я ўтраціла, павінна маўчаць і маўчаць. *(Плача.)*

Б а б к а. Як не сорам плакаць?

М а ц і. Бараніць сваё дзіця не сорам.

Б а б к а. Ты шкадуеш Пётру?

М а ц і. Шкадую.

Б а б к а. А нам ён да нічога. Мехам дзьмуць і па кавалдзе біць мы з табой не здолеем.

М а ц і. А ён вас прымушаў?

Б а б к а. Нас там чакаюць, дзе цёпла, як у бані, дзе коні спрунжыновыя ды марскі пясок, ракушкі!..

М а ц і. Як дрэнна, калі на старасці ў галаве спрунжыны аслабнуць. *(Выйшла.)*

Б а б к а. Трэба хутчэй канчаць справу, бо гэтым спрэчкам не будзе канца.

І г н а т. Праз тры дні я палажу канец.

Ф р о с я. Ігнат хоча паехаць па сваякоў.

І г н а т. Толькі на тры дні.

Б а б к а. А калі ж ты вернешся?

І г н а т. У нядзелю раніцаю буду тут, а ўвечары павязу Фросю да папа.

Б а б к а. А ці патрэбны на вяселлі сваякі?

І г н а т. Мая радня? Што вы, бабуля, адна ўцеха — сліўкі, буржуа!..

Б а б к а. Што гэта за сліўкі?

І г н а т. Людзі багатыя, не камуністы.

Б а б к а. А калі так, давай сюды, рада іх спазнаць, а ты, Фрося?

Ф р о с я. О, я хачу, радня прыедзе — падарункаў навязе: і тут *(на вушы)*, і тут *(на рукі)* дыяменты, дыяменты, дыяменты!

Б а б к а. Трэба, трэба, люблю паноў!

І г н а т. Ну, калі так любіце, дазвольце па паноў паехаць, а з вамі адвітацца.

Б а б к а. Ужо і адыходзіш?

І г н а т. Адыходжу, бабуся, цягнік чакае. Вось мае паперы — білет Авіяхіму, білет Мопра, праўка з Допра *(закашляў)*, пашпарт і пасведчанне таможні.

Б а б к а. І ў цябе столькі дакументаў?

І г н а т. Як бачыце, бабуся. Ну, Фрося, пацалуй мяне на дарогу.

Бабка. Чакай, чакай, чакай — ты яшчэ маладая і цалавацца, пэўна, не ўмееш, лепш я за цябе. Ну, пан Ігнат!

Ігнат. З ахвотай, бабулечка! *(Цалуюцца.)*

Бабка. Ах, як добра. Даўно не цалавалася з хлапцом. Бачыш, Фрося, як гладка?

Фрося. Бачыла, бачыла.

Ігнат *(у гэты час плюнуў)*. Значыцца, Фрося, не сумуй.

Фрося. Будзь шчасліў, Ігнат, глядзі ж — не марудзь.

Ігнат. У нядзельку чуць развіднее — буду тут, ты будзь гатова, бывайце здаровы. Кракаў, Вена, Будапешт.

Бабка. Шчаслівенька, шчаслівенька, ох, як у баку закалола.

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

Тая самая дэкарацыя. Як адчынілася заслона — чуваць музыка і выкрыкі: «За здароўе маладых, ура...» Выбягае з тых дзвярэй, дзе госці, бабка. Яна таксама ў шлюбным убранні, у вялікай роспачы, за ёй, кульгаючы, яе жаніх Грыбоўскі, ён п'янаваты.

Бабка. Каб яны на свет не глядзелі, як я на іх глядзець не хачу, цьфу!..

Грыбоўскі. Гэта ж не людзі, а звяры,— маладыя яшчэ не ездзілі да шлюбу, а яны п'юць, жаруць. Агатачка, альясік!..

Бабка. Не дуры галавы! *(Дражнячы.)* Альясік, альясік!.. Чакай!..

Грыбоўскі. Дакуль жа будзем чакаць? Сядзем, альясік, на коні дый паедзем,— поп царкву зачыніць.

Бабка. А хіба ж ты не ведаеш, хто перашкода?.. *(Выйшла з другой бакоўкі Фрося — заплаканая, яна таксама ў шлюбным убранні.)* Вось хто!

Фрося села і плача.

Бабка. Гэта ж можна звар'яцець, гасцей наскліка-лі больш як трэба, а маладога няма. *(Да Фросі.)* Ну, што скажаш, дзе твой малады?

Фрося. А што я магу казаць?

Б а б к а. Гасцей як сабак набілася, а маладога няма. Ужо прыехалі Грыбоўскія, Губарэвічы, Гілярэвічы. Ах, каб вы ногі пакруцілі, каб з вас дух выперла. Як яны пруцца сюды... Яшчэ, чаго добрага, не прыедзе.

Ф р о с я. Не мучце вы хоць, Ігнат будзе тут!

Б а б к а. Дзе ж ён, дзе! Хутка трэба да вянца.

Г р ы б о ў с к і. Трэба, альясікі, і трэба — поп царкву зачыніць.

Ф р о с я. А хто вас трымае, можаце сабе ехаць.

Б а б к а. Во, чулі... ехаць, ці ёсць у цябе розум?

Г р ы б о ў с к і. І я кажу, як жа гэта, альясік, без цябе ехаць, калі ўмова такая была, за адным скрыпам дзве пары звянчас.

Ф р о с я. Ён трохі прыпазніўся.

Б а б к а. Ён позніцца, а госці раней часу жэрці пачалі, каб іх параспірала.

Ф р о с я. І як можна выклінаць,— яны ж вашы знаёмыя, самі ж насклікалі.

Б а б к а. Хто клікаў сусветных абжор!

Г р ы б о ў с к і *(да акна)*. Во і Памялоўскі з жонкай, і Петухоўскі з братам.

Б а б к а. Каб яны ногі пакруцілі, дзе іх прыняць?

Ф р о с я. На дварэ сталы пастаўце.

Б а б к а. Каб яны праўцом вочы паставілі.

Г р ы б о ў с к і. Не разумееш, альясік, што з гэтага выйдзе.

Ф р о с я. А што?

Г р ы б о ў с к і. Другі, альясік, будзе 20 разоў п'янець і 10 разоў цверазець: ніколі не развяжашся.

Б а б к а. Гэта ж сусветныя п'яніцы.

Г р ы б о ў с к і. Так, альясік, яны п'юць, ой, п'юць!..

Б а б к а *(да акна)*. Шыманскія пад'ехалі, каб яны бокам ездзілі, каб іх на могілкі вывезлі. *(Нервова ходзіць па хаце.)*

Уваходзяць папарна Г у б а р э в і ч з ж о н к а й, Г і л я р э в і ч з ж о н к а й, М а ч у л ь с к і з ж о н к а й, П а м я л о ў с к і з ж о н к а й, Ш ы м а н с к і з ж о н к а й. Гоман, музыкі граюць марш.

Б а б к а *(радасна)*. Міленькія мае, даражэнькія мае, ці вас я бачу... *(Цалуецца з усімі.)*

Г о с ц і. Вітаем.

— Вітаем.

— Жадаем!..

Б а б к а. Як я рада, як я рада!..

Усе (*да Фросі*). Каб шчаслівай быць!
— Каб доўга жыць!
— Дзетак прыдбаць!
— Гора не знаць!

Бабка. Мае даражэнькія, пакуль маладога няма, хадзем на тую палавіну — крыху адпачнеце, пасілкуецеся. (*Адыходзяць, апроч Губарэвіча.*)

Губарэвіч. Кума, а дзе ж малады?

Бабка. Чый, мой?.. Хіба не бачыў, гасцей павёў туды.

Губарэвіч. Твайго я ведаю, вось чыйго мне пакажы.

Бабка. Зараз пабачыце, зараз.

Губарэвіч. Кумка, бачыш, справа ў тым,— маладому пацалаваць маладзіцу да шлюбу не можна, а нам, старым, выпіць па чарцы трэба, сама ведаеш, дарога вялікая, знібыткаваліся.

Бабка. Даражэнькі мой, каго пытаеш — мяне? Ды я за вас душу аддам! Хадзем на тую палавіну — там будзе мора разліўное; наварылі, напяклі, нарэзалі, насеклі (*набок*) — ешце, няхай вам бакі разапрэ.

Губарэвіч. І я кажу, пакуль там малады прыхарошыцца, мы самі маладосць успомнім!..

Бабка. Яшчэ як успомнім, ой, ой!..

Губарэвіч. Я, кумка, вельмі рад, што Фрося здружылася з веруючым чалавекам, а барані божа зачапіў бы камуніст — нас бы нікога не было!

Бабка. Ці ліха нам дало, каб мы — да з недавяркамі?..

Губарэвіч. Мы, значыцца, па-старому, па-царкоўнаму,— з папом, і ўсё такое. (*Ідучы да дзвярэй.*) Госці! Дазвол ад гаспадыні ёсць, напірай на гарэліцу, закуску!.. (*Убачыў, адчыніўшы дзверы.*) А, ліха вашай мацеры, яны ўжо самі пачалі. Хадзем, кума. (*Пайшоў.*)

Бабка. Во, бачылі... Ах, каб вас перуны... П'юць, жаруць, цьфу!..

За сцэнай шум, лямант, музыка.

Бабка (*крычыць праз дзверы*). Але ж пачакайце, пачакайце, дайце да шлюбу раней з'ездзіць, а тады (*тыя не слухаюць*) хоць вам перуны. (*Пайшла ў бакоўку.*)

Фрося плача. Уваходзіць Пётра. Каваль стаў ля дзвярэй, Фрося яго не бачыць. Нарэшце Фрося пабачыла каваля.

Каваль. Я не перашкаджаю, плач, плач; пачатак, здаецца, нішто.

Фрося. А хто табе казаў, што я плачу?

Каваль. Даруй, быць можа, я памыліўся, але і радавацца няма чаму!

Фрося. Ты па справе да мяне?

Каваль. А так, па справе.

Фрося. Кажы, я слухаю.

Каваль. Фрося, я ў самы апошні час прыйшоў спыніць цябе. Што ты надумала?

Фрося. У чым справа?

Каваль. Выр ачся гэтых ветрагонаў, я табе не вораг.

Фрося. Дзякую за параду, але даруй — не паслухаю. Ігнат мой муж — позна.

Каваль. За каго ты ідзеш, што добрага абяцае табе гэты шлюб?

Фрося. Тое, што і кожны шлюб.

Каваль. Ты, маладая дзяўчына, павінна ведаць, што царкоўны шлюб нам не патрэбен.

Фрося. Гледзячы каму, мне патрэбен.

Каваль. Ты хіба запомніла, дзе ты жывеш і з кім ідзеш?..

Фрося. Ведаю.

Каваль. Хіба ты не бачыла хітрых вачэй яго, хіба ты не зразумела, што яму патрэбны твае грошы?

Фрося. Ах, Пётра, годзе табе прарочыць, не адной мне ён падабаецца, бабка таксама сорт людзям ведае!..

Каваль. Усе вы ветрагоны!

Фрося. Адзін ты разумны!

Каваль. Фрося, пакуль яшчэ не позна,— выракайся ўсяго, гані вон гэту мяшчанскую зграю і ідзі за мной, я цябе выведу на добрую пуцявіну.

Фрося. Ідзі сабе адзін, мне з табой не па дарозе.

Каваль. Фрося, яшчэ казаць порана, але з тых вестак, якія ў мяне ёсць, твае жаніхі — падазроныя людзі, глядзі, каб разам з імі і ты не папала туды, куды трэба.

Фрося. Но, но, кажы гэта цішэй, а то яны пакажуць дарогу!

Каваль. Я сказаў, што ведаў, а дакладны матэрыял прынясу пасля.

Фрося. Можаш не прыносіць.

Каваль. Я адыходжу.

Фрося. А хочаш — застанься на маім вяселлі, я буду рада.

Каваль. Не, дзякую,— мне нядобра прысутнічаць на гэткім вяселлі паміж кулацкай контррэвалюцыйнай зграі. Мне тут не месца.

Фрося. Як хочаш. *(Выйшла ў бакоўку.)*

Уваходзіць Губарэвіч.

Губарэвіч. А... каго бачу — і ты тут? Як жа гэта, камуніст ды на царкоўнае вяселле трапіў,— не разумею.

Каваль. Як хочаце, так і разумейце.

Губарэвіч. У цябе, брат, вяселля такога не будзе. Ты шлюб возьмеш пад плотам, па-бальшавіцку.

Каваль. Ну, стары, прыкусі язык ды ідзі сабе туды, адкуль прыйшоў.

Губарэвіч. Ты не ганяй мяне, мне пачэснае месца за сталом, а табе — ля парога.

Каваль. Вы чулі, што я казаў? Туды!

Губарэвіч. Но, но, цішэй, брат, трохі — гэта табе не ў кузні: падкоўкі не падаб'еш... Тут, брат, кулак на кулаку сядзіць... Абы гукнуў — як шухнуць: мокрае месца застанецца.

Каваль. І дурны вы, як пагляджу.

Губарэвіч *(замахнуўся)*. Маўчаць! *(Каваль схапіў яго за карак і трымае.)* Ай, ай, браток Пётрачка, пусці, дай дыхнуць... Але ж досыць пажартаваў, пусці... *(Каваль кінуў яго за дзверы ў бакоўку, сам застаўся.)*

Увайшла Фрося, а за ёй маці.

Маці *(паказвае на Фросю)*. Вось, даражэнькі мой, ты бачыш, паставіла на сваім, збылося, што ты на гэта?..

Каваль. Я ўжо казаў.

Маці. Усім кіруе шалёная бабка.

Фрося. Мама, вы не павінны так казаць, яна нас корміць хлебам.

Маці. У гэтым наша няшчасце, што мы залежым ад яе. Каб не гэты хлеб, я б кіравала інакш.

Каваль. Вы ведаеце, за каго яна ідзе?

Фрося. За чалавека.

Маці. Заварот мазгоў. Не знай, не ведай чалавека — чапляецца на шыю.

Фрося. Мама, трэба казаць праўду.

Маці. Маўчы ты, расамаха, а то я цябе...

Пётра стаў пры дзвярах у куце, маці плача. За сцэнай зноў музыка, гоман. Выходзіць бабка.

Б а б к а. Я не вытрымаю, звар'яцею,— гасцей як варон назляталася, а маладога няма. *(Да маткі.)* Ну, чаго слініш?

М а ц і. Адчапіся, слухаць не магу!

Б а б к а. Такой бяды, не слухай. *(Да Фросі.)* А ты чаго нос павесіла, дзе ж твой малады?

Ф р о с я. Я не ведаю.

Б а б к а. Каб ён свету не ведаў, як я не ведаю. *(Убачыла Пётру.)* А... і ты тут, няпрошаны госць, на вяселле прыйшоў?

К а в а л ь. А так, прыйшоў. *(Іранічна.)*

Б а б к а. Я ўжо і сама не ведаю, гэтулькі набілася няпрошаных гасцей, хоць ты гвалт крычы. Хіба ўжо заўтра, Пётрачка, падойдзеш, свой жа чалавек.

К а в а л ь. Магу і заўтра. *(Іранічна.)*

Б а б к а. Не гневайся, мой каласок, ты апрануты зусім бедна, а тут усе людзі паважаныя, а жаніх зусім... лісцікрат.

К а в а л ь. Я ведаю, куды ж мне раўняцца!

Б а б к а. Дык ты ўжо, Пётрачка, сайдзі з вачэй, сэрцу будзе прыемней,— менш няпрошаных гасцей. Ідзі, дзеткі, ідзі. *(Пётра пайшоў.)* Дзякуй табе божа, адным госцем менш. *(Убачыла, што абое плачуць.)* І што ж гэта вы плачаце, ды абедзве? *(Грозна.)* Пакінуць мне, а то я вас! *(Да маткі.)* Ты чаго плачаш?

М а ц і. Душа трывогу б'е.

Б а б к а. У мяне таксама душа ёсць, а не баранні хвост,— адчувае і гора, і бяду, а цяпер, праўду кажучы, зусім спакойна, ніякай бяды не будзе.

М а ц і. А дзе ж прычына, што маладога няма?

Б а б к а. Я не ведаю.

М а ц і. Гасцей наклікалі, а цяпер не ведаеце.

Б а б к а. Не так ужо многа ёсць.

М а ц і. А вось палічыце. Грыбоўскія, Мачульскія, Садоўскія, Пустарэвічы, Гілярэвічы, Абрамовічы, Скуратовічы ды Свідроўскія, а браты, сваты, а жонкі, а няпрошаных колькі нашылася!..

Б а б к а. Неяк ужо будзе, прыйдзецца раскашэльвацца.

М а ц і. Вось у гэтым бяда, што весткі аб грашах далёка зайшлі; людзям здаецца, што тут фабрыка грашовая.

Б а б к а. Такой бяды, няхай здаецца,— тым лепш для нас. У мяне на вяселле грошы адложаны.

Маці. І не хопіць! Вам ведама, колькі патрэбна гарэлкі, каб напаіць Мачульскага і Свідроўскага...

Бабка. Ну што ж, няхай п'юць, хоць іх разапрэ.

Маці. Лёгка казаць — няхай п'юць! Такія-та госці — наесца, нап'ецца, брухам стол адсуне, і толькі бачылі. Шыкуеце, людзей задзівіць хочаце.

Бабка. Што ты гэтым хочаш сказаць?

Маці. А тое, што гэты шык нам да нічога. Хто ведае, як будзе? *(На Фросю.)* Вось бачыце — няма, а яна сядзіць насупіўшыся.

Бабка. Няма, дык будзе.

Маці. Калі б ён быў як чалавек — ужо павінен быць. Што ж, маё дзіця — атопак? З мяне не можна здзекавацца, я ўжо старая.

Бабка. Выбачай, я за цябе старэйшая.

Маці. А глупства робіце, і маладому не патрапіць.

Бабка. Выдаць замуж Фросю — гэта не глупства!

Маці. Так выдаваць — гэта не толькі глупства, а вар'яцтва. *(Выйшла.)*

Бабка. У цябе пытацца не буду. Фрося, галубачка, дзе ж твой малады?

Фрося. І сама не ведаю, што сказаць,— сонца села, госці прыбываюць, а яго няма.

Бабка. Госці, што мухі: злятаюцца туды, дзе чуюць спажыву. Трэба ўсіх прыняць, хоць іх разапрэ... Вось бяда, што маладога няма, а вяселле распачалося даўно.

Фрося. Трасецца сэрца, баюся нечага.

Бабка. Нічагуткі, усё будзе добра. Калісь выходзіла і я замуж і таксама баялася, а пасля мужы адзін за другім як з меха пасыпаліся. *(Паўза.)* Вось што, Фрося, каб часам табе не здавалася, што я лгала,— як абяцала ў дзень вяселля аддаць і другую частку пасагу,— аддаю, прымі, родная, і карыстайся, тут 3000 рублёў. *(Дае.)*

Фрося. Бабусенька, якая вы добрая! *(Кладзе на стол.)*

Бабка. Схавай, дзеткі, добра, каб часам не ўкралі.

Фрося. О, я схаваю!

Бабка. Будзеш гаспадыня, то мужа, гаспадарку трымай у прыполе. Муж павінен цябе слухаць і баяцца, штодня прыбірай яго да рук і кіруй, як каня, без цябе не павінен нікуды вылазіць, на другую бабу каб і вокам не маргнуў, а калі б што не так, трэба напужаць.

Фрося. Як напужаць?

Бабка. А так: не паслухаў ці ў пару не прыйшоў —

валіся на падлогу, затаі дух і выдавай, быццам ты самлела; ён да цябе, вады, таго, сяго, а ты ляжы, а пасля, як ужо добра за сэрца возьмеш — з паўгадзіны паплач, падрыгай нагамі,— будзе, як зайчык.

Ф р о с я. Я так не здолею.

Б а б к а. А калі не здолееш, кліч мяне. Я калі шухну, ох, як у баку закалола, усё на порах сатру. Мне не навіна — шасцёх перажыла і сёмы раз выходжу, яшчэ пажыву, ой, пажыву!

Ф р о с я. Ой, куды вам, бабулечка!

Б а б к а. Што куды? Ты не глядзі на сівы волас, сівы волас ліха творыць.

Ф р о с я. Ох, як доўга няма.

Б а б к а. Хоць бы бог дазволіў у тых гарадах пабываць, куды Ігнат абяцаўся завезці... Пакупацца, пакатацца ды на пясочку паляжаць... *(За сцэнай: «ура», «за здароўе маладых»... Музыка грае марш.)* А бацюхны, што яны, падурэлі?

Выбег Г р ы б о ў с к і.

Г р ы б о ў с к і. Агатачка, альясік, што рабіць, гарэлкі госці патрабуюць...

Б а б к а. Смалы з дзёгцем, а не гарэлкі.

Г р ы б о ў с к і. Альясік, мы прапалі, дазволь у склеп палезці, там ёсць запас.

Б а б к а. Чакай, пакуль не трэба, раней адбудзем шлюб, а тады. Хадзем.

Г р ы б о ў с к і. Слухаю, альясік. *(Пайшлі да гасцей.)*

Убягае С ц я п а н.

С ц я п а н. Панна Фрося, даруйце мне, што не ў пару трохі, але бег без памяці, каб паведаміць вас.

Ф р о с я. Дзе Ігнат?

С ц я п а н. Што гэта ў вас за шум,— музыка, вяселле?

Ф р о с я. Гэта госці не дачакаліся маладога, пачалі піць. Дзе Ігнат, чаму не прыехаў?

С ц я п а н. Ён і не прыедзе.

Ф р о с я. Не прыедзе, як так?

С ц я п а н. Скажыце, што ён вам казаў ад'язджаючы?

Ф р о с я. Казаў, вернецца сягоння раніцай.

С ц я п а н. Ён не вернецца.

Ф р о с я. Як можа быць, адкуль такія весткі?

Сцяпан. Я вам скажу, толькі наперад прашу — не плачце, не рвіце сіл, весткі вельмі непачэсныя.

Фрося. Але ж не мучце, скажыце, дзе Ігнат?

Сцяпан. Ён уцёк за граніцу і да вас не вернецца.

Фрося. За граніцу,— як так? Ён жа паперы свае пакінуў, быць не можа! *(Дае паперы.)*

Сцяпан *(узяў, глянуў і схаваў)*. А што ён у вас забраў?

Фрося. Нічога.

Сцяпан. Даруйце, грошы ў вас былі?

Фрося. А то як жа. Частка, што дала бабуля — на стале, а другая — у стале.

Сцяпан. Адчыніце столік, глянем.

Фрося *(глянула)*. Ах, грошай няма!.. *(Пачала галосна плакаць.)*

Сцяпан *(набок)*. Меціў за граніцу, а папаў у ГПУ. А што я вам казаў — памятаеце? Ён растраціў казённыя грошы і, баючыся не папасці ў астрог, даў стракача за граніцу. Ну, годзе, прыйдзіце да памяці, не рабіце гвалту, людзі за сцяной.

Фрося. Ну, што я пачну рабіць, што скажу бабулі, хто паверыць, хто зразумее?..

Сцяпан. Не плачце, людзі ёсць, якія ўжо зразумелі і не пакінуць вас.

Фрося. Я не пераражыву, я загіну!..

Сцяпан. Не плачце, я вас не дам у крыўду.

Фрося. Што я скажу, дзе грошы, людзі асмяюць!..

Сцяпан. Нічога не кажыце, выдавайце, што грошы ёсць, ды яны і ёсць, во... а гасцям я скажу, яшчэ не позна.

Фрося. Позна, я загінула.

Сцяпан. І не загінулі, іскра надзеі яшчэ ёсць.

Фрося. Дзе ж яна, дзе?

Сцяпан. Утрыце слёзы і выслухайце хоць цяпер. Я не прыйшоў вас крыўдзіць, я прыйшоў руку падаць у час бяды. Тады мне супыняў дарогу ён, а цяпер я буду гаварыць вольна. Скажыце мне шчырую праўду.

Фрося. Якую праўду?

Сцяпан. Вы згодны быць маёй?

Фрося. Што, як?

Сцяпан. А так, быць маёй, я вас даўно люблю і рад буду мець за жонку.

Фрося. Ды як жа гэта можна?

Сцяпан. Абы ваша згода, а рэшта ўсё можна.

Ф р о с я. Я не ведаю, ці праўда ўсё з Ігнатам.

С ц я п а н. Праўда.

Ф р о с я. Што скажа поп?

С ц я п а н. З папом я адразу спраўлюся, бачыце, дакументы ў руках. *(Паказаў дакументы Ігната.)*

Ф р о с я. Яны ж зусім не вашы,— Ігната.

С ц я п а н. Ды хто будзе разглядаць, чые яны,— гарачая пара, валі валам, пасля разбяром.

Ф р о с я. Што скажуць людзі?

С ц я п а н. Гэтыя? Для іх абы гарэлка, а хто жэніцца і па якіх дакументах — ім усё роўна. *(Паўза.)* Я чакаю адказу. Людзі прыбываюць — я магу ехаць, як стаю.

Ф р о с я. Я не ведаю, такія пастановы не робяцца так хутка.

С ц я п а н. А трэба пастанову зрабіць. Вы не ведаеце, панна Фрося, якой ганьбай будзе адклад вяселля,— бабы ачэрняць, асмяюць, а якую ж зробяць міну вашы госці, калі б ім сказаць, што не будзе вяселля, а што скажа ваша бабка, калі дазнаецца, што грошы загінулі...

Ф р о с я. Ды я не ведаю, ці праўду вы ўсё кажаце.

С ц я п а н. Вы мне не верыце? Што ж, вам хочацца, каб я вам даказаў, што люблю... *(Дастаў рэвальвер.)* Глядзіце! *(Прылажыў да віска.)*

Ф р о с я. Што вы робіце? *(Адабрала.)*

С ц я п а н. Я не жартую *(набок)*, там ніводнай кулі няма...

Ф р о с я. Ды вы ж не ведаеце, як у нас было з Ігнатам, а пасля мяне будзеце судзіць.

С ц я п а н. Я не мыслю. Я добра ведаю, што Ігнат у вас забраў толькі грошы, а ўсё другое ў парадку,— вы дзяўчына, а калі б не, дык нічога асаблівага. Глупства.

Ф р о с я. Ну, калі так — я згодна.

С ц я п а н *(хітра ўхмыліўся)*. Хвалю за рызыку. Герой дзяўчына! І так, ні матцы, ні бабулі ні слова, толькі слухаць маёй парады. О, здаецца, старыя ідуць.

Фрося перайшла на другі бок. Сцяпан спрытна схваціў і паклаў у кішэні грошы.

Уваходзяць м а ц і і б а б к а.

Б а б к а *(радасна)*. Ігнат! Аглядзелася. Ой, не, не той.

С ц я п а н. Хоць і не той, а як чую — буду госцем, якога пасадзіце на пачэснае месца.

Б а б к а. Ды чаму ж, пасаджу, але ці не ведаеш, дзе запрапасціўся Ігнат, каб ён свету не ведаў.

Маці. Адкуль яму ведаць,— яны ж ворагі, заўжды сварыліся.

Сцяпан. А вось тут наадварот,— вораг ад ворага больш ведае, як хто другі.

Бабка. Ну, дык кажыце хутчэй.

Сцяпан. Фросі я ўжо казаў.

Бабка. Кажыце і мне.

Сцяпан. Няхай не будзе і вам сакрэт, што Ігнат не будзе гаспадарыць над сэрцам Фросі, бо ён уцёк за граніцу.

Маці. Ага, па-мойму!

Бабка. Ох, як у баку закалола.

Сцяпан. Справы зладжыліся дрэнна,— казённыя грошы, растрата, пагроза астрогам, ну, і даў стракача. Мне ён пакінуў ліст, у якім просіць яго не вінаваціць, свая скура даражэй.

Бабка. Вось табе марская вадзіца, ракушкі і пясок. То як жа цяпер будзе?

Маці. Я скажу, як будзе, я! Гэта добра, што так здарылася. Зараз жа паклікаць Пётру.

Бабка. Пётру, ох, як у баку закалола.

Маці. Так, Пётру. Нашто нам гэты шык, нашто нам гэты бляск.

Бабка думае.

Сцяпан. У вас дзіўны густ,— давай абы-каго: то камуніста Пётру, то меншавіка Ігната.

Бабка. Я супроць камуніста, супроць і меншавіка. Не трэба, не хачу. Меншавік... я ведаю, што гэта меншавік,— гэта... ні тое, ні сёе, у яго сярэдзіны няма, а нам дзяцюк патрэбен, каб меў усё.

Фрося. Мама, прасіць Пётру ніхто не пойдзе.

Маці. Хіба ты запомніла, што сягоння вяселле і госці раней шлюбу п'юць даўно і крычаць за здароўе маладых.

Фрося. А вы хіба запомнілі, што Пётра — камуніст і царкоўны шлюб не для яго.

Бабка. Камуніст?

Сцяпан. Але, камуніст.

Бабка. А я ж гэтага не ведала.

Сцяпан. Ну, дык ведайце.

Маці. Тады вяселле адлажыць. Ты, Фрося, павінна мяне слухаць.

Ф р о с я. Даруйце, не паслухаю. Пётра маім мужам не будзе.

Б а б к а. І я кажу,— не для камуніста.

М а ц і. Вар'яткі вы абедзве!

Б а б к а. Каб ты была меншая, я б цябе за гэтакія выразы выкінула б за дзверы, а так скажу — ты сама вар'ятка.

М а ц і. Пустыя вашы словы, як і пусты ваш чэрап.

Б а б к а. Я ведаю, што раблю, да цябе за парадай не пайду.

М а ц і. Вельмі дрэнна, калі так, аднаго не разумею — хто вы пасля гэтага?

Б а б к а. Галава ў хаце.

М а ц і. Галава-то галава, а што ў вас у галаве? Гной.

Б а б к а. Баба, не лайся, трэба ведаць сорт людзям.

М а ц і. Прыпомніце, як самі выходзілі замуж, з маткай гаварылі?

Б а б к а. Я шэсць разоў выходзіла.

М а ц і. Дык хочаце, каб і тут тое самае было?

Б а б к а. Я хачу, каб сягоння збылося вяселле, у мяне ж псуецца закуска. *(Кажа гэта да Сцяпана.)* Сабаку не аддаць.

М а ц і. Закускі ўжо няма, госці пажэрлі, а вяселле адлажыце.

Б а б к а. А я хачу, каб вяселле сягоння адбылося. *(І гэта кажа да Сцяпана.)*

М а ц і. Дык хіба клікнуць з вуліцы шарманшчыка і пачапіцца яму на шыю.

Б а б к а. Будзе ў нас апроч шарманшчыка. *(Да Сцяпана.)* Што вы на гэта скажаце?

С ц я п а н. А вось што, бабусенька, нашто вам шарманшчыкі, або камуніст Пётра, ці нейкі меншавік Ігнат,— Фрося не такая дзяўчына, каб аддаваць яе ў рукі чорт ведае каму. А вы не такія людзі, каб займацца з шалухой. Я ўжо пытаўся ў Фросі і не пачуў нязгоды, запытаюся яшчэ ў вас, бо я даўно люблю Фросю. Аддайце мне Фросю.

Б а б к а. Вам? Ох, як у баку закалола.

М а ц і. Пётру сюды, Пётру! Вон ідзіце, вон!

С ц я п а н *(да дзвярэй)*. Ах, так?

Б а б к а *(да Сцяпана)*. Чакай, чакай. *(За руку)*. Не верадуй, баба, не верадуй.

М а ц і. Пётру сюды, Пётру!

Б а б к а *(грозна)*. Ты замоўкнеш ці не! *(Да Сцяпана.)* Чакай, сынок, чакай! *(Трымае за руку.)*

М а ц і. Біцца буду зараз, вось як!

Б а б к а. Ану спрабуй, я калі дзьмухну... *(Замахнулася.)* Ой, як у баку закалола. Фрося, што ты на гэта?

Ф р о с я. Калі толькі пярэчыць не будзеце, я згодна,— выйсця другога няма.

М а ц і. Ёсць, ёсць, калі не пойдзеш за Пётру, не пойдзеш ні за каго! *(Выйшла.)*

Б а б к а. Не гарачыся, не гарачыся, і ён не горш за Пётру. Будзьце ласкавы, падыдзіце бліжэй, бліжэй, я вас добра не бачыла. *(Падыходзіць, яна аглядае з усіх бакоў.)* Зусім падобны да таго. Не меншавік?

С ц я п а н. Не.

Б а б к а. Сярэдзіна, значыцца, ёсць?

С ц я п а н. Ёсць.

Б а б к а. А скажыце, хто вы?.. Я мала вас ведаю.

С ц я п а н. Член саюза.

Б а б к а. Член саюза... Ну, гэта лоўка! Колькі гадоў?

С ц я п а н. Дваццаць пяць.

Б а б к а. У бога верыце?

С ц я п а н. Веру, наш саюз верыць.

Б а б к а. У споведзі бываеце?

С ц я п а н. Учора быў.

Б а б к а. Як з гарэлкай?

С ц я п а н. Не п'ю.

Б а б к а. А вам ведама, што ў мяне ў баку?

С ц я п а н. Дух нячысты.

Б а б к а. Маладзец, угадаў. У мяне ў баку дух нячысты гаспадарыць, трэба яго выгнаць.

С ц я п а н. Гэта не бяда. Я да вас прышлю ветэрынара, які з такой хваробай хутка справіцца.

Б а б к а. А што ён, гэты дохтар — немец?

С ц я п а н. Француз.

Б а б к а. Значыцца, добры. Буду лячыцца тут, на мора не паеду. Фрося, падыдзі да француза, цьфу, да мяне. *(Фрося падышла.)* Ухіліся. Вось так. Сцяпан!

С ц я п а н. Я тут!

Б а б к а. Ухіліся.

С ц я п а н. Рад старацца!

Б а б к а. Зрабі здаволены твар.

С ц я п а н. Гатова.

Б а б к а *(да дзвярэй)*. Гэй, хто там,— кумы, сваты, музыкі,— маладых да шлюбу выпраўляць. *(Выходзіць*

*грамада гасцей, апроч маці, музыка грае, бабка бярэ за руку Грыбоўскага, становяцца з ім на калені, да Губарэвіча.)* Кум, благаславі!

Усе крычаць «ура!». Губарэвіч, які выйшаў з бутэлькай — благаслаўляе, абліваючы іх гарэліцай.

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Яшчэ да падняцця заслоны чуваць сварка; сварыцца бабка з Грыбоўскім, які добра выпіўшы. Грыбоўскі ляжыць на зямлі, бабка здзірае з яго боты.

Бабка. Гультай, абібок, п'яніца, вон! *(Трымаючы боты ў руках.)*

Грыбоўскі. Агатка, альясік, але ж зразумей...

Бабка. Нічога я не разумею і разумець не хачу. Вон, звадыяш, каб і духу твайго не было.

Грыбоўскі. Але ж прашу цябе, паслухай.

Бабка. Нічога я не хачу слухаць, басячуга, абдурыць хацеў. *(Дражнячы.)* У мяне хатка ёсць, загончык, зямелька ёсць, а як даведаліся — ані нічога няма, слімак, меншавік, нікчэмны! Вылазь вон!

Грыбоўскі. Агатка, альясік, куды ж я босы палезу, ці ж мае гады лазіць?

Бабка. На біржу вылазь.

Грыбоўскі. Куды мне на біржу,— інвалід, стары.

Бабка. А жаніцца быў не стары. Не, брат, мяне не абдурыш,— у якой справе я не хадок, а ў гэтай, будзь пэўны... Вон!

Грыбоўскі. А што ж цяпер рабіць,— тыдзень пажыў, і вон, ну, што я скажу людзям, хто паверыць...

Бабка. Я скажу, я, мне павераць, і будзь пэўны — ні адна баба не пойдзе за цябе. Меншавік — во!

Грыбоўскі. Хоць у пятлю лезь.

Бабка. Лезь, гэта справа не мая. *(Паўза.)* Бачылі, мае міленькія, каго яна мне пасватала,— нічога няма, як у турэцкага святога, а я, боўдзіла, раздабрухалася, боты купіла, думала, праўда, багаты... *(Паўза.)* Ці доўга я буду прасіць?

Грыбоўскі. Чаго ты, альясік, хочаш?

Бабка. Аслабаняй мне хату.

Грыбоўскі. Значыцца, развод?

Б а б к а. Значыцца, ён!

Г р ы б о ў с к і. Зусім?

Б а б к а. Зусім!

Г р ы б о ў с к і *(сеў)*. Не пайду, альясік.

Б а б к а. Як-то не пойдзеш?

Г р ы б о ў с к і. А так, не пайду. Мне і тут добра.

Б а б к а. Ды я цябе качаргой паганю.

Г р ы б о ў с к і. Ану, спрабуй, адказнасць панясеш, альясік, я хоць і стары, але савецкі грамадзянін, спрабуй, кранi.

Б а б к а. У сваёй хаце я з цябе магу скуру садраць.

Г р ы б о ў с к і. Чаму так многа, досыць таго, што боты садрала.

Увайшла м а ц і.

М а ц і. Што тут за гвалт?

Г р ы б о ў с к і. Ды вось, як бачыце, матуля, скончыўся мядовы месяц — выганяе.

М а ц і. Як?

Б а б к а. А так!..

Г р ы б о ў с к і. Садрала боты і гоніць вон.

М а ц і *(да бабкі)*. У вас ёсць розум?

Б а б к а. Больш як у цябе.

М а ц і. Як можна чалавека выганяць, дый без ботаў?

Г р ы б о ў с к і. І я кажу, хто гэта бачыў, каб увосень.

Б а б к а. Ён падманіў мяне,— казаў, ёсць хата, ёсць зямля, а як выявілася...

Г р ы б о ў с к і. Тры аршыны.

Б а б к а. Во, чула?

М а ц і. Не саромце вы людзей, сядзіце, не вылазце.

Б а б к а. Як-то не вылазіць, а карміць хлебам трэба?

Г р ы б о ў с к і. Агатачка, альясік, я сам буду есці.

Б а б к а. Каб цябе моль ела. *(Пайшла ў бакоўку.)*

Увайшла Ф р о с я.

Ф р о с я *(плачучы)*. Мама, я трачу памяць, я не ведаю, што будзе, маё сэрца прычувае бяду, дзе мой Сцяпан? *(Абаперлася на плячо і плача.)* Дзе мой Сцяпан?!.

М а ц і. Ветрагоны вы, і больш нічога. Скакалі, скакалі і даскакаліся. Як цяпер людзям вочы паказаць. Нейкі нялюдскі шлюб і з адным і з другім, і, нарэшце, ні аднаго, ні другога. Адзін адразу знік, а гэты пражыў 4 дні і таксама згінуў.

Г р ы б о ў с к і. Затое я нікуды не згіну, мае вы альясікі.

Ф р о с я. Мама, можа, з ім што здарылася?

М а ц і. Здарылася, здарылася. Праўду казаў Пётра-каваль — гнаць гэтых свістуноў. Ні яго, ні мяне не слухалі, старую вар'ятку паслухалі, а яна вам натворыць — будзеце рады. У яе шэсць мужоў перабывала.

Г р ы б о ў с к і. Але — звычайная рэч.

М а ц і. А можа, і больш.

Ф р о с я. Ну, як можна так казаць, яна ж вам матка.

М а ц і. На сухі лес такіх бацькоў. Усё ж не па-людску зрабіла — і маё жыццё скаламуціла, і тваё асаромела, дом прадала, хавае грошы па кутках, а пацукі точаць, цьфу! *(Выйшла.)*

Г р ы б о ў с к і *(за ёю)*. Чакайце, чакайце, альясік, што вы сказалі? *(Пайшоў.)*

Ф р о с я. А што, калі Сцяпан мяне кінуў?.. *(Плача.)*

Уваходзіць б а б к а.

Б а б к а *(аглядаецца)*. А дзе ж гэты марцовы жаніх? Фрося, дзеткі, ты ўсё плачаш? Скажы, дзе ж твой муж? Гэта ўжо чацвёрты дзень, як згінуў.

Ф р о с я. Адкуль я магу ведаць?

Б а б к а. А можа б, ты пабегла да начальства і распыталася.

Ф р о с я. Дзе мне шукаць таго начальства, пачакаю, можа, прыйдзе.

Б а б к а. Ох, ох, трывожыцца нешта і маё сэрца, абмінула Пётру, а цяпер сама шкадую — гэтакі хлапец, а тут з поля вецер, два зайцы. А грошы, Фросечка, ты добра захавала?

Ф р о с я. Грошы ўсе пры мне.

Б а б к а. Глядзі, трымай, я больш табе нічога даць не магу, вяселле шмат каштавала, а рэшту пацукі з'елі.

Ф р о с я. Мне больш нічога не патрэбна.

Б а б к а. Найбольш я сярдзіта на Ігната. Абяцаўся лячыць, купаць у моры, вазіць на спрунжыновых конях, а як прыйшлося — нічога гэтага. *(Перадражнівае.)* Бок вылечу, ракушак налаўлю, каб ты шалёных сабак лавіў, прахвост. А Сцяпан таксама салгаў, абяцаў доктара-француза прыслаць і не шле. *(Паўза.)* А ты ведаеш, Фрося, быць можа, ён да таго доктара пайшоў і, не ведаючы мудронага прозвішча, шукае. Не сумуй, Фрося, не плач, можа, усё добра будзе, з людзей маладых рэдка

хто гаспадар слова бывае. Была і я маладая, шасцярых мужоў мела,— раней плакала, а пасля за розум узялася, круціла, як хацела, вось і цяпер ганю вон, меншавік... Пакінь сумаваць, хадзем на полудзень — учарнела. Сцяпан нідзе не дзенецца, прыйдзе. *(Пайшла.)*

Ф р о с я. Што будзе, што будзе,— я павінна лгаць, што грошы ёсць, калі і звання іх няма. *(Выйшла.)*

Уваходзяць П ё т р а, а г е н т в ы ш у к у і м і л і ц ы я н е р.

К а в а л ь. Якраз няма нікога, прыйдзецца хвілінку пачакаць.

А г е н т. Мне б маладую апрасіць ды сваццю залавіць, а са старой гаварыць не варта.

К а в а л ь. Усіх вось зараз папытаем. *(У акне ўбачыў.)* А вось, лёгкая на ўспамін, сваццconfigured ідзе.

А г е н т. Во, гэта добра. Яе адразу за манішку.

К а в а л ь. І дзеля гэтага ты на хвілінку захавайся, а я застануся тут. *(Агент і міліцыянер схаваліся, а Пётра сеў, падпёршы галаву.)*

Уваходзіць с в а ц ц я.

С в а ц ц я *(прыглядваецца)*. Нічога не разумею, што тут парабілася? Людзі кажуць адно, а тут — другое. *(Падыходзіць.)* Калі не мыляюся, пан Пётра?

К а в а л ь. Я не пан, нашто такая далікатнасць? Я каваль.

С в а ц ц я. Ну і што ж, жыві здароў.

К а в а л ь. Што ж вам патрэбна ад мяне?

С в а ц ц я. Ды так, нічога не патрэбна. І сама не ведаю, каму верыць, хто ж, нарэшце, муж?

К а в а л ь. А хто для вас выгадней?

С в а ц ц я. Для мяне ўсё роўна.

К а в а л ь. А можа, розніца якая і ёсць, скажам, між Пётрам-кавалём і панічамі,— панічы, нябось, абяцалі, а Пётра — не.

С в а ц ц я. А дзе ж тыя панічы?

К а в а л ь. Што, след утрацілі і пэўна не ўсё атрымалі за фактарства?

С в а ц ц я. Аб тым-то ідзе, што нічога не атрымала,— абяцалі, прахвосты, і не далі.

К а в а л ь. А многа належылася? Брахала, як сучка.

С в а ц ц я. Як можна так абражаць кабету?

К а в а л ь. Біць трэба.

С в а ц ц я. Выбачайце, мне няма часу. *(Хоча адыходзіць, але агент і міліцыянер засланілі дарогу.)*

А г е н т. Ану, цётка, пачакай, гаварыць зараз будзем.

С в а ц ц я. А бацюхны мае, аб чым мне з вамі гаварыць зараз? *(Хоча выйсці.)*

А г е н т *(да міліцыянера)*. Вядзі яе ў міліцыю!

С в а ц ц я. Браточкі, дарагія, за што, мусіць, нехта набрахаў, я ж ваша ўся, і сэрцам і душою за Савецкую ўладу. *(Павёў.)*

Уваходзіць м а ц і. За ёю Г р ы б о ў с к і босы і б а б к а. Абое здзівіліся і сталі. Агент стаіць ля дзвярэй і піша.

Б а б к а. Што ж гэта значыць, гэтулькі гасцей у нас, і Пётра тут. Вось добра, Пётрачка, а мы цябе чакаем, ты цяпер патрэбен нам...

К а в а л ь. Затое вы мне не патрэбны.

Г р ы б о ў с к і. Вось гэта я разумею. Лоўка, альясік.

А г е н т. Дзе ваша дачка?

Б а б к а. Нашто яна вам?

А г е н т. Мне патрэбна яе апрасіць.

М а ц і. Фрося дома.

А г е н т. Дзе яе мужы?

Б а б к а. А не ўспамінайце, няма, абодва згінулі.

А г е н т. Калі яны згінулі?

Б а б к а. Адзін адразу знік, а другі 4 дні ўжо.

Г р ы б о ў с к і. Мусіць, паўцякалі, альясікі.

К а в а л ь. Дзе ваш пасаг? *(Паўза.)* Ну, пасаг, 6000 рублёў. *(Кажа гэта са смехам.)*

Б а б к а. Як дзе? У Фросі... Гэта яе грошы.

К а в а л ь. Вялікая памылка,— грошай няма, яны згінулі.

Б а б к а. Як-то згінулі? *(Праз дзверы слухае Фрося.)*

К а в а л ь. Праўда, цяжка было дазнаць планы бліскучых вашых панічоў, але Пётра-каваль дазнаўся. Вашыя грошы згінулі! Калі для вас яшчэ сакрэт, дык знайце, 3000 рублёў украў першы жаніх — Ігнат, а другія 3000 рублёў сцягнуў другі жаніх — Сцяпан. *(Рагоча.)*

Б а б к а. Кажы, хто налгаў табе?

М а ц і. Няўжо гэта праўда?

К а в а л ь. У маіх руках пэўны матэрыял. Ігнат сцягнуў грошы, пакінуў чужы пашпарт, падаслаў другога, а яго падручны жаніўся па яго пашпарце, сцягнуў другую частку грошай. Вось перад вамі яго дакументы.

*(Чытае.)* «Апреля, 10 дня 1927 г., павянчан первым бракам Ігнатий Сиверцов с мещанкой Ефросиньей Дыбовской». Выйшла так, што прахвост прахвоста ажаніў, будучы абодва жанатымі. *(Рагоча.)*

Грыбоўскі. Во гэта альясікі.

Бабка. Матачка найсвенша, што прыйшлося чуць!..

Маці. Бедная мая дачушка, бедная сіротка.

Каваль. Ну што, гладкая работа, га?

Бабка *(плачучы)*. Ой, гладкая, ой, работа!..

Грыбоўскі. Гладзей і быць не можа.

Каваль. Але гэтага мала, вашы жаніхі, апроч таго, што заграбілі вашы грошы,— вашых не шкада, туды ім і дарога, не трэба было трымаць у хаце,— заматалі яшчэ грошы дзяржаўныя і звязаліся з контррэвалюцыяй, яны абодва арыштаваны.

Бабка. Лепш бы мяне забіў гром.

Грыбоўскі. І я кажу, куды лепш было б.

Каваль. Ну, кажыце, дзе Фрося?

Бабка. Фрося там. *(Паказала на галоўныя дзверы.)*

Каваль *(да агента)*. Хадзем сюды. *(Пайшлі.)*

Маці. Вось бачыце, да чаго вы нас давялі сваім зухвальствам,— засталіся без грошай і толькі дзіця аганьбілі — прадалі. *(Выйшла ў галоўныя дзверы.)*

Бабка *(плачучы)*. І мяне аганьбілі, прадалі...

Грыбоўскі. Цяпер, альясік, хоць бы ты мяне прасіла — не застануся,— няма ў цябе грошай, няма і мяне. *(Пайшоў.)* Шукай сабе другога.

Бабка. Дзе ж мая смерць, нашто зямля трымае мяне, нашто ногі носяць мяне, на старасці гадоў засталася, як убогі пад крыжам, без капейкі, усе мае грошы ляснулі, апроч гэтых, што пацукі з'елі. *(Кінула аб зямлю.)* Павешуся!.. Павешуся!.. *(Узяла вяроўку і пайшла ў галоўныя дзверы.)*

Увайшла Фрося.

Фрося. Чула і зразумела ўсё. І мне выхаду няма. Павешуся!.. *(Узяла вяроўку і пайшла ў бакоўку.)*

Уваходзяць Пётра і агент.

Каваль. І сам не ведаю, куды ж яна падзелася. Хацеў паслухаць, што яна скажа, а затым няхай прыйдзе даведацца сваіх мужоў.

А г е н т. Ці варта нам шукаць яе, выклічу — сама прыйдзе, там дапрос зніму.

К а в а л ь. Ваша справа. *(Паднімае грошы, што пацукі паелі.)* Во, бачыў?! *(Абодва смяюцца.)* Праца пацукоў!..

А г е н т. Цяпер, брат, гэта часта-густа, цемната наша, цемната.

К а в а л ь. Як ведама, тысяч пяць пагрызлі пацукі...

А г е н т *(смяецца)*. Хадзем! *(Выйшаў у галоўныя дзверы.)*

К а в а л ь. Ану, гляну яшчэ сюды. *(Убачыў за дзвярыма Фросю, што яна чапляе на шыю вяроўку.)* Фрося, ты што гэта! *(Пабег туды і зараз жа вядзе яе з вяроўкай на шыі назад.)* Вось бачыш, мае словы збыліся. *(Здымае з шыі вяроўку.)*

Убягае м а ц і.

М а ц і. Пётрачка, ратуй, бабка павесілася! *(Пабегла назад.)*

Ф р о с я *(хацела было бегчы, але Пётра затрымаў)*. Няхай вісіць, адной вар'яткай будзе менш.

М а ц і ўводзіць на вяроўцы б а б к у, вяроўка на шыі.

М а ц і *(пасадзіўшы яе)*. Здурэла баба, дальбог, здурэла.

Б а б к а. Вось табе ракушкі, вось табе пясочак і спружыновыя конікі.

З а с л о н а

# КРАБ

*Драма ў пяці актах*

## АСОБЫ

Афіцэр польскай дэфензівы — 30 год.
Марыся, вучыцелька беларускай школы — 23 гады.
Ягор, вучыцель » » — 25 год.
Мікола, стары сторож школы, былы салдат, ходзіць у вайсковым мундзіры, глухі — 65 год.
Макрына, старажыха школы — 38 год.
Ахрэм, перавознік — 50 год.
Алеся, сялянская дзяўчына, падпольніца — 20 год.
Прадстаўнік асветы, польскі чыноўнік — 50 год.
Сакратар, дробны чыноўнік — 18 год.
Жабрак-калека, пераапрануты шпег — 25 год.
Трое партызан.
Жук, хлапец, падпольнік — 20 год.
Сялянка Параска.
2—3 польскіх жандары.
Грамада сялян — бабы, дзяды, мужчыны, хлапцы, адзін гаспадар нямы.

## АКТ ПЕРШЫ

На беразе Нёмана: стаіць шалаш, човен; ля дарогі слуп з таблічкай, белым арлом і надпісам: «Весь Шчорсы Паньства Польскего». Недалёчка ад слупа два пянькі. Ля шалаша спіць перавознік Ахрэм. З'яўляюцца Алеся і Параска.

Алеся. Ды хадзем, хадзем!.. Ужо зусім недалёчка, вунь яна за кустом ляжыць... Бачыш?..

П а р а с к а (*упіраючыся*). Не, мая даражэнькая, не пайду...

А л е с я. Няўжо палохаешся?..

П а р а с к а. Баюся! Удзень гляну, уначы з'явіцца!..

А л е с я. Няўжо яна цябе ўкусіць?..

П а р а с к а. Ды неяк вусцішна!..

А л е с я. А ты перажагнайся, страх і адчэпіцца!..

П а р а с к а. Ды каб і хацела перажагнацца, дык няма на што... Хоць бы маленькі крыжык!..

А л е с я (*паказваючы на слуп*). А во!..

П а р а с к а. Ты хіба здурнела: гэта ж слуп — дрэва!..

А л е с я. І крыж — дрэва. Усё ж роўна!..

П а р а с к а. Гэта табе мо ўсё роўна, бязбожніца, а мне патрэбен крыж і абразок святы...

А л е с я. А хіба ж не бачыш? Ёсць — пятух, глянь на яго дый маліся!..

П а р а с к а. Ты такі здурнела!.. Каб я на петуха малілася!..

А л е с я. Ды чаго толькі на абразах не намалёвана!..

П а р а с к а. Пакінь ты, недавярак, жартаваць! Я адыходжу!..

А л е с я. Так і не пойдзеш глянуць? Трэба б табе глянуць: можа, і спазнала б?..

П а р а с к а. Ды яна ж чужая... не з нашага боку!..

А л е с я. Скуль жа ты яе ведаеш?

П а р а с к а. Я?.. Кінь ты дурыць, дзяўчына!.. Пачуюць людзі, у суд павалакуць! (*Жвава пабегла назад.*)

А л е с я. І што за людзі? Ценю свайго палохаюцца!.. Ведае ж няшчасную ахвяру, а зарэж — не скажа!.. Ну, трэба будзіць Ахрэма... Дзядзька Ахрэм, а дзядзька Ахрэм! Уставай!..

А х р э м (*прачынаецца*). А няхай цябе качкі!.. Сон перабіла, а ноч не спаў. Якая такая справа ў цябе?..

А л е с я. Паважная справа, дзядзька!.. Паспееш потым выспацца!..

А х р э м (*устаў*). Заматалі зусім старога!..

А л е с я. Няўжо злуеш?

А х р э м. Ды не!.. Я так!.. За вас — сама ведаеш — я ў пятлю палезу!.. Кажы ж, у чым справа?

А л е с я. Ад гэтай хвілі, аж пакуль не з'явіцца следства, ты павінен не адыходзіць ад утопленіцы ні на крок!..

А х р э м. Так!.. Далей?

А л е с я. Потым, як сваё вока даглядай, каб не зня-

лі з рукі пярсцёнка! Калі б хто цябе прасіў зняць яго, скажы зараз жа мне, будуць даваць за гэта грошы — бяры, і таксама паведаміш мяне!..

А х р э м. Алеся, няўжо ж тут загадка ёсць?

А л е с я. Ёсць!

А х р э м. А я, калода дубовая, думаў, сама дзяўчына ўтапілася!..

А л е с я. Утапілі!..

А х р э м. Матачка найсвеншая... *(Хацеў быў перажагнацца.)*

А л е с я *(перабіваючы яго ў гэтым)*. Ты зноў Ахрэм?

А х р э м. Выбачай, даражэнькая!.. Гэта ж я па старой навычцы... Як ведаеш, я гэтых святых ужо выракся дый самога бога ўбаку пакінуў. Адзін каламут з імі... Хто ж яе ўтапіў?

А л е с я. А хто табе ўчора даручыў ліст Марысі перадаць?

А х р э м. Бацюхны мае, вось добра, што ўспомніла, а я і забыўся!.. *(Шукае ў кішэні.)* Ды вось ён, гэты ліст, а даручыў яго мне жандар-афіцэр, ты ведаеш, паляк... *(Паказаў.)*

А л е с я *(узяла ліст, спрытна адклеіла, прачытала і аддала назад)*. Гэты і ўтапіў.

А х р э м. Жандар? Алеся, даражэнькая за што ж ён яе?

А л е с я. Павуку, каб жыць, кроў, жыццё чужое патрэбны!..

А х р э м. А я, цёмны мужык, і не сцяміў!..

А л е с я. Ну, Ахрэм, глядзі ж, памятай... за кожным крокам сачы!..

А х р э м. Усё чысценька давяду табе!..

А л е с я. Сягоння зноў перавозіць будзеш, а пазней паедзем і мы самі!..

А х р э м *(з радасцю)*. Туды, да нашых?..

А л е с я. Так!..

А х р э м. Ото ж, каб матачка найсвеншая... *(Схамянуўся.)*

А л е с я *(перабіваючы яго)*. Ахрэм!..

А х р э м. Выбачай, даражэнькая, не буду, я ж ужо выракся...

А л е с я. Будзь жа, Ахрэмка, гатоў!

А х р э м. Згода!.. А мяне там прымуць?..

А л е с я. Належна нават ацэняць заслугі старога партызана!..

А х р э м. Няхай ім матачка найсвеншая... *(Схамянуўся.)* А няхай яе, няхай, даўно ўжо багоў выракся, а яны ўсё на языку целяпаюцца...

А л е с я. Бывай жа, Ахрэм! *(Пайшла ў той бок, адкуль прыйшла.)*

А х р э м. Шчасліве́нька! *(Пра сябе.)* Залатая дзяўчына! Як жыву, не бачыў другое такое! Яна ўсюды паспее, вось што знача падпольніца!.. Няхай жа ёй матачка найсвеншая... *(Схамянуўся.)* Цьфу ты, ізноў!.. Ніяк з языка не злезе... *(Глянуў убок, дзе ляжыць утопленіца.)* Ты чаго там калупаешся?.. Чуеш?.. Накрый дзяругаю — хай ляжыць у цяньку... *(Чуваць голас здалёку: «Дзяругаю?»)* Ды няўжо ж дыванам!.. Пярсцёнка толькі не чапай, пярсцёнка!..

Падышоў з другога боку настаўнік Я г о р.

Я г о р. Ты з кім гэта, Ахрэм?

А х р э м. А!.. Добрага дня!.. Ды вось хлопцу гукаю! Не слухае, шэльма,— кажу, не чапай утопленіка, а ён шастае ля яе!..

Я г о р. Што, ізноў утопленік?

А х р э м. А так... дзяўчына!.. Другі дзень, як ляжыць ужо...

Я г о р. А!.. Ведаю!..

А х р э м. Чакаем войта: дазнанне рабіць! Апранута па-панску, з пярцёнкам на руцэ...

Я г о р. Ведаю!.. Хадзем... глянем на яе... А пасля ты мяне перавязеш на той бераг!..

А х р э м. На той бераг, выбачайце, удзень не павязу: начальства забараніла... Сяляне, як ведаем, на гарачку там хварэюць... выміраюць...

Я г о р. Мы з табою цішком як-небудзь!..

А х р э м. Не, даруйце, удзень не павязу! Баюся, паны шомпалаў дадуць!..

Я г о р. Як жа цяпер? Мне трэба пабачыць Марысю.

А х р э м. Толькі ноччу!..

Я г о р. Як сабе хочаш!.. Не павязеш ты, павязе хто іншы! *(Пайшоў.)*

А х р э м. Чаму ж не! Хіба мала рызыкантаў! *(Пайшоў за ім.)*

Падышоў стары М і к о л а са спарышамі.

М і к о л а. Ягорка, чакай! Ягорка! Я так і ведаў!.. Чатыры дні яе не пабачыў, ну, і есці перастаў. І што зра-

біць, каб ён да гэтай дзяўчыны не так ліп?!. *(Пачынае клікаць.)* Ягорка!

Варочаецца Я г о р.

Я г о р. Я тут, Мікола! Ты што?

М і к о л а. Ды вось крычу, гукаю — палуднаваць пара!..

Я г о р. Не хочу я есці!..

М і к о л а. А... сесці?.. Ды дзе ж тут сесці?

Я г о р. Я кажу: «Не хочу есці!»

М і к о л а. Я так і ведаў!.. Пра ежу забываеш — хутка з цябе косці тырчэць будуць!.. Я, калі яшчэ малады быў і бегаў за дзяўчатамі, не ў свой дух еў...

Я г о р. Ідзі ты, Мікола, у школу!.. Я хутка вярнуся... Пабачуся адно з Марысяй!..

М і к о л а *(ставячы за пень спарышы)*. Пакуль тая Марыся, пасілкуйся ты заціркай ды кашаю!.. Бо ніякае там каханне не забараняе есці!..

Я г о р. У нас забараняе!..

М і к о л а. А я калі быў малады, дык удваіх з дзяўчынаю, бывала, булку хлеба елі ды сала фунты два...

Я г о р. Ну, бяры ж свае спарышы ды ідзі!

М і к о л а. Што ты жартуеш?! Ды хоць тут перуны, назад не панясу, павінен ты з'есці! *(Дастаў яшчэ з-за пазухі вялікую лусту хлеба, паклаў яе на пень і пайшоў.)*

Я г о р *(гледзячы яму ўслед, смяецца)*. І з чаго ўздумаў сталага няньчыць?!

Падышоў А х р э м.

А х р э м. Я ж казаў! Знайшліся-такі рызыканты, перавезлі!..

Я г о р. А ты баяўся!..

А х р э м. А няхай ім немач! Баюся, такі ўловяць, прыб'юць!.. Малы смак ад шомпалаў.

Я г о р. Гэта ў іх культурны спосаб!..

А х р э м. Каб яго свет не ведаў, гэткага спосабу! *(Паўза.)* Што яна не ідзе? *(Гляну ўбок.)*

Я г о р. А вунь дзе яна!

А х р э м. На табе,— і яна разглядае ўтопельніцу!.. Марыся, нашто глядзіш: спаць дрэнна будзеш!

А х р э м накіраваўся ў яе бок. Ягор застаўся на месцы. Праз некалькі хвілін падыходзіць М а р ы с я.

М а р ы с я. Здароў, Ягор. Ты бачыў? *(Паказвае ў той бок, дзе ўтопельніца.)*

Я г о р. Бачыў!

М а р ы с я. Ведаеш хто?

Я г о р. Ведаю!

М а р ы с я. Няўжо будзем маўчаць?

Я г о р. Пакуль што памаўчым, а пасля гукнем!

М а р ы с я. Як можна чакаць? Пад суд!

Я г о р. Пачакаем! Вось што, Марыся: пільная справа!

М а р ы с я. Слухаю!

Я г о р. Учора арыштавалі Залуцкага, а тут з дня на дзень могуць забраць мяне, трэба, каб ты да спраў стала бліжэй!

М а р ы с я. Так-то так, але нейкі час я павінна быць там, бо хвароба за ракою пашыраецца, сяляне выміраюць больш і больш... Дактароў мала, а я ж ведаю медыцыну, ну, і дапамагаю...

Я г о р. А што будзе, як сама захварэеш?

М а р ы с я. Думаю, што не!

Я г о р. Як мне здаецца, ты ўжо нездарова!

М а р ы с я. Ну, што ты!

Я г о р. У цябе выгляд хворага чалавека!

М а р ы с я. Стамілася!..

Я г о р. Ну, што ж, пакуль буду цягнуць працу адзін!

М а р ы с я. Жадаю поспеху!

Я г о р. Якія адносіны да цябе апошні час чыноўнікаў і ўлады крэсовай?

М а р ы с я. Я б сказала, нядрэнныя!

Падышоў А х р э м.

А х р э м. Даруй, Марыся, маёй дурной галаве! Яшчэ ўчора польскі жандар даручыў перадаць табе яшчэ ліст, а я, калода дубовая, і сягоння цягаю яго! Калі ласка!.. *(Аддае.)*

М а р ы с я. Чаго яму трэба ад мяне?

А х р э м. Не ведаю! Ведаю толькі — сярдзіты, што віхор... Марысечка, абарані мяне, а то зноў біць будуць. Шомпал — не жартачкі. *(Глянуў убок.)* А бацюхны мае!.. Ён сюды ідзе, і не адзін: нехта прывёз! *(Пабег у той бок, адкуль прыйшоў.)*

Я г о р. Марыся, што гэта значыць? Скуль ты знаёма з польскім жандарам?

М а р ы с я. Чакай, скажу!.. Спакойна выслухай мяне! У той час, калі я цябе не ведала, да майго бацькі прыязджаў ён. Я яшчэ вучаніцай тады была. Ён да мяне сва-

таўся... Бацька быў згодзен, а я не... Калі Польшча захапіла Заходнюю Беларусь, бацька мой, як былы афіцэр, служыў у Чырвонай Арміі і ваяваў супроць белапалякаў, а я заставалася тут... Бацьку на фронце забілі... Учора я атрымала ад гэтага жандарскага афіцэра ліст і прыехала зараз за парадай...

Я г о р. Да каго?

М а р ы с я. Ягор!.. *(Паўза.)* Да цябе!..

Я г о р. Што ён піша?

М а р ы с я. Піша, што прывёз весткі ад бацькі...

Я г о р. Бацька ж твой быў у чырвоных?! Адкуль жа ён мае весткі?..

М а р ы с я. Не ведаю!

Я г о р. Тут нешта не так!..

М а р ы с я. У чым тут справа?

Я г о р *(глянуў убок)*. Скажу потым! Ён сюды ідзе... *(Адыходзіць.)*

М а р ы с я *(ідучы за ім)*. Ягор, пачакай!.. *(Скрылася. Чуваць здалёк голас афіцэра.)*

Падыходзяць а ф і ц э р і А х р э м.

А ф і ц э р. Вялікая вада...

А х р э м. Зіма была сняжыстая... Паводкай труп прыгнала...

А ф і ц э р *(здзіўлена)*. Труп?

А х р э м. Паненка нейкая... Ляжыць вунь там...

А ф і ц э р. Не ведама, хто яна?..

А х р э м. Пакуль што не, але даведаюцца людзі, бо пярсцёнак на руцэ...

А ф і ц э р *(схамянуўся)*. Ты ліст мой перадаў?

А х р э м. А то як жа?.. Перадаў!..

А ф і ц э р. Пакліч мне настаўніцу!..

А х р э м. Слухаю!.. Яна чакае пана...

А ф і ц э р. Папрасі яе сюды!..

А х р э м. Рад слухаць, паночку!..

У час размовы ціха падышла А л е с я, села за пнём і пачала са спарышоў есці, прыкусваючы хлебам, які пакінуў Мікола. Афіцэр яе не ўбачыў. Ахрэм жа заўважыў.

А ф і ц э р. Цо я зробілэм!.. Я себе здрадзілэм!.. Пярсцёнэк з моен монограмон заставілэм!.. *(Думае.)* Так! *(Кліча Ахрэма.)* Пшэвознік! Ходзь тутэй!..

Прыбягае А х р э м.

А х р э м. Я тут, паночку!

Афіцэр. Вось што: як вайсковы даследчы, я павінен пад вялікім сакрэтам даведацца, хто ўтопельніца... Быць можа, хто яе забіў...

Ахрэм. Як на мой розум, сама загубіла жыццё, бо каб хто забіў, пярсцёнак зняў бы... *(Кажа гэта, як бы нічога не ведае.)*

Афіцэр *(здаволены гэтым)*. Зусім разумна развагжаеш! А ты добра сцеражэш яе?

Ахрэм. А то як жа!.. І дзень і ноч пільную, пакуль следства...

Афіцэр. А пярсцёнак ніхто не зніме?..

Ахрэм. Ну, як жа можна! Я ж пільную!..

Афіцэр. Хадзем глянем!..

Ахрэм. Калі ласка!..

Афіцэр *(затрымаўся)*. Не, лепш прынясі пярсцёнак сюды!.. Ён патрэбен для пратакола!..

Ахрэм. Слухаю, панок!..

Афіцэр. Як даўно ўжо яе сцеражэш?..

Ахрэм. Ды дзве ночы!..

Афіцэр. Плацяць табе за варту?..

Ахрэм. Не!.. Так, шкадуючы чалавека, пільную!.. Пакуль закапаюць...

Афіцэр *(дае капшук грошай)*. Маш гасцінец.... за службу спраўную!..

Ахрэм *(хітра)*. Гэтулькі грошай?!

Афіцэр. Ты варт гэтага! А трохі пазней мэдалю атрымаеш!.. Так кліч жа паненку! *(Сам павярнуўся ў другі бок.)*

Ахрэм. Дзякую за гасцінец! *(Адыходзячы.)* Ахрэм, настаў вушы! *(Пайшоў.)*

Афіцэр *(адзін)*. Калі пярсцёнак прынясе, усё добра будзе! *(Убачыў Алесю.)* Ты хто такая?

Алеся *(прыкінуўшыся дурною і глухою)*. Га? Палудную, панок! Крупнічак сёрбаю. Калі ласка, лыжачку... *(Падае лыжку)*.

Афіцэр. Прэч да ліха!..

Алеся. Га?.. Я глухая! З печы звалілася... патыліцаю аб прыпек... Таму ем шмат!.. *(Апусціла лыжку ў спарыш і кажа.)* Вось табе і на!.. Утапіла!..

Афіцэр *(схамянуўся)*. Што?

Алеся. Лыжку ўтапіла!.. Маці валіць на татку, а татка бароніцца, а розуму няма — выскачыў, з печы звалілася! *(Дастала лыжку, пастуквае аб край.)* А... Вірутніца!.. *(Радасна.)* Выплыла!..

А ф і ц э р. Прэч стонт, дурніца!.. Марш!..

А л е с я *(адыходзячы)*. З печы зваліласся, розум і выскачыў!.. Ем шмат... *(Скрылася.)*

Падышла М а р ы с я, застанавілася і глядзіць.

А ф і ц э р. Не спазналі?..

М а р ы с я. Пазнала!.. *(Афіцэр падышоў і моцна пацісну ёй руку.)*

М а р ы с я. Ах! *(Глядзіць на сваю руку.)*

А ф і ц э р. Што з вамі?

М а р ы с я. Пярсцёнак зламаўся!.. Падарунак!..

А ф і ц э р. Вы замужам?..

М а р ы с я. Пакуль што не!..

А ф і ц э р. Гэта дрэнная прыкмета!..

М а р ы с я. Я ў забабоны не веру!..

А ф і ц э р. Вы мяне прымусілі пачырванець!..

М а р ы с я. Самі вінны! У забабоны верыць толькі цемната, а вы ж інтэлігент!..

А ф і ц э р. Ой, ой! Які савецкі дух!..

М а р ы с я. Да справы!..

А ф і ц э р. Прашу!..

М а р ы с я. Мне перавознік казаў, што прывезлі ад бацькі весткі для мяне.

А ф і ц э р. Так — прывёз!..

М а р ы с я. Так будзьце ласкавы...

А ф і ц э р. Так! Гэтыя весткі вельмі цікавыя для вас! Прашу сесці!..

М а р ы с я. Не маю часу: мяне чакаюць!..

А ф і ц э р. Можна ведаць хто?..

М а р ы с я *(гледзячы на пярсцёнак)*. Мой жаніх...

А ф і ц э р *(у гэты час паводдаль пільна за ёю пагля-даў)*. Дазвольце, памагу!.. *(Падышоў да яе.)*

М а р ы с я *(нездаволена)*. Мне не да жартаў! Прашу даць мне весткі пра бацьку, а не, дык я адыходжу!.. *(Аддае яму ліст.)* Вазьміце свой ліст!..

А ф і ц э р *(узяў)*. А вы вазьміце ліст ад бацькі! *(Паказвае ліст. Марыся радасная, але толькі скранулася з месца, як ён падышоў да пня і зрабіў жэст, каб села.)* Сядзем!.. *(Марыся не ведае, што рабіць.)* Але ж прашу — калі ласка.

Марыся нехаця падышла і села.

А ф і ц э р *(сеў, аддаў ліст)*. Вашы ворагі, радуючыся няшчасцю, адабралі ад вас дом, зямлю...

М а р ы с я. Зямля мне не патрэбна, бо яна не наша!..

А ф і ц э р. А чыя?.. *(Марыся не адказвае. Афіцэр ухмыльнуўся.)*

М а р ы с я. Дом мне таксама не патрэбен! У ім я хацела б бачыць школу для сялянскіх дзетак!..

А ф і ц э р. І зямлю і дом мы адбярэм!..

М а р ы с я *(здзіўлена)*. Вы?

А ф і ц э р *(хітра паказваючы на ліст)*. Чытайце! Чытайце!..

М а р ы с я. Скажыце, якім чынам ліст трапіў у вашы рукі?..

А ф і ц э р. Наш полк пад Мінскам адбіваў наступ чырвонай банды...

М а р ы с я *(перабіла)*. Даруйце, мой бацька стары рэвалюцыянер і быў з чырвонымі, а не з бандай!..

А ф і ц э р. Ваш бацька — герой!.. Сваю адданасць чырвоным ён геройскі выявіў!.. Змагаўся да апошніх сіл, быў цяжка зранен, паміраў на полі, я пашкадаваў свайго старога знаёмага, памясціў у наш шпіталь, дзе ён на маіх руках і памёр...

М а р ы с я. Што ён казаў, паміраючы?..

А ф і ц э р *(дастаў паперу)*. Напісаў тэстамент... *(Марыся хацела ўзяць. Афіцэр не даў.)* Чытайце, чытайце ліст!

М а р ы с я *(заплакала)*. Памёр геройскай смерцю!..

А ф і ц э р. Не плачце, не надрывайце сіл!.. Сілы яшчэ будуць вам патрэбны, каб змагацца з ворагамі, якія заграбілі вашу маёмасць!

М а р ы с я. Цяжка!..

А ф і ц э р. Вы не будзеце адна!.. Са мною разам!..

М а р ы с я. З вамі?..

А ф і ц э р. Так! Гэта воля вашага бацькі!.. У пісьме чыталі?..

М а р ы с я. Ну, гэта байкі! Мой жаніх — Ягор!..

А ф і ц э р. Ягор?.. А можна ведаць, хто ён?..

М а р ы с я. Настаўнік беларускай школы...

А ф і ц э р. Ну вось, бачыце, настаўнік школы, на якой амаль ужо вісіць заржаўлены замок!..

М а р ы с я. Пастараемся зняць!..

А ф і ц э р. Завеле пэўнасці!..

М а р ы с я. Ну, я адыходжу! *(Устала.)*

А ф і ц э р. Шчасліва!..

М а р ы с я. Аддайце тэстамент!..

Афіцэр. Не палічыце мяне за гвалтаўніка, але я тэстамент аддам тады, калі...

Марыся. Я вас зразумела!..

Афіцэр. Іначай нельга!.. Утраціць мне вас — утраціць усё!.. Вы для мяне...

Марыся. Я — не для вас!..

Афіцэр. Вы бачыце! У маіх руках вашае права на зямлю, а...

Марыся (*злосна*). Я зноў кажу: зямлі мне не трэба, а будынак пойдзе пад школу!..

Афіцэр. І не так, і не гэтак!.. Усё патрэбна будзе вам, і вось у маіх руках вашае права на зямлю, а ў вашых руках — я сам, ваш абаронца!.. Ну, гляньце ж добрымі вачыма!.. Скажыце, што будзе так, як жадаў ваш бацька!..

Марыся (*злосна*). Не будзе!

Афіцэр. А памятаеце, як яшчэ калісь я прасіў рукі вашай і бацька ваш быў згодзен?! А цяпер... уся вашая ўвага на вучыцелю, з якім вам зусім не па дарозе!..

Марыся. Мне з ім па дарозе!..

Афіцэр. Панначка, ну, зразумейце ж, што там, дзе грукацелі гарматы, там завязаўся вузельчык нашага шчасця... А тут, дзе наступае чароўная вясна, яно зацвіце пахучаю кветкай... Будзьце ж гэтай кветкай, будзьце маім ідэалам! (*Прытуліў яе да сябе.*)

Марыся (*адпіхнула*). Пусціце!

У гэты момант з-за кустоў выйшаў Ягор і ўбачыў гэта.

Ягор (*пагрозліва да афіцэра*). У чым справа?

Марыся (*да Ягора*). Ты бачыў...

Ягор (*падыходзячы бліжэй, тым жа тонам*). Што гэта значыць?

Афіцэр (*насмешліва*). З кім маю гонар?..

Ягор. Вам хочацца ведаць, хто я? Калі ласка!.. Настаўнік тутэйшай школы!..

Афіцэр. Якая хутка будзе зачынена за тое, што яе настаўнік спачувае бальшавікам!..

Ягор. Не спалохаеце!.. (*Марыся ўздрыгнула.*)

Афіцэр (*хітра ўхмыльнуўся*). Добра, вельмі добра!..

Марыся. Яшчэ раз прашу, аддайце мне тэстамент!..

Афіцэр. Дакумента вам нават сілаю не ўзяць!.. Я ж вайсковы!..

Марыся. Які здольны ваяваць з-за вугла!..

Ягор. Здатны гвалціць жанчыну!..

Афіцэр. Ах, так! *(Свіснуў у свісток.)* Ордынанс!

Падбег польскі салдат.

Афіцэр *(гнеўна)*. Взёнць!

Марыся. За што?

Ягор. Марыся, у каго ты пытаеш?..

Марыся *(да афіцэра)*. Гвалтаўнікі! Але ўсё роўна вам нас не задушыць!..

Салдат павёў Ягора — за імі пайшла Марыся. Афіцэр, хітра ўхмыляючыся, паглядае ўслед ім.

Заслона

## АКТ ДРУГІ

У кватэры Ягора. Па сценках малюнкі па прыродазнаўству, глобус і другія рэчы. Ля дзвярэй лава; на ёй драўлянае вядро і конаўка. Мікола сядзіць ля адчыненага акна і чуе, як на вуліцы нехта грае на гармоніку; потым зачыніў акно і заплакаў. Уваходзіць Ахрэм з дубчыкам у руках.

Ахрэм *(падышоў да Міколы, сеў)*. *Сумуеш?..* Горка на старасці знявагу цярпець!..

Мікола. Што скажаш добрага?..

Ахрэм. Адпачыць да цябе прыйшоў...

Мікола. Будзь ласкаў!..

Ахрэм. І сягоння на волас не заснуў, усю ноч перавозіў!..

Мікола. А мо жандары і майго Ягорку куды павезлі?

Ахрэм. Ягор у дэфензіве!.. Мы за гэтым сочым...

Мікола. І старасці няма пры кім дажыць! *(Заплакаў.)*

Ахрэм. Не плач, на ўсіх слёз не хопіць! Вось у мяне сыны былі, думаў, пашануюць старасць... Усе пагінулі — хто на вайне, а хто так, адзін, як той пень, застаўся!.. Не плач, не родны ж ён табе!..

Мікола. Ахрэмка! Табе толькі скажу, ніхто другі гэтага не ведае!.. Ягор — мой сын!..

Ахрэм. Ягор — твой сын?..

Мікола. Сын, родны сын!..

Ахрэм. Чаму ж дагэтуль ты скрываў?..

Мікола. Вялікая таямніца, якую цяпер толькі я раскрываю!.. Вайна была з японцамі... Нас, салдатаў, афіцэры страшна зневажалі... Я гарачы быў, не сцярпеў, кулаком адказаў... Ну, ведама, за гэта кара цяжкая была... Высылка... Па дарозе я хвілінку падлавіў і ўцёк... Доўга блукаў я па свеце з чужым пашпартам, жыў з адной пасялянкай... Найлепшы чалавек была. Ад яе Ягор нарадзіўся, а яна памерла... Пакінуў я Сібір, забраў свайго сынка Ягорку і пасяліўся тут. Усё старое, хто я — скрыў. Я зусім і не Мікола, імя і прозвішча маё зусім другое!..

Ахрэм. Вось калі вузельчык развязаўся!..

Мікола. Нікому толькі не кажы!..

Ахрэм. А ты, мой дарагі, якое ж у цябе добрае сэрца, Мікола!.. Ну, вось гэтак хоць *(моцна пацалаваў)* давяду табе, што люблю і дужа шаную за ўсё. Пад тваёю сярмягай б'ецца добрае мужычае сэрца!.. Не, браток, так пакінуць Ягора не можна!.. На ражон палезу, дэфензіву перавярну, а Ягора вызвалю!.. *(Моцна.)* Ану, шырэй мужычыя грудзі, мацней мужычы голас! *(Схапіў у рукі дубчык і шапку.)*

Мікола. Куды ж ты — куды?

Ахрэм *(махаючы дубчыкам)*. Ягора вызваляць!..

Мікола. Голымі рукамі?

Ахрэм глянуў на дубчык, зразумеў,— рука яго апусцілася, дубчыкываліўся, цяжка дыша.

Мікола *(вялікая прыкрая паўза)*. Ты ж хацеў адпачыць!..

Ахрэм *(пасля паўзы)*. Не засну! *(Пайшоў.)*

Мікола *(падышоў да дзвярэй, прычыніў, стаў ля дубчыка, глянуў, цяжка ўздыхнуў)*. З голымі рукамі!.. *(Пасля паўзы.)* Успомніў! Забалела!.. Эх, доля, доля! *(Сеў панура.)*

Уваходзіць жабрак-калека (пераапрануты шпег).

Шпег. Добры дзень!.. Калі ваша ласка, афяруйце што-колечы беднаму калеку!..

Мікола *(убачыў)*. Што скажаш?..

Шпег. Кавалачак хлеба!..

Мікола *(дае лусту хлеба)*. Скуль? Здалёку?..

Шпег. З-за свету!..

Мікола. Кажы мацней, не чую!..

Шпег. З-за свету!.. Не жыву, а мучаюся!.. Палякі нашага брата, жабрака, душаць! Думаю туды махнуць, да бальшавікоў!..

Мікола. Чаго ж, ваша справа!..

Шпег. А ці не ведаеце, як бы гэта праз граніцу перабрацца?..

Мікола. Не ведаю!.. *(Павярнуўся да акна.)*

Шпег. Шкада, шкада!.. *(Вялікая паўза.)* Ці не можна ў вас крыху вадзіцы напіцца?

Мікола. А чаму ж, будзьце ласкавы! *(Сам глядзіць у акно.)*

Шпег *(набраў вады, напіўся, пасля дастаў рэвальвер і паклаў яго за вядро.)* Бывайце здаровы! *(Пайшоў.)*

Уваходзіць Алеся.

Алеся. Добры дзень!.. Хто гэта ў вас быў?..

Мікола. Нейкі калека... Ці мала іх?.. А чаму пытаешся?..

Алеся. Ды так!.. Гаварыў аб чым, пытаўся?..

Мікола. Жаліўся на сваю долю!.. Казаў — душаць палякі, уцякаць хоча!..

Алеся. А не казаў куды?..

Мікола. Туды, да нашых!..

Алеся. Ага, цікава!.. Аб чым яшчэ пытаўся?..

Мікола. Прасіў парады — дапамогі, каб праз граніцу перабрацца...

Алеся. Ну, і што?..

Мікола. Я маўчаў... Якая мая справа!..

Алеся. А далей?..

Мікола. Ну, і ўсё!.. Вады напіўся і пайшоў...

Алеся. Далей парога не хадзіў?..

Мікола. Вось тут стаяў...

Алеся *(падышла да лавы і хутка выцягнула з-за вядра рэвальвер)*. Ага!.. Дзядзька Мікола! Вы бачыце?..

Мікола. Гэта ж скуль?

Алеся. Эх, дзядзька Мікола!.. Які вы нездагадлівы!.. Гэта ж вам жабрак падаруначак на памяць пакінуў!..

Мікола. Нічога не разумею!.. Мне?..

Алеся. Ды не вам, а Ягору! *(Паўза.)* Ану, вочы ў жменю!

Мікола. А!.. Здагадаўся!..

Алеся. Нарэшце разгадалі...
Мікола. Бацюхны мае! Якія ж гэта людзі?! Чаго яны хочуць?!
Алеся. Самая звычайная рэч!.. Падаслалі пераапранутага шпега, каб зрабіць потым аблаву, знайсці аружжа, а пасля запякаць у астрог!..
Мікола. Алеся, дарагая! Ну, як аддзякаваць цябе?! Ты ж пазбавіла нас ад бяды!..
Алеся. А ведаеце?.. Нам карысць,— маем з набоямі рэвальвер!..
Мікола. Хавай — і справе канец!..
Алеся. Ну, яшчэ не канец — на гэтым іх правакацыя не скончыцца!..
Мікола. Во, каб іх перуны!.. Не ведаеш, Алеська, што з Ягорам?..
Алеся. Ягор сягоння будзе дома!..
Мікола. Няўжо?..
Алеся. А вось пабачыце!..
Мікола. Ой, другога шчасця не жадаў бы! А што добрага ў вас за ракою?
Алеся. Нядобра!.. Марыся захварэла!..
Мікола. Захварэла?..
Алеся. Вельмі цяжка!.. Зараз паеду да яе!..
Мікола. Ой!.. Гэта ж прыкрая навіна!.. Хоць бы не дазнаўся Ягор!..
Алеся. Не скрыеш!.. Будзе ведаць!..
Мікола. А яе сяляне?..
Алеся. Сяляне выміраюць... Мала дактароў і мала ўвагі да беднаты...
Мікола. Мужыку заўсёды так!..
Алеся. Гэта — мужыку, а пану... доктар ёсць!..
Мікола. Яго ж царства тут! *(Паўза.)* Калі ж, дзеткі, пакідаеш нас?..
Алеся. А вось дачакаюся Ягора, тады разам!.. Мы тут сваё зрабілі!..
Мікола. Ды яно так!.. Тут волі вам няма, уцякайце!..
Алеся. Забярэм і вас!..
Мікола. Не, мае дзеткі! Туды павінна моладзь уцякаць — новая сіла, а гэткі хлам, як я... тут будзе сядзець!..
Алеся. Зробім інакш!.. Калі з'явіцца Ягор, скажаце: сягоння ўночы ў лесе за гарой сход... Каб быў!..
Мікола. Добра, скажу!..

А л е с я. А я да Марысі!..

М і к о л а. Глядзі, асцярожна: вялікая вада круціць!..

А л е с я. Ахрэм павязе!..

М і к о л а. Шчасліва, дзеткі!.. Паглядзі, што з ёй!..

А л е с я. Я там штодзень! *(Адыходзіць.)*

М і к о л а. Добра, добра, мяцежнік ты мой!.. *(Алеся выйшла.)* Эх, каб мая маладасць ды сіла!.. Я б сам далучыўся да іх! Старое сэрца, а рвецца на барацьбу! *(Адчыніў акно і глядзіць.)* Якая адважная дзяўчына!..

Уваходзіць Я г о р. Твар збялелы, пад вачыма сінякі.

М і к о л а *(убачыўшы)*. Сынок мой, выпусцілі?

Я г о р. Толькі што!

М і к о л а. Дзеткі мае, як я рад! А як жа змяніўся, не спазнаць! *(Прыгледзеўся да твару.)* Што з табою, сынок?.. Пад вачыма сінякі!.. Білі?..

Я г о р. Ды што вы, як можна!.. Паны — народ культурны!.. Гэтага не дапускаюць!.. Проста так, галодны — ну, і сінякі!.. *(Убачыў, што Мікола плача.)* Ты што, Мікола, плачаш?..

М і к о л а *(скрываючы слёзы)*. Нічога, я так!..

Я г о р. Не плач, Мікола!.. Сорам плакаць, змагацца трэба — і моцна верыць у нашу перамогу!.. *(Паўза.)*

М і к о л а. Ні табе права, ні голасу!.. Школы зачынілі, настаўнікаў у астрог!.. Душаць!..

Я г о р. Усіх не задушаць, Мікола! *(Сказаў гэта з запалам.)*

М і к о л а *(убачыў, што ён захваляваўся)*. Пакінь!.. Супакойся — адпачні!..

Я г о р. Мікола, як Марыся, не ведаеш?

М і к о л а *(скрываючы)*. Не быў, не ведаю!..

Я г о р. Як жа гэта? Ты не ведаеш, я не ведаю... А калі яна захварэла, ці што?..

Убягае П а р а с к а.

П а р а с к а *(у роспачы)*. Людцы, даражэнькія! Ягорка, сынок! Хіба ж не ведаеш?.. Ратуй! Марыся памірае!..

Я г о р *(схамянуўшыся)*. Мікола, ехаць!

М і к о л а. Выбачай!.. Гэта немагчыма! Я з вадою не спраўлюся!..

П а р а с к а. Вада вялікая, як на безгалоўе круціць!..

Я г о р. Дзе Ахрэм?

Мікола. Не ведаю!
Ягор. Я адзін паеду!
Мікола. Ды як можна?.. Кіраваць жа вяслом не справішся!..
Параска. Не можна аднаму, сынок, не можна!..
Ягор. Як жа быць?..
Мікола. Трэба пачакаць, калі спадзе вада!..
Ягор. Я не магу чакаць!.. Яна памрэ!
Параска. І чакаць не можна, гэта праўда!
Ягор (*гнеўна, моцна стукнуўшы па стале*). Мікола, ехаць!..
Мікола (*спалохаўшыся*). Вязу!..
Ягор. Хутчэй ехаць!.. У момант човен адчапі!..
Мікола (*беручы шапку, да сялянкі*). Як жыву, такіх адважных не бачыў!..
Параска. Маладое сэрца: ну, і адважны!..
Ягор. Мікола, не траць часу!
Мікола. Хвілінку пачакай, пакуль човен адчаплю! (*Узяў сякеру, выйшаў. Параска засталася.*)
Параска. Ягорка, сынок, пасляшай! А то, божа барані... А яна ж нашая ўцеха!.. Хто ж нашых дзетак... Сам ведаеш!.. (*Пайшла.*)
Ягор. Грозная навіна!.. Марыся хворая... Арганізацыя пад пагрозай... Мяне могуць выслаць... Як жа быць? (*Узяў у рукі люстэрка.*) Культурны народ! (*Іранічна.*)

Уваходзіць жандарскі афіцэр.

Афіцэр. Выбачайце, што без дазволу!..
Ягор. Дзіўная далікатнасць!..
Афіцэр. Паколькі гэты будынак належыць да школы, а школа наша ўрадовая, а я прадстаўнік ураду... Думаў, маю права ўвайсці і без дазволу!..
Ягор. Што вам патрэбна?..
Афіцэр. Вы адзін?..
Ягор. Адзін!..
Афіцэр. Вось гэта добра: з адным лепш!..
Ягор. Відаць, надоўга, калі без запросін селі...
Афіцэр. Вы мяне не прасілі сесці, дык вашую некультурнасць я ліквідую сам!..
Ягор. Да справы, калі ласка...
Афіцэр. Можна! (*Пляснуў у далоні.*)

Увайшлі два польскія салдаты.

Афіцэр (*да Ягора*). Не рабіце такіх страшных ва-

чэй!.. Самая звычайная рэч... Згодна наказу дэфензівы, мы ў вас павінны зрабіць вобыск... *(Да салдатаў.)* Проша дэтальна обэйжыць помешкане!.. *(Салдаты пачалі праглядаць.)*

Афіцэр. А вы можаце спакойна пасядзець!..

Ягор. Дзякую за пашану!

Вялікая паўза. Яны шукаюць, афіцэр курыць. Ягор моўчкі сядзіць.

Афіцэр. Усё ж такі вы з гонарам, гордая галава!..

Ягор. Не схіляецца перад...

Афіцэр. Беларусіны — народ пакорны, аб гэтым зазначае наша слаўная гісторыя.

Ягор. Так! 300 год трымалі на гарбу і паноў і падпанкаў!..

Афіцэр. А вы граматны: добра ведаеце гісторыю!..

Ягор. Будзьце ласкавы, без ацэнкі, якая мяне не цікавіць!..

Салдат. Мэльдуен пану поручніку, жэ ніц сен не зналезлі!

Афіцэр. Ага! Проша одыйсць!..

Салдат. Розказ пану поручніку! *(Выйшлі.)*

Ягор. Селі, пане паручніку?..

Афіцэр. Сядзеце вы самі! Бо пра тое, што вы бальшавік і рыхтуеце банды, мне як дазорцу дэфензівы ўсё добра вядома!..

Ягор. Нічога вам не вядома!..

Афіцэр. Вам патрэбны факты, калі ласка!.. Вы вось яшчэ не ведаеце, што ў вас сягоння за ракою сход, але Вам не прыйдзецца там быць!..

У гэты час у дзвярах паказваецца Алеся, дае знак, што сходу не будзе,— і знікае. Афіцэр яе не заўважыў, а Ягор усё зразумеў.

Ягор. Памылка, пане дазорца! Ніякага сходу не будзе!..

Афіцэр. Будзе ці не будзе, але папераджаю вас, што вам там быць не прыйдзецца, бо калі толькі ваша мосць і пойдзе, тады пасадзім, і надоўга!..

Ягор. Не пасадзіш, бо не маеш довадаў!..

Афіцэр. Без панібрацтва!..

Ягор. Я ў сваёй хаце!..

Афіцэр дастаў рэвальвер.

Ягор. Не застрашыш!..

Афіцэр. І вось, прымаючы пад увагу, што вы шкод-

ная для нашай дзяржавы асоба, даю вам мажлівасць пакінуць гэтую мясцовасць! Тэрмін — 24 гадзіны!..

Я г о р (*іранічна*). Мала — хачу больш!

А ф і ц э р. 24 гадзіны досыць. За гэты час выбрацца з гэтай кватэры: яна патрэбна нам!..

Я г о р. Ого! Гатоў карэту падкаціць, абы пазбыцца ды хутчэй налажыць лапу на Марысю, але, паночку, гвалтам Марысю не ўзяць!..

А ф і ц э р. Дубовая галава!.. Марыся ўжо...

Я г о р (*са страхам*). Што? (*Афіцэр паказаў пальцам у неба.*) Як?.. Памерла?.. (*Афіцэр маўчыць.*) Я вас прашу!.. Памерла?.. (*Афіцэр маўчыць. Ягор, хапіўшы табурэт.*) Што?..

А ф і ц э р (*наставіўшы рэвальвер*). Назад!..

Увайшоў М і к о л а з сякерай у руках.

Я г о р. Мікола, бачыш?..

М і к о л а. Што вам трэба?..

А ф і ц э р. А ты, хам, хто такі?..

Я г о р. Мікола, кліч сюды людзей?

М і к о л а. А мы хто, не людзі? (*Сунуўся да афіцэра.*)

А ф і ц э р. Застрэлю!..

М і к о л а. Мяне? Салдата? (*Пагрозліва на афіцэра.*)

Я г о р (*засланіўшы сабою Міколу*). Мікола, чакай!..

А ф і ц э р (*стрэліў*). Адзін крок наперад — і смерць на месцы!.. (*Трымаючы ў руках рэвальвер, выходзіць.*)

М і к о л а (*махаючы сякераю*). Ягор, хадзем шукаць праўды!..

Я г о р (*рашуча*). На ўсё свой час, Мікола!.. Едзем...

З а с л о н а

## АКТ ТРЭЦІ

У кватэры Марысі. На сценках малюнкі. Яна ляжыць на ложку хворая, спіць. А л е с я трымае ў руках гадзіннік.

А л е с я. Ну, вось, можна лякарства даць. (*Падышла да ложка, ціха абазвала яе па імені.*) Няхай спіць: пералом хваробы! (*Падышла да акна, убачыла Ягора.*) Ну, вось і Ягор! Напалохалі, пэўна, бедака, чорных вестак наплялі! (*Падыходзіць да дзвярэй і ўпускае*).

Я г о р увайшоў і са страхам спыніўся. У гэты час у Марысі скранулася рука.

А л е с я (*падышоўшы да Ягора*). Што з табою?..

Я г о р. Мне сказалі, што Марыся... (*Паўза.*) Памерла!..

А л е с я. Збрахалі!.. Жыве і будзе жыць!.. (*Ягор, цяжка дыхаючы, сеў.*) Хутка палепшае!..

Я г о р. Усе нашыя планы парушаны!..

А л е с я (*убачыла пад вачыма сінякі*). Ягор! (*Прыкрая паўза.*)

Я г о р. Не пытайся!..

А л е с я (*адышла да сцяны, у вялікай роспачы сурова сціснула бровы. Прыкрая паўза... Перамогшы сябе*). Аб чым пыталіся?..

Я г о р. Запрапанавалі мне выехаць!..

А л е с я. Хто дапытваў?..

Я г о р. Сам палкоўнік!..

А л е с я. А ён?..

Я г о р. Прысутнічаў!.. А ведаеш, у мяне толькі штоператрэслі!..

А л е с я (*пляснуўшы ў далоні*). Ага! Мая праўда! Хто ён?..

Я г о р. Ён і два салдаты!..

А л е с я. І што знайшлі?..

Я г о р. А што могуць знайсці?!.

А л е с я. Спазніліся!.. Я раней за іх была і раскрыла карты!.. (*Паказвае рэвальвер.*) Бачыў? Гэтую цацку палажылі табе ў хату! Апрануты за жабрака шпег, але я ў час ліквідавала справу!..

Я г о р (*устаў*). Паход! Яўны паход!..

А л е с я. Ты яму стаў на дарозе, таму ён і напірае!..

Я г о р (*кінуўшы ў бок Марысі*). Вось яму хто патрэбен!..

А л е с я. Не так яна, як дом, зямля!..

Я г о р. Хітры, гад!..

А л е с я. Думае, што захопіць усё!..

Я г о р. Падавіцца...

А л е с я. Ты ж ведаеш: гэта ён утапіў сваю каханку!..

Я г о р. Ведаю!..

А л е с я. Але пярсцёнак зняць з рукі забыўся, а пярсцёнак з манаграмай!.. Цяпер думае, як бы памылку паправіць, але дарэмная фатыга!..

Я г о р. Усё ведаю!..

Уваходзіць М а к р ы н а.

М а к р ы н а. Ну, гэта мне зусім не падабаецца!.. Ма-

ла адной, так і другі, яшчэ самапасам... Ходзяць, як калісь, раней!..

Алеся. А ты швейцара да дзвярэй пастаў!..

Макрына. Овшэм, не швейцара, а салдата са стрэльбай пастаўлю, каб быў парадак!..

Алеся. Гармату лепш пастаў!..

Макрына. Досыць і стрэльбы будзе! Ніводзін бальшавік не падыдзе!..

Ягор. Як хутка ты, Макрына, запрадалася? Ці даўно без хлеба сядзела?

Макрына. Цяпер хлеб ёсць!.. Калісь Макрына старажыхаю ў школе была, са званком за мужычымі дзяцьмі бегала, а цяпер, овшэм, годзе!..

Ягор. Кім жа цяпер мысліш быць? Службы ж няма, бо школу зачынілі!..

Макрына. Пан палкоўнік службу дасць!..

Алеся. Будзе палкоўнічай жучкай!..

Макрына. І, овшэм, буду!..

Алеся. Будзеш на падушачцы ляжаць і на людзей брахаць!..

Макрына. Абы хлеб, усякі загаўкае!..

Алеся. Ну, і брашы на вецер!..

Макрына. Можа, вы адсюль выправіцеся?..

Алеся. А ты што: пана свайго чакаеш?..

Макрына. Ведама, чакаю!..

Алеся. Не бядуй! Хутка прыляціць твой канарак!..

Макрына. Так будзьце ласкавы аслабаніць хату!.. Падмятаць буду!..

Алеся. Падмяцеш пасля, а вось Марысі лекі трэба даць!..

Макрына. І гэта зробім!..

Алеся. Пойдзем, Ягор!

Ягор устаў.

Макрына *(да Ягора)*. Ну што, таварышчок? Як са службай, овшэм?

Ягор. Не твая справа!

Макрына. Трэба было да іх далучацца, да палякаў!.. А васпан супроць, ну — і проці шэрсці гладзяць!..

Ягор. Прыкусі язык! *(Выходзіць.)*

Алеся. Гаўкай!.. Гаўкай... *(Выйшла.)*

Макрына. Смейся, смейся, верціхвостка!.. Цягаюцца!.. Цягаюцца, як авечкі заблудлыя!.. Ім здаецца, як

ранейй было! Цяпер інакшай пачнем жыць, овшэм! *(Глянула ў акно.)* Во, новае ліха,— цецярук глухі прыпёрся!..

Уваходзіць Мікола.

Мікола. Пахвалёны ў хату!
Макрына. Па якой справе?
Мікола. Як паненка?
Макрына. Нашто яна табе, старая порхаўка?
Мікола. Не тут кажучы, брахалі... быццам-то...
Макрына. А ты пашкадаваў, прыехаў!..
Мікола. Без памяці ляцелі!..
Макрына. Ну, і ляці сабе назад!.. Паненка жыва!..
Мікола. Вось і добра! Вялікая, можна сказаць, радасць! А дзе ж вучыцель? Не ведаеш?
Макрына. Гэта твой?
Мікола. Але — Ягорка!
Макрына. Ён цяпер не вучыцель, а жабрак!..
Мікола. Але, бядак: дні два сядзеў, зневажалі!..
Макрына. Так і трэба мяцежнікам!..
Мікола. Выбачай, родная, не чую: на вайне з гарматаў страляў!..
Макрына. Тады сядзі на печы і не швэндайся па хатах!..
Мікола. Але, у латах!.. Увесь у латах... ведама, бедны!..
Макрына. Ото, глухі цецярук!..
Мікола. Школу зачынілі, у службе адмовілі, а за што, пытацца?!
Макрына. А за тое, што супроць паноў пайшлі! Трэба галаву ніжэй трымаць!..
Мікола. Ён увесь час з беднымі, і яна ж дапамагала беднаце!..
Макрына. Як рабіла, так і мае! Цягала мужыкоў, цягала, а цяпер сама ляжыць!..
Мікола. Добрая дзяўчына! Ай, добрая! Няхай бы сабе жаніліся, я згодзен!
Макрына. Во, чулі?! Ён згодзен!.. Ах ты, старая порхаўка!.. Ды ці ёй патрэбен нейкі там вахлак!.. Мы ёй пана пасватаем, во! Ну, вылазь!..
Мікола. Але, гразь!.. Пасля дажджу гразь!..
Макрына. Гэта ў вас гразь, а ў нас суха! Вон! *(Хапіла за каршэль дзеда.)* Вымятайся! *(Выпіхае вон.)*

Уваходзіць афіцэр. Пакалькі яго штурхнулі, б'е Міколу стэкам.

Макрына *(услед Міколе)*. Няма, нічога няма!.. Ад гэтых жабракоў не абярэшся!.. Дзень добры, паночку!

Афіцэр. Як паненка?

Макрына. А ніц, тылька цо заснэла! *(Убок.)* Здаецца, добра, зусім па-польску!..

Афіцэр. У вас тут сцюдзёна?

Макрына. Овшэм, можна запаліць! Джэво в пецку, сернічкі на прыпецку, враз... *(Выйшла.)*

Марыся *(абудзілася)*. Вы зноў тут?..

Афіцэр. Даведацца прыйшоў!..

Марыся. Вельмі зачаста!..

Афіцэр. Мой абавязак!..

Марыся. Я чула голас настаўніка... Быў ён тут?

Афіцэр. Не было!

Марыся. Скажыце — ён на волі?

Афіцэр. На волі!

Марыся *(рашуча)*. Кажыце праўду!

Афіцэр. Толькі праўду!..

Марыся. Без віны чалавека ўзяць і пасадзіць!..

Афіцэр. Як то без віны? Віна ёсць!.. Ён шкодны палітычны элемент!

Марыся. А вы крымінальны!..

Афіцэр. У вас, Марыся, высокая тэмпература!

Марыся. Не замазвайце, бо не замажаце!..

Афіцэр. Глупства! Марысі я ўсё дарую, бо моцна веру, што нашы ўзаемаадносіны наладзяцца!..

Марыся. Раней аддайце мне тэстамент!..

Афіцэр. І што тады?

Марыся. Тады пабачыце: дом будзе пад школай, а зямля ў сялян!..

Афіцэр. Няма такой патрэбы, і дзеля гэтага тэстамент пакуль што не аддам!

Марыся. Тым горш для вас!..

Ахрэм пад акном.

Ахрэм. А... панок тут, зайду!.. Справа ёсць!

Чутны яго і Макрыны галасы: — Куды лезеш, чортаў смык! — Пусці! — Не пушчу!

Марыся. Макрына, хто там?

Увайшла Макрына.

Макрына. Ды гэты лапатлівы, Ахрэм!

Марыся. Пусці яго!

М а к р ы н а. А на ліха ён! Слядоў толькі наробіць, гразі навалачэ!..

М а р ы с я. Я сказала — пусці!

Макрына ўпусціла А х р э м а, ён уваходзіць.

А х р э м. І не сорам, баба! Нібы кот, за нос ірваць!..

М а к р ы н а. Не лезь, дзе паны ёсць!..

М а р ы с я. Макрына, ты зусім памяшалася!..

М а к р ы н а. Толькі паразумнела!..

А ф і ц э р. Ну, што?

А х р э м. Да вас, паночку! Добрага дня!

М а к р ы н а. Во! Бачылі! Добрага дня! Руку яшчэ падай!..

А ф і ц э р. А што трэба?..

А х р э м. Я прыйшоў паведаміць, што начальства ўжо едзе доследы зрабіць аб той утопельніцы... Трэба ж і вам быць!..

А ф і ц э р. Буду!..

А х р э м. Яны ўжо ў суседняй вёсцы, пытаюцца сялян, можа, хто з іх бачыў яе жывую. Хто?..

М а к р ы н а. Овшэм, я — бачыла!

А ф і ц э р. Жывую?..

М а к р ы н а. Не, мёртвую!..

А ф і ц э р. Палена дубовае!..

А х р э м. А што, зарабіла?

М а к р ы н а. Глядзі за сабою!

А ф і ц э р *(да Марысі)*. Вельмі перапрашаю. Неўзабаве вярнуся!..

М а р ы с я. Можаце і не вяртацца!.. *(Ахрэм памыкаецца застацца.)*

А ф і ц э р *(гэта заўважыў)*. Чаго застаўся?

А х р э м. Хачу паненцы навіны сказаць!..

М а р ы с я. Будзь ласкаў, Ахрэм!

А ф і ц э р. Ну, пайшлі, пайшлі!

А х р э м. Я толькі збольшага!..

А ф і ц э р *(грозна)*. Марш! *(Выйшлі.)*

М а к р ы н а. Усю хату засмуродзіў!.. Не жарт,— каторы дзень утопельніцу сцеражэ!..

М а р ы с я. Яго служба гэтакая!..

М а к р ы н а. А што мне да яго службы!.. Я буду адвучаць гэтых лапатнікаў цягацца сюды!..

М а р ы с я. Якая ты неразумная, Макрына!

М а к р ы н а. А які тут трэба розум, каб чурацца гэтай басаты!..

Марыся. Не разумееш ты нічога, Макрына!..

Макрына. А я вось не разумею, нашто паненцы гэты вучыцель, голы бальшавік!..

Увайшоў Ягор. Ён чуў гэтыя словы.

Марыся (*Макрыне*). Выйдзі!

Ягор. Чула, што казалі? Выйдзі!..

Макрына. Вы мяне гоніце?

Ягор. Так, цябе.

Макрына. А я пану пажалуюся!

Ягор. Тут паноў няма! Вон! (*Выправаджвае.*)

Макрына. Я салдата са стрэльбаю пастаўлю! (*Выйшла.*)

Ягор (*да Марысі*). Марыся, мая радасць, ты адчуваеш сябе лепш?..

Марыся. Лепш, Ягор!.. І хутка зноў да працы!..

Ягор. А гэты дэспат прынёс сягоння мне чорную навіну!..

Марыся. Якую?

Ягор. Сказаў, што ты памерла...

Марыся. Як бачыш, збрахаў! (*Углядаецца яму ў твар.*) Ягор, што гэта значыць? Сінякі?

Ягор. Глупства, Марыся! Так!..

Марыся (*заплакала была, але хутка стрымала сябе*). Ягор! Я не стану пытацца, каб не надрываць тваё сэрца!.. (*Грозна.*) Але ведай, што дорага ён заплаціць за зняваґу, ой, дорага!..

Ягор. Пакінь, Марыся!..

Марыся. Пакуль у маіх грудзях б'ецца жывое сэрца, датуль будзе жыць гэтая помста!.. Я яму не дарую!..

Ягор. Аб'явіў мне, што дае мажлівасць выехаць, куды я захачу!..

Марыся. У... гад! Хоча пазбавіцца ад цябе!..

Ягор. Каб лягчэй ваяваць з безаружнай кабетай!..

Марыся. Дрэнны ж ён стратэг!..

Ягор. Вайну гэтую ён прайграе!..

Марыся. Уцячэм мы разам!..

Пры гэтых словах ціха ўвайшоў афіцэр.

Ягор. Уцячэм тады, калі патрэбна будзе нам!..

Афіцэр (*чуў*). Выбачайце, куды гэта вы надумалі ўцякаць?

Ягор. А нашто вам знаць?

Марыся. Я скажу: пад чырвоны сцяг!

А ф і ц э р. А?.. У савецкі рай!.. Вам не можна, а вашаму прыяцелю трэба! Там менш беспрацоўных!..

Я г о р *(гнеўна)*. А хто мяне зрабіў беспрацоўным?.. Хто зачыняе школы, пакідае дзяцей сялянскіх невучонымі?.. Святкуйце ж, панства гонару і роскашы, пакуль вашая ўлада!..

А ф і ц э р. Пустыя вашы словы!..

Марыся праз увесь час мімічна супакойвае Ягора.

Я г о р. Не пустыя! Гэта — голас прыгнечанага люду, якому вы наступілі жалезнаю пятою на ўпалыя грудзі!.. Але памятайце!

Афіцэр рагоча.

Я г о р. Смейцеся, радуйцеся, але будзе... наша жніво!..

М а р ы с я. Ягор, мілы, кінь!.. Прашу цябе!..

Я г о р *(гнеўна)*. Не кіну!.. Змагацца буду да апошніх сіл, а не кіну!..

А ф і ц э р. Не захочаш сам адсюль выправіцца, у астрозе згнаю!..

М а р ы с я. Мы разам адсюль выберамся!..

А ф і ц э р. Вас, Марыся, я нікуды не пушчу!..

Я г о р *(грозна)*. А вам хто даў права спыняць чужую волю?!

А ф і ц э р. Гэта што за тон! *(Наступае на Ягора.)*

Я г о р. Не падабаецца — не слухай!

А ф і ц э р *(падышоў зусім блізка)*. Прэч адсюль, мяцежная душа! *(Хапіў Ягора за горла; паміж імі пачынаецца страшная барацьба, нарэшце Ягор паваліў афіцэра на стол, схапіў за горла і трымае.)*

А ф і ц э р. Пусці, на літасць бога!..

Я г о р *(трымаючы рукою за горла)*. Будзеш памятаць! Вось рука пралетарыята задушыць чорную няпраўду. *(Перастае душыць і выходзіць праз дзверы. Марыся ўвесь час крычала, а ў час бойкі абамлела ды так і засталася ляжаць.)*

А ф і ц э р *(аддыхаўшыся)*. Ах ты, пракляты бальшавік! Забойца! *(Мацаючы горла.)* Ледзь не задушыў, гад!.. Пачакай жа!..

Уваходзіць М а к р ы н а.

М а к р ы н а. А джэвы юш у пецы, зараз пацяплее!..

А ф і ц э р. Тут і так горача!..

Макрына. Ну і дзенькі пану богу, жэ горонцо!.. Пан выглёнда кшталтэм чырвонюткі мак!..

Афіцэр (*іранічна*). Довідзэне!..

Макрына. Овшэм!

Афіцэр. Выйдзі!

Макрына. Слухам! (*Выйшла.*)

Афіцэр (*падышоў да Марысі*). Ніц!.. Бэндзе моя!..

Уваходзіць Ахрэм.

Ахрэм. Паночку!

Афіцэр. Цс!

Ахрэм. Хутчэй на доследы; начальства ўжо едзе!..

Афіцэр (*дражнячы*). На-ча-льства!.. Нейкі тамураднік ды ветэрынар!.. На-ча-льства!..

Ахрэм. Ну, ведама, для нас і начальства!..

Афіцэр (*мігамі кліча да сябе*). А ты прынёс, што абяцаў?

Ахрэм. А то як жа — прынёс... Калі ласка! (*Дае пярсцёнак і сам адвярнуўся ўбок, быццам бы не бачыць; скоса паглядае, што ён будзе рабіць.*)

Афіцэр (*пераканаўшыся, што Ахрэм не бачыць, хутка падмяніў пярсцёнак і аддае Ахрэму*). Самы звычайны пярсцёнак, без жадных надпісаў!.. Ты заўважыў, Ахрэм?..

Ахрэм (*хітра*). А мне што — я не ўглядаўся!..

Афіцэр. Можаш назад узяць!.. Зараз жа надзень ёй, толькі хутчэй спраўляйся, а то дадуць!..

Ахрэм. Ведаю! Дадуць шомпалаў! Ну, я пабег! (*Хутка выйшаў.*)

Афіцэр (*як Ахрэм выйшаў, глянуў на Марысю, з радасцю*). Вялікая ўдача: след скрыў!.. Хоць выплыў труп наверх, але не выплыў мой грэх! (*Гледзячы на Марысю.*) Я тут збудую сваё шчасце — зямля, будова і яна! Будзеш маёю! (*Узяў шапку і хутка выйшаў.*)

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Сход сялян. Грамада народу. Збоку стол, за ім стаіць прадстаўнік асветы, за сталом — сакратар. На стале званок і належныя для пісання прылады. Чуваць вялікі гоман.

Прадстаўнік асветы. Але ж цішэй!.. Так жа не можна, панове!.. Панове!..

Селянін 1-шы. Ды якія мы панове!

Алеся. Панове ў лапцях. Няхай даюць школы і не клічуць панамі!

Гоман.

Прадстаўнік асветы *(чакае, калі скончыцца гоман, які сам па сабе заціх)*. Ну, ці доўга будзе так?! *(Паўза.)* Значыць, балючае пытанне — школы!

Усе. Але, школы!

— Давайце іх чым хутчэй!..

— Нашы, беларускія!..

Прадстаўнік асветы. Але ж пакіньце лапатаць! Што гэта... маёўка якая?

Селянін 1-шы. Дзетак вучыць трэба, а школы пазачынялі!..

Прадстаўнік асветы. Пазачынялі! Што ж гэта, па-вашаму,— мы школы зачынілі так сабе? Не, мае дарагія! На гэта вялікія прычыны ёсць! Эпідэмія, мор!.. Спынім эпідэміі, адчынім школы!.. *(Нешта шэпча сакратару.)*

Алеся *(да 1-га селяніна)*. Запытайцеся, Мацей, чаму яны школы польскія не пазачынялі!..

Селянін 1-шы. Але!..

Прадстаўнік асветы. Ну, як?.. Цяпер вы зразумелі мяне?

Селянін 1-шы. Не зусім! А чаму гэта школы польскія не зачынілі?..

Прадстаўнік асветы. Польскія? *(Хітра.)* Бачыце, грамадзяне, эпідэмія, якая да нас прыйшла ад бальшавікоў, узялася за тых, хто больш спачувае бальшавікам, за беднату!.. Шляхта і наогул народ багацейшы, дзеля таго, што яны з гэтымі барбарынцамі нічога супольнага не маюць, ад хваробы вольны!.. Дзеці шляхты і паноў здаровыя, і таму для іх школы адчынены!.. Польская ўлада тут ні пры чым!..

Алеся. Во, дзе праўда на свеце!..

Селянін 2-гі. Нашы дзеці не ўсе хворыя!.. Калі адзін-другі і ляжаць, гэта ж не бяда!..

Прадстаўнік асветы. Ну, а пры тым жа вялікі недахоп будынкаў!.. Самі ж ведаеце — як бальшавікі ішлі на Варшаву, усё ж спалілі!..

Ахрэм. Паночку, што там валіць на бальшавікоў! Усім жа вядома, хто нішчыў нашу бацькаўшчыну!..

Прадстаўнік асветы. Так, так! Гэта іх рабо-

та, і дзеля гэтага вялікі недахоп будынкаў!.. Калі б хто хату даў, тады б...

Селянін 1-шы. Я хату дам!..

Баба 1-я. Во, адна школа і ёсць!..

Селянін 2-гі. І я дам!..

Баба 2-я. Ужо і дзве!

Прадстаўнік асветы. Вельмі рад, вельмі рад! Прымем пад увагу і даложым пану старосце!.. Ён, напэўна, і дасць згоду. *(Да сакратара.)*

Алеся *(убок)*. Каб ён так дыхаў!

Баба 1-я. Калі ж гэта будзе?

Баба 2-я. Абяцанкамі адно кормяць!

Прадстаўнік асветы. Не так!.. У нас закон, каб ісці насустрач беларусінам!..

Алеся. З ражном! *(Сказала, а сама схавалася. Усе зарагаталі.)*

Прадстаўнік асветы. Што гэта за падбрэхавіч?! Хто там дыскрэдытуе польскую ўладу?.. Панове, трэба ж ведаць, што казаць! Я буду маўчаць, калі вы будзеце абгаварваць справу, але, калі вы пачнеце зачапляць жонд польскі, выбачайце, я на сваё месца паклічу жандара!..

Жук. Паночку, не палохайце нас!.. І так жыць нельга, давайце ж лепш школы, вучыцца хачу!..

Прадстаўнік асветы. Ах ты, гультай! Табе ўжо жаніцца пара, пражывеш і без школы! Позна!

Жук. А чаму прыказка кажа, што вучыцца ніколі не позна.

Прадстаўнік асветы. Э, глупства гэта кажуць!

Хлапец 2-гі. Паночку! І я з тым самым пытаннем да вас!.. Вось яны *(на сялян)* хочуць школу беларускую, а я вось хацеў бы сваю родную, яўрэйскую...

Прадстаўнік асветы. Ну, яшчэ чаго там захацеў! Жыдоўскіх школ нідзе няма!..

Жук. Ну, як-то няма?

Хлапец 2-гі. Ёсць! У бальшавікоў!..

Прадстаўнік асветы. Пст!..

Хлапец 2-гі. Там усякія ёсць, татарскія нават!..

Прадстаўнік асветы. Брахня! Нічога гэтага ў іх няма!..

Жук *(як бы паверыў)*. А нам казалі, ёсць!

Хлапец 2-гі. Мы і паверылі...

Прадстаўнік асветы. Не трэба верыць!.. Я ж як прадстаўнік асветы добра ведаю!

Жук. Тады выбачайце, панок! Сватайце свой тавар!..

Прадстаўнік асветы. Для мяне аніяк не зразумела, чаму вы дзетак сваіх не хочаце пасылаць да нас у школы культурныя!.. Усё-ткі вы хоць і беларусіны, але ж у жылах вашых кроў і польская ёсць. Калісь жа Польшча была аж да Смаленска!..

Селянін 1-шы. Тое, што было, нас мала цікавіць!.. Нам трэба школы нашы!..

Баба 2-я. Мовы вашай нашы дзеці не разумеюць!..

Баба 3-я. Нейкія сярнічкі, пярнічкі, налісьнічкі!

Агульны рогат.

Прадстаўнік асветы. Панове, што за жарты?.. Як гэта можна?

Селянін 1-шы. Ды яно, паночку, і праўда! Вашая мова ды нашаму дзіцяці аніяк!

Прадстаўнік асветы. Гэта, можа, толькі табе не падыходзіць, але другім падыходзіць! Ты ж не можаш казаць за ўсіх.

Селянін 1-шы. Якраз магу, бо ўся наша грамада хоча школу беларускую!

Прадстаўнік асветы. А раз так, папытаемся! Хто хоча?

Агульны гоман: «Усе!» Селянін 4-ты (нямы) пачаў мычэць, паказваючы рукою, што ў яго многа дзяцей.

Прадстаўнік асветы. Ніц не разумем!..

Селянін 1-шы. Ён нямы, але ў яго таксама шасцёра дзяцей вучыцца хочуць!

Прадстаўнік асветы. Панове, перш чым пытацца ва ўсёй грамады, я хачу ведаць паасобку, хто за беларускія школы, хто супроць?..

Макрына *(яна стаяла ззаду)*. Дазвольце рэкнуць і мне.

Прадстаўнік асветы. Калі ласка, калі ласка!

Галасы. Ды што яна скажа?!

— Яна выраклася нас!..

Прадстаўнік асветы. Але ж дайце сказаць! Проша, пані!.. Слухаем!..

Баба 1-я. Штурхаецца, як карова, а яшчэ пані!

Агульны рогат.

Макрына (*падышла да стала; яна апранута вельмі камедыйна: на ёй паношаная панская вопратка, на галаве капялюшык. Адкашляўшыся*). Я век, значыцца, пражыла ў школе, са званком за мужычымі дзяцьмі бегала!.. Быў цар, была школа — ні тое ні сёе... Пасля з'явіліся немцы, таксама — ні сёе ні тое, а як прыйшлі паны, зусім другое, тут ужо і сёе і тое!.. Яны, значыцца, адчынілі школы польскія, а мужычыя пазачынялі і добра зрабілі!

Агульны гоман пратэсту.

Прадстаўнік асветы. Панове, панове, цішэй!

Макрына. Добра вам будзе і без навукі! (*Яшчэ большы гоман.*) Няма горшага ліха, калі мужык пазнае і тое і сёе! (*Гоман.*) Завяжаш каню хвост і без навукі! (*Макрыну прагналі, яна з крыкам выйшла.*)

Прадстаўнік асветы. Панове, панове! Ці ж гэтак можна?! Гэта ж кабета беларусінка, нічога супольнага з намі не мае!.. Бачыце самі, чаго беларусы хочуць?.. Польскай школы!.. (*Кажа гэта з націскам.*)

Жук. Ды гэта ж дурная баба!

Прадстаўнік асветы. Чаму дурная? Баба як баба.

Жук. Дубовая калода!

Прадстаўнік асветы. І не так, і не так!

Селянін 1-шы. Паночку, а цяпер дазвольце мне?

Прадстаўнік асветы. Прашу, але не кажыце глупства.

Селянін 1-шы. А вось паслухайце!.. Гэтую дурную бабу, як мне здаецца, купілі... І таму яна брэша, як пакаёвая сучка!

Прадстаўнік асветы. Выбачайце, як гэта купілі? Кажыце выразней, хто купіў?

Селянін 1-шы. Ды вам, паночку, лепш відаць! Але ж такой бяды,— нас не купяць! Кажу гэта за ўсю грамаду, давайце нам школы!..

Жук. Беларускія і яўрэйскія!

Хлапец 2-гі. Выпусціце з астрога нашых настаўнікаў!

Алеся (*хаваючыся*). І ідзіце да д'ябла з нашай бацькаўшчыны!

Рогат.

Прадстаўнік асветы. Хто гэта там жарты строіць! (*Выглядаючы.*)

Жук. Ды тут не жарты, а справа паважная! Школы!

Прадстаўнік асветы. Ну вас да ліха!.. Школы! Школы!.. Давайце будынкі — дамо школы! Хто дае хаты пад школы?

Усе. Я!.. я!.. я!..

Прадстаўнік асветы. Чакайце, чакайце! Не лапачыце, як сарокі! *(Да селяніна 1-га.)* Даеш?

Селянін 1-шы. У хляве буду жыць, а хату дзецям дам!

Прадстаўнік асветы *(да селяніна 2-га)*. Даеш?

Селянін 2-гі. У клець перабяруся, а хата школе будзе!

Прадстаўнік асветы *(да Ахрэма)*. Даеш?

Ахрэм. Пад чоўнам буду жыць, а хату дзецям дам!

Селянін 4-ты (нямы) у гэты час вылез наперад.

Прадстаўнік асветы *(да яго)*. Даеш?

Селянін 4-ты (нямы) плюнуў у руку і шырока размахнуўся. Прадстаўнік асветы са страхам адхіснуўся, першы селянін стрымаў нямога за руку.

Селянін 1-шы. Ён, паночку, нічога не дасць, бедны!.. Аплявуху хіба даць можа!

Прадстаўнік асветы *(да сакратара)*. Аднатуйце! Вашы прозвішчы?

Усе разам залапаталі.

Прадстаўнік асветы. Ды я нічога зразумець не магу! *(Да 1-га селяніна.)* Як тваё прозвішча?

Селянін 1-шы. Мацей Грак!

Прадстаўнік асветы. Як, Грак?

Селянін 1-шы. Але, Грак!

Прадстаўнік асветы. Што гэта — варона?

Селянін 1-шы. Ды не; грак — вялікая чорная птушка!

Прадстаўнік асветы *(да 2-га селяніна)*. Тваё?

Селянін 2-гі. Сымон Лямех!

Прадстаўнік асветы. А гэта што?

Селянін 2-гі. Лямех — частка плуга!..

Прадстаўнік асветы *(да Ахрэма)*. Тваё?

Ахрэм. Ахрэм Хмызняк!

Прадстаўнік асветы *(да сакратара)*. Проша аднотоваць: Врона, Мех *(смех)* і Обіняк.

Ахрэм. Ды вы, паночку, не жартуйце! Тут справа паважная!

Прадстаўнік асветы. Выбачайце, справа зусім сур'ёзная!..

Хлапец 2-гі. Ну, цяпер ужо пэўна можна сказаць, што школы будуць!

Прадстаўнік асветы. Абяцаць напэўна не буду, але павяду гутарку з панам старостай, каб узгадніў вашу просьбу, але надзея зусім слабая!

У гэты час перад ім стала Марыся, якая нядаўна падышла і ўсё слухала.

Марыся (*у гневе*). Браты, сяляне! Дазвольце вам сказаць, што з гэтага нічога не будзе!.. Не толькі школы нашыя касуюць, але нішчаць усё наша роднае: школы — зачынены, настаўнікі — у астрозе, штоноч — арышты, прысуды на катаргу!.. Адмовімся ад ласкі паноў-апекуноў!..

Гоман.

Прадстаўнік асветы. Слухайце, паненачка! Я вас прашу пакінуць размову аб палітыцы!

Марыся. Не падабаецца?.. Праўда коле вочы?

Прадстаўнік асветы. Проша мільчыць!

Марыся. Даруйце! Не паслухаю!.. Сабраў гэтых абяздоленых сялян, падкупіў дурную бабу Макрыну і дым пушчае ўсім у вочы, што ў вас польская кроў, Польшча да Смаленска!.. Не, мой паночку! Польшча не да Смаленска, а да ракі Буга!

Прадстаўнік асветы. Вам трэба школы?

Марыся. Трэба.

Прадстаўнік асветы. Давайце будынкі!

Марыся. Я будынак дала, вам гэта ведама!

Прадстаўнік асветы. Дзе ён?

Марыся. Па смерці бацькі мне ў спадчыну дастаўся дом... Я хачу дом гэты аддаць пад школу, мне не даюць! А зямлю хачу аддаць ім...

Прадстаўнік асветы. Вы супроць уласнасці?!

Марыся. Кажу гэта перад усімі!

Прадстаўнік асветы. Значыцца, вы агітуеце за камуну?

Марыся. Так!

Прадстаўнік асветы. Я вам забараняю!

Марыся. Не забароніце! Праўда на нашай старане!

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы *(у гневе)*. Мяцежнікі, вон адсюль!..

С е л я н і н 1 - ш ы. Чакайце, пан! Як гэта, вон?.. З нашай зямлі?

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы. А так, прэч!

М а р ы с я. Самі ідзіце прэч, нахлебнікі!

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы. Для вас не школы будаваць, а астрогі!

Падняўся агульны гоман.

М а р ы с я. І гэта кажа прадстаўнік асветы, культурны чалавек!

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы. Так, я культурны чалавек!

М а р ы с я. Культурны жандар!

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы. Хамы! Быдла!

М а р ы с я. Культурны жандар!

У гэты час падняўся з месца сакратар, сярдзіта стукнуў па стале.

С а к р а т а р. Праўда! Вы — жандар, шпег, хцівец!.. Я не хачу больш з вамі працаваць, бо ў вас няма праўды!.. Што вы мне казалі пісаць? Вам, кажа, школы будуць беларускія, а мне кажа ў пратакол пісаць, што ўсе далі згоду на школы польскія. Паланізатары, гвалтаўнікі! *(Ён скінуў шапку, на якой быў белы арол, кінуў на падлогу, парваў пратакол і выбег. Агульны гоман.)*

М а р ы с я. А што, не мая праўда? Браткі, чулі?

У с е. Чулі!

М а р ы с я. Няма нам чаго тут больш рабіць! За мною!

Усе выходзяць, пеючы:

Мы доўга цярпелі,
Цярпець больш не будзем...

Уся грамада адыходзіць, апроч нямога, які пачаў крычаць, схапіўшы ў руку званок, б'ючы ім па стале. Селянін 1-шы яго адвёў, і пайшлі.

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы *(застаўшыся адзін)*. Што ж цяпер рабіць?

А л е с я *(якая схавалася за плотам, выскачыла, скінула яму шапку)*. Шапку зняць! Марсельезу пяюць! *(Пабегла.)*

П р а д с т а ў н і к а с в е т ы *(услед)*. Хамы! Быдла! *(Дастаў з кішэні свісток, свішча.)*

З'яўляюцца 2 с а л д а т ы.

Прадстаўнік асветы. Арыштаваць, арыштаваць дзяўчыну!

Салдаты пабеглі.

Заслона

## АКТ ПЯТЫ

Кватэра Марысі.

Макрына (*запальвае свечку*). Звечарэла, і не агледзелася! Час бяжыць няўзнак! (*Аглядаецца ў люстэрка, а потым пачынае пудрыцца.*) Ліха ведае што ў мяне за нос,— разоў дзесяць пабялю, а ён усё чырвоны! Пасыцела, папрыгажэла і па-польску гавэндзіць навучылася! «Овшэм, пане полкувніку!» — кажу я. «Овшэм, пані Макрына!» — адказвае ён. Любата, далібог, любата!

У гэты момант, крадучыся, увайшла Алеся і спалохала яе.

Алеся. Здаравенька была, пані ахмістрыня!

Макрына. Чаго табе трэба?

Алеся. Ці здарова?

Макрына. Хіба сляпая?

Алеся. Падкармілі паны?

Макрына. Падправілі! А ты гэта куды выстраілася?

Алеся. Да пана паручніка!

Макрына. Да каго? (*Алеся адказвае.*) Кінь дурыць, дзяўчына! Ці будзе ён гаварыць з табой?

Алеся. Чаму не будзе? Учора гаварылі, а сёння, бач, сюды запрасіў!

Макрына. Як жа ты будзеш гаварыць, калі папольску не ўмееш?

Алеся. Нічагутка! Зразумее папросту: культурны ж чалавек!

Макрына. Як гэта культурны? Ты чаго, верціхвостка, лаешся!

Алеся. Ці ж я лаюся?

Макрына. Ты мне глядзі, а то я навучу, як шанаваць паноў! (*Дражнячы.*) Культурны,— ты сама культурніца, а ён не культурны! Пан!

Алеся. І ты, Макрына, ужо супроць мяне?

Макрына. Даўно ўжо пара! Цяпер, мая даражэнькая, хвост свой падтулі! Згінуў твой хаўруснік; грош табе цана!..

Алеся. Не ўспамінай, Макрына! Ні за што Ягор загінуў, уцякаў, бядак, ад жандараў польскіх і ў Нёмане ўтапіўся!..

Макрына. Самая адпаведная для яго смерць; не будзе, прынамсі, блытацца з Марысяй! Цяпер пан дазорца прыгорне яе да сваіх рук!.. Штодзень бывае — спявае ўсё пра каханне!..

Алеся. А яна?

Макрына. Што яна? Трошкі пакапрызіць і згодзіцца!

Алеся. Як ты ўпэўнена кажаш!

Макрына. А вось пабачым!

Алеся. А дзе ж Марыся?

Макрына. Зараз прыйдзе! Сёння ж хаваюць тую ўтопельніцу!..

Убягае Жук.

Жук. Вечар добры, пані ахмістрыня! *(Вітаецца з ёю за руку.)*

Макрына *(уздаволена)*. Овшэм, браток, овшэм!

Жук. А я да вас, пані ахмістрыня!.. Краўчыха на хвіліначку вас просіць да сябе, сукеначку прымераць; заўтра ж фэст!..

Макрына. А-я-яй! А я і запамятавала, што заўтра гэтакае свята!..

Жук. Так зрабіце ж ласку, пане ахмістрыня, ідзіце!

Макрына. Цяпер ісці?

Жук. Прасіла зараз, чакае! *(Адчыніў дзверы.)* Рад служыць вам!

Макрына. Овшэм, зараз! *(Да Алесі.)* А ведаеш, Алесенька, якую я сукенку майструю ў краўчыхі?!

Алеся. Нябось па модзе, ды зякрастую!

Макрына. У вочы кідаецца, во! *(Глянула праз дзверы.)* Ды што ж гэта, на дождж так неба пачарнела?

Жук. І так, пані ахмістрыня, навальніца будзе!

Макрына. Ай, ай, якая хмара сунецца сюды! Скуль гэта яна?

Жук. З усходу, Макрыначка, з усходу!

Макрына. Хоць бы пярун не стрэліў!

Жук. Без гэтага не абойдзецца — стрэліць!

М а к р ы н а. Тады я вазьму хустачку!

Ж у к. Бярыце хустачку!

М а к р ы н а *(акрываецца)*. Ты ж, Алеська, пільнуй хату, а я адскочу!

А л е с я. З вялікай ахвотай! Не спяшайцеся, дагледжу!

М а к р ы н а. Дзякую! Хадзем. *(Сама выйшла, Жук застаўся.)*

Ж у к *(да Алесі)*. Ну, Алеся, настаў рашучы час! Прайграем справу — загінем у астрозе! Амаль уся арганізацыя сядзіць...

А л е с я. Ведаю, браток!

Ж у к. Мы толькі трое на волі засталіся!

А л е с я. Не ўспамінай: балюча слухаць!

Ж у к. Усё дзякуючы яму! Эх, паганец!

А л е с я. Не пускай на вецер слоў. *(Глянула ў акно.)* Ідзі на сваё месца, ён сюды ідзе!

Ж у к. Я за акном! *(Пайшоў.)*

А л е с я. Ні на крок далей! *(Агледзела акно, глянула ў бакоўку, а затым прыслухоўваецца.)*

Уваходзіць а ф і ц э р (п'яны).

А ф і ц э р. А!.. Каго бачу?.. Алеська... прыйшла!..

А л е с я. А то як жа, абяцала ж на восьмую!

А ф і ц э р *(глянуў на гадзіннік)*. Дзіўная пунктуальнасць. Што ж ты адна? *(Сеў.)*

А л е с я. Як бачыце — адна!

А ф і ц э р. Тым лепш! Ты ў мяне прыгожка! *(Туліць яе да сябе.)* Пад сонцам вырасла, здаровая, як лёд, беларусінка!

А л е с я. А вы не жартуеце?

А ф і ц э р. Я? Ды яшчэ ўчора пры спатканні я так упадабаў цябе, што і сёння чад у галаве сядзіць!

А л е с я. Як разумець вас?

А ф і ц э р. Кахаю цябе!

А л е с я *(як бы з радасцю)*. Мяне?

А ф і ц э р. Так! Цябе!

А л е с я. Ой, што я чую? Мяне, мужычку, упадабаў пан? *(А сама хітра аглядае, як бы выцягнуць рэвальвер.)*

А ф і ц э р. А ты што? Не верыш?

А л е с я. Веру. Дый я... *(Запнулася.)*

А ф і ц э р. Ну, кажы! Кажы!

А л е с я. Саромлюся...

Афіцэр. Ды кажы, дурненькая!.. Любіш?..

Алеся *(не адразу)*. Люблю! *(І закрыла вочы фартухом.)*

Афіцэр. Алеся, гэта праўда?.. Любіш?..

Алеся. Усім сэрцам, так кахаю!

Афіцэр. Ну, а бацькі ў цябе ёсць?

Алеся. Няма, круглая сірата!

Афіцэр. А калі б я зажадаў цябе да сябе ўзяць — пайшла б?

Алеся. Скажыце — пайду!

Афіцэр. Ну, добра, я стану тваім бацькам, апекуном!.. Забяру цябе, беларусінку, пад сваё крыло, адойдзеш ты ад сваёй мовы, звычаяў, станеш нашаю, полькай!..

Алеся. Ой, як сэрца стукае!.. Ці верыце, я такая шчаслівая!..

Афіцэр. Веру, веру, мая дарагая! *(Хоча пацалаваць.)*

Алеся. О не, панок, пачакайце!

Афіцэр. Як гэта? Чаму?

Алеся. А так, адложым гэта на заўтра!

Афіцэр. А я маю імпэт сёння. *(Зноў хоча пацалаваць.)*

Алеся. О не, паночку, калі ласка, заўтра!

Афіцэр. Бач ты яе — упёрлася!

Алеся. У чужой хаце нялоўка, ля акна!.. Убачаць — людзі асмяюць!

Афіцэр. Ды што нам людзі!.. Мы тут гаспадары, мы,— разумееш?.. А над табою я... Алеся! *(Развёў шырока рукі, абняў Алесю і хоча пакласці на канапу.)*

Алеся крычыць: «Паночку, што вы робіце?!» — а сама выкрадвае рэвальвер. Афіцэр падняў яе на рукі. Хутка ўвайшоў Жук.

Афіцэр *(убачыўшы яго, пусціў Алесю. Злосна)*. Ты чаго?

Жук. Да вас, паночку!

Афіцэр. Хам! Раней стукнуць трэба!

Жук. Ды я хацеў быў стукнуць! *(Алеся дала знак маўчаць.)*

Жук. Да вас па справе!

Афіцэр. Па якой?

Жук. Вас доктар кліча!

Афіцэр. Які доктар, дзе ён?

Жук. А гэты, што прыехаў на абгляд утопельніцы!

Афіцэр. Ды яе ж пахавалі!

Жук. Пакуль што не: там нешта з пярсцёнкам нядобра!

Афіцэр. Нічога не разумею!

Жук. І я кажу, пара б закапаць няшчасную ахвяру, а яны валэндаюцца! Дык што сказаць?

Афіцэр. Зараз буду! Алеся! Пойдзем разам ці будзеш тут?

Жук. А хату на каго пакінуць! *(Адыходзіць.)*

Афіцэр. Тады я адзін! Пачакаеш?

Алеся. Кроку не адыду!

Афіцэр *(выходзячы)*. Алеся! Хто твой...

Алеся. Вы, толькі вы!

Афіцэр. Чакай! Праз хвіліну! *(Пайшоў.)*

Алеся *(аглядзела рэвальвер)*. Крок наперад ёсць. *(Адчыніла акно, ля акна Жук.)*

Жук. Ну, і лоўка ж ты яго акалпачыла! Маладзец, хвалю!

Алеся. Не хвалі! Не люблю!

Жук. Кулі ёсць?

Алеся. Каб у жандара ды...

Жук. Ахрэм сюды ідзе.

Алеся. Пакуль што хавайся! *(Зачыніла акно, а сама схавалася ў бакоўку.)*

Уваходзіць Ахрэм.

Ахрэм. Ну, і каламут, радачкі не дам!.. Няўжо ж насільніку будзе воля? Кабеціну ўтапіў, настаўнікаў у астрог запакаваў, а сам гуляе!.. Алеся бегае, як учадзелая, а што з Ягорам? Ніхто не ведае. Каб хаця матачка найсвеншая, цьфу ты, зноў... і калі гэта я пазбудуся святых!

Алеся *(у дзвярах)*. Гэп! *(Схавалася.)*

Ахрэм *(спалохаўшыся)*. Матачка найсвеншая, цьфу ты, зноў! Во мара праклятая: яна тут!.. Маўчы, Ахрэм! Нешта мусі быць!..

Уваходзіць Макрына.

Макрына. А ты чаго, мядзведзь, прывалокся?

Ахрэм. Рукі апаласкаць прыйшоў.

Макрына *(здзіўлена)*. Рукі апаласкаць? Ці табе мала вады ў Нёмне? Вымятайся адсюль! *(Выпіхвае яго.)*

Ахрэм. Чакай, чакай! Паслухай, што скажу!

Макрына. Не хочу нічога слухаць, прэч адсюль!..

Ахрэм. Але ж пакінь штурхацца, слухай, што я скажу: мяне вучыцелька прыслала.

Макрына. Вучыцелька? Пашто?

Ахрэм. Памінкі спраўляць будзем! Вось і гарэлка *(дае бутэльку)*, а ты закуску дай!

Макрына. Па ком памінкі, што ты пляцеш?

Ахрэм. Па мне!

Макрына. Ты ж не памёр!

Ахрэм. Адыходжу!

Макрына. Куды ж гэта ты?

Ахрэм. Туды, дзе праўда жыве!

Макрына. Ты, дзед, ашалеў! Дзе ж лепшае жыццё, як тут?

Ахрэм. Гэта табе, а я пашкандыбаю!

Макрына. Ну, і ідзі да ліха! Апраствай хату!

Ахрэм. Павінен пачакаць вучыцельку!

Макрына. Тады не тупай, як мядзведзь! Слядоў не рабі, лапатнік!

Ахрэм. А ты хто, дзе твае лапці?

Макрына. Овшэм, ужо няма! Я ў боціках! *(Выйшла.)*

Ахрэм *(рагоча)*. Ой, ой, не вытрымаю, да чаго дайшла дурная баба! *(Доўга смяецца, а потым падышоў да дзвярэй, дзе Алеська.)* Алеся, Алеська! Адгукніся, параду дай, што рабіць! *(Паўза.)* Маўчыць Алеська! Як жа быць, сягоння ж трэба адыходзіць!

Уваходзіць афіцэр.

Афіцэр. А ты чаго тут?

Ахрэм. Па загаду вучылелькі!

Афіцэр. А дзе яна? Там? *(На бакоўку.)*

Ахрэм. Ды не, там няма нікога!

Афіцэр. А з кім ты гаварыў?

Ахрэм. Сам з сабою!

Афіцэр. А ты не ведаеш, дзе гэта, ну, як яе, Алеська?

Ахрэм. Алеська?.. Якая?.. Не ведаю такой!

Афіцэр. Вось табе і гаспадар; пакуль звярнуўся — птушка ўцякла! Нездарма прыказка кажа: «За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш!» А дзе ж вучыцелька?

Ахрэм. Зараз прыйдзе! Была на беразе, начальства аглядала тую ўтопельніцу!

Афіцэр. І што кажуць?

Ахрэм. Кажуць — утапілі!

Афіцэр. Ну, як гэта чалавека загубіць?

Ахрэм. Мала брыды ёсць?! Відаць, якісьці афіцэр сваю жонку ўтапіў, як гэта ў часе вайны шмат хто з іх рабіў!..

Афіцэр. Скуль гэта ведама? Хто казаў?

Ахрэм. Вучыцель казаў!

Афіцэр. Дарэчы, дзе ён зараз?

Ахрэм. Добра не ведаю! Як кажуць людзі, быццам бы, уцякаючы ад жандараў, утапіўся!

Афіцэр (*пагражаючы*). Кажы, гад, ты ведаеш!

Ахрэм. Кажу, паночку! Нічога не ведаю!

Афіцэр (*схапіў яго за карк*). Ну, хам, скажаш мне праўду? (*Замахнуўся кулаком.*)

Увайшла Марыся.

Марыся. Гэта што?

Афіцэр (*пакінуўшы Ахрэма*). Нічога! Рабіў допыт...

Ахрэм (*убок*). Вось чаму ў людзей сінякі!

Марыся. Тут не дэфензіва! (*Да Ахрэма.*) Ахрэм, вы ад допыту вольны! Будзьце ж ласкавы паклікаць да мяне Міколу!

Ахрэм. А дзе ён?

Марыся. А там, на вуліцы! Папрасі яго сюды і зараз жа назад!

Ахрэм пайшоў.

Марыся (*да афіцэра*). Хачу з вамі пагаварыць!

Афіцэр. Рад слухаць!

Марыся. Усе нашы культурныя сілы...

Афіцэр. Выбачайце, папраўлю, культурных сіл мы не чапалі, а бандытаў і экспрапрыятараў, праўда, пасадзілі!..

Марыся (*перш змоўкла, а потым, цяжка дыхаючы*). Сядзяць у астрозе дзякуючы вам!..

Афіцэр. Пры чым тут я? Агітавалі за камуну, таму і пасадзілі!

Марыся. Ягор загінуў!

Афіцэр. Хто ваюе, той і гіне!

Марыся. А як вы надумалі са мной?

Афіцэр сур'ёзна глядзіць на яе.

Марыся. Не рабіце такіх здзіўленых вачэй! Я скажу пра сябе смела! Я таксама камуністка!..

Афіцэр. Нічога, нічога! Ведаю!

Марыся. І вось, дзеля таго, што і мяне, як і другіх, могуць затравіць, я сёння ўначы з Міколам і Ахрэмам пры вашай дапамозе павінна перайсці граніцу!

Афіцэр. Вы туды не трапіце!

Марыся. Чаму?

Афіцэр. Вам там не месца!

Марыся. А дзе?

Афіцэр. Тут, у нас!

Марыся. Ваш план?

Афіцэр. Я хачу, каб вы пакінулі вальнадумцаў і пачалі жыць, як жадаў ваш бацька! Са мной!

Марыся. Пры ўмове, калі дом я аддам беларускай школе, а зямлю сялянам?

Афіцэр. Пры ўмове, калі і дом, і зямля будуць з вамі!

Марыся. Ясна! Цяпер я стаўлю пытанне рашуча: ці мне воля, ці вам, замест афіцэрскіх пагонаў, арыштанцкі балахон?

Афіцэр *(грозна)*. Што?

Уваходзіць Ахрэм.

Ахрэм. Мікола тут, на лавачцы сядзіць! Сюды, казаў, не пойдзе!

Марыся. Усё роўна! Ну вось, Ахрэм! Дазвол на пераход мяжы Міколу і табе — ёсць!

Ахрэм. А вам?

Марыся. Не пускаюць! *(Паказала рукою на афіцэра.)*

Ахрэм *(хітра)*. Паночку, даражэнькі, няўжо не пусціце, зрабіце ласку, пусціце! Паслухайце яе хоць дзеля мяне! Я ж пану такую важную паслугу ўчыніў, пярсцёнак падмяніў, што на руцэ ўтопельніцы!..

Афіцэр *(тупнуўшы нагой)*. Мільч!

Марыся *(перабіла)*. Лягчэй!

Ахрэм. І грошы назад аддам: яны ж вашы! Брудныя... агідныя! *(Кінуў капшук пад ногі.)*

Афіцэр. Як ты смееш? *(Кінуўся да яго.)*

Марыся *(спыніла дарогу)*. Я не дазволю!

Афіцэр. Пусці! *(Марысю адпіхнуў.)*

Ахрэм *(грозна)*. Ану, крані!.. Адно маё слова, і

васпану — астрог! Кабету задушыў, мы бачылі! *(Афіцэр анямела стаіць.)* Сведкі ёсць, на ногі суд паставім! Вось не спалохаюся, іду і заяўлю! *(Да дзвярэй.)*

А ф і ц э р *(рашуча)*. Стой!

А х р э м. Не вас павінен я слухацца, а вось каго! Марыся, ваш загад?

М а р ы с я. Ідзі на вуліцу і чакай!

А х р э м. Добра! *(Адыходзячы.)* Бач яго, ён мяне... *(Выйшаў.)*

А ф і ц э р. Я хачу з ім пагаварыць. *(Кінуўся да дзвярэй.)*

М а р ы с я *(загарадзіла дарогу)*. Пачакайце!

А ф і ц э р. Што чакаць? Я не дазволю, каб хам, мужык зняважыў афіцэра!

М а р ы с я. Які вы афіцэр? Вы — крыміналіст!

А ф і ц э р. Марыся!

М а р ы с я *(спакойна)*. Крыміналіст! Забойца!

А ф і ц э р *(хапіўся за галаву)*. Якая знявага!

М а р ы с я. Мэта нажывы, звярынае жаданне свежай крыві, гнілы патрыятызм — вось грунт вашага жыцця!

А ф і ц э р. Марыся!

М а р ы с я. Тэстамент! *(Грозна.)*

А ф і ц э р. Адно толькі слова!

М а р ы с я *(грозна)*. Ні слова! Тэстамент!

А ф і ц э р. Я іначай мысліў!

М а р ы с я. І я зраблю інакш, калі не паслухаеце мяне! Карыстацца фізічнай сілай, прыгнятаць сялян вам было можна, але ведайце, што скончыўся ваш гвалт! *(Афіцэр дастае тэстамент. Марыся ўзяла.)* А цяпер паклічце мне Ахрэма і Міколу і зараз жа назад! Я з вамі хачу прымірыцца.

А ф і ц э р *(радасна)*. Марыся, і гэта праўда?

М а р ы с я. Запомніць усё і не сварыцца!

А ф і ц э р. Марыся, ты — сама дабрата!

М а р ы с я. Але ж ідзіце, а то будзе позна! Яны могуць заявіць!

А ф і ц э р. Іду, іду! *(Пайшоў.)*

М а р ы с я *(узяла ў рукі тэстамент)*. Вялікая чэсць табе, бацька, за працу на карысць чырвоных і ніякай чэсці, што ты аддаў мяне ў рукі несумленнага чалавека! Я зраблю інакш! *(Парвала ў шматкі тэстамент, насыпала ў кілішак атруты і задумалася.)*

Выскачыла А л е с я.

А л е с я *(рашуча схапіўшы яе за руку)*. Марыся! *(Тая спалохалася.)* Што ты хочаш рабіць?

М а р ы с я. Алеся, дарагая, я сама ведаю, што гэта не спосаб барацьбы! Але ж у крытычны момант разбірацца позна! Арганізацыя развалена, большасць у астрозе, пагібель нам. *(Грозна.)* Так няхай будзе пагібель і яму!

А л е с я. Я не пазволю!

М а р ы с я *(здзіўлена)*. Чаму?

А л е с я. Бо непуцёвы план!

М а р ы с я. Дык што ж, на твой погляд, ён жыць павінен і мучыць нас далей! Ну, што ж: няхай будзе наадварот! Смерць мне! *(Пераставіла кілішак.)*

А л е с я *(рашуча)*. І гэтага не будзе! Мы жыць павінны, а ўцякаць ад жыцця — сорам.

М а р ы с я. Ну, зразумей жа ты, што цяжка далей змагацца!

А л е с я. Што пляцеш: ты ж не адна, нас многа! *(Падбегла да дзвярэй, стукнула ў далоні.)*

З галоўных дзвярэй выскачыў Я г о р, ён апрануты, як партызан.

М а р ы с я *(ускрыкнула)*. Ягор!

Я г о р. Марыся, дарагая!

М а р ы с я. Ягор, жыў?

Я г о р. Бачыш, жыў!

А л е с я. А цяпер будзь гатова да сустрэчы з ім, ён сюды ідзе. *(Рашуча.)* Ягор, сюды!

Ягор дастаў рэвальвер, стаў ля Алесі; у яе таксама ў руках рэвальвер.

М а р ы с я. Што вы надумалі рабіць?

А л е с я. А вось пабачым!

Я г о р. Мы мёртвую пятлю развяжам!

М а р ы с я. Страшна мне!

Я г о р. Марыся, больш адвагі! *(Паўза.)* Сорам так казаць!

Уваходзіць а ф і ц э р.

А ф і ц э р *(не бачачы Алесі і Ягора)*. Яны ісці не пажадалі, казалі, што некага чакаюць! Ты не ведаеш каго? *(Паўза.)* Каго?

Я г о р *(рашуча)*. Яны мяне чакаюць!

А ф і ц э р *(глянуў)*. Гэта хто?

Я г о р. Не спазналі?! Нябожчык з таго свету!..

Афіцэр. Вучыцель!

Ягор. Я!

Афіцэр. Ага, так вось што гэта значыць. Здрада! *(Да Алесі.)* Змяя! *(Кінуўся да іх.)*

Ягор. Ні з месца, а то лоб расшчаплю! *(Наставіўшы рэвальвер.)*

Алеся *(наставіўшы рэвальвер)*. Папаўся краб у сеці!

Уваходзяць трое партызан і між імі Жук. Усе ўзброеныя.

Ягор. Вось ён!

Афіцэр. Хто гэта?

Жук *(выйшаў наперад)*. Мы — партызаны.

Афіцэр. Партызаны! Ворагі дзяржавы Польскай! Варта! *(Хапіўся за кабуру.)* Дзе мой наган?

Алеся. Ваш наган у мяне!

Жук *(дае каманду ў дзверы)*. Хлопцы! На коні, а вы ўпярод!

Афіцэр *(пра сябе)*. Як жа быць?

Жук *(грозна)*. Упярод! *(Яшчэ мацней.)* Упярод! *(Узяў афіцэра за карк і выпхнуў за дзверы; за ім выйшлі двое партызан. Жук застаўся.)*

Ягор. А цяпер наша чарга. Марыся! Больш жыцця, праз ноч мы будзем пад чырвоным сцягам!

Алеся. Пад сцягам Сярпа і Молата!

У гэты час Жук махнуў у дзвярах рукой, раздаўся выстрал.

Марыся. Ах! Што гэта?

Жук. Партызанскі прыгавар.

Алеся. Туды яму і дарога!

Ягор *(да Марысі)*. Пайшлі!

Алеся. У Савецкую Беларусь!

Усе выходзяць.

Заслона

# ЛІПАВІЧОК

*П'еса ў адной дзеі*

Вясковая хата: з аднаго боку акно, можа быць і два, напроці акна — дзверы. Дзед і баба заняты работаю.

Баба (*пяе*).

А калі ж ты памрэш,
Дзядок ты мой?
А калі ж ты памрэш,
Сівенькі мой?

Дзед (*пяе*).

У нядзелю, бабка,
У нядзелю, любка,
У нядзелю, сівая галубка мая.

Баба.

А пры кім ты мяне пакінеш,
Дзядок ты мой?
А пры кім ты мяне пакінеш,
Сівенькі мой?

Дзед.

Пры людзях, бабка,
Пры людзях, любка,
Пры людзях, сівая галубка мая.

Баба.

А людзі будуць мяне крыўдзіць,
Дзядок ты мой,
А людзі будуць мяне крыўдзіць,
Сівенькі мой.

Дзед.

Бараніся, бабка,
Бараніся, любка,
Бараніся, сівая галубка мая.

Баба.

А чым жа буду бараніцца,
Дзядок ты мой?

А чым жа буду бараніцца,
Сівенькі мой?
*(Плача, фартухом вочы закрывае.)*

Д з е д.

Кіем, кіем, бабка,
Кіем, кіем, любка,
Кіем, кіем, сівая галубка мая!

Абое плачуць.

Б а б а *(плачучы)*. Наша ўжо доля такая... і старасць цяжкая, бо бог дзетак нам не даў.

Д з е д *(выціраючы вочы рукавом)*. Кінь, баба, ужо, пэўна, мы нягодныя ў бога, і за тое мы іх не маем.

Б а б а. А можа, і горай было б з дзяцьмі?

Д з е д. Трэба было б гадаваць, карміць, адзяваць, а і шмат цярпець ад іх.

Б а б а *(уздыхае)*. Але ж, пэўна, лепей, каб дзеці былі? *(Кідае работу, паволі падыходзіць да акна.)* А вунь нехта ідзе, глянь, дзядок, проста да нас ідзе!

Д з е д *(падыходзіць да акна і ўглядаецца)*. Здаецца, Цярэшка?

Б а б а. Цярэшка! Цярэшка!

Д з е д і б а б а *(пяюць)*.

А Цярэшка чаху, чаху,
А што ў цябе ў мяху, ў мяху?

Ц я р э ш к а *(за сцэнай)*.

Шпілечкі, голачкі,
Залатыя пярсцёначкі,
Чырвоны каралічкі —
Для дзевачак забавачкі.

Д з е д і б а б а.

А Цярэшка, Цярэшанька,
Цераз двор дарожанька,
Бітая, таптаная,
Для гасцей прыбраная.
Захадзі, Цярэшка, захадзі.

Ц я р э ш к а. Пахвалёны Езус!

Д з е д і б а б а. Навекі! Навекі!

Б а б а. Дзе госць, там і бог ёсць.

Д з е д. Заходзьце бліжэй, бліжэй.

Б а б а. Як чалавек чужы зойдзе, тады ёсць з кім пагутарыць і гора сваё развесяліць.

Ц я р э ш к а. А што ж у вас за гора?

Д з е д. Гора, ой, гора! Вось старасць падышла, а бог дзетак нам пашкадаваў на падпору нашай старасці.

Ц я р э ш к а. Вы так хочаце дзяцей, а мо яшчэ бог і дасць.

Д з е д. Сядайце, браток, сядайце.

Ц я р э ш к а. Але ж я гасцінчыка для вас прынёс. *(Выбірае з торбы і паказвае, а дзед з бабай прыглядаюцца.)* Вось каральчыкі, шпілечкі, гузічкі, напарстачкі...

Б а б а *(перарывае яго, хапаючы драўняную ляльку)*. А гэта што?.. Што гэта?

Ц я р э ш к а. Гэта лялька драўняная, а не звычайная, бо калі паложыш у калыску і пачнеш калыхаць — зробіцца жывое.

Д з е д і б а б а. Жывое? Жывое?

Ц я р э ш к а. Так, жывое. І гэты падарак вам прынёс, бярыце і весяліцеся. *(Аддае бабе ляльку.)*

Д з е д і б а б а. Дзякуем, дзякуем!

Д з е д. Сядзьце, суседзе, адпачніце. *(Да бабы.)* А ты, баба, прыгатуй закуску, а я зараз прыйду. *(Выходзіць.)*

Б а б а *(прыгатаўляе закуску)*. Скажыце, суседзе, мо чуў што важнае, ідучы па свеце?

Ц я р э ш к а. Эт, усюды тое самае: ціха ліха і дабра нідзе няма.

Д з е д *(уваходзіць)*. Вось і гарэлка ёсць, каторая нас развесяліць, а ты, бабка, давай закуску.

Баба ставіць чаркі і закуску на стале, сама ідзе і ляльку калыша.

Д з е д *(да Цярэшкі)*. Кумок, падсоўвайся бліжэй да стала, трошкі вып'ем і закусім.

Ц я р э ш к а. А чаму ж кумка не йдзе? Кіньце ляльку, яшчэ нацешыцеся даволі, пара будзе.

Дзед ідзе да бабы і цягне да стала, выпіваюць адзін да другога.

У с е *(разам)*.

> На здароўе, кума!
> На здароўе, на здароўе!
> На здароўе, на здароўе!

Ц я р э ш к а. Добрая гарэлка, аж цяплей і весялей стала.

Д з е д. Аж пяяць захацелася. Бабка, заспявай нам!

Б а б а *(пяе)*.

> Ты мой дзед, ты мой дзед,
> А я твая бабка.
> Шануй мяне, гадуй мяне,
> Каб я была гладка!

Д з е д *(пяе)*.

Шанаваць буду,
Гадаваць буду,
А як смерць прыйдзе,
Паміраць буду.

Б а б а.

Мой міленькі, мой старэнькі,
Агляніся ды не паваліся:
У куце кіёчкі стаяць
Па галованьцы могуць даць.
*(Уцякае, а дзед даганяе.)*

Д з е д.

Хоць я і павалюся,
А за бабай паганюся,
Хоць я і ножанькі зламлю,
Сваю бабаньку даганю.

Ц я р э ш к а *(пяе)*.

Гуляйце, старыя, цяпер,
Пакуль няма маленькіх дзяцей,
Як будуць малыя дзеці,
Не захочаце глядзеці.

Б а б а. А! Ліпавічок як там?

Д з е д. Досыць ужо гуляць, а калыскі трэба шукаць. *(Выходзіць за дзверы.)*

Б а б а. Але! Борздзенька пастарайся. *(Калыша Ліпавічка на лаўцы.)*

Д з е д *(прыносіць калыску)*. Вось і калыска ёсць! *(Нясе да стала.)*

Б а б а. Нясі сюды!

Д з е д. Не, ля стала прыгажэй будзе!

Б а б а *(цягнучы калыску)*. Сюды! Каля печы цяплей будзе.

Д з е д. Знаеш ты! Каля стала харашэй будзе!

Б а б а. Знаеш! Знаеш! А пэўна знаю. Гэта жаноцкая рэч.

Д з е д. Жаноцкая, жаноцкая! А мужчынская гэта не? Ну, пусці!

Б а б а. Пусці, пусці!

Дзед з бабаю цягнуць калыску.

Ц я р э ш к а. Пусці, дзед. Гэта жаноцкая рэч.

Дзед пускае калыску, а баба цягне яе да печы.

Д з е д. Маеш, цягні, калі гэтак хочаш, цягні, цягні.

Баба ў калысцы калыша ляльку, сеўшы сама па зэдлічку.

Ц я р э ш к а. А ўжо пэўна мне час збірацца ў дарогу, бо яшчэ шмат маю абходу.

Б а б а. Гэта ўжо нас адных пакідаеш?

Ц я р э ш к а. Не адных, бо Ліпавічка маеце, толькі калышыце і гадуйце, а будзе вам вясёла. *(Складае свае рэчы ў торбу.)* А дзе ж мая шапка? *(Развітваецца з дзедам.)*

Д з е д. Няхай бог дае вам здароўя і шчасця ў жыцці вашым, дзе пойдзеце — няхай дарожка парасце мяккім мохам, а дзе ваду будзеце піць — хай мёдам стане.

Ц я р э ш к а *(кланяецца бабе)*. Бывайце здаровы! *(Выходзіць.)*

Д з е д і б а б а. З богам, з богам! *(Дзед выпускае Цярэшку, прыходзіць і сядае каля бабы. Абое калышуць і пяюць.)*

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах,
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Што курачкам даці?
Ці бобу каробу,
Ці ячменю жменю,
Ці жыта карыта,
Ці гароху троху?
Люлі, люлі, люлі,
Ўсе курачкі паснулі,
Паснулі і курчаткі
Пад крыльцамі маткі.
Спі ж ты, дзіцянятка,
Спі, мой небажатка!..

Невялікая паўза.

А ты, коцю, вон, вон,
На малога сон, сон!
А ты, коцю, не бурчы,
А ты, малы, спі, маўчы.
— Я не бурчу, не скачу,
Па сваёй бядзе плачу.

У калысцы чуецца голас.

Бабка мядок злізала,
На мяне, катка, сказала.

Д з і ц я І. Ку-а, ку-а, ку-а!

Д з е д. Глядзі, жывое! Жывое! *(Выцягвае і бярэ на рукі.)* Якое харошае, якія ручкі...

Д з і ц я II. Ку-а, ку-а, ку-а, ку-а!

Д з е д *(аддае бабе дзіцятка).* Бяры, баба, трымай. *(Цягне другое і выносіць на руках на сцэну.)* А гэта яшчэ прыгажэйшае, якія вочкі — як васілёчкі.

Д з і ц я III *(плача).* Ах-ах-ах...

Баба, кінуўшы першае, бяжыць па трэцяе і выцягвае.

Д з і ц я IV *(плача).* Ах-ах-ах, ха-ха-ха-ха.

Дзед выцягвае.

Д з і ц я V. Мама!

Б а б а. Хадзі, дзетка, хадзі. *(Цягне.)*

Д з і ц я VI. Тата!

Д з е д. Зараз, зараз. *(Цягне.)*

Д з і ц я VII. А я ўжо і сама вылезу! *(Само вылазіць.)*

Д з е д. Ужо гэтаму і канца не будзе! *(Бярэ і скора выносіць калыску.)*

Б а б а. Дзеткі мае даражэнькія, а дзе ж мне вас дзець?

Д з е д. А што, бабка, маем шмат дзяцей?

Б а б а. Ужо нават і зашмат.

Д з е д. Скуль вы ўзяліся?

Б а б а. А скажыце, мае дзеткі, як вы называецеся?

Д з і ц я I. Я называюся Гэлька.

Дз і ц я III. Я называюся Стаська.

Д з і ц я II. Я называюся Зоська.

Д з і ц я IV. Я называюся Міхась.

Д з і ц я V. Я называюся Геня.

Д з і ц я VI. Я называюся Юзя.

Д з і ц я VII. Я называюся Марылька.

Б а б а. А дзе вы прабывалі?

М а р ы л ь к а. Мы прабывалі ў лесе, дзе птушкі харошыя песні пяюць, а вецер харошыя казкі расказваў.

Д з е д. Пакажыце, што вы ўмееце, пагуляйце.

Г е н я. Пагуляем, пагуляем.

У с е *(робяць кола).* Пагуляем, пагуляем. *(Пяюць.)*

Камар лазню тапіў,
Муха парылася.
Дылі, дылі, го-ца-ца,
Ой, дыль, дыль, го-ца-ца!
З палка звалілася,
Насмерць забілася.

Дылі, дылі (і г. д.)...
Блыха добрай была,
Запрагае ката.
Дылі, дылі (і г. д.)...
Едзе ўміг па папа,
Крывапіўца клапа.
Дылі, дылі (і г. д.)...
А поп часу не мае...
Прусака спавядае.
Дылі, дылі (і г. д.)...

Дзед. Праўда, умееце хораша гуляць.

Гэлька. Мамка, есці, дай есці! *(Цягне за фартух бабу.)*

Усе. Есці, есці, мамка, дай есці!

Баба. Зараз, дзеткі, зараз, толькі згатоўлю.

Міхась. Тата, раскажы казку.

Усе. Казку, казку, тата, раскажы!

Дзед. Добра, дзеткі, раскажу. *(Сядае на столку, а дзеці навокал, пачынае казку.)* Быў дзед і баба... *(І так далей расказвае.)*

Двое дзяцей б'юцца.

Марылька. Тата, яна б'ецца!..

Стаська. Яна шчыплецца!..

Дзед *(кідае адно дзіця з каленяў)*. А ці вы ціха не будзеце? А дзе ж мая дзяжка? *(Адпаясвае дзяжку і хоча біць.)*

Стаська і Марылька. Татка, татачка, не будзем, даруйце, татачка.

Дзед. Ну, глядзіце, каб гэтага болей не было.

Зоська. Лепей мы паскачам.

Усе. Паскачам, патанцуем, паскачам!

Парамі танцуюць польку, адно без пары круціцца ўсярэдзіне. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты выглядаюць праз акно, шмат уваходзяць у хату.

Хлопец І. Дзядзька, цётка, скуль у вас так шмат дзяцей?

Дзяўчынка І. Дзядзька, цётка, скуль столькі дзяцей?

Хлопец І. Танцуюць і нічога не чуюць.

Хлопец ІІ. Дзядзька, цётка, чуеце?

Дзяўчына ІІ. У старых цяпер вясёла.

Усе збіраюцца ў адно месца і пяюць «чачотачку» — тры або чатыры звароткі.

Заслона

# БЕЛАЯ ЗБРОЯ

*П'еса ў чатырох дзеях*

## АСОБЫ

Лось — дырэктар завода, былы белы афіцэр.
Крумкач — тэхнік.
Ганс — тэхнік, немец.
Ладны — тэхнік.
Ражноўскі — тэхнік-вынаходца.
Андрэй — дырэктар завода (новы).
Чвыр — сакратар партячэйкі.
Клара — тэхсакратар партячэйкі.
Склют — былы заўком.
Хінч — новы заўком.
Замоцкі — бухгалтар завода.
Верны — рабочы-мадэльшчык.
Мігай — рабочы.
Ліпа — работніца завода.
Галуза — рабочы, былы белы афіцэр.
Кніша, Рэкуць, Ласька — работніцы-ўдарніцы.
Апанас — стары рабочы.
Падгайскі, Хрушч, Ладуцька — майстры.
Абрам — рабочы.
Гук — рабочы.
3-ці рабочы.
5-ты рабочы.
6-ты рабочы.
Дычыха — старажыха канцылярыі.
Следчы.

## АКТ ПЕРШЫ

Завод сельскіх машын. Машыны ў руху. На пярэднім плане прэс, на якім працуе майстар Падгайскі. У канцы сцэны відаць кузнечны цэх, працуе электрычны молат, выбівае гарачае жалеза, пры ім працуюць Хрушч і Ладуцька. Майстры пяюць песню.

Гук *(крычыць удаль)*. Лявон, а Лявон, увага! Яшчэ часок, і мы спаборніцтва выйграем!

5-ты рабочы *(здалёк)*. І мы гуляем не ў сляпую, галопам гонім справу.

3-ці рабочы *(да другога)*. Запытайся, каторую пагналі.

Гук. Лявон, каторую матаеш?

5-ты рабочы. 24-ю ганю, а ты?

3-ці рабочы. Во, чуў?

Гук. 24-ю пусціў. Эге, вось дык штука. *(Крычыць удаль.)* Ты лжэш, сябрук, прызнайся!

5-ты рабочы. Не верыш — хадзі глянь. Вось яны, пры мне. А ты ж каторую галубіш?

Гук *(да 3-га рабочага)*. Прызнацца трэба нам, 20-ю ганю.

5-ты рабочы. 20-ю, дык што ж ты, значыць, сеў?

3-ці рабочы *(да другога)*. Выходзіць, значыць, сеў.

Гук *(удаль)*. Не сядзем, не турбуйся, маёвы скараспел.

5-ты рабочы *(здалі)*. Абстрыглі значна вушы, га! *(Смяюцца.)*

Гук. Чакай, чакай хваліцца, яшчэ не пераскочыў.

3-ці рабочы *(да Гука)*. Позна, брат, пераскочылі. Здавай аружжа.

5-ты рабочы *(удаль)*. Нічога не здамо, і мы абедзвюма нагамі пераскочым.

3-ці рабочы. За імі будзе выйгрыш.

Гук. Хто ведае, і мы не падкачаем.

5-ты рабочы. Як ні кажыце, братцы, а гэта дасягненне. Замест 20-ці гонім — 25.

3-ці рабочы. Не сорам пахваліцца.

Гук. Смела пяцігодцы ў вочы паглядзім.

3-ці рабочы. А пяцігодка любіць гэткіх смельчакоў.

Гук. А што ж нашыя дзяўчаты маўчаць, ні слова?

3-ці рабочы. Яны нябось загразлі і маўчаць, каб голасу не чуць.

5-ты рабочы. Спытацца трэба.

Гук. Ану, давай. Дзеванькі, галубанькі, як справа дыхае ў вас?

Рэкуць. Ды неяк дыхае, жыве.

Гук. А можа, дыхае на ладан?

Кніша. Ну, выбачай, браток, з вамі ў чарзе не станем.

Ласька. Навыперадкі пойдзем, во!

Рэкуць. А вас назад.

Гук. Во, чулі?

Кніша. Так, так, назад.

Гук. А лічбы вашы можна знаць?

Рэкуць. Хочаш лічбы ведаць?

Гук. Ану.

Рэкуць. Замест 120-ці лемяхоў 150 ужо гатова.

Ласька. А я ўжо 159-ты выгінаю.

Кніша. Селі ў галёшу.

Гук. Вось дык судак.

3-ці рабочы. Аглаблёй па карку далі.

5-ты рабочы. Адубеў язык у роце.

3-ці рабочы. Сорам нават у той бок глядзець.

Рэкуць *(жартуючы)*. Да пабачэння, браткі.

Кніша. Пішыце нам часцей.

Ласька. Прыходзьце чай з цытрынкай піць. *(Смяюцца.)*

Гук *(да 3-га рабочага)*. Вось дык рухавыя дзяўчаты.

3-ці рабочы. А што ж ты думаў, яны спяць?

5-ты рабочы. Гэта, брат, крэсіва, агонь!

3-ці рабочы. Давайце, хлопцы, у Падгайскага спытаем, як ён працуе?

Усе. Давай!!

Гук. Ну, як, Падгайскі, спаборнічаць не хочаш з намі?

Падгайскі. Цяжка, не магу, дух займае.

3-ці рабочы. Лжэш, можаш, ды не хочаш.

5-ты рабочы. А ты спрабуй, націсні, паднатуж.

Падгайскі. Машына не каняка, хутчэй не пабяжыць.

Гук. Гледзячы які будзе фурман.

Падгайскі. Пастаў якога хочаш фурмана, адно ліха будзе.

Гук. А вось і не адно.

Падгайскі. Гэта па-вашаму.

З-ці рабочы. Ды кінь ты з ім спрачацца. Паставім — дык пабачым.

Падгайскі. Што значыць паставім, як гэта разумець?

Гук. Ды так. Сюды другога прыстасуем. Той так не скажа. *(Дражніць.)* Дух заняло. Працу выганіць удвое.

Падгайскі. Раз так — шчасліва. Я саступаю. *(Застанавіў машыну.)*

Гук. Ты як пасмеў?!

З-ці рабочы. Ты што ж гэта, здурэў?!

Падгайскі. Нічога не здурэў, пры памяці зусім.

Гук. Зараз жа пусці машыну! Но!

Падгайскі. Не нокай, не паеду.

Усе. Пусці машыну!!

Рэкуць. Падгайскі, ведай, з кім жартуеш!

Падгайскі. Во, бачылі, і яна, каза бясхвостая!

Кніша. Падгайскі, кінь брыкацца, лепей будзе.

Ласька *(грозна)*. Чаго з ім блытацца. Дай я пушчу. *(Да матора.)*

Гук. Чакай, не трэба, ён сам пусціць. Пушчай машыну!

Падгайскі. Ідзі спалохай цётку, а я плюю на страх.

Усе. Такога выгнаць трэба. Кулак!

У гэты час падыходзяць з кузнечнага цэха Хрушч і Ладуцька.

Падгайскі *(да іх.)* Таварышы, вы бачыце, жыцця няма. За горла ўзялі.

Усе. Хто цябе ўзяў?

Падгайскі. Хто? Кампанія, вось яна! Які я кулак?

Хрушч. Вы што ж гэта, браткі,— павар'яцелі?

Усе. Гэта ж абібок, гультай! Гнаць такога трэба!

Ладуцька. Як жа гэта вы рабочага за горла?

Падгайскі. Сярод белага дня валяць, рукі вяжуць!

Усе. Хто цябе бярэ?

Падгайскі. Сілком прымусілі спаборнічаць. А я хворы. Не магу.

Хрушч. Што гэта, паншчына якая?

Гук. Ну, ты лягчэй, лягчэй, забыўся, дзе ты?

Рэкуць. Ты як гэта пасмееў?

Кніша. Як можаш раўнаваць?

Ласька. Пад суд за гэта слова!

Г у к. Ты, чмель, глядзі — за гэта прыпаяем. Калі не ведаеш, што значыць дыктатура пралетарыяту — навучым.

З-ц і р а б о ч ы. За 14 год не навучыўся толкам разбірацца. *(Дражніць.)* Паншчына. Я табе дам такога пана *(кулаком)*!..

Х р у ш ч. Ды ён не можа. Няўжо праз сілу? Дзе ж нашае права?

Л а д у ц ь к а. Дзе моц рабочага?

У с е. Ды гэта не рабочы. Гаўкала панскае.

П а д г а й с к і. Усё роўна не прымусіце. Брашыце колькі хочаце.

Р э к у ц ь. Прымусім за вароты выйсці.

Падышоў тэхнік Л а д н ы, які спрэчку чуў.

Л а д н ы. Таварышы, цішэй, не месца спрэчкам! З'явішча нездаровае. Вы, таварыш Падгайскі, супакойцеся, не трэба правакацыю разводзіць.

П а д г а й с к і. Мяне, старога майстра...

Л а д н ы. Мы ведаем, што вы стары, мінулых часоў чалавек.

П а д г а й с к і. Да сораму даводзяць, абухом па галаве.

Л а д н ы. Машыну зараз жа пусціце. *(Паўза.)* Пусціце машыну. *(Машыну пусціў.)*

П а д г а й с к і. Мяне абразілі, мяне змяшалі з багнай!

Л а д у ц ь к а. Гаўкалай абазвалі, абібокам.

Х р у ш ч. Гультаём.

Г у к. Ніхто цябе не чапаў і чапаць не хоча.

Л а д н ы. Вам прыйдзецца часова перайсці на працу ў такарны цэх, а вашае месца займе другі.

П а д г а й с к і. Гэта ж чаму?

Л а д у ц ь к а. Што ж гэта за перамена?

Х р у ш ч. Каму ад гэтага карысць?

Л а д н ы. Рабочаму класу. І вось, дзеля таго, што з суседнім цэхам спаборніцтва падпісаў Абрам, мы хочам пераканацца, хто выйграе, зразумелі?

П а д г а й с к і. Хто загадаў ставіць сюды *(з агідай)* Абрама?

Л а д н ы. Начальнік цэха загадаў.

П а д г а й с к і. Няхай гэты начальнік мне скажа.

У с е. Скажа.

Л а д у ц ь к а. А чаму гэта вы, таварыш Ладны, праўдачку нагамі топчаце?

Х р у ш ч. Усе як груганы — ды на аднаго.

Л а д н ы. Аб гэтым мы адказ пасля дамо, а цяпер будзьце ласкавы, ідзіце ў свой цэх. *(Паўза.)* Прашу.

Х р у ш ч, Л а д у ц ь к а нехаця пайшлі.

Л а д н ы *(да Гука)*. Аб іх пытанне паставіць на заўком.

Усе рабочыя сталі на свае месцы.

П а д г а й с к і. Жывога ў магілу пруць. Абрам спаборнічаць бярэцца. Абрам механік, Абрам усё, а я... ніхто.

Падыходзяць начальнік цэха Р а ж н о ў с к і і рабочы А б р а м.

П а д г а й с к і *(да Ражноўскага)*. Таварыш Ражноўскі! Па вашаму загаду мне трэба прэс пакінуць.

Р а ж н о ў с к і. Часова прыйдзецца, з той прычыны, што прадукцыя вытворчасці прэса трымае прамфінплан, вы ад тэмпаў адсталі і не абяцаеце дагнаць, а на сёння так нельга. Вашае месца часова займае Абрам, а вы пяройдзеце на працу ў такарны цэх.

П а д г а й с к і. Ну што ж, няхай даганяе Абрам, я згодзен.

Р а ж н о ў с к і. Згодзен ці не згодзен, рэч іншая, абражацца не трэба. Абраша, пачынай.

Р а ж н о ў с к і пайшоў, Падгайскі адышоў у староику.

Г у к *(да Абрама)*. Ну, Абрашка, дакажы, на чым зямля стаіць.

3 - ц і р а б о ч ы. З скуры вылезь вон, а не пасаром брыгады нашай слаўнай.

5 - т ы р а б о ч ы. Трымай горда аўтарытэт КСМ.

3 - ц і р а б о ч ы. Памятай, што лічба ў цябе 160.

На авансцэну прыйшоў рабочы М і г а й, стаў і задумаўся. Хоча ісці, да яго падышоў Падгайскі.

П а д г а й с к і. Ну, Мігай, у чым справа? Чаго затужыў? Кажы, можа, і параду добрую дам, ну?

М і г а й. Таварыш Падгайскі, я зрабіў вялікую памылку і не ведаю, як быць.

П а д г а й с к і. Ну?

М і г а й *(азіраючыся, каб хто не пачуў)*. Мадэль, якую рабіў Верны, я заўчора, несучы ў ліцейную, выпусціў з рук і выкрывіў. Яе ўзялі ў адліўку, і можа быць

бяда. Мяне грызе сумленне. Я хачу пабегчы, папярэдзіць, каб не адлівалі.

Падгайскі. Адкуль жа табе вядома, што мадэль ты выкрывіў?

Мігай. Прадчуваю.

Падгайскі. Дарэмная трывога. Мадэль не з цукру, калі і стукнуў — цэла будзе.

Мігай. А можа, мне пабегчы папярэдзіць? Падумайце самі. Што з гэтага будзе? Кім мяне назавуць?

Падгайскі. Маўчаць будзеш — не назавуць, а гукнеш — прыпішуць і шкодніцтва, і ўсякую немач. Ты што, змяніўся?

Мігай. Змяніўся?

Падгайскі (*паварочвае яго ў другі бок*). Ну, тады ідзі дадому і не ламай дарэмна галавы. Усё добра будзе. (*Пайшлі.*)

Падышлі тэхнік Ганс і Ладны.

Ганс (*глядзіць і радасна ўхмыляецца, як працуюць рабочыя*). Калісь, жывучы ў Германіі, я думаль, што рускі рабочы няздольны да творчай працы. І дольжэн адступаць, і адступаць, і адступаць, а цяпер, калі я пажыль з німі, маёй радасці нет канца. Это львы. Это геніальные людзі. Это новы чалавек, каторы паставіць на каленкі капітал. (*Радасна.*) Рабяткі, вы малайцы!

Усе. Добры дзень, таварыш Ганс!!

Ганс (*смяецца*). Цяпер пусць мяне завуць назад у Германію, я германскім фабрыкантам скажу очэнь некрасівую фразу.

Усе. Якую?

Ганс. Я скажу: не пайду к вам работаць, сукіны дзеці! (*Смех.*)

Абрам. Сур'ёзна, не пойдзеце?

Ганс. То есць, я пайду, толькі вмесце з вамі, в советскій Берлін.

Усе ў ладошкі.

Ганс. Ко мне едут з Германіі сюды майн кіндэр, мой дзеці. Я не хочу іх там дзержаць.

Усе. Чаму?

Ганс. Я, Ганс, калі жыл у Германіі, от жызні отстал, фуфцэйн лет, і только здесь, в стране Советов, я догнал, а мої кіндэр отсталі на тріста лет — это нельзя, я не хочу. Оні едут сюда.

Ладны. Вось, братва, вы бачыце, як за год апралетарызаваўся Ганс?

Ганс. Да, я цяпер совсем пралетарскі чэловек, русіш фрай...

Абрам. Руская рэвалюцыя.

Ганс. Русіш рэвалюцыя і русіш арбейтэр переделал меня.

Рэкуць. Таварыш Ганс праз які гадок і ў партыю ўступіць.

Кніша. Будзе камуністам.

Ганс. Іх зайн. Іначай я бы не работаль бы з бальшавікамі. Я буду камуніст. Я думаю, што за маі старанія перад партыяй і русіш пралетарыят партыя мне білет даст.

Рэкуць. На сходы партячэйкі трэба вам хадзіць.

Ганс. Пайду.

Кніша. Гісторыю партыі знаць.

Ганс. Знаю, как свої пяць пальцаў.

Ласька. Пяць подпісаў камуністаў.

Ганс. Пяць подпісаў камуністаў?

Ладны. Вот тут і загваздка. Пяць камуністаў няма.

Ганс. Пяць нет. Ну, а сколько?

Усе паднялі рукі.

Ганс *(здзіўлена)*. Гэта вы?

Усе. Мы. За Ганса камуніста!

Ганс. Ну, братцы, такая мінута, самая харошы ў маёй жызні мінута. Я вас, рабочых, яшчэ больш люблю. У мяне нет родзіны ў Германіі. У мяне есць родзіна в Советском Союзе, а брацья мой,— вы, рабочые. *(Воплескі.)* Ну, я пайшоў. *(Да Абрама.)* Ну, камрад, спаборніцтва выйграем.

Абрам. На вялікі палец!

Ганс. Это будет нам большой празднік. *(З пад'ёмам.)* Не будет маленькі хозяйств, а будет большой калгас і многа, многа машын. *(Адыходзіць.)*

Кніша *(услед)*. Таварыш Ганс, сёння сход ячэйкі.

Ганс. Буду, буду, дзякуй.

Прыбег рабочы Апанас.

Апанас *(да Ганса)*. Таварыш Ганс, у нас бяда!

Усе. Якая?

Апанас. Адліўка частак па мадэлі крывізну дала.

Ганс. Хто делаль мадэль?

А п а н а с. Мадэльшчык Верны.

Г а н с. Перад адліўкай правяраль?

А п а н а с. Не ведаю. Пусцілі ў форму, дзве тысячы штук адлілі.

Г а н с. Дзела очэнь нехорошые. Зараз прышліце мне мадэльшчыка. *(Пайшлі.)*

Л а д у ц ь к а *(да Хрушча)*. Уліплі.

Х р у ш ч. Агледзеліся, ды па часе.

Л а д у ц ь к а. Без музыкі кадрыль.

А б р а м. Зноў шпілька!

Г у к. Не шпілька, а кастыль.

3 - ц і р а б о ч ы. Як яе прынялі?

Р э к у ц ь. Прынялі, пусцілі ў адліўку.

К н і ш а. Затрымка будзе, ды якая.

Л а с ь к а. Машын калгасу не дамо.

А б р а м. Вось табе і прарыў!

Ідзе мадэльшчык В е р н ы.

Л а д у ц ь к а *(пераняў яго)*. Верны!

В е р н ы *(занепакоена)*. Га?

Л а д у ц ь к а. Ну, што ж, прапаў?

Падышоў Х р у ш ч.

В е р н ы. Братцы, што ж гэта здарылася?

Х р у ш ч. Што ж будзеш казаць?

В е р н ы. Сам не ведаю, пайду.

Л а д у ц ь к а. Чакай, падумай добра, і тады.

Х р у ш ч. Ратуйся як мага, а то не будзе месца ні табе, ні тваёй бабулі на тым свеце.

В е р н ы *(глядзіць на свае рукі)*. Няўжо мае рукі, няўжо яны зрабілі фальш? Яны ж трынаццаць год...

Х р у ш ч. А на 14-ты ў астрог палезеш.

В е р н ы. Ну што вы, братцы, няўжо? Я ж 13 год Саветам так аддана працаваў.

Л а д у ц ь к а. А табе савет аддана і падзякуе.

Х р у ш ч. Запросяць у падвал, гарохам пачастуюць.

Л а д у ц ь к а. Казённы будзе харч надзіва.

Х р у ш ч. Вазьмі толькі падушку, ручнік і кавалак мыдла.

Прыйшоў тэхнік К р у м к а ч.

К р у м к а ч *(злосна)*. Ну, што ж, таварыш Верны?

Х р у ш ч. Быў Верны, да зрабіўся няверны.

Л а д у ц ь к а. Спракудзіўся.

К р у м к а ч. Як жа гэта?

В е р н ы. І сам не ведаю, я ж стараўся.

К р у м к а ч. Пры такім старанні заводу будзе смерць.

В е р н ы. Што вы, таварыш Крумкач?!

К р у м к а ч. Не ўявіў сабе дагэтуль, каму працуеш? Не ведаеш, што значыць пяцігодка, што калгас? Пад суд за гэта аддаць! *(Пайшоў.)*

В е р н ы *(у задуменні)*. Быць не можа, не асудзяць. Яны за праўду! *(Пайшоў.)*

Л а д у ц ь к а. Ото ж дурны, яны за праўду... Верыць, як дзіця. *(Смяецца.)* 13 год змагаўся.

Х р у ш ч. Змагаўся. Спытацца, за што?

Л а д у ц ь к а. Дастукаўся. Як цюцьку рудога кінуць у буду. Кінуць — і кукуй.

Х р у ш ч. Вядома, не пашкадуюць.

Л а д у ц ь к а. Чакай ад іх міласці.

У гэты час раздаўся трэск, зламаўся прэс. Усе рабочыя кідаюцца да прэса.

Л а д у ц ь к а *(падышоў)*. Як жа гэта вы, таварыш Абрам?

А б р а м *(у перапалоху)*. Таварышы... я тут не вінен. Гэта, таварышы, няшчасце.

Х р у ш ч *(грозна)*. А чаго ты лез, хто цябе прасіў...

Р э к у ц ь *(грозна да Хрушча)*. На гэта ён адкажа парткіраўніцтву, а не вам!

З а с л о н а

## АКТ ДРУГІ

Кабінет дырэктара завода. За сталом тэхнік К р у м к а ч, каля яго З а м о ц к і і С к л ю т. Старажыха Д ы ч ы х а перацірае вокны.

С к л ю т. Я вам скажу праўду. Чакаў, як сонца яснага, таго дня, калі пазбуду гэту пачэсную пасаду заўкома. І нарэшце дачакаўся. Вольны казак! Радуюся!

З а м о ц к і. Няма чаго радавацца.

Крумкач. І па-мойму, так. Трэба было працаваць.

Склют. Аніяк не мог — затравілі. А насценгазета, нібы швайка, у кожным нумары данімала.

Замоцкі. Ну, а як жа ты хацеў, на тое самакрытыка.

Склют. Каб жа было за што, а то за дробязь, глупства.

Крумкач. Цяпер жыве такі лозунг, калі ты плюнуў, дык трэба ўтварыць такую думку, што ты запляваў увесь кут.

Склют. Ды каб жа плюнуў, а то і гэтага не было.

Замоцкі. Тым больш, ты не меў права абражацца і пакідаць службу.

Крумкач. Пашкадуеш, браце, пашкадуеш.

Склют. І не думаю. Прынамсі, адпачнуць і рэдактар насценгазеты, і мастак, які так старанна маляваў мяне ў розных позах, цьфу, каб яму рукі пакруціла!

Крумкач (*прыслухоўваючыся*). Здаецца, цягнік прыйшоў.

Склют. А так, прыйшоў.

Замоцкі. Слухай, Дычыха, выскач на вакзал, прыйшоў цягнік з Масквы, як толькі выйдзе з вагона наш дырэктар Лось, скажы, каб зараз жа ішоў сюды.

Дычыха. Рада слухаць, праз хвілю буду там.

Замоцкі. Бяжы, бяжы. (*Дычыха пайшла.*) Хоць бы ён прыехаў, такі адказны момант.

Крумкач. Непакоюся і я.

Замоцкі. Чуе маё сэрца, што яго адхіляць, а прызначаць новага.

Склют. Дык гэта напэўна. Тут на заводзе ўсё старое кіраўніцтва лясне.

Крумкач. Но, но...

Склют. Так, брацішка, лясне. Заўком новы ёсць, сакратар партячэйкі ёсць, будзе і дырэктар новы.

Уваходзіць Лось.

Лось. Вось і я.

Замоцкі. Лёгкі на ўспамін.

Крумкач. Ну, што добрага, хваліся, застаешся ці не?

Лось. Намеснікам дырэктара.

Склют. Я ж вам казаў.

Замоцкі. Катастрофа.

Лось. Але без афяр.

З а м о ц к і. А сам на гэта згодзен?
Л о с ь. Згодзен.
З а м о ц к і. А можа, ведаеш, хто новы дырэктар, як прозвішча?
Л о с ь. Гравер.
З а м о ц к і.
К р у м к а ч. } Бачыў яго?
Л о с ь. Разам прыехалі.
З а м о ц к і. Камуніст?
Л о с ь. Камуніст.
С к л ю т. Цяпер стаўка на камуністаў, беспартыйных усіх паадшываюць, прымерна, як мяне.
Л о с ь. А што ж з вамі?
С к л ю т. Я ўжо не заўком.
Л о с ь. Вельмі дрэнна, калі так, самі вінны.
С к л ю т. Не магу.
Л о с ь. Як так не магу? Кажыце проста — самі не захацелі справіцца. Лепш спакойна адыду, абы ціха.
С к л ю т. Я працаваць хацеў, але ж пры такіх умовах нельга.
Л о с ь. Можа, вас хто за гэта і пахваліць, толькі не я.
З а м о ц к і. Мы яго ўжо лаялі.
Л о с ь. А каго ж прызначылі?
С к л ю т. Хінча.
Л о с ь. Якія навіны наогул на заводзе?
К р у м к а ч. Нямецкі прэс...
Л о с ь. Што?
К р у м к а ч. Паломка.
Л о с ь. Прычыны?!
К р у м к а ч. Падгайскага знялі, Абрама паставілі, а гэты на радасцях прэс зламаў.
Л о с ь. Што кажуць рабочыя?
З а м о ц к і. Усяк кажуць.
К р у м к а ч. Адны, каб паправіць сіламі нашага завода, а другія, каб выпісаць механіка з цэнтра.
Л о с ь. Якая ваша думка?
К р у м к а ч. Можна выпісаць механіка з цэнтра, але ж я баюся, каб не прыйшлося выпісаць часткі з-за граніцы, бо прэс замежны.
С к л ю т. Як мне здаецца, гэтак і будзе.
Л о с ь. Таварыш Крумкач, паклічце мне майстра Падгайскага. *(Крумкач пайшоў.)* А вы, таварыш Замоцкі, дайце мне звесткі, калі прыслалі прэс.

Замоцкі. Добра, зараз прынясу, яны ў Ліхача. *(Пайшоў.)*

Лось. Нядобра, таварыш Склют, нядобра. Вас будзем судзіць.

Склют. За што?

Лось. А за тое, што вы ў такі адказны момант не выявілі энтузіязму і не памаглі партыі і ўладзе.

Склют. А што ж я павінен рабіць?

Лось. Працаваць, не жаліцца на цяжкасці, дагаджаць рабочым.

Склют. А чорт ім дагодзіць. Вы як ужо дагаджалі. А вось, бачыце, з пасады знялі.

Лось. Але ж я за гэта не абразіўся, завод не пакінуў. Служыць буду далей.

Склют. А я, наадварот, абразіўся і завод пакідаю. Служыць не хачу.

Лось. А вы ведаеце, за каго вас палічаць?

Склют. Мне ўсё роўна.

Лось. Варожа настроены, таварыш Склют.

Склют *(хвалюючыся)*. У душу загляніце, таварыш Лось, у душу!

Уваходзіць Падгайскі.

Падгайскі. Добры дзень, Васіль Лявонавіч, з прыездам.

Лось. Што з прэсам?

Падгайскі *(махнуў рукой)*. А што я ведаю? Узялі за каршэнь, як ком гразі, адкінулі вон, ну, і зламалі.

Лось. Як-та ўзялі, як-та адкінулі?

Падгайскі. А проста, гвалтам прымусілі, і адышоў. Загадалі спаборнічаць.

Склют. А спаборнік і скруціў машыну.

Падгайскі. Ды як круціў — аж страх успомніць.

Лось. Як ваша думка, мы яго направім?

Падгайскі. Галоўны тэхнік казаў, трэба помач запрасіць.

Лось. Нашы не направяць?

Склют *(ухмыльнуўся)*. Нашы...

Падгайскі. Каму тут правіць. Дзве-тры вучоныя сілы ёсць і тыя ў загоне.

Склют. З шалахвостамі да ладу не дайсці.

Лось. Ну, чаму так, з шалахвостамі? *(Паўза.)*

Склют. А як іх інакш назваць?

Лось. Вы, таварыш Склют, недаацэньваеце нашай моладзі.

Склют. Ды якая ёй цана,— гультаі і гарладзёры.

Лось. Таварыш Склют, гэта нездаровы погляд, я не хачу вас слухаць.

Склют. Вы, таварыш Лось, даруйце мне, але ж я скажу ў вочы вам. Большасць з іх нягожыя да жыцця людзі, ламакі і п'яніцы.

Лось. Таварыш Склют, вы вольны. Не перашкаджайце мне працаваць.

Склют. Выбачайце. Я сказаў тое, што меў. Бывайце. *(Пайшоў.)*

Лось *(устаў, пахадзіў)*. Чалавек утраціў памяць. Зусім забыўся, дзе ён.

Падгайскі *(уздыхнуў)*. Не лёгка яму, бедаку.

Лось. Сёння ўсім цяжка. Але ж гэта не дае права распускаць язык.

Падгайскі. Мяне таксама зневажалі, абясславілі.

Лось. Пустое, не абражайцеся і працуйце.

Дычыха ў дзвярах.

Дычыха. З прыездам, Васіль Лявоныч. *(Падгайскі пайшоў.)* Шчасцейка і здаровейка жадаю вам.

Лось. Ну, як жывеш, Дычыха?

Дычыха. Родненькі мой, навіну прыкрую прынясла. Птушачкай ляцела да вас, на вакзале была, ды не злавіла.

Лось. Ну, што?

Дычыха. Ой, не ведаю, як і пачаць. Гэта ж трэба, людзі, як іх зямля носіць?

Лось. Ну, кажы, кажы, у чым справа?

Дычыха *(упаўголасу)*. Новы дырэктар прыехаў, сама бачыла.

Лось *(жартаўліва)*. Ды ну?..

Дычыха *(жагнаецца)*. Міца, міца, каля брамы з рабочым стаіць — распытвае, гаворыць, а рабочыя на вас горы вернуць.

Лось. Ну, што ж, няхай, на ўсіх пірага не спячэш. Такая наша доля, цяжка быць інжынерамі, веры няма.

Дычыха. Праўда, даражэнькі, веры няма. Цяпер рабочыя людзі жорсткія. Памятаю, калісь быў інжынер пан Сасноўскі — беленькі, чысценькі. Служыла ў яго,

штодзень кашулькі мыла, і што ж... незалюбілі: схапілі, у тачку брудную ўправілі, на сметнік вывезлі.

Л о с ь *(перабіў)*. Так, што ж рабочыя пра мяне там гаварылі?

Д ы ч ы х а. Ды ўсё аб тых машынах. Вінавайцам лічаць вас.

Л о с ь. Ну, што ж, няхай. Хто асудзіць, а хто і апраўдае.

Д ы ч ы х а. Ой, даражэнькі Васіль Лявоныч, не чакайце жаласці ад іх. Сёння брат брата топіць.

Л о с ь. Ну, можа, новы дырэктар чалавек разважны.

Д ы ч ы х а. Ды не, і ён як сыч з-пад ілба глядзіць.

Л о с ь. Ну, дзякую Дычыху *(даў грошы)*, дзецям на цукеркі.

Д ы ч ы х а. Ой, Васіль Лявоныч, што вы! *(Хацела пацалаваць у руку.)*

Л о с ь *(рукі не даў)*. Не трэба так, Дычыха, пабачаць.

Д ы ч ы х а. Ну, дзякую, Васіль Лявонавіч, мяне лічыце... ну, такой, адным словам... усё, што пачую, вам прынясу. Пабягу мыць падлогу, новы дырэктар прыйдзе. *(Пайшла.)*

Уваходзяць Р а ж н о ў с к і, Х і н ч, К р у м к а ч і А п а н а с.

Р а ж н о ў с к і. Я да вас па справе, таварыш Лось.

Л о с ь. Я вас слухаю.

Р а ж н о ў с к і. Адносна прэса. Што гэта, ёсць загад прэс выключыць, выпісваць часткі і чакаць?

Л о с ь. На вялікі жаль, так.

Р а ж н о ў с к і. Ну, мы не згодны. Будзем самі правіць.

Л о с ь. А хіба ж вы забыліся, як было з тым прэсам? Узяліся правіць самі і селі макам. На ўсё спец патрэбен, а ў нас іх мала.

Р а ж н о ў с к і. Бо рана паніку пусцілі. А каб яшчэ адну зрабілі спробу, знайшлі прычыны. А так пазорліва селі, і доўг краіне — дзвесце сеялак і жатак.

Л о с ь. А на чыім жа карку гэты доўг вісіць? На маім.

Х і н ч. А што ж вы хочаце, каб гэты доўг яшчэ больш рос?

Л о с ь. Якім чынам?

Х і н ч. Ды такім, калі мы будзем чакаць, часу многа

пройдзе, а вытворчасць не чакае, краіна машыны патрабуе.

Ражноўскі. Мы не дапусцім, каб у час вялікіх тэмпаў машыны выбывалі.

Лось. А я не магу дапусціць, каб у час вялікіх тэмпаў рабіліся эксперыменты, якія канчаюцца крахам.

Ражноўскі. Значыць, вы не давяраеце нам?

Лось. Наадварот, я вам веру, але ж трэба мець здаровую развагу — самі не направім.

Ражноўскі. Ну, з гэтага ўсё зразумела: бегчы трэба на збавенне да кумы, а куме да кума, а тым часам машыне крах, чакай вясны.

Хінч. З такой устаноўкай мы пяцігодку выканаем праз 10 год.

Ражноўскі. У той час, калі калгасны рух расце, крычаць — давай машыны, а мы лісты будзем пісаць да немцаў. Злітуйцеся, дапамажыце...

Лось. І не так, таварыш Ражноўскі. Неяк зробім, машын калгасу дамо.

Ражноўскі. Адно толькі разважанне.

Крумкач *(які мімічна размаўляў з Апанасам)*. Мне падабаецца наш маладняк. Абы справа забуксавала — на сцяну лезе ратаваць. Таварыш Ражноўскі, хацеў бы я мець сына гэткага, як вы.

Ражноўскі. Таварыш Лось, не траціма часу на пустую гутарку, давайце канкрэтна. Ваша думка?

Лось. Я сказаў.

Ражноўскі *(да Крумкача)*. А вы?

Крумкач. І я сказаў, братцы, самі не направіце.

Ражноўскі. Ну, тады дазвольце сказаць нам. Мы пойдзем супроць вашага загаду, машыну будзем ратаваць з ударнымі брыгадамі.

Лось. А я думаю інакш. Пашлю я вас у цэнтр для азнаямлення з такой самай машынай, а потым наладзім яе тут.

Ражноўскі. Я нікуды не паеду.

Лось. Ну, як-та не паеду? Калі справа патрабуе — паедзеце.

Ражноўскі. Не паеду!

Лось. Тады дзе ж дысцыпліна, аб якой кажа партыя?

Хінч. Ну, аб гэтым мы пагаворым у партячэйцы. Хадзем, Ражноўскі. *(Пайшлі.)*

Апанас. Васіль Лявоныч, даруйце, я не ведаю,

што вы думаеце, але ж хачу сказаць, што я думаю. Я век зжываю на заводах. Многа гора бачыў, але ж з вамі не згодзен. Не гуляць, а вялікую справу яны хочуць зрабіць, і трэба ім дапамагчы.

Л о с ь. Панас, як вам здаецца, ведаю я што-небудзь ці не?

А п а н а с. А чаго ж да вас ідуць, як не за дапамогай?

Л о с ь. Я кажу, не рыпацца.

К р у м к а ч. Значыць, і не рыпацца?

А п а н а с. Не можна так казаць.

Л о с ь. А што ж рабіць?

А п а н а с. Рукавы закасаць, і тады...

К р у м к а ч. Ваду таўчы ў ступе.

А п а н а с. Машыны правіць, новыя зрабіць. Не лезці да немцаў. Годзе!

Л о с ь. З часам гэта будзе. Раней трэба дагнаць і перагнаць.

К р у м к а ч. А на гэта дзесяць год яшчэ патрэбна.

А п а н а с. Васіль Лявоныч, усё будзе, раней дапамажыце ім, яны чакаюць вас. Я ўночы спаць не магу, станок папсуты перад вачыма мігаціць. Ён не працуе, быццам мы перад судом.

К р у м к а ч. Апанас, дай працаваць. Ідзі.

А п а н а с. Ну, добра, я пайду. Я працягну ім сваю мазольную руку, выйду на дапамогу, як старэйшы брат, ратаваць машыны будзем. *(Пайшоў.)*

К р у м к а ч. Ну, што рабіць?

Л о с ь. Я сказаў. Адстаўляй машыну.

К р у м к а ч. А ці добра будзе?

Л о с ь *(незадаволена)*. Ды што гэта, нарэшце? Адстаўляй машыну!

К р у м к а ч пайшоў. Пачаў нервова хадзіць Л о с ь. Уваходзіць Г а л у з а. Застанавіўся.

Л о с ь. Вы да каго?

Г а л у з а. Да вас.

Л о с ь. Чаго патрэбна вам?

Г а л у з а. Зусім нічога, даўно вас бачыў, падзівіцца хачу.

Л о с ь. Вы хто такі?

Г а л у з а. Да ваш стары знаёмы.

Л о с ь. Стары знаёмы? Я вас зусім не ведаю.

Г а л у з а. Затое я вас добра ведаю.

Лось занепакоіўся.

Г а л у з а. Ай-я-яй, якая змена з чалавекам. Пазнаць вас не магу.

Л о с ь. Хто вы?

Г а л у з а *(падышоў бліжэй)*. Дзе ж ваша воля, дзе ж той спрыт, дзе сіла ваша?

Л о с ь. Ніколі вас не бачыў.

Г а л у з а. А памятаеце бой, дзе ваш бронецягнік «Едзіная Расія» адзін абараняецца супроць чырвонай сволачы?

Л о с ь *(кінуўся да яго, заціснуў яму рот і азіраецца на вокны)*. Цыц, ні слова!

Г а л у з а *(руку адкінуў)*. Вось цяпер перада мною той самы камандзір бронецягніка Вацлаў Бранавіцкі.

Л о с ь *(трасе яго за грудзі)*. Ты хто такі?!

Г а л у з а. Цішэй, пачуюць. *(Выстраіўся.)* Памочнік каменданта вверанага вам поезда — паручык Лашч!

Лось амярцвеў.

Г а л у з а. Не палохайся, я нічога супольнага з ГПУ не маю. Ну, давай руку, прывітайся. *(Узяў руку і трасе.)*

Л о с ь *(пільна ўглядаецца яму ў твар)*. Лашч! Так... Помню... А дзе мой брат? Скажы, дзе мой брат?

Г а л у з а. Брат... чырвоныя забілі.

Л о с ь. Чырвоныя... *(Думае.)* Ты бачыў?

Г а л у з а. На маіх вачах. Мы труп пакінулі, а самі ўцяклі.

Л о с ь. Як ты папаў сюды?

Г а л у з а. Накіравалі.

Л о с ь. Дзе дагэтуль быў?

Г а л у з а. Увесь Саюз вось гэтак абматаў, а цяпер хачу на кітайскую граніцу перабірацца, там нашы аперыруюць.

Л о с ь. Так, што ж ты хочаш ад мяне?

Г а л у з а. Не разумею...

Л о с ь. Помач матэрыяльную?

Г а л у з а *(пакрыўдзіўся)*. Паручык Лашч падачак не прымае. *(З гонарам.)* Хачу служыць тут, разам на заводзе!

Л о с ь. Разам... Гэтага не можна!

Г а л у з а. Чаму?

Л о с ь. А таму, што я з мінулым скончыў усё. Я тут

лічуся сумленным працаўніком. І баюся аб тым успамінаць.

Г а л у з а. А я ўспамінаю, мінулага яшчэ не скончыў і зусім не хачу, каб мяне бальшавікі лічылі сумленным чалавекам.

Л о с ь. Пустое развражанне.

Г а л у з а. Я перашкаджаць табе не буду, а службу прашу даць.

Л о с ь. Я лепш дам табе на дарогу колькі хочаш грошай.

Г а л у з а. Ізноў сваё. Я хачу служыць!

Л о с ь *(падумаўшы)*. Якая спецыяльнасць?

Г а л у з а. Асноўная — барацьба з бальшавікамі, а так — універсальны чалавек.

Л о с ь. Клічка?

Г а л у з а. Дзяніс Галуза. Хамская фамілія. Адно толькі жаль — нос не картошкай.

Л о с ь. Слясарку ведаеш?

Г а л у з а. Ведаю.

Л о с ь. Залічу слесарам.

Г а л у з а. Ну, што ж, добра, адразу ў масы.

Л о с ь. І так, усё. Дзе будзеш жыць?

Г а л у з а. Можна разам.

Л о с ь. Гэтага не можна. Ты жыць будзеш у нашага чалавека. А цяпер ідзі.

Г а л у з а. Ну, дзякую. *(Падаў руку і глядзіць на руку Лося.)* А гэта што — ордэн Чырвонага сцягу?

Л о с ь. Чырвонай шаблі.

Г а л у з е гэта спадабалася, мацней паціснуў руку і пайшоў. Лось адзін думае. Уваходзіць К л а р а.

Л о с ь *(радасна)*. Каго бачу, Клара, мая радасць! Ручку, ручку! Эх, як я занудзіўся.

К л а р а. Аб гэтым пасля. Давай справкі, калі прыслалі прэс.

Л о с ь. Вось гэта мне падабаецца. Зараз увесь завод тут будзе. Толькі і чую — прэс, прэс і прэс.

К л а р а. Так і трэба. Калі прыслалі прэс?

Л о с ь. Чатыры месяцы.

К л а р а. Ты што ж, не хочаш, каб брыгады правілі яго?

Л о с ь. Баюся, не направяць, толькі час змарнуюць.

К л а р а. Ражноўскі адказнасць на сябе бярэ.

Л о с ь. Завельмі смела. Я калісь хацеў выкладчыкам

кітайскай мовы ў школу паступіць, ды адмовілі — мовы не ведаю, так і тут.

Клара. Няўжо ты не верыш гэтаму таленавітаму тэхніку?

Лось. Ды кінь ты, Клара, які ён талент? Ні тэорыі, ні практыкі.

Клара. А я яму веру.

Лось. Ну, гэта рэч іншая. У справах сэрца, можа, ён даказаў свой спрыт.

Клара. Лось, што гэта за дацінкі?

Лось. Мне проста дзіўна. Гаворыш аб Ражноўскім — агнём ззяюць вочы, ззяе твар, Ражноўскі — бог. Ражноўскі — ідэал!..

Клара. Так, так, ідэал!

Лось. А я не пападу пад уплыў гэтага ідэала!

Клара. Тут справа не ў асобе, а ў заводзе, машыны выбываюць — прарыў.

Лось. Выходзіць так, што толькі ідэальнага Ражноўскага пужае будучыня, а мяне — наадварот. Лёс завода дораг і мне.

Клара. Ну, давай канкрэтна.

Лось. Запросім механіка з цэнтра. Прыедзе — направіць.

Клара. Пакуль запросім ды прыедзе — прэс месяц прастаіць.

Лось. Ну, гэта многа?

Клара *(адыходзіць)*. Заключнае слова за партківаўніцтвам.

Лось. Клара! *(Клара падышла.)* Я цябе не пазнаю.

Клара. Ну?

Лось. Але ж падыдзі бліжэй! Ну, вось так! Што ж гэта — адстаўка?

Клара. Кажы далей, я слухаю.

Лось. Я не разлюбіў цябе...

Клара. А я спынілася.

Лось. Прычыны?

Клара. Прычын многа.

Лось. Нябось галоўная прычына — перамена майго чына?

Клара. Не чын, а аўтарытэт. Грамадскасць цябе судзіць, і я не мілую.

Лось. А сэрца ж тваё каго слухае, твайго індывідуума ці нейкай кучкі невядомых людзей?

Клара. У даным выпадку — масу, грамаду.

Лось. І на падставе гэтага ты можаш патаптаць усё?

Клара. Камуніст можа. Ён рашучы і адважны.

Лось. Якая змена з чалавекам, я прыехаў да яе той самы, а яна...

Клара. Табе не трэба было назад прыязджаць.

Лось. Як?

Клара. А так. Цябе гаспадар завода — рабочы — адхіліў, чаго ты прыехаў, хто цябе пакінуў?

Лось. Мяне пакінуў цэнтр.

Клара. Цэнтр? Хацела б ведаць я таго з цэнтра, як ён выглядае, вывернуць душу яго, вось так.

Лось. Так што ж? Па-твойму, той, хто мяне пакінуў, нейкі дурань?

Клара. Я не ведаю, але ж ты ад нейкага часу зрабіўся для мяне агідным.

Лось *(здзіўлена)*. Так?

Клара. Так. Кожны той, хто несумленна кладзе цагліны ў фундамент сацыялізма, з майго погляду — вораг.

Лось. Значыць, мы чужыя?

Клара. Мы сваякі не былі.

Лось. Гэты дзень — жалобны для мяне дзень.

Клара. Ніхто, здаецца, не памёр, а кожную хваробу лячыць можна. Так што, дружа, падцягніся, а не... жалезны савецкі дзяркач зробіць інакш.

Лось *(грозна)*. Дзевачка, завысока ляціш!

Клара. Дасягай нашай вышыні — будзем дзякаваць, а станеш папярок — утыльсыр'ё.

Лось. Глядзі, на перагіб наскочыш.

Клара. Ніколі.

Увайшлі Андрэй і Чвыр.

Андрэй. І так, я пазнаёміўся з рабочымі завода.

Лось. Вельмі прыемна.

Андрэй. Прыемнага мала.

Клара *(да Лося)*. Во, чулі?

Андрэй. А вы хто будзеце?

Клара. Я тэхнічны сакратар партячэйкі.

Андрэй. Даўно служыце?

Клара. Год.

Андрэй *(да Лося)*. А вы?

Лось. Два гады.

Андрэй. У вас адчуваецца безгаспадарчасць. Былі катастрофы.

Лось. Былі, але ж у маю адсутнасць.

Клара. І не так, кажыце проста, у вашу прысутнасць!

Лось. Таварыш Клара, ды што ж гэта вы стараецеся безапеляцыйна ачарніць мяне?

Клара. Я кажу праўду.

Андрэй. Мы якраз не хочам зараз судзіць вас, але ж факт той, што выпадкі былі.

Чвыр. Мы чулі — вы прэс не жадаеце правіць сіламі нашага завода.

Лось. Бо не паправім. Няма адпаведных спецаў.

Чвыр. Ну, а ваша дапамога, вы ж інжынер?

Лось. Перад механікай Германіі пасую.

Андрэй. Вось гэта здорава!

Чвыр. А вы спрабуйце, напружце ўсе сілы. Дакажыце, што мы можам абысціся без чужой апекі.

Лось. Хацеў верыць у свае сілы, але ж дарэмна.

Андрэй. У вельмі дрэннае становішча пападае завод. Няма належнай вытворчасці. Не дамо калгасу машын.

Чвыр. А вы ведаеце, што сёння калгас...

Лось. Мяне не трэба агітаваць, я не вораг краіны — ведаю.

Клара. Таварышы, годзе вам сентыментальнічаць, дайце рашучы загад, і справе канец.

Чвыр. Правільна!

Андрэй. Так вось! Прэс направіць сіламі нашага завода, як хутчэй пусціць. *(Пайшлі.)*

Лось. Пастараемся, пусцім.

Клара. Пусціла б я такога дырэктара *(паўза)* к чорту за вароты. *(Пайшла, партфель пакінула.)*

Лось. Бач ты яе, сцерва! *(Раскрыў партфель, пераглядзеў пакеты, адзін пакінуў.)*

Уваходзіць Дычыха з вядром і венікам.

Дычыха. Васіль Лявоныч яшчэ тут, а я хацела падлогу мыць.

Лось. Я зараз пайду.

Дычыха. Што гэта верціхвостка вылецела адсюль, ледзьве з ног не збіла.

Лось. А чорт яе ведае, нашумела, накрычала і пабегла, партфель пакінула.

Д ы ч ы х а. Яны на галовы свае забудуцца.

Л о с ь. Вось што, Дычыха, занясі партфель назад, каб не было бяды.

Д ы ч ы х а. Аддаць у рукі ці пакласці на стол?

Л о с ь. Як мне здаецца, лепш пакласці, а то, чаго добрага, прычэпіцца.

Д ы ч ы х а. Ці ліха дасць, цішком занясу — і толькі, ключ ад канцылярыі ў мяне.

Л о с ь. Тым лепш, ідзі. *(Дычыха пайшла. Лось раскрывае пакет.)* ЦК партыі, рашэнне партнарады аб рэканструкцыі завода. Эскізы, чарцяжы, ого, якія гмахі. Гэтага мне і трэба. Стварыў бог мядзведзя, стварыў і паляўнічага.

Пераключаецца свет, і зноў пачынаецца дзея. Кабінет дырэктара. Уваходзіць П а д г а й с к і.

П а д г а й с к і. Васіль Лявоныч, дазвольце далажыць, што кватэра ваша ўжо гатова, як цацка.

Л о с ь. Ды ну?

П а д г а й с к і. У стары час архірэй так не жыў. Уявіце сабе, якая прыгажосць, дачушка пад свой густ шпалеры купляла, сама клеіла.

Л о с ь. Вось за гэта ёй падарунак. *(Дае залаты гадзіннік.)*

П а д г а й с к і *(радасна)*. Васіль Лявоныч, ад радасці язык у роце адубеў, не ведаю, як дзякаваць.

Л о с ь. Вы заслужылі на большае.

П а д г а й с к і. За вас, Васіль Лявоныч, жыццё аддам. Любы вы мне. Во!

Л о с ь. Дзякую за шчырасць.

П а д г а й с к і. Глянеш на вас — жыць хочацца, а глядзіш на гэтыя ватовыя камізэлькі — хоць у лес уцякай. Апаршывеў свет. Цьфу!

Л о с ь. А нам што?

П а д г а й с к і. І я кажу, каб толькі бог паслаў здароўя, а жыць мы будзем згодна. Вам і кароўку, пару свінячак. *(Шапнуў на вуха. Лось засмяяўся.)* А што, няпраўда, яны мне нічога не далі, хату збудаваў мне цар.

Л о с ь. Цыц!

Увайшла Д ы ч ы х а, П а д г а й с к і пайшоў.

Д ы ч ы х а. Васіль Лявоныч! На вытворчую нараду зараз паклічуць. *(Уздыхнула.)* Тэхніка Ражноўскага на неба садзяць, а на вас... Вось цяпер Ражноўскага рабо-

чыя як муху абляпілі і шу... шу... шу... Я, значыць, шусь ў гушчар — хацела вынюхаць, а мяне — набок. А ліха вашай мацеры! Хоць недачула, а пабягу скажу. Няхай мой дабрадзей ведае.

Л о с ь. Ды я ведаю.

Д ы ч ы х а. Я супроць бога не пайшла, а супроць тых, хто боскія законы крывіць, пайду. Не дачакаюць. Вас не пакрыўдзяць, вока боскае ўсюды. Я, Васіль Лявоныч, чую яшчэ добра, не злаўлю сёння — злаўлю заўтра, а вам прынясу ўсё.

Л о с ь. Ты, Дычыха, будзь асцярожнай, глядзі, як даведаюцца.

Д ы ч ы х а. Няхай брэшуць, на тое язык у роце. Васіль Лявонавіч, блізка да сэрца не бярыце, але ж і камень за пазухай трымайце. Абараняцца трэба. Цяпер на свеце гэтак, у адных язык, а ў другіх нож. Так што будзьце асцярожны — могуць раніць.

Л о с ь. А як партфель?

Д ы ч ы х а. А як загадалі, так і зрабіла, прынесла, палажыла, і ша...

Л о с ь. А яна не бачыла?

Д ы ч ы х а. Ніхто не бачыў.

Л о с ь. А цяпер схадзі да Крумкача і скажы, каб прыслаў да мяне Галузу.

Д ы ч ы х а. А хто гэта такі?

Л о с ь. Рабочы на заводзе, нядаўна прынялі. Будзеш памятаць? Галуза.

Д ы ч ы х а. Галуза, добра. *(Пайшла.)*

Уваходзіць К л а р а, нясе партфель. Клара, стоячы пры дзвярах, глядзіць на Лося.

Л о с ь. У чым справа?

К л а р а *(пасля паўзы)*. Скажы, Лось!

Л о с ь. Што сказаць?

К л а р а. Я шукаю пакет, шукаю — і няма.

Л о с ь. Які пакет?

К л а р а. Пакет, дзе пастановы, чарцяжы.

Л о с ь. Якія пастановы?

К л а р а. Ды гэта ўсё роўна, быў — і няма.

Л о с ь. У каго ж ён быў, чаму няма, выразней кажы.

К л а р а. Быў у партфелі, там пастановы, чарцяжы.

Л о с ь. Так чаго ж маркоціцца. Зняць копіі і адаслаць.

К л а р а. Копій не засталося.

Л о с ь. Вось гэта горш.

К л а р а. Я пападу пад суд.

Л о с ь. Заявіла?

К л а р а. Пакуль што не, але ж заяўлю.

Л о с ь. Так чаго ж ты хочаш ад мяне?

К л а р а. Яго трэба знайсці.

Л о с ь. Кажы дзе, а я дапамагу.

К л а р а. Яго ўкралі з мэтай.

Л о с ь. З якой?

К л а р а. Мэты дзве, альбо пасмяяцца нада мною, альбо з мэтай палітычнай.

Л о с ь. Ага, зразумеў, значыць, нейкая мэта, на твой погляд, падыходзіць да мяне.

К л а р а. Так.

Л о с ь. Каторая ж, дазвольце запытацца?

К л а р а. Другая.

Л о с ь. Тады дазвольце вам параіць звярнуцца ў крымінальны вышук, а тут вам нечага рабіць. Дайце мне працаваць.

Клара паглядзела моўчкі, пайшла.

Л о с ь. Папалася, сцерва!..

Уваходзіць Г а л у з а.

Г а л у з а. Я тут.

Л о с ь. Ці ведаеш ты, што зараз будзе вытворчая нарада?

Г а л у з а. Я нават ведаю, што на абвестцы дня.

Л о с ь. Галоўнае пытанне ўзнята будзе аб машынах і асабіста аба мне.

Г а л у з а. Ясна, навакол гэтага будуць круціцца.

Л о с ь. Лінія табе вядома?

Г а л у з а. А то як жа.

Л о с ь. Павёў Ражноўскі траўлю, ды якую, ты глянь! *(Дае ліст.)* Даносіць у рэдакцыю, што на заводзе непаладкі. Рэдакцыя прыслала ліст для выяўлення факта. Ліст пападаецца ў рукі мне.

Г а л у з а *(чытае)*. Што думаеш рабіць?

Л о с ь. Дзеля гэтага цябе паклікаў, падумай і скажы.

Г а л у з а. Я думаць многа не ўмею. Выношу пастанову — і ў расход. Б'юць нас — б'ём мы.

Л о с ь. Мне гэта падабаецца.

Г а л у з а. Я на варце. У любы момант.

Л о с ь. А як па-твойму, выправяць яны паломку прэса і дыскавай пілы?

Г а л у з а. Ражноўскі выправіць. Ганс дапаможа.

Л о с ь. Ганс?

Г а л у з а. Гэты — адданы слуга бальшавікам.

Л о с ь. Ён абяцае рабочым нашага завода камісарскія партфелі, калі будзе рэвалюцыя ў Германіі, а яны вераць.

Г а л у з а. Камісарамі яны не будуць, а на заводах падмятайламі будуць.

Л о с ь. Пры дапамозе Ганса завод ідзе на вялікую рэканструкцыю: я прыпадкам планы пераняў. *(Паказвае.)* Вось, бачыш,— чарцёж на пабудову велічэзных карпусоў: кузнечнага, такарнага цахоў. Праца Ганса, арыгіналы, арыгіналы і без копій.

Г а л у з а. Без копій, адкуль ты ведаеш?

Л о с ь. Ведаю.

Г а л у з а *(радасна)*. Без копій, гэта скарб, знаходка! Магу ўзяць на пару дзён? Я дакладна пакапаюся ў іх.

Л о с ь. Нашто яны табе?

Г а л у з а. А вось нашто. Я люблю страшна ўсё тое, што будуе бальшавік, нішчыць і радавацца дап'яна, калі яно рушыцца. Таксама люблю нішчыць іхнюю ідэю, калі яна ў зародышы. *(На планы.)* Гэта зародыш. Хадзем. *(Пайшлі.)*

Пераключаецца свет. Сход вытворчай нарады.

П а д г а й с к і *(хвалюючыся)*. Таварышы, я 10 год стаяў пры машыне, працаваў з асцярожкай, машына жыла, а ён — раз, раз і душу, як бачыце, дастаў.

Г у к. Так што ж, па-твойму, Абрам сумысля папсуў прэс?

П а д г а й с к і. Мы гэтага не ведаем, трэба дакапацца.

Л а д у ц ь к а. Правільна, мы толькі ведаем, што прэса няма.

3-ці р а б о ч ы. Таварышы, супроць Абрама паход, некаму хочацца аганьбіць чалавека.

Г а л а с ы. Ну, гэта не ўдасца. Абрама ведаем!

А б р а м. Таварыш старшыня, дазвольце. Я не хачу спыняць увагі на паасобныя заявы Падгайскага, Ладуцькі. Я ведаю, чаго ім трэба, аб іх пагаворым пасля. Я толькі хачу звярнуць увагу сходу на паводзіны грама-

дзянiна Лося. Вы добра, таварышы, абмяркуйце: рабочыя бяруцца прэс направiць,— Лось кажа — не направяць. Ражноўскi выступае на дапамогу,— Лось адсылае яго ў камандзiроўку. Як памятаю, гэты прэс, як толькi прыехаў з-за гранiцы, таксама не меў увагi ад Лося. Прывёз, паставiў на дварэ, доўга стаяў, пакуль рабочыя не прымусiлi замацаваць, тады Лось паставiў прэс на дрыгве, праз год ён абсеў. Паставiў другi раз — абсеў. Цяпер прэс зламаўся. Ад якiх прычын зрабiлася паломка, пакуль нам невядома, але ж парткiраўнiцтва даведаецца.

Л о с ь. Устаноўка прэса была няўдалая з прычыны вадзянiстай глебы. У гэтым не мая вiна. Ражноўскага я пасылаў у цэнтр не дзеля забавы, а дзеля таго, каб азнаёмiцца з такой самай машынай, а пасля ўзяцца за папраўку сваёй. Якiя могуць быць вывады?

А б р а м. Нашто было Ражноўскага пасылаць вучыцца, калi ў яго дастаткова ведаў, каб прэс направiць сiламi нашага завода? У гэтым ваша памылка.

Л о с ь. У гэтым напрамку я памылкi не зрабiў нiякай. Я iнжынер, бачыў за свой век не гэткiя машыны, i калi казаў, што нам машыну гэту не паправiць, то не памылiўся. *(Да Абрама.)* Вам, таварыш, трэба думаць, што казаць. Хто другi, можа б, яшчэ i мог казаць, што машыну паправiць, а вы... гэтага сказаць не можаце. Вас не так даўно перайменавалi з малатабойцаў у слесары.

А н д р э й. Грамадзянiн Лось, ну, добра, не паправiць машыну малатабоец, ну, а мацнейшыя сiлы, хiба ж iх няма ў нас? Вы ж гляньце, якая грамада.

Л о с ь. Ды справа не ў грамадзе, а ў тым, што прэс замежны, часткi паламалiся такiя, якiх нам тут не зрабiць. Трэба выпiсваць iх з-за гранiцы.

А б р а м. Таварыш Лось, у нас ёсць ударны маладняк, якi ўголас заявiў, што ўсе часткi ён зробiць сам. Вы аб гэтым ведаеце?

Л о с ь. Ведаю.

А б р а м. Але ж, мусiць, вы не верыце яму. Вам здаецца, усё гэта — пустая гутарка. Выбачайце, брыгады ў нас не выдумка, а факт. Вось яны кругом, як сцяна, глядзяць на вас i думаюць, якi вы малавер, трус i панiкёр.

Г а л а с ы. Ды годзе байкi баяць. Абыдземся i без яго. Ды што ён нам, падумаеш! Не той час цяпер!

5-ты р а б о ч ы. Брыгады, скажыце нам сваё слова.

1-я, 2-я, 3-я брыгады. Направім, направім, направім!

Падгайскі. Таварышы! Пачакайце! Усе вы крычыце, што свет перавернеце, мерцвяка на ногі паставіце, але ж, калі прыгледзецца да тых, хто крычыць, дык бачым: крычаць малатабойцы, змазчыкі, якраз тыя, якія ўчора парабіліся майстрамі. Таварышы, трэба ведаць вам, што крыкам машыну не падняць.

Галасы. Падгайскі языком Лося гаворыць! Сябры! Табе, Падгайскі, мала веры.

Падгайскі. Як гэта мала веры? Я майстра! Я ведаю механіку! Я з прэсам працаваў 10 год, а ты *(на Абрама)* папсуў у адзін дзень! Лось інжынер, і калі ён хоча клікнуць на дапамогу, то няхай кліча. *(Гоман.)*

Андрэй. Таварышы, чакайце, спрэчак не трэба. Выказвайцеся ўсе. Трэба ведаць настрой усіх. Таварыш Крумкач, ваша слова!

Крумкач. Калі б якая другая машына папсулася, я б сказаў, што мы направім яе самі, а тут, браткі, трэба прызнацца, што такую складаную механіку мы сёння не здолеем пазнаць. Справа за вамі, не хочаце клікаць дапамогу, давайце самі.

Андрэй. Хто яшчэ?

Галуза. Дазвольце мне. Я, таварышы, тут новы чалавек, у мяне многагадовая практыка. Я ўсё сваё жыццё матаўся па заводах і машыны правіў. Скажу праўду — не баюся і нямецкіх машын і хачу ўзяць на сябе смеласць, каб сказаць, што гэтую машыну мы направім самі. *(Гоман.)* *(Да Лося.)* Вы, таварыш Лось, мне даруйце, у вас мала веры ў моц нашага рабочага, а слухаючы вас, глупства пляце і Падгайскі; малатабойцы, змазчыкі; вы забыліся, таварыш Падгайскі, што такія малатабойцы, змазчыкі рэвалюцыю рабілі. *(Гоман.)* Тут на гэтым заводзе моцная сям'я. Згода. Пралетарскае чуццё. Ёсць, праўда, і хворасць, але ж яе трэба зліквідаваць, прыкласці ўсе сілы, каб завод расшырыць ушыркі і ўдоўж. Каб ён быў гордасць краіны нашай. *(Гоман.)* Так што, таварышы, брыгады ёсць, час добры, і я вам — на дапамогу. *(Гоман.)*

Чвыр. Мы, таварышы, не думаем іграць у прыгожыя словы. На заводзе былі раней выпадкі, калі выпускалі касілкі і жаткі без шасцяронак, цяпер гэтага не будзе.

Лось. Гэта быў адзін выпадак.

Галасы. Ды не адзін!

Чвыр. Вось чуеце, такія праступкі вымагаюць суровай кары.

Апанас. Браткі, я сорак год на заводзе дажываю, я вырас між станкоў. Стук кожнага станка я разумею, а ў іх у кожнага асаблівы стук, і вось калі яны не працуюць, мне здаецца, хмара нейкая вісіць над намі. На суд паклічуць нас. А ў першую чаргу мяне, старога рабочага,— робіцца гэткая вялікая справа. Увесь свет сочыць за намі, як мы будуемся. І няўжо ж здаваць тое, што за трынаццаць год мы здабылі. Не здамо! Ночы спаць не будзем — машыны пусцім.

Ражноўскі. Я ад імя нашых ударнікаў заяўляю: папсуты прэс пусцім, часткі з-за мяжы выпісваць не будзем, так што, таварышы Лось і Крумкач, прыйдзеце паглядзець, як мы будзем змагацца за наш аўтарытэт. А наш аўтарытэт — вялікі аўтарытэт. І яго не парушыць ніхто і ніколі.

Ганс. Я прашу слова. Той, хто сказал, што машыну не направіт сам — я маўчу. Можа быць, не направіт. То мы будзем іскаць другога майстра, здесь, у нас, у нашай сям'е, дзе малатабойцы, змазчыкі, дзе эці замазаныя рабочыя. І мы іх найдзём. Но тот, кто сказал, што выпісываць з Германіі — я не хачу. Не нужно этого делаль. Все нужно здесь делаль. Рукі рабочы есць рукі, крэпкій бальшой рукі. Эцімі рукамі рускій рабочый взяль фабрык, заводы, власць. Вы слушаль, комрад,— власць. Так зачэм снімаць шапку перад германскім буржуа, не надо, нікто не хочет і Ганс не хочет. Мы обойдземся без немецкі капітал. К чорту, сукіны дзецi, а еслі таварыш Лось не ідёт з вамі, Ганс пойдзёт з вамі. *(Воплескі.)* Брыгада. Арбайтэн. *(Закасаў рукі. Воплескі.)*

Верны *(стоячы ззаду)*. Таварышы, дазвольце мне. *(Цішыня.)* Я, таварышы, чую, як рабочыя жыццё гатовы аддаць за гэты завод, я баюся адкрыць рот, каб прасіць вас прыняць мяне на дапамогу. Мне сорам у вочы вам глядзець, я баюся пераступіць парог, мне няма месца ў вашай сям'і. Праз мяне на заводзе была вялікая бяда, я зрабіў мадэль, і нядобрую, судзіце мяне, але ж ведайце, братцы, што не хацеў я гэтага! Я стараўся, з апошніх сіл стараўся, я будаваў 13 год, як будуецца сёння ў нас усё.

Мігай. Чакай, Верны... маўчы, не кажы, ні слова не кажы, маўчы! Таварышы, дазвольце мне. Таварышы,

вось як можа цярпець бяду чалавек, не будучы вінаватым. Рабочы, які так аддана працаваў заўжды, зрабіў мадэль. Мадэль была добрая, усё ў парадку, а скалечыў яе... *(паўза)* я. Я па неасцярожнасці выпусціў яе з рук і выкрывіў бок. Мяне грызла сумненне, я хацеў пабегчы і прызнацца, каб пераняць бяду, не даць у адліўку, але ж я меў няшчасце параіцца з чалавекам, які мяне збіў з дарогі. Ён мяне не пусціў з тым, каб я не зрабіў своечасовую перасцярогу.

Г а л а с ы. Хто ён такі? Дзе ён?!

М і г а й. Ён тут.

А н д р э й *(падышоў да Мігая)*. Скажы, Мігай, хто?

М і г а й. Падгайскі.

А б р а м. Вось, таварышы, твар класавага ворага!

З а с л о н а

Пасяджэнне цэхпартбюро.
Тут А б р а м, Р э к у ц ь, Г у к, Л а д н ы.

А б р а м. Таварышы, я пачынаю ўсё больш упэўнівацца, што інжынер Лось асоба падазроная. Вы гляньце, якая дзейнасць яго на заводзе. Машына выбыла — ён спакойны. Машыну бярэмся правіць — ён усяк круціць, каб яе не правіць. Ражноўскага, які заявіў, што паломку з ударным маладняком выправіць, ён адсылае ў камандзіроўку. Ганса — не любіць. А вось паглядзім, каго ж ён любіць: кулака Падгайскага — любоўная справа з дачкой. Дружба з Крумкачом. Па маёй думцы, ён не наш.

Г у к. Бачыце, таварышы, да гэтай справы трэба падысці сур'ёзна. Трэба добра прыгледзецца. Сказаць не наш — лёгка, а ці сапраўды так? Мы ведаем: ён інжынер, значны спец, не заўжды бачылі адмоўныя бакі, былі і дадатныя. Скажаш — ён шкоднік, а дзе ж падставы? Апірацца на тое, што ён не дружыць з Гансам — нельга. Тут справа ў канкурэнцыі. Ганса любяць рабочыя, бо Ганс больш рухавы, добра гаворыць, прытым — замежнік, кожны з нас любіць чужое, сваё не смачна. Так што, разглядаючы асобу Лося, я баюся, каб нас пасля не абвінавацілі ў спецаедстве.

Р э к у ц ь. Ты казаў — Ганс многа гаворыць, за гэта яго любяць, а хіба ж ён мала робіць? Ты ж глянь, як гэты чалавек дрыжыць за нашу будоўлю, за наш рост.

Г у к. А не было такіх здарэнняў, калі Лось таксама за справу падыхаў? Хто прывозіў машыны з-за граніцы? Лось. Хто ставіў іх? Лось. А цяпер узяў гэтыя машыны і паламаў? Добра падумайце.

Л а д н ы *(да Гука)*. Тады як, па-твойму, чаму ён раней больш быў актыўным, а цяпер наадварот?

Г у к. На мой погляд, яго затукалі. Усе крычаць: Ганс, Ганс, немца на покуць!.. Ну, а ён не сляпы — бачыць... і пахінуўся набок.

А б р а м. Гук, ты мыляешся.

Г у к. Ніколькі. Калі б ён быў вораг, ён бы завод пакінуў, як паднялі пытанне з завода яго зняць, а так, бачыце, чалавек застаўся, асадзілі на ніз — сядзіць.

Л а д н ы. Гэта яшчэ не довад.

Г у к. Вы бачылі: заўком і другія, як загаварыў рабочы, каб з завода пайшлі,— адразу пайшлі.

А б р а м. Што ж ты гэтым хочаш сказаць?

Г у к. А тое, што для іх завод быў нішто — дым, а Лосю мажліва не, чалавек хоць з паніжэннем, але ж застаўся.

Р э к у ц ь. А калі з мэтай?

А б р а м. Во!

Г у к. Не ведаю.

Л а д н ы. Таварыш Гук развsituations па евангеллю; калі Лосю далі па шчацэ — ён падставіў другую, мы гэтак не разважаем.

Г у к. Ну, і гэтак нельга, біць без падстаў!

А б р а м. Падставы ёсць. Мы іх бачым, яны відавочны ўсім. Не бачыць гэтага таварыш Гук, а чаму ён не бачыць, я не ведаю, пэўна, ад таго, што да гэтага часу таварыш Гук не набыў пралетарскай пільнасці і чуласці... Я сёння цэхавай ячэйцы заяўляю, што Лось-інжынер — не наш чалавек, за ім трэба сачыць і як хутчэй з завода зняць, заўтра я сваю думку выкажу парткалектыву. Таварышы, так?!

У с е *(апрача Гука)*. Так!

Г у к. А я застаюся пры сваім... не распыляць спецаў, бо ў нас іх мала ёсць.

З а с л о н а

## АКТ ТРЭЦІ

Кватэра Замоцкага. На сцэне Ліпа, уваходзіць Лось.

Лось *(нездаволена)*. Ты адна?

Ліпа. Адна. Замоцкі спіць.

Лось *(пахадзіў па хаце, дастаў ліст, кінуў Ліпе)*. Што гэта за новы спосаб пасылкі лістоў, няўжо ты не можаш тое, што думаеш, сказаць у вочы.

Ліпа. Не магу, бо ты чурацца мяне стаў. А я люблю цябе!

Лось. Мне цяпер не да кахання!

Ліпа. Тады нашто жывеш са мной і абяцаеш правы жонкі?

Лось. Жонкай ты маёй будзеш, я табе не здраджу.

Ліпа. Даўно я гэта чую і веру страціла.

Лось. Я застануся пры табе, бо мы звязаны не толькі сэрцам.

Ліпа. Вось гэтага я і хачу. Бо ведаю добра — дні радасці ці будуць, а падвал і куля — будуць.

Лось. Аб гэтым ні слова.

Ліпа. Я жыць хачу, я шукаю шчасця!

Лось. Разглядаючы твае погляды да шчасця, можна думаць, што яны далей мяккай цёплай пасцелі не ідуць.

Ліпа. Трэба і гэта.

Лось. Гэта трэба менш за ўсё. Наша шчасце залежыць ад змогі над бальшавікамі. І дзеля гэтага не ганяйся за хлопцам, а — за мэтай. А мэта наша тут, на Беларусі, і па ўсіх абшарах Савецкага Саюза, а цэнтр — заграніца.

Ліпа. Нас мала.

Лось. Нас многа.

Ліпа. У нас адсутнічае планавасць.

Лось. Планавасць на першым месцы!

Ліпа. Нас абкружаюць партыйныя сілы.

Лось. А да нас прыбываюць нашыя сілы. Бачыла навічка?

Ліпа. Нікога я не бачыла.

Лось. Я табе яго пакажу. *(Адчыніў дзверы)*. Ану, заходзь!

Увайшоў Галуза.

Лось. Пазнаёмцеся. Ліпа — работніца завода —

наша... А гэта Галуза. Прызначаны на завод. Скажы Замоцкаму, што мы былі, жыць будзе тут. Зразумела?

Л і п а. Не зусім.

Л о с ь. Пасля зразумееш. Хадзем. *(Пайшлі.)*

Л і п а. Лось, на хвіліначку. Ты што, здурэў?!

Л о с ь. У чым справа?

Л і п а. Як можна верыць, ты ведаеш яго?

Л о с ь. Як сваіх пяць пальцаў.

Л і п а. Ой, глядзі!

Л о с ь. Не сумнявайся, Ліпа. *(Пайшоў.)*

З бакоўкі выйшаў З а м о ц к і.

З а м о ц к і *(устрывожаны)*. Хто быў?

Л і п а. Лось і яго знаёмы.

З а м о ц к і. Хто ён такі?

Л і п а. Нейкі новы на завод.

З а м о ц к і. Ізноў новы? Што гэта, нарэшце, робіцца? Новы, новы, новы... нейкі! Ноеў каўчэг!

Л і п а. А што вас палохае?

З а м о ц к і. Усё: змена дырэктара, прызначэнне другога.

Л і п а. А вы бачылі новага дырэктара?

З а м о ц к і. Не бачыў.

Л і п а. Так вось, раней пабачце.

З а м о ц к і. А ты ж бачыла?

Л і п а. Вось гэтак.

З а м о ц к і. Усё роўна палохаюся.

Л і п а. Знайшлі каго палохацца, каравы рабочы з лікбезаўскай асветай.

З а м о ц к і. Усе яны з лікбеза, але ж 13 год увесь свет трасуць. А новы заўком, а новы сакратар партячэйкі, што гэта — хаханькі? Налёт гэтых каравенькіх не так сабе.

Л і п а. А гэты гліняны балван!

З а м о ц к і. Хто ведае?

Л і п а. Я ведаю. Ды што вы, нарэшце, заблудзіліся ў трох саснах, яго прывёў Лось.

З а м о ц к і. Ах, так!

Л і п а. Так, дзеля гэтага палохацца нечага, адно слова Лося «наш» зразумела.

З а м о ц к і *(радасна)*. Ён так сказаў?

Л і п а. Ён так сказаў.

З а м о ц к і. Ну, тады справа ясней.

Л і п а. Прыйдзецца аддаць яму пакой,

З а м о ц к і. Як, жыць будзе тут?

Л і п а. Гэта Лося загад.

З а м о ц к і. Ну, гэта добра. Значыць, кватарант у нас ёсць *(спахваціўся)*, але ж як жа будзе з гэтым новым? *(Дастаў ліст.)*

Л і п а. А што?

З а м о ц к і. Вось піша мой знаёмы і просіць даць прытулак нейкаму...

Л і п а. А хто ён будзе?

З а м о ц к і. Не ведаю, таксама новы і пэўна ж едзе на завод.

Л і п а. Няхай лепш будзе той.

З а м о ц к і. Я той думкі— не трэба, а то пусцім якога камуніста, як блыха, пачне юліць, вынюхваць.

Л і п а. Ой, які ж вы трус!

З а м о ц к і *(дражнячы)*. Трус, трус, гляджу я на цябе і думаю, якая ты авечка, у цябе што ні асоба — цацка, ідэал. Памыляешся, родная, памыляешся, не шукай ідэалаў — іх нідзе няма. Ты ведаеш, як сёння выглядае справа? Тое, што ты думала, тое, што ты ела, хто ці ведае, а ГПУ ведае.

Л і п а. Не, гэта байкі.

З а м о ц к і. Так, так, галубачка, ведае.

Л і п а. Калі б яны так ведалі, то і мы з вамі не былі б, а так, бачыце, служым — верацъ. Пісалі анкеты: хто бацька — не ведаю, дзе гадавалася — не ведаю,— падкапайся.

З а м о ц к і. Усё гэта добра, не злавілі сёння — зловяць заўтра.

Л і п а. Бацька з магілы не скажа, я нідзе хваліцца не буду, што быў ён начальнік турмы. 13 год прайшло.

З а м о ц к і. 13 год тэрмін вялікі, але нібы ўчора ўсё было. Жудасны ўспамін, бойня за астрог, вызваленне рэвалюцыянераў. Гэта, разумееш, кашмарны страх. Людзі падалі, як мухі. Былі 2 лагеры: лагер наш — за трон, лагер іх... *(упаўшым тонам)* нас перамаглі. Адзін вядомы рэвалюцыянер, я б сказаў асілак, на маіх вачах забіў адразу трох. Тваіго бацьку ён таксама ўкакошыў.

Л і п а. І вы бачылі?

З а м о ц к і. Бачыў, бацька твой герой, змагаўся да апошняга, баяўся здрадзіць царскую прысягу — загінуў, і як загінуў!.. Бандыт забіў, а раз'юшаная грамада рэвалюцыянераў разарвала труп на кавалкі. *(Паўза.)*

Л і п а. Хто яго забіў?

З а м о ц к і. Страшны, чорны, як цыган, вядомы рэвалюцыянер Чвыр.

Л і п а. Хто?..

З а м о ц к і. Чвыр. *(Чуцен стук у дзвярах.)*

А б о е. Хто гэта?

З а м о ц к і. Прашу. *(Ліпа адвярнулася да акна.)*

Уваходзіць Ч в ы р.

Ч в ы р. Добры дзень. Скажыце, вы Замоцкі? *(Адказ.)* Вы служыце тут на заводзе? *(Адказ.)* Ад'язджаючы сюды, мой знаёмы абяцаў мне, што ў вас будзе пакойчык для мяне, даў мне адрас, я прыйшоў.

З а м о ц к і. Так, аб гэтым я ведаю, ён і мне пісаў, але ж, на вялікі жаль, гэты пакойчык заняты. З ахотай, ды не магу.

Ч в ы р. Тады выбачайце.

З а м о ц к і. А вы што ж, служыць на завод прыехалі?

Ч в ы р. Працаваць.

З а м о ц к і. А... вось дзеля чаго вам шукаць патрэбна дах над галавой... Разумею. Рабочыя часценька кватэр шукаюць — кватэрны крызіс.

Чвыр адыходзіць.

З а м о ц к і. Выбачайце, можа, я для вас дзе ў другім месцы падшукаю.

Ч в ы р. Не трэба, я ўжо сам.

З а м о ц к і. Яшчэ адно пытанне, як ваша прозвішча?

Ч в ы р. Андрэй Чвыр.

Ліпа адразу павярнулася.

Ч в ы р *(глядзіць на Ліпу)*. Няўжо маё прозвішча так перапалохала вас?

Л і п а. Нічога, вельмі цікавае прозвішча.

З а м о ц к і. Ах, цяпер я і ўспомніў вас, 1917 год — дні рэвалюцыі. Гэта ж вы той самы герой, калі бралі астрог, ад вашай рукі лёг пристаў і спраўнік. Сам бачыў.

Ч в ы р. Ад прысуду рэвалюцыі валіліся не толькі приставы ды спраўнікі. Кароль Людовік XVI галаву сваю злажыў, на то і рэвалюцыя.

З а м о ц к і. Самы жахлівы ўспамін, калі ў вас страляў начальнік астрога.

Ч в ы р. Страляў, ды прамахнуўся.

З а м о ц к і. Затое вы не прамахнуліся. Смерць на

месцы, як перад вачыма ўсё стаіць, браўнінг застыў у вашай акамянеўшай руцэ, кроў... трупы *(уздрыгнуў)*. У вас быў тады белы браўнінг.

Ч в ы р *(дастаў рэвальвер)*. Вось гэты.

З а м о ц к і. Той самы, пазнаю.

Л і п а. Дазвольце глянуць мне.

Ч в ы р. Ды нецікава. *(Схаваў.)*

Л і п а. Гледзячы каму, мне цікава. *(Выйшла ў бакоўку.)*

Ч в ы р. Гэта ваша дачка?

З а м о ц к і. Ды не, так, спартсменка, вялікая ахвотніца стральбы. Яна любіць вайну, герояў, досыць ёй пачуць аб гэтым — яна бяжыць, хапае стрэльбу і пайшла.

Ч в ы р. Бывайце.

З а м о ц к і. Шчасліва, вельмі рад, што бачыў вас, а яшчэ больш радуюся, што такі чалавек будзе ў нас на заводзе. *(Чвыр пайшоў.)* *(Глядзіць на ліст.)* Ах ты, сукін сын, каго ж ты прэш, каб табе духі выперла! Гэтага бандыта, забойцу. Кватэру яму дай, хоча ў мяне жыць, будзе са мной разам есці, спаць, будзе падаваць мне руку. О, не! Я забойцам рукі не падаю. Ліпа, выйдзі.

Л і п а выйшла.

З а м о ц к і. Чула?

Л і п а. Чула.

З а м о ц к і. Што рабіць?

Л і п а. Я не ведаю. Не магу прыйсці да памяці. Мала таго, што я пазнала свайго ворага, бачыла яго перад сабой,— бачыла той рэвальвер, якім забіў майго бацьку.

З а м о ц к і. Такія каралям секлі чарапы, а твой бацька — дробязь.

Л і п а. Выбачайце, для мяне не дробязь.

З а м о ц к і. Бяжы па Лося. *(Паўза.)* Чуеш, што кажу, бяжы па Лося!

Л і п а. Сэрца баліць, трасуцца рукі.

З а м о ц к і *(грозна)*. Бяжы па Лося!

Ліпа схапіла са стала нож.

З а м о ц к і. Гэта што?

Ліпа нож палажыла.

Л і п а. Што казаць Лосю?

З а м о ц к і. Каб зараз жа прыйшоў. *(Ліпа пайшла.)* Эх ты, жыццё маё шалёнае!

Уваходзіць П а д г а й с к і.

Падгайскі. Добра, што цябе застаў. Здароў. Ты што ж адзін? А гэта ж сею-вею дзе?

Замоцкі. Зараз прыйдзе, а нашто яна табе?

Падгайскі. Біць трэба, біць. У чужую кішэню залазіць пачала.

Замоцкі. Ну, што ж ты, кум, як можна, яна сумленная дзяўчына.

Падгайскі. Усе яны сумленныя. Толькі дрэнна пакладзі — сцягнуць.

Замоцкі. Не разумею, няўжо ў цябе што ўзяла?

Падгайскі. Не ў мяне, а ў дачкі... але ж глупства — пачакаю. Прыйдзе — пагаворым. *(Паўза.)* Во, брат, не шанцуе дык не шанцуе... Мяне з пасады гоняць і брата выслалі ўчора.

Замоцкі. А я ж табе казаў, што гэта будзе.

Падгайскі. Казаў, казаў...

Замоцкі. Сам вінен, даў волю языку.

Падгайскі. Што даў, як даў?

Замоцкі. А то, што завельмі смела гаварыў, сёння думай колькі хочаш, а на вуліцу — маўчы, засохні.

Падгайскі. Як было маўчаць, жывы ён чалавек?

Замоцкі. А як жа ты хацеў, каб яны цярпелі? Прыйшоў на сход у сельсавет, галаву паклаў на стол і кажа: «Рэжце галаву — у калгас не іду», а на яго гледзячы — усе,— калгаса і няма.

Падгайскі. А што было рабіць?

Замоцкі. У калгас ісці. Маўчаць і працаваць.

Падгайскі *(глядзіць яму ў вочы)*. Ты што — здурэў, што кажаш?!

Замоцкі. Кажу табе, скажы гэта ўсім: калгаса не пужайся, калгас будуй, калгас патрэбен нам.

Падгайскі. Каму нам, я недачуў? Скажы яшчэ раз.

Замоцкі. Усім савецкім грамадзянам, і табе, і мне.

Падгайскі. Мне?.. Мне калгас не трэба.

Замоцкі. А мне трэба?

Падгайскі. Кум, пакінь кулі заліваць, я ведаю, чым ты дыхаеш.

Замоцкі. Я кажу тое, што думаю.

Падгайскі *(набок)*. Каб ты тое з'еў!

Замоцкі. Сёння трэба цалкам афяраваць сябе на службу будаўніцтву.

Падгайскі. Ой, ой, не вытрымаю, звар'яцею, што

ён чаўпе?!. Слухай, Замоцкі, ці не запісаўся ты ў камсамол?

Замоцкі. Мяне ў камсамол не прымаюць.

Падгайскі. О! Нарэшце такі прызнаўся. Не прымуць і нават блізка не падпусцяць. Я задаволен.

Замоцкі. Ну, калі задаволен — пакінь сварыцца. Скажы, як гаспадарка брата?

Падгайскі. Разадралі на шматкі, і не агледзеўся. Я было хацеў кароўеньку вырваць — дзе бачылі...

Замоцкі. У цябе ж карова ёсць.

Падгайскі *(злосна)*. Што ёсць, дзе ёсць! Гэта не карова, а каза, мне патрэбна карова, малочная карова — во!.. Я чалавеку абяцаў і карову, і малако, а тут ні каровы, ні малака.

Замоцкі. Каму ж ты абяцаў?

Падгайскі *(злосна)*. Каму, каму,— не блазнюку, а чалавеку паважнаму.

Замоцкі. А... здагадаўся.

Уваходзіць Ліпа.

Ліпа. А... каго бачу?.. Дзядзька Падгайскі, пэўна, заблудзілі да нас.

Падгайскі. Па справе да цябе прыйшоў.

Ліпа. Сядайце, пагаворым.

Падгайскі. Дзякую, сядзеў. *(Паўза.)* Нядобра, Ліпачка, нядобра. Злога мы табе нічога не зрабілі, а ты нам палкі ў калёсы ставіш.

Ліпа. Якія палкі, у чым справа?

Падгайскі. На паляванне ходзіш у чужы лес, чужога звера хочаш біць.

Ліпа. Якога звера?

Падгайскі. Лося.

Ліпа. Лося... а... ведаю такога.

Падгайскі. Так вось, калі ведаеш, то не ганяйся за ім, ён не твой.

Ліпа. І не ваш.

Падгайскі. Будзе наш.

Ліпа. Ну, калі тое будзе, тады і пагаворым.

Падгайскі. Няма мне аб чым з табой гаварыць, павінна сама ведаць, што ты яму не пара. Голая костка!

Ліпа. Не многа мяса і на вашых касцях.

Падгайскі. Але ж ёсць.

Ліпа. Ненадоўга, раз-два — і абрэжуць.

Падгайскі *(глядзіць)*. Абрэжуць? Не дачакаюць,

а табе на язык скулу. *(Да Замоцкага)*. Дзядулька, ты хітры, як пацук, але ж і я не дурань. *(Пайшоў.)*

Замоцкі. Стары, а дурны, не можа толкам растлумачыць, чаго хоча, а ўсё здалёк заходзіць.

Ліпа. Хоча Лося за зяця мець.

Замоцкі. Не падабаецца мне гэта сувязь.

Ліпа. Непадыходзячая кампанія.

Замоцкі. Вось дзеля чаго я асцярожны з ім.

Ліпа. А ён злуе, на сцяну лезе.

Замоцкі. Ты бачыла Лося?

Ліпа. Зараз ідзе сюды.

Замоцкі. Давяла яму?

Ліпа. Давяла.

Уваходзіць Лось.

Замоцкі. Чуў? *(Хвалюючыся.)*

Лось. Чуў.

Замоцкі. Так вось, браце, ты прывёз на завод аднаго бандыта, а я пазнаў другога. Казала табе Ліпа?

Лось. Казала.

Замоцкі. Ну! *(У роспачы.)* Што рабіць?

Лось. Без панікі, без панікі. Вытрымка і развага.

Замоцкі. Во, чулі?

Ліпа. Ды якая чорта развага, калі ён забіў майго бацьку!

Лось. Ведаю... Так што ж ты хочаш?

Ліпа. А я хачу забіць яго.

Лось. Час нам пакажа ўсё, а пакуль вытрымка і развага.

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Завод. 1-я брыгада за напраўкай дыскавай пілы. Тут працуюць рабочыя 3-ці і 6-ты. Галуза. Гук.

Гук. Чакай, братва, чакай! Не можна так падшыпнік ставіць. Прышабрыў слаба. *(Да Галузы.)* Вазьмі, браток, падшыпнік, добра пагладзь яго.

3-ці рабочы. Але ж і вока ў яго. Заўважыў.

Гук. Паматайся столькі, колькі я, і ты будзеш такі.

Ты ведаеш, я пачынаў вось з гэткага. 13 год было — к ціскам паставілі.

3 - ц і   р а б о ч ы. Дай шпільку. Гані яе сюды.

Г а л у з а. Так, яна тут на гэтым месцы. Дзе ключ? Давай закруцім. Вось так.

6 - т ы   р а б о ч ы *(да Галузы)*. І не так, Галуза, куды ж ты ставіш болт, яго ж адразу вырве, і піла зноў набок.

Г а л у з а. А ліха яго матцы — недагледзеў.

6 - т ы   р а б о ч ы. Табе здаецца, піла — гэта жонка, з якога боку ні ўзяў, усё маўчыць.

Г а л у з а. А якая розніца між імі? Тая пілiць, і гэтая пілiць. *(Смех.)*

3 - ц і   р а б о ч ы. Ну, розніца нябось ёсць, гэта пілiць і маўчыць, а тая пілiць ды крычыць. *(Смех.)*

Г а л у з а. Ці ж толькі крычыць, але ж бывае, што і зубатычыну дасць.

У с е. Бывае! *(Смех.)*

6 - т ы   р а б о ч ы. Прызнайся, Галуза, ад шчырага сэрца.

Г а л у з а. Ды я кажу праўду. Часамі так замосціць, куды там! *(Смех.)* У яе, брат, рука во, калі дзвіне! *(Смех.)*

Г у к. Ну, браткі, жаніцца век не буду!

6 - т ы   р а б о ч ы. А жаліцца не прабаваў?

Г а л у з а. Ды дзе там, у жанаддзел не пойдзеш — бабы не павераць.

3 - ц і   р а б о ч ы. Значыць, аплявуху дасць — і носіш на здароўе.

Г а л у з а. А як іначай? Дасць, і нашу. *(Смех.)*

Г у к. Адкуль ты выкапаў такую бабу?

Г а л у з а. Адкуль? Знайшоў!

6 - т ы   р а б о ч ы. Патраціў многа часу?

Г а л у з а. Гадоў з пяць шукаў. *(Смех.)*

3 - ц і   р а б о ч ы. Выбраў, значыць, з гурту — курту.

6 - т ы   р а б о ч ы. Замарыў ты нас, а няхай цябе!

Г а л у з а. Хлопцы, а як у нас шкіф, у парадку? *(Адказ.)* А пас? *(Адказ.)* Цяпер вал падстасаваць, і ўсё.

6 - т ы   р а б о ч ы. Чакаем Ганса, зараз прынясе.

Ідзе П а д г а й с к і.

Г у к. Таварышы, бачыце, хто да нас ідзе?

3 - ц і   р а б о ч ы. На такога звера і глядзець не варта.

6-ты рабочы. Нябось здаваць прыйшоў струмант.

Падгайскі. Добры дзень, таварышы. *(Усе маўчаць.)* Што ж гэта ніхто не хоча прывітацца?

3-ці рабочы. Ніхто. Ты паступіў, як шкоднік. Праз цябе цярпеў мадэльшчык Верны і дзяржава мела страту.

Падгайскі. Братцы, гэтак не было!

3-ці рабочы. А як было?

Падгайскі. Ён набрахаў, яму паверылі.

Гук. Ён сказаў праўду, яму і паверылі, а цябе вон, каб духу не было.

Падгайскі. Браточкі, непавінна судзіце мяне,— справу пераглядзяць і ізноў паставяць на завод.

Гук. Можаш быць пэўны, што і блізка да завода не надпусцім.

Падгайскі. Так няўжо ж я страціў свае права?

3-ці рабочы. А ўжо ж!

Гук. Ты ведаеш, што сёння значыць сапраўдны рабочы? *(Паўза.)* Сапраўдны рабочы — адказны будаўнік нашай будоўлі, і калі ён страціў свае імя, ён памёр пазорлівай смерцю.

Падгайскі. Чаго ж ад мяне хацелі? Я працаваў 13 год, лічыўся не апошнім, і раптам — вораг. Незаслужана абняславілі. А што я меў... Кавалак чорнага хлеба, і больш нічога. Я з васемнаццатага года ні разу добра не наеўся. *(Смех.)* Так, так, не наеўся!

6-ты рабочы. Чым жа цябе накарміць, каб ты паразумнеў?

Падгайскі. Жартуйце колькі хочаце, але ж яно так.

6-ты рабочы. Хто б жаліўся, ды не ты. Хату маеш, карову, свіней, жонка, во!.. Дачка-паненка ў хаце сядзіць, не ідзе на вытворчасць, нядрэнна жывеш.

Падгайскі. Здаецца так.

6-ты рабочы. Мала спачуваеш нашаму строю, на пазыку злыбеду падпісаў.

Падгайскі. Выбачайце, таварыш, я хоць злыбеду ды падпісаў, а вы нябось зусім нічога.

Галуза. Выбачайце, таварыш, я 500 рублёў падпісаў.

Падгайскі здзіўлена глядзіць.

Усе. Так, так, падпісаў!

Падгайскі. Дзіўна, толькі застаўся, ужо і падпісаў.

3-ці рабочы. Толькі застаўся і падпісаў.

Гук. За гэта мы яго адзначым: у газеце надрукуем і партрэт пакажам.

Галуза. Ну, гэтага не рабіце, не люблю я пагалоскі. Нашто шум, нашто партрэт?

3-ці рабочы *(да Падгайскага)*. Во, палюбуйся, чалавек зрабіў добрую справу, а не хоча пагалоскі. А ты лыч наеў і крычыш — з васемнаццатага года галадаю! Савет не накарміў, царом сыт быў.

Гук. І так, грамадзянін Падгайскі, можаце ісці. Проста за вароты і налева.

Падгайскі. Воля ваша, братцы. *(Пайшоў.)*

3-ці рабочы. Ці варта гутарыць з гэткай паскудай?

6-ты рабочы. Часамі трэба. Ведаць хочацца, чым дыхае гэткая змяя.

Галуза. Ды кіньце аб ім.

Падышла Рэкуць.

Рэкуць. Таварышы, як у вас?

Гук. Мы гатовы, затрымка за вамі.

Рэкуць. Я прыбегла папярэдзіць. Такарны цэх заданне выканаў, інжынер Ганс зараз прыйдзе.

Галуза. Ну, і малайцы токары!.. Рэкуць, падзякуй ім ад нас.

Рэкуць. Наш цэх падзяк не любіць. Падзяка будзе тады, калі завод аздаравіцца.

3-ці рабочы. Пачынаем правіцца.

Рэкуць. Адчуваем, братцы!

6-ты рабочы. Пошасць выкідаем вон.

Гук *(паказвае ўдаль)*. Бачыла, пайшоў.

Рэкуць. І глядзець нават не хацела.

3-ці рабочы. Расплакаўся. Не вінен, кажа... абняславілі.

Рэкуць. Такому верыць? Вон гнаць, каб духу не было!

Галуза. Ну, і бой дзяўчына. Шкода, раней не ведаў... во жонка некаму.

6-ты рабочы. А што ж, каб гэткую табе.

Галуза. Мне?

Рэкуць. Узяў бы?

Галуза *(уздыхнуў)*. Позна. Ёсць ужо піла. *(Смех.)*

Падышоў Ладны.

Л а д н ы. Таварышы, як справа падаецца?

Г а л у з а. Без малага канец.

3-ц і  р а б о ч ы. Скончым зборку, паставім вал, і кропка.

6-т ы  р а б о ч ы. Здаецца, абагналі вас?

Л а д н ы. Наш рамонт скончан будзе заўтра.

Р э к у ц ь. І як? Удаецца?

Л а д н ы. А як іначай? Праз тры дні ўсе папсутыя машыны залічым на вытворчасць.

3-ц і  р а б о ч ы. Во як у нас...

Р э к у ц ь. Ладны, а наш завод ужо не той. Змагаецца... жыве...

Л а д н ы. Так быць павінна, раней прашляпіла ячэйка — завод адстаў, машыны пахварэлі, Падгайскія трымалі вуха востра, а цяпер парткіраўніцтва, во... *(Да Галузы, які працуе.)* Ну, як, таварыш Галуза?

Г а л у з а. Справа падыходзіць пад канец.

Л а д н ы. Глядзіце добра, не так паставіце пілу — зноў катастрофа.

Г а л у з а. Гляджу, гляджу.

Л а д н ы. Рэкуць, пайшлі!

Р э к у ц ь. Хадзем. *(Пайшлі.)*

3-ц і  р а б о ч ы. Нешта замарудзіў наш ударнік.

Г у к. А можа, пабегчы падагнаць?

6-т ы  р а б о ч ы. Што ты, ён у такарнай точыць вал.

Г у к. Вось як у нас, сам дырэктар точыць вал.

6-т ы  р а б о ч ы. Ды гэта не дырэктар, а правадыр — рука.

3-ц і  р а б о ч ы. Важак.

Г у к. З такім можна свет заваяваць.

6-т ы  р а б о ч ы. Ды ён у нас ваяка, сібірскі партызан.

3-ц і  р а б о ч ы. Калчака біў.

Г а л у з а *(супыніўся.)* Якога Калчака?

6-т ы  р а б о ч ы. Ды таго самага, а ты што — другога знаеш Калчака?

Прыйшоў А н д р э й, прынёс вал.

А н д р э й. А хто тут пра Калчака ўспамінае?

6-т ы  р а б о ч ы. Ды вось Галуза кажа — з Калчаком у Сібіры кумаваў.

А н д р э й. Праўду кажа ці жартуе?

6-т ы  р а б о ч ы. Ды не... гэтага барбоса не прыйшлося бачыць.

Андрэй. А мы білі, я хоць і малы разведчык быў, а многа бачыў. Памятаю бой за іх бронецягнік, страх, раскалашмацілі ўсіх — і наша была бронь.

Усе. Узялі?

Андрэй. Узялі...

Прыйшоў Ганс.

Ганс. Камрад, мы тут арбэйт цузамен. Э, чорт возьмі! Хорош рабочы... знайт, многа знайт...

Андрэй. І так, таварышы, брыгада выканала заданне раней тэрміну. Бачыце, замест 10 гадзін працы выканалі за 5.

Усе. Вось гэта малайцы!

Ганс. А наша ўдарная брыгада арбэйт самы ответственны механізма не за 10, а за 3 ур.

Андрэй. Так што вы абагналі нас.

Ганс. Я. Брыгада брыгаду абагналь. А немец русішэ рабочы не абгоніць. Это невозможно.

Гук. Пабег рускі мядзведзь, га!

Ганс. Да, пабежаль. Как молнія, как гроза *(паказвае рукамі)* бежыт, бежыт, бежыт 13 лет бежыт, гоніт, догоніт і перегоніт!

Андрэй. Ну, давайце, хлопцы, замацуем вал.

Гук. Машыну пусцім.

Ганс. Какой дурак сказаль, што не пусцім?

Гук. Лось казаў.

Ганс. Лось. Пусць Лось прыдзёт і посмотріт, ему будет стыдно.

Андрэй. Закладывай сюды. Раўней, раўней!

4-ты рабочы. Стаў падшыпнік.

Андрэй. Лоўка, як тут быў.

Галасы. Дай ключ, завінчвай мацней, наглуха, назаўсёды. Маслёнку дай.

Андрэй. Уключай матор.

Ганс. Стой! Стой, таварыш! Падаждіт... падаждіт... ай... ай... как же так, адна мінут — і тут быль бы большой несчастье.

Усе. Што здарылася?

Ганс. Тут большой ошібка. Вы відаль *(даводзіць прычыну)*, адзін абарот — і піля разляцель у кускі, і было б большой несчастье — большіе раны.

Андрэй. Таварышы, як жа гэта вы?

3-ці рабочы. Таварыш Галуза, вы што, аслеплі?

Галуза. Якраз гэта не я, а памылка ваша, я шабрыў падшыпнік.

Ганс. Тут, камрад, ошібка всех... надо больше гляз, больше уха, больше жізні, машін любіт гляз. (*Выпраўляе.*)

Андрэй задумаўся.

Ганс. Ну, вот і ўсё... цяпер дадзім ёй жызнь. (*Уключае матор. Машына працуе.*) Вот, камрад, машын жывёт.

Гук (*да Андрэя*). Руку, таварыш дырэктар.

Усе падхапілі Андрэя на «ўра», пачалі крычаць. Ганс хацеў уцячы, злавілі, на «ўра» яго.

Ганс. А цяпер завіце ка мне Лося, я яму собственной рукой усыплю фюнф унд цванціг шмітц.

Заслона

2-я брыгада працуе над прэсам тут: рабочы Абрам, рабочыя 4-ты, 5-ты, Чвыр, Апанас і Ліпа, Ражноўскі.

Абрам. Братва, а прэс мы адратуем!

4-ты рабочы. І без Германіі абыдземся, саматугам.

Абрам. І зашуміць жа ён, зашуміць, машын калгасу шмат дамо.

5-ты рабочы. Табе суджана на ім і працаваць.

Абрам. Буду.

5-ты рабочы. Ражноўскі, адгукніся.

Абрам. Ён ужо, бядак, аглух, і днюе і начуе.

Ражноўскі. Хто мяне там ліхам памінае?

Ліпа. Ды якім ліхам, добрым словам!

Ражноўскі. Не трэба, не хачу.

4-ты рабочы. Мала ты чаго не хочаш.

Ражноўскі. Нам не да салодкіх слоў.

Чвыр. Правільна, бой ідзе, а ў баі людзям не соладка.

Ліпа. А перакусіць, таварышы, патрэбна, галодныя амаль усе. Таварыш Чвыр, ваша слова і загад.

Чвыр. Мы залежам ад Ражноўскага, пытайся ў яго.

Ліпа. Вось гэта мне падабаецца, учора Ражноўскі залежаў ад Чвыра, а сёння — наадварот.

Абрам. Такі зварот справы можа быць у Савецкай краіне, калі пагроза ёсць — усе цягнуць гуж.

Ч в ы р. Класавае пачуццё. Дзе прарыў, туды сіла і напруга.

А б р а м. Таварыш Ражноўскі, перабудуем нанова завод?

Р а ж н о ў с к і. Перабудуем! Завод — наш гонар, наш аўтарытэт!

5-ты р а б о ч ы. Машыны зашумяць, загудзяць, дух, бадзёрасць у рабочых будуць уздымаць.

4-ты р а б о ч ы. Гонар той дзяржаве, дзе ёсць такія патрыёты.

Р а ж н о ў с к і. Дзе ж ты бачыў патрыётаў? *(Сам зайшоў за машыну.)*

5-ты р а б о ч ы. Ёсць, але ж бяда — хаваюцца.

А б р а м. Не схаваюцца.

4-ты р а б о ч ы. У нас, на жаль, вось гэткім вынаходцам ходу не давалі, гінулі.

Ч в ы р. Не згінуць цяпер. Улада наша вялікую ўвагу вынаходцам дае.

Л і п а. А цікава ведаць, як твае бацькі вучылі цябе раней, ці ты сам сцежку церабіў?

Р а ж н о ў с к і. У царскі час падпаскам быў, а пры Саветах скончыў школу.

Л і п а. Знацца, ты мужычы сын? *(Адказ.)*

5-ты р а б о ч ы. Вось для чаго ён гэтых мерцвякоў уваскрашае.

Ч в ы р. Наш праўдзівы пралетарый.

А п а н а с. Каб сёння на вытворчасці былі ўсе вось гэткія, дык яны б... *(Хоча нешта сказаць, ды не ведае.)*

Ч в ы р. Я дапамагу табе. Яны б, як бачыш, мост савецкі адразу перакінулі б туды — на Захад. Так?

А п а н а с. Во, гэта я хацеў сказаць.

4-ты р а б о ч ы. А калі б пабудову моста даручыць нашаму Крумкачу, як па-вашаму? *(Смяюцца, апрача Ліпы.)*

Л і п а. Ну, і што ж, пабудаваў бы.

А б р а м. А хто кажа, што не. Пабудаваў бы мост да самай Віслы і з хлебам соллю ды на Варшаву, да Пілсудскага курс узяў. *(Смех.)*

Л і п а. Ну і ахвотнік ты да жартаў!

5-ты р а б о ч ы. Гэтым ён сказаў многа.

А б р а м. Поўная характарыстыка чалавека.

Л і п а. Вельмі жорсткая.

А б р а м. А я кажу, поўная характарыстыка. Ты, Ліпачка, хоць і сябра нашай сям'і, але ж ты нейкая ліпавая

*(смех)*, трэба аналіз крыві тваёй зрабіць, каб даведацца, чыя ты дачушка.

Л і п а *(устрывожаная)*. Як быццам ты не ведаеш? Я з прыюта.

5 - т ы р а б о ч ы. Ну, а можа, ты дачка якога вялікага туза? *(Смех.)*

Л і п а. А глупства пляцеш.

Р а ж н о ў с к і *(да машыны)*. Эх ты, мая зазноба!

4 - т ы р а б о ч ы. Дзіўна, Ражноўскі з машынай размаўляе.

А б р а м. Часамі так бывае.

Ч в ы р. Калі чалавек шчыра аддае сябе — бывае.

5 - т ы р а б о ч ы. Мне здаецца, што зараз да яго і машына загаворыць.

А п а н а с. Так, братцы, загаворыць. Машыны гавораць, і кожная па-свойму гаворыць. Калі прыслухацца і зразумець гаворку іх, дык яны... яны загаварваюцца... на нешта... ну, вялікае... ну, неяк яны хочуць... так, каб злучыцца... усе разам... на ўсім свеце... пець гэты, той... як яго...

А б р а м. Гімн працы.

А п а н а с. Але, гімн працы. «Уставай, пракляццем катаваны».

Ч в ы р. Гм... Падабаецца мне Апанас. Не можа выказаць, але ж у сэрцы яго заложана. Ёсць прамоўца добры, а?

4 - т ы р а б о ч ы. Здольны мужычок.

5 - т ы р а б о ч ы. Яму б быць старшынёй ЦВК.

А п а н а с. Во куды мяне зашылі. Я ад вас нікуды не пайду.

4 - т ы р а б о ч ы. А хто цябе аддасць? Ты ягада нашага поля.

А б р а м. А ты мяжы на полі не рабі, што значыць нашага? Кажы — агульнага, усесаюзнага.

Л і п а. Таварышы казалі, што хутка машыны ўсяго свету гімн працы запяюць. А ці многа яшчэ трэба, каб наш прэс загаварыў?

Р а ж н о ў с к і. А вось зараз. *(Палез наверх.)*

Падышлі Л о с ь і К р у м к а ч.

А б р а м *(убачыў іх, даў знак, каб усе маўчалі, да Лося)*. Б'ёмся, б'ёмся, таварыш Лось, і толку дабіцца нельга. Чорт яго ведае, што гэта за складаная штука.

К р у м к а ч. А вам жа, таварышы, казалі.

4-ты рабочы. Хацелася спрабаваць.

Лось. Не слухалі мяне — толькі час змарнавалі.

Крумкач. А час каштуе грошы.

Лось. І якіх яшчэ грошай!

Крумкач. А Ражноўскі што на гэта? Ён жа больш за ўсіх крычаў.

5-ты рабочы. Як убачыў, што справіцца не можа, кудысьці знік, уцёк.

Лось *(дзіўна)*. А... дрэнна. *(Уздыхнуў.)* Хадзем, таварыш Крумкач.

Крумкач *(уздыхнуў)*. Хадзем, таварыш Лось. *(Адыходзяць.)*

Ражноўскі *(зверху)*. Пачакайце, таварыш Лось, я тут. Хто гэта правакацыю разносіць. *(Злез з машыны.)* Давайце разам спробу зробім. Хвіліначку. *(Уключае матор, машына пачынае працаваць, хвіліна напружанай увагі.)*

Абрам. Браточкі, даражэнькія, ці не сон гэта? Трэцяя машына наша разам з намі. Не вытрымаю, звар'яцею... *(Пачынае скакаць.)* Трымайце мяне, трымайце! Ражноўскі, браток мой! Наша радасць, наша змога, няхай дзівуюцца ўсе, няхай пачуюць голас мой на Захадзе гнілым! *(Крычыць, махаючы кулаком.)* Эй вы, вашы сіяцельствы, буржуазная шпана, глядзіце, як мы будуем сацыялізм! *(Да машыны.)* Машына, родная сястрыца. *(Заплакаў.)* А няхай цябе, самі слёзы хлынулі, выбачайце. *(Адвярнуўся.)*

Чвыр. Э, ды ты чырвона дзяўчына?

5-ты рабочы. Хто яго навучыў?

4-ты рабочы. Ён сам. У драмгуртку плаксуноў заўжды іграў, там і навучыўся. *(Смех.)*

Абрам. Такой хвіліны не перажываў ніколі.

5-ты рабочы. Братцы, якая радасць!

Апанас. Братцы, чуеце, як яна гаворыць, па-свойму гаворыць, і гаворку можна зразумець. Яна кажа аб нечым вялікім-вялікім. Кожная машына па-свойму гаворыць...

4-ты рабочы. Падзяку трэба рыхтаваць, падзяку.

Абрам. На агульным сходзе, каб усе рабочыя...

Ражноўскі. Братцы, ніякай падзякі не хачу!

Чвыр. Пакуль агульны сход, я асабіста падзякую яго. Ну, лепшы сын сям'і працоўнай! *(Пацалаваў.)*

А п а н а с. Сынок, падзякую і я табе за тое, што машына гэта... гаворыць... *(Пацалаваў.)*

Л о с ь *(падае руку)*. Прыміце ад мяне падзяку, таварыш Ражноўскі. Скажу праўду — не спадзяваўся.

К р у м к а ч. Вы маладзец!

А б р а м *(да Лося)*. Ну, як, прамахнулі?

4 - т ы р а б о ч ы. Прызнаяце сваю памылачку?

Л о с ь. Прызнаю.

5 - т ы р а б о ч ы. А мы ж вам казалі.

Л о с ь. Ну, што ж, бывае. *(Адыходзіць.)*

А п а н а с *(услед)*. Няпраўда цяпер не бывае і не будзе, наша савецкая машына ніколі не замоўкне, заўсёды будзе гаварыць.

Ч в ы р. Вось такія рукі пабудуюць вялікі мост, праз які пройдуць заваёвы Кастрычніка, туды, на Захад.

Р а ж н о ў с к і. А няхай вас, расхвалілі, размазалі воч не ведаю куды схаваць.

4 - т ы р а б о ч ы. Плач, плач! *(Смех.)* Хустку на! *(Смех.)*

5 - т ы р а б о ч ы. Ну, давай слязу, давай! *(Смех.)*

Р а ж н о ў с к і. Братцы, не плакаць, а радавацца хачу!

4 - т ы р а б о ч ы. Глядзі на Ліпу, яна не плача, а дрыжыць.

Л і п а. Браткі, ад радасці дрыжу. Гэта ж нашае агульнае свята!

У с е. Давайце на ўра!! *(Ражноўскі схаваўся за машыну.)* *(Смех.)*

4 - т ы р а б о ч ы. Вось табе і ўра.

5 - т ы р а б о ч ы. Спрабуй яго, вазьмі.

Л і п а. Таварышы, настрой завельмі паднялі, час позні, есці хочацца, пойдзем павячэраем.

У с е. А не пашкодзіць. Хто за гэта! Усе? А як Ражноўскі?

Р а ж н о ў с к і. Як усе, так і я, згодзен, толькі я сюды вярнуся.

Л і п а. Ну, тады пайшлі.

А б р а м. А я пабуду тут.

Л і п а. Не, выбачай, браце, пастанова агульная была, спрабуй не паслухаць! Хадзем. *(Пайшлі.)*

Падышоў Г а л у з а, пачаў абглядаць машыну. Падышла Л і п а.

Л і п а. Ты тут? Ну, добра. Усё ідзе надзіва, яны цяпер засядуць там. Памылак не дапусціш?

Г а л у з а. Думаю, што не.

Л і п а. Ну, я пабегла, каб бачылі, што разам з імі. *(Пайшла.)*

Галуза захаваўся за прэс. Падышоў К р у м к а ч, глянуў на машыну, плюнуў і пайшоў. Галуза ключом пачаў адвінчваць болт, штохвілю аглядаючыся. У гэты час падышоў Р а ж н о ў с к і, пачуў, прытаіўся і калі ўбачыў, кінуўся туды. Галуза схапіў Ражноўскага за горла, замахнуўся ключом — пачалася паміж імі страшная барацьба, гледачу іх не відаць, толькі чутно, як ідзе свалка, пасля чаго выходзіць Ражноўскі, трымаючы ў руках ключ. Абапёрся аб машыну, цяжка дыхаючы. Падышоў Ч в ы р.

Ч в ы р. Ражноўскі, што з табой, ну, кажы, што з табой?

Падышлі р а б о ч ы я і Л і п а.

Ч в ы р. Таварышы, Ражноўскі захварэў.

Г а л а с ы. Доктара сюды! Ён у крыві! Гляньце, тут забіты! Дзе? Забілі Галузу? Хто, як, за што?!.

Л і п а. Што ж гэта вы, таварыш Ражноўскі, забілі рабочага?! *(Прыкрая паўза.)*

З а с л о н а

Пасяджэнне бюро парткалектыву. Тут Ч в ы р, А н д р э й, Х і н ч, К н і ш а, А б р а м.

А н д р э й. Вось, таварышы! Здарэнне на нашым заводзе жудаснае. Калі б не ведаць таго, што Галуза быў шкоднік, можна было б жахнуцца, рабочы забіў рабочага, але выяўлена, што было — наадварот. Галуза рабіў замах на Ражноўскага. Лёг Галуза. Парткіраўніцтва ўзяло вядучае начала па гэтай справе, і вынікі ёсць. На заводзе была сям'я шкоднікаў, якая шляхам вываду з шэрага вытворчых адзінак паасобных машын імкнулася да знішчэння ўсяго завода, з мэтай эканамічнай контррэвалюцыі. Шкодніцкая сям'я цалкам уся арыштавана: дырэктар Лось, тэхнік Крумкач, Замоцкі — рабочы, Падгайскі і Ліпа. Шмат хто з вас дзякуючы нядбайным адносінам да справы вінен у недаглядзе як у ранейшых, так і ў мінулых здарэннях. Не было належнай камуністычнай пільнасці, чуткасці, кантролю: хто верыў, хто кумаваў, а ворагі тварылі сваю брудную справу. У Клары выкрадаюць з партфеля сакрэтныя пакеты, яна разлічвае на міласць святых, у свой час пакета не шукае. Пакет знаходзім у забітага Галузы. Галуза — пратэкцыя Лося, Лось, як мне здаецца, белы афіцэр. Вось бачыце,

якое звілі гняздо на заводзе шкоднікі. Гэты выпадак паслужыць найлепшым прыкладам, як працоўныя павінны быць на варце ў штодзённым жыцці, гэты выпадак будзе вымагаць суровай кары да тых, хто спаў.

Абрам. Лось — інжынер не савецкі, ён інжынер варожага авангарду, ён не што другое, як удушлівы газ, вызначаны для тых, з кім працуе. Я аб гэтым крычаў. Мяне не слухалі. На вялікі сорам, бараніў яго сябра цэхбюро — камуніст Гук. Завод адагрэў на сваіх грудзях сям'ю вужак-гадзюк.

Чвыр. Таварышы, усё ясна. Праца адпаведных органаў па выяўленні твару шкоднікаў пачалася трохі запозна, але ж вынік ёсць.

Хінч. Мне здаецца, да гэтай бруднай справы належыць і былы заўком Склют, і дзеля гэтага патрэбна належна рэагаваць.

Чвыр. Абавязкова.

Заслона

У следчага. Андрэй, Чвыр, Клара.

Андрэй. І так, таварыш следчы, парткіраўніцтва, узяўшы на сябе вядучае начала ў гэтай справе, дапамагло вам выявіць сям'ю шкоднікаў. Лось — той самы белы афіцэр, які быў у Калчака; бачыў яго ў 19-м годзе, як быў малым разведчыкам, бачыў, як нашы партызаны нагалаву іх разбілі, атрад іх уцякаў, афіцэр з пасечанай рукой таксама скрыўся. Гэта ён. Калі я яго ўбачыў тут першы раз, мне зразу не прыйшло ў галаву, а пасля я да яго прыгледзеўся. У яго пасечана рука да самага локця.

Следчы. Так, рука ў яго пасечана, заўважыў гэта і я. Вось толькі мне не зусім яшчэ ясна справа з партфелем. *(Да Клары.)* Вы кажаце, што ў вас падазронасць на старажыху Дычыху.

Клара. Толькі на яе.

Следчы. Яна тут. Зараз папытаем. Але ў часе яе допыту вы павінны сядзець моўчкі. *(Упускае Дычыху.)* Скажыце мне, Дычыха, як даўно вы служыце пры канцылярыі дырэктара завода?

Дычыха. Гады са два.

Следчы. Ну, і, канечне, вы служыце сумленна. *(Адказ.)* Ну, вось, бачыце, якая несправядлівасць з боку Лося. Вы добра служыце, спаўняеце службу, а ён жаліцца на вас, што вы неакуратная, слабая на памяць.

Д ы ч ы х а. Як так?

С л е д ч ы. А так. Лось кажа, што вам даручыць нічога не можна. Пакеты вам кажуць аднесці туды, а вы адносіце ў іншы бок.

Д ы ч ы х а. Калі гэта было?

С л е д ч ы. Як кажа Лось, было. Цэлы стус пакетаў вам загадалі аднесці на пошту, а вы занеслі не туды.

Д ы ч ы х а. Якіх пакетаў? Пакетаў я не бачыла.

С л е д ч ы. Маглі не бачыць, гэта праўда. Яны ў партфелі былі.

Д ы ч ы х а. У партфелі?

С л е д ч ы. Там былі пакеты. Адносілі партфель?

Д ы ч ы х а. Адносіла.

С л е д ч ы. Ну, вось, у гэтым ваша віна. Аднеслі не туды.

Д ы ч ы х а. Як-та не туды? Якраз туды. Як загадаў, гэтак і зрабіла. Прынесла ёй на стол ды зграбна палажыла.

С л е д ч ы. Каму ёй.

Д ы ч ы х а. Клары.

С л е д ч ы. А як вы неслі партфель? Пакажыце, нясіце мой. *(Дае.)*

Д ы ч ы х а. Вось гэтак, пад хустку палажыла і панесла.

С л е д ч ы. А чаму ж вам гэтак не несці, як усе?

Д ы ч ы х а. Ну, куды мне, старой бабе, я не камісар. Сказаў пад хустку, дык я і пад хустку.

С л е д ч ы. Вось бачыце, праз вашу няўважлівасць пакеты не туды папалі.

Д ы ч ы х а. А куды?

С л е д ч ы. Былі ў забітага Галузы.

Д ы ч ы х а. У Галузы? Дык гэта яму Лось перадаў.

С л е д ч ы. А вы што, бачылі?

Д ы ч ы х а. Не бачыла, але ж яны сябры.

Выводзяць Дычыху ўбок.

С л е д ч ы. Вось вам і разгад. Ясна, што Лось планы сцягнуў з мэтаю і перадаў Галузу.

Ч в ы р. Выразныя шкоднікі.

С л е д ч ы. Ну, а цяпер пагаворым з Лосем.

Уводзяць Л о с я.

Грамадзянін Лось, скажыце мне, ці невядома вам, як чарцяжы папалі да забітага Галузы?

Л о с ь. Нічога не ведаю.

С л е д ч ы. Праз каго застаўся на заводзе Галуза?

Л о с ь. Як і кожны, быў прынят.

С л е д ч ы. Вы яго не ведалі раней?

Л о с ь. Не ведаў.

С л е д ч ы. Вы ў войску не служылі?

Л о с ь. Не служыў.

С л е д ч ы. А вось рука пасечана ў вас.

Л о с ь. Гэта так, як практыкаваў студэнтам на заводзе.

С л е д ч ы. А там вышэй паранена ў вас?

Л о с ь. Не.

С л е д ч ы. Закашыце рукаў. *(Паўза.)* Але ж закашыце. А гэта?

Л о с ь. Гэта другі выпадак — малатарня.

Выводзіць Л о с я, запушчае З а м о ц к а г а.

С л е д ч ы. Скажыце, Замоцкі, Ліпа жыве ў вас? *(Паўза.)* Я чакаю. Хто яе бацька?

З а м о ц к і. Ды нябось Чвыр казаў вам, ён ведае.

С л е д ч ы. Я хачу чуць ад вас.

З а м о ц к і. Ён памёр. Служыў. *(Паўза.)* Начальнік астрога.

Ч в ы р *(адразу)*. Чакайце. Той, якога я забіў?!

С л е д ч ы. Калі?

Ч в ы р. У 17-м годзе, у часе рэвалюцыі, як забіралі мы астрог. Гэтым рэвальверам.

С л е д ч ы. Чакайце! *(Да Замоцкага.)* Вам аб гэтым вядома?

З а м о ц к і. Вядома. Сам бачыў гэту бойню. А пасля Чвыр нам казаў.

С л е д ч ы. Каму нам?

З а м о ц к і. Мне і Ліпе.

С л е д ч ы. Значыць, Ліпа ведае, што яе бацьку забіў Чвыр?

З а м о ц к і. Ведае. Нам таварыш Чвыр паказваў гэты рэвальвер.

С л е д ч ы. Значыць, яна бачыла гэты рэвальвер?

З а м о ц к і. Бачыла.

С л е д ч ы. Абяцала памставаць?

З а м о ц к і. Так, абяцала. Але ж глупства, хапіла нож, хацела бегчы ўздагон, так і засталося.

С л е д ч ы *(да Замоцкага)*. Значыць, вы бацьку яе бачылі?

З а м о ц к і. Быў знаёмы. На маіх вачах яго забілі.
С л е д ч ы. Дзе гадавалася Ліпа?
З а м о ц к і. У мяне.
С л е д ч ы. З якога часу?
З а м о ц к і. З 1917 года.
С л е д ч ы. У прыюце яна не жыла?
З а м о ц к і. Не.
С л е д ч ы. А хто ў вас жыў апрача Ліпы?
З а м о ц к і. Галуза.
С л е д ч ы. Адкуль ён да вас з'явіўся?
З а м о ц к і. Лось прывёў, яго знаёмы.

Упускае следчы Л і п у.

С л е д ч ы. Скажыце, вы бачылі гэты браўнінг у Чвыра раней?
Л і п а. Ніколі не бачыла.
С л е д ч ы *(да Замоцкага)*. Скажыце.
З а м о ц к і. Ліпачка, чаго ж скрывацца, бачыла ты, бачыў і я.
С л е д ч ы. Абяцалі памставаць?
Л і п а. І не думала.
С л е д ч ы *(да Замоцкага)*. Скажыце.
З а м о ц к і. Ты зноў сваё. Ну, як жа, хапіла нож, хацела бегчы за ім, я затрымаў цябе.
С л е д ч ы. Скажыце, хто ваш бацька?
Л і п а. Не ведаю, я сірата.

Следчы выводзіць Л і п у і З а м о ц к а г а ў розныя пакоі, упускае К р у м к а ч а.

С л е д ч ы. Скажыце, грамадзянін Крумкач, ці ведалі вы раней Галузу?
К р у м к а ч. Не ведаў.
С л е д ч ы. Як ён папаў на завод?
К р у м к а ч. Не цікавіўся.
С л е д ч ы. Ці даўно вы ведаеце Лося.
К р у м к а ч. Гады са два.
С л е д ч ы. Вы ў Замоцкага бывалі?
К р у м к а ч. Бываў.
С л е д ч ы. Бачылі там Галузу?
К р у м к а ч. Часамі бачыў.
С л е д ч ы. Па якіх справах вы заходзілі да Замоцкага?
К р у м к а ч. Як знаёмы.
С л е д ч ы. Як па-вашаму, з якой мэтай выводзіў Лось са строю машыны?

Крумкач. Не ведаю.

Выводзіць Крумкача, упускае Лося.

Следчы. І так, следства скончана. Выяўлена, што вы шкоднік, калчакоўскі афіцэр, які, гуртуючы каля сябе варожыя нашаму строю сілы, імкнуўся да таго, каб шляхам вываду з нашай вытворчасці машын падарваць ход нашага сацбудаўніцтва і гэтым дапамагчы ўтварыць грунт для інтэрвенцыі. Што вы на гэта скажаце?

Лось. Так. Я былы калчакоўскі афіцэр, які ідэйна біўся з бальшавікамі ў 1917 годзе. За 14 год я свайго аружжа не злажыў. Я ваяўваў і па гэты дзень, але мяне перамаглі. Я павінен стаць перад судом, судзіце! Але літасці ў вас я не прашу!

Следчы *(упускае Ліпу, Крумкача, Дычыху, Замоцкага, да Лося)*. Дайце мне канкрэтную праўку, хто з іх з'яўляўся актыўным дапаможнікам у шкодніцкіх намерах?

Лось. Не раджу вам пытацца,— нічога не скажу.

Следчы. Яно зразумела і так. *(Упускае Ражноўскага.)* Таварыш Ражноўскі, карта варожых сіл біта!

Заслона

# ДОЛЯ МУЖЫКА

Вясной якраз на нашых святах
Я быў ў засценку Ліпнякі,
А там у нізкіх, курных хатах
Жывуць галота-мужыкі.
Сагнуўся ракам і у дзверы
Упоўз я ў хату мужыка,
Каб сам не бачыў, не паверыў,
Як горка доля бедака.
На сценах голых і вільготных
Растуць грыбы, цячэ вада,
І льецца на дзяцей гаротных
Хвароба, нэндза і бяда.
Аконца мала чуць свіціцца,
Ніколі сонца не відаць,
Смурод і чад, у брудах дзеці:
Адно дзярэцца — пяць крычаць.
Няма ж спакою беднай маці,
Няма ратунку, ані сна,
Няма каму прыбраць у хаце,
Ляжыць схварэўшая адна.
А пры баку дзіця ў карыце —
Увесь у больках, заскаруз,
Закручаны у зрэбнай світце,
Устаць не можа, бо нядуж.
А дзеці воўкам пазіраюць,
З мяне дзівяцца: хто такі?
Як бы нічога больш не знаюць,
Апроч балота, асакі!
Яфімка цяжка уздыхае,
З бядой не можа саўладаць,
Галодны дзеці, сам не мае
За што і рук сваіх зацяць.
Да свету ўстане, кіне дзетак,
На заработкі к пану йдзе,
Глытае пот з слязьмі і гэтак
Век праходзіць у бядзе.
Чым, як жывуць, адкуль іх сіла?
Ні круп, ні хлеба, ні гаршка,
Здалося, я папаў ў магілу,
Але не ў хату мужыка...

Дык во дзе бачыць гора можам,
Жыццё і долю бедакоў,
А колькі іх на свеце божым,
Такіх ліпняцкіх мужыкоў!

## ЧАКАЙ, БРАЦЕ!..

Ад году да году мужык наш марнее,
А працы сваёй ён нямала кладзе,
І ўсё без карысці: як ліст той гібее
У восень халодную — ў горы, ў нудзе...
Арэнда вялікая,— трудна звярнуцца:
Прадай хоць сярмягу, ды мусіш аддаць,
А голад, хвароба ў знакі даюцца,
Дый ласкі, прывету ні скуль не чуваць.
Не чуў сабе «дзякуй!», хоць дух надрывае,
Хоць потам крывавым зямлю напаіў,
Хоць шчасця не бачыў і долі не мае,
Хоць варт, небарака, каб меней слёз ліў.
Хоць бедны грашыма, ды сэрцам багаты;
Хоць цёмны навукай — ды з светлай душой.
У скрыўджаным бачыць ён роднага брата,
З ім дзеліцца шчыра астатняй крыхой.
Чакай, брат! Без часу не лезь у магілу!
Ўзмацуецца дух твой — яшчэ аджывеш!
Свет, браце, убачыш, пачуеш ты сілу
І песню свабоды гуртом запяеш!

## ЗАБЫТАЯ ХАТКА

Над соннай далінай
Відаць хмызнячок,
Пры ім сірацінай
Хацінка-ламок.
Жыве там гаротны
Дзядуля з дня ў дзень,
Збалелы, маркотны,
Снуе толькі цень.

Калісь быў ён молад,
Дуж быў, як той леў;
І холад і голад
Ён заніпто меў.
Жыццё прамінула,
Як сон той вясной,—
Старога сагнула
Бяда, неспакой;
Меў дзетак — вось сына
Забрала вайна;
Другога машына
Ў магілу звяла;
За імі і маці
Пайшла на той свет...
Астаўся у хаце
Адзін-адным дзед.
Сядзіць скачанеўшы,
Сагнуты дугой,
Не піўшы, не еўшы,
З нямою душой...
Віхура за хатай
Гудзіць і шуміць,
З пагудкай заклятай
У шыбы грučыць.
І як бы галосіць
Над ім, сіратой,
І нібыта просіць
На вечны спакой...
Крапіўся дзядуля —
Займацца стаў дух,
Прыйшла смерць-зязюля,
Як свечка, патух.
Чырвонае сонца
З-за лесу ўзышло,
У хатцы аконца
Агнём заліло,
Ды хатка пустая —
Ўжо дзеда няма!
Цяпер там гуляе
І холад, і цьма.

## СЯРМЯЖНІК

Скажы мне, сярмяжнік! Скажы мне, маркотны!
Адкуль ты? Адкуль ты? З нядоляй сваей
Чаму век снуешся пуцінай гаротнай,
Чаму ты ўсіх чыста бядней і цямней?
Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці можа хто чары такія накінуў
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.
Аж слёз не стрымаці, як губіш ты сілы,
Крывава гатоўлячы ніву к сяўбе:
Галодны, халодны да самай магілы,
Усё на пажытак людзям, не сабе.
А людзі! Што людзі! Яны не зважаюць
На працу, на чорную долю тваю,
Пагардаю кормяць, ваўком пазіраюць,
Ім толькі каб дуж быў варочаць зямлю.
Цярпі, мой ты браце, і вер, што настане
Сярмяжніку лепшае шчасце, жыццё.
Вер, будзе тваё на зямлі панаванне,
Навекі зваюеш ты гора сваё...
А покуль жа цёмна і сцежка блудліва,
Няпраўду ад праўды дзялі, аддзяляй,
І хоць цяпер мачыхай родная ніва,
Ты ў памяці мей свой народ і свой край.

## БУДУЧЫНЯ

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды снуе народ.
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Звініць сталёвы лом;
На месцы даўняй старыны
Будуюць новы дом.
Штодзень угору сцены йдуць,
Ушыр і ўдоўж кругом;

Баліць мазоль, і рвецца грудзь,
А ўсё ж будуюць дом!
Настане дзень, надойдзе час,
Мы крэпку столь звядзём,
І лепшай прышласцю для нас
Быць мусіць новы дом!
Працуйма, брацця! Хай хутчэй
Наш льецца пот цурком:
Прыжджэм і мы святлейшых дней,
Як скончым строіць дом!..

* * *

Хачу мець зямельку і мру без работы,
А чую, што сілы трываюць пакуль,
Я рад працаваць да крывавага поту
І жду ўсё — падмогі няма ніадкуль.
А людзі ў дастатках, дзе скарбаў ёсць многа,
Не дбаюць аб горы — ім бедны нішто...
І дзе галадоўля, дзе смутак, трывога,
Туды і скарынкі не кіне ніхто.
Глядзіце, зямелькі вось колькі пустуе!
Аблогам марнуецца колькі пасек!
А я даў бы рады, мне ж сіл не бракуе.
Без працы чы ж можа пражыць чалавек?

# НА ВЯСЕЛЛЕ

*(Апавяданне старога дзеда)*

Было мне гадоў шаснаццаць. Помню, як сягоння, часценька ў свята мы траляваліся ў Барысаў на кірмаш — бывала, сам я адзін, бывала, з сястрой Петрунэляй, а яна тады была дзяўчынай.

У Барысаве заўсягды спатыкалі мы дзядзьку нашага, а то часцей цётку; вось яны, абы толькі сустрэўся, зараз пачынаюць пытацца, што чутно і ці скора Петрунэлю замуж аддаваць будзем. Мне гэтае пытанне так абрыдла, так далося ў косці, што стаў я маракаваць, як адвучыць іх ад яго.

Здарылася неяк, я загуляў у Барысаве з хлопцамі; пакуль тое ды сёе, дык і цёмна стала, а тут яшчэ, як на безгалоўе, дождж лупянуў такі, што як з лубу ліе. Хацеў перш ісці дадому, але аднаму неяк было боязна, дый далёка — вёрст восем па дажджы цёпкацца, дай, думаю, пайду да дзядзькоў і папрашу іх на вяселле. Пэўне пойдуць!

Падходжу да хаты і ляпаю ў акно. Яны ўжо спалі. Чую, крэкчучы, лезе дзядзька з печы:

— Хто там? — пытае.

— Я!

— Чаму ж гэдак позна?

— А вось татка і мамка на ўсё прасілі, каб вы на Петрунэліна вяселле прыйшлі.

— Ці ты здурэў? — ізноў кажа дзядзька,— па начы і ў гэткую пагоду?

А я давай ілгаць, што пакуль па дарозе зайшоў да аднаго, да другога, то хоць і выйшаў з хаты да свету, але да дзядзькі крыху спазніўся.

Дзядзька верыў і не верыў, але, як чалавек гасцінны, усё ж такі звярнуўся да цёткі і кажа: «Пойдзем, ці што?»

— Хіба пойдзем,— адказала тая.

— Ну, дык збірайся!

Зачалі варушыцца. Дзядзька з свірна прынёс булку хлеба, закінуў за плечы, захапіў люльку ў зубы, а цётка падкасалася ў дарогу, і павалакліся па дажджы ды па балоце.

Я ішоў шляхам паміж бярозак,— ад смеху чуць не валяўся.

Ішлі мы гадзіны са дзве. Змоклі да ніткі. Вось падышлі і пад нашу вёску.

Цёмна, хоць пальцам у вока пары. Сабакі выюць. Вось наша хата. Я адышоўся і паглядаю, што гэта будзе.

— Што за хвароба? — бурчыць дзядзька.— Чаму гэта ў хаце цёмна? Ці яны ўжо па вяселлі, што спаць паклаліся?

А цётка, як мыла з'еўшы: «Можа, і паклаліся, ведама, маладыя, дык паспяшаліся трохі».

— Ну, годзе гаманіць! Стукай, бо я чуць жывы!

Толькі цётка пачала барабаніць — адклікаюцца з хаты: «Хто там?» — «Мы!» — «Хто мы?» — «Ды ж мы, на вяселле прыйшлі».— «Якое вяселле, хто вас клікаў; ці не Сымонка, каб ён прапаў?» — «Але ж, ён!» — «Зманіў, каб ён затануў! Скарэй у хату ідзіце!»

А дождж ліе, як з лубу.

Я пайшоў сабе ў ёўню і выспаўся добра да рання. З таго часу ні цётка, ні дзядзька ніколі больш не пыталіся, калі вяселле Петрунэлі.

## «ЖУРАВІНКА»

Аж дзіваваліся людзі, як жаніўся наш Рыгор: сам вялізарны, сутулаваты, як крук, а маладзіцу браў маленькую, чырвоненькую, быццам журавінку. Вяселле згулялі як след — ну, і жылі спярша нішто.

Толькі ў скорасці наш доўгі Рыгор са сваім сутулам стаў неяк цянець і гнуцца наперад,— з крука зрабіўся, як вуда, і з твару пачаў чарнець, а жонка «Журавінка» — круглець... Бачыць яна, што мужык хірлее і слабее, дай і сама хвост адкіне: стала крактаць і жаліцца на нейкую хваробу. Па сабе Рыгор не бедаваў, але за жонку спалохаўся, так ужо моцна ўхляпаўся ў яе. Кінуўся туды-сюды: курыцу, пеўнем што пяе, дастаў; пашаптух і блізкіх і далёкіх запрасіў; усялякае зелле гатавалі, палілі, курылі; качалкі праз акно кідалі, і чаго ні рабілі — не памагала. Журавінка — журавінкай: як на балоце ўзросшы, разбохалася, але паправы няма.

Ажно надарыўся нейкі стары знахар. Рыгор бух яму ў ногі: так і так, кажа, ратуй маю Журавінку,— апошні хвост прадам!

Знахар паглядзеў, памацаў хворую, галавой паківаў: кепска, кажа, «марматур» у ёй; рада адна: лёду насушыць, ветру наскрабаць, камарынага сала назбіраць і спарыць у берасцяным гаршку, потым мазаць перад агнём грудзі і паясніцу хворай; хвароба пэўне адойдзе, а здароўе вернецца.

Зажурыўся Рыгор, бо не патрапіў гэткую прыправу зрабіць. Аж тут жонка і кажа: «Не маркоцься, мой ты аздабулечка, сама я лепш ведаю, што мне трэба: пяску з мора прыцягні, як рукой усё зніме».

Паскрабаў мужык патыліцу, паскрабаў, але папёртакі з торбай да мора. Цягнуўся небарака да поўдня, знібыткаваўся, прысеў адпачыць крыху, стаў смактаць люльку. Ажно тут надыходзіць даўнейшы яго сусед — Язэп, што пайшоў летась у прымы ў другую вёску. Суседзі разгутарыліся. Язэп і кажа: «Паслухай ты мяне, Рыгорка, варочайся дахаты, і я з табой пайду і дам рады тваёй бабе».

Пайшлі.

Позна вечарам прывалакліся пад хату. Бачаць, агонь у хаце блішчыць. Рыгор зірк у акно — ды аж выпростаўся, як слуп: на стале яешня са скваркамі, бліны, верашчака, як вір, і брыкалаўка ў пляшцы, а побач яго Журавінкі сядзіць хлапец — Янка Канцавы...

Скрыгатнуў Рыгор зубамі, зацiснуў кулакі, а тут Язэп і шэпча: «Маўчы ды лезь у мех, а я пайду прасіцца на ноч».

Ледзь упхнуў Язэп свайго таварыша ў мех, завязаў, ўспёр на плечы і пасунуўся ў хату прасіцца, каб пусцілі пераначаваць.

Спярша гулякі ані блізка, але, нешта пашаптаўшыся, згадзіліся. Язэп убіўся ў кут і пачаў мех развязваць, тым часам тыя за сталом п'юць і ядуць, а Журавінка яшчэ і запяяла: «Няма майго Рыгора, пайшоў па пясок да мора», а Янка, падхапіўшыся ў бокі, падцінае: «Тунда, тунда, тундада!» А Язэп з кута і кажа: «Не вытрываю — запяю і я: «А мой жа ты Рыгору, вылазь з меха на волю, вісіць бізун на сцяне, дай ты Янку і жане: Янку раз, жонцы два, тунда, тунда, тундада!»

Мусіць, хочаце ведаць, што было далей? Вось, не скажу! Хіба толькі тое, што наша «вуда» цяпер стала прасцей хадзіць, а гладкая скурачка Журавінкі пачала моршчыцца...

# НЕ ПАКЛАЎШЫ, НЕ ВОЗЬМЕШ

Нехта некаму ці праўду казаў, ці так — на ўзвей вецер — брахануў, што на барысаўскім тракце ёсць курганок і ў ім быццам француз, уцякаючы, бочку чырвонцаў закапаў.

Ведама, зараз кум куме, а кума — па ўсім сяле! Гэтак дазналіся засцянкоўцы і давай штовечар збірацца ў Язэпа і гутарыць да паўночы, каб дастаць тыя чырвонцы дый, паскідаўшы лапці з аборамі, парабіцца панамі.

Доўга яны збіраліся, ажно нарэшце вясной, калі зямля адышла і зазелянеліся бярозкі, нашы сябрукі адважыліся ў адзін вечар паспытаць шчасця. Вечар, як на тое, быў пагодны; было ціха, як у магіле, але гэтак цёмна, што, каб ткнуць пальцам у вока, і то, пэўне, не ўбачыў бы.

Тут былі самыя ёмкачы: Юзя Малатарка, Мікіта Бяда, Марка Хаўрусны, Язэпка Лапаць, Ёська Верашчака, Мацей Шпурлянка, Гаўрыла Круль і Сымон Шворан.

Во, пабраўшы пілы, шчупы і рыдлёўкі, выйшлі яны з хаты і нясмела папляліся шляхам. Ідучы вёскай, яны прабавалі гаманіць і нават жартаваць, але, як толькі мінулі хату бабыля Сініцы, змоўклі і пачалі ціснуцца адзін к аднаму, як авечкі.

На страхі зважаць не можна было. Трэба ж ісці і паспытаць шчасця... Курган як вырас перад імі. Сам курган быў не дужа вялікі, але на ім расла тоўстая бяроза. Во, нашы дзецюкі, як непрытомныя, затаіўшы дух, узяліся пілаваць яе, а другія карчавалі карэнні. Чым больш працавалі, тым больш іх неяк страх браў, і як толькі звалілася бяроза і гокнула вобзем, Язэп Лапаць і Ёська Верашчака кінуліся наўцёкі. Але так-сяк іх вярнулі назад, і работа зноў пайшла. Казалі, што за малым не дасталі бочкі, бо ўжо спіцы ўпіраліся ў нейкае жалеза.

Але дзе ж там: што можна было зрабіць, калі паміж імі былі мала таго, што дурні, але і гультаі. Вядомы ў засценку гультай — Гаўрыла Круль, капаўшы, як крыху змогся, пайшоў сабе ў ёлкі паляжаць, а там прыйшло яму ў галаву, каб напужаць і без таго спуджаных засцянкоўцаў сваіх. І вось, адышоўшы крыху ў густы лес, перш пачаў нейкім калом біць па дрэве, а пасля як зарагоча, як залапоча ды проста на іх!

Тыя ж, жартаў не пазнаўшы, хто душэўна драпануў шляхам, пакуль мог, а хто на месцы абамлеў, дык і астаўся ляжаць да рання.

Круль бачыць, што спаскудзіў увесь інтарэс, дык кінуўся і сам наўцёкі, але зачапіўся за нечыя ногі, што разам з іх гаспадаром ляжалі на дарозе, ды выцягнуўся, як жэрдка, сам тут жа.

Не ведаем, як там уцякалі іншыя сябрукі, але дахаты папрыпаўзалі толькі досвіткам, а храмога Малатарку ледзьве жывога прывёз нейкі чалавек: ён знайшоў яго ляжачым недалёка пры кургане...

## МАРЫМОНАВЫ САБАКІ

Хоць і цяжка жылося Марымону, але — ці то з дабраты сэрца, ці такі ўжо звычай меў — прыплоду ад сваёй жывёлы ніколі не пазбываўся. Гаспадарка Свяжынскага не надта крэпкая была: старая кабыла ды сука рабая; але і з гэтай Марымон прыждаў прыбытку: васьмёра шчанятак. І хоць раілі суседзі звесці гэтых дармаедаў, той ані блізка. «Хай качаюцца»,— кажа. І праўда: падкачаліся брахуны, і — на што тое — добра таргавала матка, а дзеткі яшчэ лепш: ані прайсці, бывала, каля бабыля.

Вось неяк пад восень (бадай, баб'ім летам), у святочны дзень сядзеў наш Марымон на прызбе і, пыхкаючы люльку, грэў свой, як дуля, нос і ўглядаўся ў дарогу. Ажно бачыць, плыве з-пад суседняга двара панава цешча. Сунецца, прыкрываючыся чырвоным парасонам, сама тоўстая, як кадзь, спадніца, як туга набітая абручамі, сядзіць на ёй; а капялюш, капялюш! Такога і з роду Марымон не бачыў. Ліха надало падкруціцца тут рабой сучцы са сваёй дружынай, і мусіць-то і ім гэты капялюш кальнуў у вока,— быццам перакуленая ражка з-пад іхняй яды: калі ўлягуць за паняй, толькі пыл закурэў. І не агледзеўся Марымон, як парасон, каторым спрабавала было бараніцца паня, палацеў у шматочкі, а пакуль дабег бараніць, тая ўжо, завярнуўшы аглоблі, часала ва ўсе лапаткі пад двор.

«Скуль толькі хада ў яе ўзялася? Мусіць-то спусцілі сабакі абрысы гэныя?»,— думаў, чэшучы патыліцу, Ма-

рымон. А часаць патыліцу было чаго: як стой, прыпрэ пан — будзе каша! Яшчэ, чаго добрага, на месяцы два дармовай харчы і кватэры ўлепіць!

Толькі гэта звечарэла, так яно і ёсць: коціць пан да Свяжынскага, а ў таго блохі ўжо падохлі.

— Твае гэта сабакі далі пытлю маёй цешчы? — пытае, увайшоўшы ў хату пан.

— Мае, паночку, мае, каб іх воўк так патлаваў,— адказвае, збедзіўшыся, Марымон.— Я іх у адседку ўжо пасадзіў.

— А ці не можна было б то глянуць, якія там яны? — зноў пытае пан.

— Чаму не можна — хоць зараз,— кажа Марымон і, выйшаўшы ў сенцы, выпусціў з загародкі сабак на двор.

Доўга ўглядаўся пан праз акно, як завіхалася рудая сучка, абнюхваючы чужы след, як упрыскочкі за ёю кідалася на ўсе бакі сямейка яе, а пасля і кажа да Свяжынскага:

— Слухай, братка, прадай мне іх, добрыя грошы дам.

Глядзіць Марымон, высалапіўшы вочы. «Кпіць пан, ці якое ліха?» — думае сабе. А пан ізноў да яго:

— Ну, што тут доўга думаць? Суседская справа. Во табе за правадырку траячку ды і за гэтых тузганцоў па рубліку ад хваста. Хіба крыўды не будзе. Сып малых у мех ці ў карзіну якую і валачы ў двор; сука сама за імі паляціць.

— Кпіны ці не? — думае здзіўлены Марымон.— Але калі добрыя грошы даюць, чаму не браць?

І, згробшы іх у капшук, зняў з калка мех, паўпіхаў у яго шчанюкоў, закінуў на плечы і цягне з панам у двор. Але ў дарозе не вытрымаў Марымон:

— Паночку,— кажа,— выбачайце, што буду пытаць. Мае ж сабакі ні да птушак складу не маюць, ні яны ганчакі, дык нашто ж вам гэта воўчае мяса? Яшчэ зноў напудзяць пані? І так мо зашкодзіла?

— Зашкодзіла? — не звальняючы кроку, запытаў пан.— Памагло, Марымонка, памагло! Вярнуўшыся пасля гэтай лазні, цешча і кажа да мяне: «Каб у двары былі гэтыя Марымонавы звяры, і ні аднаго дня не ўседзела б тут!»

# НАВАЛЬНІЦА

Над вялікім, даўно ўжо пакінутым і заглохшым садам збіралася навальніца. Цяжкія хмары паўзлі па шэрым, як арыштанцкі армяк, небе і, выцягваючы свае лапы, падпаўзалі бліжэй к сонцу, каб згасіць яго. Чорныя цені, што палеглі на зямлі ад хмар, наводзілі на ўсё жывое страх.

Спужаўся і задрыжэў сад, бо прадчуваў, што можа стацца, калі навальніца пачне крышыць без міласці худзенькія дрэўцы, між каторымі толькі стары дуб стаяў смела і адважна, паглядаючы вясёла ў вочы цёмным хмарам.

Што значыць яму навальніца?

Ці раз бывала, што віхуры парываліся схіліць яго к зямлі, але ўсё дарма: ён мала дбаў і толькі смяяўся над непагодай.

Ды і, так сказаць, чаго, здаецца, было пужацца, калі ён пад зямлёй крэпка ўмацаваў свае карэнні, даючы ім вольна расці і ўшыр і ўдоўж, а над зямлёй высока дзяржаў векавую зялёную карону.

Добра ведаў стары дуб, што ўвесь сад не меў вока на яго за тое, што карэнні забіралі ад іх пажыву з зямлі, а вечная засень глушыла маладыя ўсходы. Ды такой бяды: ён меў толькі адну думку, каб як-небудзь зніштожыць ненавісных суседзяў сваіх, а на іх месцы выгадаваць дубовы гай.

Цярпліва пераносілі крыўду заглохшыя дрэўцы і час ад часу выміралі праз ласку дуба, жадаючы ў адплату і яму пагібелі, а той толькі рос і радаваўся, звысока гледзячы, як канчалі жыццё цененькія лазінкі і алешынкі.

І ніхто з іх не ведаў, якая доля чакае таго дуба-велікана...

Тым часам пад зямлёй, дзе крэпка спляліся яго карэнні, жыло шмат маленькіх ворагаў, каторыя дзень і ноч вялі пільную працу; хоць гэта і марудная была праца, але пэўная, і праз іх ласку дуб даўно ўжо пачаў траціць сілу ў карэннях. І настаў дзень, калі на падмогу працы спрытных маленькіх чарвячкоў наляцела шалёная навальніца, як бы зрабіўшы з імі хаўрус дзеля згубы таго, хто так горда глядзеў у неба і не схіляў прад ёй сваёй галавы.

Хмары, як непрытомныя, паўзлі ўсё бліжэй і бліжэй к сонцу; халодны вецер гнаў з дарог пыл і, скруціўшы ў

стоўб, растрасаў з боку ў бок; брызнуў густы дождж, і ўдарыў пярун.

Глянуўшы на сілу навальніцы, страпянуўся дуб і, выпрастаўшы шырокія грудзі, прыгатаваўся спаткаць націск, як калісь бывала; тым часам хмары ўжо напаўзлі на сонца, згасілі яго і сунуліся ў цемнаце далей.

Задрыжэлі цененькія дрэўцы, прыляглі к зямлі і чакалі смерці. Задрыжэў і дуб, і пад дзікім націскам ветру пачала хіліцца яго зялёная карона.

— Глядзі, суседка! — шаптаў арэшнік, прытуліўшыся к сасне.— Глядзі! Такі дуб хінецца, цяжка і яму прыйшлося...

Але не дакончыў арэшнік, і не пачула яго сасна: ударыла маланка, задыміўся і зваліўся апалены дуб. І без ліку пахаваў пад сабой маленькіх дрэўцаў.

Навальніца, як цёмныаграмадны птах, уцякала далей. Дождж сціхаў, і дзе-нідзе з-за хмар паказвалася яснае неба.

Шмат палягчэла тым дрэўцам, што асталіся ў старане: з прывычкі яшчэ пудліва паглядалі яны на дуб, што распластаны ляжаў у садзе, але ніхто цяпер не гінуў ад вечнай засені, і ўсім стала прасторна.

Пачарнеўшы пень старога дуба дзіка глядзеў увысь і адзначаў месца, дзе жыла векавая сіла.

## МІНУЎШЧЫНА

Заглох і апусцеў стары сад. Затаіўшы нуду аб мінуўшчыне, стаіць ён, як знак праклящця.

Высока, пад сінім небам спляліся галінамі калматыя ліпы, украпаныя чорнымі гнёздамі варання, хрыплы крык каторага аддаецца цяжкім рэхам ад рання да вечара.

Паміж зеляніны стаіць, апёршы страху на высокіх слупах, дом, быццам высахшы старац.

Нудна і нават шорахна глядзець на колішняе месца жыцця, сілы і прагавітасці. Нават зелень плакучых бярозак нікне, адбіваючыся на трухлявых сценах.

Дзе ж падзеліся багатыры і іх бязмежнае права?

— Няма іх, няма! Адкрасавалі,— шапаціць вецер між зялёных кустоў.— Адкрасавалі, як тыя краскі, што красавалі тут калісь.

Цяпер толькі сівы палын, здружыўшыся з крапівой, запанаваў і заглушыў усё ўшчэнт.

Пакінут дом, пакінут сад, няма і следу, што тут было паўвеку назад.

Яшчэ пры жыцці нябожчык гаспадар пад шумок адпаліваў такія штукі, што і цяпер душа халаднее, каму ўсё тое хоць крышку ў памяці засталося... Без працы, без клапот правалок ён тут сваё пустое жыццё. Толькі старушка гаспадыня, калі, бывала, кране яе сумленне, убівалася і замалівала свае грахі. Але не дайшлі малітвы: застыгалі на месцы, а час бег,— пара прыйшла, ударыў гром: сільны і праўдзівы; растрос і разагнаў каго куды, быццам туман у полі, і з той пары змоўк сад, заціх вясёлы дом, зрабіўся падобны на халодную магілу. Цяпер тут толькі чутно, як гукаюць совы, мітусяцца кажаны ды дробны дожджык шапаціць, што мінуўшчына не вернецца назад.

## ЯК СЫМОН У ВОЛАСЦІ ВЫКРУЦІЎСЯ

*(Апавяданне старога дзеда)*

Як толькі мне хто ўспомніць пра нябожчыка Мікіпара, што жыў у нашай вёсцы, то шкода, крый божа, якая; забыцца не можна: кару, небарака, цяжкую нёс, бо ад каберца не пашчаслівілася жонкай, а после дзеткамі...

Што разумен быў, споркі няма, але і заўзяты; к таму любіў часам і за сябе пастаяць,— трэба толькі залапнуць яго, то ўжо той не рад будзе: пакажа ён, па чым сотня грабянёў!

Нябожчык Мікіпар, працуючы, як вол, цэлы тыдзень, толькі ў нядзелю плечы разгінаў, а каб гэты дзень меў адлічча ад другіх — заходзіў к Ёселю лыкнуць картаплянкі.

Вось тады ніхто не паткніся пярэчыць яму.

Хоць і даўно, праўда, было гэта, калі нашага брата скура ды з дзеркачом знаёмасць вадзіла, але тыя часы як у вачах стаяць,— забыцца нельга, як сягоння помню.

Як Мікіпараў сынок убуяў ужо, то, крый божа, што вытвараў з бацькам,— штодзень лаянка, бойка; ходзя-

чы на жальбу ў воласць, парогі паабівалі... Ідуць ды ідуць: то сын, то бацька, ці то так ужо за звычай мелі, ці затым, што воласць недалёка была.

Прыйшоў неяк я к Мікіпару за віламі, аж чую, што сын з бацькам ужо гутараць патроху. «Ты цяпер разумен за бацькавым каркам! — галёкаў дзед.— З хаты гоніш, ды і дзверы зачыняеш, каб табе мяліца зачынілася! Нічагутка, праўды дакапаюся; табе язык уйму, не будзеш старому напрыкрацца: не дуж я, але найдуцца ў воласці такія, каторыя здужаюць асілка як мае быць, улююць і навучаць, як старых шанаваць!»

— Мне ўлююць? — пытаўся здзіўлены сын.— За цябе, старога ражна, ды мне будуць скуру дзерці? Не можа быць!

— Будуць ці не будуць, а пажывём — убачым! — казаў дзед.

І так, слова за слова, зайшлі далёка.

Можа, на тым бы і скончылася, аж трэба, як на бяду, зіркастая курыца, узляцеўшы на параплот, запяяла ва ўсё горла пеўнем дый паляцела ў суседні гарод.

Стары, нічога не кажучы, як апараны, кінуўся з сякерай за курыцай, злавіў яе ды шась сякерай па галаве.

Сын, азвярэўшы, к бацьку:

— Ты нашто курку зарубаў?!

— Як жа, яна пеўнем запяяла,— прах яе забяры!

Але сын не ўтрымаўся: штаўхануў старога ў грудзі, ледзьве стары на нагах устаяў.

— Ты мяне біць? — усхапіўся дзед ды так абухам, абухам у плечы! Сын бацьку поўху, бацька сыну ізноў абухам у плечы... Пазбіваліся да крыві. Каб не ўмяшаліся суседзі, нет ведама, чым бы гэта бойка скончылася.

Бацька, паклаўшы сякеру, гайда ў воласць, а сын — за бацькам.

Нявестка, убачыўшы, што стары далёка ўжо адышоўся, паклікала Сымонку свайго і кажа:

— На табе трохі грошай, там, можа, каму падаткнеш, каб старому рэбрыны палічылі, а сам кіруйся, каб як выкруціцца.

Нет ведама, як там з імі ў воласці абышліся, але доўгі час абодвух не было; нявестка, бачачы, што іх усё яшчэ няма, зацікавілася і пабегла даведацца.

Толькі пачала мінаць Петуховы гароды, як бачыць: бяжыць Сымон, трымаючыся за паясніцу, збялеўшы, як палатно.

— Ну, як жа? Ці выкруціўся? — спыталася жонка.

— Я ўжо выкруціўся, а стары яшчэ выкручваецца! — прамармытаў скрозь слёзы Сымон...

## АДВАГА

Стаяла чыстая летняя ноч, цёмнае неба абняло ўсю зямлю, бледныя бляскі месяца паўзлі па лісцях.

І вось спакойны, глыбокі сон раптам парушыўся жудасным начным звонам. У вёсцы ўзняўся пажар. Перапуджаныя неспадзяваным звонам сяляне беглі к пажару з усіх канцоў вёскі.

Саламяная страха спарахнелай Пракопавай хаты ўжо ўся была абнята ўз'яраным полымем.

Сам гаспадар, растрачаны, мітусіўся каля хаты; відаць было па ім, што ад раптоўнага страху анямела сэрца, абамлелі рукі і ногі.

З грамады хтось крыкнуў: «Ратуйце дзетак, у хаце засталіся». Ачуняў адразу Пракоп, успомніў пра дзетак і кінуўся, збуджаны нейкай няўтрымнай адвагай, у гарэўшую хату.

Астаўбянелі са страху людзі, здавалася ўжо ўсім, што Пракоп і яго дзеткі навекі зніклі ў моры агню і адтуль няма звароту.

Здаецца, сэрцы іх замерлі, а вочы прыцягам глядзелі ў тыя дзверы, куды ўскочыў бедны Пракоп.

Прайшла цяжкая бязмоўная хвіліна, вымкнуўся ў акне Пракоп, несучы ў абсмаленай посцілцы сонных дзетак; іх падхапілі.

Гоман падняўся між людзьмі, чуваць быў адусюль плач... Дзетак выратавалі. Яшчэ раз выкінуў ён праз акно нейкае атрэп'е, не ўважаючы на крык людзей, каб ратаваўся сам, ды не далятала да яго вушэй ні адно слаўцо: страціўшы ўжо прытомнасць, ён не бачыў і як бы не разумеў, што над галавой яго ўжо гнуліся тоўстыя бэлькі.

Сцішэла ўсё, толькі трэск ад гарэлага дрэва разлягаўся ў начной цішы.

Вось апошні раз паказаўся ў акне Пракоп, у абгарэлым твары яго ўжо не відаць той іскры, каторая зіяла ў тыя хвіліны, як змагаўся за жыццё дзетак.

Засланіўшы скалечанымі рукамі твар свой, ён нібы збіраўся выскачыць праз акно, але адразу застагнала столь, самкнуліся бэлькі, хваляй ірвануўся к небу агонь і пахаваў пад сабой Пракопа.

Хаты ўжо не было, толькі ляжала вялікая куча абгарэлых бярвенняў, і комін, быццам хвігура самога Пракопа, маркотна глядзеў перад сабой на знішчаныя рэшткі сялібы.

Сцяўшы зубы, сяляне пачалі расцягваць абвугленыя бярвенні і з-пад ламачча выцягнулі абгарэлае цела Пракопа.

Бедна, без пачасці пахавалі яго.

Сцюдзёная зямля прытуліла бедака, а вецер усю ноч, быццам злуючы на людское сумленне, насіўся па магільніку, растрасаючы, як пух, сухое апаўшае лісце.

# БОР

Краскі красуюць і вянуць. Людзі родзяцца і ўміраюць. Гарады будуюцца і рассыпаюцца. Усяму бывае свой пачатак, і ўсяму бывае свой канец.

Прагавіта збіраючы сілу, непамерна высока разросся пад сінім небам гай. Глянуўшы на зялёную сцяну, узгляд астанаўліваўся на даўных векавых дубах, соснах, што гэтак горда паглядалі ўвыш. Зялёная мураўка быццам падзывала к сабе падарожнага адпачыць у цяньку ад гарачых праменняў сонца, і чалавек, каторы ў часе маркоты шукаў месца, дзе б можна было збыць цяжкія думкі, знаходзіў тут спакой і, прыслухоўваючыся к чароўным шэптам, упадаў у крэпкі сон.

«І чаго, чаго толькі не бачылі мы за свой век! — шаптаў лес падарожнаму.— Былі мы сведкамі, як свісталі тут кулі, як лілася кроў і валіліся без ліку людзі, вялікія героі знатнага роду, і каго любілі, і каго ненавідзелі яны,— разнёс усіх вецер прахам па полі. Ужо-ткі патроху і з памяці мінуўшчыны зыходзіць, толькі вось курганчыкі каля аблогі служаць яшчэ памяткай даўніх часоў людской няпраўды. Жывыя людзі на вачах мярцвелі, гнілі на зямлі і ў зямлі, і быццам у памяць па іх на спарахнелых касцях вырастала вярбіна ці лапушнік, а то магутны дуб.

Спытацца, то, пэўне, усякі з нас служыць памяткай якога-небудзь чалавека, бо няма тут і пядзі зямлі, каб не была збрызгана кроўю людской і не ляжалі ў зямлі пажоўклыя людскія косці...

Было ўсяго: і стогну, і пракляцця. Але мы жывём толькі на карысць чалавеку, і, хоць служым памятнікам усяго даўнага, ўсё ж такі нас карыслівы чалавек прамяняе на грошы, і толькі астануцца ад нас пачарнеўшыя пні ды зялёныя сіроткі-курганчыкі...»

Так і было. Захаладзела, снег, як пасцілкай, заслаў усё; абяліўся лес, быццам адзеўся ў новую апратку. Але гэта апратка была надзета як перад смерцю: вось яшчэ дзень, другі — і ўсё хараство векавога лесу павінна было легчы ў ног карыслівага чалавека.

Як гром, праняслося па ўсім лесе рэха ад тапара. Першая з берага застагнала і ніцма лягла елка, а там клаліся ўпавалку пышныя дубы, як сталетнія старцы, каторыя ў часе навальніцы не дбалі на страх.

Не было міласердзя: заўзятая рука не млела, раз'ераны тапор рубаў направа і налева, жудасна звінела піла, сіла прагавіта напірала ўсё далей і далей. Лес выміраў на вачах, толькі дзе-нідзе тырчэлі маладыя дрэўцы, прыгнуўшы свае вярхоўкі, быццам плачучы над забітымі таварышамі,— ціха шапацела асіна ды дрыжэў абмёрзлы хмызняк, каторага, можа, шкадуючы, абмінуў тапор. На пратаптаным снягу каля пнёў жоўтыя апілкі выглядалі быццам кроў лесу; а кругом з усіх старон яшчэ высіўся бор, з трывогай гледзячы на зямлю, дзе без ліку ляжала мёртвай брацці, і чакаў сабе смерці.

## АДВАКАТ

Нацягаўся Рыгор па горадзе, пакуль распытаўся адваката, каб просьбу напісаў на Ігналя Сіамітку за зямлю.

— Такі знайшоў! — уздыхнуў Рыгор і чуць не ракам папоўз па ступеньках. — Але ж і забраўся, каб ты выдах! — мармытаў Рыгор.— Пад самае неба. І чаму было кватэру не абабраць, ну, хоць бы каля шынка: там і грыўню лягчэй пераняў бы, і чарку калі-нікалі ўлавіў бы.

Гэтак, гукаючы сам з сабой, падышоў да дзвярэй, нясмела адчыніў іх і пераступіў парог.

— Ці ёсць пан адвакат? — спытаўся ў кабеціны.
— Ёсць, а нашто?
— Ды вось я з Ігналем ніяк не разбяруся, другі год пайшло, а ён не тое каб грошы, і ў вочы не плюне, а з зямелькі тым часам карыстаецца...
— Крыху пачакайце.
Рыгор перавёў дух, паставіў у куточку кій і толькі хацеў закурыць табакі, аж бач — выходзіць, мусіць-то, сам...
— Што скажаш, чалавеча?
— А вось, паночку, да пана, каб жалабу напісаць на Сіамітку: другі год ужо сядзіць у маёй сялібе, есць бульбачку дарэмную, а мне за гэта, не тут кажучы, хоць бы што...
— Добра. А пяць злотых маеш?
— Пяць не пяць, а што тры, то хоць зараз...
— Кладзі грошы.
Рыгор, як відзіш, шморг у капшук, адлічыў тры залатовачкі і паклаў на стале з самага беражка.
— Сядзь! — буркнуў адвакат.
— Сядзелі,— адказаў Рыгор. А сам і рад быў бы спачыць, але як глянуў на мэблю, то падумаў, што, можа, залатоўку, а то і дзве возьме за адпачынак, дык лепей не трэба.
Адвакат расклаў паперу і заскрыгаў пяром. Рыгор быў н684граматны, але як угледзеў, што адзін ліст папсаваў адвакат, другі, то падумаў, што дрэнная будзе справа: пэўне не напіша, а Сіамітка гэтым часам жуе там яго бульбачку і мадзее ў хаце.
А тут яшчэ адвакат паклаў пяро, ушчаміў у руцэ нейкую дрывотнінку, пашморгаў, пашморгаў ёю па паперы, а тады пахукаў разы са два, па паперы смаргануў ды ўжо за трэці ліст бярэцца.
Рыгора ажно ў жар кінула.
— Што гэта,— думае сабе,— будзе? Два-тры словы пяром скрыгне, глядзь, ножыкам, а то нейкім ражном ужо і выдзер!.. Во, набрыдзь!
І, азірнуўшыся на дзверы, Рыгор згроб са стала свае тры залатовачкі дый кажа:
— Выбачайце, паночку, што запуталіся, але, мусі-то, я не сюды трапіў, бо пан не іначай сталяр ці габляр, а мне адвакат патрэбен.

# ВЯСКОВЫЯ АСТРАНОМЫ

Доктар з астраномам, шукаючы спачынку душам сваім ад гарачых праменняў сонца, наважыліся на які дзень-два пакінуць горад і сцерці час у вёсцы.

Ведама, чаго шукалі, тое знайшлі. Дзве гадзіны дарогі — і вёска Халадцы, як вырасла перад імі. Ідучы вуліцай між старых хат, яны бачылі, як аглядалі іх праз вокны цікавыя бабы і як маленькія мурзатыя дзеткі, шэпчучыся адзін з адным, перабягалі праз вуліцу і прыглядаліся ім у вочы.

Як там што ні было, але панам усё падабалася, бо яны гэта блізка што ўпершыню бачылі. Доктар, выгадаваўшыся ў багатых бацькоў, праўда, чуў пра гора мужыкоў, але, не пазнаёміўшыся з іх жыццём бліжэй, мала ведаў аб іх. Гэтаксама і астраном. Давучыўшыся да сівых валасоў, а после дабіваючыся, як і калі будзе зацьменне, дзе якія планеты, не меў часу зірнуць у вёску, і, каб не шчыры яго прыяцель доктар, пэўне, што адзін не паткнуўся б туды.

Вось нашы вучоныя, агледзеўшы збольшага лес, поле, вярнуліся ізноў у вёску і зайшліся да селяніна Гапцуля папалуднаваць. Тое-сёе, глядзіш — заварушылася гаспадынька, затрашчалі на прыпечку трэсачкі, і смачная ячня ў момант апынулася на стале.

Тыц-мыц, глядзіш, троху зверху пазбіралі дый пакінулі. Яшчэ астраном туды-сюды, доктар, як відаць, і рад бы з'есці, але быццам нешта шкодзіла.

Тым часам у хату ўвайшоў сам гаспадар. Скінуўшы з сябе армяк і адгладзіўшы бараду, цішком сеў за стол, адваліў лусту хлеба, ушчаміў у таўстых пальцах ды пачаў сёрбаць капусту. Доктар, паказеліўшы вочы, глядзеў і дзівіўся, як Гапцуль маўчком спаражніў адну міску капусты, другую ды за трэцюю ўзяўся. Пачаў тут наш доктар шаптацца з астраномам, шырока разводзячы рукамі. А Гапцуль тым часам, толькі яшчэ пачуўшы самы смак, спаражніў яшчэ чатыры міскі крупніку.

— Гатоў аб заклад ісці,— мармытаў свайму прыяцелю доктар,— што гэты чалавек не далей, як сягоння ўначы, богу душу аддасць,— не вытрымае!

І вось, як будзе, то будзе, а доктар даў слова не ісці з хаты і чакаць бяды, каб у час памагчы чалавеку. Гапцуль, наастатку глынуўшы мерку квасу, адгладзіў бара-

ду і як паважна садзіўся, так паважна ўстаў ды, не раўнуючы, як пан, разлёгся на ложку.

Не агледзеліся, як надышоў вечар. Гапцуль, унёсшы свежага сена, прымасціў гасцям пасцель і кажа:

— Спаць-то добра, але мухі на раніцы пытлююць трохі.

Але астраном на тое адказвае:

— Добра-то добра, няма што, але мы лепш у садку выспімся,— бачыш, які вечар прыгожы.

— Ну, як сабе знаеце, але, па-мойму, дождж павінен быць.

Астраном ухмыльнуўся, падмігнуў на доктара, і яны паважна пасунуліся ў садок пад яблыню. У самай поўначы ні адсюль ні адтуль узняўся вецер ды калі ўрэзаў дождж, калі шматанула маланка, дык нашы начлежнікі, як мага кінуліся ў хату і з радасцю паляглі на прыгатаваным звечара месцы.

Астраном аніяк не мог дадумацца, як мог пазнаць просты мужык, што будзе дождж, калі ён, вучоны, і то не пазнаў гэтага. Толькі настаў дзень, доктар зірк, ці жыў селянін? А той і не лыс: спіць сабе, задзёршы галаву і падхрапваючы на ўсе лады, як у жалейку! Вось толькі прачнуўся Гапцуль, доктар і пытаецца:

— Скажы, браце, як выдыхаў ты ўчарашнюю ежу, няўжо нічога?

— А не! Гэта мой звычай, паночку: ем датуль, пакуль брухам стол не адсуну, а як ужо стол кранецца, тады годзе!

— А скажы,— перапыніў астраном,— адкуль ты ведаў, што дождж будзе ўночы?

— Ёсць у мяне рабенькі бычок, і калі толькі ён пачне хвост лупіць, то так і спадзявайся дажджу. На тым тыдні таксама ўвечары быў дождж, то мой бычок яшчэ досвіткам хвост пачаў лупіць.

— Слаўны бычок! Слаўны! — цадзіў скрозь зубы астраном.— Прадай мне яго; добра было б, калі часамі маё вока не спраўдзіць, то бык да толку давёў бы...

# АБРАЗОК

Даўно ўжо Наста Мазалёва збіралася купіць у кірмашовы дзень абразок святога Юр'я і нарэшце, як разжылася на грошы ды часу было, паважна паплялася к мястэчку. Кірмаш быў у самым руху. Як ні дабівалася Наста ў кнігароў абразка, хоць запалі — не было аніводнага; хацела ўжо ісці дадому, аж бачыць, яшчэ адзін кнігар застаўся ў старане і стаіць, выглядаючы купцоў, узяўшыся ў бокі.

Наста і валіць проста да яго.

— Чаго, рыбачка? — пытае кнігар.

— А вось шукаю абразка святога Юр'я, дужа хацелася б мець, ці няма ў васпана?

— Ёсць, любудка,— і пачаў поркацца ў шухлядах.

Але як убачыў, што гэтага няма, наважыў пакпіць з бабы і вось дастае малюнак з белым, як снег, канём і падае.

— Добры мой пане,— кажа Наста,— конь-то Юр'я я пазнаю, а дзе ж сам ён?

— Як дзе? — пытае нібы здзіўлены кнігар.— Бачыш лес?

— Бачу.

— Ну, дык ён у лес пайшоў.

— Не, не выпадае неяк без самога... Можа, у пана другі ёсць?

Ізноў пачаў рыцца кнігар і падае вядомага ўсім рыцара Баву Каралевіча на гнядым кані і кажа:

— Лепшага нямашака і не можа быць!

— Во, такі ёсць,— падумала Наста і, заплаціўшы грошы, з вясёлай мінай паплялася дадому. Але дзесьці ў дарозе, як разгледзела, што конь не белы, а гняды, варочаецца да кнігара і пытае:

— Чаму гэта, дзядзечка, конь не белы ў Юр'я, а гняды?

— Бо белы ўжо даўно здох, і ён цяпер на чужым ездзіць,— адказаў кнігар.

# ГОРКІ АГРЭСТ

Ля шляху, блізка паўвярсты ўдоўж і споры кавалак ушыркі, цягнуўся пекны сад селяніна Глячка, здаўна засаджаны яшчэ нябожчыкам дзедам.

Салодкія яблычкі, усялякіх гатункаў ігрушы, чорнажоўтыя сліўкі былі прынадай для тых, хто праязджаў шляхам улетку з засмяглымі вуснамі ад гарачыні.

Глячок, як кажуць, у шапку не спаў, абы хвіліна часу — з рыдлёвачкай у руках ён то там, то сям поркаўся ў садку: дзе зямелькі падсыпе, дзе падпорачку дасць, і праз гэткі догляд увосень добра набіваў машну.

Бывала, часамі хлопцы з суседніх вёсак уначы церушылі смачныя яблыкі і гэтым дужа гнявілі Глячка. Трэба было толькі ўгледзець на зямлі галінкі ад дрэва, гвалту не абярэшся. «Не шкада яблыка, але глум той нашто, больш таго лому, як крадзяжу!» — бурчэў цэлымі днямі Гляк і после ўзапар тыдзень-два не вылазіў з саду.

Вось неяк добра падпіўшы, Гляк праз увесь дзень спаў у пуні, а прыйшла ноч, пайшоў вартаваць сад, узяўшы з сабою старшага сына.

Сон не ішоў к яму, ведама, выспаўся, ну, а каб нудна не было, лёг пузам на траве ды, пазіраючы ў неба, лічыў зоркі.

Толькі налічыў капу і меўся ўзяцца за другую, ажно нешта зашасцела між кустоў і дзве доўгія цені папаўзлі к яблынцы, што расла блізка агрэсту.

Гляк штурхель сына: «Сымон, Сымон, чы чуеш? Госці ёсць. Уставай!» Сымон успахапіўся, працёр вочы і расправіў свае пукатыя плечы.

Ноч была не зусім цёмная, кругом было ціха, толькі з балота даносілася кваканне жаб. Раптам затраслося дрэўца. Як пачуў лопат яблычкаў, Глячок угрыннем панёсся па садзе, натыкаючыся на дрэвы, што густа раслі з берага.

— Ах вы, смуроды. Я ж вас патрасу! — нямым голасам зароў Гляк і, як авадзень, учапіўся за карак злодзея.

Сын пагнаўся за другім, але той быў жасцейшы [1]: як кот, шмыгануў праз пярэплацъ, і памінай як звалі.

---

[1] Жасцейшы — больш хуткі.

Ну што ж было рабіць з гэтым? Біць звычаю ў іх не было, ну, а каб раз назаўсёды адвучыць красці, казаў сыну сцягваць з госця нагавіцы і кашулю.

Спужаўся злодзей, не ведаў, што будзе, але пасля здаўся на тое; забіць не павінны: ну, а калі ўліюць, варт быў гэтага.

Сцягнуўшы з госця «шаты», сын маўчком узяў за ногі, перакінуў на другі бок агрэсту, а бацька згроб за рукі, пачалі голай спіной пацягваць з канца ў канец па агрэсце.

Той і прасіўся і маліўся, нічога, але як сказаў, што ён недалёкі сусед і першы раз на сваім жыцці памкнуўся красці, даючы пры гэтым слова, што апошні раз,— пакінулі.

Госць, не чакаўшы доўга, ірвануўся ўбок і, нягледзячы, што без дольнай апраткі, што маючы духу, засакатаў па дарозе, а Гляк з сынам аж клаліся са смеху, гледзячы адзін на другога.

Прыбегшы дадому, бядак не ведаў, як легчы, як сесці. Глякаў агрэст, як пісягамі, распісаў усю спіну, што ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць, бо, чаго добрага, дачуюцца.

Так прайшоў дзень, другі, аж неяк увечары прыходзіць кум і заве на хрэсьбіны. «Хадзем!» — адказу няма, пайшлі.

Гасцей шмат, поўна, як селядцоў у бочцы, хоць зачыні! П'юць, пяюць, ну, ведама, як на хрэсьбінах.

— А, кум, і ты тут! Сюды, братка, сюды. Во з кім я вып'ю! — адазваўся добра падпіты Арцём.— Садзіся!

— Дзякуй, дзядзечка, я так сабе — стоячы...— а сам аж гарыць ад сораму. «Во,— сабе думае,— схадзіў у яблыкі, завёў сябар, каб ён выдах!..»

— Ну, дык як жа, няўжо стоячы будзеш есці! Гэта ж і ў паноў такога звычаю нямашака! — адазваўся кум.

— Садзіся, дзядзечка, не бойся...— гукнуў з печы хлопец.— Садзіся, тут жа агрэсту нямашака!

Як бы апарылі бедака. Здаецца, хата кружылася, кружылася, а пасля паляцела некуды з гасцямі. Азірнуўшыся назад, ён угледзеў шапку, хапіў яе бардзей і пад рогат гасцей як куля вылецеў з хаты і што мага духу пабег у канец сяла.

Бег, не помніў куды, азірнуўся толькі тады, як без духу прыпёрся ўжо к нейчай пярэплаці.

Аж і тут перашкода: не паспеў адсапціся, аж чуе ней-

чы голас: «Куды, дзядзька, чы не па агрэст? Валі к Гляку, там заадно і штаны забярэш».

Узарваўся ізноў і ўзгайсаў з новай сілай дадому, і чым часцей перабіраў нагамі, тым мацней нехта крычаў на вуха: «Садзіся, дзядзечка, садзіся, тут жа агрэсту нямашака!..»

## У БАЛЬНІЦЫ

У вялікім светлым пакоі земскай бальніцы справа і злева на ложках, а то і дзе-нідзе на падлозе ляжалі з пабялеўшымі тварамі хворыя. Сонца, заліваючы яснымі бляскамі сцены, кідае праменні свае ў вочы няшчасным. Гледзячы на гэтыя глыбока запаўшыя твары, страх захоплівае здаровага чалавека, жаль сціскае сэрца — хочацца плакаць... То некалькі дзён таму, нават некалькі гадзін, можа, і не думалася гэтым бедакам апынуцца ў гэтым пакоі, але лёс накіраваў іначай: скрыганулі дзверы бальніцы і... зачыніліся. Ці надоўга? Мо зусім адгэтуль не выйсці, а толькі старая каняка зацягне замучанае цела на могільнік?

Хто згадае будучыню? І кожны хворы, затаіўшы ў душы надзею, прыглядаецца хараству дня, бліскучаму сонцу, а думкі лятуць і лятуць...

Пры самых дзвярах на цвёрдым ложку ляжыць дзіцянё — круглая сірата. Разумны погляд яго вачэй квапна спатыкае ўсякага, хто толькі не заходзіць у бальніцу, хоць ведае ён добра, што яму чакаць некага, яго даведацца не прыйдзе ніхто, ніхто... Нават тут, у бальніцы, дзе ён ляжыць ужо даўно, збрыдзеў усім: тут не прывыклі доўга займацца хворымі, а ён ляжыць і ляжыць — чужы, далёкі для ўсіх, і толькі думкі, сумныя думкі ўюцца ў яго збалелай галоўцы. Уюцца думкі, калі быў яшчэ здаровым, калі быў падпасавічам, як лётаў ён па ўзгорках і хмызняках са скацінкай, а вось цяпер прыйшлося яму ляжаць, прыкаваным да ложка і глядзець, як побач яго смерць косіць і косіць, і толькі чутно было, як сумна і зважна гудзелі званы, цяжка і глыбока ўздыхаў сірата, а думка гвалтам уціскалася: калі ж зазвоняць па ім?..

# ГОНАР

На краю бярозавага гушчару, пад калматай елкай, вырас непамерна вялікі баравік.

Колькі было гонару, неба толькі адно ведала; ад рання да змяркання, як чмель, гудзеў, скоса пазіраючы звысака ўніз, дзе раслі апенькі, казлы, лісіцы і ўсялякая, як казаў ён, пошасць.

— Што ж вы, дармаеды,— пад шум баравы мармытаў баравік,— я старшына, мне ж толькі пашана ад лесу і людзей.— Ні рост, ні сіла не раўня вам, карлюкам.

— Яго праўда, яго праўда! — шаптала сямейка апенек, прытуліўшыся к спарахнеламу пню.

— Глянуць на нас — смеху варта, камель, як лазіна, і шапка,— зжалься божа,— толькі знак той! А ў яго ж галава з салятырку і нага, як вываранень.

Ішоў лесам мужык і няўзнак падслухаў гонар баравіка.

— Э, стары грыбазвон, дос плявузгаць, хадзі-тка ў кош, пабачым, што рэкнеш, як палезеш у печ.

І, прыгнуўшыся к зямлі, звольна падняў яго ўгару, павёўшы вострым нажом па грубым ашыйку.

Але як угледзеў, што ўнутры капашыліся чэрві, мякнуў аб зямлю, наступіў шырокім, як засланка, лапцем і пайшоў паважна сабе далей.

# ПОСНАЯ ГУСЯЦІНА

Хоць і бедзен быў Дзяніс Гарбулёнак, але ніколі нікому не жаліўся і як мог скрываў перад людзьмі сваю беднасць.

Праўда, ён ведаў, што ніхто нічога не адбярэ і лепшага не дасць, але гэткі ўжо звычай меў: лепш — маўчаць; галодзен — слоўка не скажа, што есці хоча.

Вёска Дзірванцы, дзе радзіліся Дзянісавы дзяды, бацькі і ён сам, лічылася за самую бяднейшую ў ваколіцах, і досыць толькі здалёку глянуць на ламачча гэтых сярмяжных багатыроў, то ўжо надоўга заставалася ў памяці таго. Хаты ад хлявоў можна было адрозніць толькі па комінах. У гэтым доме жыў Дзяніс з маткай, кідаючыся, як кот у мяху.

Хлопец малады, працавіты, як вол, то ў сябе, то ў людзей рад быў пагуляць, і вось калі-нікалі то ў Дзірванцах, а то і ў Лядах, па суседству, хлопцы збіраліся сямейкай і весялілі сваё гора.

Бывала, Дзяніс адыходзіў далёка ад вёскі і час праводзіў, казалі, у чужых, ну, а як сам маўчаў, то ніхто пэўне не мог ведаць, дзе бадзяўся Дзяніс.

Але шыла, як кажуць, у мяху не ўтаіш, так і Дзянісава сцежка атапталася, і сябры даведаліся, што ў вёсцы Бягунцах жыла нейкая Кацярына, каторая прыглянулася сіраціне.

Тады, абы час, плёўся Дзяніс пагаманіць з Кацярынай.

Там ён быў ужо як свой. Прыйдзе, бывала,— палуднуюць, Дзяніса просяць, а той ані блізка, дзякую, кажа, выходзячы палуднаваў.

— Ну, а што ж ты еў, што ты еў,— сакатала Кацярына,— пахваліся!

Што было на гэта казаць? Валіць проста з мосту, што галодны, як воўк, не хацеў, а каб адказацца, не запінаючыся, адказваў: сягоння еў гусяціну, а калі траплялася пападаць другім разам к полудню, на пытанне Кацярыны казаў — еў парасяціну.

Дзяўчына дужа хітрая была, ведаючы па расказах дзірванцаў яго жыццё, не верыла Дзянісу і наважылася пераканацца, чы праўда, што ён баіць.

У той час, калі меўся быць Дзяніс, яна, нічога не кажучы, абчапілася шатамі і гайда туды, дзе жыў яе багач. Прыходзе. Слова, другое, старая адразу згадала пусціць яе нанач, гледзячы з боллю на яе лахманы.

Дзяніса не было дома. Той, не ведаючы гэтага ашуканства, нават спаткаўся з ёй, ідучы ў Багунцы, але яму і ў галаву не прыйшло, што гэта ішла не ўбогая, а яго Кацярынка.

Пагаманіўшы са старымі, ён паплёўся дадому, пытаючыся ў сябе, дзе ж яна магла быць?

А тым часам духі ўжо гэтак падвяло, што ледзьве не з'еў сабаку, што напаткалася яму.

Заледзьве прыйшоў дадому. Азірнуўшыся кругом, ён убачыў, што на печы нехта спаў. Маці кажа: «Убогая!» Убогая — дык убогая, не выганяць жа, усе людзі, усім жа жыць хочацца.

— Мамка, а чы няма чаго павячэраць, есці дужа хочацца.

— Ёсцека трохі кашы, і тая, як змей, посная. Хіба спрабуй, але не ўясі.

Дзяніс, нічога не кажучы, згроб з прыпечка гаршчок, зняў з паліцы сподак з алеем, памачыў туды кноцік і ашчадна папырскаў на кашу.

Тыя кроплі, што ляніва спаўзлі з кнота, быццам давалі смаку, і каша, варочаючыся ў Дзянісавых пашчэнках, праз хвілю знікла.

Кацярына з печы ўсё бачыла і ніяк не магла дачакацца раніцы. Дзянісава сэрца і яго пачуццё было для яе ясна, як зорка.

Ніхто не бачыў, як уцякла з хаты яна.

Праз нейкі час прыходзіць Дзяніс, праўда, незадоўга да полудня. Ну, ведама, просяць разам за стол. Той ані блізка. Сыт, кажа, сыт.

— Ну, што ж ты еў, што ж ты еў? — пытаецца Кацярына, шчыра гледзячы яму ў вочы.— Кажы толькі праўду.

— Гусяціну,— ужо больш смела адказаў Дзяніс.

— Добра, братка, добра,— шэпчучы яму на вуха, казала Кацярына,— а чаму ў цябе кнот на зубах той, што ўчора шпацыраваў па сподку і па кашы.

Дзяніс счырванеў, але Кацярына ўскінула рукі, моцна сціснула яго за шыю і шчыра пацалавала, кажучы пры гэтым:

— Ты праўдзівы чалавек, цябе вось я і люблю.

## ГОЛАД

Худы, ледзьве жывы вартаўнік Сёмкавай сялібы сабака Дудка, не раз галадаўшы колькі дзён узапар, цяпер не вытрымаў і пайшоў ад свайго гаспадара шукаць шчасця на старане. Доўга, бядак, туляўся ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі, без жаднай пажывы і нарэшце без сіл заваліўся пры нейкай драцяной загарадзі, водзячы соннымі вачыма перад сабою.

Кругом было ціха, але так ціха, што ён нават чуў, як вурчэлі галодныя трыбухі і быццам штурхалі яго з месца, каб ісці — без адкладу ісці.

— Пайду, калі так,— памысліў ён,— як будзе, то будзе, не пажыўлюся — вядомы канец.

Ідучы крок за крокам ля драцяной загарадзі і сланяючыся з боку ў бок, узгляд яго застанавіўся на пекным доме, што, як багатыр, стаяў паміж зеляніны, ласкава ўглядаючыся маляваным дахам у неба.

А што, каб звізітаваць туды, можа, костачку або скарыначку падняў бы, напэўна, тут з голадам зусім не знаёмы.

Але ж як прайсці, калі так заблытана дротам загарадзь, што носа не ўткнеш, а не тое каб усяму пралезці...

Хацелася разагнацца, скакануць, як калісь бывала, увысь, ды дзе ж: сілы той, што ўперад была, цяпер і паміну не было.

Так пайшоў далей, прыглядаючыся на красачкі і зеляніну, што раслі за загараддзю.

Вось жыццё дык жыццё, мысліў ён, гэта не тое што ў нас у вёсцы, куды вокам ні кінь, усюды то крапіва, то палын, і ўсё ж гэта горкае і калючае, і ў гэтых думках, пераступаючы крок за крокам, убачыў пад драцяной загараддзю свежападрытую яму.

— А... вось дзе шчасце напаткала мяне,— гледзячы на жоўценькі пясочак, радаваўся ён, і, доўга не мысліўшы, падагнуў лапы, прытуліўся як мог да зямлі і, як відзіш, апынуўся там.

— Пажыўлюся — добра, а не — не шукай мяне, мой гаспадарок, не пайду адсюль, няхай хоць адзін сабачы сын спаткае смерць у пачэсным месцы.

Гэтак ідучы з выцягнутай, як прадла, галавой, ён падышоў к шырокаму ганку і паступіўся дзвюма лапамі на ўсходках.

Прыемны дух засвідраваў у носе яго і разбудзіў сонныя, галодныя трыбухі.

— Не пужайся,— быццам нехта шапнуў яму,— ідзі без боязні...

Толькі пераступіў апошнюю ўсходку і хацеў зрабіць рэвізію на падлозе, як на спатканне к яму паважна ішоў беленькі пудлік з нейкімі цацкамі на шыі.

Убачыўшы гасця, ён перш сабраўся было заякатаць і падняць усіх на ногі, але, як убачыў, што госць пакорна лёг перад ім, падтуліўшы хвост і лапы, паласкавеў і пачаў абнюхваць яго пакамечаную поўсць.

Відаць, пакорнасць касцістай асобы разжаліла яго і прымусіла звярнуць увагу.

Дудка не дурань быў, угледзеўшы ў вачах гэтага дабрадзея ласкавы пагляд, ён перш выпрастаў адну нагу,

тады другую, стаў на ногі і пайшоў следам за ім, у той бок, адкуль нёсся прыемны пах смачнай стравы.

Пудлік, закруціўшы хвост абаранкам, ішоў уперадзе, пазіраючы на галоднага госця.

Сюды, сюды, быццам хацеў сказаць ён, углядаючыся на бедака.

Сюды... Дудка, не спрачаючыся, ішоў; і чым бліжэй пасоўваўся, тым прыятнейшы пах разлягаўся кругом і падманьваў яго к сабе.

Нарэшце ў белай, як снег, талерцы ўгледзеў той прысмак, каторы здалёку цягнуў яго к сабе.

Нюхнуўшы троха зверху, з радасці ён ледзьве не звар'яцеў, памкнуўся было расправіць сваю шырокую мяліцу, каб праглынуць усё, што толькі бачылі вочы, але чы то з боязні, чы з далікатнасці адвярнуў галаву ўбок і жаласліва глянуў у вочы свайму дабрадзею.

Той, падагнуўшы хвост, сядзеў і маўчаў.

Значыць, можна, калі так, памысліў Дудка і звольна, не спяшаючыся, пацягнуў языком па страве.

Надта ж смачна паказалася яму. Не разбіраючы ўжо, чы можна хватаць так, як хватаў удому, ядучы з свінnямі, увабраўся туды з галавой і, як відзіш, спаражніў усё да капелькі.

Засталася толькі костачка, каторую ён пакінуў напаследак. І вось цяпер, калі дайшла чарга да яе, пачаў лавіць костку на слізкай талерцы.

Ведама, хто не прызвычаены да гэткага шыку, то з непрывычкі не патрапіць зграбна ўзяцца, і Дудка надта нязграбна пераняў яе на зубы і, хапаючы костку зубамі на паветры, на вачах свайго збавіцеля клыком адбіў споры кавалак талеркі.

Вось — так спраўляецца, памысліў пудлік, гледзячы на вышчарблены ражок і на костку, што, як цукерак, захавалася ў шырокім яго горле.

Дудка тым часам аблізваўся і паглядаў на дзверы, каб выйсці. Толькі сабраўся ступіць, як пачуў, што нешта ў старане зашасцела, і ўбачыў, як чыясь доўгая цень выпаўзла з-за вугла.

Ён зірнуў і абмёр. К яму краўся нейкі чалавек быццам бы са стрэльбай у руках.

— Ату...— зразу зароў ён і злажыўся...

Нешта зашумела, пляснула і пацягнула дымам.

Відаць было, як Дудка нёсся па дарожцы к таму мес-

цу, кудой увайшоў, а после спыніўся і сеў, пазіраючы на тую яму, што так недалёка ўжо была.

Чырвоныя плямы закрасаваліся на жоўтым пяску, і промні сонца выпаўзлі з-за зялёнага куста і доўга асвячалі цела галоднага бедака.

# АБМЫЛКА ВУЧОНАГА

Сын ляснічага, студэнт апошняга курса высокіх навук, прагульваючыся ў гарачы летні дзень па сенажаці каля рэчкі, звярнуўся да пастуха Дзяніса, што сядзеў на купінцы, і кажа:

— Толькі селянін, жывучы між пахучых лясоў і бязмерных зялёных палёў, бачыць праўдзівае хараство прыроды і можа ўволю прывітацца з ім; ці рассцілаецца над возерам імгла, цалуючы зялёную травічку, ён першы спаткае і правядзе яе. А што ж бачым мы, жывучы ў горадзе,— сырыя мураваныя сцены, дзень і ноч чуем грукатню калёс і больш нічога, дрэўца дзе напаткаеш і тое караменькае, ведама, расце з прымусу.

— Так-то так, паночку,— адазваўся Дзяніс,— выбачайце, даражэнькі, што памыкаюся ў размову. Не ведаю, як там у горадзе, бо ніколі не давялося быць, а пра вёску не ўцярплю, скажу, што ведаю, калі толькі паслухаеце мяне, простага мужыка... Што ніхто раней за селяніна не згледзіць, калі ўстае і кладзецца сонца, гэта праўда, ніхто так не бачыць той цёплай і халоднай імглы, як наш брат, то ж праўда, а што нікога так скоранька не ашчэпіць за шыю торба, як селяніна, гэта таксама жывая непадробленая праўда.

— А чаму ж? — спытаўся здзіўлены студэнт.

— А вось, паночку, па парадачку, перш прадмову: абы нарадзіўся мужык, зараз следам голад, холад, хваробы, змагайся, калі жыць хочаш, а крыху прыжырхнуў [1], ну і будзеш спаць, пакуль Міхал Арханёл не ўзбудзіць ад сну. А калі так-сяк пераківаўся і ўстаў на ногі, само жыццё дапаможа і зробіць з цябе ўбогага... Ці бачыце, паночку, вунь вёску Млехава, хат з паўсотні на прыгорку стаіць. Так вось і мая там сялібінка калісь бы-

[1] Прыжырхнуў — прыдрамаў.

ла, а цяпер ні кала ні двара, з гаспадара пастухом стаў, ганяю, як самі бачыце, чужы скот, папіхач — дый толькі. Сядзеў, як і ўсе, на чужой зямліцы, рваўся як мог і туды і сюды — нічога, што не ўзгарусціў чынш [1],— хвароба ў перазыўкі прыходзе,— адагнаў хваробу — недарод падскочыў; змагаўся, змагаўся, а нарэшце здаўся. Хоць страшэнна шчыміць сэрца, успомніўшы пра тую хвілю, але каб пану было вядома бліжэй жыццё бяздольных нашых братоў, крану загоеную рану...

Быў гарачы летні дзень, усе, як адзін, мы працавалі на сенажацях, скрозь заросшых высокай травой. Адпачынку не было, а пагода служыла, ну, і завіхаліся, каб барзджэй скончыць ды за жніво ўзяцца. У кожнага працаўніка была думка ўзгарусціць к восені хлеба, прызабыць на голад, аж бач не — няшчасце ціхачом падпаўзло і знішчыла ўсё на прах... Сонца захавалася за хмарку, крутануў вецер, падхапіў з дарогі пыл і загайсаў па полі. Замігацела маланка, пасыпаўся дождж з градам, гракануў пярун, і бура папёрлася на лес, кладучы па дарозе векавыя бярозы.

Замоўклі людзі, пахаваўшыся хто куды.

Ох, шорхна ўспомніць тую хвілю, як развіднелася, богу толькі ведама. Град скамечыў усё, што было на полі, бура параздзірала стрэхі, зруйнавала з зямлёй і папёрлася, як шалёная, у пушчу. Плач бяздольных сялян разлягаўся дзень і ноч. Пайшла гутарка па вёсках, што гэтак не будзе, што аб няшчасці вядома ўсюды і не далей як заўтра-пазаўтра помач з'явіцца.

Чакаем, туляемся каля вуглоў, глядзім на дарогу; ніхто не едзе, не ідзе — каму баліць галава аб чужой бядзе? Пражылі дзень, пачалі другі, аж бач, поўднем падняўся гоман, і народ гуртам паваліў к выгану.

Ну, сабе мыслю, помач тут, недарма казалі, калі пакараў бог, людцы добрыя руку пададуць. Падыходжу. Бачу — каля Міронавай хаты стаіць шарабан, запрэжаны пышнай паркай коней, і нейкі пан з доўгай сівой барадой аглядае бяду і сялян.

Адлічча на грудзях і бліскучыя гузікі, пераліваючыся на сонцы, аж кідаліся ў вочы.

Здымаю шапку і прыслухоўваюся. Плач, крык, енк глушаць вушы. Сяляне бягуць, як вада, бабы, цягнучы

[1] Не ўзгарусціў чынш — не сабраў грошы на арэндную плату (чынш — плата за арэнду).

за сабой дзяцей, аж валяюцца, спешучы к грамадзе, каб папасці на большую сям'ю большы куш.

Хлапцы аглядалі магучую фігуру пана, мудронага фурмана, што, адставіўшы даўгі біч, быццам хацеў праткнуць неба, лічылі гузікі на грудзях, мацалі мяхі, туга набітыя ў задку, цярпліва чакаючы дзяльбы.

Чую, пан загаманіў: «Слушайце, братцы, жаль мне вас, но что же дзелаць, я только сфотографіраваць прыехал, фотографію снять, не больше — понятно?»

Стаім салапячым, ані ў зуб нічога не ўцямім, што будзе здымаць, калі ўсё было знята з поля, з плеч і стрэх.

Маўчым, глядзім, як ён расставіў нейкія рагулі, быццам венцяры, абкрыўся чорнай, як смоль, хусткай, зайшоў з аднаго боку хаты, з другога і, парачкаваўшы хвілю, зложыў рагульцы і гульк ізноў у шарабан. Фурман крануў лейцамі — і коні звольна затупалі.

— Паночку, паночку! — загаласілі мы.— А дзе ж наша помач, казалі, не пакрыўдзяць, дадуць нешта...

— Должны даць, должны, церпеніе,— і скрыўся на павароце за гумном.

Доўга глядзелі мы ўслед, як каціліся колы, уносячы нашага дабрадзея, а пасля пайшлі к Міронавай хаце аглядаць, якую ж хваробу знялі з яе.

Як ні дабіваліся ўгледзець, што было знята, аніяк не ўдалося, усё, здаецца, было на месцы пасля перуновай візіты, а можа, і не, кадук яго ведае, калі слепата тая мужыцкая.

Наплакаліся, нагараваліся, як досыць. Плач не плач, як той казаў, пугай абуха не пераб'еш; так і мы аплакалі лес, а па нас ніводзін бес.

І што ж, скажыце, памаглі? Хавай божа! Хто яшчэ меў за што рукі зачапіць, мадзее як-небудзь, а большая часць ушчамілі кіі, абчапляліся торбамі і ну ў свет, як мышы рудыя.

Не так горка было глядзець на старых, яны прывыкшы да гора, а дзеці... дзеткі тыя бедныя, як будзе з імі, што яны дадуць свету?

Так во дзе доля багатыра сярмяжнага, во яна...

Дзякую, паночку, што паслухалі мяне, рад бясконца, з радасці плакаў бы, ды слёз нямашака — выплакаў даўно...

# АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ

На краю вёскі Вязынкі, у хатцы, уросшай адным бокам у зямлю, жыў бабыль Амос з жонкай Агатай.

Калісь, даўно-даўно Амос, застаўшыся круглай сірацінай, выкачаўся між чужых людзей і выйшаў у свет адзін, як бізун.

Голаду і холаду як досыць ужыў, быў, як кажуць, на кані і пад канём, але пры гэтым усім, хоць і застаўся нявучаным, за чыстату душы і праўдзівасць лічыўся за сумленнага чалавека.

Жонка яго Агатка, дачка беднага селяніна, упадабала Амоса і, не спаткаўшы са стараны сваіх бацькоў жаднай перашкоды, выйшла за яго замуж.

Жылі хоць бедна, але згодна. Сілай і здароўем бог не пакрыўдзіў, толькі адно бракавала: не было ў іх дзетак.

Не было ў павеце той царквы, дзе не маліўся б і не даваў на афяру Амос; не прамінуў ні аднаго крыжа на дарозе, дзе не застанавіўся б ён і, зняўшы шапку, не шаптаў бы малітвы, просячы ласкі боскай.

Голас Амоса не даходзіў, просьба не была прынята.

Страціў надзею Амос, упаў духам. І толькі, гледзячы на закураныя куткі пустой хаты, цяжка ўздыхаў і мысліў, што чакае іх на старасці.

Так прайшло шмат гадоў, і нарэшце, перад самымі калядамі, калі завіруха зацямніла свет, Амосава хатка стала найшчаслівейшай на свеце.

Тоненькімі, піскливымі галаскамі прабудзілася цішыня, што з даўных часоў панавала ў Амосавай хатцы: на свет нарадзіліся два хлопчыкі-блізнючкі.

Не можна вытлумачыць тую радасць, якую перажываў Амос. Радасць вярнула сілы, сілы ўзбудзілі надзею, з надзеяй з'явілася новая дарога да жыцця.

Праз два тыдні малых ахрысцілі і далі імёны Янук і Рыгор. Амос хоць і бедзен быў, але хрэсьбіны так-сяк справіў.

Адтуль, адсюль наехала радні, завязалася гульня. Амос з радасці не верыў, на якім ён свеце; частуючы гасцей, сам так начаставаўся, што і пеўнем пяяў, і ваўком заводзіў, то падскакваў пад столь, то ішоў упрысядкі.

Дзень за днём, год за годам дзецюкі качаліся і, прыгрэтыя ласкай бацькоў, падрасталі.

Хоць невучоны быў Амос, але шырокі меў погляд на сваіх дзетак. «Як бы ні жылося,— казаў ён,— а калі бог пазволіць, пакладу апошнія сілы, а сваіх дзецюкоў выкірую на людзей».

І толькі скончылася хлопцам па 7 гадоў, абодвух выправілі ў школу. Шпарка ўзяліся яны за навуку і, адзін перад адным аж завіхаліся, пераходзячы ад кніжкі да кніжкі.

Але Рыгор чым больш рос, тым менш браўся за навуку, і праз які час не агледзеўся, як далёка застаўся ад Янука.

Бацькі і добрым словам, і пагрозай прабавалі ўтлумачыць яму, што без навукі жыць дрэнна, што невучоны горш за сляпога,— нічога не памагло.

Рыгор калі-нікалі заходзіў у школу, але галава была больш занята гульнёй, як навукай, і абы толькі пагодны дзень, ён з паўдарогі вяртаўся і, як непрытомны, пёрся ў лес, к рацэ, дзе і сядзеў да вечара.

Што ён там рабіў — не ведалі. Сіла і рост непамерна прыбывалі к яму.

Не было роўнага яму ў вёсцы. Падчас, калі, бывала, таварышы чым-небудзь даймуць яго, Рыгор паказваў сваю сілу і распраўляўся не па-дзяцінаму.

Рыгора хоць і не любілі, але і баяліся, асабліва ў тую хвілю, калі ён зазлуе і ў яго маленькіх вочках з'яўляўся нейкі таёмны вогнік.

Прыціхалі і ціскаліся адзін к другому яго таварышы, ведаючы сілу і знак гэтай іскрынкі.

Але гэта іскрынка, як хутка з'яўлялася, так раптам знікала, і Рыгор быў зноў бясконца добры.

Раз, пасучы на выгане скаціну, ён узлаваўся на бычка-пярэзімка і на вачах усіх скалануў раз-другі за рогі, і бычок, як пласт, разлёгся на зямлі.

Падчас Рыгор забываўся на ўсё, выходзіў з хаты і знікаў на колькі дзён, і дзе ён быў, было вялікай загадкай для ўсіх.

Толькі пасля гэткай вандроўкі пралежваў па цэлых днях, не гаворачы з нікім ані слова.

Дома яго не шукалі. «Знік — найдзецца. Не першыня»,— казалі бацькі на пытанне суседзяў.

Да працы Рыгор дужа заўзяты быў, і што ні загадалі б яму, як відзіш, было зроблена.

Неяк пад восень загадаў яму бацька выкапаць колькі нягодных дрэў. Рыгор паважна браў рукамі дрэўца,

туліўся к яму, прыгнуўшы плечы, ірваў адно за другім з карэннем і, як пярыну, выкідаў праз плот на вуліцу.

Аб страшнай сіле Рыгора гутарка пераходзіла з вёскі ў вёску, і кожны з сялян з уцехай глядзеў на магучы рост і шырокія плечы яго.

Янук зусім другога крою быў. Не меў ён той сілы і краскі ў твары. Худы, з уваліўшыміся грудзьмі, ён выглядаў на хваравітага, у вачах яго свяцілася бязмерная дабрата, і досыць толькі раз глянуць на гэтага мізэрнага хлопчыка, а пекны выраз твару надоўга заставаўся ў памяці.

Дабрата душы і шчырая прыязнь к людзям адбівалася ў яго паступках, як у чыстай вадзе.

Бацькі не маглі нарадавацца, гледзячы на сынка, як той вучыўся сам, вучыў другіх і даглядаў, як меў час, за гаспадаркай.

Адна была думка Янука: скончыць школу, сабраць грошы і ехаць у свет за навукай.

«Як будзе, то будзе, працуючы, з голаду не памру, а калі бог пазволіць, прайду навукі, выйду ў людзі і зашаную хоць на старасць сваіх бацькоў»,— так казаў Янук.

Даўно жаданая часіна надышла. Янук вясковую школу скончыў і пачаў ладзіцца ў дарогу.

Праз які час настаў той дзень, і машына, як відзіш, звезла яго з роднага гнязда.

Праляцелі перад вокнамі апошнія хаты роднай вёскі, палі, залітыя блескам сонца, пералескі, гарушкі і чырванаватая гліняная зямля.

Едучы, здавалася, смяялася неба, смяяліся пры лініі хаткі, смяяліся чыесь дзеці, што рыліся ў полі ў картафляніку, а тым часам яго бацькі, ідучы з вакзала, заліваліся горкімі слязьмі пры ўспамінку аб ім.

«Божа мой,— казала маці,— хоць сынок і добры, але ўсё ж не на ваччу, спаткае ўсякіх людзей і будзе кідацца, як авечка заблудная, а ты, маці, плакала, пакуль узгадавала, плач цяпер, не бачачы яго.

Застаўся ўдому Рыгорка, добры сынок, але што ж, калі пры яго сіле і гарачым характары спадзявайся бяды».

Гэтак штодзень плакала маці, штодзень нудней было жыццё Амосавай сям'і, і ўся тая радасць і надзея раптам адышла на старану.

Рыгор аніяк не мог згадзіцца, што нямашака брата,

апусцела хатка, без яго няміл стаў свет, дзіка выглядалі закураныя куты, дзе Рыгор штоноч бачыў цень Янука.

Адзічаў Рыгор, стаў чурацца хаты і людзей. Вандраваў часта і падоўгу.

Што ні напрасіліся бацькі, каб ён пачаў жыць іначай, Рыгор маўчаў і цяжка ўздыхаў. Па яго муках можна было разумець, як дараг яму быў яго брат і як цяжка была разлука з ім.

— Рыгорка, сынок мой! — наўзрыд плакала маці.— Адчураўся ты хаткі, адчураўся нас, старых, адчураўся.

— Не зусім жа з'ехаў Янук, дасць бог, вернецца ў здароўі. Пакінь, сынок, думкі, пакінь, няхай ужо я, ведама, маці, а ты патужыў, патужыў — ды і годзе.

— Не, мамка! Не так лёгка забыцца пра яго. Ніхто не зможа пазнаць маёй мукі, якую пераношу я з таго часу, як пакінуў нас Янук. Ніхто не ведае, які цяжар залёг у сэрцы маім. З таго моманту, як зачыніліся дзверы за ім, зачынілася жыццё для мяне. Нямашака месца ў хаце, хоць у лес уцякай. Штоноч бачу яго цень у гэтым кутку з худымі ўваліўшыміся грудзьмі. Страх, як баюсь, каб чаго не здарылася з ім. І нашто ён разлучыўся з намі? Няўжо там, куды ён з'ехаў, спаткае родных бацькоў і брата. Не! Усюды будзе чужы, хоць і спаткае прыяцеляў, але не шчырых.

Так гамонячы з бацькамі, ён хадзіў па хаце, прыгнуўшы галаву, каб не крануць столь, і яго сажанёвая фігура наводзіла страх.

После гэтага назаўтра Рыгор знік і толькі праз колькі дзён варочаўся назад.

Ідучы шляхам, толькі мінуў прыгуменне, аж угледзеў, як няслісія к іх вёсцы з канчукамі ў руках стражнікі.

Зацікавіўся ён і ўгрыннём [1] панёсся, што было духу, за імі. Дарогай напаткаў суседку Дзеркачыху, і тая збольшага растлумачыла яму, што была ў панскім лесе парубка, і вось у часе спрэчкі пан стрэліў у Хвалея, а той, смешкаў не пазнаўшы, як стрэліў калком, то ўжо пан і дамоў не здолеў ісці, а падхапілі служкі і павялі Ну, вядома, клікнулі стражнікаў.

Ведаючы, які канец будзе з гэтай бойкі, ён, не помнячы, рынуўся далей. Тут яго вачам з'явілася дужа нудная сцэна.

На дарозе, як прышыты, ляжаў яго хросны бацька

[1] Угрыннём — вельмі імклівa, на злом галавы.

Кірыла, і з галавы яго цурком цякла па пасінеўшаму твару кроў.

Рыгор разам падхапіў старца, аднёс з дарогі к плоту і пабег далей. Не чуў ён пад сабою ног, як нёсся к грамадзе, не чуў ужо плачу дзяцей, што рэзаў вушы здалёку, толькі бачыў расцервіўшыхся стражнікаў ды пакрываўленых сялян.

Зашчаміла сэрца Рыгора, застукала ў скронях кроў, разам ірвануў ён з пярэплаці кол, сунуўся ўсярэдзіну і шырока замахнуўся.

Было відаць, як прачышчаў дарогу Рыгор і валіліся з канёў адзін за другім стражнікі.

Нет ведама, ці доўга бы тут змагаўся Рыгор, але ўзгляд яго раптам застанавіўся на людзях, што корчыліся на дарозе, і тут вымкнуўся з рук яго кол, затрэсліся рукі, азірнуўшыся кругом, ён павярнуўся і пабег праз выган у лес.

Рыгор знік, як у ваду; доўгі час шукалі яго.

Прыехаўшы ў вялікі горад, Янук, пакуль набрыў на спрыязных людзей, як досыць ужыў і холаду і голаду, а после час бег, як за вераценцам, ён трохі прызабыўся на бяду.

Гарадское жыццё і навука саўсім перарабілі яго на другі лад. Не было і знаку, што гэты дзяцюк, з даўгімі валасамі і бялюткім тварам, сын вясковых бацькоў: не было ўжо таго пагляду на жыццё, які меў, жывучы ў вёсцы.

Хоць і раней балела яму сэрца, як бачыў скрыўджаных, але, мала ведаючы ўсе патайныя сцежкі жыцця, шмат чаго прапускаў міма вока, цяпер жа, калі прайшоў навуку ды бліжэй пазнаў жыццё, у вачах яго ясна рысавалася ўся няпраўда, што пануе асабліва над бедным людам. Не зносіў ён няпраўды. Яму жадалася свету, праўды, брацтва, дабра і яго шчырае сэрца, ірвучыся на прастор, знаходзіла спачын там, дзе мог на сабранні з сваімі сябрамі ў гарачай гутарцы вытлумачыць тую боль, ад каторай мучылася яго чуткая душа.

Дні беглі за днямі: часта ў Янука збіраліся яго хаўруснікі, гаманілі аб нейкай прынадзе, то ад'язджалі, то прыязджалі з нейкімі пакункамі і з нецярплівасцю чакалі таго дня, калі ім упяцёх прыйдзецца заняць тое месца, дзе павінны былі спаткацца з імі іх ворагі.

Даўно жданы дзень надышоў, і толькі стукнула тая часіна, як усе яны пазаймалі кожны сваё месца, ані не мысліўшы аб тым, што, можа, апошні раз бачаць свет.

Страшная вядомасць, як маланка, абляцела ўвесь горад. Шмат гаманілі, бегалі, бегалі і арыштоўвалі ўсякага падазронага.

Ні Янук, ні яго хаўруснікі не вярнуліся дадому, бо ўсе, як адзін, папаліся на месцы і былі замкнуты ў астрозе за моцнымі замкамі. Пайшлі дапросы, хто і што? Як ні дабіваліся пазнаць фамілію Янука, жадным правам не ўдалося, так і лічыўся невядомы, 23 гадоў, брунет з чыстым тварам.

Усё ад тых дат прапала: дружба, бацькі, брат Рыгор; усё разляцелася, як імгла ў полі.

Праз колькі дзён іх пад сільным канвоем павялі ў суд і размясцілі паміж салдат на даўгой лаўцы.

Янук мутным вокам акінуў вялікі, абшырны пакой, усіх, што сядзелі за шырокім сталом, і, гледзячы, мысліў: няўжо гэта проці іх назбіралася столькі людзей, каб падрад колькі гадзін гаманіць, пытацца пра тое, што ўжо даўно абрыдала адказваць, і после ўсяго нарэшткі сказаць тое, што ўсякі з іх ведаў наперад.

Суд зацягнуўся надоўга, бо ўсе, як адзін, на запытанне давалі адказы кароткія, з каторых мала чаго можна было зразумець.

І вось, калі праз шкло ў вялікіх вокнах зазіяў чырвоненькі промень ад заходзячага сонца, суддзі вынеслі прыгавор: усіх пяцёх на шыбеніцу.

Ціха і спакойна выслухалі ўсе смяротны прыгавор. Не ўздрыгнула ні адна жылка на іх мізэрных тварах, і ўсе, як адзін, нібы па камандзе, нахлабучылі шапкі і папляліся да сходаў за салдатамі.

Ідучы праз горад, Янук сквапна ўглядаўся на вялікія дамы, шырокія вуліцы і на людзей, што, як мурашкі, мігціліся то ўзад, то ўперад, ані не дбаючы на іх.

Глядзеў на гэту абрыдлую таўкатню; яго мыслі перабягалі з горада ў вёску, дзе хоць бедна, але ціха праводзіў дзяціны час. Канвой застанавіўся. Залязгала жалезная брама, лянива адчынілася і, як толькі канвой пераступіў, зачынілася, прыдушыўшы за сабой усё свабоднае жыццё.

І той прыдушаны зык, які, як злодзей, папоўз праз жалезную браму, праз пусты двор, праз краты і ўбіўшыся ў сыры, непрыступны мур, замоўк.

Ідучы даўгімі калідорамі, спатыкалі з апушчанымі вачыма людзей, каторыя як бы не бачылі нікога і нічога перад сабою.

Янук глянуў аднаму-другому ў вочы, жадаў угледзець, ці ёсць у іх хоць іскрынка, што зіяе ў вачах кожнага чалавека, аж не,— ашукаўся: твары былі, як маскі, а на шкляных вачах зусім не міргалі вейкі.

Сырым паветрам пацягнула ад астрога.

«Вось цяпер будзе спакой,— прашаптаў Янук, калі апынуўся ў чатырох сценах і пачуў, як гулка скрыгнуў у дзвярах іржавы замок.

Праз колькі дзён маё мізэрнае жыццё будзе скончана, і ў памяць аба мне застанецца жоўценькі прыгорачак, насыпаны чужой рукой. Не скажуць гэтыя нямоўныя сведкі, непер態ступныя муры, маёй матцы ці бацьку, калі часам падышлі б сюды, што тут іх сынок дажыў астаткі сваіх дзён; не скажуць ім, што там дзесь, на жалезным круку, дрыжэў, як вераценца, і, грымнуўшыся ў дамавіну, з'ехаў к прадзедам іх улюбёны сын. Не!

Ніхто не будзе ведаць, дзе пахавана маё скорчыўшаеся ад сударгі цела, бацькі і тыя згубілі сцежку ка мне.

Не шкадую жыцця, не страшуся смерці, але тая думка, што не ўбачу бацькоў, ні брата, страшна гняце мяне.

О, каб ведалі, хто я такі, то пэўне тым бацькам не было б месца на белым свеце. Але ні іх, ні мяне не ведаюць. Вялікая загадка для ўсіх».

Дзень патроху браўся к вечару; у цеснай каморы патроху цямнела, і нарэшце, калі шэрыя сцены і столь зліліся ў адну чорную пляміну і скрозь жалезныя краты сумна глядзела цьма нуднай ночы, у астрозе запанавала такая таемная ціш, ад каторай халадзела ў жылах кроў і сэрца — хто не спаў — дрыгатала, рвучыся на свабоду.

Дзесь на небе замігацела зорачка, каторай, як роднаму, узрадаваўся Янук.

«Зорачка ясная,— шапталі вусны яго,— ці не ты будзеш правадырка ў маім мізэрным жыцці?» І пры гэтым чыйсьці скрытны голас шаптаў яму: «Яна... яна... яна!..»

«Ты, як вартаўнік, зіяеш на цёмным небе і свеціш людзям, заблудзіўшымся ў нязнаных пуцінах.

Ты свеціш мне сваімі прыхільнымі вачыма, звысака пэўне ўглядаешся на саломенную страху нашай хаткі, дзе пэўне маці мая ў гэту хвілю праліває горкія слёзы

аба мне і моліцца богу, каб сын яе наблукаў на сцежку, па каторай магла б знайсці мяне.

Ты свеціш усім. Свеціш сягоння тут, а заўтра, можа, твой блеск будзе ўжо іскрыцца на каменьчыках, на жоўтым пясочку магілы маёй.

Ты будзеш сведкай, куды турэмная кляча сцягне маё мёртвае цела, і там ты зазіяеш, але мае вочы не спаткаюцца з ласкавым поглядам тваім».

І так сядзеў, падпёршы твар рукамі; да яго вуха данёсся заўнылы зык скрыпкі, каторы пры ціхай пагодзе то заміраў, то зноў усплываў над соннай далінай.

Раптам узарваўся ён з месца, падлез к акну і сквапна стаў прыслухоўвацца к чароўным зыкам, што быццам з чароўнага царства сумысле даляталі к яму.

«Гэта іграе свабоднае сэрца,— скрозь слёзы прашаптаў Янук.— Гэта, напэўна, іграе той, каторы не чакае пяньковага гальштука на шыю. Эх, як дзіўна грае, з якою ахвотаю слухаю гэты чароўны зык!

Але такая загадка, чаму гэта ўсё так ясна далятае да мяне? Няўжо гэта музыка адыгрывае адыходную для мяне? Іграй, браце, іграй! У гэтай санаце я нібы чую шэпты родных лясоў, голас маткі, брата».

Музыка раптам сціхла, сэрца сціснулася і заныла ад болю. Адыходная была далёка, мукі толькі пачыналіся.

Турма спіць, сну нямашака, у вушах шум, у галаве адбіваецца гул, быццам заганяюць цвік.

«Усё маё жыццё разбіта, дажываю дні паміж шэрых сцен, а на парозе смерць з мукамі і страхамі. Хоць бы хутчэй канец».

І тут яму ўспомніўся горад, дзе ўсе спакойна спяць, не дбаючы ні на турму, ні на яго. Пры гэтай мыслі яму станавілася затхла, быццам уся гэтая маленькая каморка зверху, знізу, з бакоў пачынала сціскацца, выганяючы ўвесь дух.

І каб разагнаць думкі, ён пачынае хадзіць з кута ў кут, гулка адбіваючы абцасамі па каменнай падлозе, але і стук абцасаў кратае яго нервы і не дае яму супакоіцца.

Ён валіцца на ложак, памыкаецца заснуць. Сну няма, вейкі абцяжэлі. У гэтай барацьбе праходзіць гадзіна-другая, і сон змарыў яго.

З'явілася вясёлае неба, знаёмыя ляскі і хмызнякі, дзе прывітаюць вясну птушачкі, а жоўтыя смалістыя свечачкі аж гараць на сасонках, узіраючыся на сонца. Пры-

ветліва глядзяць сасонкі і бярозкі ў новым зялёным уборы, аж кідаюцца ў вочы красачкі, мітусяцца перад вачыма сонныя матылькі, і чорныя, як смоль, груганы ляніва ходзяць па раллі.

Затым бачыць зарніцы, зіяюць на сенажацях стальныя косы, растуць высокія стагі, на залатых шнурах весела жнуць жнеі і зычна раздаюцца заўнылыя песні.

Затым у пышным вянку з жоўтага лісця быццам бродзіць па лясах восень, змяняючы калёры на дрэвах, падвешваючы на галінках павучынне, а пад воблакі лятуць і пераклікаюцца журавы.

І нарэшце зіма. Снег, як посцілкай, заслаў дарогі, палі, аблапушыў лес, а ветрык з гурбы на гурбу то змятае, то намятае сняжок.

Сцюдзёна стала. Янук, як непрытомны, ускаквае на ногі, пытаючыся: дзе я? дзе я? І, прыйшоўшы да памяці, бачыць знаёмыя сцены, патрэскаўшуюся столь, чорнае аконца і тую зорачку на небе.

І хочацца яму крычаць, і так крычаць, каб дрыжэлі сцены, рушыліся скляпенні каменнай скрыні, але сіл нямашака, сіпаты кашаль ірве грудзі.

Настала ранне. Адна пеpажытая ночка заставіла свой след. Вочы, з каторых ліліся промені яснага света, быццам згаслі, заставіўшы там глыбока іскрынкі ад агня, а на ўпалых шчоках часамі ўсхватываўся, нібы падроблены, румянец, як блеск ад гаснуўшай зоркі.

«Далёка лепей смерць,— шаптаў ён,— чым так марнець». І, прыпаўшы к жалезным кратам, ён углядаўся, як уцякала ноч, святлела, загаралася чырванаватым блескам неба, калышучыся над сонным лесам, разганяючы ў бакі сівую, цёплую мглу.

Дзень прытка ішоў к людзям і будзіў іх на дружную працу. Тут чырыкнула і праляцела ля акна птушачка.

«Прашчай»,— прахрыпеў ёй услед Янук.

Дзень няўзнак праходзіў, чуваць было бразганне дзвярэй, нейкі шум на дварэ і лязганне кандалоў.

І ўсё, што рабілася ўдзень, далёка прыхільней было сэрцу, як ноч, каторая штораз забірала з сабою апошні запас сіл.

Неяк удзень, калі Янук сядзеў, злажыўшы рукі, і думкамі адлятаў у родны край, адкінулася аконца і паказаўся чыйсьці твар.

Янук павярнуўся і спытаўся: «Чаго?»

— А вось казалі спытацца ў васпана, можа, жадалі б

паклікаць матку ці бацьку, калі ёсць, бо як чуў, то недалёка...

— Не трэба кратаць старых бедакоў. Не ведаюць — шмат спакайней,— не абарачваючыся, адказаў Янук.

— Ну, як сабе знаеце,— не мне вяроўка, а васпану.

Янук раптам успомніў пра сваю долю, слова «вяроўка» кранула яму тую боль, каторая на хвілю сціхла.

Ён кінуўся да аконца, жадаў штось сказаць, але яно зачынілася, і барады вартаўніка не было ўжо ў ім відаць.

«Не можа быць нічога горшага,— шаптаў ён,— як тое, што не ведаеш, калі прыйдзе тая мінута і паложыць канец усім мукам.

Няхай бы бардзей прыйшоў той барадаты, ці які другі шатан, і сказаў бы: ужо пара!.. Ну пара, так пара! Хвіля-другая — і па ўсім, дык жа не! Мучаць і мучаць без канца».

І ў гэтых думках няўзнак змяніўся дзень і наступіла ноч. І зноў прыступіліся страхі і адагналі сон.

Уткнуўшыся тварам у падушку, ён сілкаваўся заснуць, каб як-небудзь пазбыцца ад страхаў яго. Бачыць, быццам хтось увайшоў к яму і, прытуліўшыся ў кутку, пазірае на яго сваімі агністымі вачыма. Янук прыгледзеўся. Знаёмая цень была перад ім. Злажыўшы рукі на грудзях, перад ім стаяў яго бацька, штось шаптаў, і яго рэдзенькая барадка траслася пры кожным слове, а па маршчыністаму твару каціліся сляза за слязой.

«Пусціце! Пусціце! Гэта ж ён, татка мой, родны мой!» — І, узарваўшыся з ложка, ён кінуўся ў той кут і, прыпаўшы к каменнай падлозе, быццам к нагам яго, наўзрыд плакаў і прыгаворваў:

«Татка, татачка! Згінуў, прапаў: заўтра вяроўка здушыць мой голас, каб не чулі яго, бо ён шкадлівы, шкадлівы...

Божа міласэрны! Татачка, укленчы, маліся за мяне, я маліўся і плакаў, але ўжо слёз не маю: выплакаў даўно. Ты праўдзівы чалавек. Маліся, маліся!

Вунь, бачыш, абраз, які сумны твар і як зіяюць яго добрыя вочы. Даруй мне, божа, даруй! Ты цярпліва нёс крыж і паваліўся пад ім.

Якая хвіля, і маё цела захістаецца, захістаецца і...»

Сон нарушыўся стукам у дзверы.

«Прыяцель! Кажысь, з богам гамоніш? Мусіць, тут і пазнаў яго, а дзе гэта раней быў?» — прабасаваў праз адчыненае аконца салдат.

Знікла ўсё. Толькі на тым месцы, дзе была цень бацькі, чарнела заплясненелая палоска з-пад акна. Гэта быў сон.

І ён, зліты потам, жадаў устаць з падлогі, але сілы зусім змянілі яму. Так і праляжаў да рання, пакуль не прывялі доктара і не палажылі на ложак.

Ні Янук, ні яго сябры не ведалі, калі будзе канец іх мукі. Усякі з іх, прыждаўшы вечара, паджыдаў смерці, не зводзячы воч з дзвярэй, куды павінна была яна ўвайсці.

А смерць была ўжо на парозе. Дзень быў хмурны, сіверны вецер, насвістваючы хаўтурныя песні, урываўся праз вокны к сказанцам і шаптаў кожнаму, што незадоўга... незадоўга...

І ўсе, як адзін, гэту песню скваппна слухалі, бо ў ёй не было чуць, што гэты хмурны дзень для іх апошні, што зараз халодныя воблакі збягуцца, завалакуць неба, і запануе магільная сціш.

Прыпаўшы к халоднаму муру, углядаючыся на воблакі, што хутка плылі над турмой, Янук плакаў і шаптаў: «Воблачкі ясныя, ветрык вясёлы, будзеце ж плыць над маёй роднай старонкай, над вёскай Вязынкай і над нашай хацінкай, шапніце там маім бацькам і брату, што Янук з чужыны шле ім сыноўняе жаданне і што не далей, як сягоння ўночы, калі яны будуць спаць, разлічыцца з светам».

Воблачкі хутка прайшлі, неба патроху сівела і нарэшце саўсім стала чорным, як смоль.

Турма заснула. І вось апоўначы, калі дзесь на вежы прабіла раз, два, пачуў ён шастанне па калідорах, скрыгатлівы піск замкоў і лязганне кандалоў.

«Вось яно так і ёсць. Дождаўся».

І як ужо пачуў, што ціхачом падыходзяць к яго дзвярам, сабраў апошнія сілы, падняўся з ложка і вобмацкам ля сцяны пачаў пераступаць з кута ў кут.

— Пэўне спіць, а можа, здаўся,— пачуў Янук голас за дзвярамі.

— Не спіць і не здаўся,— сабраўшыся з сілай, крыкнуў Янук.— Я жду не дождуся, калі ўбачу смерць маю, вось пойдзем і глянеце, як адважна спаткаюся я з ёю.

Пры гэтым адчыніліся дзверы, і ў каморку ўвайшлі салдаты. Янук, апёршыся на плячо салдата, ледзьве пе-

раступіў парог і крок за крокам прыйшоў у вялікі пакой, дзе гуртком пры сцяне стаялі ўсе яго хаўруснікі, сквапна паводзячы вачыма па ім.

Не бачыўшыся доўгі час, яны нібы аслупянелі і жадным правам не маглі распачаць размову.

Янук хацеў кінуцца к ім, абняць усіх разам, цалаваць, плакаць і памерці тут пры іх, не зрабіўшы жаднай фатыгі [1] для ката.

Сабраўшыся з духам, ён, плачучы, дрыжавым голасам прамовіў: «Браточкі, не страшыцеся смерці, смела глядзіце ў вочы ёй». Але кашаль перарваў размову, і па вуснах пацякла густая кроў.

Гэта ўсе бачылі, і разам іх павялі.

Выйшлі на пусты двор, сцюдзёны вецер раптам налящеў на іх, абдаў холадам, хлестануў у вочы дажджом, нібы крапідлам перад смерцю, і, рвучыся з боку ў бок, нема завыў, быццам смяяўся над іх слабасцю, зухуючыся сваёй сілай.

Ідучы паміж салдат, Янук абарачваўся і ўглядаўся ў цёмны абшар, бо чуў, што ззаду за ім яшчэ кагось вядуць, але паасобку.

Не верачы сабе, ён другі раз пералічыў сваіх таварышаў, яны былі ўсе. «Каго ж вядуць? — пытаўся ён у сябе.— Хто гэта нясе сваю галоўку на шыбеніцу?» І не вытрымаўшы, ён звярнуўся к таварышу і спытаўся, ці не ведае ён, каго вядуць за імі.

Ніхто не ведаў.

«Эх, як бы я жадаў, каб глянуць у вочы гэтаму бедаку, што так спяшыць к нам! — казаў Янук.— Спяшыш, браце, спяшыш, пэўне не ў пятлю, а к нам, каб заадно спаткаць смерць».

Пры бляску закуранай лятарні [2] смутна вырысавалась чыясь магучая фігура. Цяжка ступаючы па выбітай турэмнай дарожцы, звесіўшы галаву, ішоў за канвоем непамернага росту чалавек.

Янук штохвілю абарачваўся, жадаючы ўгледзецца ў твар велікана, але за цемнатою трудна было распазнаць.

«Эх, як яго фігура і рост успамінаюць мне брата Рыгора,— уздыхнуўшы, нейкім магільным голасам прамовіў Янук.— Якраз і рост, і паходка. Бог святы ведае, як цяпер жыве ён».

---

[1] Жаднай фатыгі — ніякай карысці.

[2] Лятарня — ліхтар.

І пры гэтым яму ўспомнілася дамашняе жыццё, старэнькая хатка, дзярэўцы, каторыя з карэннем вырываў Рыгор, і той бычок, што клаўся к яго нагам, ведаючы значэнне і сілу Рыгора.

Мыслі разарваліся, канвой застанавіўся і цесна заступіў іх, а велікан стаяў асобна, не гледзячы, што рабілася перад ім.

Дожджык сціхаў, скрозь воблакі, нібы крадучыся, як сведка, вызірнуў месяц, мутным водбліскам адбіваючыся ў лужынках.

Чыталі хутка смертны прыгавор.

Ніхто не ўслухоўваўся ў тыя вядомыя словы, каторыя даўно і страшна звінелі ў вушах, апроч Янука: ён толькі адзін сквапна лавіў усякае слаўцо, каб дачуцца, хто мае быць той, што сабой успамінаў брата.

Яго сэрца і зубы страшна дрыгаталі, здавалася, што яшчэ хвіля — і ён паваліцца тут нежывы.

Тут да яго вушэй данеслося імя Рыгора. Не помнячы сябе, Янук кінуўся к яму і знямеў: перад ім стаяў яго брат.

Рыгор устрапянуўся і спаткаў пагляд Янука. Вочы яго разам заблішчалі нейкім таемным, іскравым агнём.

— Рыгор, Рыгор! — сіпатым, ледзьве слышным голасам мармытаў Янук і паваліўся ў ногі к яму.

Але не паспеў дакончыць сваіх слоў Янук, як сільныя рукі падхапілі яго. Рыгор, як пярынку, паднёс к губам брата і ні то смактаў, ні то цалаваў яго.

«Брат мой, брат мой! — нямым голасам крычаў ён.— У часе смерці мы спаткаліся з табой!» І, ашчапіўшы ледзьве жывога брата, нібы застыў у гэткай позе.

Салдаты анямелі, што пачаць, самі не ведалі. І як абважылі з усіх бакоў рукі Рыгора, на зямлю, як ком, асунуўся труп Янука.

## ВАДА ПАМАГЛА

— Ну, дык пойдзем, мая рыбачка, да варажбіткі ў Вуглы,— казала маці сваёй дачцэ.— Хіба ж толькі табе не паможа, а то ўсе, як у бубен б'юць, што раду ўсім дае. А ці ж ты горш за людзей?

— Пойдзем, калі гэтак,— адказала дачка,— толькі я нічога казаць ёй не буду, а кажы сабе ты,— ты старая, а старой, што з плеч, то ў печ.

Так пагаварыўшы і парадзіўшыся, маці з дачкой выправіліся ў дарогу. Пляліся, небарачкі, па Барысаўскаму шляху ад самага рання, і толькі позна вечарам трапілі яны да варажбіткі. Нясмела адчыніўшы дзверы, пераступілі яны высокі парог. Варажбітка якраз была ў хаце і стаяла каля печы з вялізнымі вілкамі ў руках.

— Адкуль, кабеткі? — спытала яна падарожных.

— Здалёку, панюхна, здалёку! Знібыткаваліся зусім, раду ўсё шукаем. Свет прайшлі.— І ў старой, як боб, пасыпаліся слёзы.— Летась яшчэ аддала дачку замуж за Гваздка,— пачала старая,— скончыўся год, пачаўся другі, а дзетак няма і няма, а яна сохне, небарачка, як красачка без вады. Глянуць, маладзіца хоць куды, чырвоненькая, як бруснічанька, сама жадае прыплоду, а тут хоць запалі; каму ж тады мець, калі не ёй.

Памаўчаўшы трохі, старая гаварыла далей: «Яна мне даўно жаліцца, што яе мужыка быццам ураклі. Можа, й праўда. Ці мала на свеце ёсць благіх людзей. Дык памажы ж, панюхна, калі ласка!»

Маладзіца пры гэтай гутарцы старой схавала свой маленькі нос у зякрастую хустку і парушылася на тапчане.

— Можа, ураклі, а можа, не,— сказала варажбітка,— мо так якая набрыдзь убілася, трэба падлячыць, пэўне адойдзе, тагды будзеш мець, баба, унукаў.

— А панюхна, а родная! Можа, ведаеце раду, памажыце, дужа хочацца хоць перад смерцю зірнуць на сваю кроў.

Маці, седзячы на лаве, плакала і выцірала рукавом слёзы, а дачка, патупіўшы вочы, як вінавайца, сядзела ціханька каля маці, зрэдку ўздыхаючы.

— Пакінь плакаць, бабка! — сказала варажбітка.— Вось толькі згатую вячэру свайму мужыку, а там будзем ведаць, ці ўрокі, ці так якая набрыдзь убілася.— Ды ізноў пачала поркаць вілкамі ў печы, скоса паглядаючы на палаці, дзе ляжаў яе мужык, уставіўшы вочы на маладзіцу.

— Чаго ты вочы паказеліў? Каб цябе спёка пякла! — крыкнула на яго варажбітка.— Вось зараз гарачымі вілкамі лупачы табе павысмаліваю! Бачыш ты яго — утаропіўся, каб ты затануў, стары ламака. Здаецца, увесь по-

рах высыпаўся, а як згледзеў маладзіцу, аж трасца яго трасе.

— Пойдзем у другую палавіну,— звярнулася яна да баб.

Зняўшы з прымурка карты, варажбітка скартавала іх і пачала раскладаць. Падумаўшы троху, яна сказала, што мужыка ўраклі і помач ад уроку можа даць толькі тутэйшы селянін Кірыла, удавец.

Пазвалі Кірылу.

Праз паўгадзіны скрыпнулі дзверы, і ў хату ўваліўся Кірыла, высокага росту, плячысты, не стары яшчэ мужчына, з багатымі надзіва вусамі.

— Во, ратунак тут! Прасі, кабетка, яго палячыць. Я з прыканання кажу, што будзе ўсё, чаго жадаеце.

— А дзядзечка! А каласок! А збаўца, памажы! — кінулася старая да лекара. — Хоць бы адно дзіцянё; я ж маці, свайго дзіцяці шкода, мардуецца, бедная, свету не бачыць...

Кірыла, зірнуўшы на маладзіцу, пакруціў чорныя як смоль вусы і пачаў тоўстым басам:

— Памагчы-то можна, але, як я бачу, бясплоддзе дужа далёка засела ў дачкі,— сказаўшы гэта, папрасіў падаць конаўку вады.

Падалі.

Кірыла ўшчаміў у магучых руках конаўку і, стаўшы ў кутку, нешта плявузгаў і нарэшце даў маладой, каб сама патроху піла і мужыка калі-нікалі трактавала. Кірыла пры гэтым з прывычкі сказаў, што лякарства гэта хваробу як гужам адойме, а здароўе як мехам прыпрэ.

Старая тым часам, дастаўшы з торбачкі бутэльку картаплянкі, паставіла яе на стол.

Кірыла, як згледзеў гэткі трактамант, здаецца, з радасці больш вырас, і вочы яго заблішчэлі, як у ваўка.

Селі за стол. Перш Кірыла выпіў з маладзіцай, потым са старой і па чарцы з гаспадарамі, каторыя збіраліся на спачынак. Страпежылі бутэльку. Кірыла — як тут меў — паставіў другую, і пайшла гулянка.

Невядома, ці доўга цягнулася б яна, каб не патухла лямпа. Ці яно само сабою так зрабілася, ці таго вымагалі лекі, не нам, прастым людзям, пра тое знаць. Адно толькі можна сказаць, што недарэмна хадзілі да варажбіткі.

Счакаўшы паўгода, да знахаркі зноў прыйшла старая.

Цяпер яна была з падарункамі, і ў яе твары свяцілася радасць.

— А панюхна мая, родная мая, дзякуй жа табе, дзякуй,— усё добра. Дзякаваць богу, дачка пры надзеі; вось табе за варажбу абрусок, панюхна, а доктару, каб ён здароў быў, за фатыгу палатна на кашулі,— гаварыла старая, дастаючы падарункі.

# НА КІРМАШЫ

На шырокім шляху, каля хаты сядзельца, і справа, і злева гусценька стаялі падводы, прыехаўшыя на кірмаш.

Як машына чакае званка, так усе гаспадары, выйшаўшы пасля абедні з царквы, чакалі той хвіліны, калі пан сядзелец адчыніць дзверы і задаволіць іхняе жаданне прагнаць смагу.

Але, як на ліха, дзверы не краталіся, а смага горш і горш данімала ўсіх.

— Што за ліха? — пыталіся адзін у другога сяляне.— Час прайшоў, а дзверы замкнуты. Захварэў ён, ці што?

Маруднасць сядзельца грызла ўсіх, а больш маркоціўся шчыры прыхільнік бутэлькі, Міхась Чарнагуз.

Седзячы на возе недалёчка ля дзвярэй, ён з неспакою дзесяты ўжо раз пераслібізаваў вывеску, пералічыў, колькі было літар на ёй, і нарэшце пачаў лічыць дошкі ў футраных[1] дзвярах.

Толькі справіўся пералічваць у адной палавіне і перайшоў да другой, аж бач, яна са скрыпам адчынілася, і апоўзлая хвігура сядзельца паказалася ў дзвярах.

Як апараны, сарваўся з воза Міхась і пабег у манапольку, а за ім, як авечкі, і другія. Дзверы не зачыняліся. Адзін вылазіў, а на яго месца дзесяць старалася ўлезці, і сядзелец, хістаючыся з боку на бок, ледзьве ўпраўляўся пераймаць трудавыя капеечкі, выдаючы за іх усялякіх гатункаў бутэлькі. Было відаць, як кожны вылазіў з дзвярэй упацеўшым, моцна сціскаў у руках шкляннога шчупака і з давольным відам адыходзіў к возу. Тут ён адкарковываў бутэльку, стукаючы даланёй у дно, і папіваў з яе, задзёршы галаву.

[1] Футраныя — філёнчатыя, абшытыя дошкамі.

Ажыўленне расло. Сяляне, пазбіраўшыся гурткамі ля вазоў, віталіся, жычылі адзін аднаму лепшых варункаў у жыцці, абнімаліся, а дзе дык і вадзіліся. Недалёчка ад усяго гэтага сядзелі двое ўбогіх. Затаіўшы ў сэрцы жуду, цярпліва сядзелі яны пад дуплявай бярозай і спявалі «Лазара», падцінаючы на ліры.

Але набожнае настраенне ад іх скора ўцякло, як прыблізіліся да іх вясёлыя, добра лыкнуўшыя малайцы.

Шкода ім стала калек. Вось адзін з іх вывалак на волю бутэльку, што коса паглядала з кішэні ў неба, і ну трактаваць лірнікаў.

Сціхла песня, замоўкла ліра. Конаўка пераходзіла то з рук сляпога ў рукі храмога, то наадварот, аж пакуль у ёй асушылася дно.

— Ну, братцы! — адазваўся Паўлюсь.— Цяпер рэжце «Лявоніху», хто з вас майстар. Калі ж пагуляць, як не сягоння?

Сляпы хоць і добра дзюбнуў, але доўга не здаваўся на просьбы хлапцоў, а после махнуў рукой, бардзей закруціў корбу, залапатаў клавішамі, і вясёлая «Лявоніха» заступіла месца «Лазара». Дзецюкі не драмалі і пусціліся скакаць, падхапіўшы з сабой храмога старца, што стаяў без работы ў старане.

Той не спрачаўся. Трымаючы за плячо Міхася, ён, як конь, круціў пакрыўленым задам і прытопываў шырокім, як засланка, лапцем. Відаць было, што ён стараўся з усіх сіл. Яму хацелася таксама даказаць, што і ён нешта ўмее, асабліва тады, як вып'е.

— Калісь я не гэткія танцы ўваліваў на гульбішчах,— хваліўся ён, абціраючы выступіўшы на лбе пот.

Сляпы, лупаючы патухшымі вачыма, бардзей завіхаўся круціць корбу, адбіваючы тахт нагой і радуючыся ў сэрцы, што хоць на астатку жыцця, а трапілася гульнуць з добрымі людзьмі, што не пачураліся іх, бяздольных калек.

## ПАРАБКІ

Усяго за дзесяць рубельчыкаў згадзілі Прануся на службу ў двор.

— Глядзі ж,— казала, адыходзячы, маці,— глядзі,

шануйся: у людзей — гэта не дома; тут добра, добра, а і не на ласцы.

— Добра! — гледзячы ў вочы, адказваў ён.— Буду, буду.— А што «буду», так і сам не ведаў. Ніколі не служыўшы, усё дзіка паказалася; здаецца, і людзі не гэтакія, і ўсе, як адзін, чмыхаюць, абмінаючы яго, сірату.

Стоячы, як прыклеены, пры сцяне і аглядаючы ўсіх з ног да галавы, ён не ведаў, што распачаць; заплакаў бы, ды позна: маці даўно адышла; спытацца тож баяўся, можа, не можна, і гэтак, перакручваючы ў руках шапку, ледзьве не заснуў, каб не адазвалася да яго нейкая кабеціна, што поркалася ў печы, перакідаючы галавешкі, як чорт добрую душу.

— Пэўне есці хочаш? — адазвалася яна.— Вось запалю лямпу, накармлю цябе.

Жоўценькі аганёк заззяў у лямпачцы і асвяціў твар Пранузя.— Еш, хлапец,— нябось галодны як воўк.— І пры гэтых словах паставіла міску з парам на стол.

Пранусь падсунуўся к сталу, скінуў армяк і павесіў на цвік. «Крупнік-то ёсць, гэта добра,— памысліў ён,— а хлеба-то няма, няўжо тут звычай гэтакі?» — І так, не ведаючы, як у паноў ядуць, спаражніў місу да капелькі.

— Лоўка, лоўка! — прыйшоўшы ізноў, адазвалася яна, углядаючыся на дно міскі.

— Цяпер кладзіся спаць, а заўтра за працу, досыць лынды біць.— І, згасіўшы агонь, выйшла ў другую палавіну, пакінуўшы Пранузя ў пацёмках.

Разаслаўшы армячок і кінуўшы пад галаву нейкі камок ануч, захінуўся ён гунькай і лёг.

— Гэта ж я і не маліўся,— памысліў ён,— ды ці ёсць тут абраз? Нешта я не бачыў.

Але як успомніў, што калісь чытаў, што бог на кожным месцы, падняўся, стаў на каленкі і пачаў маліцца, углядаючыся ў цемнату.

Маліўся за нябожчыка бацьку, за матку, і мыслі яго перабягалі к сваім родным, дзе хоць бедна, але ціха праводзіў дзяціны час.

Прыпомнілася тая раптоўная вядомасць аб смерці бацькі, затым хаўтуры, тая глыбокая яма, куды ўставілі дамавіну, і як нейкі барадаты дзядзька закідаў пасля зямлёй.

Мыслі блукалі там і сям, і, нарэшце, усё змяшалася, быццам нехта смяяўся, трубіў ражок, недзе выў сабака, і сон узяў сваё.

Была ўжо раніца, з двара даносіліся скрып жураўля, мыканне кароў, а Пранусь яшчэ, скурчыўшыся, як вожык, смачна спаў у куточку.

— Годзе спаць! — праз сон пачуў голас кабеціны. Як бы швайкай жыганулі яго; усхапіўшыся на ногі, ён насунуў армяк, падперазаўся і гатоў быў, як відзіш.

— Які тут хлапец ёсць? — пачуў ён голас з двара, і затым у дзвярах паказалася лахматая барада.— Пэўне гэты? — спытаўся барадач.

— Гэты, гэты! — адказала кабеціна.

— Ну, дык пойдзем, карантыш, будзем разам гараваць.

Выйшлі на двор.

— Ну, скажы, мой сынок, за колькі згадзілі цябе?

— За дзесяць рублёў!

— Трудна, братка, трудна! — пудліва азіраючыся, казаў барадаты дзядзька.— Тут гамані ды за вуха трымайся, бо прыляціць чмель, за вуха хопіць.

Пранусь паверыў, што тут зімой чмялі жыгалюць, і насунуў пры гэтым ніжэй шапку.

На двары было шмат людзей: хто выбіраў гной, хто зганяў ваду, ляніва сноўдалася быдла, падбіраючы дзенідзе растрэсенае сена.

Пранусь з дзядзькам прайшлі двор і павярнулі за хлявы.

— Вось, браце, запражэш жаробку і каменне пазвозіш туды, а я пайду к пану за інтарэсам.

Вазоў з дзесятак звёз Пранусь, пакуль вярнуўся дзядзька і паклікаў к сабе.

— Дось, будзе, пойдзем снедаць, нябось галодзен як воўк, вось пабачыш нашых працаўнікоў і будзеш ведаць, з кім як абыходзяцца.

Падышлі к дзвярам. Барадач атрос снег і нясмела пераступіў парог. Тут ужо была сям'я вялікая. Чакалі, калі пададуць полудзень. Пранусь, аглядаючы ўсіх паасобку, перавёў вочы на сценку і доўга лічыў прусакоў, што шпацыравалі па сцяне. Нарэшце тры вялізныя місы паставілі на стале, і галодныя парабкі накінуліся на яду.

«Але ж сёрбаюць,— мысліў Пранусь,— далёка шчырэй, як у нас. Асабліва ўжо гэты сусед, як смаргане, здаецца, з лавы сцягне, і, каб ужо быць пэўным на гэтым месцы, адной рукой трымаўся за лаву, а другую спрытна закідваў у місу».

— Ці пад'еў? — спытаўся барадач, як выйшлі на

двор.— Тут, брат, варон не лічы, а гані, як можаш, бо абмылкі пасля не паправіш.

За працай дзень няўзнак прайшоў, і не агледзеліся, як надышоў вечар.

— Дзядзечка! — адазваўся Пранусь.— Дзе вы спіцё, можа, і я з вамі як-небудзь прымасціўся б: аднаму дужа нудна, учора ледзьве не звар'яцеў, гэтак шорхна было.

— Не, браце, танцуй так, як музыка грае: казалі там, ну і там.

Прыкра было згаджацца, але што ж зробіш, панура ўвечары ішоў на адпачынак і як куля вылятаў на раніцы, весела смеючыся, убачыўшыся з дзядзькам.

Патроху зганяла з поля снег, і дзе-нідзе рунелася мураўка. Яшчэ тыдзень, другі — і Пранусь павінен быў узяцца за пасту.

— Вось тады будзе шмат спакайней,— радуючыся, казаў ён.— З раніцы пайду, паспяваю, хто будзе чуць, гэта не тое, што тут: уздыхні, зараз зіркачы павярнулі; там сам сабе пан, вогнішча разложыш, тупнеш, свіснеш, як дома, час няўзнак прабяжыць.

Даўно чаканая пара падышла; неба паласкавела, павесялела, сонца як мае быць прыпякло, наляцела птушак, лес зарунеў, быдла, рыкаючы весела, пабегла ў поле, і Пранусь, як непрытомны, пагайсаў следам.

Барадаты дзядзька, седзячы на прыгорку, пыхкаючы люльку, глядзеў і радаваўся, як яго памочнік шпарка бегаў то ў адзін, то ў другі бок за быдлам, зганяючы яго ў адно месца.

— Хопіш гора, сынку, хопіш, колькі ўлезе, над сіратой усякі наздзекуецца, ведаю, бо сам ужыў смаку гэтага: раней устанеш, пазней ляжаш, штурханцоў нададуць, а ты, сірата, як бура, усё знясеш.

— Эх, жыццё! — мармытаў барадач, плюючы са злосцю на бакі.— Усе мы людзі, а не ўсім бог роўнае шчасце даў.

— Пранусь! Пранусь! — гукаў ён, не вынімаючы люлькі з зубоў.— Адгані красулю ды бульбінку хадзі з'еш, дось будзе, дзень вялікі, нагайсаешся,— і, разгарнуўшы жар, пачаў даставаць пячоную бульбу.

— А мой сынок, еш жа, еш, чаго-чаго — бульбы не бракуе. Бог ведаў, каму бульба, нам, братка, мужыкам, каб елі ды цешыліся. Не спяшайся, не спяшайся! Звольна: над каркам не стаяць,— казаў ён, гледзячы на дзіцянё, падпёршы рукамі бараду.

— Расці, сынок, расці! Шануйся, падрасцеш, якім яшчэ чалавекам будзеш, казаў — маці жыва, так вось на яе не запамінай: яна ж цябе гадавала, гаравала; нябось не ўломак, прыгожы, як ягадка.

А тут што? Тут вось адбразгаеш сваё ды дадому... свой хлеб хоць не такі смачны, але ім не падавішся. Праўду кажу, праўду, тут не ўслужыш, я ўжо спрактыкаваўся, было ўсяго. Жыву і чакаю, як вол доўбні.

Тым часам сонца няўзнак апускалася над лесам, і быдла пачало паглядаць у той бок, дзе хлявы.

— Ганяй, дось будзе, дзень аджылі, дзякуй табе, божа! — камандаваў дзед. Ідучы з дзядзькам, Пранусь углядаўся на хату, з каторай выпаўзаў стужкай дым, і пры гэтым мысліў, што зараз сядуць вячэраць, то ўжо мух лавіць не будзе, а падчэпіць самую большую лыжку і ну яе і туды і сюды.

Жывёлу ўгналі ў двор і размясцілі па хлявах.

— Ну, пойдзем, зачэрпнем, што дадуць! — адазваўся дзядзька і адчыніў на кухні дзверы. Там была сама гаспадыня.

— Во і мы тут, панічка, галодныя, як ваўчкі,— збедніўшыся, адазваўся ён.— Калі ласка, крупнічку лыжачку ■ не проч, ды і хлопчык не адкіне.

Як падалі вячэру і ўставілі на стол, падышло яшчэ пяцёх парабкаў і звольна паселі на даўгіх лавах.

— Ну, хлапец! Мая панюхна,— адазваўся барадач,— каб бачылі, што з яго вырабляецца, матыль, ды толькі, бяжыць ды бяжыць, увесь час на нагах. Крыкнеш на сабаку: «Жук, у шкодзе»,— пакуль той Жук раскурстаецца, ён ужо бяжыць; дзяцюк так дзяцюк, а галава, глянь-це, як цэбар, мазгоў поўненька ў ёй, гэта не раўня нашым салапякам. А гамонка, каб чулі, праўду рэжа, быццам з ксёнжкі чытае, пракурор, ды толькі. Кажуць, мужык — дык анучка, вось не,— ён з якім хочаш панам разгаманіцца.

— Ну, дось жа, дось хваліць! — адазвалася гаспадыня.— Табе на руку, старому абібоку, цяпер толькі сядзі ды варон лічы, што ляцяць над полем, вось гэтак век зжыў, нічога не робячы, вандруеш па свеце, як Марка па пекле.

— Які там свет! — з крыўдай адказаў барадач.— Толькі ўсяго і бачыў мужыка чорнага, мужыка рудога, хату з падпоркай, хату без падпоркі. З нас усякі так: у

брудах радзіўся, бруд еў, у брудах памёр, мужыкі не людзі, так і чэзнуць без пары.

— Ну, а чаго вам лепшага? Сілу маеш — зарабі, гарэлкі не пі — капейку зберажэш,— сакатала пані.

— Хто яе п'е, няхай на яе звод, тут кашуля паўзе з плеч, лата на лаце і ў лаце дзюрка, не да гарэлкі, калі так горка!

— Усе вы кажаце, а як дабраўся б каторы, то, як свіння, нарэжацца.

— Праўда, панічка, праўда! Пад'еў, так уставай,— перарваў размову парабак Халімон.

Гаспадыня закусіла палец і вытарашчылася. Відаць, Халімонава размова не спадабалася.

Ёй хацелася пагаманіць, даняць, высказаць, што мужыкі і так здураны, а тут Халімон слова рэкнуў, паказаў спіну, і ўсё за ім.

Заставаўся толькі Пранусь.

Сцямнела. Кругом было ціха, толькі праз адчыненае акно даносіўся хрыпаты голас дзеркача.

— А, і ты тут? — з радасцю адазваўся Пранусь, гледзячы ў цёмны абшар.— Можа, ты з Красналук завітаў сюды з матчыным жаданнем, а можа, твой брат дзяркачыў у нас у хмызнячку. Ну, яшчэ раз дзергані, яшчэ, яшчэ!

І яму ўспомніліся родная вёска, маці, дзеці і хоць беднае, але спакойнае жыццё.

— Скора Пятрок, пасля каляды, годзік адматаюся, а там мае грошыкі сюды, куплю коніка, пайду зарабляць, а мо пашчаслівіцца.

І, мысліўшы пра новае жыццё, яму стала дужа радасна, як ён, узяўшы ў пана грошыкі, пойдзе к матцы і скажа: «Вось, мамачка, я прыйшоў; я грошы зарабіў, вось яны, а ці ведаеш, што купіць намысліў? Коніка, мамачка, коніка, буланчыка. Эх, запрагу ды ў лес, дроў набяру, вывезу, мамка, аднаго рубельчыка перахаплю, другога, і гэтак будзем змагацца з бядой. Служыць не буду, не буду!»

І так у гэткіх салодкіх думках заснуў, палажыўшы галаву на падаконніку.

— Чаму ж ты тут спіш? — спыталася, увайшоўшы, ахмістрыня.— Мусіць-то, нудзішся, дамоў зажадаў?

Пранусь адскочыў ад акна, зняў з калка армячок і хацеў прылегчы ў кутку.

— А не, а не! Не пара, жывёлу выганяй, у полі выспішся, усё роўна ўдваіх гультаіце.

Пранусь зняў пугу, торбу і выйшаў на двор. На дварэ напаткаўся барадач з заспанымі вачыма.

— А! І ты тут! Вось маладзец, ну, адчыняй вароты, едзе чорт з балота.

Вароты са скрыпам адчыніліся, і скаціна пабегла ў поле, а барадач, ідучы ззаду, зацягваў нейкую песню, закаціўшы вочы к небу.

Пранусь бег упрыскочку, пазіраючы ў той бок, дзе былі Красналукі.

«Эх, бардзей бы мухі белыя, тады і я не парабак, конь буланы, сам гаспадар, толькі абы бог дапамог»,— і, быццам-то трымаючы ў руцэ лейцы, пугаўём сцёбаў сабе па армячку і крычаў: «Но, но, но!»

Барадач здалёку пазіраў на хлапца і ў душы смяяўся з яго дзяцінай забавы, а таго не ведаў, што тут была саўсім сталая думка.

— Туды, сынку, туды! — камандаваў дзед, прыплюшчыўшы вока.— Гані, гані красулю, у шкоду пойдзе. Вось так! Вось так! Ну, а цяпер хадзі-тка сюды, у мяне і сальца скібінка ёсць.

Пранусь угрыннём падбег к дзеду, весела пазіраючы яму ў вочы.

— Як табе лепей падабаецца, ці са скуркай, ці не?

— А мне ўсё роўна, як дасцё, так і добра.

Дзед, адшматаўшы кавалак сала, падаў Пранусю, а сам сквапна ўглядаўся, як спраўлялася галоднае дзіцянё.

— Не спяшайся, сынку, не спяшайся! У карк ніхто не валіць. А любіш, гапцюль, сала, нібы кот. Гэта ж кума, дай божа ёй здароўе, патрактавала, а ты, пэўне, падумаў, што пані раздабрухалася... Не, гэткай ласкі ні адзін не даслужыўся. Тут так: добра, добра, а не — каленкам ды вон. Ну, пагонім дамоў, пара, здаецца.

Пранусь узарваўся, як пчала, і заляскаў пугай па мураўцы.

— Дамоў! Дамоў! Дамоў! — разлягаўся яго звонкі голас па полі.

— Ну, ты напаі быдла, а я пайду гляну, можа, крупнік заждаўся на нас,— і барадач зацюхціў лапцямі па зямлі, падымаючы слупы за сабою.

— Што, выхартаваўся? [1] — спытала пані, як убачыла

---

[1] Выхартавацца — добра выбегацца, згаладацца.

яго пакалмачаную бараду ў дзвярах.— Заві хлапца сюды! Трэба пабачыць яго.

— Зараз, панюхна, зараз! Эй, карантыш, сюды, сюды, косці, госці, гвоздзі, усё паядзім!

Пранусь увайшоў.

— А, і ты тут, ну, а як жа служба? Я і не пыталася.

— А нішто сабе, але каб свая гаспадарка была, вядома, лепей,— бойка адказаў Пранусь.

— Што ж бы гэта было, каб усякі сваю гаспадарку меў, дзе ж бы работнікаў набралася? Так вось, маленькі гаспадарок, да восені паганяеш быдла, а пасля я цябе сюды забяру, да цяжкай працы слабы яшчэ, а для мяне якраз паслугач.

— Добра, пані, добра! — мармытнуў Пранусь, пераЖоўваючы на астатку нейкі храшч, што нянацкам папаў на зубы.

— Пойдзем, братка,— адазваўся барадач.

— Вось, дзядзечка, казала пані, у паслугачы забярэ, мусіць, горш далёка будзе.

— Чуў, сынку, чуў, я толькі маўчу ды думаю, што з гэтага будзе? Тут не ўежна, ды ўлежна, а там, хоць часцей зловіш перапечку, дык і гупліка падбавіць, толькі трымайся.

Гэта, брат, не навіна! Нашто ўжо мне старому ў злосці калі ўклеіла мяшалкай па зубах, то вось адзін па адным тры зубы выбраліся, і здаровыя, як звон. Ну і маўчу, як бы нічога не было. Не адзін раз наздзекуецца над беднымі!..

Нас усюды б'юць. Пайшоў раз у горад, іду вуліцай, вядома, пасярэдзіне, аж дзесяцкі за карк, сюды кажа, я гоц убок, аж на табе — узбіўся на нагу нейкай пані, і што, здаецца, пашкодзіў, калі лапцем крыху наступіў на ваксаваны боцік, дык як яна, браце, пачала вудзіць мяне парасонікам, аж пыл курэў, па той раз — плаці — не пайду.

Так і табе. Пакуль малы — сілы няма, а будзе сіла — права няма, ну і ануча анучай.

Але кажуць ісці за паслугача, ідзі, адказаў няма,— і дзед, закінуўшы на патыліцу шапку, уздыхнуў і запеў:

— Вып'ю я чарку, забуду пра гора, засмягшыя губы хоць чуць прамачу. Годзе млеці ў здзеку, у пакоры, і так ужо досыць век цэлы маўчу.

Нямашака мне долі; мне, беднаму Марку, нават і мысліць аб ёй не вально.

Смутна мне, дайце гарэлачкі чарку, нудныя думкі развее яна.

Увесь дзень у полі сілы парываеш, дзьмешся ад шчырага сэрца свайго.

Смаку не чуеш, у працы зныавеш, а сколькі гаротнага веку таго.

Жылы падцягне, пасмягне ў роце, вочы ад працы крывёй набягуць.

Крыху прыляжаш, зараз світае, зноў падымайся і ў поле ідзі.

Не дзіва, што брат наш здароўя не мае ў высахшай з працы і слабай грудзі.

Дзе там пра долю нам дбаці, няскора нам гэта яшчэ дачакаць.

Бяда, недастаткі цягам у хаце, вып'еш — дык неяк лягчэй, прымачу.

Годзе мне млеці ў здзеку, у пакоры, і так ужо досыць век цэлы маўчу.

— Вось песня, дзядзечка, так песня, недзе чуў яе, быццам то татка мой пяяў, але не ўспомню; маленькі быў. Навучыце, дзядзечка, мяне, навучыце, надта ж спадабалася.

Пранусю больш не пусцілі з барадачом, казалі, каб спраўляўся, калі хоча служыць, адзін.

— Спраўлюся, спраўлюся! — мармытаў ён, патрасаючы кулакамі, седзячы на выгане і прыслухоўваючыся к рэху, быццам-то чакаў адказу ад таго, з кім сварыцца.

— Вам патрэбен, а мне не! Пабачым, ці доўга пабудзе? Зараз пойдзе гамонка, што смятану зласаваў, то падмазку з'еў, то ступіў не так, то глянуў не так, не ўгодзіш, каршун вас дзяры. А дзіця, што дзіця, каму пажаліцца, богу аднаму вядомы здзек над ім.— Хіба памру, то замаўчу, а жыць буду — скажу праўдачку ў вочы.

Пранусь першы раз на сваім жыцці ўвайшоў у пакоі; застыў у здзіўленні і замысліўся.

Гэта не тое, што ў нашых куранках, тут і цёпленька, і светленька, падлога блiскучая, суфіты гладкія і абразы ласкавейшыя, як нашы. А птушак, птушак, жоўценькіх і чырвоненькіх, свяргочуць, як у лесе.

— Шкода, няма дзядзькі, а то разам паглядзелі б, як жывуць людзі, але што чужым багаццем тлуміць галаву, мне мая куранка таксама неблагая.

Пранусю казалі скінуць лапці, і на месца іх далі нейкія скураныя боты, сказаў бы з аборамі, дык не, далёка

не яны, і цянейшыя і чорныя, а не рудыя. Усклаўшы іх, ён доўга марудзіў, пакуль прылаўчыўся ўкручваць, а после набраўся прыкрасці, пакуль ашмуляліся пяты, з непрывычкі скура муляла пальцы і дужа высака выціскаліся ўгару пяты.

— Не, такі ліпаўкі далёка раскашнейшыя,— разуваючыся ўвечары, казаў ён.— Там ні стуку, ні груку, а тут ідзеш і азіраешся, быццам ззаду на пяты наступаюць.

Пражыўшы тыдзень, другі на лягчэйшым хлебе, ён нібы крыху ўжо звыкся і толькі часценька нудзіўся па свайму барадачу, каторага дзён колькі падрад не бачыў.

Праца хоць была няцяжкая, але ўвесь дзень на нагах, туды штурхель, сюды штурхель, там прымі, туды пастаў, змяці пыл, мый падлогу, а то бяжы ў мястэчка, адпачынку няма, толькі ўночы.

Пранусь лічыў дні, калі будуць каляды, і часамі, спатыкаючыся з дзядзькам, казаў яму, што асталося ўжо дзесяць дзён, а то сем, і менш таго.

— Незадоўга, сынку, незадоўга! — адказваў ён.

— Учора, дзядзечка, страху набраўся і мысліў, што будзе гасцінца, аж бач, не, бог злітаваўся нада мной, далі-далі ды нямнога.

— Што, нябось загінула што-небудзь? Гэтак, гэтак, бывае, запрапасціцца, ну, і даюць, на каго больш увагі, а после тых — найшлося, туляюцца, як ваўкі, воч недзе падзець, задобрыць ужо хочуць, але крыўду з сэрца не дастаць.— Ну, што ж было з табой,— я і забыўся.

— А вось нехта заласаваў смятану, ды так, што толькі збан застаўся, як сіраціна, адзін, ну, ведама, да мяне, ты ды ты! Аж после выявілася, сама гаспадыня забылася ключы, а нехта дабраўся і страпежыў усю, як мае быць, смятану ды масла салятырку згроб у дадатак.

І пакуль там разбіралі справу пра масла і смятану, мне добра ўклеілі па зубах, і цяпер ныюць, быццам хто цэглай абязвечыў.

— Чытаў, сынку, ксёнжкі?!

— Чытаў.

— Памятаеш, што Хрыстос казаў: даруй вінавайцы і не рабі помсты, так і ты: пажаліўся мне, і дось.

Надышоў дзень каляд. Пранусь з дзедам радзіліся, як быць.

— Ведаеш, сынок,— казаў дзед,— надта ж жадаю ўбачыць вашу вёску, зямельку і ўсё, што толькі маеце...

— Пабачым, дзядзечка, пабачым, вось толькі б разлічыцца.

— Ты, сынку, маленькі яшчэ, але я цябе шчыра люблю за твой розум; сэрца маё вось так і хіліцца да цябе, сіраціны.

— Пойдзем, дзядзечка, разам адсюль, пойдзем; я не гультай, буду працаваць, і дзядзька што-небудзь яшчэ здолееце.

— Каб бачыў, сынку, лясы павярнуў за свой век гэтымі круччамі, яшчэ і цяпер сіла ёсць, усяго не аддаў ім, толькі зубы прыйшлося воляй-няволяй аставіць на памятку, што вылецелі ад спагаднай рукі пані. Мне ў жыцці не пуціць; нас толькі двое: я ды брат, і той загінуў за крывавы мазоль. Казалі, дзеткі засталіся, а дзе, бог святы ведае...

Пранусь слухаў і маўчаў; мыслі яго блукалі ў роднай вёсцы, дзе год таму назад усіх пакінуў, як адыходзіў на чужы хлеб.

— А што, дзядзечка, за здарэнне было з братам?..

— А вось, дзеткі, не тут кажучы, шула ў лесе абярнулася, і нежывога дасталі, і як там далей было, не ведаю: далёка тады быў я...

— А! І майго татку ж дрэва прыбіла, як я быў маленькі.

— Ад раптоўнай смерці сцеражы нас, божа,— зняўшы шапку, шаптаў дзед.— А ці памятаеш хоць крыху, які быў твой татка?

— Не памятаю, не памятаю, адно толькі засталося, як нашу Насту ён калыхаў, то пяяў: «Люлі, люлі, люлі! Прыляцелі куры, селі на вароцях, у чырвоных боцях...»

Мусіць-то, дзядзечка, і не ведаеце, дзе пахаваны брат, а я таткіну магілку як цяпер бачу, націснутую каменнем.

— Так, браце, так, цісняць нашы грудзі пры жыцці, цісняць і па смерці...

— Пані кліча... пабягу,— адазваўся Пранусь...

— Вось здружыліся! — адазвалася яна.— Як вас ужо і развесці, не ведаю, хіба вадою прыйдзецца.

— А не, панічка! Не варта; самі пойдзем,— адазваўся Пранусь.

— Ну дык з богам, Параска, калі людзі здараюцца...— Калі ж рушыце?

— А хоць і зараз, дзень вялік.

— Добра!..— І пані выйшла ў другую палавіну, а Пранусь без шапкі выбег на вуліцу.

— Дзядзечка! — захлёбваючыся з радасці, казаў ён.— Расстаўляй кішэні, грошы зараз дадуць, ужо я нарыхтаваў усё к ладу.

— Ці ж так? — не верачы, пытаўся дзед.— Ну, калі ў дарогу, то ў дарогу; старцу сяло не ў наклад. А папалуднаваць трэба, я сваё не дарую...

После паўдня іх разлічылі і далі падводу да мястэчка. Пранусь, стоячы на снягу, глядзеў, як масціўся на санках дзядзька, а после і кажа: «Хоць і дрэнненька было тут, але падзякаваць мы павінны; так няможна».

Барадач не адразу скрануўся, абмацаўшы скрыўленую скіўіцу і пустое месца ў зубах, ён усё чмыхаў у нос, але як убачыў, што Пранусь скрыўся ў дзвярах, пайшоў і сам туды.

— Даруйце нам,— казалі яны,— можа, мы ўгнявілі паноў, вядома, простыя людзі...

Падабаўся дужа панам дзяціны падзякуй, у ім яны бачылі шчырую, непадробляную праўду, і за гэта Пранусь дастаў гасцінца два рублі, а барадач рубель.

Скрануліся...

Мінуўшы браму, барадач звярнуўся да Прануся і кажа:

— Ведаеш, сынку, хоць і казала пані, што я гультай, п'яніца, але гэта няпраўда, сам жа бачыў, год разам жылі, капейкі не пусціў нікуды, збіраў, як мог, і праз гэткае жыццё, дзякаваць богу, маю з сабою капейку, усё, сынку, табе аддам, не пакінь толькі мяне, старога.

Пранусь маўчаў і цалаваў дзеда рукі.

— Пакуль буду жыць, не пакіну, дзядзечка, вас.

Прыехалі ў Красналукі і ўвайшлі ў хату. Маці з радасцю аслупела, як убачыла, што сын, як сарока, падбег к ёй.

Пыталася пра ўсё, што толькі прыйшлося яму ўбачыць на службе.

— А хто ж будзе гэта? — спыталася яна ў Прануся, паказваючы на барадача, што поркаўся па клумках.

Пранусь з малога да вялікага давёў матцы пра асаблівую шчырасць гэтага чалавека і пры гэтым сказаў, што даў слова не пакінуць яго аж да смерці, як бы ні жылося.

Старая ўглядалася на госця і не ведала, што распачаць, твар яго надта быў падобны да нябожчыка мужа і наводзіў на яе сэрца тую боль, каторая крыху прызабылася.

Далей, болей разгутарыліся пра жыццё яго брата.

— Не памятаю,— казаў барадач,— хлопцамі ў свет рушыліся, казалі людзі, памёр пад дрэвам, а дзе і як, не ведаю...

Адна памятка ў мяне ёсць, крыжык выцінаны, надта даўні, гэта яшчэ бацька, як нас благаславіў, то абодвум на шыі панадзяваў, мой-то вось дзе, а братні пэўне разам у магіле.

Глянуўшы на крыжык, у старой затрэсліся рукі, і слёзы пасыпаліся з вачэй. Нічога не кажучы, яна павяла рукой па грудзях, дастала адтуль крыжык і кажа:

— Не гэты?

Барадач глянуў і заплакаў:

— Гэты самы, гэты, значыць, тут мой брат жыў і памёр, так во дзе яго кроў, во як.

Хапіў Прануся на рукі і пачаў моцна цалаваць...

## У СВАТЫ

— Чаго ты так рана ўспароўся, унучак? — спытаўся дзед Мешалка свайго ўнука, лежачы на печы.— Яшчэ ніхто і ўставаць не думаў, а ён ужо снуе то ўзад, то ўперад; ідзі ляж, пакуль свет.

Але Буфацаму не спалася; з лямпачкай у руках ён усё хадзіў па хаце і поркаўся то ў куфры, то ў шафе.

— Буфацы! — адазваўся дзед.— Падай ты мне піпку. Нешта і мне не спіцца: млосна зрабілася, сверб па скуры, аж вочы на лоб лезуць.

Буфацы рад быў гэтым разам дагадзіць дзеду, каторы сягоння меўся ехаць з ім за свата, дык, напхнуўшы піпку поўна тытунём, падаў яе дзеду.

Дзед, узяўшы піпку, запыкаў яе, лежачы на печы і пушчаючы дым пад столь.

— Глядзі, дзеткі,— адазваўся зноў дзед,— добра паднядзелься, каб дзяўчынка ўпадабала, а тады, з ласкі боскай, у мясаедзе, можа, і вяселле справім.

Буфацы, слухаючы гэта, так задумаўся, што выпусціў неяк з рук вечка ад вялізнага куфра, а яно знянацку як грукане сярод ночы, аж хата затраслася.

Татка Буфацага, сплючы на палацях, так перапалохаўся, што зваліўся на зямлю і ледзь галавы не разбіў.

— Чаго ты рыешся тут? — накінуўся ён не сваім го-

ласам на сына.— Чаго цябе нячыстая носіць па начы, каб цябе кінула ды не падняло! Трэба ж гэтак спужаць, да памяці ніяк не дайду.

— Ідзі да Тарэсы, няхай перапалохі твае змые,— агрызся сын, выцягваючы з куфра камашы, што пашыў калісь-та нябожчык Сымон, габляванку, бравэрку і пачаў прыбірацца.

Не цярпелася яму,— першы раз у сваім жыцці збіраўся ў сваты.

— Во што значыць маладая кроў! — гаварыў сам з сабой Мешалка.— Ноч не спіць, кідаецца, як той жарабок-пярэзімак. Праўда, некалісь і я быў не лепшы, а цяпер што? Ляжы вот на печы ды плюй у чэрань.

— Гэ! Наш інтарэс старэцкі! — адазваўся бацька Буфацага.— Нам вось косці ўсе ныюць. Напрацуешся за дзень, глядзіш, каб дзе ў куток зашыцца, а ён от ноч не спіць, усё думае, як бы лепей у сваты прыбрацца. Я, як быў у яго веку, то ні разу і барады не галіў, а ён, глядзі, ужо мохры гэтыя абцерабіў і сядзіць, як тая варона загуменная.

— Праўда,— адазваўся Мешалка,— цікава нават было глядзець, як ён скрабаў сваю бараду, ужо так стараўся, што аж ногі хадуром хадзілі,— і дзед пры гэтым стукнуў піпкай аб комін, вытрасаючы адтуль попел, ды пацёр рукавом зрэбнай кашулі пасінеўшы, як сліўка, нос.

— Ведаеш, браце! — ізноў сказаў Мешалка.— Мусіць, мы сягоння добра хлабыснём, бо мой нос аж цокаецца сверблючы, нібы кароста на яго ўзбілася, пэўне, прачувае, што выпіўка будзе.

— А пэўне будзе,— адказаў гаспадар,— мы ж Лісуна добра знаем: чалавек ён і багаты і гасцінны, будзе ўсяго столькі, што дахаты не захочацца варочацца.

Тым часам надышла і раніца, пачало днець. Гаспадыня ўжо тупала каля печы, гатовіла снеданне, а мужчыны ладзіліся ў дарогу.

Буфацы першы раз усклаў габляванку з вялізным каўняром і, задзёршы галаву, як прадла, круціў шыяй, як вол у ярме, бо яму з непрывычкі здавалася, што каўнер безміласэрна рэжа яму на шыі скуру.

Скора гняды жарабец шпарка панёсся па мёрзлай дарозе і, як вокам глянуць, мінаў вёскі.

Ехалі гадзіны са дзве, і ўрэшце на ўзгорачку ўбачылі засценак. Тут жыў Лісун. Праехаўшы пярэплаць, сва-

ты ўехалі ў двор, дзе ім на спатканне выйшаў сам гаспадар і павёў гасцей у хату.

Малады нясмела пераступіў парог і сеў недалёка ад дзвярэй на тапчане з самага краю, трымаючы шапку ў руках. Вайшлі і дзед Мешалка, і бацька маладога. Пачалася гаворка, пытанні, як жонка, дзеткі, ці ўрадзіла сёлета збожжа, а тым часам дзяўчынка, прыбраўшыся па-святочнаму, увайшла ў хату.

Буфацы ўкрадкам пазіраў на дзяўчыну, як кот на сала, і пакручваў пальцамі тое месца, на каторым павінны быць вусы, а сват Мешалка ўсё паглядаў на дзверы, чакаючы выпіўкі і закускі.

— Ну, дачушка,— адазваўся гаспадар,— трактуй гасцей, бо яны спадарожыліся, пакуль прыехалі.

Пайшла маладая ў свіран, і ў момант на стале з'явіліся гарэлка, хлеб, грыбкі заліваныя, рэзанае сала і паміж усяго — пекны, у масле засмажаны певень.

Госці, як згледзелі такі трактамант, аж слюнкі папусцілі, а сват Мешалка зразу пакінуў гамонку пра маладых, а перайшоў да гарэлкі, хвалячы яе, што яна і кроў грэе, і ўсялякія нямоцы лечыць.

Гаспадар, узяўшы вялізны нож, ушчаміў пеўня ў таўстых пальцах і толькі хацеў краянуць, як певень як слізне з талеркі на стол ды чуць-чуць не апынуўся пад сталом.

— О, злодзей, ляцець хоча! — зжартаваў сват.

— Не паляціць,— адказаў гаспадар і, ушчаміўшы зноў пеўня між пальцаў, пакраіў яго на талерцы.

Гасцей многа ўпрошваць не прыйшлося, ведама з дарогі, дык, не ўважаючы, елі так, што аж насы іх гнуліся.

— Дачушка! — звярнуўся да дачкі гаспадар.— Пячы нам яешню, а я вось скокну гарэлкі ды сала яшчэ прынясу.

Але неспадзяванае здарэнне сапсавала дальш увесь інтэрас. Толькі стары выйшаў з хаты па сала ды гарэлку, дзяўчына палезла па яйкі ў падпечак. Туды яна залезла спрытна, але як прыйшлося вылазіць назад, тагды толькі, бедная, сцяміла, што без сораму вылезці нельга, бо падпечак, як на грэх, быў цесны, павярнуцца ў ім трудна, дык прыходзілася вылазіць адным толькі спосабам, на каторы яна ніяк не магла пры гасцях адважыцца.

Між гасцямі зрабілася замяшанне.

Адзін толькі сват, дзед Мешалка, не страціў прытомнасці. Зірнуўшы, як вылазіла маладая, ён сказаў:

— Ну, дзеткі, глядзіце: месяц усходзіць, едзьма дадому! — І пакуль гаспадар вярнуўся ды агледзеўся, гасцей і след прастыў.

## ЧУЖОЕ СМАЧНЕЙ

У вёсцы Неманец жыў стары Ігнат, аўдавелы гадоў з дзесятак таму назад.

Дзед быў з характарам старасвецкіх людзей. Яго доўгая, сівая барада, чырвоны, прыветны твар мелі шмат павагі, і кожнаму, хто раз убачыў дзеда, у вачах малявалася пекная хвігура старога. Гаспадарку меў не дужа вялікую, але, працуючы ад ранняга да цёмнага, хлеба меў аж надта.

Трэба было толькі трапіць к Ігнату, а галодзен не будзеш; накорміць, напоіць, а падарожнаму і з сабою дасць.

Памятаю, як сягоння: зайшоў я раз святым днём к дзеду пагаманіць. Дзед палуднаваў. Зараз туды-сюды сабраў, якія меў, прысмакі, усадзіў мяне на кут і трактуе. Слова за слова, разгаманіліся пра гаспадарку. Вось дзед і кажа: — Усё, дзякаваць богу, урадзіла: і зерняткі ёсь, і агуркі ёсь, а бульба, браце, як вырасце, жаднага смаку не мае, хоць вон выкінь. Вазьмі вось, спрабуй!

Закаштаваў колькі бульбін, хоць, можа, і грэх, але я памысліў, што Ігнат ад старасці смак згубіў. Але, не хочучы дзеду гумар псаваць, згадзіўся з ім і кажу: «Праўда, бацька, праўда: смаку няма, гэта ўжо не бульба, калі ядлоўцам аддае. Вось трэба, каб маёй закаштаваў, то пэўне і на насенне ўзяў бы!» І, далёка не адкладаючы, прашу дзеда к сабе, а сам пры гэтым мыслю, трэба старому выкінуць шутку і накарміць яго ж уласнай бульбай.

Якраз перад тым, калі дзед меўся быць, я папрасіў у яго жонкі свежанакапанай бульбы, абчысціў яе і зварыў.

Прысунуўся дзед. Селі за стол. Звараную бульбу з гарачым парам, у вялізнай місцы, са скваркамі ўставілі

перад намі на стол. Чарку дзед, чарку я, і ну, за бульбу. Дзед яшчэ і не пробаваў, а ўжо кажа:

— Зразу чуваць, што бульба не раўня маёй, глянуць, душа радуецца, а здаецца, зямля адна, праца тая самая, а хвальш такі ёсь.

І не паспелі добра агледзецца, як бульбы анізвання не асталося ў місцы.

Як толькі сабраўся дзед адыходзіць і пачаў дзякаваць за частунак, я і кажу:

— Не варта, дзядзька, за сваё добрае дзякаваць, гэта каб еў маю бульбу, ну, то тады ўжо так, а як хватыгаваўся над сваёй, толькі ў маёй хаце, то не варта.

Дзед з дзіву вылупіў вочы.

І як я ні тлумачыў, а ўсё ж ткі веры не даваў. Але, нарэшце, адходзячы дамоў, паківаў галавой і засмяяўся, кажучы:

— Праўда, суседзе, чужое заўсягды здаецца смачней за сваё.

## ШЧЫРАЕ КАХАННЕ

Даразалі жнеі апошнюю гоню ярыны. Глуха шасталі сярпы, як бы шкляныя, блішчэлі ад зыходзячага сонца чырванаватымі блескамі. Снапкі ў копах шарэнгай стаялі на шырокім полі.

Чуваць былі жарты, вясёлы смех, то заўнылыя песні. Сонца, як бы спяшаючыся, ужо збіралася схавацца за лесам, а ў старане над балотцам засцілаўся белы туман і веяла холадам.

Саўсім вечарэла. Але жнеі адна перад другой завіхаліся, каб скончыць, бо бачылі, што ўжо ідзе сам гаспадар к ім сказаць, што пара пакінуць працу.

— Э! Зязюлькі мае любыя,— падышоўшы, прабасаваў гаспадар.— Праца — не воўк, у лес не пабяжыць, кідайце — пойдзем.

Але жнеі, як пад каманду, рэзалі і вязалі ў снапкі збажыну, і нарэшце — праца ўся — марш дамоў.

Да вёскі не больш паўвярсты. Дарога па ўзлессі.

— Ну, зязюлькі! Нудна неяк, песню б мне, старому, у каторай так шмат жалю, у каторай чуваць бяду і гора беларускага народа.— Так падышлі пад вёску, дзе іх ча-

калі сама гаспадыня і вясёлыя хлопцы, што стаялі ля Язэпавай хаты.

Пайшлі смехі, жарты і вясёлая гамонка на ўсю вёску.

— Марцін, кінь блазнаваць,— звонкім голасам перабіла белакурая Гапка на хлопца, што, як цялё, туліўся да яе.

— Ці не пара вам спаць? Куры ўжо даўно спяць, а яны яшчэ снуюць,— жартавала Наста.

— Праўду рэжаш, мая красачка,— басаваў Ігнась.— Дзе ж той сон каму пойдзе, не ўбачыўшы вас, зязюлек! Вось глянем на вас, кветачкі, і сон латвей пойдзе.

— Можна і без пагляду,— праскрыпела старая Базыліха, што, адчыніўшы акно, слухала вясёлую дружыну.

Але дзецюкі як не чулі размовы старой і адзін перад другім завіхаліся, як найдалей сцягнуць вясёлую гамонку.

«Стар! Стар!» — гукнуў нехта на Базыля, што, узяўшыся ў бокі, гарцаваў пад гармоніку нейкі нявіданы дагэтуль танец. «Пакінь! Пакінь! — рагаталі хлопцы.— Пажалей атопкаў, пэўне новых лапцей не маеш». А Базыль аж захлёбваўся ад радасці, што падпаў трафунак разагнуць старыя качэргі.

Так, можа, надоўга зайшлася б гулянка, каб сама гаспадыня не наважыла ісці ў хату на вячэру, бо пачула, недзе пявун запяяў. Хоць і дужа не хацелася пакінуць ігрышча разахвоціўшымся дзяўчаткам, але павінны былі паслухаць гаспадыню, усе пабеглі ў хату і паселі на даўгіх лаўках.

— Эх, мае дзевачкі, зайздрую вам, як загляну ў вочы маладога жыцця; надойдзе мысль, што і сам жа я калісь быў у гэтакім веку і таксама гуляў і пяяў, і сэрца часцей пры мыслі заб'ецца ў збалелай старэцкай грудзі, а после, як жаніўся, крышка ўсяму. Але, дзякаваць богу, жывём мы па-людску, хлеб і куток свой ёсь. Вось калі будзем жывы, то заўтра справім дажынкі і гульнём, каб зямля задрыжала, забудземся пра гора і бяду; няхай нам здасца, што жывём. Ну, а скажыце мне, дзевачкі: ці любіце вы мяне, старога? Не, мусіць. Стар — і я кажу.

— Любім, бацька, любім. Хочаш — пацалуем,— крычалі дзяўчаты.

— Добра, калі так.— І дзед, устаўшы з лаўкі, падышоў з раскрытымі рукамі к Мілцы.

Мілка, зачырванеўшыся, як бруснічка, схавала свой

маленькі, як рэпка, нос у зякрастую хустку і пасунулася ў куток, каб не так блізка сядзець ля вясёлага старца.

Кончылася вячэра.

— Ну, мае дарагія дзеткі,— сказаў гаспадар,— шчыра дзякую вам за спагадную працу. Дай божа, каб вы спаткалі на сваім жыцці ўсяго, чаго толькі жадаеце! На сягоння будзе дось; а заўтра дзень святковы, прыйдзіце, калі ласка, на дажынкі.

Гаспадар ужо было сеў, але яго практычны пагляд нечакана нібы кагосьці шукаў паміж дзяўчат, а после запытаўся:

— А дзе ж мая Гапачка? Нешта я яе не бачу тут.— І, сказаўшы гэта, выбег на двор і пачаў клікаць Гапку.

Перад тым як дзяўчаты пайшлі ў хату, Гапку пераняў прыгожы хлапец Сымон, які так ёмка адтоптываў казачка, і ўгаворваў яе хоць на хвілю застацца з ім.

І вось, пакуль дзяўчаты вячэралі і гутарылі з гаспадаром, Гапка з Сымонам вялі размову аб каханні.

— Што ж, Гапачка, і сягоння нешта нудная? Няўжо мой вясёлы ка́зак не разагнаў тваіх нудных думак? Я гляджу на цябе і не ведаю, чаго нудзіцца. Бацька — хоць не родны — ёсць, маці — такжа, хата, хлеб, а ў мяне што? Адзін, як бізун. І бедзен бясконца. Вось маю хлеб, і той няпэўны. А там, там пэўне ў службу возьмуць.

Пры гэтай размове расчыніліся дзверы, і на парозе — як вырас — сам гаспадар. Дужа непрыгожа было ісці ў хату, але Гапка мусіла паслухаць.

Тут, вядома, зараз пасыпаліся смешкі і кпінкі. Кожны плёў, што ўмеў, усіх прыходзілася слухаць.

— Ну дык дзе ж была, Гапачка? — спытаўся сам гаспадар.— Скажы, не саромся. Мусіць, хлапца аблюбавала? Каго ж такі, каго?

Не далі скончыць пытання дзяўчаты і зашчэгеталі, як сарокі:

— Яна, мусіць, Гаўрылу Гарбатага ўпадабала. Глядзі, бяды з гарбом набярэшся. Ідзі лепш за Марку Струкача!

І гэткія кпінкі зусім збілі з панталыку дзяўчыну. На тым скончылася. Дзяўчаты гуртам усталі, падзякавалі за вячэру і скоранька пабеглі дамоў у суседнюю вёску.

Як быў светлы дзень, так стаў цёмны вечар. Спрабавалі было завесці песню, але не ладзілася яна ў іх: так і замоўклі.

Апутаная думкамі, Гапка і не агледзелася, як далёка

засталася ад сваіх і, не ўважаючы на ноч, мерным крокам ішла між алешніку. Там прайшла не дужа далёка, аж пачула, што быццам нешта шастае, і чыясь цень паўзе па дарожцы. Акамянела са страху Гапка, але страх адразу змяніўся на радасць, і ёй стала відаць, што цень знаёмая.

Перад ёй, як вырас Сымон.

— Не пужайся, Гапачка! Гэта я! Бег, дух не змяняючы, каб як-небудзь пераняць цябе і давесці да дому. Нямашака месца, як успомню, што будзе са мной, калі прыйдзецца разлучыцца; хоць жывы ў магілу лезь! Здаецца, ніколі б не расставаўся з табой. І вось думаю сабе, дагяню цябе і яшчэ разок гляну ў вочы табе; няхай твой пекны вырыс твару навекі адаб'ецца ў сэрцы маім. Але вось і хата твая. Пэўне будуць бацькі грызці: мяне то ўжо даўно грызуць. Такой бяды. І ўсё нічога — толькі вось марныя думкі не пакідаюць мяне, і на сэрцы такі цяжар, нібы штось яно прачувае. Кінь, любая! Гэта так штось здаецца, ніхто нам ніякай перашкоды не павінен зрабіць, бо пакуль не застыла кроў і не перастала біцца маё сэрца — сіла і адвага на нашай старане.

— Ну, будзь здароў, Сымон! Да заўтра! — сказала Гапка і працягнула рукі. Сымон моцна сціснуў рукі Гапкі, абняў сваімі каменнымі рукамі і шчыра пацалаваў яе. Так і разышліся яны.

Не раз абарачваўся Сымон і ўглядаўся на хатку, што, згорбіўшыся і пахіліўшыся к зямлі, пры бляску месяца зіхацела, як залатая, і дзе ў маленькім аконцы, нібы прыплюшчаным воўчым вокам, бліснуў агонь; але мусіў ісці, бо сабакі паднялі брахню.

Доўга бубнелі бацькі, што ўночы вярнулася Гапка, а больш усяго стараўся даняць войчым, каторы і сам толькі што вярнуўся з шынка, добра падпіты. Але Гапка мала слухала, што плёў п'яны, бо, спрацаваўшыся за дзень, хацелася аддыхнуць.

Ноч прайшла ў дрэнных снах. Бачыць, быццам — лес, балота нескончонае, і яна ў гэтай пушчы адна-адзінокая жыве. Страх агортваў яе. Затым сон мяняўся другім, страшней першага, і так настала ранне.

Як святковы дзень прабег — і не агледзелася Гапка. Толькі пад вечар збегліся дзяўчаты і, забраўшы з сабою Гапку, пайшлі ў суседнюю вёску на дажынкі. Бегучы, Гапка толькі і жадала, каб убачыцца з Сымонам, што, як цень, стаяў у вачах.

Сцямнела, як дзяўчаты падбеглі к хаце, дзе іх чакалі маладыя хлопцы. Гапку сцярог Сымон. І, як толькі згледзеў, адразу падбег к ёй.

— Ну, што ж, родная? Здаецца, і сягоння слёзы; эх, баба, баба! Выкінь з галавы мыслі! Ты ж толькі пачынаеш жыць, шчыра любяць цябе. Пойдзем у хату. Чуеш, як смаляць у скрыпку і гуляюць дзяцюкі з дзяўчатамі?

Не пайшла Гапка, а засталася з Сымонам стаяць каля пярэплаці. Месяц звысака свяціў і, як бы вартаўнік, сцярог раскінутую ў пушчы вёску і людзей. Прыпёршыся на плячо Сымона, Гапка штось мысліла і глядзела ўдаль, і ёй у гэту хвілю жадалася вытлумачыць Сымону пра шчырае каханне, але трудна было распачаць.

— Гапка, скажы, родная, якая можа быць твая думка, можа, я як-небудзь растлумачыў бы яе? — адазваўся Сымон.

— Не, мой родны, я тут заўсёды адна, ты — толькі сягоння і, можа, яшчэ колькі дзён, і па ўсім! — І гарачыя слёзы пацяклі па твары Гапкі.— Ох, хвіля, хвіля! Прачувае маё сэрца штось нядобрае.

— Ды кінь жа! Без часу звядзеш у магілу сябе і мяне.

Так далёка за поўнач гаманілі Гапка з Сымонам і нарэшце пайшлі знаёмай дарогай дамоў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не агледзеліся, як надышла восень.

У будны дзень прыйшоў Сымон к Гапцы, калі не было бацькоў у хаце. І хоць вельмі стараўся не падаць адразу віду, што прынёс цяжкую вядомасць, але сумны пагляд вачэй здрадзіў яго. Гапка пазнала.

— Гапачка, родненькая! Гора вялікае. Як ні клапатаў — нічога. Пайду. Калі ласка боская — вырвуся, спаткаемся ў радасці.

Крыкнула нямым голасам Гапка, прыпаўшы на грудзі Сымона, а тым часам скрыпнулі дзверы і на парозе як вырас войчым, добра падпіты.

— Гэта што за дружба? Ты чаго, вужака, пераступаеш парог, калі я цябе раз выгнаў і прыказаў не тлуміць дзіцяці галаву? Ды ты, здаецца, плачаш? — звярнуўся ён да Гапкі.— Паспееў ужо ўпрэгчы ў аглоблі. Вон! Вон, кажу, пакуль мешалку не ўзяў. Для Гапкі ў мяне ёсць дзяцюк, зусім не раўня табе.

Глянуў Сымон на Гапку, а ў самога і вочы кроўю на-

беглі. Няўжо, памысліў ён, гэты кат паставіць на сваім і выдасць яе за нялюбага чалавека?

А Гапка тым часам наўзрыд плакала, уздрыгваючы ўсім целам.

— Татка! — адазваўся Сымон.— Я ўжо апошні раз тут. Праз колькі гадзін мяне тут не будзе: пакідаю ўсё, з кім зжыўся і зрадніўся. З тымі горачкамі і прыгорачкамі, кусцікамі і хмызнячкамі, з усім растаюся... надоўга... Бог ведае, ці вярнуся. Прасіў бы вас, будзьце ласкавы, пажалейце мяне, ні ў чым не павіннага чалавека. Я пакляўся легчы касцьмі...

— Дарэмная фатыга,— перапыніў стары.— Як ужо сам кажаш, што не маеш часу, радзіў бы выходзіць самому, бо можа выйсці нядобрая справа.

— Іду,— скрыгануўшы зубамі, сказаў Сымон.

Як выбег на вуліцу і як апынуўся ўжо ў канцы вёскі, не помніў ён, толькі глянуў — шапкі на галаве не было, дзесь у Гапкі ў хаце засталася.

— Эх, шапку запомніў,— апамятаваўся Сымон.— Можа, вярнуцца? Але не! Не пайду! — І так, ідучы дарогай дамоў, не раз горка заплакаў, як успомніў, што з ім так не па-людску абышліся, і за што — спытацца.

Назаўтра машына шпарка везла маладых ваяк далёка ў чужы край.

У той вечар, як у Гапкі быў Сымон, п'яны айчым далёка за поўнач шумеў, радзіў забыцца пра Сымона, а не — абяцаў выбіць мыслі з галавы.

Так прабег тыдзень-другі. Гапка вельмі схудала. Бацька валіў усякую няпраўду на Сымона і, стукаючы кулачком па стале, гразіў, што прыб'е.

Гапка, каб не слухаць непрытомныя рэчы дзікага чалавека, найчасцей выходзіла з хаты ў сенцы, дзе праседжвала цэлыя ночы. Нарэшце злегла. Кашаль ірваў грудзі. Жар прыліваў к галаве. Маці ўжо пераканалася, што дзіця яе хвора, але не магла перад старым нічога казаць, бо ведала, што за натуру меў ён, і к таму — вечар у вечар п'яны.

А тым часам хвароба жадна накінулася на маладое жыццё. Дзень праходзіў лягчэй, а ноч у непрытомных рэчах, у слёзах.

Лежучы, здавалася ёй, што яна топіцца і ўсё кругом топіцца, а то чуецца заўнылая песня, голас Сымона...

І вось пачынае яго клікаць, пераймаць і, водзячы пальцамі па сцяне, нібы бачыць яго перад сабой, вобмацкам шукае яго.

Прадчувала маці, што можа з гэтага дрэнная справа выйсці, і нават фельчара паклікаць мелася, але трафілася іначай.

Неяк позна ўвечар, як не было ў хаце старой, прывалокся п'яны айчым і, як ужо за звычай меў, пачаў чапляцца да хворай Гапкі, кажучы, што тут здаровым нямашака месца, а хворым з кахання і пад паветкай будзе добра, і, не ўважаючы, што хворая толькі пераводзіла дух, сцягнуў за руку з ложка і выпхнуў з хаты, сказаўшы ўслед, што цяпер якраз падышла пара пашукаць Сымона,— і зачыніў дзверы.

Халодны сіверны вецер, растрасаючы па мёрзлай дарозе снег, ледзьве не збіў з ног хворую. Ногі зусім не служылі, сілы пакідалі яе. Сланяючыся з боку ў бок, вобмацкам ля сцяны, падышла Гапка к дзвярам сваёй хаты, увайшоўшы ў сенцы, нешта там узяла і выйшла на вуліцу.

Усе ўжо спалі. Дзесь на краю вёскі цяўкаў сабака. Гарачыя слёзы цяклі па абмёрзламу твару Гапкі, і чым далей яна ішла, тым больш дзервянелі яе ногі. Мінула апошнія хаціны, перад вачыма развярнулася шырокае поле. Дарога крута паварочвала ўбок. Ідучы босымі нагамі па мёрзлай зямлі, часта яна спатыкалася і, сабраўшыся з сіламі, адыходзіла далей.

Абразы адзін за адным мітусіліся ў вачах. Перад ёй як вырас яе бацька, яе родны бацька, той, што маленькую пакінуў яе. Бачыць, быццам ён смяецца і туліцца к яе пахаладзеўшаму твару, затым бярэ за руку, і яны бягуць і бягуць.

Прыбеглі. Лес. Аж смаліць, грэе сонца. І здаецца ёй, што ўсякі кусцік, усякая травінка, усе радуюцца іх прыходу, маняць і клікаюць к сабе. Дуб шапасціць: хадзі, аддыхні пад маю засень.

— Не! — адказвае яна.— Мы яшчэ не змардаваліся. Вось крышку пабегаем, можа, тады.

Тут красачка, здаецца, шэпча:

— Глянь-тка на маё хараство...

— Бачу. Бачу,— адказвае яна.— Я цябе зараз сарву для таткі свайго.

І так выбеглі на палянку. Сонца грэе; цёпленька і нават душна. Тут з'явіліся магілкі. Крыжы, бярозкі, помні-

кі. І тут усе радуюцца, усе смяюцца. Вось раскрываецца магіла, зазіяў жоўценькі пясочак, і пацягнула сырасцю.

Бацька, убачыўшы магілу, вырваўся і кінуўся ў яму. Яна за ім. Сцямнела. Прыкрылася дамавіна. Чутна, як залязгала жалеза, забухала камамі зямля, пасыпаліся дробныя каменьчыкі, і ўсё сціхла....

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйшоўшы дахаты, маці зразу агледзелася, што нямашака дачкі, і накінулася на старога, дзе падзеў хворую. Але як ні дабівалася ачуніць п'янага, аніяк не змагла. Той толькі мармытаў праз сон, уткнуўшыся носам у салому.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сымон у войску ні на хвілю не пакідаў думкі аб Гапцы.

Памяці жаднай не было, апроч таго яечка, каторае яна падарыла яму, як хрыстосаваліся. І мілы выраз твару Гапкі цэлымі днямі стаяў уваччу.

— Усё гэта прапала без павароту! — глыбокі стогн вырываўся з яго грудзі. Затым у вачах з'яўляўся той агарод, дзе ён працаваў, тыя чырвоныя макі, на каторыя часта заглядаўся, і тая цэркаўка, дзе так шчыра маліўся, і тыя званы, каторыя сваім працяжным рэхам краталі яго чуткую душу.

— Божа мой! Няўжо ніколі не ўбачу яе? — І затым сам сабе адказваў: — Ніколі! Яе не пусцяць за мяне і думкі выкінуць з галавы.— І Сымону станавілася горка-горка, і вочы напаўняліся слязамі.

Але ў войску — гэта не дома: для навічка праца і муштры па цэлых днях паказаліся непамерна цяжкімі. Прайшоў тыдзень-другі. Сымон злёг. Твар схуднеў. Вочы глыбока ўваліліся.

— Ты хвор? — спытаўся доктар.— Сымон у знак таго кіўнуў галавой. Сымона палажылі ў светлы пакой пры вялікім акне. Тут ён бачыў, як уставала і заходзіла сонца, як плылі воблакі і тых вясёлых птушачак, каторыя з крыкам пераляталі ля самага акна.

Гледзячы на неба, у вачах яго рысаваліся вёска, поле, агарод, чырвоныя макі і Гапка... І мысліў ён, ці памятае яна і ці снілася ёй, што я тут, закінуты ў чужы край, углядаюся ў вочы смерці.

Яшчэ раз, другі зайшоў доктар к Сымону, а пасля, вызваўшы на сабранне, адправілі дамоў.

Як ехаў і як прыехаў — смутна помніў Сымон.

Прыйшоўшы ў вёску, не меўшы нікога з сваякоў, зайшоў к чужым сялянам і перш-наперш спытаўся, як і дзе яго Гапачка.

Не было чаго скрывацца чужым людзям, не ведалі, якая рана адкрыта ў сэрцы бедака, і зразу сказалі праўду, што чулі, быццам даўно ўжо няма яе, шукалі, шукалі і пакінулі; з таго часу, як войчым выгнаў з хаты ўночы, як у ваду знікла.

Закружылася галава ў Сымона, замітусіліся ў вачах агеньчыкі, і ён асунуўся на зямлю. Як прачнуўся ён, то ўбачыў знаёмых яму сялян і пачуў родную гамонку, але ніяк не мог апомніцца ад навіны.

Перамогшы сябе, крыху аддыхнуўшы, Сымон наважыў ісці шукаць, і, узяўшы армяк, ён выбраўся ў далёкую дарогу.

Ідучы, Сымон праве ў кожнага пытаўся, ці не чулі, ці не бачылі яго Гапкі, але ўсе, як адзін, адказвалі, што ў вочы не бачылі.

Так Сымон далёка адышоў ад роднай вёскі, пытаючыся ў мужыкоў, у баб з чужых вёсак, і вось нейкі чалавек растлумачыў яму, што чуў ад некага, быццам у воўчай пушчы нехта бачыў непрытомную дзяўчыну, але ў гэткай глушы, што і подступу нямашака туды.

Заныла ад болю сэрца Сымона, цяжка было перанесці такую вядомасць, ведаючы, што бедная Гапка загінула праз яго і праз дзеі шалёнага войчыма, але, сабраўшы апошнія сілы, кінуўся к той пушчы, дзе бачылі Гапку.

І гукаў Сымон, і клікаў па імені, нічога не было чуваць. Гэтак ён зайшоў у такую пушчу, што страх агарнуў яго, але вочы яго прыцягам глядзелі ўдаль і ўдаль.

Толькі неяк зірнуў Сымон у старану, аж бачыць, нейкая торба, падняў ён і глянуў, што ў ёй ёсць, аж разам аслупеў ад страху,— у ёй была яго шапка, каторую ён забыўся, уцякаючы ад Гапкі, як надышоў войчым.

Слёзы пацяклі па твары Сымона. Здушаны крык прабудзіў дзікую пушчу. «Гапачка! Гапачка! — галасіў ён.— Тут твая сходзіць дарога, прычувае маё сэрца. Смерць вырвала дарагую для цябе памятку».

Вокліку не было, толькі рэха сумысле насміхалася над ім, горш надрывала душу.

Хацеў Сымон павярнуць у другі бок, аж замітусілася

ў вачах, і ён, як падпіленае дрэва, застагнаў і паваліўся на зямлю, крычучы нямым голасам.

Пры купіне ляжала груда касцей, аб'едзеных ваўкамі.

## АДУКАВАНАЯ КАБЫЛА

Раз Гаўрылу здарылася на кірмашы сходна купіць вельмі прыгожую і непамерна вялікую сівую кабылу.

Радаваўся Гаўрыла, гледзячы на канягу, хвалілі і суседзі, кажучы, што яна палкавая кабыла.

Дзень, другі патрымаў яе Гаўрыла на добрых харчах, а пасля, як ні хацеў, а прыйшлося ўпрэгчы ў саху.

Няскладна хадзіла з сахою яна, відаць было, што незнаёма з раллёй.

Замаркоцілася кабыла, як папрацавала ўзапар колькі дзён ад сонца да сонца.

Вяртаючыся з поля ўвечар на адпачынак, яна нудна глядзела ў той бок, адкуль яе прыгнаў новы гаспадар, і прыпамінала, як добра жылося раней, і як дрэнна цяпер. Бывала — аўса ўволю, дагляд, працы ніякай, гарцуй сабе пад музыку, а тут мерай з канца ў канец даўгі шнур на полі.

— І за што гэткі здзек учынілі? — горка жалілася яна сама сабе.

Вось неяк у свята Гаўрыла выбраўся з'ездзіць у горад палюдскаваць трохі ды кабылу перагнаць. Толькі ўехаў у шырокую вуліцу, як на спатканне, ідзе пад трэск барабана цьма салдатаў з музыкай уперадзе.

Гаўрыла з'ехаў набок з дарогі і супыніў кабылу.

Тут музыка грымнула марш.

Не паспеў Гаўрыла адвесці дух, як яго кабыла з сілай ірванулася ўперад, выкуліла панарад у канаву і з выдзертымі аглоблямі панеслася ўздагонку за музыкай, падкідаючы зад угару.

Гаўрыла, рэзнуўшыся галавой аб ліхтарны слуп, не бачыў, што было далей, толькі, калі апамятаваўся, убачыў, як кабылу яго вёў за аброць дзесяцкі.

— Ты што гэта, на танцы яе прывёў, людзей пужаць? — грозна спытаў ён.

— Шатан яе ведаў, што яна танцуе,— адказаў Гаўрыла.

Кабылу адправілі на пажарны двор, а Гаўрылу паклікалі ў часць.

Толькі назаўтра ўбачыліся Гаўрыла з кабылай. Яна заржала і ветліва зірнула на яго.

Па ўпаўшых баках было відаць, што яна ноч прастаяла галоднай.

Глянуў Гаўрыла на яе і ўсміхнуўся. Злосць адразу адпала ад яго.

— Ну як жа ж танцы? — жартаваў ён.— Не выйшлі? Я так і знаў, што не пападзеш у тахту, я вось чалавек і розум не кабылячы і то не патыкаюся, а то яна — вымкнулася... людзей папужала, ліхтары паварочала... Паедзем дамоў, у гасцях — гэта не дома, пэўне тут і каліва сена ў губу не далі, а мяне, прызнаюся табе, добра пачаставалі...

## ДАРАГІЯ ЛЕКІ

Прычапілася да Язэпа хвароба, не раўнуючы, як п'яны прычапіўся да плота, і чым ні ратаваўся бядак, жаданай паправы не было.

— І каб ужо хвароба як хвароба была, а то брыда брыдой,— жаліўся Язэп,— дзень цягне, дзень смокча, два рвець, тры палошча!..

Усяк прабаваў ратавацца Язэп — нічога не памагае.

— Трэба,— казалі суседзі,— к доктару звярнуцца, той зразу ўгадае; не распазнае зразу — машынку навядзе і будзе ведаць, у чым рэч.

— А можа, і праўда,— памысліў Язэп.— Трэба людзей слухаць.— І, доўга не адкладаючы, пачаў збіраць грошы на лекі.

Колькі дзён узапар ён не хадзіў з візытай да сядзельца і, як мог, ціснуў капейку.

Урэшце выбраўся ў горад; незадоўга знайшоў доктара і к поўдню ўжо сядзеў у прыёмнай.

Там былі маладыя і старыя з задумёнымі тварамі.

Глянуўшы на ўсіх, Язэпу здавалася, што з такой хваробай, як ён, то тут не было і не будзе, бо ўсе, як адзін, здаровы на пагляд, як рыжыкі.

Незадоўга распачаўся прыём.

Язэпа прынялі апошнім. Доктар доўга пытаўся, ці п'е гарэлку, як спіць, ці добра есць.

Язэп адказваў, але з асцярожкай, каб не выкрыць, што гарэлку п'е, як у лейку ліе. Але доктар спазнаў і забараніў хадзіць да сядзельца. Адлічыў Язэп паўрубля за візыту і выправіўся ў аптэку.

Там агледзелі рэцэпт, адлічылі на два рублі лякарства і казалі прыйсці за гадзіну.

Аж шорхна зрабілася Язэпу, як пачуў ён гэтую цану, але ў канцы згадзіўся, што сам вінен, калі даў раз'ездзіцца хваробе.

За лякарствам прыйшлося ісці заўтра, бо шмат не хапала грошай.

Адыходзячы да дзвярэй аптэкі, ён яшчэ раз глянуў праз акно на бліскучую лысіну аптэкара і, выходзячы, заявіў сам сабе, што не шкадуе грошы, абы толькі помач была.

Назаўтра Язэп па лякарства сам не паехаў, а выправіў жонку.

— Кошык жа не забудзься ўзяць! — дзесяты раз прызываў Язэп.— На два рублі іх нададуць столькі — у прыпол не забярэш ды патаўчэш у дарозе.

— Добра, добра,— адказвае жонка,— узяла; мала аднаго — другі ў панарадзе ёсць.

Прыехаўшы ў горад, яна паважна ўвайшла ў аптэку, цягнучы за сабой два вялізных кашы.

Сваім вачам не паверыла кабеціна, калі ўбачыла, што не тое каб у кашы не ўмесцілася, а ў руцэ, як цукерак, захаваеш.

Не даваў веры і Язэп, як убачыў, што жонка прывезла.

— Пэўна ашукаў мяне, цямражніка, той шалахвост? — бедаваў Язэп, пазіраючы на бутэлечку. Прыйшлося распачаць лякарства.

Прайшло трохі часу, вось суседзі і пытаюць:

— Ці памаглі лекі?

— Ды дзе там! — са злосцю адказваў ён.— Два рублі з паловай упёр чорт ведае за што, а помачы жаданай няма,— лепей бы за гэтыя грошы напіўся, то б тры дні галава балела, а то нічога.

# СЛЯДЫ СТАРЫНЫ

З высокай гары, як красачка з зяляніны, паважна глядзіць на аколіцу старынны замак, абведзены высокімі пасівеўшымі сценамі.

Калісь у даўнія часы, як ля гэтых сцен гарцавалі ворагі, жадаючы лёгкай пажывы і крыві, з байніц грымелі гарматы, шлючы шалёныя кулі ў непрыяцельскі стан.

Цяпер блізка веку тут ціха і спакойна, замак вясёла пазірае ў неба, мяняючы час ад часу свой выгляд пад рукамі чалавека.

Не гудзяць і не кратаюць старыны кулі, не гінуць ад іх без ліку людзі; жыццё плыве, як вада ідзе...

Высокі акамянелы вал, зарослы высмаленай ад сонца травой і месцамі вышчарблены мінамі непрыяцеля, як даўней, так і цяпер, горда трымае на сваіх магутных плячах старыну. З высокіх байніц, быццам лютыя звяры, нема глядзяць у туманную даль гарлачы загрышпаленых[1] гармат, адкуль з адважных рук вылятаді з шалёнай сілай кулі, нішчачы ўсё, што спатыкалася на дарозе.

З высокай вежы ззяе і пераліваецца ўсялякімі калёрамі на сонцы крыжык, а там званы, што калісь сваім працяжным рэхам ззывалі ў невялічкую каплічку людзей.

Маліліся тут шчыра, з вялікай верай, пад гром гармат, маліліся і ў часе спакою.

Адсюль ішлі на валы, а адтуль ужо каго куды накіроўваў лёс.

Прайшлі вякі, а пра гэтае арлінае гняздо і тых ваякаў, што змагаліся тут да апошняга ўздыху, баронячы сваё права,— не забылі.

Вялікія абшарныя пакоі са старасвецкімі мэблямі і партрэтамі знатных ваякаў сведчаць памятнікам старыны. Глянуўшы на маленькі партрэт, вочы не зразу адарвеш, жадаецца ўгледзецца, узгадаць іх жыццё, добрыя і блізкія справы і час смерці, каторая, не зважаючы ні на багацце, ні на славу, рабіла сваё.

Перад вачыма ў пекнай аправе, як жывы, малюнак вядомага гетмана, каторы калісь-то, дбаючы толькі аб дачэснай карысці, аддаўся ў рукі ворагу і ўпоруч з ім праліваў братнюю кроў...

Побач з гэтым партрэтам вісіць малюнак адважнага рыцара, каторы, накрыж трымаючы ў руках знамя і меч,

[1] Загрышпаленыя — пакрытыя ржой, цвіллю.

клянецца перад народам, што будзе змагацца да апошняй каплі крыві. А далей партрэт яшчэ маладога, але ўжо досыць вядомага і шчырага ваякі, што вядзе войска супраць ворага, і, здаецца, у вачах яго гарыць іскра, каторая распальвае адвагу і, як промень, асвятляе надзею ў змагаючыхся за свае правы і дарагую бацькаўшчыну.

Між малюнкаў скрозь па сценах вісяць іх жалезныя латы, мячы, каторыя мелі пры сабе тыя бяссмертныя багатыры.

Нічога не загінула, усё іхняе тут і з вялікай пашанай сцеражэцца маладым пакаленнем. Адвага і смеласць іх відаць не толькі на партрэтах, а з большай праўдзівасцю ўсе іх паступкі апісаны ў гісторыі, гдзе на вякі адбіліся, як у крыштальнай вадзе.

Вечка дамавіны прыкрыла толькі іх цела. Малюнкі ж партрэтаў адбілі выразы твараў, а гісторыя, як люстра, праўдзіва паказала, хто чаго варт.

Там відаць, хто да чаго быў здацен, хто змагаўся з ворагам за родную краіну, а хто прадаваў за золата і дыяменты роднага брата і родную старонку.

# АДПЛАТА ЗА ПРАЦУ

Па ўхабістай крывой дарозе, апусціўшы закураныя, як ком гразі, галовы, ледзь-ледзь цягнецца пара коней, запрэжаная ў цяжкі воз; раз за разам падганяе іх найміт.

— Но, каб цябе, но,— чуваць яго грубы голас, пры кожным слове па худых конскіх баках ляскае доўгі сукаваты кій.

З апошніх сіл ірвучыся — разам і паасобку,— ледзь кратаюць цяжкі воз і крок за крокам мінаюць то лепшыя, то горшыя месцы на дарозе.

Поўдзень. Ад страшэннай спякоты нібы заснула ўсё жывое, толькі ціш перарываецца цяжкім сапеннем коней, скрыгатнёй калёсаў ды лянівым шастаннем груганоў, пераляцаючых з поля ў бор, каб схавацца ад гарачых прамянёў сонца.

— Ану, ану,— басуе найміт, акладаючы па чарзе запаўшыя бакі коней палянягай. Не раз хістаўся з боку ў бок, страціўшы сілы, конь, не раз маўчлівым поглядам у вочы азвярэламу найміту жадаў ён растлумачыць, што

ні найгоршая лаянка, ні найтаўсцейшы кол не вернуць ужо патрачаных сіл,— нічога не памагло: палена са свістам узлятала ў паветры і ўпівалася ў скуру, ранячы ўсё новыя і новыя месцы. Рой сляпнёў і аваднёў капашыўся на зраненай скуры. Неўспадзеўкі — прыпынак... Воз працяжна скрыгатнуў і стаў... Задрыжэлі і падагнуліся раптам ногі спацелага коніка, пачуўся сіпаты са стогнам храп, і асунуўся бядак на зямлю, паводзячы мутнымі вачыма перад сабою.

— Ану, ану! — не сваім голасам загалёкаў наймiт. Нічога: ні лаянка, ні гуплікі не памагалі. Выпрагшы здаўшагася каня і сцягнуўшы яго з дарогі набок, наймiт нокнуў на другога і налёг шырокімі плячыма на воз.

Воз крануўся, вылі дзіўна жудасным голасам калёсы, быццам заводзілі хаўтурную песню па спагадным працаўніку, якога пакінулі яшчэ жывога на спажыву ваўкам...

— А, но, буланчык,— ласкавейшым ужо голасам адазваўся наймiт, напіраючы з усёй сілай на воз.— Ну, мой шаўлюжка, хата недалёчка, аўсу дам.

Не цешылі буланага абяцанкі: бачыў ён, якая падзяка была за шчырую працу; адна толькі думка — бардзей убачыць страху хлява, дзе мо крыху спачне ад непамерна цяжкай працы.

Вось урэшце воз пераваліў крутую паваротку, і ў лагчынцы зачарнела хата з прадранай страхой. Буланы заржаў. Пачула яго сэрца, што там яго хата, там яго прыстанішча...

За прыгоркам, штораз звужаючы свае шырокія кругі над кустамі, лянiва і цяжка апусціўся ля дарогі груган на цёплае, яшчэ час ад часу ўздрыгваючае цела каня. Момант — вымкнулася і знікла ў горле чорнай бліскучай птушкі слязлівае вока, што так нядаўна яшчэ паглядала прыхільна і жаласліва на ўсіх.

## СМЕРЦЬ СТАРЦА

Прыгнуўшы худую спіну і апіраючыся на плячо правадыра, крок за крокам ішоў каля яго стары, абвешаны накрыж торбамі.

Адна нага, абутая ў непамерна вялікі дзіравы бот,

ляніва пасоўвалася за дзераўлянай клюкай. Даўгая сівая барада, як у таго спагаднага дзеда, аб каторым шмат гамоняць дзеці ў часе калядаў, была асаблівай прыкрасай яго прыгожага твару. Няведама, чым былі даўней багаты вочы, на месцы каторых засталіся цяпер толькі дзве ўваліўшыеся ямкі.

Ніхто не ведаў, адкуль і кім быў гэты дзядок, і некаму гэтым было цікавіцца: даў лусту хлеба, і мінай, дзед, далей. Праўда, спыталіся, скуль ён і дзе так акалечыўся, але стары, наказаўшы на згрышпанелы крыжык, што вісеў на сярмяжцы, махнуў толькі рукой.

Маленькі жвавы правадыр ні на крок не адступаў ад дзеда і штохвіліны спаглядаў на яго збялеўшы твар, як бы жадаючы згадаць наперад кожную думку старца. Ведучы дарогай, абмінаў карчы і каляінкі, а як прыходзілася заходзіць у хату, то пільна аглядаўся на парогі і вушакі, каб дзе часам не зачапіўся дзядуля. Мусіць-то, вельмі дораг быў унуку гэты старац, калі так шчыра даглядаў яго.

Вось неяк у зімовы дзень дзед з хлопцам з самага рання хадзілі па хатах жабраваць. Мінуўшы апошнюю хатку і атрымаўшы ад старца-бабыля кавалак хлеба, выйшлі з вёскі, пацягнуліся дарогай удаль і скрыліся за крутым паваротам.

Поле бялела ад снегу; лес сінеў удалі, зліваючыся вярхамі сваімі з колерам неба. Увокал было ціха, толькі знекуль чутно было выццё сабакі.

Дзед моўчкі кратаўся, закідаў наперад доўгі кій, а за ім ледзь падцягваў цяжка абутую нагу правадыр, дробна ступаючы, квапна ўглядаўся на лес, быццам жадаў прабіць цемру, каб бардзей угледзець вёску. Ведаў добра, што не сілы дзеда цягацца па хатах, але што зробіш — не лезці ж жывым у яму.

Увайшлі ў лес. Векавыя сосны ў белым убранні прыглядаліся з вышыні на гэтых мізэрных людзей. Вялікія вываратні, як засланкі, распусціўшы на дарогу карэнні, чапляліся за ногі.

— Мусіць-то, вялікі лес? — спытаўся старац.

— А не саўсім — вунь прагалінка відаць,— адказаў хлопец.

— Ну дык пойдзем, дзіцятка, бо чую, што ногі надта прыстаюць.

Хлопчык заварушыўся. Ідучы між тоўстых сосен, ён лічыў дрэвы ў той думцы, што яны хутчэй кончацца, а за

імі будзе відаць вёска. Лес парадзеў. Дарога наперадзе накрыж разыходзілася.

— Крыжовая дарога,— адазваўся хлопец.

— А то добра, дзеткі: крыху спачнем ды памалюся, бо нейкі цяжар на сэрцы чую,— сказаў дзед.

Хлопчык ведаў, як маліўся дзед. Зараз дастаў кантычку з торбы і пачаў голасна вымаўляць слова за словам, пазіраючы то на крыж, то на дзеда: дзед, апёршыся пасінеўшымі пальцамі на плячо правадыра, сціх. Шаптаў сляпы малітву.

— Пойдзем ужо, дзеткі, здаецца, снег цярушыць,— сказаў урэшце дзед.

За лесам у лагчыне, як плямінка, ледзь-ледзь адзначалася вёска. Снег сыпаў штораз гусцей. Неба крыху засінелася спярша, а пасля зразу зацягнула нібы цёмным туманам. Вецер завыў, зашумеў бор, вёска і дарога раптам счэзлі. Снег, быццам вырваўшыся з няволі, гнаўся, як шалёны, па полі, збіваючы з ног і старца, і правадыра.

— Ой, дужа дрэннае надвор'е, і сам не ведаю, куды кінуцца,— адазваўся дрыжачым голасам хлопчык.

— Нічагуткі,— прашамкаў дзед, атрасаючы з барады снег,— зараз супакоіцца; вёска ж — сам казаў — недалёчка. Шкада, што з лесу выйшлі, але што ж зробіш; тут пэўне і хвойкі нідзе не ўгледзіш.

— Нічога не відаць, толькі пень перад намі,— адказаў хлопец і заплакаў.

— Не плач, сынку, не плач, я сяду пры пні,— супакойваў дзед хлопца і, нашчупаўшы кіем пень, прысеў.

— Дзядулёк, я чую, сабакі брэшуць, можа, скранёмся? — прасіў хлопчык.

— Не, родненькі, не, не змагу: ногі мае саўсім акасцянелі,— хіба крыху пачакаўшы.

— Ну, то я хоць адзін пабягу, мо каго напаткаю: прывяду — памогуць, выратуюць,— прынадзейваў хлопчык.

— Бяжы, дзеткі, бяжы, толькі не заблудзіся, бо дарогі пэўна ані слядзінкі,— перадасцерагаў старац.

Хлапец рвануўся ўбок і што маючы сілы пусціўся па зацярушанай снегам дарозе. Бегучы і валяючыся ад сілы ветру, ён штораз азглядаўся, дзе пакінуў дзеда, то зноў зварочваўся к вёсцы, каторая ўжо сумна паказвалася з-пад вялікіх сувеяў. Сілы яго, здавалася, не толькі не ўбывалі, а яшчэ прыбывалі. Але вось урэшце і вёска.

Уляцеўшы ў першую хату, ён толькі дух перавёў і з усёй сілы закрычаў: «Ратуйце!!! Дзядулёк у полі змёрзне!»

— Што ты, хлопча! Дзе? Дзе? Які дзядулёк? — пасыпаліся пытанні перапужаных хатніх.

— Там! Там! За вёскай... У лагчынцы... пры пні,— чуць змяняючы дух, растлумачваў хлопец.

Заварушыліся, загудзелі ў хаце, як у вуллі: хто кінуўся каня запрагаць, хто апранацца, хто яшчэ дапытваў хлопца.

Ускорасці ёмкі буланы конік прымчаў двух мужчын і хлопца ў лагчынку.

Там пры пні, паўзавеяны снегам, сядзеў, стуліўшыся, дзядуля. Мужчыны кінуліся разгортваць снег, а хлопчык, прытуліўшыся да старога, хукаў яму ў твар і то крычаў, то быццам прасіў:

— Дзядулёк! Ачніся! Ачніся, мой даражэнькі! Дзядуля! Гэта я, твой Васілёк, ачніся, залаценькі мой! — І, кінуўшыся перад ім на калені, заплакаў.

Ледзь-ледзь заварушыліся пасінеўшыя вусны старога дзеда, цяжка паднялася дрыжачая рука яго і апошні раз пагладзіла галоўку малога Васілька...

## СЫН ВЁСКІ

Янук Качарга, сын вёскі Няўродаўкі, шчасцем пралез у вялікі горад, папаў на службу і застаўся жыць назаўсёды. У жыцці хлапцу пашэнціла, дарога павяла на карысць. Спачатку ж, пакуль Янук абжыўся і аблезла загарэлая скура, трохі туляўся, а пасля, як прыдбаў адзежу і капейку, насіўся, як віхор, без утрыму.

Доўгі час ён працаваў над сабой, пакуль спазнаў усялякія далікатнасці ды адвучыўся ад простай вымовы слоў, нязграбных зваротаў, і толькі праз зіму жыцця ў сталіцы як лакам афарбаваўся. Навучыўся панскасці, забыўся на бацькоў, на вёску і агулам на ўсё тое, што перш было дорага і міла. Цяпер ён лічыў сябе не Янук Качарга, а Іван Марцінавіч Качэргін. Новае ёмкае прозвішча само сабой з таго дня, як паткнуўся ў горад, убілася ў галаву. І вось — ён як за вятачку: прыдбаўшы гэта дзіўнае прозвішча, пачаў меркаваць і аб тым, каб бачыць яго на паперы, каб і чорнае на белым паказвала,

што ён нічога супольнага з вёскай не мае. Гэта не так лёгка было хлапцу дасцігнуць, але дасціг. У новым дакуменце, што атрымаў з воласці, вялікімі літарамі значылася-адзначалася: Іван Марцінавіч Качэргін. Збылося!.. Ніколі яшчэ не перажываў ён такой уцехі, як у той дзень, калі атрымаў дакумент. Ён з радасці так напіўся, што аж два дні не быў дома, начуючы — як пасля сам прыпомніў — у «часці».

У вольны час ды калі грошай не было ў кішэні, Іван Марцінавіч пакорна праседжваў у хаце, чытаючы вельмі цікавыя кніжачкі, што купляў зусім танна ў кнігара на бульвары. За зіму і вясну ён перагрос усю краму і герояўсышчыкаў ведаў як свае пяць пальцаў. Ён мог усякаму даказаць, што вучань Пінкертона мае лепшую здольнасць да працы, як сам вучыцель, і што Шэрлок Холмс хоць і кароль сышчыкаў, але расейскі сышчык Макараў спрытнейшы за яго. Часамі ж, калі не было чаго цікавейшага пад рукамі, Іван Марцінавіч браўся за гісторыю і з ахвотай выбіраў адтуль кавалачкі, дзе апісвалася аб вайне. Душа яго была ваенная з усіх бакоў, гэта ён ведаў яшчэ тады, калі ганяў у вёсцы на пасту. Бывала, ля іх хаты ні прайсці ні праехаць. Янук усім дапячэ. І хоць ад тых дат і шмат прайшло часу, але ў характары яго змены не было ніякай.

Раз, чытаючы гісторыю вайны, ён вычытаў, як нейкі ваяка Качэргін вельмі спрытна разбіў нагалаву дзікіх татар. Думка, як страла, урэзалася ў галаву хлапцу. «А ці не будзе той слаўны рыцар хоць трохі мне сваяк? — пытаўся ён сам сябе.— Хоць я родам з вёскі Няўродкі, а ён мо з Белакаменнай, усё ж прозвішчы нашы вельмі падобны. Дакапацца цяпер трудна, але я першы сам сябе лічу патомкам слаўных Качэргінаў...» І пры мыслі аб храбрым дзядзьку ў вачах яго з'яўляўся шыракаплечы асілак, з вялікай барадой, а побач — парэзаныя ім, як авечкі, татары. Аж падужэў Іван Марцінавіч ад такіх думак, неяк і жыццё весялей паплыло.

Здарылася неяк быць яму на кірмашы. Меўшы колькі рублёў у кішэні, ён паважна пахаджваў па пляцы і разглядаў, як людзі куплялі і прадавалі ўсялякія прылады. Не павёў і вокам туды Іван Марцінавіч, як убачыў у сівых світках сялян і пачуў пах дзёгцю і сырамяцця. Гэтыя гаротныя сярмяжнікі прыпаміналі яму бацькоў і панурую вёску, закінутую, як камок гразі, за дзесятую гару. Трэба было адступіцца, каб даць супакой сэрцу. На-

рэшце, ён падышоў к шалашу, дзе прадавалі абразы, малюнкі і розныя штукарскія рэчы. Тут яму кінуўся ў вочы старадаўні малюнак нейкага гістарычнага рыцара з даўгой сівой барадой і арлінымі вачыма. Іван Марцінавіч прыгледзеўся. «Хто гэта такі будзе? — падумаў ён, нахіляючыся бліжэй к малюнку.— Ці не той галаварэз, што даў лупцоўку дзікаму татарыну? Не ўцярплю — спытаюся». Але прадавец і сам добра не ведаў, хто займае месца ў яго на прылаўку, адно цаніў свой малюнак танна. «Пры маёй фаміліі,— разважаў Янук,— партрэт, як дакумент, саслужыць службу. Плачу грошы...» Затаіўшы ад радасці дух, ішоў ён з пакупкай паважна і цешыўся, што цяпер усё ж больш будзе веры, што ён радавіты Качэргін.

У вольны час, гледзячы на малюнак, ён выдумваў усё новыя і новыя паднябесныя чыны, якія меў яго дзядзька і што павінен цяпер чуць яго пляменнік-патомак. Іншы раз здавалася яму, што калі добра прыгледзіцца, то ён і падобны нават да старога ваякі, а што вочы і нос якраз яго, Івана Марцінавіча. А раз на гульбішчы, добра падпіўшы, Іван Марцінавіч адкрыта заявіў усім, што ён князь Качэргін і ў скорым часе спадуць яму мільённыя спадкі па дзядзьку, што жыве на Каўказе. Пры гэтым ён выказаў, што сяброў сваіх не міне, як багатым будзе. Запрашаў наперад к сабе ў госці, а там павозіць на ўласных рысаках, што стаяць у дзядзькавай стайні ў лякерных халяўках. Пад п'яную ўсё сыходзіла, і хлопцы трохі верылі, бо ён-тка майстар быў замаляваць зубы...

Так плыў час.

Надумаўся Іван Марцінавіч жаніцца. Знайшліся зараз сваццconfigure, атлумілі галаву, абяцаючы разам і хараство і багацце. Рад быў хлапец гэткаму здарэнню, дачакацца б толькі таго дня, калі назначыла сваццconfigure, а там ён ведаў, як кіравацца. Той дзень прыйшоў... Іван Марцінавіч з самага рання наводзіў на свой князёўскі твар красу, каб як можна пышней паказацца багатай паненцы. На кірпатым яго носе зграбліва красаваліся акуляры (пенснэ) і прыдавалі больш павагі. Незадоўга з'явілася сваццconfigure і выправіла разам у дарогу.

У дзвярах, дзе жыла паненка, з пашанай спаткалі старыя і павялі к сабе ў пакоі. Іван Марцінавіч усеўся на канапе і пазіраў праз акуляры на дзверы, адкуль павінна была ўвайсці паненка. Нецярплівілася хлапцу — паненка марудзіла, а тут абрыдлыя акуляры так раздражнілі

нос, што Івану Марцінавічу аж неўмагату было трымаць іх. Ён бы ахвотна зняў і шпурнуў іх к чорту, але жадалася паказацца перад маладзіцай ва ўсёй парадзе. Тут увайшла паненка. Іван Марцінавіч пазнаёміўся і пачаў па-свойму рассыпацца перад ёй аб тых даўніх часах, калі слаўны патомак яго з аружжам у руках бараніў край і народ. Усе слухалі і верылі. Хлопец ад радасці аж захлёбваўся. Але радасць на гэты раз была хвілёвая.

К маладзіцы прыйшла госця. Ну, ведама, ад гэтай асобы перашкоды гаспадары не чакалі, дык паклікалі к сталу. Госця была вельмі рухавая. Яна так спрытна сыпала апавяданне за апавяданнем, так гучна і жыва даводзіла ўсім аб вёсцы і сялянах, што Іван Марцінавіч ужо і не рад быў гэтым успамінкам. Аб усім ён ахвотна слухаў, толькі не аб вёсцы, бо ўсякі гэткі ўспамінак кратаў яго сумленне, і ў сэрцы чулася запытанне: чаму пакінуў ні пры чым бацькоў?.. Тым часам вясёлая гэта госця ў даўгім апавяданні, як на ліха, пачала ўспамінаць знаёмыя Івану Марцінавічу вёскі і сялян, з каторымі былі ў яго досыць цікавыя здарэнні ў жыцці. Схамянуўся хлопец. Пачуццё страху, што гэта дзяўчына, пэўне, недалёкая іх суседка і можа папсаваць увесь інтэрас, пачало закрадвацца ў яго сэрца. «Нячысцік яе занёс сюды,— думаў ён,— яшчэ, чаго добрага, прыгледзіцца да мяне, і тады — па ўсім...» А тут, надало, пачаў свярбець нос, ды так моцна, што хоць ты цаглінай яго лупі. Цярпеў, цярпеў Іван Марцінавіч ды і цярплівасць ужо страціў. Так сказаць, не будзь гэтых абрыдлых акуляраў, то ён няўзнак пачухаў бы нос, і ўсё пайшло б гладка. А зняць акуляры было рызыкоўна, бо гэта сарока можа, чаго добрага, спазнаць даўняга суседа. Але ўрэшце, нягледзячы ні на што, зняў брыду і звольна павёў кіпцямі па носе. Паненка тым часам, весела гамонячы, ускінула вочы на Івана Марцінавіча і змоўкла. Відаць было, што яна жадала нешта прыпомніць. Іван Марцінавіч так спужаўся гэтага погляду, што ён рад быў бы лепей праваліцца скрозь зямлю або ўваліцца на дно ў самае бруднае месца, чымся дрыжэць ад погляду гэтых шэранькіх скачучых вочак.

— Даражэнькія мае! — адазвалася яна.— Гэта ж хіба я аслепла зусім, калі ўжо не бачу сваіх засцянкоўцаў. Вечар сяджу і толькі цяпер спазналаваспана. Але, можна прызнацца, дык не зусім лёгка і спазнаць дзядзьку — змена вялікая... Ну, хваліцеся, як жа папалі сюды і ці

добра жывецца? Я-то сама другі год тут, а дзядзька пэўне болей?

Іван Марцінавіч з перапуду нешта прамычаў.

— А старыя чакалі, чакалі на сынка ды і надзею страцілі,— ізноў адазвалася яна.— Асабліва маці, бядачка, плакала, плакала, пакуль у магілу не сышла... Э... сынкі, сынкі, не шануеце бацькоў!.. Але чаго ж я навалілася на вас, калі і сама не лепшая... Можа, хочаце ведаць, якія навіны ў нас? Бацька васпана памёр, маці з гора звар'яцела і такжа памёрла, і сястра, каб зашанаваць жыццё маткі, кідалася, кідалася, пакуль сухоты не падпалі, і бог святы ведае, як яна там.

Як абухом рэзнула хлопца па галаве. Нічога не кажучы, узарваўся ён з месца і вымкнуўся за дзверы. Прыбегшы дадому, ён прыглядзеўся ў люстра. Твар быў збялелы, вочы блукалі. У люстры са сцяны грозна глядзеў на яго сваімі арлінымі вачыма ваяка Качэргін. Іван Марцінавіч зірнуў на яго, сабраў сліны і плюнуў, а пасля сеў і заплакаў. У вачах мігацелі то ваяка, то сваццця, то маладзіца, а між імі сакатала госця: твой жа бацька памёр, твая маці звар'яцела і сястрыца, бядачка... пане Качарга!

## РАЗБІТАЯ НАДЗЕЯ

Сонца хінулася к зямлі на адпачынак, калі Сцяпан згарнуў апошні пракос сена ў капу.

Хоць і добра чулася боль у руках і дрыжэлі ад працы ногі, Сцяпан наважыў скончыць будаваць стог і тады рушыць дадому. Нейкую прыемнасць адчуваў ён у сваім сэрцы, як мысліў, што, прыйшоўшы дадому, бацька пахваліць шчырага працаўніка і апроч пахвальбы дасць залатоўку, а то і дзве — на кірмаш к святу. А месца для залатовак Сцяпан даўно меў на прыкмеце. Толькі б грошы, то ўжо той гадзіннік, каторы ён намыкаўся выкруціць на круцёлцы, цяпер будзе яго. Апошні раз, быўшы на кірмашы, Сцяпан, каб выйграць той гадзіннік, пракруціў бацькавы і свае грошы і ў знак няўдачнай ігры нёс дадому дудачку для дзяцей і карты. Гадзіннік так і застаўся не здабытым.

— Ну пачакай жа,— супакойваў ён сам сябе,— пракручу рубель-два, а цыбулька будзе мая. Пры гэтым ён

дастаў з кішэні карты і пачаў перакладваць з рукі ў руку. Успомніўся яму той кірмашовы дзень, гаспадар круцёлкі, яго на століку рэчы і салапякі, што былі ля стала. У вушах Сцяпана яшчэ гучала ліра, енчылі старцы і хрыпаты голас круцяля, што разлягаўся па пляцу:

— Першы нумар... лямпачка! Другі нумар... партабак! Трэці нумар... не налазьце, ліха-матары! Столік паломіце,— крычаў ён, махаючы кулаччом ля носа хлопцаў. Трэці нумар быў чы поўны, чы пусты, але, як праскочыў праз зубы, так і знік.

Тасуючы карты, Сцяпан мысліў, што ў трэцім нумары і быў гадзіннік, толькі круцель не іначай атуманіў яго. На другі раз Сцяпан наважыў на гэтым нумары спыніць хціўца і выявіць хітрасць.

Ужо саўсім села сонца, як выбраўся Сцяпан адыходзіць з сенажаці. Капа, як гара, красавалася на зялёнай абстрыжанай мураўцы. Чырвонае неба асвячала вярхушку прывяўшай травы.

Сцяпан стаяў і любаваўся сваёй працай, але трэба было ісці дамоў на адпачынак. Толькі скрануўся з месца, аж убачыў свайго сябру Ігнальку, які ехаў праз лог з пустымі мажамі [1].

— Ну, што, касец, дадому едзем? — звонка засакатаў Ігналь.

— Дадому,— адказаў Сцяпан.

— Ну, дык курнем разок, а тады ўжо...— сказаў, злазячы, Ігналь.

Хлопцы закурылі, прыселі, разгутарыліся. Курачы, Ігналь выказаў, што мае ахвоту гуляць у карты і што ёсць нават грошы, але карт нямашака. Сцяпан зараз дастаў з кішэні карты, што выйграў на кірмашы. Праз хвілю блішчэлі на мураўцы залатовачкі.

Гульня распачалася. Змяніліся ў абодвух твары, сталі сур'ёзнымі, задуменнымі.

Ігналь пасля ёмкай адбіткі згроб свае і Сцяпанавы грошы і спытаўся:

— Ну, а далей?..

— Няма грошай,— адказаў Сцяпан.

— Няма — так няма, згуляем, як будуць.

— А я цяпер хачу,— наважыў Сцяпан,— я павінен адыграцца.

— Адыграцца-то адыграцца, але чым?

---

[1] Мàжы — скрыні, якія ставіліся на калёсы.

— Павер, я заўсёды аддам табе, Ігналька...
— Э... хто ведае, што будзе заўтра! Захацеўшы, можаш мець і сягоння.
Сцяпан чакаў быў праваліцца скрозь зямлю, чымся жыць у гэту хвілю. Яго рупныя пальцы соваліся па кішэнях, шукалі шчасця, але нічога не знайшлі. Ігнат стаяў, уставіўшы вочы на капу.
— Добрая травічка,— бубніў ён,— а яшчэ, кажаш, грошай няма...
Сцяпан глянуў і замысліўся. У вачах яго бліснуў нейкі агеньчык і зараз згас.
— А што табе зробіцца, калі ты крыху сена сплавіш,— стары не спазнае, тым часам у руцэ будуць грошы і можаш адыграцца.
Сцяпан паверыў. Ён ніколі не даваў веры, што Ігналь і цяпер ашукае яго.
Гульня на гэты раз пайшла спрытней. Ігналь, як галодны воўк, браў бітку за біткай і ўрэшце застаўся гаспадаром над працай свайго сябра Сцяпана. Нічога не кажучы, ён спрытна перакінуў сена на мажы і нокнуў на каняку. Скрыганулі нямазаныя калёсы — як бы заплакалі па шчырых працаўніках — і ад'ехалі.
Сцяпан стаяў і маўчаў. Ён не мог сказаць і паўслоўца, бо прызнаў пройгрыш па закону, толькі думка — што будзе далей — пачынала закрадацца ў яго сэрца.
Высока набітыя сенам мажы звольна каціліся па сенажаці ў другі бок ад вёскі Сцяпана, а сам Сцяпан, панурыўшы галаву, ішоў дадому з разбітай надзеяй мець ад бацькі падзяку за шчырую працу ды выкруціць на кірмашы той гадзіннік.

## КРУЦЕЛЬ

Паміж абмерзлага хмызняку з дубальтоўкай у руках ціхенька прабіраўся паляўнічы.
«Хоць бы зайчыка падвудзіць,— азіраючыся на бакі, мысліў ён.— Ад рання блукаюся, блукаюся, і нічога. Шкадую, што пайшоў, лепш сядзеў бы ў хаце або ў царкву схадзіў: гэткае свята Міколы-ўгодніка, а я вандрую, як воўк. Эх, сорам, чалавеча: на бога забыўся!» — стыдзіў сам сябе.

Так гамонячы з сабою, пачуў здалёку працяжны царкоўны звон.

«Во і звоняць: хто ў бога верыць, а я, старэцкая пуга, тулюся па гэтай цемражы і лупаю вачыма. Схаваўся б ад сораму, ды няма дзе...»

Толькі гэта прамовіў, як разам каўзануліся ногі, і ўся фігура тырчаком паляцела ў нейкую круч.

«Во дзе кара боская! Во яна! — са слязьмі казаў ён, пазіраючы, як кажан, са студні ў неба.— Загінуў, як відзіш, ніхто і ведаць не будзе, дзе падкруціў сваю грэшную галоўку...»

Спрабаваў было караскацца: ані блізка! Ногі коўзаюцца, утрыму няма. Крычаў — нічога, толькі рэха разлягаецца, быццам насміхаецца над ім. Пачаў плакаць, а пасля стаў на каленкі, злажыў рукі і давай шчыра маліцца святому Міколе, каб злітаваўся над сіротамі ды вызваліў з бяды. Маліўся доўга, абяцаючы час ад часу паставіць самую найбольшую і найгрубейшую свечку, змяніць рызы, даць грошы на царкву...

Гледзячы ў выш, паляўнічы бачыў, што зжаўцела неба і пачынае церушыць снег. Збіралася завіруха, шалёная завіруха.

«Можа, і ратунак мой,— радаваўся ён.— Пэўне дайшла малітва, пашкадавалі маіх дзетак».

Снег валіў, як з меха; цэлымі камамі паляўнічы згортваў яго пад ногі і сілкаваўся вылезці.

Нарэшце сабраў сілы, паступіўся як мог вышэй, учарэпіўся за корч, што тырчаў над галавой, гульк — і вылез.

«А, набрыдзь! — плюючы на бакі, мармытаў ён.— Каб не літасць Міколы, пэўне загінуў бы! Трэба ж: убіўся, як муха ў смятану, а ахвяр жа, ахвяр наабяцаў, як успомніць іх,— але, як той казаў, чаго толькі з ляку чалавек не накажа: так і я. Трэба бегчы, няма часу».

Пацёр бядак вушы і пайшоў, ухмыляючыся, дадому...

## СІРАТА ПРАХОР

Невядома мінуласць Прахора. Ні бацькі, ні маткі бядак ніколі не бачыў. Якое і калі паслужыла здарэнне папасці ў чужую хату, к чужым людзям, ён не ведаў.

Казалі людзі, што маці гэтага сіраціны чужая, захо-

жая дзяўчына. Заблудзіўшыся ў нязнаных пуцінах жыцця, разлічылася з жыццём, разлічылася з светам, пакінуўшы памяць мінулага кахання на беразе віраватай рэчкі. І з таго часу, казалі, штогод у поўнач з дна рэчкі чуцен то плач, а то сумная песня дзяўчыны, загубіўшай жыццё.

Маленькага, хворага, без роду, без імені сірацінү прыгарнуў да сябе бядак-парабак, ахрысціўшы, даў імя Прахор.

Як дзікая хвойка, узрастаючы на каменнай глебе, звыкаецца з жартамі салёнага ветру, так Прахор звыкся з бядой, жыў і падрастаў.

Не было каму пажаліцца ў час смутку, не было каму выказаць тую боль, каторую часамі адчуваў ён. Адзін крыж, што стаяў на ростані, ведаў перажыткі і бачыў слёзы дзіцяці.

Туды Прахор у часе смутку з астыўшым сэрцам ішоў і ля ног збавіцеля маліўся, як умеў.

Там ён спамінаў імя гаротнай маткі сваёй, жаліўся ён на горкую сірочую долю і не раз засынаў пад блакітным небам. І бачыў ён, як з віраватай рэчкі выходзіла, скрыжаваўшы рукі, маці, туліла яго да сябе, к пасінеўшаму твару, ды плакала.— Але не баяўся ён. Прачнуўшыся, ён чуў, што нечая помач і прыхільнасць хоць не тут, на зямлі, а ёсць, і ён жыве не адзін.

* * *

Так жыў і падрастаў Прахор. Сам апякун, чалавек бязмерна шчыры, розніцы ніякай між сваімі дзяцьмі і Прахорам не рабіў, а хворая гаспадыня палюбіла яго, як сына, і ўвесь дагляд у хаце здала на рукі Прахора.

Стаў Прахор і хатняй ахмістрыняй, і нянькай.

Ён і песню спявае над калыскай дзіцяці, дом дагледзіць, хворай услужыць, накорміць усіх і на жывёлу не забудзе.

Ужо не раз сам апякун усхваляў той дзень, калі ў яго хаце адчыніліся дзверы для сіраты. Той дзень быў для яго святам.

І з таго моманту, калі вестка аб сіраце абляцела вёску і ў яго парабскай хаце з'явіўся чужынец, ён пастанавіў дзецям, каб жыць у згодзе і шанаваць сірату, як роднага брата.

Але было іначай.

Хворая гаспадыня ў адзін дзень благаславіла сваю сямейку і больш не ўстала. Перажытак у парабчанскай сям'і быў надзвычайны.

Прахор па смерці гаспадыні выступіў на помач свайму апекуну. І, працуючы праз увесь дзень, ён толькі ўвечары мог бачыцца з ім і гутарыць аб тых планах, якія будаваў для шчасця яго дзяцей.

Але дзеці, як падраслі, чужую будову не заўважылі і адзін за другім, як птушкі з гнязда, выйшлі ў свет, пакінуўшы бацьку з Прахорам адных.

Жывуць удвох Прахор з апекуном, працуюць і дзеляцца думкамі аб сваім мінулым, перажытым. Не было нічога добрага ўспомніць бедакам: як у аднаго, так і ў другога жыццё — адзін жаль.

Парабак з малых дзён шчаслівых не бачыў, а Прахор гэтаксама — родны нядолі сын. Ён ужо за колькі год жыцця ў двары лічыўся сваім чалавекам, працаваў на карысць гаспадара, даглядаў за іх дабром і часам, калі быў хвор парабак, за яго ўночы сцярог двор.

Часта стаў занепадаць на здароўе яго апякун, ці то старасць агарнула, ці то выдахся чалавек, але Прахор уваччу яго не бачыў таго жыцця, якое бачыў раней. Неяк ён спахмурнеў, перастаў рупіцца аб усім і ў скорым часе памёр.

Не было яшчэ для Прахора такога цяжкага перажытку, які меў у дзень смерці апекуна.

Ён, не адыходзячы ад пахаладзелага цела, плакаў, прычытаў. Засыпаючы яго зямлёю, ён уголас жаліўся, што права на жыццё не мае і не хоча мець зусім, а жыве, а бацька дзяцей, чалавек патрэбны, памёр. І, зняўшы шапку, скланіўся галавою над трупам, плакаў, а слёзы бобам каціліся з воч і быццам цяжкімі цвікамі прыбівалі яго да зямлі.

Пахаваў Прахор свайго апекуна і вярнуўся дамоў заплаканы і разжалены. Ён ужо быў адзін-адным. Апошні мілы вобраз чалавека быў у магіле.

Атрымаў Прахор службу апекуна і пайшоў следам па яго сцежках. Удзень ён працуе ў двары, а ўночы вартуе панскае багацце.

* * *

Восень. Імглістая ноч. Сядзіць Прахор на лаўцы пры рэчцы з калакоткай у руках, раз-ураз даючы знаць стукам звяглівай дошкі, што не спіць. І нікому няма і думкі

ў галаве, што там, у імгле, як чараўнік, сядзіць Прахор, шчыры паслугач. Усе спакойна спяць, толькі за рэчкай панскі тартак, працуючы праз усю ноч, як бы ўторыць яго калакотцы, выбівае сваё аднатоннае ла-та, ла-та, ла-та.

Любіў Прахор сядзець на гэтай лавачцы позна, адзін. Адгэтуль ён мог бачыць рэчку і той бераг, дзе яго маці знайшла смерць у халодных хвалях. Ён штораз бачыў над вадой густую імглу, а ў ёй адбівалася цень яго маткі.

Толькі ў святочны дзень ён пакідаў на часіну службу ды ішоў на магілку апекуна. Там Прахор маліўся за душу яго, даглядаў за раслінай і адыходзіў к службе ізноў.

Пастарэў Прахор. У жыцці адкрылася яшчэ адна змена. Двор, дзе служыў ён, прадалі, і гаспадарыць узяўся другі.

Новая мятла іначай мяце, і пачалі вымятаць усё непатрэбнае, і вымелі Прахора за браму.

Прыйшлося зусім дрэнна. Сваіх не было. Грошы не сабраў, гадуючы чужых дзяцей, украсці не ўкраў, так нічога і не меў.

Трошкі жабраком не зрабіўся Прахор, але дзякуючы аднаму селяніну з суседняй вёскі прыпыніўся ў яго.

І там без работы не сядзіць ён, то пасе гусі, то няньчыць дзеці.

Седзячы на выгане, ён углядаўся ў той бок, на маёнтак, дзе заставіў сілу і маладасць, ды прыслухоўваўся, як той жа тартак выбівае аднатоннае: ла-та, ла-та, ла-та.

І ўспаміналася Прахору яго бядацкае жыццё і той чорны дзень, дзень смерці апекуна.

А як толькі загудзе на полудзень гудок, Прахор закрывае галаву, каб не чуць яго, бо раптам адчуваў цягучую боль у сэрцы.

Ён нешта тады шаптаў, і слёзы беглі адна за адной на сівую світку.

Часцей і часцей заглядаў на могільнік Прахор. Штодзень яго можна было бачыць там.

І вось, адпачнуўшы ля курганіка, дзе былі пахаваны косці дарагога апекуна, ён адыходзіў назад і казаў: «Ох, татка, паспяшыў ты, паспяшыў! Не твая чарга была, а мая... Але нічога, хутка і я лягу пры табе...»

# У НЯВОЛІ

У ціхае, нерухомае возера, абросшае зялёным аерам, углядаўся высокі пабелены мур, а за мурам, на моцным фундаменце, горда трымалася магутная будыніна. Невялічкія вокны, як прыжмураныя вочы, чарнелі на сцяне, прыдаючы будыніне пануры погляд.

Была вясна. Зялёныя дрэўкі вольна раслі высока пад неба, хаваючы ў густым галлі вясёлых шчабятух. Зелень аж капала, здаецца, з дрэў і пералівалася на сонцы ўсялякімі колерамі. Усё жыло, расло, весялілася. А спагадныя гарачыя праменні сонца, асвятляючы свет божы, цікава заглядалі ў маленькія вокны панурай будыніны, каб асвяціць і абагрэць цёмныя куткі вогкіх мураў. Цяжка было прабіцца туды, бо пануючая вякамі цемра з гневам спатыкала тонкую стужку свету і праганяла ад сябе прэч.

— Не будзе дня! — гукала цемра, разносячы рэха па сырых, затхлых пакоях гмаху.

— Мілей ноч! — уторылі совы з кажанамі.

І яскравыя праменні, зазірнуўшы ў чорныя аконцы, плылі назад, дзе іх чакалі і віталі, як бога, сустракаючы.

У адным з тых вокан, што хмура ўглядаліся з вялікага гмаху ў ваду, у жалезнай клетцы, за кратамі, сядзела ў няволі птушка. Жаласліва ціўкаючы ад рання да вечара, яна сумна глядзела на хараство божага свету і балюча адчувала вясёлы спеў сваіх таварышкаў у зялёным гаю дрэваў. Слухаючы іх песні, яна ўспамінала дні вольнага жыцця і горка скардзілася.

— Чаму я такая няшчасная? Чаму той, хто стварыў гэты белы свет, дапусціў нада мной гэты здзек? Не так даўно лятала і я пад блакітным небам бязмежнага свету і ніколі не думала, што стану слугою страшнай няволі.

Так скардзілася птушка ў сэрцы сваём і павярала скаргу сваю той, што зляпіла гняздзечка сабе ў яе пад акном. Яна выказвала ёй свой жаль, сваю тугу, бо ніхто, апроч ластаўкі, не заглядаў сюды, у гэтае царства цемры і жалю,— воля была мілей за ўсё. Затужыла нявольніца; перастала верыць, што дажджэцца волі. Затаіўшы дух, яна вітала думкамі там, дзе ўзрасла, дзе пакінула на волі ў родным краю маленькіх птушанят.

— Лепей смерць,— звярнулася яна да ластаўкі.—

Прачуваю, што гэта апошняя вясна і волі не ўбачу ніколі. Як бы жадала я ўзляцець высока, высока да заспяваць тую вольную песню, якую калісь спявала!.. Але путы няволі зламалі надзею...

Слухала ластаўка жальбы нявольніцы і хутчэй адлятала прэч. Чужыя слёзы замінаюць вяселлю.

У адзін дзень спагаднае сонца прабілася ў сырыя мураваныя муры, праменні яго шугнуліся ў клетку, але дарэмна. На дне клеткі ляжала нежывая птушка, як бы застыўшая з думкай аб волі, блакітным небе і дарагіх, мілых птушанятах...

## ЗВАНЫ

Вартаваць лінію жалезнай дарогі прыйшла чарга старому Ігналю. Хоць і стары быў Ігналь, але ахвотна браўся за гэты абавязак.

Выходзіў з хаты ён шмат раней, чым трэба, і займаў сваё месца пры лініі ў будцы, зложанай з яловых лапак.

Так было і цяпер.

Уздзеўшы кажурынку, ён, апіраючыся на кій, звольна пайшоў к таму месцу, дзе ўжо не адну ноч вартаваў.

Вечарэла.

Сонца толькі што спусцілася за могільнік і прамяніста асвячала дрэвы і постаць Ігналя.

Зірнуўшы ў бок могільніка, Ігналь уздыхнуў і нешта прамовіў. Праняслісяў яго памяці малюнкі ўсяго бядацкага жыцця, спрытная маладосць, што прамігацела, як сон, а там горкая, беспрасветная старэцкая доля, сынкі, вайна, чорныя, чарней ночы весткі, сіроты-ўнукі.

Ідучы паміж кустоў могільніка, Ігналь углядаўся на пажоўклыя лісточкі, каторыя раней ад другіх афарбаваліся іншым колерам, і мысліў сабе, што недалёчка ўжо восень, а там зноў вясна, але не для яго.

Больш жыць ён не спадзяваўся, дый не хацеў. Усё, што было святога, згінула навекі. Толькі адна іскрынка пацехі тлела ў яго добрым сэрцы,— гэта любоў да сірот-унукаў, каторыя жылі разам з ім. Бацькі ў гэтых дзяцей ужо не было — загінуў на вайне.

* * *

Вось Ігналь прыйшоў к лініі. Высокі адкос пад густым ценем высіўся ўбаку, знізу дзесь булькатала вада. Гэта была рачулка, якая плыла з-за лініі.

Вядомая аколіца Ігналю была. Тут ён ад маленства памятае і ведае ўсё. І шмат працы палажыў ён, насыпаючы адкос, пракладаючы рэйкі, падбіваючы шпалы, а цяпер прыйшоў сцерагчы ўсё гэта.

* * *

Абложаная яловымі лапкамі, будка, як пляма, цямнела на прывяўшай траве.

Пры будцы ляжала абгарэлая гнілая шпала — святло начлежнікаў.

Сеў Ігналь на шпаліну і задумаўся. Кругом было ціха, толькі час ад часу даносіўся здалёку стук, як бы з пустой бочкі.

Гэта рэха гарматных стрэлаў далятала сюды.

Уздыхнуў дзед, прачувала сэрца нядобрае. Не баяўся ён смерці ніколі, але думка, што часам прыйдзецца пакінуць родны край, дарагую бацькаўшчыну, трывожыла сэрца яго.

* * *

Тут жа ён радзіўся, вырас, тут правёў маладосць, тут сляды яе, і тут, паміж бярозак, курганок з парахнёю тае, з каторай кляўся і па смерці разам быць.

«Не, я ніколі не адыду адсюль, няхай будзе, што будзе!»— прамовіў ён, вытрасаючы попел з люлькі і гледзячы ўдалеч.

Вочы яго выглядалі то дзікімі, грознымі, то плачучымі.

* * *

Думкі яго абарваў голас унука. Следам за дзедам ён краўся прыцемкам, хаваючыся то за кусты, то ў траву, і вось, толькі дзед прысеў, ён з заліўным смехам падбег да яго.

— Дзядок, гэта я! — сакатаў ён.— Маці не пускала, а я вось тут, разам будзем вартаваць, казку дзедка раскажа.

— Ах ты, каласок, уцёк-такі! — як спрасонку, казаў дзед.— Добра, што кажушок узяў, лезь у буду ў куточак,— бачыш, цёмна як.

Унук залез, падкурчыў там ногі ды пазіраў у цемнату.

— Дзядок! — адазваўся ён, калі ўжо занялася гарэць шпала і асвяціла часць поля.— А што гэта гурчыць вунь там далёка, за рэчкаю?

— Гэта — вораг нішчыць край, абяздольвае людзей, і стрэл гарматны чуцен тут.

— У-у... вусцішна як! Страшны вораг, страшны. Няўжо ён будзе тут, няўжо нас пабярэ к сабе? Казалі хлопцы мне, што вораг шабляй лес сячэ, рве горы, вёскі і людзей. Хто абароніць нас? Быў бы татка — але ж яго няма...

Пры гэтых словах унука дзед глыбока ўздыхнуў.

Тут з шумам пранеслася машына і знікла ў імгле. Аднекуль ледзь слышна плыло працяжнае рэха званоў.

Унук сядзеў у куточку, пазіраючы на іскры, як яны вылятаді з полымя і ніклі недзе ў цёмным абшары.

— Спі, унучак! — дрыжачым голасам адазваўся дзед.

— А байку? Без байкі спаць не лягу.

— Не байку, а ўспамін далёкага мінулага жыцця паслухай...

...Калісь, даўно-даўно, я быў маленькі, як і ты. Любіў я ў нядзельку або так у якое свята, узлезшы на званіцу ў царкве з сваім таткам, біць у звон і прыслухоўвацца к рэху. Татка быў званар.

І вось, як пацягнем, бывала, за вяроўку, зварухнецца звон і працяжнае, якатлівае рэха вырвецца і стралой імчыцца бог ведае куды — далёка праз лес, праз пушчу, туды... к народу бяздольнаму, пакрыўджанаму.

І зварухнецца люд. Глядзіш — ідуць, ідуць, а звон гудзе і гудзе.

Я не запомніў слоў бацькі свайго: «Любі народ, як я; склікай яго сюды, у гурт, цясней, будзь заўсёды з ім, кажы пра дабро, праўду і братэрства».

Быў ён шчыры чалавек, але жыццё сваё скончыў у далёкай сцюдзёнай Сібіры. Яго не стала...

І цяпер я чую той самы зык званоў. Яны гудуць, яны кратаюць маё хворае сэрца, уваскрашаюць далёкія ўспаміны.

Так вось, хлопча мой ты, кажу табе: захавай і ты ў сваім сэрцы пашану да краю, да людзей...

Апошнія словы дзед расцягваў, вымаўляў з боллю. Слёзы спаўзалі па маршчыністаму твару на гарачы попел.

— Людзі кінуць сялібы, поле, уцякуць; выпраўлю і вас, дзеткі, з матуляй, а сам не пераступлю за мяжу бацькаўшчыны ні кроку. Дзе радзіўся — там і памру.

* * *

Калышацца, аж стогне зямля. Дрыжаць сталетнія бары, страшэнны гук стаіць у паветры праз усе дні. Ужо гарматы блізка. Ужо іх цяжкія кулі рвуцца непадалёчку гумнаў старога Ігналя.

Сонца ўдзень зацягнута дымам, уночы неба ў агні.

Зруйнаваны вёскі, спаляндравана поле; плач абяздоленага народа за лесам замёр.

* * *

На шырокіх мажах, пад будкай, зложана багацце Ігналя. Тут яго ўсе пажыткі. Ужо запрэжана каняка.

З буды пудліва пазіраюць унукі. Іх галоўкі асвечвае паўднёвае сонца. Плач нявесткі зліваецца са стогнам гарматаў.

Ігналь глядзіць на дзяцей і нешта шэпча; на вачах слёзы. Сягоння ён выглядае шмат старэйшым, чым быў.

— Ну, дзеці! — траскучым голасам прамовіў ён.— Благаслаўляю. Ідзіце сцежкай за жыццём, якое б яно ні было. Ідзіце, не блукайце, вас чакае лепшая доля. Не шкадуйце, не плачце па мне. Я гаспадар слова; я, вартаўнік дзедаўскіх курганоў, не выйду за мяжу роднага загона.

Скрыпнулі калёсы і зліліся з плачам выязджаючай сям'і.

* * *

Доўга стаяў Ігналь, паводзячы мутнымі вачыма па дарозе, дзе ледзь былі відаць мажы з унукамі, а пасля, цяжка ступаючы і сланяючыся ў бакі, пайшоў на могіль-

нік і сеў пры тым кургане, дзе вітала смерць, жылі словы прысягі.

Грукаталі гарматы, стагнала зямля, і сярод гэтага даносілася аднекуль сумнае рэха званоў...

# СІРАТА ГАНУСЯ

Каму не было вядома жыццё ўдавы Васіліхі, што жыла ў вёсцы Замужанне, за рэчкаю?! Было яно горкае, беспрасветнае, як асенняя ноч. Жыццё, нібы павучынне, ткалася, услед рушылася, нішчачы маладыя сілы.

О, колькі перажыткаў мела бядачка,— хто б злічыў іх?!

Зайздросная смерць, вітаючы каля хаты беднай удавы, звяла са свету праве ўсіх яе дзяцей, заставіўшы толькі Ганусю, як бы на пацеху старой.

Усё цярпліва знесла яна. Пахавала мужа, пахавала дзяцей і пачала жыць з Ганусяй удваіх. Доўга прыйшлося ім змагацца з бядой, але ўрэшце рупнаю і спораю працай узгарусцілі капейку, адагналі бяду-голад.

Здавалася, што ясны праменьчык асвяціў цёмныя куткі ўдовінай хаты і выгнаў адтуль прытаіўшыхся злых духаў чалавека. Аж не,— дні радасці, як хутка з'явіліся, так хутка і зніклі.

Захварэла маці. Мабыць, выбілася з сіл. Ляжыць, бядачка, з упаўшымі вачыма і ўглядаецца на цень смерці, што стаіць за вушаком і маніць яе сваёю кастлявую рукою.

Забіваецца з плачу дачушка Ган819 і не ведае, як памагчы падняцца матцы. Лячылі знахары, знахаркі — рады жаднай не было.

«Не, пабягу ў воласць да доктара,— намысліла яна,— кінуся ў ногі, папрашу, а вось паслухае».

Самай раніцой, калі сонца асвяціла сонную зямлю, Ганўся пацалавала матку і вымкнулася за дзверы.

Шырокі шлях, усаджаны векавымі бярозамі, у густой імгле цёмнай плямай адзначаўся ўдалі. Дзе-нідзе, цвіркуючы, пералятала абуджаная птушка, нарушаючы цішыню.

Ганўся мінула вёску і пайшла шляхам у воласць, ту-

ды, далёка, дзе былі думкі яе, дзе была вера ў помач, у збавенне ад смерці маткі.

Бальніца спала, калі Ганyся прыйшла пад дзверы. Прыйшлося чакаць, пакуль адчыніліся дзверы.

Сонны стораж лянiва паводзіў мятлою па падлозе, замятаючы прыёмную. Ганyся нясмела падышла к яму.

— Дзядзечка, я к доктару,— маці хворая!

Саўсім не чуў і не бачыў стораж Ганусі, а раз-паразу размахваў мятлою па падлозе. Растрэсены пыл, сабраўшыся пад столлю, залаціўся на праменнях сонца, весела іграючы на фігуры Ганусі.

Углядаецца Ганyся на панурую фігуру стоража і думае: як звярнуць увагу яго, а перад вачыма стаіць убогая хата, хворая маці.

— Дзядзечка, дзе доктар?

Нібы ачнуўся стораж. Глянуў і адказаў: «Спіць яшчэ,— ноч у карты рэзаў. Фельчара папросіш, з тым бардзей да ладу дойдзеш».

І фельчар спаў, як даведалася Ганyся. Расплакалася дзіця. Слёзы разжалілі і стоража. Паставіўшы мятлу, ён выйшаў і вярнуўся з фельчарам.

— Прасі! Паслухае, паедзе, абы конь добры, у момант замчыць.

Як пачула Ганyся пра каня, то ўспомніла, што каня ў іх няма і ніхто пеша к хворай не пойдзе.

Ізноў пасыпаліся слёзы, ізноў згасла іскра надзеі на помач.

Даведаўся фельчар пра бяду дзіцяці, запрог сваю кабылу, і паехалі.

Дарогаю распытаўся ён, чым хвора маці і хто лячыў яе. Кароткі быў адказ: лячылі знахары.

Вось і прыехалі. Першая ўбегла ў хату Ганyся і прыпала да матчыных грудзей. Моцны голас нарушыў цішыню: «Матуленька, я фельчара прывезла, матуленька, ачніся!»

Дарэмны быў прызыў дзіцяці: не абудзілі яе ні слёзы, ні голас сіраты.

— Памаліся за яе,— сказаў плачучым голасам фельчар і адвёў ад пахаладзелага трупа Ганусю.

# МІНУЛАЕ

Ледзь толькі сонца паказалася над сонным борам, як на высокую байніцу старога замка вывесілі чорны сцяг.

Памёр князь. «Князь памёр»,— трывожна перашэптвалася замкавая стража. «Князь памёр»,— казалі гэта суседнія замкавыя жыхары.

У капліцы старадаўняга замка ўсе абразы былі ўжо апрануты ў чорныя чамары і духоўнік, прыпаўшы на каленкі, маліўся ад усходу сонца за душу князя.

У склепе, дзе было месца сховы памёрлых князёў, падлога была высыпана елкамі, а ў векавечным лесе князёўскія слугі пілавалі вялікі дуб — на дамавіну для князя.

Дамавіна была непамерна цяжкая і вялікая і ўспамінала не столькі дамавіну, як човен. Гэты векавечны дуб памятаў князя маленькім, затым хлапцом і старым. Гэты векавечны дуб не раз быў сведкай, калі князь у дзень пагодны праходзіў пад цень са сваёй каханкай... Чуў дуб, як білася сэрца князя, чуў дуб, што казаў князь. Памёр князь, скончыў сваё жыццё і дуб... Дзве магутныя сілы не жылі ў адзін дзень... Буйна жыў князь і доўга-доўга канаў... У часе гарачкі, асабліва калі падыходзіла ноч, князю з'яўляліся ўсе перажыткі былога ўладарнага жыцця...

Вось быццам-то ў дзень пагоднага лета ён едзе дарогай праз жытняе поле; жыта, як чай, кланяецца ў пояс князю і ўхваляе вялікае імя яго. Едзе ён праз вёску, сяляне, панурыўшы галовы, пужліва спатыкаюць князеву карэту і, жагнаючыся, адыходзяць сваёй дарогай. Мігацяць у князевых вачах абразы. Пагоднае неба засцілаецца чорнай хмарай, надыходзіць ноч. Праз вялікае акно быццам-то свецяць зоркі і ўглядаюцца на князеў твар.

Спахмурнелы твар яго. Кожная жылка на закамянелым твары налілася крывёй... Перад вокнамі растуць векавыя вербіны, далёка распусціўшы крывыя галіны ва ўсе бакі. Чарнеюць варонніяя гнёзды... Калышуцца вербіны... а князю здаецца, што нейкія затаемныя цені кратаюцца і падыходзяць да акна...

— Хто вы? — дзіка азіраючыся, пытаецца ён.— Дзе

бачыў вас? Чаму так страшна вы пазіраеце на мой пахаладзелы твар?

— Мы...— адказалі цені.— Мы цені душ, загубленых табой... Ты памятаеш, князь магутны, як твой слуга падстрэліў нас, як ехалі мы дамоў ад шлюбу разам з ёю... Ты сам не важыўся заліць крывёй нас, бедакоў, а загадаў слузе...

— А нас ты пазнаеш? — шапацелі цені.— Мы тыя канюхі, што ў час твайго вяселля не ўстрымалі коні і далі ім разбегчыся замнога, і праз гэта былі засечаны нагайкамі...

— А нас, а нас,— усё падыходзілі другія цені,— памятаеш? Мы твае слугі... За што ты абяздоліў нас, за што прымусіў нас пакінуць свет?

Начная ціш парушаецца дзікім крыкам. Князь падняў на ногі ўсіх... Тут дзеці, жонка, духоўнік, доктар, слуга... Прывід знікае, князь пужліва паводзіць вачыма па акне, адкуль свеціцца, як дыямент, зорка.

На раніцы канец быў мукам... Буйнае жыццё — скончылася... Смерць узяла сваё.

* * *

Князь у дамавіне. Стары векавечны дуб абняў пахаладзеўшае цела князя. Дамавіна пастаўлена ў склеп радком з другімі нябожчыкамі князямі...

Духоўнік заканчвае малітву, і склеп зачыняюць. Плач блізкіх князю людзей разлягаецца па падзямеллі, і настае магільная ціша.

* * *

Праходзяць цэлыя вякі, мяняюцца ўладары зямлі, а склеп, наглуха запячатаны, служыць месцам супачынку князёў вялікіх...

Не далятае туды ні звон з байніц старых, ні голас чалавека, ні вецер буйны...

Спяць беспрабудным сном былой мінуўшчыны валадары, і толькі ў казках ды ў песнях сумных успамінаецца аб іх учынках.

# ЯК МЛЫНАР СПІЛАВАЎ «СВ. ЯДВІГУ»

Далёка-далёка на абшарах Беларусі цягнуцца лясы магната Свяцкага. Векавечныя елкі, сосны і дубы парадна растуць на добрай глебе, вольна раздаючыся ўшыркі і ўдоўж.

Там не чулася сякера селяніна, там не валяецца валежнік — парадак у лясах даўні. Па ўсіх напрамках цягнуцца па лесе роўныя дарожкі, штодзень на варце леснікі.

Сам магнат Свяцкі часта аб'язджае свае лясы і з уцехай глядзіць на парадак. Слугі верныя стараюцца з усіх сіл не ўгнявіць пана.

У самай глушы лесу на высокім кургане расла нямерна грубая моцная сасна.

Расла яна праз цэлыя вякі і назву мела «святой Ядвігі». Гэта сасна, як старэнькая бабка, за свой век шмат чула, шмат бачыла. Як кажуць, памятае яна караля Баторага, Вітаўта і шмат другіх.

Швед і француз — гэта пазнейшыя, вось іх яна як бачыць перад сабою.

Кароль Вітаўт асабліва памятны ёй. Едучы праз Беларусь, ён не раз адпачываў пад гэтай сасонкай, будаваў свае планы, як бараніць зямлю ад нашых ворагаў-суседзяў.

Памятае яна татар, памятае і шмат другіх народаў, якія ішлі праз Беларусь.

Памятае, як праз сон, той дзень, калі пасадзілі яе на кургане.

Пасадзілі яе ў чэсць пахаванага нейкага ваяводы, якога прынеслі памёршага з гарадзішча. Тут некалькі дзён адбывалася пахаванне ваяводы. На высокім троне, які быў зложаны з смалістага дрэва, быў пасаджаны памёршы ваявода.

Жонка, дзеці, збройная дружына былі тут. Лірнікі пялі песні аб жыцці і паходах ваяводы, плакальшчыцы плакалі. Гарэў трон, а разам біўся ў смяротных муках конь ваяводы...

Захаванне скончылася. На месцы, дзе палала вялікае вогнішча, дзе спарахнеў на попел ваявода, быў насыпаны слугамі і збройнай дружынай вялікі курган, а

наверсе рукамі чараўніка-лірніка была пасаджана сасонка...

Праходзілі вякі, курган сушыўся сонцам і вятрамі, камянеў і нікнуў між узросшым борам. А ён, нібы бацька, хаваў у сваім гушчары спрадвечны курган і бабульку-сасонку.

Будаваліся гарады, радзіліся і паміралі людзі, узрастаў гай, расла і харашэла на кургане сасна.

Гаспадарылі над зямелькай і лясамі паны-магнаты і цешыліся, гледзячы на сваё багацце.

Асаблівую ўвагу звярталі магнаты на курганную сасну, каторая мела ўжо назву св. Ядвігі.

На гэтым кургане і раней і пазней адбываліся гульні, маёўкі паноў і моладзі.

У чэсць спрадвечнай сасны госці складалі вершы, цэлыя паэмы, дзе ўсхвалялі імя пахаванага ў кургане ваяводы і таго чараўніка-лірніка, каторы пасадзіў сасонку.

Бывалі там і пастушкі сялянскія, гулялі там хлопцы ды дзяўчаты. І яны па-свойму ведалі вартасць кургана і шанавалі памяць аб той далёкай мінуўшчыне.

Так плыў час... Над зямелькай той, дзе расла святая Ядвіга, гаспадарыў пан Свяцкі.

І гэты патомак шанаваў старадаўнюю расліну і курган.

Часта ён бываў пад засенню векавога дрэва і думкамі пераносіўся ў далёкую мінуўшчыну. Калісь бываў яго і дзед і бацька тут.

Надышоў так 1905 год. Пранёсся мяцеж і патрывожыў спакой магната Свяцкага.

Прыйшлося даць сялянам лесу і зямлі і дапусціць у бор сялянскую сякеру. Са згоды пана і слуг яго ляснічых сяляне рубалі дрэвы ў лесе і будавалі дамы.

Месцамі бор радзеў — праменні сонца гулялі па дзялянках і асвячалі пасекі.

Была вялікая патрэба ў млынара на моцнае шула для млына. Вось ён, дастаўшы ад ляснічага згоду на адну сасонку, выправіўся ў бор.

Шмат было добрых дрэў, якіх бачыў млынар, але лепшага ад сасонкі, што расла на кургане, не было.

Роўная, як прут, непамерна грубая і вялікая, кінулася яна ў вочы млынара... Разбегліся вочы яго, і думкі, каб спілаваць, яе, не давалі яму спакою.

Ён бы не разважаў так многа — пілаваць ці не, але памятаваў словы ляснічага, каб злы дух курганнай сасны не спакусіў спілаваць яе. А пры тым і сам ён добра ведаў тую старадаўнюю вартасць і кургана і сасонкі.

Абышоў млынар бор і лепшага дрэва не знайшоў. Трэба было ці адыходзіць дадому, ці пілаваць якое другое дрэва...

Не стрымаў сваю натуру млынар, бо быў асаблівага характару чалавек, і наважыў паваліць гэту сасонку.

Абгледзеўшы яшчэ раз яе са ўсіх бакоў, стукнуўшы абухам па тугіх грудзях яе, ён плюнуў на рукі і ўзяўся за пілу.

Нехаця скрыгатала піла, сумна расцягвала па лесе рэха, быццам стогн уміраючага велікана, і ўрэшце са страшным трэскам дрэва пахілілася набок і звалілася на зямлю.

Застагнала зямля, ды так, што перасталі пяяць у лесе птушкі, устрывожыліся дробныя звяркі.

Млынар задаволена ўхмыльнуўся, сеў на векавечную сасонку і закурыў.

Ён сваё зрабіў...

## БАЦЮШКАЎ КАПЯЛЮШ

*(Стары ўспамін)*

Маленькімі яшчэ былі, вучыліся ў сельскай школе. Там і жылі.

Настаўнік у нас быў паджылы, а жонку маладую меў,— вось быццам журавінка.

Зчастых мы бачылі, як у адсутнасць мужа суседняй вёскі поп да маладухі заглядаў.

Прыбяжыць, бывала, пасядзіць і цішком назад. А мы што, дзеці,— абы айца ўбачылі, нібы пакорныя авечкі,

адзін перад другім галовы ўхіліўшы, ідзем пад благаславенства.

Раз неяк у летні вечар настаўнік выбраўся ў дарогу. Паклікаў нас і прыказаў да яго звароту прыгатаваць лекцыі і сам паехаў. Толькі мы падрыхтаваліся да лекцыі, глядзім — бацюшка прыплыў. Заварушыліся хлопцы. Чаргой, у момант пад благаславенства падышлі.

Бацюшка на гэты раз павольна зняў капялюш, на стол яго паклаў, жагнаць нас пачаў, а пасля ў пакой настаўніцы шмыгнуў.

— Хлапцы!..— здзіўлена Янка прашаптаў.— Бацюшка капялюш пакінуў, гляньце!..

І праўда, на стале ляжаў паважна бацькаў капялюш.

Адышоўшы ўбок з вялікай пашанай, мы ўглядаліся на капялюш, як ён, надуўшыся, ляжаў. Ніхто і пальцам не пасмеў крануць, адзін Янка асцярожна падышоў, нюхнуў здалёк носам і грамадзе паціхеньку шапнуў:

— Святым алейчыкам ён аддае!

— Святая рэч!..— адказалі мы.

Што было рабіць, ці лекцыі ўзяцца рыхтаваць, ці капялюш вартаваць. Доўга так раіліся і наважылі ўсёй грамадой на варце быць. Лекцыі пасля адбудзем, а капялюш без дагляду пакінуць нельга, мала што можа быць.

І вось, рассеўшыся на лавах, ля стала, чакаем бацюшку, моўчкі пазіраючы на капялюш. Сядзім, дыхнуць баімся,— бацька за сцяной. Ужо і сонца села, а бацька не вылазіць. Зусім сцямнела. Што рабіць? Запалілі лямпу. Сядзім, чакаем. А ноч, як вечнасць. Неяк страшна. Скрабуцца мышы. Дрэмлюць хлопцы, ловяць акунёў, а хто, на стол галаву паклаўшы, здаўся — смачна спіць. Я толькі не спаў, што ўжо будзе — з варты не выйду. Зліпаюцца павекі, морыць сон. Капялюш у маіх вачах расце, вось ён увышыню палез, быццам бацька, стаіць перада мной і грозна кажа:

— Вартуй, авеччы сын, вартуй!..

Была ўжо раніца, як абудзіўся я. Хлопцы салодка спалі, галовы размясціўшы ля капелюша, лямпа пыкала, мігцела, слаба асвятляючы гарбок капелюша. Паветра мала, душна. «Няўжо бацька яшчэ там? — спрасоння дамагаўся я.— Мусіць, там, бо капялюш тут!»

Абудзіліся вартаўнікі, моўчкі пазглядаюць, чыхаюць, глядзяць на капялюш, на дзверы.

Нарэшце скрыганулі дзверы і паказаўся сонны, раскудлачаны айцец. Перад яго вачыма стаяла ў чарзе грамада дзяцей, а я паперадзе,— трымаючы паважна капялюш.

Замігацелі пальцы бацькі, благаславіўшы абы-як, ён нацягнуў капялюш, прыгнуўся і паціснуў праз агароды нацянькі.

Быццам-то зрабіўшы нейкі гераічны план, мы ляглі адпачываць.

Нехта ўспомніў аб лекцыях.

— Э-э! Неяк будзе!.. Настаўнік зразумее становішча вартаўнікоў, і бацюшка не дасць у крыўду, падтрымае! Кладзіцеся, хлопцы!

Ляглі. Паўднём прыехаў сам настаўнік, кліча на лекцыю.

— Выбачайце, калі ласка,— адказалі мы.— Майце літасць, ноч не спалі, капялюш бацькаў сцераглі.

— Чый капялюш? — пытаецца здзіўлена настаўнік.

— Ды бацюшкін! Ён яшчэ звечара гасцяваў у хаце вашай да самай раніцы. Вось толькі вылез — праз агароды нацянькі бягом, ну, а мы, значыцца, капялюшык сцераглі.

## СТРЭЛАЧНІК

Амаль паўвека на чыгунцы праслужыў Макар Стукала. З году ў год займаў адну пасаду: стрэлачнік. Ён сам тутэйшы, тут радзіўся, вырас, сямейкай абзавёўся і жыў. Сынкі былі. Адзін загінуў на вайне, на сопках Маньчжурыі, другога выслалі ў Сібір за думкі вольныя. Усё перажылося, а дзед Макар служыў. Штодзень адна і тая праца: удзень ражок звяглівы, увечары ліхтар з агеньчыкам чырвоным.

Пагода, непагода, а Макар на варце. Ды і куды яму ісці? Станцыя малая, вёска далёка ў старане, хто дзе, а Макар на службе.

Гудзяць, шумяць і перабягаюць цягнікі, Макар ласкава сустракае іх на стрэлцы. І многа ж іх пусціў Макар за сваю службу! Быў 1905 год. На чыгунцы было неспакойна, дзён некалькі стаялі цягнікі. Казалі, што бастуюць. І Макар таксама баставаў... Удзень ён, седзячы ў

будцы, пры дапамозе свайго хлапца-суседа чытаў лістоўкі, якія нехта аднекуль прыслаў, а ўвечары сядзеў адзін у будцы і слухаў, як мяцежны вецер выў у бляшанай трубе. Чырвоны бляск ад ліхтара, які запальваў Макар кожны вечар, асвятляў сцены будкі і постаць Макара.

Чырвоны сігнал у дні грознай забастоўкі для Макара лічыўся нечым асаблівым. Ён добра ведаў, што там, далёка, на вялікіх пунктах, дзе стрэлачнікаў шмат, цяпер агнём чырвоным палыхаюць сотні ліхтароў. А тут, на маленькай станцыі, павінен ён адзін працаваць. Гудзіць мяцежны вецер у трубе, лунаюць думкі ў галаве Макара... Вось недзе там, у сталіцы, як апавядалі людзі, грознай сілай рабочыя руйнуюць царскі трон, ліецца кроў, і шмат ахвяр. А сынок мой, які марыў за волю, дзе ён цяпер,— думаў так Макар.

Парушылася адразу цішыня ў будцы, скрыганулі дзверы, і на парозе, як стоўб, вырасла постаць станцыённага жандара.

— Макар!..— грозна гаркнуў ён.— Годзе спаць, ідзі на стрэлку... Цягнік павінен зараз быць! На барацьбу з мяцежнікамі ідзе эшалон войск!.. І, бразнуўшы дзвярыма, жандар пайшоў. Макар падняўся з месца, узяў ліхтар у рукі і выйшаў з будкі. Была ноч. Навокал магільная ціш. Толькі здалёк, як рэха, разлягалася доўгае грукатанне цягніка. Думкі роем капашыліся ў галаве Макара: забастоўка пашыраецца. Салдаты едуць біць рабочых, пальецца кроў!..

Грукатаў мацней цягнік, гудзелі рэйкі. Чорнае пакрывала ночы разрэзаў яскравы свет трох ліхтароў, якія ярка палыхалі з цягніка.

Макар стаяў на стрэлцы, адной рукой ён трымаў ліхтар, другой жа халоднае жалеза стрэлкі.

— Салдаты едуць рабочых біць... кроў нашу праліваць!..— таемны голас шаптаў Макару.— Макар, ты стрэлачнік, ты можаш справе дапамагчы... Звярні ўбок, і страшэнны вораг паляціць пад адкос!..

Макар глядзеў мутнымі вачыма то на цягнік, які стралой імчаўся, то на адкос — чорнае прадонне.

— Страшна!.. Шмат крыві... Салдаты... Не магу!..— дрыжавымі вуснамі шаптаў ён і зноў чуў таемны голас:— Макар, рабочыя — твае браты. А сын твой... а дарагая воля?!.

І стрэлка раптам узяла напрамак пад адкос. Цягнік

імчаўся. Вось ён нясецца, лязгае жалеза. Жудасны малюнак — смерць. Трывожны свісток, і раптам цягнік стаў.

— Што гэта значыць? — як бы абудзіўшыся ад сну, думаў Макар. Перад ім, як з-пад зямлі, вырасла знаёмая постаць жандара і чарада афіцэраў.

— Сукін сын,— хрыпатым голасам крыкнуў жандар,— ты спіш, сабака? Сігнал чырвоны зачыні, зялёны дай! — І тут жа вырваў з рук ліхтар і перавёў свет. Жандар пабег. Макар перавёў стрэлку. Цягнік прайшоў і знік у цемры ночы. Паехалі салдаты.

Прайшлі гады. Прыйшоў Чырвоны Кастрычнік. Шчаслівы Макар, жыць хочацца і многа працаваць. Стаіць на стрэлцы і радасна праводзіць цягнікі. А тут незвычайны шчаслівы дзень здарыўся. Макара сын прыехаў. Цяпер ён начальнік улады. Ніколі гэткіх шчаслівых хвілін не ведаў у сваім жыцці Макар. Сын разам з ім. Але не доўга так было. Сыны Кастрычніка адступалі на Усход, паны-палякі загарнулі ў свае рукі край.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гудзіць у трубе вецер. Зноў гарыць чырвоны агонь у ліхтары Макара. Ноч. Цяжка дыхаць, запанаваў чужынец.

Бягуць дні за днямі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцай паклікалі Макара да пана начальніка.

— Што гэта значыць? Навошта я там? Аб чым ён будзе гутарыць са мной? — думаў ідучы Макар.

Сэрца біла трывогу — не хацеў ісці. Нясмела адчыніўшы дзверы, Макар пераступіў парог. Начальнік непрыветліва глянуў на Макара.

— Ачысці будку!.. Здай казённую маёмасць! Ты ад службы вольны! — сказаў ён.

Анямеў Макар. Іскры пасыпаліся з воч, падступілі слёзы.

— Панок, завошта? — дрыжавым голасам запытаў ён.

— Сын твой партызан, вораг дзяржавы польскай!..— глуха адказаў начальнік.— Вон!

Выйшаў Макар, памутнела ў вачах. Куды ісці, каму патрэбен ён, 50 год службы, старасць...

Праходзяць дні. Макар ужо чыгункі не вартуе. У вёсцы, у чужых людзей пасе гусей. Жабрак.

* * *

Здалёку сталёвай істужкай мігацяць рэйкі. Гарэзныя праменні сонца купаюцца між рэек на пяску, а там і будка выглядае спаміж кустоў.

Наплываюць успаміны 50-гадовай службы. Слёзы на вачах.

За сінім борам дымок ад цягніка відаць. Сюды ён бяжыць па рэйках, дрыжыць зямля, дрыжыць і сэрца ў Макара. Гудзіць свісток — працяжна, екатліва. Пішчом Макару ў вушы лезе зык.

Трасучымі рукамі ён закрывае вушы, стараецца не чуць такі дарагі і радасны і цяпер такі далёкі гук.

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

У № 105 «Савецкай Беларусі» за 15 траўня была рэцэнзія аўтара «Міхася» аб п'есе «Праменьчык шчасця», якая ставілася ў Горы-Горках Гомельскай губерні, у якой той піша, што быццам-то герой п'есы Ігнась, беглы палітычны катаржнік, верыць у нейкі крыжык, пры дапамозе якога, як пуцяводнага знаку, ён нібы збег з Сібіры і прайшоў усе перашкоды, якія былі на доўгай дарозе.

Дзіўлюся, адкуль выкапаў «Міхась» такую небыліцу? Пэўна, сасніў. Кажу сасніў дзеля таго, што часта прыходзіцца быць сведкай, як знураныя рэцэнзенты крыху дрэмлюць у часе ходу п'есы (дзеля таго можна даравацъ дзядзьку Міхасю, прымаючы пад увагу, што сон — не благая рэч, калі праспаў), але тады не трэба так смела пісаць рэцэнзію, каб не мяшаць сонных матываў з сапраўднасцю.

Па п'есе Ігнась верыць не ў крыжык, а ў прамень шчасця, які саслужыў яму пуцяводным знакам у дарозе з Сібіры на бацькаўшчыну. Гэта кажа сама назва п'есы.

# ГОД ПРАЦЫ

У прайшоўшым 1920 г. у той час, як прыйшла Савецкая ўлада, у Мінску быў адчынен Беларускі рабочы клуб.

Для таго, каб арганізаваць пры клубе трупу, быў запрошан артыст Беларускага дзяржаўнага тэатра. Трупу падабралі і распачалі культурную працу.

Праўду кажучы, нямала прыйшлося папрацаваць, пакуль падрыхтавалі трупу, але сяк-так гэта ўдалося зрабіць.

Ставілі спектаклі цёнгля дармовыя для сяброў клуба і для беднейшага грамадзянства.

Клуб працаваў, як ніводзін з другіх клубаў у Мінску. Працавалі на сцэне, як кажуць, пры самых бедных дэкарацыях, без рэквізіту, без належных гарнітураў. Так пражылі год. Жылі і верылі, што на рабоча-сялянскі клуб у першую чаргу звернуць увагу і зробяць усё, што патрэбна.

Але дарма... Ніхто нічога не зрабіў. Як і ў прайшоўшым годзе, так і цяпер бачым тую ж самую жабрацкую дэкарацыю, тыя ж самыя два зялёныя і два чырвоныя адзяранькі. Няма там не толькі раскошы, але няма цвіка, каб прыбіць дэкарацыю.

Сялянскіх вопратак, якой шапкі ці капелюша і ў паміне не было. З'яўляецца пытанне, як жа ставяцца спектаклі? А вось як: у дзень спектакля можна бачыць, як па вуліцах места Мінска цягнуцца артысты і артысткі, несучы на плячах у клуб належны к спектаклю рэквізіт, пазычаны ў добрых суседзяў.

Нясуць яны гэту паклажу і праклінаюць усё на свеце, а з другога боку праклінаюць артыстаў суседзі, каторым апрыкрала гэта штодзённая пазычка.

Не раз пыталіся ў артыстаў, чаму яны, нібы вярблюды, цёнгля валакуць вузлы? Адказ адзін. Павалачэш, калі трэба. Не з'явішся на сцэну ў абмотках або ў галіфе, калі п'еса вымагае далёка іншай вопраткі. Не можна грамадзянству, паказаўшы ката, казаць, што гэта леў...

Ну, добра, пытаемся ў таго самага артыста, чаму ж не просіце, цяпер жа для такіх устаноў, як клубы, даецца ўсё.

Абяцалі — ды не далі,— адказвае артыст і цягне пакорна свой вузел далей.

Вельмі прыкрае становішча. Няўжо праўда? Няўжо рабоча-сялянскі клуб у такім дрэнным становішчы? Не... гэта не можа быць. Чаму ўсё далі для другіх клубаў, для Дзяржаўнага тэатра? Няўжо рабочы клуб не для рабочага, няўжо ён для спекулянта?

Гэта пытанне вельмі балючае, і да яго патрэбна падысці юрыдычна.

Што такое клуб і для каго ён? Клуб, згодна ўсёй сваёй назве, змяшчае ў сваіх сценах бяднейшых жыхароў Мінска і рабочых чыгуначнікаў, каторыя дзякуючы свайму матэрыяльнаму становішчу не могуць бываць у Дзяржаўным тэатры, дзе кошт білетаў не задавальняе.

У клубе, раней дарэмна, а цяпер за 1000 рублёў гэты працаўнік можа пабачыць п'есу, адпачыць душой, а там усё ж, як вядома, рэпертуар п'ес вядомы шырокаму грамадству і з сучаснага моманту.

Бываюць у клубе не толькі рабочыя, бываюць там і прадстаўнікі ўлады, і кожны, зазначыўшы сваю ўвагу, што трэба клубу памагчы, разыходзіліся, запомніўшы аб

тым, што казаў. Хто ў гэта верыў, той і цяпер верыць, але артыст страціў ужо веру, цягаючы з канца ў канец горада на плячах клункі другі год. Ён кажа: што гэтак-сама памагаў цыган чалавеку, каторы тапіўся.

І вось, кажучы ўсё гэта, трэба абудзіць ад сну, трэба працёрці вочы, глянуць на свет і запытацца, што такое клуб, чаму ён у жабрацкім становішчы, чаму артыст другі год цягне на сваіх плячах рэквізіт і вопраткі, чаму на сцэне няма цвіка і няма грошай. Хто гэтаму вінен?

Клуб павінен быць клубам, месцам для адпачынку працоўнага люду ад працы.

І калі гэта так, кожны грамадзянін, каму дарага агульная справа, павінен памагчы, але памагчы не так, як памагаў цыган словам, а працай.

# ПРАЦА II БЕЛАРУСКАЙ ТРУПЫ
## ў 1921 годзе

II Беларуская трупа, якая працуе ўжо амаль што два гады, у 1921 г. зрабіла ў культурным напрамку вялікую працу.

За 1921 г. дадзена 150 спектакляў па ўсіх клубах Мінска і ў павеце.

| | | | |
|---|---|---|---|
| У рабочым Бел. клубе | | 76 | спектакляў. |
| У клубе | пралетарскім | 8 | » |
| » | Леніна | 6 | » |
| » | Луначарскага | 18 | » |
| » | Красный путь | 22 | » |
| » | Камуна | 1 | » |
| » | Бел. хатка | 4 | » |
| » | Допр. | 2 | » |
| » | пры заразных бальн. | 7 | » |

Глянуўшы на паказаны лік спектакляў, можна ведаць і верыць, якую вялікую працу зрабіла гэта маленькая трупа, у якой няма ні належных вопратак, ні рэквізіту. Трэба мець дужа вялікую вытрываласць, каб так безупынна працаваць, як II Беларуская трупа. Артысты гэтай трупы — непамерна цярплівыя і мужныя людзі, калі

змаглі год працаваць пры такіх цяжкіх абставінах. Трэба ведаць, што кожны артыст гэтай трупы жыве не заработкамі сцэны, а служыць апроч гэтага ў другіх установах і вольны час аддае культурнай працы. Як можна бачыць па ўсім горадзе афішы II Беларускай трупы, так можна бачыць і артыстаў гэтай трупы на сцэнах па ўсіх клубах. Асабліва сустракаюць II Беларускую трупу чыгуначнікі Аляксандраўскага вакзала. Там, дзе паказалася трупа, народу заўсёды шмат.

Як вядома, адміністрацыя культасветы клуба «Красный путь», прымаючы заслугі II Беларускай трупы, дала ёй адзін дзень у тыдзень назаўжды, каб гэты дзень быў «беларускім», і такім чынам трупа Галубка пачне працаваць шырэй. Адно толькі жаль, што ў трупе вялікі няхват артыстычных сіл, дзякуючы чаму часта-часта прыходзіцца бачыць не зусім адпаведных па ролі артыстаў, але гэта скрадваецца па волі добрай рэжысуры і стараннем саміх артыстаў, выпаўняючых свае ролі.

Вельмі цяжкая пара была для II трупы — гэта восень і зіма. Восень шмат перашкаджала працаваць, асабліва калі прыходзілася ставіць спектакль у клубе Луначарскага ці ў заразным госпіталі.

Артысты, ідучы з Брэсцкага вакзала і несучы за сабою вопраткі і рэквізіт, трацілі сілу і энергію. Зімою яшчэ горш. Маразы па 20—25 градусаў перашкаджалі працаваць. Клубы нідзе не атапляліся, артысты мёрзлі і хварэлі, але неяк працавалі. Самую цяжкую пару амаль што перажылі і спадзяюцца прыждаць вясны.

Вясною трупа перакачуе ў павет і павядзе культурную працу між сялян, ад якой будзе яшчэ большая карысць грамадству.

Рэпертуар трупы досыць вялікі і, праўду кажучы, заўжды арыгінальны. Перакладамі трупа амаль што зусім не карысталася, а ставіла заўжды творы ўласныя, беларускія.

Арыгінальных твораў было пастаўлена ў 1921 г.— дванаццаць.

Лік пастановак хаця і не зусім вялікі, але, прымаючы пад увагу адсутнасць дэкарацый, добра і гэта.

Калі глянуць на лік спектакляў за год, то можна бачыць, што большасць з іх у Рабочым Беларускім клубе, і праўда, праца была там. Цяпер за апошні час трупа Галубка там не працуе.

Хор Равенскага разам працаваў з трупаю, а ўвосень

выдзеліўся ў самадзейную адзінку і, атрымаўшы ад праўлення клуба згоду, пачаў даваць у клубе канцэрты 4 разы ў месяц, другія 4 разы ў месяц аддаваліся трупе. Але цяпер і гэтыя дні ад трупы ўзяты.

Пры клубе пачала працаваць трупа, якая злажылася з сяброў клуба, і Галубку дадзена воля лётаць дзе хоча.

Праўда, лётаць не шкодзіць, але ўсё ж трэба мець сваю ўласную сялібу, бо, не маючы пад нагамі грунту, жыць не можна.

Трупа так-сяк жыве, а хор ледзь дыша. Праўда, гэта з'явішча вельмі прыкрае, але яно ёсць, і ніхто з людзей практычных, каму дарага справа, не хоча памысліць над гэтым, што трупа без хору, а хор без трупы жыць не могуць.

## УСЁ АБ ТЫМ ЖА

За апошні час, досыць часта ўспамінаючы аб беларускім рэпертуары, ненарокам кранулі і маё імя. Прычынай, здаецца, паслужыў той куфар, дзе дзядзька Язэп Кры... знайшоў частку беларускага тэатра.

Праўда, рэпертуар, які я напісаў за апошнія 5 год, ляжыць у куфры, які стаіць пры самых дзвярах на выпадак пажару. Ляжыць ён даўно. Ляжаў ён пры паляках, бо лічыўся мяцежным, ляжыць ён і цяпер і лічыцца адпаведным моманту.

Толькі розніца ў тым, што пры паляках ён сцэны не бачыў, а цяпер бачыць, і вельмі часта.

То я сам, як кіраўнік Другой беларускай трупы, абыгрываю п'есы ўсюды, то ў рукапісах аддаю таму ці іншаму гуртку. І, праўду кажучы, п'есы хутка перакачваюць з месца на месца і трапілі некаторыя аж да немцаў у Нямеччыну.

Прыходзіцца чуць, што некаторыя мае п'есы гурток гуртку перапрадае. Я б гэтай з'яве і не паверыў, але мне адзін студэнт сказаў у вочы, што маю п'есу «Суд» купіў у рукапісе за пуд мукі.

Прымірыўся я нават і з гэтым. Я хачу навучыць тых, каго цікавіць слова тэатральнае, што п'есы я напісаў не для таго, каб трымаць іх у куфры, не паказваючы свету. Зусім не, я пісаў іх для таго, каб яны шырока рас-

паўсюджваліся па свеце і прыносілі карысць грамадству. І як-ніяк п'есы свет бачаць і гуляюць усюды — аб гэтым ведае кожны. У куфры ляжаць копіі.

Гэтыя копіі не зачынены пад замок, і забраць іх у друк зусім проста. Трэба толькі сказаць мне, і я, як відзіш, здам.

Праўду кажучы, я гэтага даўно чакаю, але пакуль маўчу. Мне самому хадзіць і жабраваць, каб надрукавалі мае п'есы, не выпадае. А тым часам у вольную хвіліну пішу новыя.

Павінен яшчэ сказаць, што частка маіх п'ес ёсць і ў Акадэмічным тэатры і ляжаць у пачэсным месцы пад замком. Тут ужо я не вінен. Той, хто зачыніў іх, лепш ведае, што рабіць, на тое ён гаспадар. Але ж прасіць і ўмаляць таксама не выпадае. Трэба пачакаць. Не так даўно ўсе бачылі, як на афішах была пазначана да пастаноўкі мая музычная драма ў 5-ці дзеях «Бязродны», сам не ведаю — чамусьці не пайшла. Пэўна з тае прычыны, што наш актор цяпер адыгрывае ангельскіх лордаў, польскіх магнатаў, і як ужо скончаць гэту працу, тады ўжо мо возьмуцца і за сваё.

Так я яшчэ раз кажу, што п'есы ў мяне не пад замком, каму патрэбны, яны могуць быць дадзены. Адрас мой: Правадная вуліца, 15-а, кватэра 3. Блізка Брэсцкага вакзала. Можна ехаць на концы.

## ВАЎКАЛАКІ [1]

Чалавека-звера лютага, крыважаднага, утраціўшага воблік чалавека, можна бачыць на вакзале Аляксандраўскай чыгункі ў часе прыходу поезда з уцекачамі.

Быццам-то хмара, налятае зграя ваўкалакаў, як падыходзіць поезд. Ваўкалакі, разбіўшыся на тры катэгорыі, абступаюць поезд і зразу прыбіраюць да рук уцекачоў. Адны з іх скупліваюць залатыя грошы, другія падушкі, пярыны, боты і іншыя рэчы, а іншыя абкрадаюць.

Уцекачы аддаюць за нікчэмства сваё апошняе багацце, абы ратавацца ад галоднай смерці, а ваўкалакі спраўна пераймаюць усё да сваіх рук.

---

[1] Маюцца на ўвазе рабаўнікі-марадзёры. *(Рэд.)*

Салідарнасць між імі надзвычайная,— ні бойкі, ні лаянкі няма, кожны ваўкалак знае сваю справу і па-геройску спраўляецца з ахвярай.

Адзін ваўкалак гаворыць з жывым уцекачом, выманьваючы ад яго золата, другі выцягвае з-пад мерцвяка падушку або сцягвае боты, а трэці ваўкалак, карыстаючыся таўкатнёй, прыбірае ўсё, што пападзе пад рукі.

Праца ідзе вельмі спрытна. Не паспее чалавек і вокам міргнуць, як поезд з уцекачамі праанaлізуюць да астатку. Мярцвяк, апынуўшыся без ботаў, маўчыць, а жывы, утраціўшы рэчы, плача. Але ніхто не звяртае ўвагі на слёзы, плач хоць дзень з ноччу. А тым часам падушкі, пярыны і бялізна з-пад тыфозных адразу перакачоўвае на павет да сялян і заносіць заразу да здаровых людзей.

Селянін, аддаючы за падушкі хлеб, ведаць не ведае, што прынеслі яму ваўкалакі ў хату, і толькі пасля, калі ўся сям'я захварэе на тыфус, разводзіць рукамі і пытаецца, адкуль да яго прыйшла бяда. А бяда не прыходзіць, а заносіцца людзьмі, якія добра ведаюць, што нясуць.

Іх не цікавіць, што будзе шкоднага ад іх працы.

У горадзе то там то сям бачылі плакаты, якія паказваюць шкоднасць адзежы, якая збываецца без дэзінфекцый, а ў вёсцы аб гэтым і не ведаюць. Пасля сухотніка кладуцца на той самай пасцелі, носяць бялізну, пасля тыфозных гэтаксама. І гэткім чынам эпідэмія гуляе па абшарах нашай Беларусі, і народ вымірае. А ваўкалакі тым часам жывуць, крэпнуць і абагачваюцца кроўю нявінных людзей.

Я сам быў сведкай, як у паміраючага ўцекача ваўкалак пытаўся, ці ёсць у яго золата, калі ж убачыў, што той ужо памёр, з жалем сказаў: «Памёр і не сказаў, а грошы ў яго ёсць». І тут жа пачаў падгаварваць знаёмых нябожчыка, каб перагледзелі кішэні, дабаўляючы пры гэтым, што на той свет з грашыма людзі добрыя не ходзяць.

Дык вось якія абразочкі і якіх людзей можна бачыць між намі!

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Да вас, працаўнікі Другой беларускай трупы, звяртаюся я са шчырай падзякай за ўсю тую працу, якую выпаўнілі вы за ўвесь час існавання трупы.

За тры гады безупыннай працы сярод захалуснага грамадзянства вы зрабілі вялікую працу, пра якую забыцца не можна. Вы працавалі, не адчуваючы змогі, вы працавалі і дзень і ноч. Дзень для вас — праца ва ўстановах, а ноч — сцэна...

Для сцэны вы аддавалі свой адпачынак, якога не ведалі за ўвесь час працы на сцэне.

Вялікія вашы заслугі ў тым, што вас не пужала дальнасць клубаў, вёсак, куды трэба было хадзіць пехатою па гразі і па снягу, несучы на сабе цэлыя вузлы патрэбнага рэквізіту.

Вы ішлі да тых людзей, да якіх не ішоў ніякі тэатр. Ваша праца была паміж рабочых і сялян, якім умовы жыцця не дазвалялі бываць у тэатрах горада. Вы служылі народу, якому раней быў свет закрыт.

Вы былі паміж гэтых рабочых рабочымі і мастакамі. Ён вас заўжды разумеў і сэрцам аддаваўся да свайго быту, які бачыў на сцэне.

Там, дзе смяяліся вы, смяяўся і ён, там, дзе плакалі вы, плакаў і ён.

Аб вашай працы нічога не кажа клас нэпа, бо для яго вы не жылі, але аб вас загамоне фабрычны рабочы, які ўдзень разам з вамі працаваў за станком, а ўвечары ішоў у сцены клуба пабачыць п'есу, якая вучыла яго сучаснаму жыццю.

Вялікае слова аб вас скажа селянін Беларусі, якога вы таксама не абміналі.

176 спектакляў вы далі ў 1921 годзе і 122 спектаклі ў 1922 г. Гэта праца... І вось за вашу шчырасць, за цярплівасць я дзякую вам і смела скажу: працуйце, лепшая доля за намі.

## АБ ГАСТРОЛЯХ У МАЗЫРСКАЙ АКРУЗЕ

Згодна камандзіроўкі НКА трупа ў ліку 20-ці асоб паехала на гастролі ў Мазырскую акругу. Першым пунктам быў Мазыр. Там трупа, паставіўшы 10 спектакляў,

перакачавала ў Нароўль. Як ў Мазыры, так і ў Нароўлі беларускімі спектаклямі цікавіліся ўсе, асабліва сяляне, а сялян на спектаклі дапускалі 50 працэнтаў.

Характэрна тое, што селянін, нягледзячы на свой клерыкальны быт, ахвотна бываў на антырэлігійных спектаклях і слухаў антырэлігійныя рэчы, якія казаліся заўжды перад пастаноўкай такога зместу п'есы. Бачачы гэта з'явішча, трупа зусім смела распачала гэту прапаганду і амаль што кожнае свята (у нядзелю), калі канчалася служба ў царкве, забірала ўсіх сялян з царквы і там вяла з імі размову аб рэлігіі, богу, святых і г. д.

З вялікай зацікаўленасцю слухаў селянін, калі казалі яму, што царква і папы аджылі ўжо сваё і што на змену гэтаму ашуканству і ашуканцам прыйшоў іх брат, артыст-камуніст, каторы ідзе са святлом у вёску і гоніць прэч з дарогі ашуканцаў народных — папоў і ксяндзоў.

Гэты селянін слухаў, маўчаў, калі казалі яму, што няма бога. Ён так аддаваўся прамоўцу, што ў канцы прамовы біў у ладошкі і заставаўся далей на спектакль. Прамоўца даводзіў сялянам аб тым, што ўсюды ў нас будуюць клубы і тэатры, а ў Нароўлі якраз наадварот, веруючыя будуюць царкву. Пры гэтым прамоўца стыдзіў сялян, даказваючы непатрэбнасць гэтай будыніны ў наш час.

Горшае з'явішча прыйшлося бачыць у Петрыкаве. Там ёсць архірэй і цэлая армія папоў. Прыехаўшы туды, трупа затрымалася на большы час і распачала працу. Дармовыя спектаклі, антырэлігійныя п'есы. На спектаклі веруючыя хадзілі мала, але сяляне ішлі. І там селянін ніколі не аказваў супраціўлення. Слухаў усё, што яму казалі, адны толькі бабы моршчыліся, калі казалі, што няма бога.

У Петрыкаве і дзень і ноч гудзяць званы, тысячныя працэсіі цягнуцца па мястэчку з абразамі і ўсякай немаччу. Народ верыць, моліцца. Проста шорхна глядзець на гэтае з'явішча ў наш век.

Пасля некалькіх пастановак у Петрыкаве трупа выехала, бо прыйшлося пачуць ад некаторых асоб, што ў Петрыкаве моцная арганізацыя веруючых, якім не падабаюцца нашы рэчы супраць рэлігіі і духавенства і што ад іх можна чакаць усяго.

У Тураве быццам-то ў нейкай Палесціне. Была субота. Сінагога гудзела. Поўна народу. Стаім, чакаем канца службы, каб пабачыць, што ж там ёсць? А к вялікаму

нашаму здзіўленню, пераважна моладзь 20—30-ці гадоў. Кожны пад пахаю трымаў талмуды і ўсе прылады, зусім спакойна ідучы праз мястэчка.

Пытаюся: чаму не зачынена сінагога?

Кажуць: зачынілі, але чамусьці зноў адчынілі.

Назаўтра, у нядзелю, была сёмуха. Ідзём да царквы. Там зусім сярэднявечча. Бесканечна вялікі хвост баб, якія чарадой ідуць у царкву, несучы ў руках запаленыя свечкі, затыркнутыя ў мёд, які знаходзіцца ў пасудзінцы. Іх пераймае поп, які ачышчае гэтыя пасудзіны ад мёду, блаславіўшы за гэта на дарогу.

Гэткі рух адбываўся нешта тры дні. Гудзяць званы, калышацца перад царквой веруючы сялянскі люд. Глядзіш і не верыш сваім вачам. Зусім спакойна адбываецца гэта ашуканства селяніна... Поп вянчае цэлымі кучамі.

У Тураве больш як дзе вялася антырэлігійная праца, праз усе дні гэтай вакханаліі пушчалі сялян у тэатр. У нядзелю, на тройцу, удзень на дармовы спектакль зараз жа з царквы ўсіх баб і сялян упусцілі ў тэатр і пачалі ім казаць прамовы, а затым ставілі п'есу. Дзядзькі слухалі і білі ў ладошкі, а бабы трошкі шумелі, але сядзелі. Характэрна тое, што старыя сяляне вельмі запрашалі нас да сябе ў вёску, выказваючы вялікае здавальненне ад усяго, што бачылі і чулі. Пасля Турава трупа пабывала ў Караліне, Жыткавічах, Капцэвічах і Калінкавічах.

Вельмі добрае ўражанне засталося ад Капцэвіцкага фанернага завода, дзе было дадзена 7 спектакляў. Там рабочыя людзі развітыя...

Вынік з нашай вандроўкі такі.

На Палессі пануе цемра... Вельмі добры грунт пад сабой чуюць папы. Развіваецца клерыкалізм. Сялянскія масы лёгка паддаюцца дурману. Будуюць царкву, ладзяць новых багоў...

Паколькі, з аднаго боку, сяляне ідуць у царкву, пастолькі задумваюцца над тым, ці ёсць бог, калі пабываюць у тэатры і паслухаюць прамоўцу, які даводзіць, што няма бога. Сяляне ахвотна ідуць у тэатр і вераць таму, што ім там кажуць. Тэатр для іх — усё. Ён гатоў слухаць усё, што яму кажуць, а пасля ён задумваецца над тым, што чуў. Гэткім чынам чалавека, які прывык толькі верыць у бога, пачынае варушыць і будзіць пачуццё з новым клічам, што няма бога, што царква ёсць лавачка, а поп — ашуканец.

Тэатр, як мне здаецца, можа аказаць вялікую паслугу ў барацьбе з клерыкалізмам. Лягчэй усяго можна асвятліць мозг селяніна добрым тэатрам. Лягчэй усяго можна з'яднаць вёску, калі на помач прыйдзе тэатр. Вось дзеля чаго, адчуваючы такую вострую патрэбу, трупа, не пакладаючы рук, працавала ў Мазырскай акрузе 45 дзён, даўшы 40 спектакляў.

Але гэтага мала. Беларусь вялікая, і поле для працы вялікае. Трэба спяшыць, пакуль ёсць сіла і натхненне, бо нас чакаюць.

Не трэба шкадаваць грошы на тэатр. Трупа павінна мець як правы ў дарозе, так і грошы на пражыццё. Не можна артыста дапушчаць да галадоўкі, як гэта было ў гэтай дарозе. Трупе было выдадзена грошай на дарогу 500 рублёў, з якіх 250 рублёў прыйшлося аддаць на вопраткі для тэатра, а на астатак ехаць у такую вялікую дарогу.

Праехалі 1500 вёрст жалезнай дарогай, 300 коньмі, 250 параходам. 50 працэнтаў дармовых спектакляў. З гэтага ясна: недастатак — голад.

Працуючы штодня на сцэне і ўчыняючы такія значныя пераезды, сонцам-пылам, усе артысты знішчылі ўсю сваю вопратку, засталіся без бялізны і сталі зусім на становішча жабрака. Але гэта не спыніць нашай працы. Мы чакаем новага загаду і ахвотна паедзем туды, куды нас пашлюць.

## «КОНТРАТАКУ» ПАВІНЕН БАЧЫЦЬ КОЖНЫ РАБОЧЫ

Пастаноўкай вялікай мастацкай адзінкі — п'есы «Контратака» — БДТ-3 на справе паказвае свой ідэалагічны рост, сваю ўзвышаную мастацкую вартасць.

«Контратака» па сваім сацыяльнаму зместу з'яўляецца вельмі каштоўнай пастаноўкай, асабліва цяпер, у час шалёнай падрыхтоўкі капіталістаў да нападу на СССР.

Па сваёй складанасці «Контратака» патрабуе вялікай увагі і напружанай работы не толькі ўсяго калектыву тэатра, але ўсёй пралетарскай грамадскасці Віцебшчыны. Паставіўшы перад сабой баявую задачу, ка-

лектыў артыстаў надзвычай напружана працаваў над новай пастаноўкай, шырока выкарыстоўваючы сацыялістычныя метады працы — сацспаборніцтва, грамадскі буксір і г. д. Ударна працавалі і рабочыя сцэны: нягледзячы на тое што макет быў атрыманы толькі 10 мая, пабудова канструкцыі праходзіла звышударнымі тэмпамі і скончана ў тэрмін.

На вялікі жаль, частка артыстаў, якія яшчэ не ўявілі сабе адказнасці задач і складанасць пастаноўкі ў сувязі з абмежаваным тэрмінам падрыхтоўкі, працавала над вобразамі з «прахладцам», меліся спазненні на пробы (Казлова, Шапавалаў).

21 мая адбылася вытворча-тэхнічная нарада, якая абмеркавала разгортванне работы па падрыхтоўцы новай пастаноўкі, дала рад канкрэтных рашучых дырэктыў па выпраўленні маючыхся памылак.

Паколькі п'еса носіць абаронны характар, па лініі гарсаветаў Асаавіяхіму арганізавана ў фае тэатра выстаўка.

Пастаноўкай «Контратакі» БДТ-3 заканчвае свой сезон у Віцебску. «Контратаку» павінен бачыць кожны рабочы. Неабходна арганізаваць шырокую крытыку новай пастаноўкі тэатра. Рабочы глядач абавязан даць сваю ацэнку п'есы.

Грамадскія арганізацыі Віцебска, ФЗМК, культсектары павінны ўлічыць тыя памылкі, якія былі дапушчаны ў часе ўжо прайшоўшых пастановак. Рабочым гледачом тэатр павінен быць забяспечаны.

## ТВОРЧЫ РОСТ БДТ-3

Трэці Беларускі Дзяржаўны тэатр (раней БДВТ) дэманструе творчы рост і перабудову на аснове нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі.

Сваю працу (у 1919 годзе) тэатр распачаў, знаходзячыся пад моцным уплывам правінцыяльнага аматарскага тэатра.

Не маючы ў сваім складзе належнай колькасці выканаўцаў, тэатр прымушаны быў працаваць над прымітыўнымі схематычнымі п'есамі і жартамі, якія меліся ў тагачасным беларускім рэпертуары. Ставіліся ў той час і

п'есы Фр. Аляхновіча («Страхі жыцця», «Бутрым Няміра», «Цені» і інш.).

П'есы Фр. Аляхновіча, прысвечаныя адлюстраванню жыцця мяшчанства, ад першай і да апошняй старонкі былі прасякнуты актыўнай нацдэмаўскай тэндэнцыяй, хаця ж аўтар імкнуўся замаскаваць гэта «слязлівымі» прыёмамі ў драматургічным мастацтве.

Уцякаючы ад сапраўднасці, ад страхаў жыцця, аўтар клікаў да старасвеччыны, усямерна ідэалізуючы мінуўшчыну (драма «Бутрым Няміра»).

Выключна бытавая тэматыка адштурхоўвае тэатр ад вострых праблем класавай барацьбы — асноўнай задачы кожнага рэвалюцыйнага тэатра.

Разлічаны на мяшчанскага гледача, рэпертуар тэатра не адпавядаў задачам выхавання пралетарскага гледача.

Свой творчы метад БДТ-3 (БДВТ) будаваў, выходзячы з метадалогіі і натуралістычнага, бытавога тэатра.

Натуральна, тэатр акцэнтуе ўсю ўвагу на пабочных, другарадных рысах жыцця чалавека.

Нацыянал-дэмакраты, выходзячы з творчага метаду тэатра, горача агітавалі за жыццёвасць натуралістычнага тэатра, за стары рэпертуар, паколькі трактоўка ім з'яў сацыяльнага грамадства найбольш поўна задавальняла палітычныя ўстаноўкі нацдэмакратаў.

Рабочы клас БССР пад кіраўніцтвам партыі выкрыў і ўшчэнт разбіў контррэвалюцыйныя меркаванні нацыянал-дэмакратаў.

Савецкая грамадскасць усімі сродкамі дапамагла тэатру стаць на правільны шлях адбіцця ў сваёй творчай дзейнасці сучаснага жыцця нашай краіны з тымі грандыёзнымі будоўлямі сацыялізма, якія разгортваліся на нашых вачах.

Перагляд свайго ранейшага шляху накіраваў тэатр на вырашэнне задач сацыялістычнага будаўніцтва — вось што патрабавала грамадства ад усяго калектыву тэатра.

Карэнная перабудова тэатра пачалася з рэпертуару.

Рашуча адкінуўшы ўвесь ранейшы рэпертуар, наш тэатр звярнуўся да выкарыстання лепшых узораў драматургіі БССР, і з гэтым рэпертуарам тэатр уступіў у 1-ю пяцігодку.

Былі прыняты да пастаноўкі п'еса Мікітэнкі «Дыктатура» (на тэму калгаснага будаўніцтва), п'еса Яноўскага «Ярасць», п'еса Глебава «Гальштук» (з жыцця мола-

дзі на заводзе), Станкевіча «Праваказары», п'есы беларускіх драматургаў В. Сташэўскага «Віхор» (з часоў грамадзянскай вайны ў БССР), Ул. Галубка «Курганы» (з жыцця Заходняй Беларусі).

Гэты рэпертуар уліў новы струмень у агульную дзейнасць тэатра, і з гэтым новым рэпертуарам тэатр накіроўваецца для абслугоўвання калгасаў і саўгасаў БССР, даўшы за 5 год каля 1500 спектакляў і канцэртаў.

Для кіраўніцтва данымі пастаноўкамі прыцягвалася выдатная тэатральная сіла: Міровіч, Міцкевіч, Крыловіч, Ільінскі, Станкевіч, Саннікаў і інш., што ў значнай ступені спрыяла зніштэнню штампа і нізкай тэхнічнай і мастацкай вартасці ранейшых пастановак тэатра.

Над мастацкім афармленнем пастановак нашага тэатра працавалі мастакі: Гольц, Крэйн, Ахрэмчык, Азгур, Ціхановіч і інш.

Над музычным аздабленнем рэпертуару працавалі кампазітары: Гітгарц, Цікоцкі, Красеў, Туранкоў, Пукст, Сакалоўскі і інш.

Творчыя камандзіроўкі ў Маскву і Ленінград, гурткі па павышэнню кваліфікацыі дапамаглі больш узняць якасць акторскага персаналу тэатра.

У выніку ўзмоцненай работы тэатра над сабой са складу трупы вылучыліся Згіроўскі, Бусел, Быліч, Дзядзюшка, Блажэвіч, Шашалевіч, Качынская, Вазнясенскі, Несцяровіч і інш.

Праводзячы на месцах канферэнцыі гледачоў, тэатр вывучаў рэагаванне гледача на працу тэатра.

Ідучы далей у галіне пашырэння рэпертуару, у 1932 годзе тэатр пачынае працаваць над новымі п'есамі: Серабракова-Тарвіда «Энтузіясты» (на тэму індустрыялізацыі краіны), «Контратака» беларускага драматурга Курдзіна (на тэму абароны СССР), «Дзяўчаты нашай краіны» Мікітэнкі, «Мой друг» Пагодзіна, «Суд» Кіршона і інш. і абслугоўвае гарады Мінск, Гомель, Віцебск, Магілёў, Полацк і раёны БССР, дзе ён карыстаўся вялікім поспехам.

За гады сваёй працы тэатр пабываў ва ўсіх мясцовасцях БССР і абслужыў каля 3500 тысяч гледачоў. Выязджаў неаднаразова ў раёны РСФСР і УССР, дзе абслугоўваў фабрыкі, заводы, калгасы і Чырвоную Армію.

Разбіваючы ўшчэнт элементы аматарства, БДТ-3 змагаецца за бальшавіцкае мастацтва.

З такімі вынікамі прыходзіць тэатр да тэатральнай нарады.

Але перад тэатрам паўстае шэраг неадкладных і важных задач, над якімі ён павінен працаваць і якія павінны быць высунуты перад тэатрам надалей.

Па-першае, гэта адсутнасць у рэпертуары БДТ-3 арыгінальнага беларускага савецкага рэпертуару. Тэатр зусім слаба працуе з пісьменнікамі.

Па-другое, тэатр не мае сваёй сталай вытворчай базы, ад чаго значна церпіць тэхнічны бок пастановак тэатра.

Па-трэцяе, няма далейшых магчымасцей творчай вучобы (адсутнасць творчых камандзіровак, слабае кіраўніцтва з боку Галоўмастацтва, недакладнасць працы ФЗУ пры тэатры, адсутнасць плана ў абслугоўванні гарадоў БССР).

Па-чацвёртае, тэатр зусім не ўключыўся ў работу над лепшай узорнай класічнай драматургіяй.

Па-пятае, адсутнічае абмен вопытам паміж тэатрамі БССР. Тэатр працуе замкнёна і адасоблена.

Работа нашага тэатра слаба асвятляецца ў друку і ў прыватнасці ў газеце «ЛіМ».

Тэатральная нарада павінна дапамагчы нашаму тэатру вырашыць усе гэтыя пытанні.

## ПРАЦА ДРАМАТУРГА — ГАНАРОВАЯ ПРАЦА

На шляху сацыялістычнага мастацтва праца драматурга мае вельмі адказнае значэнне. Агромнае ўздзейнічанне і выхаваўчая роля тэатра даюць драматургу творчую сілу і жаданне працаваць на гэтым адказным участку.

Зараз, калі ўся наша літаратурная грамадскасць падыходзіць да з'езда пісьменнікаў, неабходна агледзецца на свае ранейшыя творчыя ўстаноўкі і крытычна пераацаніць сваю ранейшую працу...

Рашуча адштурхоўваючыся ад этнаграфізму, які быў уласцівы маім ранейшым п'есам (шмат увагі я аддаваў перадачы сцэн жыцця сялянства, як дажынкі, вяселле,

паданых у народніцкім плане), адыходзячы ад паэтызацыі індывідуальнай псіхалогіі і паводзін чалавека, я стаў на шлях падкрэслівання калектыўных тэндэнцый і ўстановак; паказ гэтага індывідуальнага ў сваіх далейшых працах імкнуўся падаваць на фоне масы, у святле агульнага развіцця дзей і выдзялення з гэтай масы кіруючага вобраза, як аснову п'есы, як стрыжнёвы яго вобраз, як рухавіка гэтай масы. Таму героі маёй новай п'есы «Белая зброя» дзейнічаюць ад імя калектыву, гавораць мовай рабочых, якія зацікаўлены ў агульнай справе будаўніцтва завода. Калі раней бытавыя дэталі я падаваў як самамэту, як сінтэз, якія адштурхоўвалі мае п'есы ў план неглыбокага літаратурнага мантажу меладрам, дык зараз я гэту п'есу будаваў на матэрыяле не адной сям'і ці адзінак, а на матэрыяле масавых настрояў і адбіцця гэтых настрояў у творы. Барацьбу мас за рэвалюцыйнае вызваленне ў Заходняй Беларусі я імкнуўся паказаць у п'есе «Краб».

Наколькі мне гэта ўдалося, я не ведаю. Вельмі хацеў бы пачуць словы крытыкі і ацэнку маёй драматургічнай працы з боку нашай марксісцка-ленінскай крытыкі. Нягледзячы на тое, што я напісаў больш 30-ці п'ес, 12 з якіх надрукаваны, я да гэтага часу не бачыў ніводнага радка крытычнай ацэнкі маіх твораў. А п'есы мае, за выключэннем некаторых, шырока ставяцца самадзейнымі гурткамі не толькі ў БССР, а, як я маю паведамленні, і ў Татарыі, Крыме, Украіне і інш.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. стварыла самыя шырокія магчымасці для нашых драматургаў, стварыла абстаноўку, якая садзейнічае максімальнаму разгортванню творчых імкненняў працаўнікоў мастацтва. Гэта пастанова мабілізавала ўсіх драматургаў і працаўнікоў літаратуры да актыўнага ўдзелу ў стварэнні высокамастацкіх твораў.

Падпарадкуючы сваю працу вывучэнню тэхнікі драматургіі, вывучэнню асноў акторскай ігры, законаў руху на сцэне і крытычна пераапрацоўваючы свае старыя п'есы, я адначасова працую над новымі п'есамі, першую з якіх, прысвечаную паказу працэсу калектывізацыі ў БССР і прыгнёту над сялянствам у Заходняй Беларусі, я здам у бліжэйшы час. Адначасова працую над новай камедыяй.

У сувязі з 15-гадовым юбілеем БДТ-3 — (былога БДВТ) — працую над кнігай нарысаў аб тэатры і аб яго

творчым шляху, дзе больш падрабязна спыняюся і на аналізе сваіх драматургічных прац.

Працаваць у галіне драматургіі ў наш час ёсць надзвычайна адказная і ганаровая праца. Да гэтай працы нас заклікае камуністычная партыя, нашых твораў чакае рабочы глядач, і мы, непасрэдныя працаўнікі драматургічнага фронту БССР, павінны ў самы бліжэйшы час даць высокамастацкія творы, якія выражалі б магутнасць і сілу сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і заклікалі б асноўныя масы да гэтай творчай працы.

## ЗА ШЧЫЛЬНУЮ СУВЯЗЬ АКТОРА, ПІСЬМЕННІКА І ГЛЕДАЧА

Кастрычнік рэзка змяніў аўдыторыю тэатра. Прыйшлі ў тэатр рабочыя, чырвонаармейцы, працоўнае сялянства. Гэтыя гледачы з надзвычайнай увагай сочаць за спектаклем, радуюцца поспехам героя і застаюцца вельмі ўзрушанымі ад спектакля. Наш рабочы, калгаснік глыбока прасякваецца жыццём сцэны, ён вучыцца разумець сэнс жыцця праз сцэну, а гэта і ёсць цалкам рэвалюцыйная адзнака.

Тэатр з'яўляецца школай класавай барацьбы. Кожны сцэнічны вобраз, кожная рэпліка, мізансцэна павінны быць закончаны, павінны даваць агульныя ўяўленні аб падзеях, разыгрываемых на сцэне.

Улік рэакцыі гледача на разгортванне дзеі ў спектаклі і вынікі гэтага ўліку павінны ў нашай практыцы з'яўляцца мэрылам мастацкага паказу і яго даходчывасці да гледача.

Надыходзячы з'езд пісьменнікаў мы, работнікі драматургіі, павінны выкарыстаць для абмеркавання гэтага роду творчых пытанняў нашага тэатра.

І першае, што мы павінны ўлічыць у нашай рабоце, гэта наладжванне цеснай сувязі паміж акторам, пісьменнікам і гледачом.

Ул. Ільіч Ленін гаварыў аб тым, што мастацтва павінна самымі глыбачайшымі карэннямі ўваходзіць у самую шырокую тоўшчу працоўных мас, яно павінна быць зразумелым для гэтых мас, абуджаць іх энергію і волю

да барацьбы і адначасова з гэтым прабуджаць у народзе творчую энергію і ўсямерна развіваць яе.

У практыцы нашых тэатраў мы яшчэ мала прыслухоўваемся да запатрабаванняў гледача, наша работа значна адстае ад усіх растучых запатрабаванняў рабочай масы да мастацтва. Большасць нашых п'ес не ўзнімаюць новых праблем, а механічна канстатуюць і адбіваюць жыццё, іншы раз добра вядомае гледачу з газет.

Задачу стварэння высокага па сваёй функцыянальнай ролі паказу, паказу цікавага, захапляючага, паўнацэннага, мы, работнікі мастацтва, павінны ажыццяўляць пры самай цеснай дапамозе рабочага гледача.

І ў практыцы беларускіх тэатраў (успомнім хоць бы шэфства рабочых завода «Камунар» над пастаноўкай п'есы І. Гурскага «Качагары») мы мелі факты сталай дапамогі з боку рабочага гледача ў правядзенні творчага плана тэатра. Сучасны рэвалюцыйны тэатр рэзка адрозніваецца ад ранейшага тэатра яшчэ і тым, што ў барацьбе за якасць спектакля і за яго высокае ідэалагічнае ўздзейнічанне змагаюцца ў аднолькавай меры і мастакі, і электраасвяцілелі, і рэжысёрскі склад, і акторы, і рабочыя сцэны, і права на аўтарства ў спектаклі належыць усяму творчаму калектыву тэатра.

Справа паляпшэння работы нашых тэатраў з'яўляецца карэннай справай рабочага класа. Велізарная дапамога, якую мы, работнікі тэатральнага фронту, атрымліваем ад рабочай масы, павінна яшчэ больш актывізаваць творчую ініцыятыву пісьменнікаў і работнікаў мастацтва ў справе стварэння высокамастацкага паказу. Галіна тэатра і літаратуры вельмі блізка па метаду сваёй работы. І работа актора з'яўляецца на сённяшні дзень ганаровым абавязкам.

Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці і новага тэатра мы з'яўляемся сведкамі магутнага росту творчага маладняку з ліку нашай рабочай і калгаснай моладзі. Дапамагчы гэтаму велізарнаму імкненню шырокіх мас да мастацтва, да культуры павінны асабліва нашы пісьменнікі праз стварэнне цікавых, жыццярадасных п'ес, якіх яшчэ вельмі мала ў нашай драматургічнай скарбніцы. У часы Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ўсе здаровыя грамадзяне накіроўваліся на ліквідацыю снежных заносаў, рабоча-сялянскі ўрад выдаў загад (за подпісам А. В. Луначарскага), у якім указвалася, што карысная работа

актораў вызваляе іх ад абавязкаў па ліквідацыі заносаў. Даволі ўспомніць, якую вялікую ролю адыгрывалі нашы тэатры ў гады грамадзянскай вайны, калі побач з часцямі Чырвонай Арміі рухаліся і групы актораў і агітатараў. Паказаць гэты цікавейшы момант вялікай функцыянальнасці акторскай працы ў мастацкай форме, напісаць на гэтым матэрыяле рад цікавых аповесцей і п'ес складае самы першы абавязак пісьменнікаў і нас, работнікаў тэатра.

Тэатральная работа з'яўляецца ганаровым абавязкам.

З чалавека «свабоднай» прафесіі актор зараз зрабіўся актыўным удзельнікам у будаўніцтве новага грамадства.

Шпаркі тэмп культурнага будаўніцтва зусім змяняе і становішча з абслугоўваннем мастацтвам, кіно і тэатрам працоўных мас горада і вёскі, ліквідуе ўласцівую старой культуры «черту оседлости», і зараз для нас гучыць як не навіна, а як неабходная з'ява адкрыццё цырка ў Маскве і Магнітагорску, новага тэатра на Кузбасе і ў Бабруйску, гукавога кіно ў Клімавічах, і на Паміры, і на Шпіцбергене, і на такім-та і такім-та градусе даўжыні і шырыні.

Рух сацыялістычнай культуры не спыняюць ніякія межы. У праграме другой пяцігодкі культурнае будаўніцтва будзе разгортвацца ў самых шырокіх маштабах. Работнікі літаратуры ў сваіх творах павінны адбіць ператварэнне раней адсталай і эканамічна і культурна Беларусі ў адну з самых перадавых рэспублік Савецкага Саюза, як асноўнай часткі ўсёй сістэмы сацыялістычнага будаўніцтва. На вялікі жаль, мастацкіх твораў, прысвечаных гэтай тэме, у нас вельмі-вельмі не багата.

У асяроддзі рабоча-сялянскай масы выхоўваюцца здольныя кадры, заклікаными нашай партыяй да будаўніцтва вялікага мастацтва бальшавізма.

Мы стаім на подступах да сацыялістычнага тэатра. Тым больш актыўнай павінна быць наша работа на адказнейшым участку мастацтва.

Каардынуючы сілы актора, пісьменніка і гледача, мы зможам будаваць спектакль, які б цалкам адпавядаў актуальным задачам сучаснасці.

# МАСТАЦТВА — У ШЫРОКІЯ МАСЫ ПРАЦОЎНЫХ

Дыктатура пралетарыяту дала надзвычайна шырокія магчымасці для выяўлення творчых сіл працоўных. Мастацтва стала справай мільёнаў. Усесаюзны з'езд пісьменнікаў, які нядаўна адбыўся, з'яўляецца лепшай дэманстрацыяй агромністай цягі мільённых мас да культуры, да мастацтва.

Ленін падкрэсліваў неабходнасць выяўлення здольнасцей і талентаў працоўных, якія раней капіталізм душыў бязлітасна. Палітыка партыі і Савецкай улады ў справе культурнага будаўніцтва базуецца на ўсямерным разгортванні творчасці тэатраў — мастацкіх агітпропаў партыі. Адным з такіх агітпропаў з'яўляецца 3-ці беларускі тэатр.

Успамінаю сваё юнацтва, першыя крокі самастойнага жыцця, калі аб тэатры і наогул мастацтве я мог толькі марыць. Памятаю, у 1896 г. за грошы, зробленыя ад выгрузкі дроў, я купіў білет на галёрку ў мінскі гарадскі тэатр. У зале была расфуфыраная публіка, чыноўнікі ў фраках, дамы ў шаўках з ларнеткамі ў руках і мігцелі брыльянтамі.

Мяне не цікавіла зала, увага мая была накіравана на занавес, за якім хавалася нешта новае, невядомае. Трэці сігнал. Занавес пайшоў угору. Перада мной артыст. Слова. Дзея. І тут у мяне ўзнікла думка стаць артыстам. Я пачынаю рыхтаваць дзіцячыя паказы, збіраю сваіх таварышаў-школьнікаў, пішу п'есы, афармляю іх.

У 1920 г., пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў, з трупай рабочых і вучнёўскай моладзі я арганізаваў калектыў, які паставіў сваёй мэтай абслугоўваць працоўнае жыхарства акраін, паселішч і вёсак БССР.

Мае думкіператварыліся ў жыццё. Калектыў панёс мастацтва ў масы. Ніякія цяжкасці не супынілі яго работы, яго талентаў. Калектыў рос, мацнеў, знаходзячы падтрымку і аснову свайго росту ў цесным набліжэнні да працоўнага гледача. Гэтага гледача ён знаходзіў на полі, на фабрыках, заводах, шчыльна прыблізіўся і да Чырвонай Арміі.

Зараз, калі набліжаецца 15-гадовы юбілей нашага тэатра, на карце БССР няма раёна, дзе не пабываў бы БДТ-3.

За гэтыя гады тэатр вырас у моцную мастацкую адзінку. Тэатр разам з усімі тэатрамі Савецкай Беларусі змагаецца за стварэнне мастацтва бальшавізму, за будаўніцтва культуры — сацыялістычнай па зместу, моцнай па форме.

# УСПАМІНЫ З МІНУЛАГА

Першыя спробы ад'езду нашага тэатра ў 1923 г. былі відавочным фактам цэлага раду няўдач і іншых перашкод. Праца па аколіцах горада нас не задавальняе, нас вабіць падарожжа, вабіць шыр-прастор, але, з аднаго боку, адсутнасць матэрыяльных сродкаў, а з другога — бязвопытнасць далі нам адваротную асалоду.

Не забываецца ніяк цікавы абразок з жыцця падарожжа, калі тэатр выбраўся ехаць у м. Пухавічы. Неяк сабралі грошы, купілі білеты і прыехалі на вакзал. Да мястэчка 12 кіламетраў. Ісці далёка, грузкая дарога. Нас не многа: 12 чалавек.

Калі мы злезлі з поезда, на пляцы сіратліва стаяла адна нейчая падвода, але нас не цікавіла б і 10 падвод, калі ў наяўнасці не было грошай на фурманку.

Па звычаю, існуючаму ў нашым тэатры яшчэ з 1920 г., мы, сабраўшыся ў гурт, раіліся, як лепей і карацей перайсці 12 км, але наш сход парушыў нейкі хлопчык, які звярнуўся да мяне з нечаканай заявай, што ён дачуўся аб прыездзе тэатра ў мястэчка і ўкрадкай ад бацькі запрог каня, каб перавезці артыстаў. Гэта быў местачковы жыхар Муля Гарэлік. З яго слоў было відаць, што ён зацікаўлены тэатральнай справай і любіць гэты вясёлы народ. Ён, смеючыся, пачаў укладваць наш багаж (два вузлы) і клапатліва растрасаць на каламажцы сена. Паехалі. Муля Гарэлік ішоў збоку, трымаючы лейцы.

Ён весела расказваў пра местачковае жыццё, пра асабістыя свае справы, меркаванні яго бацькі і штодзённыя спрэчкі з-за выбару прафесіі. Муля хацеў быць артыстам, бацька хацеў вучыць яго на равіна.

Звонкая песня вясёлай маладосці будзіла прыроду. Яшчэ сонца не паднялося з-за лесу, як мы няўзнак мінулі адлегласць ад вакзала.

Муля, слухаючы нашы спевы, дэманстраваў свае. Ён

з асаблівым захапленнем выводзіў жаласлівыя ноткі роднай яўрэйскай песні, падкрэсліваючы пры гэтым, што яго голас найбольшы вінаваўца таго, што бацькі скіроўваюць яго на равіна.

Праз кароткі час мы ведалі ўсю гаротную біяграфію Муліка, ён нам аддаў усё, што меў, свае лепшыя пачуцці, сімпатыю, шчырасць. Нават булку, якую ён захапіў у маткі, спечаную на шабасе, ён радасна раздзяліў на ўсіх.

Прыехалі. Мы ў клубе. Тут упершыню артысты з беларускім словам. Муля Гарэлік атрымаў многа даручэнняў: ладзіць сцэну, даставаць рэквізіт, лямпы, жывы лес і ўсё, што было неабходна для паказу. Ён за гэтыя два дні зжыўся, здружыўся з намі.

— Уцяку ад бацькоў, не буду равінам,— упэўнена казаў Мулік.

Мы доўга раіліся, як дапамагчы Муліку далучыцца да нас. Яго бацькі якраз у гэтыя дні не было дома, і сын дзейнічаў свабодна. Нарэшце надышоў час ад'езду. Муліка не было. На чужыя падводы мы грузілі нашы рэчы. Прыйшоў Мулік, ён быў разгневаны. Збялелы яго твар паказваў, што ён перажыў нейкую непрыемнасць. Пад вачыма ў яго былі крывападцёкі, сінякі, вочы ў слязах.

— Мулік, хто цябе пабіў? — уголас запыталіся мы.

— Бацька пабіў за тое, што я вазіў артыстаў у суботу, ды яшчэ задарма,— з болем адказаў Мулік.

Прыкрае развітанне.

Ляніва кранулася падвода. Мы моўчкі паехалі, з жалем паглядаючы на беднага хлопца, які сіратліва стаяў пры сцяне апусцеўшага клуба.

У 1924 г. сустракаю Гарэліка. Разгаварыліся.

— Ну, які, Гарэлік, твой шлях?

— Намеры клерыкальнага бацькі не збыліся. Я адказны працаўнік сацыялістычнай будоўлі,— з гонарам адказаў ён.

## З МЕМУАРАЎ

...10 жніўня памяшканне клуба было перапоўнена чырвонаармейцамі, якія прыйшлі з фронту пасля баёў адпачываць у Мінск. Усякія правілы парушаны, і замест 500 чалавек прысутнічала каля 1000. З вялікім задаваль-

неннем прымаецца п'еса «Суд» і выступленні беларускага хору. З гэтага часу і пачынаецца работа беларускай трупы пад кіраўніцтвам Галубка. (Мінск, 1920 г.)

...Увосень трупа пачынае рабіць спробы наведваць суседнія з горадам Мінскам вёскі. Хадзілі туды пехатой. На першыя разы пэўную падазронасць выклікалі рэквізітныя стрэльбы, якія неслі на плячах артысты, і толькі мандат, выданы ўладай, рушыць недаверлівасць да нас. (Мінск, 1921 г.)

...Вясной тэатр адпраўляецца на Полаччыну. Там мы не мелі ніводнага дня адпачынку, ніводнай спакойнай ночы. Усё пераезды і пераезды. Артыст толькі і ведаў — ноччу іграць і зараз жа садзіцца на падводу, ехаць усю ноч, увесь дзень. І зараз жа, злезшы з падводы, зноў грыміравацца, зноў іграць.

І коньмі, і пехатой, а то і на чаўнах азёрамі збіраліся адусюль людзі. Спектаклі адбываліся найбольш у вялікіх пунях, у будынках для прызыўных пунктаў. (Полаччына, 1924 г.)

...Памятны спектакль у сараі, дзе побач, за сцэнай, быў яшчэ хлеў, у якім было многа кароў і авечак. Артыст на сцэну пападаў праз стойлы, ён павінен быў чакаць свайго выхаду ў кароўніку, дзе было зусім цесна, цёмна і душна. Тут ён ласкава размаўляе з прыгожымі цёлкамі, а то забаўляўся з ягнятамі. (Полаччына, 1924 г.)

...Было свята Тройцы ў м. Турава. Ля сабора сялян было надзвычай многа, народ валіў у царкву. Але вось на плошчы загудзеў аркестр. З трыбуны трымаў прамову артыст і заклікаў усіх у клуб на пастаноўку Дзяржаўнага тэатра. Як хваля, рынуўся народ з царквы. Сяляне са свечкамі ў руках праціскаліся ў клуб, паспешна займаючы месцы. І не паспеў поп агледзецца, як у царкве нікога не асталося. (Палессе, 1925 г.)

...Позна ўначы мы прыехалі ў мястэчка. Клуб не адпавядае для нашых пастановак, печаў няма, а мароз цісне. Угаварылі равіна здаць у арэнду на два спектаклі сінагогу. Доўга не згаджаўся, але за 12 рублёў сінагогу здаў. На спектакль прыйшло 200 сялян з бліжэйшых вёсак.

Горача развітваючыся з сялянамі, выказвалі сваю думку, каб на другі прыезд замест сінагогі быў бы тэатр, што і збылося: у чарговы наш прыезд гэта сінагога была ўжо тэатрам. (Лоеў, 1925 г.)

...Ніколі ніхто ў Хойніках не бачыў такога натоўпу

людзей. Сяляне, нягледзячы на мароз, ішлі з далёкіх вёсак з паперкамі ад сельсаветаў: «Беларускі тэатр. Бабіцкі сельсавет накіроўвае восем сялян, якіх прапусціць дармова, яны з'яўляюцца беднякамі». Такіх паперак к вечару набіралася вельмі многа, і ў тэатр прыходзіла да 450 чалавек. Будынак клуба трашчаў. (Хойнікі, 1926 г.)

Пачаўся спектакль. Сядзяць сяляне, глядзяць на сцэну. Ужо спектакль скончыўся, а яны сядзяць, з месца не ідуць. Ну што ж, давай скокі! Загрымеў аркестр, лаўкі ў момант вынеслі і пачалі гуляць. (Палессе, 1925 г.)

...Спектакль ужо скончан. А з месц ніхто не падымаецца. Трэба даваць яшчэ канцэрт, бо сяляне ведаюць, што так рабілі ў другіх месцах, гэта самае трэба рабіць і тут. Спевы, танцы, цымбалы, скрыпка і гармонік завяршаюць бачаны першы раз у жыцці спектакль і тут, як у другіх месцах. У сваіх простых, шчырых прамовах сяляне дзякуюць нам за добрую ігру, дзякуюць партыі і ўладзе за вялікую павагу да іх. (Полаччына, 1924 г.)

...Уся акруга ведала, што едзе да яе тэатр, і ў кожным месцы парадна сустракалі прыехаўшы абоз. Тысячы дзяцей з кветкамі, а часамі і з аркестрамі сустракалі артыстаў. На школах былі вывешаны прывітальныя плакаты, старанна намалёваныя вучнямі. Клубы былі прыбраны елкамі і прыведзены ў святочны выгляд. (Барысаўшчына, 1925 г.)

...Вельмі часта бывала, калі мы прыязджалі ў мястэчка, вучні розных школ збіраліся і паказвалі сваё самадзейнае мастацтва. Тут былі добра наладжаныя струнныя аркестры, харавыя гурткі, добрыя дэкламатары і танцоры. З незвычайнай зацікаўленасцю, адзін перад другім стараліся паказаць нам свае здольнасці, і трэба адзначыць, што былі дзеці вельмі таленавітыя. (Палессе, 1925 г.)

...Тэатр накіроўваецца ў Магілёўскую і Віцебскую акругі. Артысты побач са сваёй асноўнай работай вялі сярод сялянства вялікую растлумачальную работу, дапамагалі ў арганізацыі новых калгасаў, праводзілі сходы, тлумачылі сялянам партыйныя пастановы па калгаснаму руху і мерапрыемствы Савецкай улады. Злучэнне канкрэтнай палітычнай работы з мастацкай дзейнасцю высока ўзняло аўтарытэт тэатра сярод шырокіх працоўных мас. (Магілёўшчына, 1930)

# КАМЕНТАРЫІ

Творы, якія змешчаны ў гэтым выданні, з'яўляюцца толькі часткай вялікай спадчыны Уладзіслава Галубка. Найбольш поўна ў ім прадстаўлены апавяданні і вершы пісьменніка. П'ес жа ўдалося адшукаць менш за палавіну.

Правапіс і пунктуацыя прыведзены ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі. Творы ў адпаведных раздзелах размешчаны ў храналагічным парадку.

## ДРАМАТУРГІЯ

### *Апошняе спатканне (стар. 20)*

П'еса напісана на аснове аднайменнага апавядання. Драматург захаваў у ёй асноўныя сюжэтныя лініі, аднак значна пашырыў кольказсць дзейных асоб. Адзін з братоў-блізнюкоў названы ў п'есе паіншаму: замест Янука — Якімам. Друкуецца па кн.: Галубок У. Апошняе спатканне. Драма ў 4-х актах. Вільня, друкарня «Прамень», 1919, дзе апублікавана ўпершыню. Ставілася Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі (1917), Беларускім савецкім тэатрам (1918), Трупай беларускіх артыстаў пад загадам Галубка (1920), БДТ-І (1921). Датуецца 1917 г.

### *Пісаравы імяніны (стар. 51)*

Поўны тэкст п'есы друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ф. 81, в. 3, адз. зах. 53). П'еса ў розны час ішла на сцэне пад рознымі назвамі: «Залёты дзяка», «Хвароба ў добрым здароўі». Існуе скарочаны, аднаактовы варыянт п'есы, які драматург стварыў у сярэдзіне 20-х гадоў для пастановак у зборных канцэртных праграмах (друкавалася ў выдавецтве ЦБ «Маладняка», 1927, і інш.). Поўны тэкст п'есы ставіўся Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі (1917), Трупай беларускіх артыстаў пад загадам Галубка (1920), БДТ-І (1921) і інш. Датуецца 1917 г.

### *Бязвінная кроў (стар. 92)*

З трох актаў п'есы захаваўся толькі першы, які быў надрукаваны ў кн. Выпісы з беларускай літаратуры. Новы і найноўшы кругабе-

гі. Мінск, «Савецкая Беларусь» (Народны камісарыят асветы БССР), 1923, адкуль і перадрукоўваецца. Ставілася Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі ў гонар адкрыцця ў Мінску Народнага Дома імя Максіма Багдановіча 19 мая 1918 г. Датуецца годам пастаноўкі.

### *Ганка (стар. 108)*

Першы варыянт п'есы ішоў на сцэне пад назвай «Ні тая, ні другая». У 1920 г. драматург дапрацаваў п'есу, даўшы ёй пры гэтым іншую назву. Ставілася Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі (1918), БДТ-І (1921) і на працягу многіх год Тэатрам Галубка. Друкуецца па кн.: Галубок У. Ганка. Драма ў 5-ці актах. Мінск, Белдзяржвыд, 1929, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца 1918 г.

### *Бязродны (стар. 150)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Бязродны. Вільня, 1925. Ставілася Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі ў 1919 г. Датуецца годам пастаноўкі.

### *Суд (стар. 180)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Суд. Камедыя ў 1-м акце. Мінск, Белдзяржвыд, 1925, дзе апублікавана ўпершыню. Пастаноўкай п'есы «Суд» (10 жніўня 1920 г.) пачала сваю дзейнасць Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка. Ставілася БДТ-І (1922), а таксама шматлікімі калектывамі народных тэатраў. Датуецца 1920 г.

### *Белы вянок (стар. 201)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Белы вянок. Драма ў 1-м акце. З жыцця Заходняй Беларусі. Мінск, Белдзяржвыд, 1929, дзе апублікавана ўпершыню. Першапачаткова п'еса мела назву «Акрываўленыападатак». Пастаўлена Трупай беларускіх артыстаў пад загадам Галубка ў 1921 г. Датуецца годам першай пастаноўкі.

### *Пан Сурынта (стар. 215)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Пан Сурынта. Гістарычная драма канца XVII ст. у 5-ці дзеях з пралогам. Мінск, Белдзяржвыд, 1930, дзе апублікавана ўпершыню. Ставілася Другой Беларускай дзяржаўнай трупай у 1923 г. Першапачаткова мела назву «Блуд». Датуецца 1923 г.

### *Плытагоны (стар. 262)*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які знаходзіцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ф. 81, в. 3, арк. 1—46). Ставілася Другой Беларускай дзяржаўнай трупай у 1923 г. Датуецца годам першай пастаноўкі.

## *Ветрагоны (стар. 307)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Ветрагоны. Камедыя ў 4-х актах для клубных пастановак. Мінск, Белдзяржвыд, 1930, дзе апублікавана ўпершыню. Ішла на сцэне пад назвамі «Хціўцы», «Дваяжэнцы». Ставілася Другой Беларускай дзяржаўнай трупай у 1923 г. Датуецца годам першай пастаноўкі.

## *Краб (стар. 352)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Краб. Драма ў 5-ці актах. Мінск, Белдзяржвыд, 1930, дзе апублікавана ўпершыню. Ставілася Беларускім дзяржаўным вандроўным тэатрам у 1927 г. Датуецца годам першай пастаноўкі.

## *Ліпавічок (стар. 397)*

Друкуецца па кн.: Беларускае мастацтва. Вып. 3. Мінск, Выдавецтва АН БССР, 1962, дзе апублікавана ўпершыню. П'еса напісана прыкладна ў 1927—1928 гг.

## *Белая зброя (стар. 404)*

Друкуецца па кн.: Галубок У. Белая зброя. П'еса ў 4-х дзеях. Мінск, Белдзяржвыд, 1933, дзе апублікавана ўпершыню. Ставілася Трэцім беларускім дзяржаўным драматычным тэатрам у 1935 г. Датуецца годам апублікавання.

# ПАЭЗІЯ

## *Доля мужыка (стар. 460)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, 6 чэрвеня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## *Чакай, браце!.. (стар. 461)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, 1 жніўня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## *Забытая хатка (стар. 461)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, 23 верасня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## *Сярмяжнік (стар. 463)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 2 чэрвеня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## *Будучыня (стар. 463)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1912, 1 сакавіка, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

**** Хачу мець зямельку і мру без работы... (стар. 464)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 5 снежня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## ПРОЗА

### *На вяселле (стар. 466)*

(Апавяданне старога дзеда)

Друкуецца па кн.: Галубок. Апавяданні. Пецярбург, 1913. Упершыню апублікавана ў газ. «Наша ніва», 1908, 9 мая пад псеўданімам Сымонка. Гэтым псеўданімам пісьменнік надалей не карыстаўся і падпісваў свае мастацкія творы псеўданімам, які стаў прозвішчам, узаконеным пашпартам,— Галубок (ад сапраўднага Голуб). Датуецца 1908 г.

### *«Журавінка» (стар. 467)*

Друкуецца па кн.: Галубок. Апавяданні. Упершыню апублікавана ў газ. «Наша ніва», 1909, 23 ліпеня. Датуецца 1909 г.

### *Не паклаўшы, не возьмеш (стар. 469)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1910, 12 жніўня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Марымонавы сабакі (стар. 470)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 10 сакавіка, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Навальніца (стар. 472)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 21 красавіка, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Мінуўшчына (стар. 473)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 9 чэрвеня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Як Сымон у воласці выкруціўся (стар. 474)*

(Апавяданне старога дзеда)

Друкуецца па кн. Галубок. Апавяданні. Упершыню апублікавана ў газ. «Наша ніва», 1911, 11 жніўня. Датуецца 1911 г.

### *Адвага (стар. 476)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 8 верасня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Бор (стар. 477)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 6 кастрычніка, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Адвакат (стар. 478)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, 22 снежня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Вясковыя астраномы (стар. 480)*

Друкуецца па кн.: Галубок. Апавяданні. Упершыню надрукавана ў газ. «Наша ніва», 1912, 8 сакавіка. Датуецца 1912 г.

*Абразок (стар. 482)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1912, 21 снежня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Горкі агрэст (стар. 483)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 1 лютага, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*У бальніцы (стар. 485)*

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1913, 7 лютага, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Гонар (стар. 486)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 15 лютага, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Посная гусяціна (стар. 486)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 9 сакавіка, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Голад (стар. 488)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 23 мая, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Абмылка вучонага (стар. 491)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 20 чэрвеня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Апошняе спатканне (стар. 494)*

Друкуецца па альманаху «Маладая Беларусь», 1913, серыя 1, сш. 3, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Вада памагла (стар. 506)*

Друкуецца па кн.: Галубок. Апавяданні, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *На кірмашы (стар. 509)*

Друкуецца па кн. Галубок. Апавяданні, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Парабкі (стар. 510)*

Друкуецца па альманаху «Маладая Беларусь», 1913, серыя 1, сш. 3, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *У сваты (стар. 522)*

Друкуецца па кн. Галубок. Апавяданні, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Чужое смачней (стар. 525)*

Друкуецца па кн. Галубок. Апавяданні, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Шчырае каханне (стар. 526)*

Друкуецца па альманаху «Маладая Беларусь», 1913, серыя 1, сш. 3, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Адукаваная кабыла (стар. 535)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, 22 мая, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Дарагія лекі (стар. 536)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, 22 мая, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Сляды старыны (стар. 538)*

Друкуецца па час. «Лучынка», 1914, кн. I, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Адплата за працу (стар. 539)*

Друкуецца па час. «Лучынка», 1914, кн. II, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Смерць старца (стар. 540)*

Друкуецца па час. «Лучынка», 1914, кн. 4, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Сын вёскі (стар. 543)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, 27 лістапада, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Разбітая надзея (стар. 547)*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, 18 снежня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Круцель (стар. 549)*

Друкуецца па газ. «Гоман», 1917, 15 чэрвеня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Сірата Прахор (стар. 550)*

Друкуецца па газ. «Вольная Беларусь», 1917, 21 ліпеня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*У няволі (стар. 554)*

Друкуецца па газ. «Вольная Беларусь», 1917, 28 жніўня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Званы (стар. 555)*

Друкуецца па кн. «Літаратурны зборнік «Вольнай Беларусі». Мінск, 1917, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Сірата Ганул (стар. 559)*

Друкуецца па газ. «Вольная Беларусь», 1917, 21 снежня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Мінулае (стар. 561)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1921, 14 снежня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Як млынар спілаваў «св. Ядвігу» (стар. 563)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1922, 12 студзеня, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Бацюшкаў капялюш (стар. 565)*

*(Стары ўспамін)*

Друкуецца па газ. «Чырвоная змена», 1929, 7 красавіка, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Стрэлачнік (стар. 567)*

Друкуецца па газ. «Чырвоная змена», 1929, 14 лістапада, дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Ліст у рэдакцыю (стар. 572)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1921, 27 мая, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Год працы (стар. 572)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1921, 28 верасня, дзе пад псеўданімам «Артыст з вузлом» апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Праца II Беларускай трупы ў 1921 годзе (стар. 574)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1921, 28 снежня, дзе пад псеўданімам «Артыст» апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Усё аб тым жа (стар. 576)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1922, 3 лютага, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Вайкалакі (стар. 577)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1922, 14 мая, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Ліст у рэдакцыю (стар. 579)*

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, 13 лютага, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Аб гастролях у Мазырскай акрузе (стар. 579)*

Друкуецца па аўтографу, які знаходзіцца ў ЦДАКР БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 230. Датуецца 1925 г.

*«Контратаку» павінен бачыць кожны рабочы (стар. 582)*

Друкуецца па газ. «Віцебскі пралетары», 1932, 3 чэрвеня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Творчы рост БДТ-3 (стар. 583)*

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, 10 снежня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Праца драматурга — ганаровая праца (стар. 586)*

Друкуецца па кн. Драматургія. Першы дыскусійны зборнік Аўтаномнай секцыі драматургаў ССПБ і Інстытута літаратуры і мастацтва. Мінск, 1934, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*За шчыльную сувязь актора, пісьменніка і гледача (стар. 588)*

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, 10 сакавіка, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Мастацтва — у шырокія масы працоўных (стар. 591)*

Друкуецца па газ. «Камунар Магілёўшчыны», 1934, 18 снежня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Успаміны з мінулага (стар. 592)*

Друкуецца па газ. «Палеская праўда», 1935, 20 лістапада, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*З мемуараў (стар. 593)*

Друкуецца па газ. «Звязда», 1935, 23 снежня, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

## ЗМЕСТ

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

**Галубок Ул.**

Г 16 Творы: Драматургія; Паэзія; Проза; Публістыка. /[Уклад., падрыхт. тэкстаў, уступ. артыкул і камент. С. С. Лаўшука].— Мн.: Маст. літ., 1983.— 607 с., 8 л. іл., 1 л. партр.

У пер.: 3 р.

У гэтым выданні ўпершыню найбольш поўна прадстаўлена творчая спадчына вядомага дзеяча беларускай культуры, першага народнага артыста БССР Уладзіслава Галубка.

Кнігу складаюць драматычныя творы, апавяданні, вершы, публіцыстычныя артыкулы.

Выданне прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка.

Г $\frac{4702120200-087}{М\ 302\ (05)-83}$ 117—82

**ББК 84Бел7**
**Бел2**

---

Владислав Иосифович
ГОЛУБОК

**ПРОИЗВЕДЕНИЯ**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Л. А. Сляпцова*
*Мастак М. А. Вецік*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктары А. Т. Глушчанка, І. М. Паланейчык*

ІБ № 1540

Здадзена ў набор 26.07.82. Падп. да друку 10.05.83. АТ 12039. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 31,92+0,95 укл. Ум. фарб.-адб. 33,02. Ул.-выд. арк. 33,09. Тыраж 7000 экз. Зак. 2819. Цана 3 р.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.